АКАДЭМІЯ НАВУК БЕЛАРУСКАЙ ССР
Інстытут мовазнаўства імя Якуба Коласа

# ЭТЫМАЛАГІЧНЫ СЛОЎНІК БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ

**Том 4**

**К — Каята**

Мінск
«Навука і тэхніка»
1988

ББК 81.2 Бел-4
Э93

В. Дз. ЛАБКО — *К — каляда,*
І. І. ЛУЧЫЦ-ФЕДАРЭЦ — *кам — капчыць,*
В. У. МАРТЫНАЎ — *капшук — касач,*
Р. У. КРАЎЧУК — *кас — каята.*

Рэдактар

В. У. Мартынаў, доктар філалагічных навук

Рэцэнзенты:

Л. Ц. Выгонная, А. С. Сакалоўская,
кандыдаты філалагічных навук

**Этымалагічны** слоўнік беларускай мовы. Т. 4. К —
Э93 Каята / [В. Дз. Лабко, І. І. Лучыц-Федарэц, В. У. Мартынаў і інш.; Рэд. В. У. Мартынаў].— Мн.: Навука і тэхніка, 1988.— 327 с.

У чацвёртым томе тлумачыцца літаратурная і дыялектная лексіка сучаснай беларускай мовы на літару К. Асноўная ўвага звяртаецца на спецыфічныя задачы беларускай этымалогіі.

Разлічана на лінгвістаў, гісторыкаў, этнографаў.

**Э $\frac{4602020000-012}{М\ 316(03)-88}$ 125—86**

**ББК 81.2 Бел-4**

Выдавецтва
«Навука і тэхніка», 1988

# СКАРАЧЭННІ

## КРЫНІЦЫ

Зав.— Завилейский В. Витебск // Северная пчела, № 162—165. СПб, 1834.

З — ч — Белорусские свадебные обряды и песни сравнительно с великорусскими. (Сост. Зенкевич А.). СПб, 1897. 113 с.

Кос.— Косич М. Н. Литвины-белорусы Черниговской губ., их быт и песни. СПб, 1901. 152 с.

Нік. Напаў.— Нікіфароўскі М. Напаўпрыказкі — напаўпрымаўкі // Запіскі аддзела гуманітарных навук. Кн. 4. Мн., 1928. Т. 2. С. 81—115.

Радч.— Радченко З. Гомельские народные песни (белорусские и малорусские). Записаны в Дятловицкой волости Гомельского уезда Могилевской губерни // ЗРГО. 13. Вып. 2. 1888.

Сержп. Прымхі — Сержпутоўскі А. Прымхі і забабоны беларусаў-палешукоў. Мн., 1930. 383 с.

Сержп. Отч.— Сержпутовский А. К. Отчет о поездке в Гомельскую губернию в 1926 г. Мн., 1926. 16 с.

Сцяц. БНС — Сцяцко П. У. Беларускае народнае словаўтварэнне: Афіксальныя назоўнікі. Мн., 1977. 320 с.

Флора — Матэрыялы да вывучэння флоры і фауны Беларусі. 1—7. Мн., 1927—1932.

Чуб.— Труды этнографическо-статистической экспедиции в Западно-Русский край, снаряженной Импер. ЗРГО Юго-западный отдел: Материалы и исследования д. чл. П. П. Чубинского. I—VII. СПб, 1872—1878.

Ян.— Янкова Т. С. Дыялектны слоўнік Лоеўшчыны. Мн., 1982. 430

## ЛІТАРАТУРА

Адамовіч, Мікр. назвы — Адамовіч Я. Мікратапанімічныя назвы. Мн., 1971. 112 с.

Арыстава, Кантакты — Аристова В. М. Англо-русские языковые контакты. Л., 1978. 150 с.

WIEP — Wielka ilustrowana encyklopedia powszechna. 1—20. Kraków, 1932 і наст.

ЕСУМ — Етимологічний словник української мови. Київ, 1982 і наст.

Z našej prírody — Z našej prírody. Rastliny, horniny, minerály, skameneliny. Bratislava, 1978. 397 с.

ЗРГО — Записки Русского географического общества по отделу этнографии. СПб, 1867—1918.

Зяленін, Russ. Volksk.— Zelenin D. Russische (ostslavische) Volkskunde. Berlin, 1928. 450 с.

Лінгв. геагр.— Лінгвістычная геаграфія і групоўка беларускіх гаворак. Мінск, 1968. 318 с.

LKA — Lietuvių kalbos atlasos. Vilnius, 1971 і наст.

МАГП — Mały atlas gwar polskich, I—XIII. Kraków, 1957—1970.

Мартынаў, Язык — Мартынов В. В. Язык в пространстве и времени. М., 1983. 109 с.

Сов. сл.— Советское славяноведение. М., 1965 і наст.

Sł. staroż. słow.— Słownik starożytności słowiańskich. Wrocław; Warszawa; Kraków, 1961 i наст.

Сцяцко, Афікс. наз.— Сцяцко П. У. Беларускае народнае словаўтварэнне: Афіксальныя назоўнікі. Мн., 1977. 320 с.

Сыхта — Sychta B. Słownik gwar kaszubskich na tle kultury ludowej. 1—7. Wrocław, 1967—1976.

Фалінская — Falińska B. Polskie słownictwo tkackie na tle słowiańskim. I—III. Wrocław; Warszawe; Kraków; Gdańsk,1974—1980. Т. I—415; Т. II—127; III—110.

Stud. fil. // Studime filologjikë. Tiranë, 1964 i наст.

Харузін, Слав. жил.— Харузин А. Славянское жилище в Северо-Западном крае // Виленский временник. 2. Вильна, 1907. 530 с.

## МОВЫ І ДЫЯЛЕКТЫ

алт.— алтайскае
анеж.— анежскае
апоч.— апочкаўскае
арамей.— арамейскае
болх.— болхаўскае
валд.— валдайскае
в.-дзв.— верхнядзвінскае
варм.-мазур.— вармійска-мазурскае
вышагар.— вышагародскае
вышневал.— вышневалоцкае
гдоўск.— гдоўскае
горыц.— горыцкае
джагатайск.— джагатайскае
дрыс.— дрысенскае
духав.— духавішчанскае
ельн.— ельнінскае
жыздр.— жыздрынскае
ігн.— ігналінскае
іркуц.— іркуцкае
кадн.— каднікаўскае
кам.— камянецкае
кемер.— кемераўскае
крак.— кракаўскае
круп.— крупскае
кубан.— кубанскае
куйбыш.— куйбышаўскае
маст.— мастоўскае
міргар.— міргародскае
мяшч.— мяшчоўскае
новарас.— новарасійскае
пух.— пухавіцкае
рас.— расонскае
росл.— рослаўскае
салікам.— салікамскае
сарат.— саратаўскае
сілез.— сілезскае
соль-ілецк.— соль-ілецкае
тагільск.— тагільскае
том.— томскае
трубч.— трубчэўскае
ульян.— ульянаўскае
халм.— халмагорскае
харк.— харкаўскае
хэлм.-дабж.— хэлмска-дабжынскае
церск.— церскае
чарап.— чарапавецкае
чарнамор.— чарнаморскае
чкалаўск.— чкалаўскае
чырв.— чырвонаслабодскае
шальч.— шальчынінскае
швянч.— швянчонскае
шуйск.— шуйскае

**К** 'да', прыназоўнік з дав. скл. (БРС, ТСБМ; выражае прасторавыя, часавыя, аб'ектныя і мэтавыя адносіны). У гаворках: *к* 'да' (Бяльк.; мсцісл., Нар. сл., Нік. Напаў., Радч., Сержп. Грам., Сержп. Прымхі, Шат.), *ка* 'да' (Бяльк., ТСБМ, Сержп. Прымхі; ужываецца ў спалучэнні «ка мне»), *ік* 'да' (Рам.), *ак* 'да' (Рам.). У ст.-бел. мове Карскім адзначаны *к, ик* 'да'. Сержпутоўскі (Грам., 13) адзначае, што прыназоўнік *к* перад *б, д, г, ж, з* вымаўляецца амаль што як *г*.

Укр. *к, ік, ку* (зах.), рус. *к, ко, ку, ик,* польск. *k, ku,* палаб. *ka,* чэш. *k, ke, ku,* славац. *k, ku, gu, ko, ke,* н.-луж. *k, ku,* в.-луж. *k, ke, ku,* славен. *k, h, g,* серб.-харв. *k, ka, ik, kak,* мак. *кон,* бал. *к, към.* Ст.-рус. *къ,* ст.-слав. **къ.** Этымалогія няпэўная. Прыназоўнік не ўтварае рэгулярнага прэфікса. Структуры тыпу польск. *gwoli,* бел. палес. *кстроцы,* магчыма, серб.-харв. *кнадити* з'яўляюцца выпадковымі. Таму нельга пагадзіцца з уключэннем прыназоўніка *к* у адзін рад са слав. *sъn* і *vъn*. Рэканструкцыя **kъn*, заснаваная на аналогіі з гэтымі прыназоўнікамі і на параўнанні *к* са ст.-інд. і ст.-іран. **kam* (паслялог з дав. скл.), дастаткова не абгрунтавана. Копечны лічыць, што праславянскай формай магла быць толькі такая, як *kъ* (ESSJ, 100). Старажытныя сувязі прыназоўніка не зусім ясныя. Звычайна параўноўваюць са ст.-інд. паслялогам *kám* ст.-іран. *kam* 'дзеля', аднак Бенвеніст (Зб. Фасмеру, 70—73) звярнуў увагу на фармальную і семантычную тоеснасць слав. *k* і сагд. *kw(ku)*. Паводле Копечнага, ESSJ, I, 106, нельга бачыць у гэтым запазычанне ў славянскія мовы; адзначаная тоеснасць або з'яўляецца вынікам паралельнага развіцця, або гэта агульная з'ява. Копечны (там жа) пераканаўча мяркуе, што слав. **ku(kъ)* і інд.-іран. **ku* як прыназоўнікі ўтварыліся ад прыслоўя займеннікавага паходжання (параўн. складанае *kъ-de* < **ku-dhe)* Трубачоў (Этимология — 1974, 175—176) супраць Копечнага, ён падкрэслівае, што наогул нельга аддзяляць прыназоўнік **kъ* ад займенніка **kъ-* і лічыць, што прыназоўнік не ўтвараў прэфікс, спасылаючыся на рус. *конура, каверза,* укр. *ковертати, прикмітити, ков'язнути.* Гэтыя прыклады дапускаюць розную інтэрпрэтацыю (як назоўнікавыя, дзеяслоўныя ўтварэнні або складанні тыпу польск. *gwoli,* палес. *кстроцы* і інш.) і не даводзяць рэгулярнага характару прыназоўніка *kъ*. Аб

займеннікавым *къ* гл. падрабязна пад *хто.* Гл. яшчэ Слаўскі, 3, 290—293; Фасмер, 2, 146—147; Копечны, ESSJ, I, 99—106.

**Ка** 'кажа' (Кліх, Рам., Сержп., Федар., 1, Янк. 1, Янк. 2, Сержп. Грам.). Паводле Карскага, I, 267, *ка* < *кажа,* як *мо* < *можа*, у выніку рэдукцыі слова, якое часта ўжываецца ў апавядальнай мове. Параўн. іншы прыклад алеграформы *казаць:* балг. дыял. *каам казу(в)ам.*

**Каб,** злучн., часц. (ТСБМ). У гаворках: *каб* (Бяльк., Гарэц., Касп.; лаг., КЭС; Мал., Нас., Нік. Напаў., Сержп., Сержп. Прымхі, Федар., 1, Шат.), *кабы* (Нас.). Укр. *коби,* рус. *кабы,* ст.-рус. *кабы.* Усх.-слав. утварэнне ад прыслоўнага **ка* (склон. форма займен. **къ,* аб якім гл. *хто*)+часціца ўмоўнага ладу *бы*, гл. Фасмер, 2, 152; 1, 257. Бел. *каб*, магчыма, адлюстроўвае не рэдукцыю апошняга гука, а іншы варыянт часціцы ўмоўнага ладу.

**Каба́к**1 'карчма' (КТС). Крыніца — рус. літар. мова, куды слова запазычана або з н.-ням. дыял. форм тыпу *kabacke, kaback* 'халупа' або з усходу; агляд меркаванняў гл. Фасмер, 2, 148.

**Каба́к**2 'гарбуз' (Мат. Гом.). Пранікненне з суседніх рускай або ўкраінскай моўных тэрыторый, дзе *кабак, кабачок* — адзін з відаў расліны Cucurbita. Параўн. *кабачок* (гл.).

**Кабала́** 'пэўная залежнасць ад каго-н., паднявольнае становішча; прыгнёт' (БРС, ТСБМ, Мат. Маг., Яруш.), 'турбота, клопат, падман, дробязь, глупства' (Нас.).

Значэнні слова паказваюць на магчымыя змяшэнні двух запазычаных слоў. Адно з іх можа адносіцца да польск. *kabała,* якое ўзыходзіць да ст.-яўр. *kabbālāh* 'патаемная навука' (гл. Слаўскі 2, 8). Адсюль значэнні 'падман, глупства' і да т. п. Другое (значэнні 'турбота, клопат') — да рус., укр. *кабала* 'завінавачанасць, няволя', запазычаных з усходніх моў, гл. Фасмер, 2, 148.

**Каба́ла** 'гадальныя карты' (Федар., 2), *кабалы* 'тс' (Шат.). Параўн. у Федароўскага, 2, 113: *«закінь ты мне кабалу...».* Бел. *кабала* ў гэтым значэнні паходзіць з *кабала* 'варажба на картах', крыніцай якога з'яўляецца польск. *kabała* 'варажба на картах; варажба ўвогуле'. Карскі (1904, 172) у якасці крыніцы для бел. *каба́лы* 'пасьянс' называе ст.-яўр. *kabbālāh.*

**Кабалда́й** 'вялікаўзроставы' (Касп.). Відаць, што значэнне, выведзенае з прыкладу *(«Як табе ня сорамна — ты ж ужо кабалдай!»)*, з'яўляецца толькі варыянтам магчымай дэфініцыі.

З этымалагічна дапушчальных супастаўленняў ні рус. *хабалда* 'бойкая, крыклівая кабета', *бахалда* 'балаболка, разявака, гультай і г. д.', ні літ. *kabálda* 'кульгаючая, нязграбная асоба' не падтрымліваюць тлумачэння Каспяровіча. Яны, аднак, і не пярэчаць яму — агульнавядомымі з'яўляюцца ваганні семантыкі ў экспрэсіўных словах. Такім чынам, паводле семантычнага крытэрыю, нельга выбраць у якасці крыніцы запазычання ні рускую, ні літоўскую мову. Дапамагае крытэрый фанетычны. На той жа тэрыторыі зафіксаваны *хабал(ь), хабёл* 'бабнік, гуляшчы мужчына' (Касп). Гэтыя словы, відавочна, суадносяцца з прыведзенай вышэй рускай лексікай, але цяжка дапусціць, што ў слове *кабалдай к* паходзіць з *х*, тым больш што тыповымі з'яўляюцца адваротныя сувязі, г. зн. *х* < *к*. У сувязі з гэтым аддаецца перавага літ. *kabálda*. Такім чынам, можна сцвярджаць, што віц. *кабалдай* запазычана з літ. крыніцы, блізка да якой стаіць *kabálda*, адзначанае ў слоўніках. Аб літ. слове гл. Фрэнкель, 200.

**Ка́балка** 'вяроўка' (КСТ, у слоўніку адсутнічае, вузкі цяслярскі тэрмін). Укр. дыял. *кабалка, кабелка* 'тонкая прасмоленая вяровачка, якая ўжываецца пры пакрыцці дахаў чаротам', рус. *ка(о)белки* 'надвязкі на паплаўкі і грузіла невада', *каболка* 'пяньковая ніць для віцця вяровак (марскі тэрмін)'. Фанетыка ўкр. і рус. слоў не супярэчыць этымалогіі Мёлена (гл. Фасмер, 2, 151), які сцвярджае, што рус. *каболка* 'кабельная ніць' паходзіць ад гал. *kabelgaren* 'тс', як рус. *шкимушка* 'канат у двайную ніць' < гал. *schiemansgaren*. Вандроўны тэрмін; тураў. *кабалка,* як паказвае значэнне, з украінскай мовы, аднак шлях пранікнення няясны, паколькі яно зафіксавана толькі на поўдні Украіны.

**Каба́лніца,** *кабалныця* 'гадалка на картах' (Нар. лекс.), *кабальніца* 'тс' (Федар., 2, 113). Утворана ад *кабала* 'варажба на картах', якое як і зах.-укр. *кабала* 'тс', запазычана з польск. *kabała* 'тс', гл. Слаўскі, 2, 8.

**Каба́н**1 'кныр; дзікая свіння, дзік' (БРС, ТСБМ). Укр. *кабан,* рус. *кабан* 'дзік, непакладаны кабан'. Лічыцца запазычаннем (для рус. мовы) з тат., параўн. тур. *kaban* 'тс', гл. Фасмер, 2, 149; Слаўскі, 2, 8—9 (там і літ-ра). Бел. і ўкр. словы або запазычаны з рус. мовы, або, як паказвае геаграфія бел. слова (гл. ДАБМ, к. 291 «Назвы непакладанага кабана»), вынік узаемадзеяння гаворак. Гл. яшчэ аб бел. слове Асоўскі, Зб. Мілецічу, 257.

**Каба́н**2 'певень' (ДАБМ, Шатал.). Вузкі арэал распаўсюджання ўказвае на запазычанне, рэлікт або інавацыю. Версія

аб рэліктавым паходжанні прадстаўлена Асоўскім (SOc., 27, 1968, 167—171), які мяркуе, што *кабан* < **koban,* якое да **kob-* 'чары, варажба'. Як адзначыў Краўчук (Веснік БГУ, IV, 3, 1970, 64), гэта версія не пераконвае ні фанетычна, ні семантычна. Краўчук (там жа) мяркуе, што калі гэта не жартаўлівае ўжыванне назвы самца свінні для абазначэння пеўня, то запазычанне з ням. дыял. *Kapphahn* 'каплун'. Аднак такое ўжыванне не абавязкова было жартаўлівым. Мог адбыцца перанос ад назвы кабана як непакладанага самца, але гэтаму пярэчыць лінгвагеаграфія: слова *кабан* вядома на ўсходзе Беларусі (Магілёўшчына). Што датычыць другой версіі Краўчука, то звесткі аб значным працэнце нямецкага насельніцтва для некаторых раёнаў Беларусі (гл. Харузін, Слав. жил., 23—24) дапускаюць яе верагоднасць.

**Каба́н**$_3$ 'цаглянае скляпенне ў печы' (КСТ; пасож., бых., КЭС; Мат. Гом.), 'топка печы' (Шушк.). Укр. пал. *кабан, кобан* 'скляпенне печы'. Рэгіянальнае ўтварэнне ад *кабан* 'драўляная форма для скляпення ў печы', падрабязней гл. *кабыла*$_2$. Аб такім жа працэсе, магчыма, сведчыць укр. *ковбиця* 'печ, жарало печы' і 'чурбан'. Рус. *кабанчик* 'пячная (гжэльская) цагліна бруском, вузкая, падоўжная, палавінчатая', а таксама назвы жывёл паказваюць, што для бел., укр. *кабан* магчымы перанос па форме (форма скляпення і форма жывёлы). Параўн., аднак, *кебка* (гл.).

**Кабаніна** 'мяса кабана' (ТСБМ), 'мяса маладога дзіка, увогуле мяса дзіка' (Др.-Падб.), 'посная свініна' (Янк. 2), 'свініна' (Нар. словатв., Жыв. сл., Янк. 3), *кабанінка* (Янк. 2, Янк. 3). Рус. *кабанина* 'мяса дзіка'. Не выключана, што бел. і рус.— незалежныя ўтварэнні: ад *кабан*$_1$ (гл.) і суф. *-іна.*

**Кабанчу́к** 'парася' (КСТ). Ад *кабан*$_1$ (гл.) і суф. *-чук.* Параўн. *хлапчук, курчук, свінчук.* Не выключана, аднак, што гэты суфікс у канкрэтных выпадках — вынік узаемадзеяння розных суфіксаў у пагранічных дыялектных зонах. Параўн.: *хлапча, курча, свінча* (суф. *-ч-а)* і памяншальныя ўтварэнні на *-ук* / *-юк,* характэрныя для заходнебеларускіх гаворак.

**Кабасёк-кабасёк** 'падзыўныя словы для вепрука' (З нар. сл.). Да *кабась* (гл.).

**Каба́сь** (кабась-кабась) 'падзыўныя словы для вепрука' (З нар. сл., КСТ, Мат. Гом.), *кабусь! кабусь!* 'тс' (Маш.). Укр. *кабась* 'тс'. Рус. зах.-бран. *кабась-кабась* 'тс', рус. *кабась* 'ласкавы зварот да кабана'. Усх.-слав. утварэнне ад назвы кабана з фанетычнымі зменамі або рэгулярнымі для такога тыпу слоў, або пад уплывам іншых падзыўных (напр., *вась-*

*вась* і пад.). Магчыма і ўтварэнне з *кабаська-кабаська* (гл.), якое ад памянш. назвы кабана *кабаська* (Некр.), *кабусік* (Жыв. сл.).

**Кабáська** 'ласкальная назва кабана' (Некр.). Да *кабан* (гл.); *-с-* суфіксальнае або пад уплывам іншай назвы парсюка і адпаведным з'яўленнем *-с-*. Падрабязней гл. *кабусік.*

**Кабáсь-кабаська** (З нар. сл.). Утворана ад ласк. назвы кабана *кабаська*, якое, відаць, утворана ад *кабась* 'ласкальная назва кабана', параўн. рус. *кабась* 'парася' і 'ласкальны зварот да кабана'.

**Кабáт** 'жаночая цёплая камізэлька; безрукаўка' (БРС, Бяльк., Гарэц., Грыг., Інстр. I, Касп., Малч., Мат. АС, Мат. Гом., Мядзв., Нас., Некр., Рам., Серб., Сержп. Грам., Шн. 3, Ян., Янк. 3, Яруш.), 'рознае адзенне'(Жыв. сл.), 'сукенка' (Касп.), 'безрукаўка' (капыл., КЭС), 'дзіцячая кофтачка на падбіўцы' (Шатал.). Укр. *кабат* 'куртка, кафтан', рус. *кабат* 'куртка, кофта', рус. зах.-бран. *кабат* 'ліф, верхняя частка сарафана', польск. *kabat* 'кафтан', в.-луж. *kabat* 'кафтан', чэш. *kabát* 'паліто', славац. *kabat* (у розных значэннях, напр. 'спадніца' (Kalal)). У паўдн.-слав. мовах запазычана іншым шляхам, пра што сведчыць фанетыка слова: балг. *кавад, кават, кавак,* серб.-харв. *kȁvād,* якія з перс. *kabā* 'кафтан' пры пасрэдніцтве с.-грэч., н.-грэч. моў, гл. БЕР, 2, 119. Відаць, перс. форма з'яўляецца крыніцай і для зах.-еўрап. слоў, аднак няясным застаецца шлях запазычання. Для бел. слова таксама існуе праблема непасрэднай мовы-крыніцы. Рус. *кабат* вядома на поўначы і на сумежжы з беларускай тэрыторыяй. Яно можа разглядацца як пранікненне з бел. гаворак. Некаторыя значэнні польскага слова ('верхняя вопратка' і, напрыклад, паводле WIEP-ill. *kabat* 'кафтан, пераважна жаночы'), а таксама распаўсюджанае слова на беларускай тэрыторыі дазваляюць меркаваць, што крыніцай запазычання быў польскі перыферыйны дыялект. На карысць гэтага — наяўнасць слова ў сумежных літоўскіх гаворках са значэннямі 'сукенка без рукавоў' *(kabãčius)* і 'жаночы кафтанік' *(kóbotas)*.

**Кабéль** 'вялікі хлопец' (З нар. сл.), рус. *кобель* 'тс', да *кобель* 'сабака' (Фасмер, 2, 267; Трубачоў, Происх., 28—29; Шанскі, ЭИРЯ, 7, 210).

**Кабéрац** 'дыванок' (Нас. СБ., КТС, БРС, ТСБМ) 'дыванок, на якім вянчаюць маладых' (Жд. 2, Касп., Нар. сл., Нас.). Геаграфія слова і фанетычная адзнака сведчыць аб (*-б-* замест *-в-*, параўн. укр. *коверець,* рус. *ковер* і польск. *kobierzec*, чэш.

*kobeřec*, славац. *koberec*) запазычані з польск. (Слаўскі, 2, 299).

**Кабачо́к** 'расліна Cucurbita melo pepo; плод гэтай расліны' (БРС, КТС, ТСБМ). З рус., дзе *кабак* да цюрк., параўн. тур., там., чагат. *кабак* 'тс', гл. Фасмер, 2, 148.

***Кабе́лец,** *кобелец* 'дыван' (Нас.). Наяўнасць фанетычнай адзнакі (*-б-* на месцы *-в-*, параўн. рус. *ковер*) і супадзенне з польск. *kobielec* 'тс' сведчаць пра запазычанне. Паводле лінгвагеаграфічнага крытэрыю, найбольш верагоднай крыніцай запазычання мог быць польскі перыферыйны дыялект. Параўн. *каберац* (гл.).

**Кабе́та** 'сталая жанчына, звычайна замужняя' (БРС, ТСБМ). У гаворках вядома на значнай тэрыторыі: 'маладзіца, сталая жанчына, замужняя жанчына і г. д.' (Касп.; КЭС, лаг.; слуц., КЭС; Мядзв., Нас., Шат., Яруш.). Запазычанне з польск. мовы, гл. Слаўскі, 2, 301. У польск. мове слова вядома па тэкстах з XVI ст., аднак выключна з пейаратыўным значэннем. Што датычыць этымалогіі, то прымальнай версіі пакуль што няма. Падрабязны агляд версій пра магчымае запазычанне ў польск. мову і спробы вытлумачыць яго мясцовае паходжанне гл. у Слаўскага, 2, 300—303.

**Кабе́ц** 'хвасцец, Falko vespertinus L' (Касп.). Укр. дыял. *кобець, кібець,* рус. дыял. *кобец*, ст.-польск. *kobiec,* славац. *kobec*, серб.-харв. *kòbac*, славен. *kóbec, scobec,* мак. *кобец,* балг. *кобец, кобъц.* У слав. мовах гэтым словам называюць розных драпежных птушак: Falko, Pernis, Accipiter і інш. Прасл. *kobьcь* 'драпежная птушка сокал, ястраб' утворана або гукапераймальным спосабам на слав. моўнай глебе, або, як мяркуюць некаторыя аўтары, больш старажытнае, з і.-е. сувязямі. Слаўскі (2, 295—296) прымае найбольш верагодную этымалогію, паводле якой *kobьcь* < *kobiti* 'варажыць, асабліва па лёту птушкі', там жа абгрунтаванне гэтай версіі. Адносна іншых этымалогій гл. Фасмер, 2, 267—268; БЕР, 2, 501; Слаўскі, 2, 295—297 (там і літ-ра).

**Кабза́** 'кашалёк, торбачка для грошай' (Др.-Падб.; глус., КЭС). Укр. *кабза* 'тс'. Даль таксама з пам. «зап.» прыводзіць формы *кабза, кобза, гамза* 'тс'. Запазычана з польск. *kabza,* дзе значэнне 'кашалёк' адносна новае, гл. Слаўскі, 2, 11. Польск. *kabza* ўзыходзіць да лац. *capsa* 'сховішча, скрыня'.

**Каблу́к**$_1$ 'абцас' (БРС, ТСБМ, КТС; кап., КЭС). Козыраў (Цюркізмы, 22) адзначае, што ў паўн.-бел. гаворках звычайна ўжываецца слова *каблук.* У бел. літар. мове — запазычанне

з рус. *каблук* 'тс', што датычыць паўн.-бел. слова, то Козыраў (там жа) адзначае, што калі гэта цюркізм, то запазычаны ў волжскіх татар, адкуль праз гаворкі трапіла ў Беларусь. Для рус. *каблук,* якое аднойчы адзначана ў рускіх граматах (пачатку XVI ст.), прапанавалася як уласна славянская этымалогія, так і запазычанне з усходу. Апошняя версія падтрымлівалася, напрыклад, Вахрасам, Наим. об., 48. Прыхільнікі гэтай версіі, прапанаванай яшчэ Рэйфам, бачаць у гэтым слове цюрк. корань *каб* 'футляр, абалочка' і *-лык* / *-лук-* — цюрк. афікс, гл. Аракін, Цюркізмы., 136, параўн. рус. том. *каблык* 'абцас'. Гл. Трубачоў, Эт. сл., 9, 107. Паводле гэтай этымалогіі, *каблук* 'абцас' нельга аддзяляць ад *каблук* 'выгіб, паўкружжа і г. д.'. Гл. *каблук*$_2$.

**Каблу́к**$_2$ 'вертыкальны абруч у кошыку; ручка' (Жд. 3), 'ручка ў кошыку', 'аснова, круг для кошыка' (З нар. сл.), 'кальцо з лазы, частка кашолкі, каша' (Сіг.), 'маленькая дужка ў цэпе' (Выг.), 'жалезны прэнт з боку бараны, за які чапляюцца пастронкі; аснова бараны' (Выг., Жыв. сл., Сержп. Земл.), 'ручка касы' (ДАБМ), 'дэталь касы: дуга з нацягнутым палатном, замацаваным на кассі' (Сіг.), 'крук на канцы аглоблі' (Нар. словатв.), 'доўгая сагнутая дошчачка, абодва канцы якой адначасова з'яўляюцца клёпкамі ў цэбры' (Малч.), 'круглае рабро ў рыбалоўных пастках' (Крыв.), *каблукы* 'прыстасаванне насіць сена жывёле'(Клім.). Укр. *каблук* 'дуга, частка акружнасці', 'дуга ў прыстасаванні для лоўлі рыбы', 'верх шляпы', 'абечак', 'дугападобна выгнуты прут, прыстасаванне на ручцы касы пры касьбе збожжавых', рус. *каблук* 'уступ, рубец карніза', 'рыбалоўная снасць', 'каўнер', польск. *kabłąk* 'выгіб, дуга, паўкружжа, арка', *kabłęk* 'ручка ў кошыку', у спецыяльнай тэрміналогіі і ва ўсходніх гаворках (гістарычна не польскіх) слова ўжываецца ў значэннях 'дэталі розных прыстасаванняў у ярме, касе, рыбалоўнай снасці'. Паводле лінгвагеаграфічнага крытэрыю — паўн.-слав. утварэнне, безумоўна, звязанае са слав. *lǫkъ, lękt'i,* параўн. сінанімічныя *каблук, самалук, лук,* рус. *облук,* серб.-харв. *о̀блук* і інш., аднак структура слова не зусім ясная. Многія аўтары сыходзяцца на тым, што ў даным выпадку мела месца або двайная прэфіксацыя *ка-+-ов-*, або толькі *ка+oblǫkъ*. Паводле Слаўскага, 2, 10, *ka-błąk,* засведчанага толькі аднойчы ў дыялектах,— вынік перараскладання слова *obląk*, аднак з гэтай думкай не пагаджаецца Трубачоў, Эт. сл., 9, 107, які лічыць, што шырокая распаўсюджанасць слова на ўсх.-слав. тэрыторыі і наяўнасць яго ў ст.-рус. помніках не дазваляюць згадзіцца з познім характарам утварэння. Але аргумент Трубачова не з'яўляецца сур'ёзным, паколькі да XVI ст. адносяцца

толькі дзве фіксацыі — 1521 і 1587 гг. Думка Слаўскага, такім чынам, выглядае цалкам мажлівай, аднак сумненне выклікае паралелізм значэнняў *ка-* і *о-*. Гл. Фасмер, 2, 151.

***Кабро́так,** *кобрюток* 'калаўрот' (Нар. сл.). Выходнай формай было, відаць, *каўротак*<*калаўротак,* аднак з'яўленне *-б-* цяжка вытлумачыць.

**Кабу́лка** 'пятля ў ніце' (Нар. сл.). Да *кабылка*5 (гл.), фанетыка (*у* на месцы *ы*) тыповая для гэтай часткі Палесся, параўн. сумежнае тураў. *копуто* 'капыт', *бук* 'бык, бугай'.

**Ка́бці,** *кабцікі* 'від абутку' (Караткевіч, КТС). Форма з азванчэннем ад польск. *kapcie* 'від прымітыўнага абутку са скуры або тканіны; стары стаптаны абутак, пантофлі'. Слова вядома ў чэш. гаворках і ў славац. мове (запазычана з польск.?). Укр. і рус. паўдн.-зах. (укр.?) *капці, капцы.* Слова з няпэўнай этымалогіяй; мяркуюць аб магчымым запазычанні з венг. *карса* 'ануча', а польск. форма пад уплывам *łapcie*. Слаўскі (2, 52) прымае гэту версію як найбольш верагодную. Аб іншых прапановах гл. Слаўскі, там жа.

**Кабы́ла**1 'самка каня' (БРС, ТСБМ, Бяльк., Касп., Мат. Гом., Нік. Напаў., Нік. Оч., Сержп. Грам., Юрч., Яруш.). Укр. *кобила,* рус. *кобыла,* польск. *kobyła,* н.-луж. *kobyła,* в.-луж. *kobyła, kobła,* палаб. *t'ŭbǻlə,* чэш. *kobyla,* славац. *kobyla,* серб.-харв. *kòbila,* славен. *kobìla,* мак. *кобила,* балг. *кобила, кобыла.* Прасл. *kobyla* 'тс', магчыма, з і.-е. сувязямі, параўн. грэч. *καβάλλης* 'рабочы конь', лац. *caballus* 'конь і інш.', ням. дыял. *kōb* 'конь, кляча', або, паводле Слаўскага, 2, 306, магчыма, і запазычанне «вандроўнага» тэрміна, які мог прыйсці з усходу (з Малой Азіі, напрыклад). Агляд літ-ры і асноўных версій Фасмер, 2, 269; Слаўскі, 2, 305—307; БЕР, 501—503. Гл. яшчэ Трубачоў, Происх., 52—53; Мартынаў, Язык., 71.

**Кабы́ла**2 'скляпенне ў печы' (Бяльк., Мат. Гом., Мат. Маг., Юрч.). У сумежных з беларускімі рускіх гаворках адзначаны блізкія па значэнню словы: смал. *кобыла* 'паўкруглы падмурак печы', бран. 'паўкруглае скляпенне печы і падпечча'. Бел. усходні рэгіяналізм, паходзіць ад *кабыла* 'драўляная форма ў выглядзе паўкружжа для ўтварэння скляпення ў печы' (Рам.; карм., мсцісл., слаўг., Яшк. Пас.). *Кабыла* ў апошнім значэнні — перанос паводле падабенства ад *кабыла*1, шырока вядомая славянская з'ява. Параўн. іншыя назвы прыстасаванняў і дэталей, на якія перанесены назвы жывёл: казёл, кабан, кошка, сабака, бык і да т. п. Больш падрабязна гл. пад *кабылка.* Параўн., аднак, *кебка* (гл.).

**Кабы́ла**$_3$ 'выструганая палка, да канцоў якой прывязваюцца цяцівы заезніка, і выезд (служыць таксама для выпрамлення палатна сеткі пры выцягванні яе на бераг)' (З нар. сл.; рыбалоўны тэрмін). Да *кабыла*$_1$ (гл.), утворана як і іншыя назвы дэталей і прыстасаванняў (параўн. *казá* — назва рыбалоўнай снасці), матывацыя не зусім ясная (магчыма, універсальны перанос слова *кабыла* як тэрміна тэхнічных прыстасаванняў, які першапачаткова захоўваў празрыстыя сувязі з *кабыла* ў выніку пераносу паводле падабенства, функцыі і да т. п.

**Кабы́ла**$_4$ 'некалькі бярвенняў, рухома звязаных у выглядзе ланцужка, якімі абводзіцца месца на рацэ, дзе звязваецца бярвенне ў плыты'. Да *кабыла*$_1$, аднак матывацыя няясная. Магчыма, тут адбыўся перанос паводле падабенства, а магчыма, гэта вынік універсальнага працэсу, калі амаль што любая дэталь або само тэхнічнае прыстасаванне можа называцца ўжо існуючымі тэхнічнымі тэрмінамі, напр., бярвенні, дошкі і іншыя доўгія прадметы (палкі і да т. п.) могуць называцца кабыламі, усе дэталі з кручкамі, зубцамі — ваўчкамі, сабачкамі і г. д. Не выключана, аднак, што *кабыла*$_4$ ўтворана ад *кабыла* 'бервяно', параўн. рус. пск. *кобылка* — 'абрубак бервяна; тоўстае доўгае бервяно'. Аднак апошняе таксама з'яўляецца вынікам звужэння значэння слова *кабыла* 'розныя падпоры ў выглядзе бервяна на падстаўках, ножках і г. д.', параўн. рус. свердл. *кобылина* 'бэлька (у столі)'.

**Кабы́ла**$_5$ 'грыб пеўнік стракаты' (кам., Жыв. сл.), 'грыб свінуха тонкая' (Жыв. сл.; Сцяц.), 'радоўка жоўта-карычневая' (Нар. словатв.), 'від грыбоў' (Юрч.), 'грыб' (Жыв. сл.). За межамі беларускай моўнай тэрыторыі як быццам не сустракаецца (рус. смал. *кобыла* 'род ядомых, але нясмачных грыбоў' нельга аддзяляць ад бел. матэрыялу). Бел. інавацыя, да *кабыла*$_1$. Той факт, што адным словам называюць розныя віды грыбоў, сведчыць аб дыфузнасці назвы або аб назве канкрэтнага грыба, якая пашыралася на іншыя (магчыма, зноў-такі ў выніку атрымання дыфузнага значэння 'нясмачны грыб'). Матывацыі маглі быць рознымі. Так, назва магла быць перанесена паводле адзнакі «паўсцістасці» (параўн. *кабыленка* 'ваўнянка'). Вядомым у славянскім свеце з'яўляецца перанос паводле адзнакі 'вялікі, цяжкі', параўн. польск. *kobyła* 'гатунак вялікіх сліў'. Звяртае ўвагу таксама сэнс літоўскай калькі з бел. *кабыла* 'грыб': *kumẽlė* 'ядомы грыб' (LKŽ, 6, 867).

**Кабы́ла**$_6$ 'высокая жанчына' (Мат. Маг.). Да *кабыла*$_1$; перанос вядомы ў розных мовах, і, відавочна, без сувязі слоў

між сабой, або на базе лаянкавага ўжывання *кабыла*$_1$, або ў выніку замацавання значэння ’вялікі’.

**Кабы́ленка** ’ваўнянка (грыб)’ (Шатал.). Магчыма, утворана паводле адзнакі ’пакрыты шэрсцю’ або як *кабыла*$_5$ (гл.).

**Кабылі́ца** ’маладая рослая кабыла; жаробка’ (ТСБМ, ТС). У гаворках як быццам не адзначана. Магчыма, запазычанне з рус. *кобылица* ’тс’, якое да прасл. *kobylica* (памянш. ад *kobyla*). Зах.-бел. *кабыліца* (назва грыба — Сцяц.) — або рэлікт, або таксама запазычанне з рус. мовы.

**Кабы́лка**$_1$ (БРС, ТСБМ, Бяльк., Жыв. сл., З нар. сл., Касп., КТС, Нік. Оч., Сержп., Сцяц. Словаўтвар). Укр. дыял. *кобилка,* рус. *кобылка,* польск. *kobyłka,* в.-луж. *kobyłka,* палаб. *t’übălkə*, чэш. *kobylka,* славац. *kobylka,* мак. *кобилка,* балг. *кобилка.* Прасл. (на думку Слаўскага, 2, 308, БЕР, 2, 504, прасл. дыял.) *kobylъka* памянш. да *kobyla* гл. *кабыла*$_1$.

**Кабы́лка**$_2$ ’драўляная падстаўка пад струны’ (БРС, ТСБМ, Касп.; лаг., КЭС, Маш., Некр., Шат.). Укр. *кобилка,* рус. *кобылка,* польск. *kobylka,* чэш. *kobylka,* славац. *kobylka* ’тс’. Паўн.-слав., узыходзіць непасрэдна да *кабылка*$_1$ — перанос паводле падабенства або ўжыванне ўжо «тэрміналагічнага» *kobylka*, якім абазначалі розныя падстаўкі і прыстасаванні. Магчыма, гэта «вандроўны» культурны тэрмін, хаця і даволі старажытны, як можна меркаваць зыходзячы з лінгвагеаграфіі слова.

**Кабы́лка**$_3$ ’лугавая казяўка-траскун, конік’ (БРС, Дразд, Інстр. II). Этымалогія няясная. Параўн. укр. *кобилка,* рус. *кобылка,* польск. *kobyłka,* чэш. *kobylka,* славац. *kobylka* ’тс’. На поўдні як быццам не ведаюць гэтага слова; паўн.-слав. слова — старажытны перанос ад *kobylka* паводле знешняга падабенства, параўн. *конік* і інш.

**Кабы́лка**$_4$ ’адна з дзвюх пласцінак з калёсікамі ў кроснах, да якіх падвешваюцца ніты’ (ТСБМ), магчыма, сюды ж *кабылкі* ’палачкі ў кроснах для падцягвання нітоў’ (З нар. сл.). Аб значэнні і ўсходнім распаўсюджанні слова на польск. тэрыторыі гл. Фалінская, III, 2, к. 93 (пыт. 107). Лінгвагеаграфія слова сведчыць аб тым, што гэта паланізм, які праз гаворкі (магчыма, у выніку пранікнення рэаліі) трапіў у бел., сумежныя рус. і пагранічныя ўкраінскія гаворкі, або пра сумесную інавацыю часоў Вялікага княства Літоўскага.

**Кабы́лка**$_5$ ’вочка (у ніце)’ (З нар. сл., Касп., Мат. Гом., Уладз.), *кабылкі* ’тс’ (Мат. Гом), *кабулка* (аб фанетыцы гл.

*кабулка*) 'тс' (Мат., Нар. сл.), 'частка ніта' (Шат.). Славяне (польск., славац.; рус. цвяр., пск., смал.; укр. закарп.) ведаюць гэту назву ў дачыненні да вочак ніта ў залежнасці ад іх тыпу (двух- або трохпетлевыя ніты), аб рэаліі гл. спецыяльна малюнкі ў Грынчэнкі, 2, 533, і Фалінскай, III, 1, 80. Так, закарп. у Галіцыі, паводле Грынчэнкі, *кабылкай* называюць ніжнюю частку петляў, а на Палессі — петлі верхняга раду. Культурны характар тэрміна і відавочныя сепаратныя лексічныя сувязі гэтых моўных зон з беларускімі гаворкамі дазваляюць сумнявацца ў вялікай старажытнасці інавацыі. Магчыма, яна і была беларуска-польскай, а магчыма, толькі ўласна беларускай і ўжо адносна пазней слова магло пранікнуць у гаворкі іншых моў. Што датычыць этымалогіі, то хоць сувязь з *кабылка*$_1$ відавочная (параўн. укр. зах. *коник* 'верхняя пятля ў ніце', *кобилка* — 'ніжняя'), матывацыя няясная, магчыма, перанос з іншых назваў дэталей красён. Рус. (іркуц.) *кобылка* 'пятля, вузел, якія ўтвараюцца пры скручванні вяроўкі, дроту' ўказвае на магчымасць пошуку этымону для значэння 'пятля наогул', якое першапачаткова магло ўзнікнуць на базе выразу (з адмоўным значэннем) «рабіць кабылу», 'рабіць памылку (блюзну, пропуск пятлі пры тканні)', 'блытаць вяроўку і г. д.'. На гэта ўказваюць даныя бел. гаворак (параўн. гарад. *кабылка* 'блюзна') і літ. калькі з бел. слоў (параўн. *kumẽlė*).

**Кабы́лка**$_6$ 'грыб' (Жыв. сл.), *кабылкі* 'чорныя грузды' (узд., КЭС), *кабылы* 'грыбы' (Жд. 3, Мат. Гом.), *кобыльнік* 'грыб, які часам ужываецца ў ежу' (Нас.). Да *кабылка*$_1$, *кабыла*$_1$ (гл.); *кобыльнік* утворана суфіксальным спосабам ад *кабыла*$_1$ ці на базе выразу *кабыльны грыб*. Адносна этымалогіі гл. *кабыла*$_5$.

**Кабыля́нец** 'апендыцыт' (Жд. 3). Фармальная сувязь з *кабыла* відавочная, аднак словаўтваральны бок і матывацыя вельмі няясныя.

**Кабя́лак** 'скрутак' (зэльв., Жыв. сл.). Запазычанне з польск. *kobiałka* (аб распаўсюджанні і значэннях гл. Mały atlas gwar polskich, т. III, к. 123). Не выключана, што ў якасці непасрэднай крыніцы была гутарковая форма тыпу *kobiałek* 'тс'. Польск. слова — памянш. ад *kobieł* 'кашолка і інш.', аб некаторых цяжкасцях у тлумачэнні словаўтварэння гл. Слаўскі, 2, 295.

**Ка́ва** (БРС, ТСБМ, Гарэц., КТС, Сцяц. Нар., Шат., Яруш.). Як і ўкр. *кава*, бел. слова з польск. *kawa*; Слаўскі, 2, 105. У польск. мове *kaffa, kafa* адзначаны ў другой палавіне XVII ст. З араб. *kahwa* 'кава' і 'гатунак лёгкага віна'. Араб. ад

назвы краіны *Kaffa*, дзе расце кававае дрэва. Крыніца запазычання для польск. *kawa* — тур. *kahve*. Гл. *кофе*.

**Кава́дла** 'жалезная падстаўка асобай формы для ручной коўкі металу' (БРС, ТСБМ, Дэмб., Жыв. сл., Касп.; лаг., КЭС; Мал., Нар. словатв., Сержп. Грам., Сцяц., Сцяц. БНС, Шат., Янк. БФ), *кувадло* 'тс' (Мядзв., Нас.), 'бабка' (Сержп. Земл.). Паводле суфіксацыі — запазычанне з польск., дзе да прасл. *kovadlo* < *kovati*, гл. Слаўскі, 3, 19—21.

**Кава́ка** 'луста хлеба' (Мат. Гом.). Вузка рэгіянальнае ўтварэнне, відаць, ад *кавалак* 'тс'. Параўн. у Коласа: «...*хлеба цэлы кавал*» і сумежныя бел. спалучэнні: у Растаргуева: *кавалак* пераважна 'кусок чорнага хлеба'; у Дабравольскага: *кавалэк* 'тс'. Цяжка вытлумачыць словаўтварэнне. На думку Казловай, Сов. славяноведение, 90, бел. слова **kovaka* < *kovati* 'біць, рэзаць; рубіць; адрубаць'. У такім выпадку бел. слова — рэлікт (прасл. дыялектызм), што малаверагодна. Больш надзейнымі здаюцца наступныя меркаванні. *Кавака* 'луста хлеба' можна разглядаць як пераробку *кавалак* 'тс' у дзіцячай мове. Параўн. *кабака* 'каўбаса', *кабака* 'кабан' у дзіцячай мове (Яшкін, вусн. паведамл.). Параўн. яшчэ: *«Занясі ў поле бацьку каваку хлеба»* (Мат. Гом.). Іншы варыянт — замена суфікса ў выніку зацямнення структуры слова (працэс пераракладання) з'ява даволі вядомая ў гаворках.

**Ка́вал** 'вялікі кавалак чаго-н.' (БРС, ТСБМ; слонім., Арх. Бяльк.; КТС; зах.-палес., Міхайлаў, вусн. паведамл.). Геаграфія і націск слова сведчаць, што бел. *кавал* запазычана з польск., гл. Слаўскі, 2, 106, які лічыць, што польск. *kawał* — больш позняе ўтварэнне ў параўнанні з *kawalec, kawałek,* якія ўзыходзяць да с.-ням. *kavele* 'жэрабя, доля і інш.' Параўн. кашуб. *kawel, kaweł* 'доля, надзел зямлі', славін. *kãvòl, kãveãl* 'кавалак, вялікі кавалак', чэш. дыял. *kaval* 'кусок', славац. *kaval* 'тс', н.-луж. *kjabel* 'доля, калодка для жараб'ёўкі; надзел зямлі, лесу і г. д.' Значэнне зах.-слав. лексем добра ўзгадняецца з класічнай этымалогіяй. Паводле гэтага крытэрыю, а таксама паводле лінгвагеаграфічнага і інш., нельга пагадзіцца з меркаваннем Казловай, Сов. слав., 89, 90, што ўсх.-слав. *кавал* < **koval *kovati* і зах.-слав. формы можна вытлумачыць як запазычаныя з усх.-слав. моў. Аб польск. і ням. словах больш падрабязна Слаўскі, 2, 107 (там і літ-ра).

**Кава́лак** 'кусок' (БРС, ТСБМ, Бяльк., Выг., Гарэц., Грыг., Касп., Нас., Сержп. Грам., Сержп. Прымхі, Шат., Яруш.), *кавалак* 'кусок вымешанай гліны' (палес., Вярэн.), 'зямельны надзел квадратнай формы' (палес., Выг.), 'тоўстае бервяно'

(БРС), у выразе *кавалак дурня* (Сцяц.), *кавалачак* (ТСБМ, Нас.). Больш шырока, чым *кавал* (гл.), распаўсюджаны паланізм. Гэта можа тлумачыцца або больш раннім пранікненнем яго ў бел. гаворкі, або тымі ж чыста моўнымі семантычнымі асаблівасцямі, паводле якіх *кусок* больш ужывальнае, чым *кус*. Неабходна адзначыць, што, як і ў выпадку са словам *кавал*, пашыралася менавіта значэнне 'частка цэлага'. Аб этымалогіі гл. *кавал*.

**Кавале́р** 'мужчына, які танцуе з дамай, суправаджае яе на гулянні і пад.' (БРС, ТСБМ), 'малады чалавек; халасты мужчына' (ТСБМ, Бяльк., З нар. сл., Панюц., Шат.). У бел. літар. мове з рус. *кавалер*; у гаворках — польск. *kawaler* націск параўн. *кава́ляр* 'халасты мужчына, малады чалавек' (Мал.). Польск. *kawaler* 'халасты мужчына, малады чалавек і інш.'. Зыходная форма для шэрагу еўрапейскіх моў — італ. *cavaliere* 'кавалерыст', якое да *cavallo* 'конь' (лац. *caballus* 'тс'). Для польск. мовы ўказваюць на магчыма ням. або франц. пасрэдніцтва, гл. Шанскі, 2, 8, с. 9.

**Каваро́т,** *каваротак* 'калаўрот' (Хрэст. па бел. дыял.), *кавародак* 'тс' (гродз., З нар. сл.), *каваротка* 'тс' (Нар. словатв., Шатал.). Утворана ў выніку працэсу гаплалогіі з *калаварот, калаваротак* (гл.).

**Каваро́тчык,** *коворотчок* 'фортка ў плоце' (кобр., Нар. сл.), *коворотыць* 'тс' (брэсц., Нар. сл.). Да *коварат* 'тс' (гл.).

**Кава́ць**1 'ударамі молата або ціскам апрацоўваць распалены метал, надаваць яму патрэбную форму; падкоўваць, акоўваць' (БРС, ТСБМ, Бяльк., Сержп., Яруш.). Укр. *ковати, кувати,* рус. *ковать,* польск. *kowac,* н.-луж. *kowas,* в.-луж. *kować,* чэш. *kovati,* славац. *kovat',* серб.-харв. *kòvati,* славен. *kováti,* мак. *ковам,* балг. *кова.* Прасл. *kovati, kovǫ:kovati, kujǫ* 'апрацоўваць метал молатам і інш.'. Ад і.-е. *kāu-, kəu-* 'біць, сячы, рубіць', параўн. літ. *káuti* 'біць, забіваць', лат. *kaût* 'тс', ст.-ням. *houwan,* ням. *hauen* 'біць, сячы, каваць' і інш. Трубачоў (Ремесл. терм., 345—347) звяртае ўвагу на спецыфічнасць значэння 'апрацоўваць молатам' у славян параўнальна з кантынуантамі ў іншых і.-е. мовах. У гэтым славянскія мовы адрозніваюцца ад балтыйскіх. Падрабязна аб значэннях слав. *kovati* гл. Слаўскі, 3, 18—19; БЕР, 2, 506—509.

**Кава́ць**2 'кукаваць' (Мал., Сержп. Грам., Сцяц., зэльв.; Радч.). Укр. *кувати,* польск. *kować* 'тс'. Звяртаюць на сябе ўвагу значэнні слав. *kovati* 'апрацоўваць молатам, біць' у розных мовах і гаворках, якія апісваюць манатонныя працэсы, напр. славін. *kùevą, kuovają* 'гучна, манатонна стукаць дзюбай

(звычайна пра дзятла) і да т. п.' Слаўскі (3, 19) лічыць, што прасл. *kovati* мела значэнне 'кукаваць'. Ён прыводзіць семантычную паралель: *bić* 'біць' і 'спяваць (аб перапёлцы)'. Лічыць гэты перанос (<*kovati* 'біць і г. д.') старажытным нельга, паколькі *каваць* 'кукаваць' адзначана на сумежных арэалах і можа ўяўляць познюю інавацыю. Да таго ж не выключана, што *каваць* можна суаднесці як другаснае з гукапераймальным *kukovati,* параўн. укр. *кукувати,* бел. *кукаваць,* рус. *куковать,* польск. *kukować*, в.-луж. *kukować.* Магчыма, працэс перараскладання або народнай этымалогіі мог прывесці да вычлянення *каваць* < *кукаваць.* Менш верагоднай уяўляецца думка аб старажытных сувязях *каваць* 'кукаваць' і ст.-інд. *kāuti* 'крычыць'.

**Каве́ндзіцца** 'мучыцца, паміраць з мукамі' (Нас.). Да *кавенчыцца* (гл.), параўн. у Насовіча: *кавенкнуць* 'памерці з мукамі'. Фанетыка не зусім ясная, магчыма, экспрэсіўная пераробка гукаў.

**Каве́ннік** 'вугал каля печы' (Мат. Гом.), 'палка, на якую насаджана качарга' (Нар. словатв.), *ковэннік* 'тс' (браг., лун., Шатал.), *кувеннік* 'тс'. Да *кавяня́* (гл.).

**Каве́нчыцца** 'мучыцца, пакутаваць ад болю', 'пакутаваць з кім-н.' (лаг., КЭС; Нас.), *ковэнчыцца* 'мучыцца' (Шатал.), *кавенчыць* 'мучыць' (Нас.), *кавенчэння, кавенчання* 'агонія' (Нас., Яруш.). Польск. *kawęczeć, kawęczyć* 'доўга хварэць, мучыцца і да т. п.', ст.-польск. *skawęczeć* 'змарнець', славац. дыял. (усх.) *kavenčec* 'тс'. Слаўскі (2, 107) лічыць славац. і бел. роднаснымі да польск. слова, аднак для гэтага няма падставы; паводле лінгвагеаграфічнага і фанетычнага крытэрыю, бел. і славац. патрэбна разглядаць як паланізмы. Паводле Слаўскага, там жа, польск. *kawęczeć* суадносіцца са старым дзеясловам *kavъkati* і першапачаткова азначала 'енчыць, падаваць жалобны голас'. Ён прыводзіць рус. дыял. *кувякать* 'енчыць, плакаць' і лічыць, што тут мела месца расшырэнне кораня *-ęcz-, -ęk,* падрабязней гл. Слаўскі, 2, 108.

**Кава́ль** 'рабочы, майстар, які займаецца коўкай металу' (БРС, ТСБМ, Бяльк., Гарэц., Жыв. сл., Касп., КТС, Мал., Нар. сл., Сержп., Сержп. Грам., Сцяц., Сцяц. БНС, Сцяшк., Шат., Яруш.). Укр. *коваль,* рус. дыял. *коваль,* польск. *kowal,* н.-луж. *kowal,* чэш. дыял. *koval,* славац. дыял. *koval.* Паўн.-слав. *kovalь,* nomen agentis да *kovati,* гл. Слаўскі, 3, 21. Адносна словаўтварэння гл. спец. аб паўн.-слав. суф. *-ljь* Слаўскі, ZPSS, 11, 1963, 87. Трубачоў (Ремесл. терм., 334—335) звяртае ўвагу на параўнальна новы з пункту погляду словаўтварэння

характар назваў каваля ў славянскіх мовах (*kovalь, kovarь, kovačь, kuznьcь, kuznikъ*), аднак адзначае, што істотных аргументаў супраць таго, што гэтыя словы існавалі ў праславянскай мове, хоць і позняга часу, няма.

**Ка́верза** 'інтрыга, падколы' (БРС, ТСБМ). Статус літар. слова няясны (ТСБМ цытуе Хадкевіча), выглядае русізмам. У гаворках адзначана анкетай Жакавай (гл. *каверзня*). Магчыма, яно вядома больш шырока. У формах *каверзь* 'лухта', *каверза* 'паклёп, брахня' слова сустракаецца ў Вілейскім р-не.

**Ка́верзня** 'бесталковы, хлуслівы', *накаверзнічаць* 'схлусіць' засведчаны ў Барысаўскім р-не (Жакава, Совещание по ОЛА, 1975, 199). Укр. *каверза* 'хітрыкі, штука', *каверзник* не выглядае як народнае, аднак Грынчэнка з паметай «Лебед. у.» прыводзіць слова *каверзякати* 'верзці лухту'. Рус. *каверза* вядома ў літар. мове (з 1641) і ў гаворках: пск., асташ., цвяр. *каверза* 'пра чалавека, які прыносіць іншым непрыемнасці', перм., алан., арх. 'пляткар, пляткарка', валаг. 'штукар', алан. 'назола', смален. *кавирзу сплесть* 'схлусіць, сказаць плётку, узвесці паклёп'. Усх.-слав. утварэнне ад *коверзати* 'плесці', гл. *кавярзаць*. Семантыка празрыстая, параўн. рус. *сплетня,* польск. *plotki*. Бел. *каверзь* 'лухта' можна параўнаць з рус. пск., асташ., цвяр. *каверзь* 'дрэнь, брыдота' (параўн. адзначанае на той жа тэрыторыі *каверзяниться* 'пэцкацца'), 'пра пустога, нікчэмнага чалавека'; бел. *каверзня* 'пра бесталковае, хлуслівае' з рус. пск., асташ., цвяр. *каверзня* 'неверагоднае, або такое, якое не заслугоўвае даверу, апавяданне'. Гл. *кавярзень*.

**Каве́рня** 'аб чым-н. неразумным' (в. Яўлахі Талач. р-н; Жакава, Совещание по ОЛА, 199). Утворана ад *каверыць* (гл.) 'перакручваць (словы)' (Жакава, там жа). Адносна словаўтварэння параўн. *каверза, каверт;* аднакарэннымі вытворнымі можна лічыць з інш. прэфармантам і ад дзеяслова са значэннем 'плесці' — рус. дыял. *шеверенька* 'кашолка', бел. *вярэня, вярэнька* 'плеценая торбачка пастуха', рус. *веренька* 'вяроўка; венцер, кашолка і інш.'; ад дзеяслова са значэннем 'хлусіць' рус. смал. *вереня, верень* 'мастак расказваць байкі'.

**Ка́верт** 'невялікая глыбокая яма з вадой на лузе', 'лужына, роў' (стол., Яшк.), 'вір' (маз., Мат. Гом.; слаўг., Яшк.), 'вокнішча сярод дрыгвы' (стол.), 'невялікае забалочанае паніжэнне' (палес., тур., Яшк.; Крывіцкі, вусн. паведамл.). Магчыма, сюды ж адносіцца *кавець* 'роў з вадой' (стол., Яшк.). Тураўскі слоўнік дае значэнне 'калдобіна, яма на лузе,

запоўненая вадой', аднак існаванне памянш. *кавярток* і некаторыя прыклады (параўн. *«каверты булі, як болота булі, вулезці не можно. То ў гэтых кавертох рыбу було!»*) дазваляюць думаць, што значэнне слова нельга зводзіць толькі да 'яма'. Жакава (Совещание по ОЛА, 1975, 198) паведамляе, што ў беларускім Палессі слова *каверть* 'невялікая глыбокая яма з вадой' вядома ў Петрык. і Мазыр. раёнах. Анкета Жакавай наконт тэрміна *каверт* выявіла яго ў крупск. у значэнні 'топкае месца ў балоце'. З укр. Палесся вядома *каверт* 'глыбокае месца ў рацэ'. Шматлікія даныя прыводзіць Ніканчук, Этимология — 1977, 123. Слова адзначаецца толькі ў цэнтральным і ўсходнім Палессі (паводле Талстога, Геогр., 215, «лакальнае», і магчыма, архаічнае ўсходнепалескае). Вывад адносна архаічнасці, зроблены на падставе словаўтваральнай структуры і лінгвагеаграфічных даных, можна падтрымаць, улічыўшы наяўнасць слова ў іншым беларускім арэале (можна ўявіць, што слова было вядома больш шырока, аднак на большай тэрыторыі забыта і захавалася ў зоне «лексічнай кансервацыі». Этымалогія тэрміна была прапанавана ўпершыню Талстым, Геогр., 215. Паводле Талстога, *каверт* можна прадставіць як **ka-vъrt-ь,* дзе *ka-* — займеннікавая прыстаўка, а аснова — *vьrtь,* звязаная з дзеясловам **vьrt-ě-ti* 'вярцець'. З боку семантыкі гэту этымалогію падтрымліваюць такія прыклады, як палес. *каверчане д'ерево* 'чачотка', *каверч'і* 'дрэнны, няякасны лес, дрэнная, няякасная драўніна' (Ніканчук, там жа), рус, пск. *верть* 'лунка для рыбнай лоўлі' (Жакава, там жа). Параўн. яшчэ рус. *вертей* 'узвышша, груд'; 'рэчка ў балоцістых, імшыстых, багністых берагах', калуж., смал. і інш., што датычыць словаўтварэння, то структура слова патрабуе ўдакладнення. Аналогія са структурна тоесным *каверзь* 'лухта', якое, відаць, з *каверзіць* дае падставу меркаваць, што і *каверт, каверць* таксама паходзіць ад адпаведнага дзеяслова, параўн. укр. *ковертати* 'перакульваць', палес. *кавернуть* 'упасці з вышыні' (Ніканчук, там жа), *кавярзень* 'лапаць', *кавярзаць* 'плесці лапці'. Адзначым, што ў такім выпадку можна растлумачыць фанетыку (*ка-* ў назоўніку, *ко-* ў дзеяслове). Цяжка прапанаваць для кожнага назоўніка з гіпатэтычным *ка-* прэфармантам адпаведны дзеяслоў з прэфармантам, магчыма, што некаторыя з такіх назоўнікаў утвораны суфіксальна-прэфіксальным спосабам, параўн. *кадаўб, кадаўба* (гл.). Да словаўтварэння канкрэтных слоў параўн. бел. дыял. *верч,* рус. дыял. *верть, верч, верча* > *вертети* (у розных значэннях).

**Ка́верць** 'бяссэнсіца' (круп., Жакава, Совещание по ОЛА,

198), 'скажэнне гучання слова, няяснае вымаўленне, хлусня' (Жакава, там жа), параўн. *«каверць у чалавека, што слухаць непрыемна»*. Структурны паралелізм са словам *каверт* 'яма з вадой і інш.' відавочны, што датычыць семантычнага боку, параўн. рус. дыял. *вертега* 'хлуслівы чалавек, хлус і пад.', *вертеть* 'падманваць'. Падобнымі ўтварэннямі да прыведзеных вышэй з'яўляюцца і *кавярзня* 'хлусня', *кавярзні* 'лапці', да *кавярзаць* < *коверзати* 'плясці'. Да апошняга параўн. яшчэ рус. дыял. *вертни* 'берасцяныя лапці' і *верть* 'тоўстая баваўняная пража, баваўняныя вяровачкі, звітыя рукамі, з якіх плятуць лапці і ткуць папоны'.

**Кавéрыць** 'скажаць гучанне слова, няясна вымаўляць, хлусіць' (Жакава, Совещание по ОЛА, 198—199). Як магчымыя паралелі можна прывесці рус. кастрам. *коверить* 'ламаць, згібаць, мяць што-н.' і, як вельмі ненадзейнае, рус. паўн.-дзвін. *каверить* 'хварэць, нядужаць; кашляць' (адносна развіцця значэння параўн. рус. дыял. *вертёж* 'галавакружэнне; заразная хвароба, эпідэмія'). Утворана прэфармантам *ко-* ад *верыць,* роднаснага рус. дыял. *верать* 'плесці (лапці, кашолкі, сеткі і да т. п.)', *верать* 'хлусіць, расказваць байкі', якія ад *verti* 'плесці і інш.' Развіццё значэння аналагічнае *вярзці* 'несці лухту' < *вярзці* 'плесці (лапці і інш.)'. Да словаўтварэння параўн. *кавярзаць,* укр. *ковертати.*

**Кавýн** 'расліна сямейства гарбузовых з ляжачымі сцяблами і вялікімі салодкімі пладамі; круглы сакавіты плод гэтай расліны з салодкай мякаццю чырвонага колеру' (БРС, ТСБМ, Касп., Кіс., Нас.). Укр. *кавун,* рус. дыял. *кавун,* польск. *kawon,* адкуль і чэш. *kavon* (арх.), н.-луж. *kawon.* Лічыцца запазычаннем з Усходу; у якасці крыніцы называюць тур. *kaun, kavyn* 'дыня', параўн. тат., каз., кыпн. *kaun* 'кавун, дыня', уйг., чагат. *kaγun* 'дыня', азерб. *gavun,* гл. Фасмер, 2, 154.

**Кавýр** 'від качкі Lophaetyria cristata L., Podiceps cristatus L'; 'нырэц' (Касп.; ушац., Нар. сл.). Рус. гдоўск. *кавра, каура* 'качка Podiceps cristatus L.'. Адносна рус. слоў мяркуюць аб запазычанні з эст. *kaur* 'паўночны нырэц, Columbus arcticus', гл. Фасмер, 2, 154. Бел. *кавур* з паўн.-рус. гаворак.

**Кавырáць** 'падплятаць' (Касп.). Рус. *ковырять* 'тс' утворана прэфармантам *ко-* ад *вирати* 'плесці лапці, сеці і да т. п.', параўн. рус. дыял. *вирать* 'плясці лапці, кашолкі, сеці; падплятаць лапці; сшываць і інш.'. Такія значэнні дазваляюць тлумачыць *кывіряць* 'крывіць, перадражніваць' (Бяльк.), параўн. бел. *каверыць* (гл.) і рус. дыял. *коверить* 'крывіць, перадражніваць каго-н.', як структурную і семантычную паралель

параўн. рус. дыял. *шевырять* 'капацца, варушыць', *шевырялка* 'балбатуха'. Адносна фанетыкі *(кавырацъ — кывірацъ)* параўн. рус. дыял. *вирать* 'плесці' і *вирать* 'хлусіць, маніць', *вырить* 'хітраваць, мудрагеліць', магчыма і рус. *вырей* 'чараўнік'. Магчыма, як прыклад суаднесенасці *ы/і*, можна прывесці і рус. *вир* 'вір' і *выр, вырь, вырік* 'тс', нягледзячы на заўвагу Фасмера, 1, 370, што паводле фанетыкі гэтыя словы нельга аб'ядноўваць. Адносна *ы/і* гл. яшчэ Шанскі, ЭИРЯ, 1972, VII, 206—207. Засведчаныя ў рус. гаворках значэнні *вирать* 'кідаць і пад.', структурна і семантычна падобныя смал. *каверзать* 'блытаць; біць, калаціць', кубан. 'ісці, спатыкаючыся' дазваляюць зразумець мсцісл. *кавырь* 'пра парушэнне прывычнага, звычайнага ладу' (Нар. лекс.).

**Кавэ́нчыцца** 'мучыцца перад смерцю' (Гарэц.), *кавэнчыць* 'выпрошваць плачучы' (Др.-Падб.), *кавэнчыцца* 'пакутаваць (ад фізічнага болю)' (Жд. 2), *кавэнчыцца* 'хварэе' («калі дзіця плачэ і паводзіць сябе неспакойна») (полац., Нар. лекс.), 'мучыцца, пакутаваць (ад раны, ад болю)' (віц., стаўбц., Нар. сл.), *кавэнчыць* 'мучыць' (Нас.), 'вельмі мучыцца' (стол., Нар. лекс.), *кавэнчыцца* 'цацкацца, насіцца' (Юрч.). Адносна этымалогіі гл. *кавенчыцца* (адаптаваная фанетычная форма).

**Кавяра́йка** 'крук падплятаць лапці' (Касп.). Утворана ад **кавярацъ* 'плесці, падплятаць лапці', якое ад **коверати (коверяти),* прэфіксальнага вытворнага ад **верати* 'плесці і да т. п.', параўн. рус. дыял. *верать* 'плесці (лапці, кашолкі, сеці і да т. п.'). Параўн. яшчэ *кавырацъ* (гл.).

**Ка́вярза** выраз *кавярзні каверзацъ* 'плесці лапці' · «кавярзні», узняць на каго «кавярзу» 'гаварыць няпраўду, апіраючыся на праўдзівыя, але перакручаныя факты' (Нік. Напаў.). Гл. *кавярзецъ.*

***Кавярза́**, *късвірза* 'зусім няўмелы і неахайны' (міёр., З нар. сл). Рэгіянальнае ўтварэнне ад *коверзати* 'няўмела рабіць і да т. п.' Гл. *кавярзацъ.*

**Кавярза́ць** 'няўмела рабіць (плесці, шыць)' (Юрч.), *късвірзацъ* 'пісаць абы-як, неразборліва, абы-што' (Нар. лекс.), *кывярзыцъ* 'няўмела плесці лапці' (Бяльк.). Бел. словы (паўн. і ўсх.) утвараюць адзін арэал з рус. смал., пск. *каверзать* 'рабіць што-н. нядбайна, абы-як', якое ад *коверзати* 'плесці (лапці) і да т. п.'. Пераноснае значэнне 'рабіць абы-як' абумоўлена, па-першае, характарам самой работы (плесці лапці), а па-другое, больш новай і дыфузнай семантыкай экспрэсіўных дзеясловаў *коверзати/коверзити,* параўн. на той жа тэрыторыі: 'блытаць', 'гарэзіць', 'займацца чым-н. ад няма

чаго рабіць і да т. п.'. Адносна этымалогіі апошніх слоў гл. *кавярзень.*

**Кавярзе́нь**1 (звыч. у мн. л. *кавярзні*) 'лапаць' (Бяльк., БРС, Касп., Мат. Маг.; віц., Нар. сл.; ТСБМ), *кавярзеньчык* 'лапаток' (Бяльк., Яруш.). Рус. дыял. *каверзни, коверзни (коверзень)* 'летнія лапці, лапці з трыснягу; стаптаныя лапці; вяровачныя, падплеценыя вяроўкай і да т. п.'; пск., наўг., цвяр.— адзіны арэал з бел. Аб старажытнасці ўтварэння меркаваць цяжка, паколькі назва магла быць вузкалакальнай, пашыраючыся з часам у выніку экспансіі рэаліі. Паводле Вахраса (Наим. об., 78), больш старажытнай формай неабходна лічыць рус. *верзень, вързьнь.* Здаецца, што *кавярзень, кавярзні* неабходна выводзіць ад *кавярзаць* 'плесці лапці', якое з *коверзати* 'тс', вытворнага ад *верзати* 'плесці і да т. п.'; словы гэтыя, відаць, ужываліся паралельна. Што датычыць фанетыкі (*ко-* і *ка-* як у дзеясловах, так і ў назоўніках), то гэтыя факты неабходна тлумачыць або ўздзеяннем акаючых гаворак (Вахрас, там жа, 78), або тым, што словы былі ўтвораны па розных мадэлях. Адносна меркавання Малчанавай, Мат. культ., 177, што падобны тып лапцей і тэрмін прыйшлі да беларусаў ад рускіх стараверaў, якіх многа пражывала ў Віцебскай губерні, можна адзначыць, што *кавярзень* 'лапаць' сустракаўся ў Смаленскіх інтэрмедыях XVII— XVIII стст., гл. Шакун, З дасл., 140, і што *кавярзаць* 'плесці, няўмела плесці і да т.п.' вядомыя на больш шырокай тэрыторыі. Магчыма, пра спрадвечна славянскі характар разглядаемых слоў сведчыць і славен. *kvŕga* 'звіліна, нарасць', серб.-харв. *kvȑga* 'нарасць', якое Куркіна (Этимология — 72, 79—80) параўноўвае з рус. *каверза* і пад. Параўн. яшчэ серб.-харв. *kavȑgati* 'неаднолькава і няроўна прасці', якое і Пятлёва (Дыс., 28) прапануе разглядаць як *ка-вргати.* Звяртае на сябе ўвагу серб.-харв. *kávrga* 'назва невялікага чалавека' і асабліва 'посуд з ліпавай кары для крыніцы'.

***Кавярзе́нь**2, *къвярзе́нь* 'зусім няўмелы і неахайны' (З нар. сл.). Паходзіць ад *кавярзаць* з адпаведным значэннем; структурна тоесным з'яўляецца *каверзень* 'аб дрэнным, каверзным чалавеку' (смал.).

**Кавя́рня** 'кафэ, чайная' (БРС, ТСБМ, Гарэц.). Запазычана з польск. *kawiarnia* 'тс'.

**Кагадзе́** 'калісьці' (БРС), 'толькі што, нядаўна' (БРС, ТСБМ), капыл., Жыв. сл.; чырв., З нар. сл.; ц.-бел. (Узвышша, 1927, 6), *кагдзе, кадзе* 'толькі што, нядаўна' (ганц., Сл. паўн.-зах.), *кадзе* 'тс' (Жд. 2; капыл., Жыв. сл.; чырв., З нар. сл.;

чырв., навагр., КЭС; ганц., карэл., лях., Сл. паўн.-зах.; слонім., кар., Сцяшк.), *кадзе* 'нядаўна' (стол., Жыв. сл), *кадзё* 'толькі што' (Жд. 3). Казлова (БЛ, 21, 1982, 60) прыводзіць палес. (усх.-палес.?) *кагадзе* і адзначае, што прыслоўе ўласціва большасці беларускіх гаворак; з гэтым нельга пагадзіцца. Неабходна адзначыць, што паметы «брэсц.», «гродз.», «палес.» заблытваюць чытача і быццам сапраўды сведчаць аб шырокай геаграфіі. На самой справе «брэсц.» (паводле Казловай) *кадзе* зафіксавана ў Столінскім раёне і, як сведчыць фанетыка (дзеканне), адносіцца да пераходных або да ўсх.-палес. гаворак і брэсцкім (зах.-палес.) не з'яўляецца. «Гродз.» *кагадзе, кадзе* вядома больш вузка: навагр., карэліц., слонім. разам з ганц., лях., нясв. і чырв. утварае даволі кампактны арэал, які (далучыўшы патэнцыяльныя ўсх.-палес. фіксацыі) можна некалькі пашырыць на паўд.-усх. частку. Неабходна адзначыць, што Тураўскі слоўнік, вельмі ўважлівы да рарытэтаў, гэтага слова не фіксуе. Па сутнасці вузкарэгіянальнае ўтварэнне; па геаграфіі адпавядае гродзенска-баранавіцка-лунінецкаму пучку ізаглос (Лінгвістычная геаграфія, к. № 13). Лінгвагеаграфія сведчыць аб іншамоўным уплыве (што цяжка дапусціць, паколькі ў такім выпадку, мяркуючы аб уздзеянні балтыйскіх прыслоўяў, давялося б лічыць форму *кадзе* першапачатковай і невядома як тлумачыць паходжанне *г* у *кагадзе*) або аб архаізме. Не выключаным, аднак, як і ў выпадку іншамоўнага ўплыву ўяўляецца варыянт утварэння «гібрыду» на пагранiччы розных гаворак. Рус. росл., смал., трубч., карач., бран., арл. *каде* 'дзе', магчыма, сведчыла б на карысць варыянта «архаізм», калі б не верагоднасць таго, што рус. дыял. слова ўтварылася фанетычным спосабам. Цыхун (Бюлетин, 5, 1976, 94) адносіць яго па фармальнаму падабенству да балг. дыял. *кагоде* 'што-небудзь', 'колькі-небудзь', 'калі-небудзь'. Ён лічыць, што, нягледзячы на розніцу ў семантыцы, агульнае значэнне «нявызначанасці» бел. і балг. утварэнняў патрабуе далейшага вывучэння гэтай паралелі з мэтай высвятлення магчымай іх роднасці. Шуба (Прыслоўе, 60) выводзіць бел. *кагадзе* са ст.-рус. формы *къгдѣ* праз ступень *кагдзе, кадзе*; Цыхун (там жа) мяркуе, што хутчэй чакаўся б адваротны працэс і спасылаецца на заўвагу Якабсона (Word 8, 4, 391) аб тым, што *gъda* паходзіць з *goda* аналагічна *vьcera* < *večera* і да т. п., падрабязней у Копечнага, ESSJ, 1, 311—313. БЕР (2, 128) лічыць, што балг. дыял. *кагоде*<*ка,* дыял. прысл. 'калі, калісьці; з таго часу як' і часціцы *годзе* '-небудзь'. Звяртае на сябе ўвагу значэнне бел. слова 'калісьці', засведчанае ў БРС. Калі гэта не памылковае значэнне, можна меркаваць аб магчымай дыялектнай яго аснове

і першасным значэнні *кагадзе* наогул, што дазваляе з большай упэўненасцю параўноўваць бел. і балг. словы. Адносна семантыкі ў такім выпадку параўн. тур. *когдышні* 'колішні' і рус. дыял. *когда-ко* 'калі-небудзь'. Заўвагу Цыхуна (Бюлетин, 5, 1976, 94) аб агульным значэнні «нявызначанасці» гэтых слоў як магчымым сведчанні іх роднаснасці нельга прыняць па той прычыне, што такое значэнне абумоўлена прыслоўямі (этымалагічна — склонавыя формы пытальнага, адноснага займеннікаў), якія ўваходзяць у склад як гэтых, так і іншых падобных лексем. Аб спробе ўзнавіць прасл. **kagodě*- прыслоўе часу, гл. Казлова, БЛ, 21, 1982, 60; надзейнасць такой рэканструкцыі невысокая з прычыны прыведзеных вышэй меркаванняў. Аб *ка*- гл. Слаўскі, 2, 8; аб -*gode*- Копечны, ESSJ, 1, 312.

**Кагадзе́й** 'мянушка асобы, якая часта ўжывае ў гаворцы адпаведнае слова' (мін., Сцяц. БНС). Да *кагадзе* (гл.), што датычыць словаўтварэння, то паводле Сцяцко, Афікс. наз., 220, ад прыслоўя суфіксам *-ей*, пры гэтым афікс накладваецца на фінальны галосны. Да структуры параўн. *балазе, балазей*, адносна фузіі галосных у аснове і суфіксе гл. Сцяцко, там жа, 295.

**Кага́л** 'шумны натоўп, зборышча' (ТСБМ; бяроз., Выг.; Др.-Падб., Касп., Нас., Шат., Янк., Яўс.), 'гурт, грамада' (Бір. Дзярж., Нар. лекс.). Рус. зах.-бран. *кагал* 'шумны натоўп'. Укр. *кагал* 'шумнае зборышча'. Утворана ад *кагал* 'яўрэйскае абшчыннае самакіраванне і сама абшчына', адкуль значэнні 'гурт' і 'шумны натоўп' маглі развівацца незалежна.

**Кага́н** 'вага ў студні з жураўлём', 'саха ў студні з жураўлём' (ДАБМ), 'вочап у студні з жураўлём' (драг., Нар. сл.). Гэтыя назвы ўтвараюць кампактны арэал на зах. Палессі. Магчыма, сюды ж адносіцца рус. маск. *каган* 'жэрдка, якой умацоўваюць снапы або сена на возе'. Такая паралель не дазваляе меркаваць аб вузкалакальным пераносе ад *каган*, да якога ўзыходзіць *каганец* (гл.).

**Кагане́ц** 'свяцільня' (БРС), 'свяцільня, робіцца з чарапка, у які наліваюць сала і апускаюць кнот' (Бяльк.), 'светач, свяцільня' (Гарэц.), 'смольная лучына' (Др.-Падб.), цэнтр.-бел., паводле сведчання Багдановіча, 18, *ка́ганец,* на якім «паляць сухое паленне для асвятлення хаты», параўн. Машынскі, 121. Укр. *каганець* 'начны свяцільнік', рус. дыял. *каганец* 'свяцільнік у выглядзе чарапка, у які наліваюць сала або алей

і кладуць кнот', польск. *kaganek, kaganiec* 'свяцільнік з кнотам', 'лучына', чэш. *kahánek, kahan, kahanec* 'свяцільнік, каганец з кнотам', славац. *kahan, kahanec* 'тс'. Слаўскі (2, 21) прыводзіць яшчэ балг. дыял. *гаганица* 'вялікае вогнішча, якое раскладаецца на ростанях у нядзелю першага тыдня веліконднага посту' (у БЕР, 1, 222: 'жэрдка, шост з саломай (факел?)'), параўн. польск. *gaganiec*. У якасці крыніцы гэтых слоў звычайна лічыцца грэч. τᾱγηνον, τᾱγανον 'патэльня і інш.', аднак Фасмер (2, 155) звяртае ўвагу на тое, што ў с.-грэч. адсутнічае форма на *ā*, а ёсць толькі ταγανον, ταγανιον, якое праз цюрк. запазычана ў рус. мову *(таган)*. Прыняцце грэч. крыніцы патрабуе тлумачэння фанетыкі; Слаўскі (там жа) піша: «Неабходна было б «прыняць даўнюю дыстантную асіміляцыю *t...g* ⩾ *k...g*, *g...g*». Такім чынам, больш надзейнай крыніцай можа быць цюрк., параўн. чув. *kəgan* 'ручка на посудзе', што Фасмер (2, 155) аспрэчвае з прычыны далёкага значэння. Гэты аргумент не вельмі сур'ёзны, калі ўлічыць магчымасць пераносу значэння, тым больш пры запазычанні. Брукнер (213), улічыўшы чэш. *kahan* 'глечык, посуд', адзначыў, што суф. *-an* утварае прасл. назвы посуду і што ён можа быць славянскага паходжання. Супраць Слаўскі, які, відаць, меў на ўвазе яшчэ і такія значэнні, як *kaganiec* 'металічная або раменная сетка, якая накладаецца на морду зверу (сабаку)', і спасылаўся на Дарашэўскага, PF, XIII, 77. Махэк$_2$ (235) значэнне 'кацялок для палення (смалы)' лічыць зыходным. Ён прапанаваў: *kahan* < **gagan* (параўн. польск. гутарковыя формы), якое звязана з *žega*; ступень *gag-* засведчана таксама ў слове *jьz-gaga, žáha; g-* > *k* у выніку дысіміляцыі. Можна адзначыць, што балг. паралель таксама падмацоўвае такое рашэнне, як, магчыма, і рус. (пск., асташ., цвяр.) *каганок* 'маленькі чыгунок або кацялок з вушкамі, які ўмазваецца ў печ'. Значэнне 'кацялок' выяўляецца і ў рус. *каган* 'возера на заліўным лузе, невялікае возера, якое перасыхае ўлетку'. Думку Брукнера адносна таго, што слова *kahan* ведаюць толькі палякі і чэхі, а на ўсходзе гэта запазычанне, аспрэчвае Слаўскі, аднак лінгвагеаграфія (зах.-слав. мовы, укр. і бел.) вельмі сімптаматычная і можа сведчыць на карысць такой думкі.

**Кага́т** 'бурт' (БРС, ТСБМ), 'яма для захавання бульбы' (Бяльк.), 'доўгі, мелкі капец бульбы' (кобр., Нар. сл.), 'стог' (чач., Мат. Гом.), параўн. у Яшкіна, 83, ветк. *кагацішча* 'месца, дзе стаяла сцірта *(кагат)* сена'. Укр. міргар. *кагат* 'куча', дан. 'куча рыбы, па-асабліваму складзеная і пакрытая чаротам', палес. *кагата* 'яма для сховы бульбы зімой', рус.

смал. *кагат* 'конусападобная куча бульбы ў полі'. На думку Лучыца-Федарца, БЛ, 3, 1973, 57, *кагат* з'яўляецца іранізмам. Лінгвагеаграфія слова быццам не супраць гэтага, аднак існуюць пэўныя фармальныя і семантычныя цяжкасці. У якасці блізкіх да магчымай іранскай крыніцы Лучыц-Федарэц прыводзіць асец. *къахт* 'яма', *къахын* 'выдзеўбаць', *к'ахуп* : *k'axt* 'капаць'. Аднак, паводле Абаева, 1, 620, гэта слова з'яўляецца параўнальна рэдкім для асец. мовы прыкладам адназоўнікавага дзеяслова, ад *k'ax* 'нага', першапачаткова такім чынам, 'капаць нагой' (аб жывёлах), а само слова *k'ax* не іранскае, гл. Абаеў, 1, 619. Зразумела, што ненадзейнасць асецінскай паралелі вымушае яшчэ больш сумнявацца ў патэнцыяльнай іранскай крыніцы. Апрача гэтага, значэнне 'яма', якое дазваляе меркаваць аб сувязі іран. і слав. слоў, нельга, безумоўна, лічыць першапачатковым для слав. лексем, тым больш што словы з такімі значэннямі суадносяцца геаграфічна і ўказваюць на другасны іх характар. Слова нагадвае вандроўны культурны тэрмін, аднак крыніца запазычання невядомая.

**Кагу́т** 'певень' (Мат. Гом.). Гл. *когут*.

**Ка́даўб** 'драўляная пасудзіна, выдзеўбаная з суцэльнага кавалка драўніны' (БРС, ТСБМ; чэрв., З нар. сл.; Мат. Гом., Сержп. Грам., Шат., Янк. 2), 'глыбокая яма ў рацэ, на лузе з вадой' (глус., Янк. 2; Яшкін, вусн. паведамл.), 'калдобіна на дарозе' (глус., Янк. 2), 'чыстая вада, азярцо на балоце' (ельск., Яшк.), 'нізінка, лагчынка са стаячай вадой' (Яшкін, вусн. паведамл.), *кадаўп* 'комін' (стаўбц., З нар. сл.); *кадаўб* 'жывот, страўнік' (гродз., З нар. сл.); *кадаўба* 'бочка, выдзеўбаная з дрэва' (Гарэц., З нар. сл., Касп., Мат. Гом.), 'ступка' (ветк., Мат. Гом.) 'сажалка', 'выбоіна', 'кар'ер' (Мат. Гом.); *кадаўбец* 'пасудзінка, выдзеўбаная з суцэльнага кавалка дрэва' (БРС, ТСБМ, Сержп. Грам.), 'пасудзіна, куды зліваюць мёд' (слуц., КЭС); *кадалбец* 'глыбокая яма ў рацэ, на лузе з вадой' (Яшкін, вусн. паведамл.— спасылка на палес. запісы Талстога); *кадаўбіна* 'ўпадзіна на дарозе' (глус., Яшк. 2). Укр. палес. *кадавба, кадовб* 'вялікая бочка', укр. *кадуб, кадівб, кадіб* 'вялікая бочка, якая ўжывалася для захоўвання збожжа або мукі, капусты і да т. п.'; рус. смал. *кадолба* 'калода для сцякання вады, асабліва крынічнай; выдзеўбаная з дрэва бочка; ліпавая кадка без дна, устаўленая ў крыніцу; пра лянівую жанчыну, якая любіць паспаць', зах.-бран. *кадаўба, кадаўбіна, кадоўбіна*'невялікая ямка, запоўненая дажджавой вадой; выбоіна на дарозе', польск. *kadłub* 'выдзеў-

баная, пустая ў сярэдзіне калода', 'пасудзіна з суцэльнага кавалка дрэва', 'кашэль з кары', 'тулава', дыял. 'выдзеўбаная калода, якая ўстаўляецца замест калодзежнага зруба; выдзеўбаная калода, якая ўжываецца ў якасці станка жорнаў'; дыял. *kadłubek* 'крыніца'. Ст.-польск. *kadłub* 'выдзеўбаны пень дрэва' фіксуецца з XV ст., славін. *kadłüb* 'тулава', н.-луж. (арх.) *kałub* 'выдзеўбаны пень', в.-луж. *kadołb* 'камінок над лучынай', чэш. *kadlub* 'вялікая пасудзіна, звычайна выдзеўбаная з пустога пня; форма для адліўкі', 'калодка', *kadluba* 'калодзежны зруб', валаш. *kadłb* 'выдзеўбаная калода для збожжа', 'гусіная тушка без крылаў і шыі', 'грудная клетка', славац. *kadlub* 'рэзервуар для вады, выдзеўбаная калода'. Міклашыч (108), Бернекер (1, 467), а за імі іншыя аўтары (Слаўскі, 2, 16—17; Трубачоў, Эт. сл., 9, 113—114) далучаюць да разглядаемай групы слоў яшчэ і рус. дыял. *калдоба, колдоба, колдобина,* бел. *калдобіна* і да т. п., якія, як лічыцца, з'яўляюцца метатэзнымі формамі ад *кадолба* і пад. Што датычыць паходжання разглядаемых слоў, то можна выказаць наступныя меркаванні. Праславянскай гэту групу слоў лічыць нельга, паколькі адсутнічаюць паўд.-слав. паралелі; рус. гаворкі, па сутнасці, іх таксама не ведаюць. Слаўскі (2, 17) узнаўляе форму **kadḷbъ,* у якой другая частка — да прасл. **dḷbti* 'дзяўбці'. Структурную і семантычную паралель для такой этымалогіі можна знайсці ў бел. маг. *кадыр* 'пасудзіна для збожжа, мукі, выдзеўбаная з суцэльнага кавалка дрэва', якое выглядае як вытворнае ад *ка-* і *-derь* < *dьrati* або ад прэфіксальнага дзеяслова. Этымалогія слова *кадоўб*, прапанаваная яшчэ Міклашычам, 108, не прымалася аднагалосна; Траўтман (Göttingische gelehrte Anzeigen, 1911, 258) і Фасмер (RS, 4, 164) меркавалі пра кампозіт *kadь+dьlb*; Брандт (РФВ, 22, 139) і Сабалеўскі (Slavia, 5, 444) прапанавалі *kolodьlba*; укр. зах. *колодовбина* 'выбоіна, ухаба' зафіксавана ў слоўніку Жэляхоўскага; па сутнасці, той жа аргумент можна прывесці і ў другім выпадку (значэнне 'калдобіна, каляіна' неабходна было б лічыць першапачатковым, што неверагодна). Фасмер (2, 287) адмовіўся ад ранейшай этымалогіі, Трубачоў (Эт. сл., 9, 113—114) аднаўляе форму ж. р. **kadьlba* і м. р. **kadьlbъ,* пры гэтым дыскусійным застаецца пытанне, як разумець першую частку кампазіта *(ka-)*. Ён раздзяляе погляды Фасмера на гэту праблему і лічыць, што *ka-* суадносіцца з пытальным займеннікам **kъto*. Слаўскі (2, 17) супраць такога параўнання і мяркуе аб сувязі пейаратыўнага *ka-/ko-* з прыназоўнікам **kъ* і ўзмацняльнай часціцай *-ka (-ko, -kъ)*. Калі меркаваць аб магчымым дзеясloўным словаўтварэнні (параўн. прыклады пад *кавярзень*), можна прапанаваць гіпатэтычную

форму *ko-dьlbati*, з якой *ka-* ўтвараецца па вядомай мадэлі. Відавочная сувязь з **dьlbati* можа пацвярджацца ўскосна яшчэ і такімі прыкладамі, як укр. *кадовбина* 'невялікая палонка', бел. глус. *кадаўб (калдобіну на дарозе паўбівалі)*, *кадаўбіна* 'ўпадзіна на дарозе' і інш.

**Кадзіла**$_1$ 'металічны сасуд на доўгіх ланцужках, у якім у час набажэнства курыцца ладан або іншыя пахучыя рэчывы' (БРС, ТСБМ, Бяльк.). Слова не выглядае як народнае, хоць, відавочна, вядома ў гаворках. Відаць, запазычанне з царк.-слав. *кадило* 'тс', якое са ст.-слав. **кадило** 'фіміям' да прасл. *kadidlo,* вытворнага з суф. *-(i)dlo* ад *kaditi* гл. Трубачоў, Эт. сл., 9, 109.

**Кадзіла**$_2$ 'шматгадовая травяністая лекавая расліна сямейства губакветных з белымі пахучымі кветкамі' (ТСБМ). Маецца на ўвазе расліна Melitis melissophyllum — кадзіла дробналістае; на Беларусі вядомая толькі ў некалькіх замкнёных арэалах (напр., у Белавежскай пушчы); народныя назвы невядомы. Па гэтых прычынах відавочнае рус. запазычанне. Рус. *кадило* 'тс', магчыма, да *кадить.* Гл. *кадзіць.*

***Ка́дзіца,** *ка́дыца* 'калодка ў коле ад воза' (пін., Нар. лекс.). Рус. ярасл. (з інш. суфіксацыяй) *кадка* 'патоўшчаны канец цапільна, у якім замацоўваецца раменьчык', 'драўлянае цапільна, у якім замацоўваецца раменьчык', 'драўлянае цапільна з патоўшчаным верхнім канцом', 'біла ў цэпа', *кадочка* 'тс' і 'адтуліна ў патоўшчаным канцы цапільна, у якім замацоўваецца раменьчык', 'біла цэпа', *кадулька, кадушка* і да т. п. Іншыя вытворныя (на ўласна бел. тэрыторыі) ад **kadь* таксама з пераносным значэннем: *кадка* 'тупы канец яйка' (Нас.), зах.-бран. *кадка* 'дно бутэлькі'. Адсутнасць фармальных і семантычных аналагаў вымушае кваліфікаваць пін. *кадыца* як вузкарэгіянальнае ўтварэнне; адсутнасць на палескай і наогул на большай частцы бел. тэрыторыі формы *кадзіца* не дазваляе ўключыць бел. слова (Трубачоў, Эт. сл., 9, 109) у артыкул **kadica* (вытворнае ад **kadь* памянш. суфіксам *-ica*). Зафіксаванае Цыхуном (З нар. сл., 191) на той жа тэрыторыі *кадушка* 'кадаўб' і 'маленькая цыліндрычная каробачка, зробленая з бярозавай ці вішнёвай кары з накрыўкай' сведчыць аб наяўнасці іншай магчымай словаўтваральнай асновы (фармальна супадаючай з *кадзь*). Звяртае на сябе ўвагу ўкр. дыял. *колодиця* 'калодка ў коле ад воза', палес. *колодиця* 'тс', якое і словаўтваральна і тыпалагічна адпавядае бел. слову.

**Кадзіць** 'раскалыхваючы ў руцэ кадзіла, курыць ладанам

або іншымі пахучымі рэчывамі ў час набажэнства' (БРС, ТСБМ, Яруш.). У гаворках вядома, відаць, толькі ў такіх значэннях; відавочнае запазычанне (праз рус. мову?) з ц.-слав. *кадити,* якое, як і ст.-рус. *кадити,* ст.-слав. **кадити** 'тс' і інш. формамі ў слав. мовах з прасл. *kaditi*; аднак утваральная аснова невядомая (<**kod-*). Суадносіцца апафанічна з прасл. *čaditi*, вытворныя ад якога добра засведчаны ў бел. мове. Для прасл. *kaditi* практычна не знаходзіцца ні балтыйскіх, ні іншых і.-е. адпаведнікаў, гл. Слаўскі, 2, 18—19; Трубачоў, Эт. сл., 9, 110.

**Кадзь** 'вялікая драўляная пасудзіна з клёпак, сцягнутых абручамі, для захоўвання розных сельскагаспадарчых прадуктаў' (БРС, ТСБМ, Касп., Нік. Оч., П. С., Шат.). Бяссонаў (Бяс.) адзначаў, што словы *кадь, кадка* ведаюць на Белай Русі. Слова, як можна меркаваць на падставе крыніц, адзначана на цэнтральна-беларускай тэрыторыі і на поўначы, што можа азначаць або архаізм, або запазычанне (у даным выпадку назва магла быць запазычана разам з імпартам рэаліі). Звяртае на сябе ўвагу і невялікая колькасць фіксацый вытворных ад гэтага слова (гл. ніжэй). Слова сустракаецца ва ўсім славянскім свеце: укр. *кадь,* рус. *кадь,* польск. *kadź,* в.-луж. *kadź,* н.-луж. *kaź,* славін. *kωз,* палаб. *kod* 'калода, на якой трэплюць лён', чэш. *kád* і інш., славац. *kiad, ˇkäd,* серб.-харв. *kâd,* славен. *kàd* 'чан', макед. *када,* балг. *када,* аднак гэты факт, як падкрэслівае Слаўскі (2, 19), яшчэ не сведчыць аб яго старажытнасці. Спроба славянскай этымалогіі належыць Махэку$_2$, 234, які параўноўваў слав. *kadь* з грэч. κηθίς 'урна' (для галасавання), што не пераконвае па розных прычынах. Звяртае на сябе ўвагу па сутнасці аднароднасць значэнняў слова ў розных мовах і культурны яго характар. Адзначым, што і гісторыя рэаліі сведчыць аб яе пашырэнні ў той час, калі сувязі паміж славянскімі мовамі ўжо не былі цеснымі; найбольш раннімі бандарскімі вырабамі ў славян былі драўляныя вёдры (гл. Sł. staroż. słow., 1, 98—100). Нягледзячы на быццам бы відавочную неабходнасць прыняць папулярную версію аб запазычанні слав. *kadь* з грэч. (с.-грэч.?) κάδι(ον), хочацца адзначыць, што яна не з'яўляецца фармальна бездакорнай. Грэч. слова лічыцца запазычаным са ст.-яўр. *kad* 'драўлянае вядро'; κάδι(ον) — памянш. ад κάδος 'бочка, збан, вядро'; ст.-грэч. κάδδος 'пасудзіна, пераважна урна для галасавання (у лакедаманян)', н.-грэч. καδίτό(-δ-) і κάδος 'бочка, цэбар, вядро'. Не зусім ясны шлях пранікнення тэрміна ў славянскія мовы. Слаўскі (там жа) мяркуе, што гэта «вандроўнае» слова, якое пранікала праз балканскіх і рускіх

славян. Як на паралельны працэс указваюць на пашырэнне слова ў іншых еўрапейскіх мовах: рум. *cadă,* алб. *káde* 'бочка', франц. *cade* 'мера ёмістасці', англ. *cade* 'бочка', аднак крыніцай гэтых слоў з'яўляецца лац. *cadus* 'збан, бочка' (з той жа грэч. крыніцы). Трубачоў (Эт. сл., 9, 112—113) звяртае ўвагу, што, нягледзячы на позні культурны характар слова, можна адзначыць старыя па віду вытворныя: **kadьca* і **kady/-ъve.* Апошні прыклад, аднак, нельга лічыць сур'ёзным, паколькі рэканструкцыя будуецца толькі на аднойчы зафіксаваным рус. дыял. *кадовь* 'вялікі чан'.

**Ка́дка**₁ 'невялікая кадзь, кадушка' (ТСБМ, Бяльк., Нас., Сцяшк.). Слаба зафіксавана ў гаворках, што, улічваючы іншыя назвы для гэтай рэаліі, можа ўказваць на запазычанне. Слова вядома ў некаторых слав. мовах, аднак шырока засведчана толькі ў рус. мове. Магчыма, стар. утварэнне суфіксам *-ъka* ад *kadь* (гл. *кадзь*).

**Кадка́**₂ 'тупы канец яйка' (Нас.). Можна параўнаць з рус. (зах.-бран.) *кадка* 'дно ў бутэльцы', што пашырае геаграфію слова і, відавочна, сведчыць аб пераносным ужыванні слова *кадка* (гл.) на ўсх.-бел. тэрыторыі для абазначэння падобных да маленькай бочкі прадметаў. Больш шырока такія другасныя назвы вядомы гаворкам рус. мовы; параўн. рус. арл. *кадка* 'адтуліна ў сцяне печы для абпальвання цэглы; праз яе накладваюць цэглу'; ярасл. 'патоўшчаны канец ручкі цэпа, у якім замацоўваецца раменьчык', цвяр., наўг., алан. і інш. 'драўлянае дзяржанне цэпа з патоўшчаным верхнім канцом'.

**Ка́длуб** 'пасудзіна з суцэльнага кавалка дрэва, выдзеўбанага ўнутры' (Гарб.), *калдуб* 'бочка з калоды для мёду' (іўеў., З нар. сл.), *калдубаначка* 'маленькая дзежка з клёпак' (глыб., З нар. сл.). Апошнія — метатэза з *кадлуб, кадлубаначка.* Усе адзначаныя словы з'яўляюцца па фармальных адзнаках паланізмамі, што пацвярджаецца яшчэ і семантычным крытэрыем, паколькі значэнне 'тулава', характэрнае для польскай мовы, не зафіксавана ў бел., гл. аб усх.-слав. форме і значэннях пад *кадоўб.*

**Кадо́л** 'тонкая вяроўка, якой прывязваюць рыбацкую сець' (Мат. Маг.), 'вельмі грубая вяроўка (якая накладаецца на кола, пры дапамозе якога падымаюць вуллі-калоды на дрэва' (Маш.) 'канат для парома' (Маш.), *кадола* 'вяроўка, пры дапамозе якой невад прыводзіцца ў рух' (Браім, Рыбалоўства), *кадоп* 'тонкая вяроўка, да якой прывязана сець' (бых., Мат. АС), *кодол* 'вяроўка ў невадзе, за якую яго цягнуць' (ТСБМ). Укр. дыял. *кодола* 'вяроўка, прывязаная да крылляў

невада', 'канат'. Жэляхоўскім засведчаны *кодільничий* 'які цягне невад'. Рус. валаг., цвяр. і інш. *кодол* 'грубая вяроўка, канат (якарны) або канат для выцягвання рыбалоўнай снасці'. У рус. гаворках зафіксаваны і значэнні тыпу 'калодзежны шост', а таксама дзеяслоў *кодолить* 'прывязваць каня на пашы', *кодол* 'вяроўка, якой прывязваюць каня' (арх. і інш.). Геаграфія бел. слова (прыпяцкі і дняпроўскі басейны) сведчыць аб верагодным вандроўным характары слова, аднак назваць з пэўнасцю крыніцу запазычання цяжка. Для рус. *кодол,* укр. *кодола* прапанавалі ў якасці такой крыніцы ст.-ісл. *kadall* 'якарны канат, вяроўка', ст.-швед. *kadhal,* аднак ёсць і іншыя версіі аб паходжанні рус. слоў, гл. Фасмер, 2, 276. Калі запазычанне тэрміна ва ўсх.-слав. мовы можна дапусціць, то гісторыя яго экспансіі застаецца няяснай.

**Кадры́ля** 'танец з некалькіх фігур з цотным лікам пар, а таксама музыка да гэтага танца' (БРС, ТСБМ; іўеў., Сцяшк.; Янк. 3), *кадрыль* 'тс' (беш., Касп.), *кадры* 'тс' (Сцяц.), *кадраль* 'тс' (Жд. 3), *кадрель* 'тс' (Бяльк.), *кадрэля* 'тс' (Шат.). Запазычана з рус. *кадриль* 'танец у чатыры пары', відаць, праз гарадское асяроддзе, адносна распаўсюджання слова ў суседніх гаворках даных няма, ва ўкр. мове адзначана ў Лявіцкага. Рус. *кадриль* з франц. *quadrille* 'танец у чатыры пары', рус. слова сустракаецца (у значэнні дзве пары ў танцы) у сярэдзіне XVIII ст. і запазычана, відаць, прыблізна ў гэты ж час.

**Каду́к** 'чорт, д'ябал' (БРС, ТСБМ; слонім., Арх. Бяльк.; пін., Булг.; чач., Жыв. сл.; драг., З нар. сл.; чаш., сен., Касп.; КЭС, лаг.; Мат. Гом.; ст.-дар., Нар. сл.; Нас., Нас. Сб. Посл., Некр., Нік. Напаў., Нік. Няч., Рам., Сцяшк., Федар., Шат.), 'лясун' (Мат. Гом), 'няшчасны выпадак' (Нас.), у выразах: *а кадук яго ведае* (Бір. Дзярж.), *кадук яго вазьмі* (Сержп. Грам.), *кадук не бярэ* (Янк. БФ). Нікіфароўскі (Няч.) адзначае: «...от першабытных у свеце злачынцаў уцалелі некаторыя асобіны, рассеяныя па зямлі — гэта кадукі». Там жа, 45—46: «...кадук падобны здалёк на капу сена, ворах моху». Раманаў (Рам. 8) удакладняе, што кадук — «разнавіднасць чорта, які жыве ў старых гмахах, вадзяных млынах і г. д.» . Укр. *кадук,* паводле Грынчэнкі, 'род хваробы' і 'д'ябал, чорт'. Рус. уладз., смал. *кадук* 'падучка', росл., смал. 'д'ябал, чорт', зах.-бран. 'лаянка'. Запазычана з польск. *kaduk* (такія ж і іншыя значэнні), дзе ў помніках сустракаецца з XVI ст. Значэнне 'падучка' вядома ў гаворках; літар. толькі выраз *do kaduka* 'да д'ябла'. Слаўскі (2, 17) лічыць, што значэнне 'чорт, д'ябал' з'явілася ў XVIII ст. на базе 'хвароба'. Як аргу-

мент прыводзіцца спасылка на паралельнае ўжыванне *choroba* і *kaduk, kat, diabeł* у праклёнах. Крыніцай польск. слова з'яўляецца лац. *cadūcus* 'хворы на падучку і інш.'.

**Каду́шка**1 'невялікая кадзь, кадка' (БРС, ТСБМ, Бяльк., Гарэц., Грыг.; палес., З нар. сл.; Касп., Маш., П. С., Сержп., Сержп. Грам., Сцяц. Нар., Сцяшк., Яруш.), 'кадаўб' (палес., З нар. сл.), 'маленькая цыліндрычная каробачка, зробленая з бярозавай ці вішнёвай кары (змацаваная «ў замок») з накрыўкай; у кадушку насыпалі соль ці накладвалі масла, калі ехалі на сенажаць, у дарогу' (брэсц., З нар. сл.), 'вялікіх памераў ёмістасць для мукі' (слонім., КЭС), 'выдзеўбаная скрыня на дне калодзежа' (калінк., Нар. сл.), 'рыбалоўная стаўная пастка з двума процілеглымі глухімі заходамі (ніцяная або з лазы)' (палес., Крыв.), 'тоўстая жанчына' (Мат. Маг.), *кадуша* 'тс' (Мат. Маг.). Слова вядома ў рус. літар. мове і ў гаворках, што можна разглядаць як сумесную інавацыю (яна ўтворана памянш. суфіксам ад *кадь*, гл. *кадзь*) або як пранікненне слова разам з пашырэннем рэаліі. Звяртае на сябе ўвагу рус. дыял. *кадушка* 'састаўная частка рыбалоўнай снасці — венцера: абруч з нацягнутай на яго сеткай', аднак меркаваць аб нейкай роднаснасці слоў нельга па розных прычынах. Маг. *кадушка* 'тоўстая жанчына' можна разглядаць як утварэнне ад кадушка з трансфармацыяй суфікса ў выніку экспрэсіўнага характару слова або ў выніку замены яго на іншы, больш падыходзячы суфікс, параўн. вядомае на гэтай тэрыторыі *гаваруша* 'асоба, якая любіць пагаварыць'.

**Каду́шка**2 'ўтулка (у коле)' (браг., Шатал.). Утворана ад *кадушка*1 (перанос паводле падабенства), на магчыма больш шырокую геаграфію слова ўказвае брэсц. *кадыця* 'тс' (гл. там жа прыклады іншых пераносаў).

**Кады́к** 'выгнутая храстковая частка гартані ў мужчын' (БРС, ТСБМ). Паводле даных КЭС, слова ведаюць у розных раёнах Мінскай, Гродзенскай, Брэсцкай, Віцебскай абласцей, але статус яго ў гаворках няясны. Вядомае рус. мове, дзе лічыцца запазычаннем з тат. *kadyk* 'моцны, цвёрды, які выступае', гэта этымалогія часоў Бернекера і Праабражэнскага з'яўляецца прымальнай з-за адсутнасці больш абгрунтаванай. Бел., як можна меркаваць па розных значэннях слова *кадык* у рус. гаворках 'рот, горла, чэрава і інш.', з'яўляецца запазычаннем.

**Кады́р** 'пасудзіна для збожжа, мукі, выдзеўбаная з суцэльнага кавалка дрэва' (глус., Янк. 2), *кадырчык* 'невялікая драўляная дзежачка, завужаная кверху' (Мат. Маг.).

Адзначым, што магілёўскі слоўнік зафіксаваў слова таксама ў Глускім раёне, што вымушае лічыць *кадыр* вузкарэгіянальным утварэннем. Як і ў іншых выпадках, гэта можа азначаць запазычанне, архаізм або інавацыю. Першае і другое па прычыне адсутнасці паралелей адпадаюць. Для версіі новаўтварэння можна прапанаваць некалькі варыянтаў этымалогіі. Магчыма, кадыр — суфіксальнае ўтварэнне ад асновы *кад-* (*гл. кадзь, кадушка*) і суфікса *-ыр*, пры дапамозе якога, паводле Сцяцко, Афікс. наз., 127, утвараюцца асабовыя і неасабовыя назоўнікі (націск на суфіксе); дэрываты характарызуюць істоты, прадметы па выразнай прыкмеце: *жаўтыр* 'птушка жаўтушка (амялушка)', *пустыр* 'пустка'. Відавочна, што такую суфіксацыю для слова *кадыр* можна прыняць толькі па фармальнаму крытэрыю. З семантычнага боку (значэнне 'выдзеўбаная з кавалка дрэва') перашкоды для такой этымалогіі няма, параўн. палес. *кадушка* 'выдзеўбаная з кавалка дрэва пасудзіна'. Паводле другога варыянта этымалогіі, *кадыр* < *кадоўб, кадуб* ад асновы *кад*, якая вычленена ў выніку зацямнення і перараскладання структуры гэтых слоў. Такім чынам, лёгка тлумачыцца значэнне слова, аднак застаюцца цяжкасці, звязаныя з семантыкай суфікса. Разглядаць *кадыр* таксама можна як утварэнне, аналагічнае і паралельнае слову *кадоўб*. У такім выпадку *ка-* < *ко-* дзеяслоўнага ў назоўніку, а *-дыр* суадносіцца з слав. *dirati*. Фанетыку ў бел. слове можна вытлумачыць фармальным уздзеяннем *-ыр*-суфіксацыі, аднак цяжка ўзгадніць семантыку патэнцыяльнага аддзеяслоўнага *кадыр* і слав. *dьrti*. Як магчымыя аналагічныя ўтварэнні можна прывесці рус. асташ., цвяр. *кадра* 'дрэнь, калі гаварыць аб пэўным саслоўі або класе людзей'. Даль прыводзіў як магчымыя сінонімы *падера, падра*. Цікавай выглядае магчымасць суаднесці бел. *кадыр* і бал. дыял. *кадра* 'кадка', *кадурка* 'кадушка', якое аўтары балгарскага этымалагічнага слоўніка выводзяць ад *када* 'чан, бочка', *кадра* < *кадурка* з сінкопай *-у-*, гл. БЕР, 3, 129 і 132. Калі прыняць этымалогію балгарскага слова, застаецца магчымасць прывесці яго як словаўтваральна падобнае бел. слову, гл. нашу першую версію.

**Кае́т** 'сшытак' (брэсц., Сіг.; зэльв., Сцяц.; зэльв., Сцяшк.), *каета* 'тс' (бераст., Сцяшк.), *каёт* 'тс' (маз., Мат. Гом.). Запазычанне даваеннага перыяду з польск. *kajet* 'тс' (у літар. мове). Польск. *kajet* з франц. *cahier* 'тс'. Што датычыцца *-t* у канцы слова, то, паводле Слаўскага, 2, 24, яно з'явілася пад уплывам такіх запазычанняў з франц. мовы, як *muszkiet, parkiet, portret, filut*. Франц. выводзіцца з нар. лац. **quadernus* < лац. *quaternī* 'па чатыры', першапачатковае значэнне 'злажа-

ны ўчацвёра, з чатырох лісткоў'. Параўн. яшчэ рус. *тетрадь* < с.-грэч. τετράδι(ον) ад τετράς род. скл. -άδος 'чацвёртая частка ліста', гл. Фасмер, 4, 53.

**Каём,** *каёміна* 'шустры, бойкі' (Бяльк.), *акаёман, акаёмын* 'верхалаз' (Бяльк.). Ілюстрацыя ў слоўніку дазваляе ўдакладніць дэфініцыю: *«Увесь дзень, як акаёмын ходзіць па дрэвах»*. Рус. паўн., усх. *окаём* 'нягоднік, гультай; ашуканец, неслух і інш.', *окаёмиться* 'адбіцца ад рук і інш.' Даль тлумачыць *окаём* словам «изверженный», *окаёмный* «опричный, кромешный, находящийся вне чего-либо». Такім чынам ён аб'ядноўвае іх і *окаёмак* у адным артыкуле. У гэты ж артыкул Бадуэн дэ Куртэнэ ў трэцім выданні слоўніка Даля ўключыў тамб., ярасл. *окоём* 'скнара, скупянда'. Супраць Мартынаў (Бел.-рус. ізал., 69), які прапануе: *акаём/окаём* < прасл. *kajati sę*. Структура слова, паводле Мартынава, там жа, высвятляецца, калі лічыць, што яно з'яўляецца формай залежнага дзеепрыметніка прошлага часу на *-ом* (*окаём* да *каять*, як *весом* да *весить*). У такім выпадку *акаёмын, каём* этымалагічна і сэнсава будуць звязаны з *акаянны*. Краўчук (вусн. паведамл.) удакладняе, што гэтыя словы могуць быць звязаны іншым шляхам і прапануе: *акаянны* > **акаённы* (праз **акаенны*), якое ў выніку дысіміляцыі дае *акаёмны (-нн- > -мн-)*. Да гэтай формы заканамерна магло б узыходзіць *акаёман*, якое ў такім выпадку з'яўляецца зыходным для іншых форм. Цыхун (Бел.-рус. ізал., 91) прапанаваў іншую этымалогію для бел. *акаём*. Мяркуючы па значэнню 'шустры, бойкі', улічваючы структуру бел. *акаём* 'небасхіл, прастора, якую можна ахапіць вокам', звязвае бел. *акаём* 'шустры, бойкі' з усх.-слав. *око* і *яти*. Параўноўваючы бел. слова і рус. дыял. *окоём* 'ашуканец, нягоднік', 'скнара, скупянда і да т. п.', аўтар лічыць, што ўнутраную форму гэтых слоў адлюстроўвае фразеалагізм *оком яти* 'ахопліваць вокам'; у якасці прыкладаў прыводзяцца гродз. *зазроны* (ад *zьrěti*) 'скупы, зайздросны', рус. *завидовать* 'зайздросціць', балг. *свидлив* 'скупы'. У такім выпадку значэнне хуткасці, бойкасці магло развівацца ў сувязі з паняццем 'ахопліваць вокам', 'хутка, як вокам схапіць' (бел. *вокамгненна,* гл.). Аўтар, аднак, меў у якасці рус. адпаведнікаў толькі прыклады з ярасл. гаворак і заўважыў, што надзейнасць гэтай бел.-рус. ізалексы невысокая, калі ўлічыць даныя аб міграцыі бел. насельніцтва ў гэты рэгіён (гл. падрабязней Бел.-рус. ізал., 91—92). Прымаючы пад увагу, што бел. і рус. словы сустракаюцца на разарваных арэалах, можна лічыць *акаём/акаем* усх.-слав. архаізмам. Што датычыцца ўласна этымалогіі, то адносна фанетыкі (гл. вышэй меркаванні Краў-

чука) параўн. яшчэ рус. алан. *каётный* 'які каецца, шкадуе аб зробленым' і, магчыма, церск. *каёмиться* 'цырымоніцца, адмаўляцца'. Гл. *акаёман.*

**Кажа́н**₁ 'лятучая мыш, Vespenugo noctula' (БРС, ТСБМ, Бяльк., Гарэц., Грыг., Касп.; навагр., КЭС; Нас., Сержп. Прымхі, Сцяшк., Бел., Федар. Рук., Шат., Шэйн, Яруш), *кажанюк* (Сцяшк.), *кажністы* (Радч.). Укр. *кожан, кажан.* Рус. *кожан* (арх., паводле Даля, зах. і паўдн.), алан. *кожаник,* арл. *кожанчик* 'тс'. Усх.-слав. *кожан* 'лятучая мыш' < *кожа* < *kozja.* Параўн. яшчэ рус. *кожаная птичка, кожаный нетопырь.* Укр. форма *(з-а-)* — вынік пранікнення ў літар. мову слова з акаючых гаворак (з поўначы) або фанетычным шляхам (асіміляцыя), магчыма, таксама ў гаворках. Булахоўскі (Вибрані праці, 2, 162) лічыць, што *кажан, калач, хазяін* і інш., магчыма, з'яўляюцца беларусізмамі. Аналагічная думка аб уплыве беларускіх або рускіх дыялектаў (разглядаецца шэраг слоў), там жа, с. 239.

**Кажа́н**₂ 'спрытны чалавек' (Маш. Маг.). Рэгіянальны перанос ад *кажан*₁. Матывацыя 'хударлявы, спрытны', параўн. з некалькі іншым значэннем рус. дыял. *кожанка* 'аб сухарлявай жанчыне'.

**Кажа́н**₃ 'чалавек малога росту; дзіця, якое дрэнна расце' (Чач.), *кажанё* 'занядбаная маладая жывёліна, звычайна парася' (КЭС, лаг.), *кажанчык* 'запаршывелае, закажанелае парася' (Бяльк.). Рус. смал. *кожан* 'высахлы грыб', апог., пск. *кожанка* 'аб худым кані'; з іншай структурай — ярасл. *кожевина* 'тс'. Апошняе слова дазваляе меркаваць аб паходжанні разглядаемых лексем ад прыметнікавай асновы *кожан-* (параўн. рус. дыял. *кожевый* 'скураны'), нягледзячы на тое што перанос ад *кажан*₁ (і суфіксальныя вытворныя ад гэтай формы) уяўляецца верагодным (параўн. у Насовіча *кожановатый* «старообразный, как бы имеющий шероховатость кожи летучей мыши»). Магчыма, чэрв. *кажанець* 'пакрывацца брудам, апускацца з віду' (Шат.), тое ж *кожаныць* у Насовіча з'яўляюцца дзеясловамі ад *кажан*₁ (параўн. *кажаныты* 'худы, які спыніўся ў росце' Касп.— «парасяты кажанатыі») 'аслабелая жывёліна' (КЭС, лаг.), а семантыка *кажан*₃ і пад. лексем абумоўлена дзеяслоўнай семантыкай. Што датычыць храналогіі, то лінгвагеаграфія бел. і рус. слоў сведчыць аб уласна беларускай інавацыі.

**Кажамя́ка** 'гарбар, кушнер' (БРС, Бяльк., Гарэц., Грыг., Касп., КЭС, лаг.; Нас., Шат., Яруш.). Укр. *кожом'яка,* рус. *кожемяка* (у Даля без геаграфіі, ёсць зах.-бран., пск., цвяр.).

Утворана на базе ўсх.-слав. словазлучэння *мяти кожу;* недахоп даных з рус. і ўкр. моўных тэрыторый прымушае меркаваць аб літаратурным характары слова або ва ўсякім разе яго вандроўным культурным характары. Магчыма, гэта ўтварэнне часоў Кіеўскай Русі; не выключана, што экспансія магла ажыццяўляцца на фальклорным (міфалагічным) узроўні. Аб гэтым сведчыць ст.-інд. *carmamn̄a,* аналагічнае па структуры, гл. Фасмер, 2, 266.

**Кажа́рка** 'стары кажух' (Касп., Мядзв., Шат.; рас., Шатал.). Паводле геаграфіі — беларуская інавацыя; структура ўтварэння не зусім ясная. Паводле Сцяцко, Афікс. наз. 149, з суф. *-арк-а* ад *кожа*; аднак параўн. *къжары (тулуп къжары);* тэрыторыя, відаць, дрысен. (віц., КЭС). Гэта дае магчымасць бачыць тут семантычную кандэнсацыю выразу **кажары тулуп*, суфікс у такім выпадку — *-к-*. На іншую магчымасць тлумачэння ўказвае рус. валаг. *кожара* 'кажух з аўчыны, не пакрыты сукном' і бел. *кажарына* (гл.), якія сведчаць аб аснове *кажар-,* якое з *-ар*-суфіксацыяй ад *кожа* (гл.).

**Кажа́рына** 'стары кажух' (Касп.; рас., Шатал.), *къжаръна, кажэръна* 'паўкажушок, кажушок (звычайна стары, каравы)' (міёр., Нар. словаўтв.). Рэгіянальнае (паўн.) утварэнне ад *кожа* (гл.). Суфіксацыя адзінкавасці *(-іна)*, аснова *кажар-*, адносна якой гл. пад *кажа́рка.*

**Ка́жды** 'кожны' (Бяльк.; ваўк., Федар.; Шат.). Рус. *каждый,* польск. *każdy* (магчыма, гэта не спрадвечная польск. форма), славін. *kŏu̯ždï,* кашуб. *każdi* і *koeždi*, палаб. *kozdüm(ę̆)* (склон. форма), н.-луж. *każdy,* чэш. *každý*, славац. *každý,* серб.-харв. кніжн. *każdi* (з XVI ст.). Па сутнасці, паўдн.-слав. адпаведнікі не зафіксаваны (ст.-слав. **къждо** — кантынуант іншай формы). Можна пагадзіцца з думкай Слаўскага, 2, 115, што паўн.-слав. утварэнне: *każьdъjь.* Этымалогія слова няпэўная. Нягледзячы на шматлікія спробы ў літаратуры вытлумачыць варыянты *ka-* і *ko-* (гл. *кожды*): *każьdъjь* : *kożьdъjь.* Яшчэ больш дыскусійныя меркаванні адносна этымалогіі другой часткі слова. Ёсць думка, што *ka-(ko-)* у злучэнні з'яўляюцца другаснымі і найбольш архаічнай неабходна лічыць форму *kъżьdo* (з якой ст.-слав.), па той прычыне, што *kъ-* займеннік у асноўнай форме (наз. скл.). Гэта быццам бы пацвярджаецца тым, што ён скланяецца, параўн. ст.-слав. **когожьдо** і **комоужьдо** (Трубачоў, Эт. сл., 9, 175). У такім выпадку больш новыя *każьdъjь* і *kożьdъjь* дэманструюць наяўнасць форм займеннікаў ва ўскосных склонах, гэта, на думку аўтара слоўніка, натуральна

для складаных слоў і пацвярджае архаічны характар словазлучэння *kъžьdo (<kъžьdo)*. Іншыя думкі адносна паходжання першага кампанента: *ко-* і *-ка-* адпаведна формы муж. і жан. роду пытальнага займенніка (Развадоўскі RS, 7, 14—16 *(kożdy)*; Слаўскі, 2, 115). Махэк$_2$ (247): *ka-* падоўжанае і.-е. **ku̯o-,* а не форма жан. р.; Ваян (Gramm. comparée 11, 2, 409) *ka-* тлумачыць другасным уплывам форм *kakъ, kako*. Гл. яшчэ ESSJ, 2, 397—399. Адносна этымалогіі другога кампанента Трубачоў (Эт. сл., 9, 175) выказваецца на карысць думкі Міклашыча, 62, аб сувязі часткі і слав. *žьdati* 'чакаць', аднак звяртае ўвагу, што яна без адпаведнікаў за межамі слав. моў. Апошняя этымалогія была прынята Бернекерам, 1, 496—497; Махэкам$_1$, 197, і інш., параўн., аднак, Махэк$_2$, 247, аб адсутнасці падобных утварэнняў і неабходнасці пошукаў іншага рашэння. У першым выданні слоўніка Махэк прыводзіў лац. *quī-vīs, quī-libet* 'які-небудзь, кожны', даслоўна 'які хочаш', што адпавядае слав. *l'ubo* ў выразе *kakъ l'ubo* 'хто-небудзь, любы і да т. п.'. У другім выданні Махэк прапанаваў суаднесці слав. словы з лац. *quisque, quidque (і quaeque, quodque),* кельц. **ku̯a-ko-s, *ku̯o-ko-s* і тлумачыць далей слав. *-ž-* < **g, -ь-* < *e* (там жа меркаванні адносна семантыкі і прыклады); *-do* ў канцы тлумачыцца энклітыкай *-de*, якая перайшла ў *-do* пад уплывам першага кампанента *(ko-)*. Паводле Махэка (там жа), слав. *každъjь* і пад. з словазлучэння *edinъ kъžь[kъ]de*, такая семантыка пацвярджаецца фактамі розных моў, у прыватнасці літоўскай, *-kiekvíenas* 'кожны', літаральна 'колькі' і 'адзін'. Параўн. Трубачоў, Эт. сл., 9, 176, дзе літоўскі прыклад лічыцца новаўтварэннем разам з тыпалагічна блізкімі раманскімі. Думка аб сувязі часціц *-žьdo, -žьde* і слав. *-žьdati* Слаўскаму, 2, 116, здаецца маловерагоднай. Ён прымае папулярную версію аб паходжанні другога кампанента злучэння *každъjь* з абагульняючай групы энклітык *-žь-de, -žь-do,* як прыклад прыводзіцца ц.-слав. *кыижьдо, которыи жьде*. У гэтай групе *-žь-* суадносіцца з *že* (бел. *жа,* рус. *же* і да т. п.), а *-de* : *-do* з энклітыкай *-de* (параўн. ст.-слав. **къдє,** гл. ESSJ, 1, 307). Значэнне слав. *kazьdъjь* пры такім варыянце было б 'хто-небудзь', як у лац. *quī- cumque* (*quī* 'які', *cumque-* абагульняючая часціца), *quis-que* 'хто-небудзь, кожны' (*quis* 'хто', *que* абагульняючая часціца). З літаратуры гл. яшчэ Petr. J., Zaimek *każdy* w historii *i dialektach języka polskiego, Wrocław,* 1957, які выказвае думку аб тым, што польск. *każdy* з'яўляецца чэхізмам, супраць Слаўскі, 2, 114—115.

**Ка́жны** 'кожны' (лаг., КЭС; мал., драг., Нар. словатв.),

*кажный* 'тс' (Бяльк., Грыг., Нас.), *кажан* 'тс' (лаг., КЭС), *кажен* 'усякі' (Нас.), *кажэнь* 'кожны' (жытк., браг., Мат. Гом.), *кажон* (драг., Нар. словатв.), *кажын* 'тс' (Мат. Маг., Сцяшк.), *кажынный* 'тс' (віц., Нар. сл.; вілен., Нас.), *кажнюткі* 'кожны' (ваўк., Сцяшк.). Укр. дыял. *кажний* (і памянш. формы), *кажінний,* рус. смал. *кажан,* дыял. *кажинный, кажиный, кажин, кажней, кажний, кажный.* Як паказваюць рус. (паўдн., паводле Даля,— укр.?) *каждный,* польск. *każden,* каш. *kazdulny,* пам.-славін. *koużdèrnī* і інш., існавала тэндэнцыя да ўзмацнення абагульнення або ўдакладнення прасл. *kažьdъjь* суфіксальным спосабам. Паводле ESSJ, 2, 398, суф. *-n(ъ)-* быў устаўлены паміж асновай слова і суф. *-jь.* Калі ў групе зычных пасля заняпаду «ераў» знік галосны, група спрасцілася. Нягледзячы на тое што суфіксальна ўскладненыя формы зафіксаваны ў некалькіх паўн.-слав. мовах, можна думаць, што сепаратных сувязей не было і рэалізавана была агульная тэндэнцыя, якая і прывяла да вялікай колькасці варыянтаў ускладненага *kažьdъjь.* Адносна дублетнасці *кажны/кожны* былі розныя меркаванні, падрабязней гл. *кожны.* Аб прасл. *kažьdъjь* гл. *кажды.*

**Кажура́** 'скурка (на гародніне)' (Др.-Падб.), *кажурына* 'тс' (ТСБМ, Шат.). Цяжка па некалькіх фіксацыях меркаваць аб статусе слова. Рус. *кожура* 'тс' (у Даля без геаграфіі). З *-ур*-суфіксацыяй ад *кожа* (гл.); Шанскі (11, 8, К) прыводзіць рус. дыял. *снежура* 'снег, які прамок ад вады', што сведчыць аб экспрэсіўным характары суфіксацыі ў разглядаемым слове. Да бел. *кажурына* можна прывесці наступныя адпаведнікі: ст.-рус., наўг., пск. *кожурина* 'кара дрэва', наўг. 'кавалак драўнянай кары', буйск., кастрам., калін. 'скурка на пладах насення'. Аб суадносінах гэтых слоў (інавацыя? запазычанне?) меркаваць цяжка. Параўн. *кажурына* 'кусок аўчыны' (гл.).

**Кажу́рно** 'аўчыны' (віл., Сл. паўн.-зах.). Адпаведнікаў быццам бы няма. На магчымы экспрэсіўны характар бел. слова ўказваюць тэксты: *«На няшытыя аўчыны казалі кажурно. Шапкі шыюць з кажурна. Кавалкі кажурна валяюцца»* (Сл. паўн.-зах., 359). Можна параўнаць з вядомымі на Тураўшчыне *собарно, кожушно* (гл.). Можна меркаваць аб экспрэсіўнай *-н-о*-суфіксацыі (*кажурно* < *кажура* 'скура, кусок аўчыны'), аднак, параўн. *чобурна* ( < *чобаты,* тураў., Цыхун, вусн. паведамл.), у меншай меры *собарно* ( < *сабака*), якія могуць сведчыць аб ускладненым суфіксе *(-арн-о/-урн-о).* Што датычыцца генезіса гэтага суфікса, ён, відаць, утварыўся ў выніку

дэкампазіцыі структур, дзе *-ур-* суфікс з адценнем экспрэсіўнасці (магчыма, нанатворам быў не суфікс *-урн-о,* а толькі *-рн-о,* параўн. *собарно*), а *-н-, н-а, н-я* вядомы ў некалькіх прыкладах таксама экспрэсіўны суфікс. Параўн. да першага *ваўчура* (< *воўк),* да другога — *мална, мяльня* 'пустамеля', аддзеяслоўныя ўтварэнні, гл. Сцяцко, Афікс. наз. 58, *сабачня* і інш. Канчатак можа тлумачыцца па-рознаму, аднак звяртае на сябе ўвагу рыфмоўка ў прымаўках: укр. *«Душно! — Скинь кожушно»* і бел. тураў.:» *Як душно, то скідай кожушно, а як холодно, то адзевай лайно».*

**Кажуры́на**[1] 'кусок аўчыны' (БРС, ТСБМ, КЭС, лаг.; Шат.), *кажурынко* 'кажух' (Федар. рук.), *кажуронак* 'тс' (Бядуля). Як і ў папярэднім выпадку, нельга адназначна меркаваць аб статусе бел. слова. Адпаведнікі — у рус. мове, параўн. *кожурина* (у Даля без геаграфіі) 'кусок закарэлай скуры, аўчыны і да т. п.', пск., асташ., цвяр., вышагар., алан. 'дрэнны, закарэлы кажух'. Да значэння 'кажух' параўн. рус. валаг., наўг., кастр., смал. і інш. *кожурина* 'скура (авечкі і пад.)'; значэнне 'кавалак аўчыны' паводле суфікса *іn-а.* Утвораны гэтыя словы ад *кожура*, кантынуант апошняга засведчаны рускімі гаворкамі. *Кажура* пск. 'скура, пераважна свіная', перм. *баранья кожура,* свярдл. 'скура цяляці', кадн., валаг., пск. 'луска' і інш., далей да *кожа* (гл.). Суфіксацыя *-ур-*, відаць, экспрэсіўная, параўн. рус. дыял. *кожурина* 'худы замардаваны конь', *кожура* 'скура жабы', 'тоўстая скура'.

**Кажу́рыцца** 'хваляваццa' (хойн., Мат. Гом.). Можна параўнаць з рус. дыял. формамі *кожуриться* 'маршчыніцца, жабіцца' (усх., паводле Даля), валаг. 'натужвацца, напружвацца', пск., асташ., цвяр. 'скупіцца, скнарнічаць'. Дзеяслоў ад *кожура* 'скура' першапачаткова 'станавіцца падобным на лупіны'. Параўн. яшчэ рус. *кожилиться, кожалиться* 'намагацца, напружвацца', 'скупіцца', якія, магчыма, не без уплыву *жилиться* 'пяцца, натужвацца', параўн. перм. *кожила* 'скнара' і рус. *жила* 'тс' і інш. Вышэй прыведзеныя прыклады памяншаюць надзейнасць магчымага варыянта этымалогіі, паводле якога *кажурыцца* 'хвалявацца' ад *журыцца* 'смуткаваць' з прэфармантам *kо-,* а рус. *кожилиться* < *жилиться* аналагічным спосабам.

**Кажу́х**[1] 'доўгая верхняя вопратка з вырабленых аўчын' (БРС, ТСБМ, Бяльк., Гарэц., Грыг., Касп.; іван., капыл., КЭС; Маш., Нас., Радч., Сакал., Серб., Сержп. Грам., Сцяц., Сцяшк., Шат., Шэйн.). Укр. *кожух* 'футра, кажух', рус. дыял. *кожух* 'аўчына, вопратка з аўчын', паводле Даля — паўдн.

і зах., ’скура’, ’верхняя вопратка, якая не прамакае ад дажджу’ і інш., польск. *kożuch* ’футра, аўчына, вопратка з аўчыны і інш.’, н.-луж. *kóžuch,* в.-луж. *kožuch,* чэш. дыял. *kožuch,* славац. *kožuch* ’футра (воўна і скура)’, серб.-харв. *кòжух* ’футра, кажух, аўчына’, славен. *kožuh* ’футра, кажух’, мак. *кожув,* балг. *кожух* ’кажух’. Праслав. *kožuxъ* ’скура жывёлы з футрам; вопратка з падобнай скуры’, утворана ад *koža* суф. *-uxъ.* У прасл. гэта унікальны суфікс у гэтай функцыі, у той час як у слав. мовах ён шырока прадстаўлены, гл. Слаўскі, 3, 39. Меркаванне Ягіча (AfslPh, XVII, 1894, 292) аб тым, што такая словаўтваральная мадэль нехарактэрная для назваў вопраткі, не пераконвае, паколькі першапачатковым значэннем слова было ’скура жывёліны’, як аб гэтым сведчаць і шматлікія іншыя ўтварэнні ад *koža.*

**Кажу́х**2 ’гарызантальная частка дымавой трубы ў хаце’ (Гарэц.), ’прастора паміж печкай і сцяной, калі печ стаіць блізка пры сцяне’ (Бяльк.). Рус. *кожух* ’комін печы’, ’выцяжная драўляная труба над дымавой адтулінай курной хаты’, параўн. шуйск., уладз. ’гарызантальная частка дымахода, якая злучае печ з комінам’; наогул рус. слова называе розныя часткі як печы, так і навакольнай прасторы. Гэта зніжае каштоўнасць супастаўлення бел. *кажух* ’прастора паміж печчу і сцяной’ і маск. *кожух* ’сцяна каля рускай печы’. Утворана (першае) ад *кожух* ’пакрыццё, чахол’, значэнне, некаторыя этапы развіцця якога ад *kožuxъ* ’скура’ можна прасачыць па такіх прыкладах, як рус. *кожух* ’скура змяі (якая скідаецца)’, ’шкарлупіна’, *кожура* ’драўняная кара’, балг. *кожулец* ’кокан’, макед. *кожурец* ’тс’. Значэнне ’прастора паміж печчу і комінам’ можа разумецца як ’паветраная ахова, своеасаблівы кажух’ або, што больш верагодна, ад **кажух* ’частка печы’, ’частка прасторы каля печы’ — падобныя значэнні засведчаны рускімі гаворкамі. Аб часе ўтварэння слова і магчымых культурных сувязях на ўзроўні рэалій можна толькі здагадвацца, аднак вялікая колькасць значэнняў тэрміна *кожух* у рус. дыял. і ўсходняя геаграфія бел. слова сведчаць, што тут назіраецца руская інавацыя.

**Кажу́х**3 ’пенка на малацэ’, *кажушок* ’тс’ (пух., Жыв. сл.), ’брудны налёт, паласа пены на вадзе і інш.’, параўн. у кантэксце: *«...бывае, кажух такі зробіцца зверху на вадзе стаячай, смуга такая зверху зялёная, як доўга стаіць»* (пух., Жыв. сл.). Польск. *kożuch* ’плеўка, якой зацягваецца паверхня вадкасці, напрыклад малака’, *kożuch rzęsy,* славен. *kožuh* ’пенка на малацэ’; з іншай суфіксацыяй: укр. *кожушок* (у Жэляхоўскага) ’плеўка на паверхні малака, кісялю’, макед. *кожурек,*

*кожурка* 'пенка на малацэ', балг. *кожер* 'смятана, пенка на малацэ', *кожарец* 'тс'. Адсутнасць дакладных адпаведнікаў з больш надзейнай серб.-харв. тэрыторыі не дазваляе з упэўненасцю меркаваць аб праславянскім значэнні 'плеўка на вадкасці, пенка на малацэ'. Аднак наяўнасць балг. і макед. паралеляў сведчыць у карысць старога, незалежнага ад уздзеяння ням. мовы (параўн. у Слаўскага, 3, 39) пераносу; гл. яшчэ *кажух*$_2$ і *кажух*$_4$. Этымалагічна *кажух*$_3$ ад *kožuxъ* 'субстанцыя, якая пакрывае што-небудзь, якое з *kožuxъ* 'скура і да т. п.', гл. *кажух*$_1$.

***Кажу́х**$_4$, *кожух* 'расліннае покрыва на балоце, якое ўспухае, узнімаецца', параўн. у кантэксце: *«Такый кожух е на тэму болоты: вуда зрывае кожух од шчырцу. На тэму кожуховы гуйдатыся можна»*. (малар., Нар. лекс.), *кожух* 'твань, дрыгва' (малар., Талстой. Геагр.), *кокожух* 'зыбкае месца' (тураў., ДАБМ). Паводле Талстога, Геагр., 185—186, утворана семантычна падобна (па прынцыпу метафары), як і інш. назвы для значэння 'дрыгва, топкае месца на балоце' (здмух і пад.). Тур. *кокожух,* паводле Талстога, там жа, дээтымалагізаваная форма з рэдуплікацыяй першага складу (параўн. рус. дыял. *кокоты* < *коты* 'назва абутку'), аднак, улічваючы палескія назвы *каверт, кобагня,* можна меркаваць аб магчымасці існавання рэгіянальнай мадэлі ўтварэння *ко-* + назва дрыгвы. Этымалагічна *кажух*$_4$ < **кожух* < *kožuxъ,* гл. *кажух*$_1$*,* гэта пацвярджаецца, магчыма, кобр. *кожушкы мняты* 'ўгінаць, мяць тонкі лёд' (Жыв. сл.).

**Кажухо́ваць,** *акажуховаць хату* 'ашаляваць' (Федар., рук.), *кожухі́йка* 'шаляваная сцяна' (кам., Нар. сл.). Рус. арл., болх., свярдл., с.-ур. *кожушить* 'шаляваць', *кожушка* 'абшалёўванне', польск. *kożuchować* 'шаляваць', *kożuchowanie,* апошняе вядома з першай палавіны XVI ст., відавочна, кракаўскае. Бел. слова паводле фармальных адзнак і лінгвагеаграфіі неабходна лічыць паланізмам. Польск. да *kożuch* 'пакрыццё, аблямаванне', параўн. дыял. *kożuch* 'аблямаванне з гліны, якое пакрывае ганчарную печ'. Рус. таксама вытворнае ад *кожух,* аднак статус яго (суадносіны з польск. словам — запазычанне? незалежныя ўтварэнні?) няясны, патрабуецца распрацоўка пытання на ўзроўні рэалій.

**Кажу́шак**$_1$ 'паўкажушок, кароткі кажух' (маз., Сержп.; Сцяц.), *кажушка* 'тс' (слонім., Шн.). Укр. дыял. *кожушок* 'тс', укр. палес. *кожушка* 'паўкажушок', чарніг. 'жаночая футра'. Суфіксальныя вытворныя ад *кажух*$_1$*;* аб храналогіі і суаднесенасці меркаваць цяжка. Параўн. *кажушок* (гл.). Месца

націску, магчыма, сведчыць аб польскім уплыве (параўн. польск. *kożuszek*).

**Кажу́шак**2 ’шчупак; шчупак наогул і шчупак сярэдняга памеру’ (Мат. Гом.; тураў., Крыв.; Флора), *кожушак* ’тс’ (параўн. пін., Нар. лекс.; жытк., Нар. словатв.; палес., Крыв.; ТС), *кожушек, кажушок* ’шчупак’ (тураў., КЭС), *кажушка* ’тс’ (лельч., Мат. Гом.; Палес., Крыв.; ТС), *кожуш’е* ’вялікі шчупак’, *кожушленя* ’маленькі шчупачок’, *кожушленятко, кожушлятко* памянш. да *кожушленя, кожушно* ’вялікі шчупак’ (апошнія прыклады з Тураўскага слоўніка). Паводле Тарнацкага, к, № 177, заходняя зона ўжывання лексемы праходзіць па Гарыні, параўн., аднак, наш прыклад з паўдн. Піншчыны, на ўсходзе яна сустракаецца ў Жыткавіцкім, Столінскім і Лунінецкім раёнах (гл. Крывіцкі, Лекс. Пал., 168); сустракаецца ў Лельчыцкім раёне (Мат. Гом.). Вузкалакальная інавацыя (фактычна ц.-палес.), этымалогія няпэўная. Цыхун (Бел.-укр. ізал., 85) мяркуе, што тут перанос ад *кажух, кажушак* ’від адзення’ з матывацыяй ’гладкая (як вырабленая) скура (у маладых шчупакоў)’. Пазней ён (вусна) прапанаваў дзве іншыя версіі і паведаміў багаты фактычны матэрыял. Як сведчаць палявыя запісы падчас тураўскіх экспедыцый, відавочна, што *кажушак* з’яўляецца адной з тых назваў, якія дыферэнцыруюць агульную назву шчупак. Шырокая ўжывальнасць слова *кажушак* ’шчупак сярэдніх памераў’ прывяла да зацямнення матывацыі, аб тым, што гэты працэс працягваецца, сведчаць значэнні ’шчупак наогул’ і памяншальныя вытворныя са значэннем ’маленькі шчупак’. Маленькія шчупакі лёгка дыферэнцыруюцца па колеру, і гэта яркая адзнака прыводзіць да ўзнікнення тэрміна зялёныя і сінія, параўн. у Тураўскім слоўніку: *«Поймаў кожушленят зелёных», «кожушлятка сініе ў траве»,* можна меркаваць, што сярэдні па ўзросту шчупак можа таксама называцца па такому ж прынцыпу. Параўн. *кажух*4 ’расліннае покрыва на балоце’. Па другой, больш пераканаўчай версіі *кажушак* < **кажушак*’?’ < < *кожа* ’скура’. Матывацыя назвы тлумачыцца Цыхуном: «кажушкамі называюць сярэдніх па памеру шчупакоў таму, што скура ў іх робіцца больш тоўстай і менавіта такіх шчупакоў можна фаршыраваць». Такая этымалогія пацвярджаецца інфармацыяй аб выкарыстанні шчупакоў у гэтым рэгіёне («надзеваная рыба»); яе можна падмацаваць і такім фактам, што адпаведным укр. *кожушок* называюць, паводле Грынчэнкі, скуру, вонкавую абалонку некаторых жывёл. Укр. і рус. назвы ад *kožuхъ* абазначаюць скуру, якая скідаецца, параўн. у фальк. тэкстах (’скура змяі’): рус. шадр., перм.

*«Как уснул Иван-царевич, она вышла на улицу, сбросила кожух, сделалась красной девицей»;* валаг. і інш. *«Вот она кожух скинула и взяла мальчика на руки»;* укр. ('скура жабы'): *«Взяла кожушок з себе скинула, вийшла... Знову кожушок наділа і стала такою жабою, як і була».* Параўн. яшчэ ад іншай асновы рус. перм. *кожура: «А у нее была одежа из лягушечьей кожуры».* Аб магчымасці яшчэ адной версіі сведчаць рус. валаг., пск. *кожура* 'рыбная луска', с.-ур. *кожуха* 'тс', параўн. яшчэ назвы раслін з калючымі пладамі, якія чапляюцца за адзенне: укр. *кожушка, кожушки (липка, липучка, репашки),* рус. *кожушка.* Па гэтай версіі шчупакоў сярэдніх памераў маглі называць *кажушкамі* па неабходнасці (пачынаючы з некаторага іх узросту) знімаць луску, чысціць. Ва ўсякім разе як па гэтай, так і па папярэдняй версіі *кажушак* < *кожух* 'скура, абалонка' (адкуль і значэнне 'чахол') з *кажушак* 'назва вопраткі' непасрэдна не суадносіцца.

***Кажушма́н,** *кожушман* 'вялікі шчупак' (ТС). Адпаведнікаў няма, вузкарэгіянальнае ўтварэнне ад *кажушак*$_2$ (гл.).

**Кажу́шна**$_1$, *кожушно* 'кажух' (ТСБМ). Укр. толькі ў прымаўцы *«Душно! Скинь кожушно».* Аб суфіксе гл. *кожурно;* што датычыцца храналогіі, можна меркаваць, што тут беларуская інавацыя, а па тэрыторыі, магчыма, і тураўскае, паколькі менавіта там адзначаюцца ўтварэнні такой структуры. Параўн. наст. слова.

**Кажу́шна**$_2$, *кожушно* 'вялікі шчупак'. Аб этымалогіі (матывацыя назвы) гл. *кажушак*$_2$. У гэтым рэгіёне вядомы ўтварэнні такой структуры, параўн. *собарно (< собака), чобурна (< чобаты)* (Цыхун, вусн. паведамл.). Параўн. і віл. *кажурно* 'аўчына' (гл. там і меркаванні аб генезісе).

**Кажуšо́к** 'памянш. да кажух, кароткі кажух' (БРС, ТСБМ, Нас., Радч., Сержп., Грам.). Укр. *кожушок* 'тс' (харк. і інш.), серб.-харв. (у Вука, Шулека) *kožušak* 'памяншальнае да *kožuh*'. Нягледзячы на поўнае супадзенне гэтых слоў і спрыяльны геаграфічны крытэрый, меркаваць аб сепаратных сувязях пералічаных слоў вельмі цяжка па той прычыне, што гэта суфіксальныя ўтварэнні па вядомай і прадуктыўнай мадэлі. Розныя ўтварэнні з іншай памянш. суфіксацыяй (параўн. балг. дыял. *кожушец, кожушче,* укр. *кожушка,* серб.-харв. *kȍžušić* і да т. п.) сведчаць, магчыма, аб незалежным утварэнні разглядаемых слоў; храналогія таксама няясная. Да *кажух*$_1$ (гл.).

**Кажушы́на** 'назва вопраткі, паўкажушок' (Радч.). Укр.

*кожушина* 'больш лёгкі кажух', рус. зах.-бран. (па тэрыторыі агульнае з бел.) *кожушина* 'паўкажушок з аўчыны, кажух', серб.-харв. (павеліч. *kòžušina*) засведчана ў помніках XVIII ст. балг. *кожушина* 'вялікі кажух'; гэта ж форма са значэннем 'шалупінне цыбулі' ў загадках: серб.-харв. *«U našega dedušine trideset i dve kožušine, p'opet mu se rebra vide»;* балг. радом. *«Стар деда с девет кожушини»*. Паўд.-слав. паралелі дэманструюць некалькі іншую семантыку, аднак галоўнай перашкодай для канстатацыі архаічнасці прыведзенага слова з'яўляецца прадуктыўнасць суфікса, яго рэгулярны характар, і калі для ўсх.-слав., як і для паўдн.-слав. лексем, сепаратныя сувязі відавочныя, то меркаваць аб роднаснасці паўн. і паўдн. слоў у гэтым выпадку вельмі цяжка. Што датычыцца семантыкі, параўн. яшчэ рус. *дом* і *домина,* бел. *хата* і *хаціна;* вялікі фактычны матэрыял (і некаторая літаратура) прыведзены ў артыкуле М. Н. Крыўко «Слова з суфіксам *-ін-а(-ын-а)* і яго вытворнымі ў гаворцы вёскі Манякова Міёрскага раёна» (Нар. словатв.).

**Кажу́шыць** 'калаціць, узнімаць скуру ўдарамі' (Нас.). Відавочны экспрэсіўны характар утварэння (параўн. прыклады: *«Не на смѣхъ ты его ловко кожушишь»* (Нас., 240), і гэта зніжае надзейнасць супастаўлення слова з такімі балг. утварэннямі, як дыял. *подкожушва се, подкожуши се* 'аддзяляецца і ўспухае, узнімаецца (аб скуры, тынку)' і больш далёкімі фармальна *подкожуря се, подкожурявам се* 'ўзнімацца, успухаць'. Калі дапусціць, што *кажушыць* ужывалася як тэрмін (у гарбарстве), бел. слова можна параўнаць з рус. дыял. *кожемятить, кожемятиться* 'валтузіцца, барукацца'. У любым выпадку да *кажух* 'скура і да т. п.' Гл. *кажух*$_1$ і наст.

**Каз** 'скажэнне' (Гарэц.), магчыма, сюды ж *kazý* (Федар. Рук.). Укр. *каз* 'шал, шаленства', толькі ў прымаўцы *«Нехай на тебе каз найде!»,* рус. наўг., кем., арх. *казь* 'дрэнь, бруд; падла'. Рус. слова адрозніваецца фармальна і семантычна і, магчыма, наогул сюды не адносіцца, польск. дыял. *kaz* 'загана', 'бяльмо', чэш. *kaz* 'агрэх, дэфект (напрыклад, у тканіне)', славац. *kaz* 'недахоп, дэфект', славен. *kàz* 'загана, немач', 'дэфект у тканіне', серб.-харв. *каз* 'вырадак' (слова адзначана ў XVIII ст.). Меркаваць аб статусе як бел., так і іншых слоў цяжка; Трубачоў (Эт. сл., 9, 174—175) лічыць, што прыведзеныя формы дазваляюць рэканструяваць прасл. *kazъ* — адваротнае вытворнае ад *kaziti,* гл. *казіць*. Што датычыцца статуса бел. *каз,* параўн. яшчэ ўсх.-бел. *кажены* 'пракажоны' і *сказа* 'дэфект і да т. п.' (гл.).

**Каза́**₁ 'самка казла' (БРС, ТСБМ, Бяльк., Касп.; лаг., КЭС; Маш., Мат. Гом., Нас., Радч., Сержп. Прымхі, Сцяц. Нар., Сцяшк., Шат.; бялын., Янк. Мат.; Яруш.). Укр. *коза,* рус. *коза,* польск. *koza,* палаб. *t'özə,* н.-луж. *kóza,* в.-луж. *koza,* чэш. *koza,* славац. *koza,* славен. *kóza,* серб.-харв. *kòза,* макед. *коза,* балг. *коза.* Засведчана ў ст.-слав. **коза** 'тс'. Праслав. *koza* 'Сарга'. На думку Слаўскага, 3, 25, старыя дэрываты (прасл. часу) *koža, kožuxъ, kozьlъ.* Асобае месца назвы казы ў славянскім фальклоры і абрадах сведчыць на карысць спрадвечнага характару гэтага слова. Аднак дакладных і.-е. адпаведнікаў да прасл. *koza* няма. Бліжэй па семантыцы і форме і.-е. ўтварэнні: ст.-інд. *ajā* 'каза' (і.-е. **aĝā*), *ajá* 'казёл', с.-перс. *azak,* н.-перс. *azg* 'каза', літ. *ožỹs* 'казёл', *ožkà* 'каза' (< балт. **ažia-*), патрабуе тлумачэння слав. *k-* у пачатку. Іншыя паралелі: алб. *keth, kedhi* 'казляня', ст.-англ. *hæcen* 'тс', *hacele, hæcele* 'плашч', гоц. *hakuls* 'тс', ст.-ісл. *hokull* 'верхняя вопратка, плашч', с.-н.-ням. *hoken* 'маленькае казляня'. Гэта версія падтрымлівалася шэрагам даследчыкаў (Бернекер, Педэрсен, Торп, Младэнаў, Фасмер і інш.), гл. літ-ру ў Бернекера, 1, 595; Фасмера, 2, 277, аднак і апошняя этымалогія не пазбаўлена фанетычных цяжкасцей. Звернем увагу і на той факт, што алб. слова, магчыма, не суадносіцца са слав. лексемамі: Неразнак (Этимология — 1973, 198) адзначае, што, паводле этымалагічных распрацовак Чабея, алб. *kedh* 'казёл' неабходна лічыць кантамінацыяй дзвюх семантычна тоесных асноў *edh* (< і.-е. **aĝ-*) і *kec.* Па такой жа прычыне цяжка прыняць прапанаваную Уленбекам (94) думку аб роднасці ст.-інд. *chā́gaḥ* 'казёл' і слав. *koza.* Аб гэтай версіі гл. Геаргіеў, Въпроси, 58—59, аб ст.-інд. слове гл. Майргофер, 406. Брукнер (262) меркаваў аб сувязі прасл. слова і літ. *ožkà,* дапускаючы метатэзу. Адзначым, што ў славянскіх мовах зафіксаваны адпаведнік літоўскаму слову — гэта серб.-ц.-слав. *azno, ѧзьно,* рус.-ц.-слав. *ѧзьно* 'скура' < прасл. *azьno,* магчыма, славен. *aževina* 'адходы пры вырабе скуры і інш.', гл. аб апошнім Саднік-Айцетмюлер, Vgl. Wb, 1, 42. Корш (Зап. Геогр. Общ. Отд. Этногр., 34, 537 і наст.) выказаў думку, што слав. *koza* запазычана з цюрк. моў. Гэту версію падтрымаў Трубачоў (Гл. ВЯ, 1959, 1, 23). Трубачоў (Происх. 86—88) прапанаваў алтайскую крыніцу як для літ. *ožkà* 'каза', так і для слав. *koza.* На думку Трубачова, гэта запазычанні двух храналагічных узроўняў: балт. і інда-іран. < ст.-цюрк. *äčkü* ('каза'? 'казёл'?), слав. < цюрк. *käza,* якое ў сваю чаргу метатэза *äčkü.* Алтайскія назвы, паводле Трубачова, Происх., 88, узыходзяць да падзыўных слоў. У новых этымалагічных слоўніках такая версія ацэньваецца як пераканаўчая. Слаўскі

(3, 25), Махэк$_2$ (286) лічаць, што найбольш верагоднай з'яўляецца этымалогія, паводле якой суадносяцца слав. *koza,* ст.-інд. *ajā́* і інш. *K* у слав. *koza* тлумачыцца як пратэтычнае; у якасці паралелі прыводзіцца слав. *kostь,* якое разам з лац. *costa* 'рабро' можна суаднесці са ст.-інд. *ásthi,* ст.-іран. *ast-, asti-,* ст.-грэч.'οστὲον, лац. *ós, ossis* 'костка', аднак, па сутнасці, тут адным ненадзейным прыкладам падмацоўваюць другі, гл. аб ст.-інд., ст.-іран., ст.-грэч. і лац., хет. *hastai,* арм. *oskr,* якія да і.-е. **est-hi* (Ваян, Gramm. comp., 2, 173, 183). Геаргіеў (Въпроси, 18) меркаваў, што ў прасл. былі кантамінаваны гіпатэтычныя **astь* 'костка' і **kast(a)* 'рабро' (тут *a* ў аснове *-o*). БЕР (2, 523—524) прымае, па сутнасці, этымалогію Бернекера і іншых (гл. вышэй), мяркуе аб магчымасці далучыць да спіска і.-е. адпаведнікаў ст.-інд. *chagaḥ* 'казёл', *chā̆gā* 'каза' і абгрунтоўвае суаднесенасць у гэтым выпадку *z* у слав. слове і *g* у ст.-інд. Паводле гэтага слоўніка, ст.-інд. слова з і.-е. **skego-s* 'скакун', а *z* у слав. *koza* пад уплывам *kozьlъ,* якое з і.-е. **(s)kōg-* і суф. Nomina agentis *-ilo-s* (і.-е. слова па значэнню таксама 'скакун'), гл. падрабязней БЕР, там жа. На думку Геаргіева (Въпроси, 18), кантамінацыя яшчэ ў і.-е. мове **(s)kēgo-s, *(s)kōgo-s* 'казёл' і *ā̆gā, ā̆g-i-* 'каза', у выніку якой утвараліся **ā̆g'o-s* 'казёл' **ā̆g'ā, ā̆g'-i-* 'каза', першая пара слоў да і.-е. **(s)kēg,- *(s) kəg* — 'падскакваць'.

***Каза́**$_2$ *коза* 'худая і малая жанчына' (драг., Нар. лекс.). Чэш. *koza* 'аб худой і не вельмі разумнай жанчыне'. Перанос ад *каза*$_1$, матывацыя ясная; параўн. паводле іншай адзнакі рус. пск., асташ., цвяр., калуж. і інш. *коза* 'аб жвавай, бойкай, спрытнай дзяўчыне'. Незалежна (беручы пад увагу рэгулярнасць такога пераносу) польск. *koza* 'аб вясёлай падрастаючай дзяўчыне' і адзначанае Ліндэ з XVII ст. 'аб брыдкай, распуснай жанчыне', славац. *koza* 'аб дзяўчыне, кабеце'.

**Каза́**$_3$ 'апрануты ў вывернуты кажух хлопец у час шчадравання'(Булг., Радч., Шат.), 'даўні беларускі калядны абрад' (ТСБМ). Укр. *коза* 'тс', чэш. дыял. *koza* 'абрадавая гульня'. Да *каза*$_1$ параўн. у Радчанкі: *«Изображенный козой хлопец...»,* у Грынчэнкі: *«...одевается козою».* Аб храналогіі і сувязях меркаваць цяжка, улічваючы рэгулярнасць з'явы і магчымасць як старога характару абраду, так і яго міграцыі.

**Каза́**$_4$ 'танец «каза»' (БРС, Сержп. Грам.). Можна прывесці не зусім дакладныя ўкр. (у Чубінскага, 3, 265) *«коза танцует под музыку»* (на каляды), рус. (у Даля) *плясать козою* 'ламацца па-балаганнаму'. Аб матывацыі можна здагадвацца, аднак інфармацыі не хапае.

**Казá**5 ’невялікая рыба тыпу ўюна, якая жыве ў глеі’ (полац., З нар. сл.), ’нейкая невялікая рыбка’ (віц., Нар. лекс.). Сувязь з *каза*1 бясспрэчная; матывацыя, відаць, тая, што прапануе складальнік слоўніка А. Я. Баханькоў: «... назву атрымала, відаць, з-за двух вырастаў-рожак на ніжняй губе» (З нар. сл., 221). Абедзве фіксацыі слова з аднаго рэгіёна, што, магчыма, сведчыць аб лакальным пераносе, незалежным ад такіх лексем, як укр. (у Шухевіча) *коза сікавка* ’рыбка Cobitis taenia’, польск. *koza* ’рыба’, ’рыба Cobitis taenia’.

**Казá**6 ’грыб пеўнік стракаты’ (узд., Нар. словатв.), *коза* ’тс’ (драг., кобр., Жыв. сл.; лельч., Жыв. сл.; хойн., Мат. Гом.), *куза* ’тс’ (драг., Жыв. сл.). Балг. дыял. *козурка* ’від стракатага грыба’. Сувязь з *каза*1 быццам бы бясспрэчная; параўн.: *«Коза чорная зверху, рэпатая, а пудо дном, як мох, то козья шэрсць»* (лельч., Жыв. сл.), *«Козы з пудодна такіе, як на казе шэрсць, а зверху репеховатые»* (хойн., Мат. Гом.), *«Бараду ў казы с-пад нізу трэба шчысціць нажом, а верх зрэзаць да мяска і атварыць»* (узд., Нар. словатв.). Нягледзячы на такія яркія прыклады, неабходна мець на ўвазе, што ў даным выпадку магла адбыцца канкрэтызацыя назвы ад *каза, казёл* у значэнні ’агульная назва ядомых грыбоў, за выключэннем баравікоў і да т. п.’, якія ад *каза*1*, казёл*1 паводле адзнакі ’адмоўнае, дрэннае’, параўн. таксама і балг. дыял. *козач* ’грыб лісічка’ і (што можа сведчыць аб іншай матывацыі) ’гъба, припънка, пачы крак, Cautharellus cibarius’. Гл. *казляк.*

**Казá**7 ’арыштанцкая, кутузка’ (БРС). Слова прыводзіцца і ў Насовіча з падрабязным тлумачэннем: «Съезжий домъ. Городская застава, по бѣлорусски называется рогатка... Почему отъ слова рогатка домъ этотъ назывался козою. И в настоящее даже время о посаженномъ подъ арестъ или въ смирительный домъ говорятъ: посадили въ козу; въ козѣ сѣдзиць» (Нас., 240—241). Укр. *коза* ’турма’, польск. *koza* ’тс’ (у Ліндэ з XVIII ст.), чэш. дыял. слова ’турма’. Цяжка меркаваць, як суадносяцца гэтыя назвы; улічваючы геаграфію, можна было б гаварыць аб калькаванні з гіпатэтычнага зах.-еўрап. слова або аб запазычанні з польск. мовы. Ва ўсякім разе тлумачэнне Насовіча толькі падкрэслівае думку, што гісторыя гэтага слова абумоўлена гісторыяй рэаліі, і, хаця матывацыю ’рагатка, рагаты’ можна прыняць (аб такіх пераносах гл. ніжэй), тэарэтычна назва магла быць утворана і іншым шляхам.

**Казá**8 ’двухметровая драўляная мерка ў форме разнятага цыркуля для абмервання зямельных участкаў; сажань’ (БРС,

ТСБМ, Жд. 2, Жд. 3; мазыр., З нар. сл.; жытк., Мат. Гом.; зэльв., Сцяц.; бераст., ваўк., маст., свісл., слонім., Сцяц. Нар.; навагр., Сцяшк.; бялын., Янк. Мат.). Слова ведаюць ст.-бел. гаворкі; верагодна (паколькі няма адпаведных паралеляў) беларуская інавацыя. Сцяцко (Словаўтв., 131) адзначае: «Мерка атрымала сваю назву паводле формы: накрыж збітыя канцы палак нагадваюць рогі казы»; параўн. *козлы* 'прыстасаванне распілоўваць дровы'. Цалкам магчымая версія: чэш. *koza* 'козлы — прыстасаванне для сушкі сена', славен. *koza* 'козлы', параўн. укр. *козла* 'козлы': *«Стали вряд и ратища в козла поставили»* (Грынч., 265), рус. арх. *козёл* 'бярвенні, якія ставяць на прасушку вертыкальна ў піраміду': «Свежесрублены бревна в козлы ставят» (магчыма, ужываецца толькі ў множным ліку?), валаг. *козёл* 'два калы, уваткнутыя ў зямлю, злучаныя і перавязаныя крыж-накрыж'; падобныя прыклады вядомыя як у іншых славянскіх, так і ў неславянскіх мовах. Аднак гэта не адзіная магчымая версія; параўн. іншыя бел. назвы такога прыстасавання: *кавіла, чыкірда,* дзе матывацыя 'чыкільгаць'; параўн. яшчэ бел. *казінец* 'скрыўленне ў каленях пярэдніх ног каня, прыроджанае або траўматычнае', укр. *козинець,* рус. *козинец* 'тс'. Не выключана, што матывацыя ў даным выпадку была складанай, шматвобразнай.

**Казá**$_{9}$ 'саха ў студні з жураўлём' (барыс., ДАБМ). Да *каза*$_{1}$; матывацыя: 'прадмет з рагуляй, саха', параўн. серб.-харв. *kȍza* 'прыстасаванне ў выглядзе разгалінаванага дрэва' (сахі), рус. смал. *козёл* 'кол, жардзіна звычайна з перакладзінамі для сушкі гароху, сена і да т. п.', пск. 'павешаны на зрубленае дрэўца з суччамі гарох' і інш. Паводле гэтай метафары ад *каза, казёл* у славянскіх і іншых мовах утворана многа назваў розных прыстасаванняў, аднак меркаваць аб суадносінах гэтых слоў і храналогіі іх утварэння вельмі цяжка.

**Казá**$_{10}$ 'заплечныя насілкі для пераносу цэглы на будаўніцтве' (БРС, ТСБМ). Статус беларускага слова (зафіксавана ў слоўніках літаратурнай мовы) няясны; магчыма, гэта запазычанне. У рускай мове лексема вядома як пск., пенз., уральск., адзначана таксама акадэмічным слоўнікам 1814 г. Польск. *koza* 'прыстасаванне ў выглядзе дошкі з падпоркамі для пераносу цэглы на плячах'. Суседнія гаворкі ведаюць утварэнні ад *каза*$_{1}$, якія называюць падобныя прыстасаванні, параўн., напр., рус. смал. *коза* 'зэдлік, лавачка, на якой коўзаюцца ўзімку', аднак, магчыма, *каза*$_{10}$ не ад *каза* 'лавачка'.

**Казá**$_{11}$ 'дошчачка з выразам на ножках для здымання ботаў' (круп., Нар. сл.). Утворана ад *каза*$_{1}$ (фармальнае падабенства: выраз утварае два ражкі на дошцы, параўн. рус.

усць-лабін., краснадар. *козлик* 'прыстасаванне для знімання ботаў: дошка на падстаўцы з выразам на адным канцы; нагу ў боце ўстаўляюць у выраз, другой становяцца на дошку') або ад *каза* 'назва падставак, зэдлікаў і да т. п.', параўн. рус. смал. *козюлечка* 'зэдлік', а таксама назвы іншых падобных прыстасаванняў, утвораных ад *кабыла, сабака* і інш.

**Казá**$_{12}$ 'сагнуты дрот, на якім дзеці катаюцца на лёдзе' (Жд. 3). Да *каза*$_{1}$; метафара зразумелая, параўн. яшчэ вядомае ў смаленскіх гаворках утварэнне, заснаванае на адпаведнай метафары: *гнуть, гнуться в козиный рог.* Параўн. і наступнае слова.

**Казá**$_{13}$ 'прылада для коўзання з горак' (Бяльк.). Відавочна, тое ж, што і смал. *коза* 'лавачка, абмазаная гноем і потым аблітая вадой і замарожаная, каб добра коўзалася па лёдзе', параўн. прыклад у Бялькевіча, 241: *«Я сяньні ымарозію казу, заўтрі буду кытацца з гары».* Да *каза* 'лавачка', параўн. рус. дыял. *коза* 'лавачка' і маск. 'санкі', якое да *каза*$_{1}$ (матывацыя можа быць рознай, параўн. *каза*$_{10}$, *каза*$_{11}$). Можна як пераноснае ад *каза*$_{13}$ разглядаць *каза*$_{14}$.

**Казá**$_{14}$ 'кавалак лёду, на якім дзеці катаюцца зімой' (зэльв., Сцяшк.). Улічваючы, што слова зафіксавана ў іншай гаворцы, можна меркаваць і аб сувязі з вядомым на заходняй тэрыторыі *каза* 'маленькія санкі', аднак спектр выкарыстання гэтай прылады невядомы. Сюды ж яшчэ і рус. тагільск., свярдл. *козлик* 'кусок металу ў мартэнаўскай печы, які не расплавіўся', аднак гэта значэнне цікавае тым, што дазваляе супаставіць назву *каза* 'кавалак лёду' з *каза*$_{1}$.

**Казá**$_{15}$ 'самагонны апарат' (мазыр., З нар. сл.; Касп.). Да *каза*$_{1}$; матывацыя (па знешняму падабенству?) не зусім ясная, магчыма, у сувязі з наяўнасцю ножак, падставак і інш.

**Казá**$_{16}$ 'веласіпед' (Касп.). Рус. свярдл. *коза* 'пра матацыкліста'. Сувязь з *каза*$_{1}$ быццам бы бясспрэчная; утворана або паводле знешняга падабенства дэталей веласіпеда да рог жывёлы і г. д., або, магчыма, узыходзіць да назваў розных прыстасаванняў, папярочак і да т. п. Не выключана таксама, што асацыяцыя магла быць шматграннай.

**Казá**$_{17}$ 'трыножак' (Мат. Гом.), 'стойка' (там жа). Да *каза*$_{1}$; першапачаткова — назва розных падставак, падпор, названых або па знешняму падабенству да *каза*$_{1}$, або па «дыфузнай» мадэлі, калі такога тыпу прыстасаванні ўтвараюцца ад назваў розных жывёл; пазней — перанос на шматлікія прылады, дзе падабенства магло і не быць. Карм. *каза*

'каганец' (Мат. Гом.) адносіцца або сюды, або, магчыма, да наступнага слова (гл.).

**Казá**$_{18}$ 'драцяная сетка ў форме чарапка, якая ўстанаўліваецца на носе лодкі для раскладвання агню, калі едуць лавіць рыбу' (полац., З нар. сл.). Па распаўсюджанню адносіцца да вядомага смал., пск., наўг., калуж., арханг., цвяр. і інш. *коза* 'разнавіднасць тагана, жалезная рашотка для развядзення агню пры начной лоўлі рыбы восцямі'. На магчымы варыянт тлумачэння ўказвае рус. арханг. «Коза — четыре рога, железна, с трубицей она: на ей дрова толсты, смоляны, лучим ковда», на іншы — бел. карм. *каза* 'каганец', якое, магчыма, як і *каза* 'трыножнік', да *каза* 'падпора, падстаўка і інш.', аднак гэта толькі здагадка, паколькі канкрэтнай інфармацыі аб *казе* (у значэнні 'каганец') гомельскі слоўнік не прыводзіць.

**Казá**$_{19}$ 'прылада для малацьбы' (чач., Мат. Гом.). Гэта рэалія носіць таксама іншыя назвы (*баба, кабыла* і інш.), таму не выключана, што назва *каза* другасная і з'явілася ў выніку адносна вольнага выбару канкрэтнага слова з ліку тых, якія ўжываюцца для ўтварэння шматлікіх тэрмінаў-найменняў розных прыстасаванняў, дэталей гэтых прыстасаванняў, падпор, папярочак і інш. Магчыма, аднак, што ў канкрэтным выпадку абышлося без моцнага ўплыву зааморфных тэрмінаў; у такім разе да *каза* 'падстаўка, падпора' або непасрэдна да *каза*$_1$.

**Казá**$_{20}$ 'падсядзёлак' (смарг., Шатал.). Да *каза*$_1$ (магчыма, праз ступень 'падпорка, папярочка і да т. п.') або ў выніку адэкватнасці ў некаторых выпадках тэрміналагічных *кабылка, каза* і пад.— вольнае ўжыванне любога з гэтых слоў, параўн. рус. пячор., арханг. *кобылка* 'частка сядла', с.-уральск., томск. 'драўляная аснова сядла' і інш. Да выпадкаў мены тэрмінаў можна прывесці вяц. *кобылка* 'козлы', кадн., валаг. *кобыла* 'тс', бел. *каза* 'прыстасаванне для коўзання ўзімку' і рус. уладз., малаж., яраcл. *кобыла* 'разнавіднасць санак: лавачка, якую (каб лепей коўзацца) абліваюць вадой і пакідаюць на марозе', рус. трубч., арл. *кобыла* 'вялікая куча гліны ў ганчароў', ціхв., наўг. *козел* 'тс'.

**Казá**$_{21}$ 'ворат або лябёдка для пад'ёму вулляў і іншых важкіх прадметаў' (Сержп., Бортн.). Да *каза*$_1$, перанос, відаць, у сувязі з наяўнасцю ручак (асацыятыўна: рогі) у прыстасаванні, параўн. *казак*$_5$.

**Казá**$_{22}$ 'падсанкі, маленькія санкі, якія падстаўляюцца пад канец бервяна пры яго перавозцы' (стаўбц., З нар. сл.; лаг.,

КЭС; Мат. Гом.; лаг., віл., Шатал.). Верагодна, да *каза*$_1$ (наяўнасць дзвюх сагнутых палазоў; асацыяцыя з рагамі казы), аднак улічваючы, што тая ж рэалія носіць такія назвы, як *сабачка, сучка* і інш., падобныя назвы, якія могуць лёгка замяняцца ў вельмі дыфузных межах больш-менш аднароднага семантычнага поля, нельга адназначна вырашыць, што тут з'яўляецца калькай, словаўжываннем аднаго тэрміна замест іншага, што з'яўляецца першаснай назвай. Што датычыць іншых версій, то неабходна адмовіцца ад этымалогіі, прапанаванай, напрыклад, Сцяцко (Афікс. наз., 169): «Санкі маглі атрымаць сваю назву (сабачка.— *В. Л.*) паводле пэўных асацыяцый, магчыма, ад таго, што яны заўсёды прывязваліся да саней і беглі за імі (як бяжыць сабака, суправаджаючы гаспадара)...». Такая версія магчымая, але яна, па-першае, не тлумачыць, чаму назва *сабака* практычна не сустракаецца на бел. тэрыторыі, у той жа час шырока прадстаўлена ў некаторых польскіх гаворках, па-другое, яна не дае магчымасці зразумець такія ўтварэнні, як палес. *баба,* маг. *лісіца,* рус. дыял. *собака,* бел. літар. *сука, сучка* 'палена, калода, якая падкладваецца ў санях пад канец бервяна', па-трэцяе, няяснымі застаюцца такія значэнні для гэтых і іншых слоў, як 'лавачка', 'падпора' і мн. інш. Тэрмін *каза* сустракаецца (у асноўным, хаця і невялікім арэале распаўсюджання) на тэрыторыі, дзе ведаюць *сука, сучка* 'падсанкі', або на сумежнай з ёй і гэта не выключае магчымасці як «тэрміназамяшчальных» працэсаў, так і калек (з іншага тэрміна). Між іншым, не выключана магчымасць калькавання ў больш шырокім, магчыма, у еўрапейскім арэале, пра што сведчаць паралелі да бел. *сука, сучка, сабачка* ў розных слав. мовах і размеркаванне гэтага ж тэрміна на польскай моўнай тэрыторыі (гл. Лабко. Бел-польск. ізал., 73—75 і карта на с. 74), дзе выяўляюцца перыферыйныя зоны. Для бел. мовы (і ў канкрэтным выпадку) факты літоўскай мовы і асабліва гаворак сведчаць аб інтэнсіўных працэсах узаемапранікненняў на семантычным узроўні, таму не выключана, што назва з празрыстай матывацыяй раствараецца ў вялікай колькасці паралельных гетэрагенных тэрмінаў, калькуецца, змяняе форму і г. д. Не з'яўляецца выключэннем і назва *падсанкі,* розныя этымалогіі якой з'яўляюцца верагоднымі, аднак без уліку велізарнага матэрыялу, які датычыцца праблемы, усе яны ў той жа час ненадзейныя.

**Казá**$_{23}$ 'сетка для лоўлі рыбы з трыма палкамі' (Касп.). Польск.варм.-маз. *koza* 'сетка для лоўлі рыбы (сецьь, падобная да саней)'. Магчыма, да *каза*$_{22}$, аднак не выключана як самастойнае ўтварэнне ад *каза*$_1$ ў выніку падабенства дэталей

прыстасавання да тых або іншых яркіх адзнак жывёлы (улічваючы геаграфію — калька).

**Каза́**$_{24}$ 'цыбуля' (Мат. Гом.). Як відаць з прыкладу: *«Ну і каза вурасла такая доўгая»* (Мат. Гом., 192), гэта тое ж і зах.-бран. *козка* 'сцябло і зялёнае лісце цыбулі'. Яго можна кваліфікаваць як вузкарэгіянальнае ўсх.-палес. утварэнне, магчыма, ад *каза*$_{1}$; матывацыя няясная. Можна меркаваць, што ўсё ж такі зааморфная назва, параўн. тураў. *бук* 'бык, бугай' і 'бутон, суквецце з сцяблом': *«Тур кустом велікім росце і бук такі велікі», «У нас на лілії кажуць букі».* Аднак калі для апошняга слова, улічваючы значэнні 'бутон, пупышка' можна знайсці матывацыю (рэалізацыя ўяўлення аб магутнасці і інш.), то для *каза*$_{24}$ такое тлумачэнне не зусім падыходзіць. Верагодна дапусціць, што *каза*$_{24}$ з'яўляецца калькай з *бук/бык* у значэнні 'сцябло, суквецце (з сцяблом)', дзе *каза* калькуе тэрмін негатыўна. Такая версія з'яўляецца верагоднай па лінгвагеаграфічнаму крытэрыю. Параўн. яшчэ ўкр. усх.-палес. *козляк* 'парастак бульбы', дзе праглядваецца адмоўная семантыка.

**Каза́**$_{25}$ 'нязжаты касмык жыта, які пакідалі на полі' (кобр., Нар. лекс.), 'недажатая палоска' (Сцяц.), 'касмык травы, пакінуты пры касьбе' (свісл., Шатал.), рус. *коза* 'рэшткі нязжатых каласоў на полі' (драг., Клім.), 'апошняя жменя азімага, якую свянцілі і потым выкарыстоўвалі на пасеў' (драг., Клім.). Укр. харк. *коза* 'паласа, якую праполвае адна жанчына' (Грынч., 264), рус. вяц. *коза* 'апошні сноп на жніве', пецярб., мяшчоўск., калуж., цвяр., пск., с.-уральск. і інш. 'пакінутая нязжатай, невялікая палоска збожжа', валд., наўг., кір. 'вузкая, засеяная чым-небудзь паласа зямлі; паласа, якую жнуць', польск. дыял. *koza* 'вузкая палоска нязжатага збожжа, снапок з гэтага збожжа, упрыгожаны кветкамі, ахвяраваны матцы-зямлі', дыял. *koza* 'вузкая паласа нязжатага збожжа ў жней, якія спазняюцца, звычайна лянівых', чэш. мар. дыял. *zůstává na kozi* 'пра жняца, які спазняецца на рабоце', магчыма, сюды ж серб.-харв. *коза* 'палоска нівы, якая зжынаецца жняцом без пярэрвы'. Да апошняга можна прывесці яшчэ рус. іркуц. *посадить на козулю* 'перагнаць суседа ў рабоце (на касьбе)'. Як паказвае семантыка некаторых з прыведзеных слоў, можна меркаваць аб вельмі архаічным першапачатковым сакральным значэнні *koza* 'пакінутая нязжатай частка збожжа на полі' (у якой хаваецца каза?), дзе *каза* — сімвал плоднасці, а каласы (зярняты) з гэтага апошняга збожжа гарантуюць будучы ўраджай. Варыянтам да гэтага значэння мог быць і такі, дзе *каза* не пакідала-

ся на полі, а ў выглядзе снапа пераносілася ў хату. Параўн. да гэтага зах.-палес. *кветка* 'пучок каласоў, упрыгожаны кветкамі і пакінуты на полі', тураў. *барада* 'пучок каласоў, які спецыяльна звязвалі пры заканчэнні жніва': Да ролі *казы* параўн. такія песенныя формулы: *«Дзе каза ходзіць, там жыта родзіць»* і інш. Аднак, відавочна, што ўжо ў праславянскі час на станоўчую семантыку назвы *каза* пачынае ўплываць адмоўная семантыка гэтага ж слова іншай сферы ўжывання. Не выключана, што працэс быў вельмі складаным і перанос, напрыклад, з спецыяльна пакінутага пучка каласоў на любы пакінуты пучок мог прывесці да з'яўлення назвы 'касмык травы, пакінуты пры касьбе агрэх і да т. п.', а ўжо такі тэрмін мог уплываць на слова, ад якога сам быў утвораны. Ва ўсякім разе гэта дазваляе зразумець зрухі семантыкі ад сакральнай, станоўчай, да адмоўнай, хаця можна меркаваць, што значэнне магло развівацца і наступным шляхам: 'пакінутае нязжатым збожжа' > 'нязжатае збожжа' > 'нявыкананая работа (агрэх у рабоце)'. Цяжка растлумачыць значэнне 'палоска, якую займае адзін жнец'; як сведчыць лінгвагеаграфія прыведзеных слоў (вядома на поўначы (усходзе) і на поўдні славянскага свету) гэта таксама архаічнае значэнне, адкуль развіваюцца такія, як 'вузкая паласа зямлі; паласа, якая прапалваецца'. Можна думаць, што гэта пашырэнне семантыкі больш старога *koza* 'апошняя паласа збожжа, дзе будзе зроблена *koza;* параўн. да гэтага, магчыма, архаічнае ўкр. *козу гнати* (гл. прыклад вышэй). Пра гэта можа сведчыць і балг. *останал на коза,* чэш. і рус. выразы са значэннем 'астацца на казе'(жаць апошнюю палоску, калі ўсе ўжо скончылі работу).

**Казá**26 'агрэх' (івац., Жыв. сл.), 'пропуск пры касьбе' (Жд. 1). Слова непасрэдна суадносіцца з папярэднім і дэманструе тэндэнцыю да ўтварэння значэння 'агрэх' на базе 'нязжаты, пакінуты — няскошаны (касмык)' Параўн. і рус. с.-урал. *козуля* 'агрэх (пры ўборцы збожжа)' Чэкман (Baltistica 8, 1972, 150) мяркуе, што паколькі ў іншых славянскіх мовах у значэнні 'пропуск пры касьбе' ўжываецца слова *барада,* а літоўская мова ведае *ožȳs, ozkà* 'казёл, каза' для 'пропуск пры касьбе, нязжаты касмык травы', то ў бел. мове *каза* 'агрэх' — калька з літ. Аўтар свае меркаванні грунтуе на тым, што ў літ. мове *ožȳs* 'казёл' і *ožȳs* 'агрэх' нейкім чынам звязваюцца (*ožȳs* 'грэх, пра які расказваюць на споведзі'), а ў бел. мове такое пераасэнсаванне малаверагоднае. Што гэта не так, зразумела з папярэдняга артыкула, паколькі як першапачатковае значэнне 'апошняе збожжа', так і больш новае ведаюць не толькі бел. гаворкі, але і іншыя славянскія. Апрача таго, адмоўнае значэнне слоў *каза, казёл* выяўляецца ў розных

лексічных групах, напрыклад у назвах грыбоў. Што датычыць спасылкі на адэкватныя значэнні слова *барада,* гэта толькі супраць аўтара, паколькі тут назіраецца паралелізм у развіцці значэння: *барада* 'апошні сноп', 'апошняя жменя зерня' і *барада* 'пропуск пры касьбе і інш.', падрабязней гл. *каза*25.

**Каза́**27 'памылка пры снаванні красён' (Жд. 1, Сл. паўн.-зах). Параўн.: *«Палажыла я казу: пераскочыла церас калок як снавала, і намучылася, тады казу назад атматала».* Чэкман (Baltistica, 1972, 8, 150) мяркуе, што паколькі славянскія мовы ведаюць у гэтым значэнні іншыя ўтварэнні (бел. *блюзна, блізна,* рус. *близна,* балг. *близна,* серб.-харв. *бли̏зна*), а ў літ. мове *ožỹs, ožkà* 'казёл, каза' ведаюць фактычна ва ўсіх гаворках, значэнне 'памылка пры снаванні' ў бел. *каза* можна лічыць калькай з літ. Спасылка на геаграфічны крытэрый з'яўляецца моцным аргументам, аднак аўтар спасылаецца пры гэтым на акадэмічны слоўнік літоўскай мовы, а слоўнік не падае такой інфармацыі: прыклады пад *ožkà* 'памылка пры снаванні' ўказваюць на Ігналінскі, Зарасайскі і Уценскі раёны (сумежныя з паўн.-зах. беларускай тэрыторыяй), а *ožỹs* у тым жа значэнні — з Юрбаркаса і Райсяняя. Статус гэтага слова не зусім ясны. У даным выпадку няма патрэбы думаць аб запазычанні, а тым больш меркаваць, што зрух семантыкі быў у напрамку ад *ožỹs* 'грэх'да *ožỹs* 'памылка'. Можна прывесці такія ўтварэнні, як *жарабок* 'памылка пры снаванні', *кабылка* 'блюзна', *конь* 'тс', якія даюць падставу бачыць тут змяшэнне або свабоднае ўжыванне тэрмінаў, утвораных ад розных заонімаў. Значэнне 'памылка' магло развіцца з адзначанага ў слове *кабылка* 'пятля' ў канкрэтным выпадку, магло быць натуральным у межах адмоўнай семантыкі слоў *каза, кабыла* і пад., дзе генерацыя як тэрмінаў, так і слоў з размытым значэннем цалкам натуральная. Параўн. рус. горн. *посадить козла* 'астудзіць недаглядам вагранку, калі чыгун яшчэ не выплавіўся: тады ламаюць печ', дыял. *козлы* 'сварка, нелады'.

**Каза́**28 'кольца, якім прымацоўваецца шыйка касы да кассё' (браг., Шатал.). Можна прапанаваць такія варыянты этымалогіі: а) непасрэднае вытворнае ад *каза*1 пры магчымых зааморфных атрыбутах рэаліі (гэтай або такога тыпу), такую назву магло атрымаць кольца з прутка і інш., у якога канцы былі злучаны крыж-накрыж і так звязаны; б) версія, якая ўяўляецца больш верагоднай,— вольная мена тэрміна ў межах больш-менш дыфузнага «тэрміналагічнага» поля. Параўн. укр. усх.-палес. *бабка* 'кольца ў касе, з дапамогай якога злучаецца яна з кассём', магчыма, сюды ж і бел. *бабка* 'вузенькі раменьчык, які звязвае дзве асноўныя часткі цэпа'

(Выг.). Гэта ў сваю чаргу мена тэрмінаў, параўн. дыфузнае значэнне 'штосьці круглае' ў дэрыватаў ад *баба, бабка* і тое ж у *баня, банька; банка;* бел., усх.-палес. укр., зах.-рус.: 'кальцо, якім замацоўваецца каса на касільне'. Што датычыць мены тэрмінаў, вытворных ад *каза,* гл. *казак*5, *казакі* і інш.

***Каза́**29, *къза* 'сузор'е' (віц., Нар. лекс.). Недастатковая інфармацыя і няясны статус слова не дазваляюць гаварыць з упэўненасцю аб этымалогіі. Можна выказаць думку, што слова суадносіцца з польск. *koza* 'сузор'е'. Мяркуючы па прыкладах у Купішэўскага, Słownictwo, 1974, 108, польск. *koza* — калька з лац. *Capella* 'козачка' — 'найбольш яркая зорка ў сузор'і Возніка' яшчэ ў ст.-польск. час (ст.-польск. *koza* і *koziełki, koza* і *kózki, kózka*). Статус чэш. слова няясны, магчыма, паланізм. Бел. слова або таксама запазычана, або, што цяжка пацвердзіць, незалежнае ўтварэнне ад *каза*1, як падобныя назвы зааморфнага паходжання.

**Казадо́й** 'птушка Caprimulgus' (БРС, ТСБМ). Нягледзячы на пашырэнне ў слав. мовах: укр. *козодій,* рус. *козодой,* польск. *kozodój,* чэш. *kozodoj,* славен. *kozodȍj,* серб.-харв. *ко̏зодоj,* балг. уст. *козодой* (лічыцца запазычаннем з рус. мовы), не з'яўляецца старажытным. Паходзіць з лац. *caprimulgus* 'птушка казадой' і 'пастух, чалавек, які доіць коз', *capra* 'каза' і *mulgere* 'даіць'. Лац. слова адлюстроўвае старажытнае павер'е, што гэта птушка ўначы высмоктвае малако ў коз. Аб шляхах запазычання меркаваць цяжка; рус. *козодой* Фасмер (2, 279) лічыў або кніжнай калькай праз ням. *Ziegenmelker* з лац., або непасрэдна з лац. *caprimulgus*. Бел. слова — з рус. або польск. мовы.

**Казадро́ст** 'расліна Anemone nemorosa (казадрост белы)', *казарост* 'расліна Anemone ranunculoides' і 'Anemone nemorosa', 'расліна Veronica beccabunga' (Кіс., фіксацыі Аненкава, Верас і Кісялеўскага з захаду і поўначы Беларусі). Укр. *раст, раст білий, расць, раст зазулин* 'Anemone nemorosa' (Верхратскі, Жэляхоўскі-Нядзільскі і інш.). Можна меркаваць, што тэрыторыя, дзе сустракаецца назва, зах.-укр. *раст, растик, расть, раст* 'Scilla autumnalis', *раст, расть* 'Primula officinalis', *ласт, раст, рост, росторопша* 'Aristolochia clematis', *раст, рапа білий, бычий, расть, ряст* 'Corydalis cava', *ряс жовтий* 'Corydalis marschalliana', *ряс, ряска, раст, ряст* 'Corydalis solida', рус. дыял. *раст* 'Primula veris; Primula officinalis; Aristolochia rotunda', *рост* 'Tulipa Gessnericma, *ростика* 'Scilla cernua', магчыма, арханг. *дрозд* 'Ranunculus anricomus', чэш. *kozi dřist* 'расліна Anemone nemorosa' (сілез., паводле Котта).

Даль прыводзіць таксама *козий-ростъ, козья-ростъ, козья-морда* 'расліна Veronica beccabunga', паводле даных СРНГ, 14, 64, яны зафіксаваны акадэмічным слоўнікам 1847 г. Сувязі з *каза*$_1$ бясспрэчныя. На ўсходзе толькі адна форма (рус. дыял. *козий рост*), якую можна ўпэўнена суаднесці з бел. словамі. На жаль, тэрыторыя рус. слова не адзначана і цяжка меркаваць аб характары сувязей бел. і рус. лексем. Рус. форма тэарэтычна можа з'яўляцца поўнай і першапачатковай, а можа ўяўляць сабой спробу «праэтымалагізаваць» незразумелае *казадрост*. Калі прыняць версію, што *казарост* складанае слова *(каза+рост)*, цяжка вытлумачыць, як магло ўтварыцца такое слова: па беларускіх крыніцах слова *рост, раст* у назвах раслін не адзначаецца. Можна меркаваць, што гэтыя словы маглі трапіць у гаворкі з перасяленцамі. У такім выпадку верагодна, што слова не вытрымала канкурэнцыі з мясцовымі *казелец, курасляп, курыная слепата* і іншымі назвамі гэтых раслін, аднак па мадэлі *курасляп* у гэты час было ўтворана і *казарост*. *Казадрост*, такім чынам, неабходна разглядаць або як з нерэгулярным устаўным *-д-*, або як уплыў іншага слова (гл. вышэй). Той факт, што назва *казарост* і *рост* адносіцца да розных раслін, можа тлумачыцца іх роднаснасцю паводле народнай наменклатуры (знешняе падабенства, функцыянальная адэкватнасць) або пераносам (розныя адзнакі: вясенняя расліны, аднолькавы колер кветак і інш.). Іншая назва расліны *казялец* (гл.) вядомая на поўначы славянскага свету і ў сувязі з *казёл* сумнявацца не прыходзіцца. Лексемы *рост, раст, ряст* і інш. па геаграфіі гэта ўсх.-слав. (укр. і, відавочна, рус., пра бел. матэрыял нельга пакуль што нічога сказаць) утварэнне, магчыма, да *рости* (гл. *рост*). Вяртаючыся да этымалогіі слова *казадрост*, можна адзначыць, што на магчымасць яшчэ адной версіі ўказвае зафіксаванае ў цэнтральным Палессі *конодрок* 'Anemone nemorosa'. Статус слова няясны; не выключана, што яно ўтварае самастойны арэал (працяг або рэшткі зах.-бел. арэала, дзе ведалі слова). Аднак сама фіксацыя вельмі каштоўная, паколькі пацвярджае законнасць злучэння *-др-* у іншых формах і вымушае шукаць сувязі з раслінамі, якія носяць назву *дрок, дрост*, хоць, магчыма, і не з'яўляюцца блізкімі да Anemone, як вышэй разгледжаныя расліны. Лексему *дрост* можна суаднесці з в.-луж. *drěst* 'расліна Potamogeton', *dróst* 'Bigens tripartitus', *dróstnika* 'Potamogeton', н.-луж. *drest, drost*, што пацвярджае як архаічнасць гэтай формы, так і значэнне 'расліна Polygonum і падобныя да яе'. Этымалогія гэтых слоў няпэўная: Мяркулава (Очерки, 42) прапануе: **dersтъ, *dersьnъ, *drestъ, *dresьnъ*, якія да прасл. *dristati*, параўн. яшчэ Шустэр-Шэўц, 3,

168—169; Махэк, *Jména rostl.*, 86—87, 262. Трубачоў (Эт. сл., 5, 110) пад прасл. **drestъ* прыводзіць побач з чэш., славац., в.-луж., н.-луж., польск. рус. і інш. адпаведнікі бел. *дрост* 'расліна Poligonum nodosum'. Там жа звяртаецца ўвага на тое, што, нягледзячы на шматлікія пераўтварэнні формы, найбольш верагодным неабходна лічыць тлумачэнне Мяркулавай. Такім чынам, можна вытлумачыць форму бел. *казадрост,* рус. *козий рост,* чэш. *kozídřist,* аднак цяжка высветліць паралельную назву *казарост*. Не выключана, што трэба разумець гэту форму як другасную ў выніку зацямнення ўнутранай формы, аднак, магчыма, што менавіта разуменне ўнутранай формы прыводзіла да «эўфемістычнай» карэкцыі.

**Каза́к**1 'На Русі ў XV—XVII стст.— вольны чалавек, з прыгонных сялян, халопаў, гарадской беднаты, якія ўцякалі на ўскраіны дзяржавы — Дон, Запарожжа, Яік; у дарэвалюцыйнай Русі: з XVIII ст.— прадстаўнік ваеннага саслоўя — ураджэнец вайсковых абласцей (Кубанскай, Арэнбургскай, войска Данскога і інш.), які быў абавязаны несці службу ў асобых вайсковых часцях за льготнае карыстанне зямлёй; радавы асобых (звычайна кавалерыйскіх) вайсковых часцей; ураджэнец некаторых (былых вайсковых) абласцей СССР' (БРС, ТСБМ, Бяльк.), 'пра спрытнага маладога мужчыну' (ТСБМ); сустракаецца і ў народных песнях (Радч. і інш.). Што датычыць слова *казак* у асноўных значэннях, то гэта ва ўсх.-слав. мовах запазычанне з Усходу: у тур., крым.-тат., казах., кірг., тат., чагат. мовах *казак* 'вольны, незалежны чалавек; шукальнік прыгод, бадзяга', кумык. *казак* 'аружаносец пры феадале, ваенны слуга, дружыннік'. Шлях распаўсюджання слова ва ўсх.-слав. мовах няясны, у ст.-рус. адзначаецца ў грамаце 1395 г., аднак са значэннем 'парабак, батрак' і ў форме з *-о-*. Слаўскі (3, 26) мяркуе (пералічыўшы вядомыя ў большасці славянскіх моў формы), што слова трапіла ў гэтыя мовы з укр. Аднак звяртае на сябе ўвагу, што ў балг. *казак* (з *-а-*), відавочна, з рус. мовы, а Ліндэ для польск. прыводзіў як неўжывальную форму *kazak* (таксама, як бачым, з *-а-*). Аднак у большасці слав. і зах.-еўрап. мовах прадстаўлена менавіта ўкр. форма гэтага слова. Што датычыць бел., яго статус няясны: хоць у ст.-бел. мове і адзначана форма з *-а-,* форма *козакъ* (і вытворныя), відавочна, з'яўляецца асноўнай. Значэнне 'спрытны, малады мужчына' вядомае ўкр. мове. Так, Грынчэнка адзначае, што слова *казак* у народнай паэзіі дапасоўваецца да кожнага маладога чалавека, аднак не выключана, што такое значэнне магло быць не толькі вынікам экспансіі слова рознымі шляхамі, у тым ліку і пры пасрэдніцтве фальклору, але і магло ўзнікнуць самастойна на базе

як новых значэнняў ('кавалерыст' і інш.), так і магчымых старых 'бадзяга'. Параўн. у ст.-польск. *kozak* 'юнак, зух', дыял. 'смяльчак, завадатар, хлопец', рус. дыял. *казак* 'пра смелага, удалага чалавека'.

**Каза́к**$_2$ 'народны танец з паступова нарастаючым тэмпам, а таксама музыка да гэтага танца' (БРС, ТСБМ). Статус слова няясны, магчыма, другаснае ўтварэнне ад *казачок,* а магчыма, тое ж, што і ўкр. *казак* 'танец'. Што датычыць этымалогіі, то нельга сцвярджаць упэўнена: паходзіць гэта слова ад *казак*$_1$*,* ці мае нейкія адносіны да *каза* 'танец' (рускія гаворкі, напрыклад, ведаюць слова *казак* у значэнні 'самец розных жывёл і птушак', параўн. таксама рус. арханг. *казак с казачихой*). Паводле лінгвагеаграфіі і экстралінгвістычнай інфармацыіі, другая версія пакуль што менш надзейная.

**Каза́к**$_3$ 'лён-даўгунец' (БРС, Уладз.), 'сорт высокаўраджайнага аўса' (Сцяц.). Як можна меркаваць па прыкладах, гэта параўнальна новае слова. Сінонім — *велькалён: «Простый л'он пэршы був, а вэл'кол'ун у вojну мыколajивс'ку поjавывся»* (Уладз., 198). Другое значэнне 'авёс', магчыма, другаснае, перанос назвы паводле прыкметы 'вялікі, ураджайны'. Гаворкі рус. мовы ведаюць слова *казак* у дачыненні да розных раслін. Улічваючы, што размова ідзе пра яўна культурны тэрмін, ёсць вялікая верагоднасць таго, што ён запазычаны разам з рэаліяй. Тэарэтычна магчымы і іншы варыянт: самастойнае ўтварэнне ад *казак* 'малады, спрытны мужчына' (параўн. характэрныя дыял. назвы лёну, аўса: *скакун, скочень, ростун*) або моўная трансфармацыя (муж. род) *каза* 'лісце, каліва цыбулі і інш.' Структура такога тыпу (з суф. *-ак*) вядома як у бел., так і ў іншых слав. мовах, параўн. балг. *козак* 'расліна Tragopogon majus', чэш. *kozak* 'назва грыба' і інш.

**Каза́к**$_4$ 'казакін' (Мат. Гом.), 'жаночае верхняе адзенне, пашытае ў зборкі' (рас., Сл. паўн.-зах.). Рус. валаг., наўг., казан. *казак* 'разнавіднасць паддзёўкі са зборкамі, пакрытай сукном' і вядомае на розн. тэрыторыі 'жаночая кофта ў талію, сукенка ў талію і інш.', асташ., цвяр., ленінгр. і інш. 'верхняе жаночае адзенне', польск. уст. *казак* 'кароткі плашч, куртка', больш новае 'доўгая блузка, якая носіцца паверх спадніцы', чэш. *kazak,* славац. *kazak* 'кафтан'. Бел. слова, зафіксаванае ў розных моўных арэалах, або сведчыць пра інфільтрацыі ў перыферыйныя зоны з гаворак суседніх моў, або ўказвае на запазычанне, якое станавілася архаізмам і, трапляючы ў пасіўны запас, гублялася ці магло выцясняцца іншым словам (*казаціна* і да т. п.). Не выключана магчымасць і адваротнай

дэрывацыі (*казак* < *казакін* і пад.). Як культурны тэрмін, *казак* вядомы на шырокай тэрыторыі; слова лічыцца запазычаннем, аднак крыніца і шляхі распаўсюджання слова няясныя. Слаўскі (3, 27) прыводзіць папулярную версію аб тым, што гэта запазычанне з захаду: франц. *casaque* 'кафтан, апанча, плашч; упрыгожаная доўгая блузка', слова вядома з 1413 г., у польск. мове форма *kazak* адзначаецца пазней. Іншыя аўтары (Гараеў, Дзмітрыеў) мяркуюць аб запазычанні з усходу; Дзмітрыеў (Тюрк. эл., 25) прыводзіць татар., баш. *кэзэки* 'нацыянальнае верхняе адзенне мужчын Татарыі і Башкірыі'. Супраць такой этымалогіі рэзка, аднак без аргументацыі выступіў Фасмер (2, 158). Можна звярнуць увагу на тое, што ў рус., бел., укр. гаворках сустракаюцца значэнні 'мужчынскае і жаночае адзенне, блузка', што больш адпавядае версіі аб заходнім запазычанні. Арыстава (Контакты, 59—60) прапанавала ў якасці крыніцы англ. *cassock* 'туніка ў англійскіх свяшчэннікаў', аднак па семантычных і інш. прычынах гэта версія не выглядае надзейнай. На жаль, лінгвагеаграфічны крытэрый адзначыць тут вельмі цяжка, паколькі матэрыял не дазваляе меркаваць, што бел. мова была пасрэднікам распаўсюджання слова. Семантыка прыведзеных слоў паказвае, што разглядаць польск. даныя асобна ад рус. (тут бел. факты былі б інфільтрацыямі з суседніх польск. і адпаведна рус. гаворак) нельга. Што ж датычыць уласна этымалагічнага боку, то думка аб зах.-еўрап. паходжанні слова найбольш абгрунтавана. Крыніцай франц. *casaque* лічаць звычайна італ. *casacca* 'кафтан, апанча', аднак Слаўскі (3, 27—28) прыводзіць вядомыя с.-лац. *casaca* 'разнавіднасць убрання', італ. *casaca* 'куртка' і інш.

**Каза́к**$_5$ 'калаўрот або лябёдка для пад'ёму вулляў і іншых важкіх прадметаў' (Сержп. Борт.). Да *каза*$_1$, перанос паводле зааморфных атрыбутаў рэаліі — наяўнасці ручак (рагоў), параўн. рус. пск. *баран* 'вертыкальны калаўрот', таксама адзначанае Далем спец. (у мяснікоў) 'калаўрот паміж двух слупоў'; ніжагар. 'разнавіднасць санак з ручным калаўротам'.

**Каза́к**$_6$ 'грыб масляк' (Бяльк., Сцяшк.), *козяк* 'абабак, падбярозавік' (кам., Жыв. сл.), 'грыб любы, ядомы, апрача баравіка' (маст., Жыв. сл.; слон., Нар. лекс.), *козяк* 'тс' (кобр., Жыв. сл.). Сцяцко (Дыял. сл.) дае дэфініцыю *казякі* 'грыбы (агульная назва)'. Паводле ўласных запісаў Сцяцко (Нар. лекс., 49) слова *казякі* ведаюць у Маст., Слон., Ваўк. раёнах. Аўтар лічыць, што паходзіць слова ад назвы *казлякі* (*казля́к* 'масляк'). Тут можна бачыць суфіксальнае ўтварэнне ад *каза*$_1$, як аб гэтым думае Сцяцко, Афікс. наз., 146, а магчыма, перанос

назвы ад *казяк* 'казляня', параўн. *каза, казёл, казялок* 'грыб масляк і інш.'. Што датычыцца значэння 'любы грыб (апрача баравіка)', то тут праблема не вельмі ясная, ці гэта абагульненне назваў канкрэтных «чорных» грыбоў (маслякі, ababкі), ці незалежнае ўтварэнне, якое дэманструе ўжыванне заоніма для характарыстыкі зніжанасці, абазначэння другароднасці такіх грыбоў.

***Каза́к**$_7$, *коза́к* 'рухавы смелы чалавек' (ТС). Дакладных адпаведнікаў няма, аднак з іншым значэннем аналагічныя структуры ёсць у некаторых мовах: рус. пячор., арханг. *казак* 'смелы ўдалы чалавек (пра жанчыну)', анеж. *казак* 'пра жанчыну', магчыма, сюды ж асташ., цвяр., пск., арл. *казаки* 'гульня ў гарэлкі'. Як паказваюць структурна адэкватныя лексемы (рус. *казак* 'грыб падбярозавік, Boletus scaber', 'лекавая расліна', *казаки* 'расліна Plantago', польск., чэш., славац. *kozak* 'грыб Boletus scaber', славен. *kozák* 'разнавіднасць грыба, жука', польск. *kozak* 'пастух коз', славін. *kozak* 'недарэка і інш.', чэш. *kozak* 'пастух коз'). Параўн. таксама іншыя ўтварэнні ў бел. мове (гл. *казак*), тут дэрыват ад *каза*$_1$, аб тыпе словаўтварэння гл. Сцяцко, Словаўтв. 146. Да семантыкі можна прывесці рус. мяшч., калуж. *козёл* 'пра жывога, рухавага чалавека' і рус. *казакаться* 'важнічаць, наравіцца', якое па семантыцы быццам бы не супадае, аднак параўн. рус. *козокаться* 'наравіцца, важнічаць, сварыцца, круціцца, не стаяць на адным месцы і інш.', *козохаться* 'тс', арханг. *козой* (з іншым суфіксам) 'упарты, лодыр', *козон* 'пра жвавую, вяртлявую жанчыну', *козанок* 'пра малое дзіця, якое дрэнна расце', 'пра жвавага чалавека', 'пра жвавую дзяўчынку', 'пра жвавае, смелае дзіця', *козыкаться* 'ўпарціцца' і 'важнічаць' (пск. і інш.); параўн. яшчэ рус. дыял. *козлиться* 'гарэзіць, скакаць', 'упарціцца', 'сердаваць, злавацца', *козлокать* 'скакаць, гарэзіць'. Пры аналізе першай групы рус. прыкладаў неабходна мець на ўвазе магчымыя ўзаемаўплывы дэрыватаў ад *коза* і *козырь, козыриться,* а таксама і інш. слоў. Што датычыць бел. слова, уплыў лексемы *казак* 'вольны чалавек' і інш. не выключаны, ім можна тлумачыць спарадычнасць утварэнняў з *-ак-* суфіксацыяй ва ўсх.-слав. мовах і паслядоўныя запісы рус. адпаведнікаў *(казак)* з *-а-*.

***Каза́к**$_8$, *коза́к* 'укладка нарыхтаваных дроў у лесе' (ТС). Магчыма (гл. *казачок* 'мера дроў'), суадносіцца з рус. арл., болхаўск. *казак* 'мера дроў, 1/16 кубічнага сажня'. Як і іншыя ўтварэнні (параўн. *казак*), мы лічым гэта слова вытворным ад *каза*$_1$. Што датычыць семантыкі, параўн. рус. малаарханг.,

арл. *складывать в козлы* 'складваць адзін кусок торфу на другі, сценкай', 'складваць цагліны: адны плазам, іншыя стаўма, каб паміж імі засталіся адтуліны для паветра', укр. усх.-палес. *козлік* 'укладка торфу', магчыма, сюды ж шматлікія дэрываты ад *каза, казёл* — найменні ўкладкі снапоў, як спецыяльных, ад дажджу, так і традыцыйных. Сувязь з назвай жывёлы становіцца яснай, калі параўнаць з утварэннямі, якія называюць Т-падобныя прыстасаванні, дэталі (што разумеецца або як зааморфная адзнака непасрэдна або ўскосна), або з рознымі ўкладкамі (снапоў і інш.), як устойлівымі канструкцыямі.

**Казакі** 'адуванчыкі, расліна Taraxacum Officinale' (Мат. Гом.), 'гарлянка паўзучая, Ajuga reptans' (брэсц., гродз., Кіс.), *козакі* 'Ranunculus acer; Consolida regalis; Primula veris'. Этымалагічна гэта слова паходзіць ад *каза*$_1$ (суфікс *-ак,* аснова *каз-*), такая ж структура вядома і ў іншых мовах: польск. *kozak,* чэш. *kozak* 'грыб Boletus scaber', балг. *козак* 'расліна Tragopogon majus'. Матывацыя, аднак, у назвах асобных раслін розная і заслугоўвае асобнага разгляду.

**Казакі**$_1$ 'адуванчыкі, Taraxacum'(Кіс). Як верагодныя варыянты матывацыі могуць быць прапанаваны наступныя. Перанос назвы ад *каза*$_1$ па знешняму падабенству быццам бы малаверагодны, таму можна меркаваць аб пераносе, у аснове якога ляжыць уяўленне аб горкім смаку соку адуванчыка. Гэта вядомая матывацыя: у аснове ляжыць уяўленне аб бескарыснасці або шкоднасці расліны і інш.; параўн. укр. дыял. *вовчий зуб, жабник.* Іншая версія — ад *каза*$_1$ пад уплывам *казялец* і інш. (перанос па колеру). Магчымы варыянт — ужыванне назвы іншай расліны *казак* для абазначэння вядомых лекавых уласцівасцей Taraxacum. Можна бачыць тут дэрыват ад *каза* 'лісце, каліва цыбулі' і да т. п.: адуванчыкі з бутонамі нагадваюць стрэлкі цыбулі з насеннем. Улічваючы, што тэрміны ад заонімаў лёгка замяшчаюцца, можна меркаваць, што тут мела месца замяшчэнне вядомага на ўсх.-палес. тэрыторыі (параўн. у Лысенкі, Пал., *баба* 'Taraxacum officinales') слова *баба* для гэтай расліны. Параўн. яшчэ бел. і інш. слав. *бабка* 'расліна трыпутнік, Plantago' і смал., ельн. *казаки* 'Plantago medion P. lanceolata'. Магчымасць такога працэсу пацвярджаецца дублетамі *бабка/каза* 'кальцо, якім прымацоўваецца шыйка касы да кассяʼ (усх.-палес.), бел. дыял. *гырчак баб'і* 'драсён', інш. назвы — *дрост* і *казадрост* 'кураслеп', бел. дыял. *баба* 'саха ў студні з жураўлём' і *каза* 'тс' *бабка* 'грыб Boletus scaberi', рус. *казак,* польск. *kozak* 'тс', таксама ўкр. усх.-палес. *бабка* 'конік (насякомае)' і *конік,*

шматлікія дэрываты такога тыпу ад *казёл* і інш. Некаторыя з прыведзеных слоў гістарычна маглі ўтварыцца па-рознаму, аднак мы звяртаем увагу на сам факт наяўнасці дублетаў і як вынік — вольны выбар падыходзячай тэрміналогіі. Матывацыя ў выпадку з *баба* 'Taraxacum' становіцца зразумелай, калі параўнаць назвы раслін з круглымі кветкамі: укр. дыял. *бабка, попове гуменце, пупава, баранки* 'Taraxacum officinale' і *макушка, орішок, головняк* 'розныя віды Trifolium', параўн. яшчэ бел. *бабкі* 'расліна Trifolium repens' (Бейл.). Да разумення ўнутранай формы параўн. яшчэ дзіцячую гульню-загадку, калі на адуванчык дзьмуць, а перад гэтым загадваюць, што атрымаецца: дзед ці баба? Аб іншых варыянтах тлумачэння *баба* ў гэтых значэннях гл. Краўчук, БЛ., 1974, 6, 65.

**Казакі**$_2$ 'гарлянка паўзучая, Ajuga reptans' (брэсц., Федароўскі; гродз., Верас). У даным выпадку можна меркаваць аб сувязі з назвай *каза*$_1$ на аснове знешняга падабенства: сцябло і лісце расліны пакрыты шматлікімі шчацінкамі; іншая магчымасць — па форме кветкі,— гэта расліна з сямейства Labiatae, і таму параўнанне кветкі з галавой жывёлы натуральна; што ж датычыць канкрэтнага віду, то ў яго кветцы на канцы ўтвараецца некалькі характэрна адагнутых уніз пялёсткаў. Менш верагодны перанос назвы з іншай расліны па функцыянальнай прыкмеце. A. reptans з'яўляецца лекавай раслінай (гл. Z našej prirody, 339), аднак як лекавая яна малаўжывальная. Іншыя назвы для A. reptans *гарлянка, гандзель, гарлавінка, жывучка, разрыў* таксама не сведчаць пра такое яе выкарыстанне (калі толькі не дапускаць, што назва *гарлянка* адначасова з'яўляецца выражэннем яе карысных уласцівасцей); параўн. да гэтага сярэдневяковае павер'е ў дачыненні да пралескі (Hepatika nobilis: рус. *печеночница*) аб тым, што, падобная лісцем на печань, гэта расліна лечыць хваробы печані.

**Казакі**$_3$ 'казялец едкі, Ranunculus acer' (Бейл.). Сувязь з *каза*$_1$ бясспрэчная: параўн. паралельныя *казялец, казлы, казялкі*. Можна меркаваць, што тут ужыванне вядомай на Палессі назвы *казакі* або незалежнае ўтварэнне (відаць пад уплывам *казёл* з суседніх гаворак). Матывацыя празрыстая: параўн. лац. відавую назву *acer* 'едкі', бел. дыял. назвы казяльца *зараза, курыная слепата* (апошняе па колеру), укр. *лютий цвіт,* рус. *лютик,* укр. *прищирник;* паводле сваёй едкасці расліна атрымлівае адмоўную характарыстыку найменнем, утвораным ад *каза*$_1$. У славянскіх мовах дэрываты ад *каза* і пад. у такіх значэннях могуць выступаць як тоесныя дэрыватам ад *воўк* і пад. Параўн. серб.-харв. *ко̏зе* 'воспа' і рус. *вол-*

*чанка* і лац. назву хваробы *lupus*, параўн. таксама шматлікія дэрываты ад *воўк* у назвах атрутных раслін.

**Казакі**$_4$ 'расліна Consolida regalis (=Delphinium consolida)' (Бейл.). Бясспрэчна, да *каза*$_1$; метафара зразумелая, калі згадаць рагатыя кветкі гэтай расліны. Вельмі красамоўныя народныя назвы: бел. *рагулькі, козлікі, тапаркі* і інш., рус. *сокирки, грабельки, рогульки, комаровы носики, козельчики,* укр. *козенька, козенка, козличка, козлики, сокірка, заячі ушка* і да т. п.

**Казакі**$_5$ 'расліна Primula veris' (Бейл.). Нельга меркаваць аб непасрэдным утварэнні гэтай назвы ад *каза*$_1$. Думаецца, што тут адзін з выпадкаў, калі існуючае найменне *казакі* канкрэтных раслін (або толькі адной расліны) пераносіцца на іншую. Матывацыя можа быць рознай; што ж датычыць *казакі* 'Primula', можна прапанаваць наступныя варыянты тлумачэння. Яркія адзнакі расліны — раннія кветкі (параўн. рус. первоцвет) і іх жоўты колер. Відаць, веснавыя расліны разглядаліся недыферэнцыравана, аб гэтым сведчаць такія назвы для Primula, як укр. нар. *пролiски, просерень, раст, ряст* — назвы агульныя для некаторых веснавых раслін; сярод сінанімічных найменняў веснавых кветак сустракаюцца і дэрываты ад *каза, казёл.* Сярод укр. тэрмінаў для Primula звяртаюць увагу *курача слiпота, курина слiпота, слiпота.* Гэтыя ж назвы тыповыя і для іншых як веснавых раслін, так і больш позніх. К ліку гэтых назваў — дэрываты ад *каза, казёл* і пад.; матывацыя — атрутныя, нарыўныя ўласцівасці раслін. І апошняе: перанос мог адбыцца дзякуючы таму, што расліны з лекавымі ўласцівасцямі могуць або разглядацца недыферынцыравана, або называцца адным тэрмінам для абазначэння іх каштоўнасці. Параўн. да апошняга рус. дыял. *«Есть трава казак, ото всего хорошо пить»* (томск. і інш.).

**Казакін** 'мужчынскае верхняе адзенне на апліках, са зборкамі ззаду' (ТСБМ), 'верхняя вопратка доўгага памеру, сабраная ў таліі' (Інстр. I). Статус слова няясны, гаворкі ведаюць іншую форму *(казачына)*. Відавочнае запазычанне, аднак адкуль — цяжка вызначыць. Польская мова ведае kozakinka 'сукенка без рукавоў'; Ліндэ зафіксаваў толькі формы з *-а-: kazakinka, kazakina, kasakina,* што фанетычна адпавядае мяркуемай крыніцы запазычання — франц. *casaquin* 'кафтан, апанча, плашч і інш.' ( < *casaque* 'тс'). Польск. слова — другаснае, таму тэарытычна папярэдняя форма магла быць крыніцай запазычання для бел. *казакін.* Аднак шэраг прычын (семантыка, адсутнасць дыялектных фіксацый і інш.) прымушае прыняць версію аб запазычанні з рус. Наяўнасць

у рус. гаворках такога слова, як *казакинка* 'разнавіднасць жаночай і мужчынскай паддзёўкі' (пакр., уладз. *казакинт* 'мужчынскае адзенне казакін' (чарап., наўг.), сведчыць аб тым, што суадносіны рус. і польск. слоў вельмі складаныя, калі мець на ўвазе шляхі пранікнення гэтага запазычання. Параўн. *казак* 'тс' (гл.).

**Каза́н**₁ 'кацёл з круглым дном і шырокім верхам' (БРС, ТСБМ, Касп., Радч., Рас., Шатал., Янк.), 'чыгунны кацёл' (Нас.), 'чыгун, вялікі чыгун' (арх. ГУ; палес., З нар. сл.; Мат. Гом.), 'чыгунок' (Др.-Падб.; рэч., Нар. сл.). Што датычыць лінгвагеаграфіі, цікава адзначыць, што Сл. паўн.-зах. гаворак улічвае толькі адну фіксацыю слова *казан,* якое паходзіць з Рагачоўскага раёна, г. зн. што слова вядомае ў паўн., усх. і палес. (усх.-палес) гаворках. Паколькі яно безумоўна з'яўляецца запазычаннем, то гэта пранікненне з рус. мовы (кур., арл., тульск., маск., бран., цвяр., наўг.). Слова ведае і ўкр. мова, аднак крыніцай запазычання ўкр. *казан* для бел., як паказвае геаграфія, быць не магло. Рус. *казан* — запазычанне з усходу, параўн. тур., тат. *kazan* 'кацёл'. Ямельчанка (Тюркизмы, 168—169) адзначае, што *казан* 'вялікі кацёл' цюрк. мовы ў ліку некаторых іншых слоў запазычылі з араб. або перс. мовы. Такая этымалогія не падтрымліваецца ў новых слоўніках, параўн., напр., БЕР, 2, 137, дзе аўтары супраць запазычання перс. *hāzgān* у тур. мову; там жа адносна тур. *kazan: kazmak* 'капаць, дзяўбці, выразаць'.

**Каза́н**₂ 'паглыбленне круглай формы на полі' (рэч., Яшк.). Рэгіянальны перанос ад вядомага на гэтай тэрыторыі *казан* 'кацёл'. Тыпалагічныя паралелі: укр. кіравагр. *казанок* 'упадзіна круглай формы', серб.-харв. *kazan* 'катлавіна'. Мадэль падобных пераносаў (назва посуду > геаграфічны тэрмін) шырока вядома ў славянскім свеце. Параўн. бел. *кадоўб* у такіх значэннях, рус. *котел,* славен. *déža,* дыял. рус. *ендова* і інш., агляд мадэлі гл. у Талстога, Геогр., 218—229.

**Каза́ць** 'выказваць у вуснай форме якія-небудзь думкі, меркаванні, расказваць, гаварыць' (БРС, ТСБМ, Бяльк.; міёр., З нар. сл.; Гарэц., Касп.; палес., КЭС; Мал., Нас., Нік. Напаў., Сержп., Радч., Сцяшк., Шат., Яруш.), 'абавязваць, загадваць (БРС, ТСБМ, Нас.), 'паказваць' (ТСБМ). Крыніцы, на жаль, вельмі неаб'ектыўна паказваюць геаграфію слова; гэта зразумела, таму што дыферэнцыяльныя слоўнікі не ўключаюць лексіку такога тыпу. У іншых слав. мовах: укр. *казати* 'гаварыць, абавязваць', *казатися* 'паказвацца, яўляцца', рус. *казать*

'паказваць', 'гаварыць', 'абавязваць', 'даваць параду, вучыць', *казаться* 'паяўляцца' і інш., польск. *kazać* 'расказваць, настаўляць', 'прапаведаваць', 'абавязваць', 'патрабаваць', славін. *kãzac* 'прапаведаваць', каш. *kazac* 'прапаведаваць', 'загадваць, абавязваць', н.-луж. *kazaś* 'загадваць', 'запрашаць' і інш., в.-луж. *kazać* 'загадваць, патрабаваць', чэш. *kázati* 'прапаведаваць', 'загадваць', славац. *kázat'* 'загадваць', 'чытаць пропаведзь', славен. *kázati* 'паказваць', серб.-харв. *kȃzati* 'выказаць, паказаць', макед. *каже* 'выказаць', 'паказаць', балг. *кажа* 'выказаць', 'назваць', 'загадаць'. Паводле Трубачова, Эт. сл., 9, 169, прасл. форма гэтых слоў *kazati* дуратыўны дзеяслоў на *-ati* з падоўжаным каранёвым галосным $a < \bar{o}$. Слоўнік дапускае, што ў аснове *kazati* ляжыць, такім чынам, **koz-*, якое непасрэдна ў слав. мовах не зафіксавана. Магчыма, існаванне такой формы ўскосна пацвярджае быццам бы роднаснае *čeznǫti,* дзе, як нейкі эквівалент нулявой ступені, рэгулярнай для дзеясловаў на *-nǫti,* прысутнічае апафанічна зыходная ступень *-е-*. Адносна семантыкі Слаўскі (2, 110) мяркуе, што зыходным значэннем было 'даць магчымасць бачыць, аглядаць' ('даць бачыць', 'паказаць'). Развіццё гэтага — з'яўленне значэння 'гаварыць' ($\geqslant$ 'расказваць, загадваць') і інш. Агульная семантыка 'звяртаць нечым увагу на што-н. (з дапамогай жэста або слоў)'. У якасці паралелі прыводзіцца лац. *dīcō* 'кажу' пры грэч. δείκνῡμι, 'паказаць' (так яшчэ ў Патабні, РФВ, III, 1880, 102—103). Трубачоў (Эт. сл., 9, 169), прымаючы такую версію, мяркуе, што на гэтай жа падставе сюды неабходна аднесці і каўзатыўнае *kaziti,* уласна 'меціць' → 'псаваць', нягледзячы на тое што *kazati* і *kaziti* звычайна разглядаюцца асобна. Ніжэй Трубачоў (там жа) падкрэслівае, што для гнязда *kazati, kaziti, čeznǫti* дамінуючымі і зыходнымі былі значэнні 'паказваць, рабіць знак, меціць', па гэтай прычыне некаторыя з і.-е. паралелей нельга лічыць надзейнымі. Для слав. *kazati* мяркуецца сувязь з і.-е. *$k^{u}ek$, *$k^{u}ok$-* 'блішчаць, паказвацца; бачыць' (Слаўскі, 2, 110). З лексемных адпаведнікаў можна прывесці ст.-інд. *kā́śate* 'з'яўляецца, блішчыць', ст.-іран. *čašte* 'ён вучыць', *ākasat* '(ён) пабачыў', грэч. τέχμαϱ 'знак, прыкмета'. Што ж датычыцца адзначаных у славянскіх мовах значэнняў, то пры іх аналізе, на думку Слаўскага (там жа), неабходна лічыцца з магчымым уплывам прыставачных утварэнняў. Параўн. яшчэ Махэк$_2$, 246, дзе прапануецца выводзіць слав. *kazati* з і.-е. **kās,* аб чым можна меркаваць, параўноўваючы слав. *kazati* са ст.-інд. *śā́s-ti* 'паказвае, папракае, павучае і інш.'. Аднак гэта версія мала пераканаўчая па прычыне неадэкватнасці фанетыкі слав. і ст.-інд. слоў. Няясныя магчымыя трансфар-

мацыі фанетыкі і для Махэка, і таму ён дапускае адваротны ўплыў на *kazati* прасл. *kazпь* (гл. Махэк₂, там жа).

**Қазаціна** ’казакін’ (БРС, ТСБМ). Словаўтварэнне празрыстае — адаптацыя запазычанага слова, уключэнне яго ў сістэму дэрыватаў з *-іна,* паколькі арыгінал — франц. *casaquin* натуральна патрабуе такой пераробкі суфікса пры ўключэнні ў слав. сістэму. Няясна, аднак, у якой мове адбыліся трансфармацыі: польск. мова ведала форму *kazakina, kasakina* (зафіксавана ў Ліндэ), вядомыя таксама і палес. *козачына, козачіна.* Па сутнасці, адказам на пытанне было б прынящце версіі, па якой *казаціна* — беларуская інавацыя на базе вядомага бел. усх.-палес. *казачына, казачіна,* якія ў выніку ад'ідэацыі да *козак* утвораны або ад *козак* ’адзенне, адзенне казацкае’, або ад *козакін* у тым жа значэнні. Не выключана, што ўсх.-палес. *казачына* адлюстроўвае вядомую ўкр. форму. Қалі меркаваць, што ў бел. *казаціна -ц-* не было вынікам уласна фанетычных працэсаў, можна меркаваць аб уплыве як дэрыватаў, так і верагодных выразаў з *казацкі,* дзе *-ц-* з'яўляецца заканамерным. Ва ўсякім разе любая з прапанаваных версій прадугледжвае пераўтварэнне слова ў беларускіх гаворках, а гэтаму пярэчаць крыніцы літаратурнай мовы, дзе яно адзначана, хаця слова не мае яўна літаратурнага характару. І ўсё-такі можна думаць, што ў казаціна *-ц-* не з *-ч-* і не з *-к-* (па другой версіі), а з *-т'-*. Гэта вымушае звярнуцца да матэрыялаў рус. гаворак, для якіх *т'* < *к'* — працэс рэгулярны. Рус. гаворкі (раст., смал., цвяр., чарап., наўг.) ведаюць форму *казатин* ’мужчынскае адзенне, казакін’ (разан., караган., алан.) ’жаночая паддзёўка’ (кірыл., наўг.), *казатина* ’мужчынскае верхняе адзенне, казакін’ (алан., наўг. і інш.), *казакитинка* ’разнавіднасць мужчынскай і жаночай паддзёўкі’. Гэтыя факты дазваляюць меркаваць, што бел. *казаціна* паходзіць менавіта з такіх форм, што вызначае крыніцу літар. слова ва ўсх.-бел. або паўн.-усх. бел. гаворках.

**Қазачы́на** ’святочная світка’ (Гарэц., рэч., Маш.; Мат. Гом., Федар.), ’кажух’ (Мат. Гом.). Нельга аддзяліць ад укр. усх.-палес. *козачіна, козачына,* якое можа ўзыходзіць або да формы *козакін (казакін)* з ад'ідэацыяй да *козак,* што тлумачыць фанетыку і адаптацыю залежнага суфікса да слав. формы, або з вядомай некалькім мовам формы *козак, казак* ’адзенне’ з афармленнем па тыпу *кажушына.* На такую версію ўказвае ўкр. усх.-палес. *козачка* ў тым жа значэнні, бел. усх.-палес. *казачок* — памянш. да *казак* ’адзенне’, зах.-бран. *казачка.* Аб этымалогіі гл. *казак, казакін.*

**Казачо́к**$_1$ ’народны танец з паступова нарастаючым тэмпам, а таксама музыка для гэтага танца’(БРС, ТСБМ, Бяльк.; віц., КЭС; Мат. Гом., Сержп. Грам., Шат.). Калі слова — не беларускі наватвор ад *казак* у гэтым жа значэнні, то, паводле лінгвагеаграфічных даных, можна меркаваць аб уплыве рус. гаворак, аднак аб геаграфіі рус. слова нельга сказаць нічога пэўнага. Даль (2, 177) адзначае: «казачок... известный вид пляски, перенятой у казаков». Аб этымалогіі гл. *казак*$_2$.

**Казачо́к**$_2$ ’васьмушка, 1/8 куб. сажня дроў, прыблізна адзін воз’ (Бяльк., Шат.), ’мера каля 2 вазоў’ (Жд. 2) ’мера дроў, 1/16 кубічнага сажня’. Можна меркаваць аб сувязі з *каза*$_1$ (утваральнай аснове *каз-*), параўн. бел. гом. *казёл* ’мера дроў, 2,5 м$^3$’, рус. арханг. *козлец* ’маленькі воз сена’. Аб тэрміналагічных утварэннях ад такой асновы гл. *казак, казакі*. Што датычыцца матывацыі ўтварэння, ёсць тэрміны-дэрываты ад *каза, казёл,* якія абазначаюць спецыяльную (напрыклад, для аховы ад дажджу) укладку снапоў у полі, рус. *складывать в козлы* ’складваць адзін кусок торфа на другі сценкай’ (м.-арханг., арл.) і ’складваць цагліны, укладваючы адны плазам, а другія стаўма так, каб паміж імі заставаліся прамежкі для доступу паветра’ (маск.). Матывацыя такая ж, што і тэрмінаў, якія абазначаюць перакладзіны, Т-падобныя прыстасаванні і сувязь з лексемамі *каза, казёл* відавочныя. Можна дапусціць, што спецыяльная (для прасушкі) укладка дроў у лесе была аднаго канкрэтнага памеру, што пры ўмове наймення такой укладкі дэрыватам ад *каза*$_1$ магло прывесці да ўтварэння назвы меры. Зразумелым становіцца і дробнае (ад сажня) значэнне меры. Рус. арханг. *козлец* ’маленькі воз сена’ можна разумець як аргумент на карысць гэтай жа этымалогіі ($<$ *козлец* ’укладка снапоў’). Падобны тэрмін мог паходзіць непасрэдна ад *козлец* ($<$ *козел*) дзякуючы сваім зааморфным прыкметам (форма палазоў і інш.). Паколькі такога роду ўтварэнні (гл. тэрміны ад *каза*$_1$ ў бел.) вядомыя, параўн. рус. дыял. *казак* ’рагуліна, ручка ў сахі, якой араты трымае саху’, можна меркаваць і аб спецыфічнай назве воза, як спецыяльнага, каб вазіць дровы, так і маленькага (які мог атрымаць такое найменне не толькі па яўна зааморфных адзнаках, але і ў кантэксце параўнання з вялікім возам), у тым ліку і ручных санак (саматужак). Што датычыцца апошняй рэаліі, то магчымая сувязь назвы *каза,* якая адзначана для маленькіх санак, з *каза*$_1$ магла быць вельмі ўскоснай. Бел. *казачок* ’мера каля двух вазоў’ можна разглядаць як развіццё значэння слова паводле другой версіі або як аргумент на карысць першай: тады *казачок* ’укладка дроў, якая размяшчаецца на адным (двух) возе’. Статус бел. слова не зусім ясны — рус.

паралелі дазваляюць меркаваць, што намінацыі такога тыпу былі вядомы больш шырока на ўсх.-слав. тэрыторыі. Магчыма, гэта выклікана спецыяльным характарам слова і наступнай яго экспансіяй, аднак аб цэнтры (у сэнсе зыходнага пункта) інавацыі меркаваць як у гэтым, так і ў іншых выпадках такога тыпу вельмі цяжка.

**Казая́тка** ’куртка’ (Грыг.; брасл., Нар. словатв.). Запазычанне з польск., параўн. польск. уст. (у Тротца, Ліндэ) *kazyatka* ’кафтан, куртка’ і засведчаныя ў XVI—XVII стст. такія формы, як *kazyaka, kozyjaka, kazyjaczka* і інш. Аб часе запазычання нельга сказаць нічога пэўнага: ст.-бел. мова ведала форму *казыяка* ’жаночы кафтан’ з XVI ст. Слаўскі (3, 27) адзначае, што ў польск. мове гэта заходняе запазычанне і прыводзіць швед. дыял.— *kasjakka,* дац. *kasjak* ’верхняе адзенне, кафтан’, а ў якасці крыніцы запазычання мяркуецца, відаць, франц. *casaque* ’кафтан, апанча, плашч’, гл. падрабязней *казак*₄.

**Казе́ка** ’мошка; вош’ (Нас.). Утворана ад асновы *каз-* (гл. *каза*₁), словаўтварэнне няяснае: суфікс *ек-а* (звычайна рэдка сустракаецца) або трансфармацыя іншых вытворных ад гэтай жа асновы. Матывацыя: наяўнасць зааморфных прыкмет (рожкі, вусікі; паводзіны насякомых); калькаванне або субстытуцыя іншых тэрмінаў ад заонімаў. Слова выглядае як бел. інавацыя: смал. *казека* ’вош’ нельга аддзяляць ад бел. слова, а ўкр. *козяка,* якое СРНГ (14, 58) параўноўвае з смал. і бел. словамі, сюды наогул не адносіцца.

**Казе́лак,** *казялок* ’расліна казлабарод лугавы, Tragopogon pratensis’ (Кіс.). Укр. *козелок* ’тс’, рус. *козелок* ’казёл’ і ’расліна Sonchus oleraceus’, што ж датычыцца значэння ’Tragopogon’, зафіксавана форма *козёлик* (маск.) і інш. Сувязь з **казялок < казёл* бяспрэчная, аднак цяжка высветліць, ці тут канкрэтна рэгіянальнае ўтварэнне на базе яўнай зааморфнай прыкметы расліны (аб гэтым сведчаць іншыя назвы), ці трансфармацыя батанічнага тэрміна, які поўнасцю (*казлабарод,* укр. *козлова борода* і інш.) або часткова калькуе лац. назву? У лац. тэрміне адна частка да грэч. πώγων ’барада’, другая да грэч. τράγος ’казёл’, якія калькуюцца і ў іншых мовах, параўн. ням. *Weisen-Bocksbart* ’тс’. Рускі акадэмічны слоўнік 1911 г. адзначаў, што *козья борода, бородка* ’Tragopogon pratensis’ — народныя назвы расліны, аднак гэта нельга разглядаць як сур’ёзны аргумент на карысць першай думкі. Зааморфная прыкмета ў гэтай расліны не вельмі

яркая і ўжо сам факт калькавання лац. назвы сведчыць пра магчымы ўплыў батанічнага тэрміна на народныя, дарэчы, даволі рэдкія назвы.

**Казе́лец**1 'расліна Ranunculus acer і пад.' (БРС, Бяльк., Гарэц., Касп., Мядзв.), 'ветраніца', 'расліна, якая мае ядавітыя ўласцівасці' (стаўбц., Прышч. дыс.). Укр. *козелець* 'Ranunculus acer', рус. *козелец* 'розныя віды Ranunculus'. Звяртае на сябе ўвагу, што асноўныя фіксацыі слова з такім значэннем выяўлены на смал. і валаг. тэрыторыі, а спарадычныя фіксацыі такой назвы для некалькіх іншых, больш далёкіх раслін адзначаны і на іншай рускай тэрыторыі. Меркаваць аб украінскай тэрыторыі цяжка. У польск. мове *kozielec* адзначана ў XVI ст. для расліны Anemone ranunculoides, тое ж і рус. *козелец,* што можа азначаць другасны перанос (расліны, падобныя кветкамі і інш.). Чэш. дыял. *kozelec*, абазначае іншую расліну і матывацыя там (па паху карэнішча) іншая. Словаўтварэнне цяжка вытлумачыць, зыходзячы з бел. асноўнай формы з націскам на другім складзе, магчыма, гэта форма позняя. Слаўскі (3, 33) адзначаў, што польск. формы *koziełek* (ст.-польск., адзначаная прыблізна каля 1500 г.) — вынік кантамінацыі *kozłek* і *koziełk*; ст.-польск. *koziełek* суадносіцца са ст.-польск. *koźlec* 'казёл'; параўнаць зах.-слав. і ўсх.-слав. формы цяжка.

***Казе́лец**2, *козелец* 'расліна сівец, Nardus stricta' (лельч., Нар. лекс.). Такія назвы, як бел. *пясюк, чортава барада,* укр. *мичка, псяга, свинюх, щетячка, шерстянка,* адназначна характарызуюць гэту цяжкую для касьбы траву. Да семантыкі параўн. яшчэ бел. *казаваты* 'пра цвёрдае валакно лёну ці пянькі' (КЭС, лаг.), балг. *козина* 'поўсць казы, ваўка або іншай жывёлы'.

**Казе́лец**3 'прырэчнае і наогул нізкае лугавое месца, дзе расце казелец Ranunculus Flammula' (слаўг., Яшк.). Відавочна, да *казелец*1*,* аб падобным тыпе ўтварэння параўн. *мох* 'прыбалоцце, балота' падрабязней гл. Талстой, Геагр., 164—165.

**Казе́лец**4 'хвароба ног, накшталт падагры' (талач., Мядзв.). Рэгіянальнае ўтварэнне, назва суадносіцца з асновай *казёл-* і далей да *каза* (гл.), аб словаўтварэнні параўн. *казелец*1. Што датычыць семантыкі, то неабходна звярнуць увагу на больш шырока вядомае *казінец* 'хвароба ног у коней, пры якой нага згінаецца і становіцца падобнай на казіную', якое адрозніваецца ад разглядаемага слова і больш празрыстай структурай і відавочнай семантыкай.

**Казе́лкі** 'кружкі ў «чапёлках» красён, па якіх праходзіць вяровачка і рухае ніты' (Інстр. II). Калі дэфініцыя правільная, можна меркаваць аб субстытуцыі назвы *кабылка,* якая абазначае гэтыя і іншыя дэталі красён. Незалежная дэрывацыя ад *казёл, казёлак* менш верагодная па семантычных прычынах. Можна, аднак, дапусціць, што тут адлюстраваны выпадак адвольнага выбару тэрміна для дэталі, якая ў ліку іншых традыцыйна называецца рознымі дэрыватамі ад заонімаў і жорсткая прывязка тэрміна неабавязковая. Звяртае на сябе ўвагу другая назва рэаліі — *качолкі,* якая магла зрабіць уплыў на структуру разглядаемага слова.

**Казе́ліць,** у выразе *казеліць вочы* 'скасавурыўшыся, пільна ўглядацца ў каго-н., што-н,' (БРС, ТСБМ, Касп.; полац., Нар. лекс.), *казерыць вочы* 'тс' (КЭС., лаг.; Шат.). Дакладныя адпаведнікі ў іншых мовах нам невядомыя; што ж датычыцца наогул утварэння дзеясловаў такога тыпу, можна прывесці польск. *koźlić* (*czoło*) 'хмурыць і да т. п.', рус. дыял. *козиться* 'злавацца; паводзіць сябе высакамерна; пазбягаць людзей і інш.', *козлиться* 'ўпірацца, упарціцца', літ. *ožiúotis* 'тс'. Метафара ў разглядаемым выпадку відавочная; што ж датычыцца словаўтварэння, то для формы *казеліць* можна думаць пра аснову *казёл-,* адносна *казерыць* — меркаваць або аб наяўнасці экспрэсіўнага дэрывата з *-р-* суфіксацыяй ад *каза,* або аб уплыве такой суфіксацыі на асноўную форму.

**Казе́лькі** 'казюлькі' (Касп.). Ад асновы *казёл-,* назва паводле зааморфных прыкмет *казла* або паводзін насякомага, тое ж у многіх іншых дэрыватах ад *каза, казёл,* параўн. наступнае слова.

**Казе́льчык** 'конік' (ашм., смарг., Шатал.). Рэгіянальнае ўтварэнне ад асновы *казёл-* 'маленькі казёл', што або паводле паводзін насякомага, якое скача, або семантычная калька ці субстытуцыя такіх назваў, як *конік, кабылка* і пад. Звяртае на сябе ўвагу заходні рэгіён фіксацыі лексемы, аднак структурныя адпаведнікі ёсць і ў рус. гаворках. З суседніх можна прывесці смал. *козельчик* 'казляня', росл., смал. 'узоры, якія маюць выгляд рагулек', бран. 'дэталь калаўрота', смал. 'кветка', 'грыб масляк'; гэтыя прыклады сведчаць, што бел. *казельчык* магло быць пераносам з **казельчык* 'казляня'.

***Казе́чыцца,** *козе́чыцца* 'іграць (аб пчолах)' (Грыг.). Магчыма, да *каза*$_1$; у такім выпадку словаўтваральна праз ступень *казека* (гл.) 'казляня'; матывацыя зразумелая, параўн. рус. дыял. *козлиться* 'дурэць, гуляць, скакаць', такім чынам характарызуюцца паводзіны пчол. Недастатковая

інфармацыя крыніцы, на жаль, не дазваляе меркаваць, што канкрэтна мелася на ўвазе: танец пчол, шлюбны палёт маткі ці іншае.

**Казёл**$_1$ 'жывёла, самец казы' (БРС, ТСБМ, Бяльк.; КЭС, лаг.; Мат. Гом., Нас., Радч., Сержп., Сержп. Прымхі, Сцяшк., Юрч., Янк. Мат., Янк. 3). Укр. *козел,* рус. *козёл,* польск. *koziol,* в.-луж. *kozoł,* н.-луж. *kózoł,* чэш. *kozel,* славац. *kozol,* славен. *kózel,* серб.-харв. *kozao* (чак. і інш.), *kozel* (кайк.), балг. *козел, ст.-слав.* **козьлъ, козєлъ.** Прасл. *kozьlъ* < *koza,* аб структуры ўтварэння гл. Шульцэ, Зб. Ягічу, 343—347. Прасл. інавацыя; БЕР (2, 525) спрабуе прапанаваць і.-е. рэканструкцыю: **(s)kəĝ-ìlo-s* літаральна 'скакун'.

**Казёл**$_2$ 'козлы для распілоўкі дроў' (Бяльк., Выг. дыс., Касп., лаг. КЭС; Мат. Гом., Юрч.). Рус. (пск., калін., цвяр. і інш.) *козёл* 'тс', н.-луж. *kózoł* 'тс'. Статус слова няясны; яно можа быць самастойным утварэннем тыпу рус. *козёл* і інш. у значэнні розных падпорак, асабліва рагатых, а можа, улічваючы натуральнасць формы мн. ліку для назвы гэтай рэаліі, быць другасным. Ва ўсякім разе меркаваць, што бел., рус. і н.-луж. назвы захоўваюць або першасную, або старую паралельную назву для гэтай рэаліі, няма падстаў. Можна думаць, што тут не абышлося без уплыву іншых тэрмінаў у адз. ліку, як аманімічных да разглядаемага слова, так і семантычна падобных (*кабылка* і інш.). Гл. *козлы,* дзе этымалогія і паралелі.

**Казёл**$_3$ 'умацаванне саламянай страхі' (Сцяшк., Мат. Гом.). Да *казёл*$_1$, перанос назвы паводле падабенства рээаліі да рагоў жывёлы, такая ж матывацыя ў шматлікіх іншых назвах розных рогападобных прыстасаванняў, дэталей і інш., параўн. наступныя словы і семантыку дэрыватаў ад *каза.*

**Казёл**$_4$ 'умацаваныя на бэльцы козлы, на якія абапіраецца верхняя частка даху' (Юрч.). Як не зусім дакладныя адпаведнікі, можна прывесці польск. *koziel* 'кроква, частка канструкцыі даху' (ст.-польск. з XV ст. и дыял. паўн.-зах.), н.-луж. *kózol* 'тс'. Матывацыя, як і ў папярэднім выпадку, паводле падабенства.

**Казёл**$_5$ 'гімнастычны снарад' (ТСБМ). Да казёл$_1$, матывацыя зразумелая (перанос па знешняму падабенству: канструкцыя на ножках параўноўваецца з формай жывёлы); паралелі ў іншых мовах і статус слова як тэрміна прымушаюць меркаваць аб запазычанні з рус. *козел* 'тс'.

**Казёл**$_6$ 'частка збудавання пры студні: разгалістае бервяно, на якім прымацоўваецца вочап' (Янк. 3). Да *казёл*$_1$, перанос назвы па зааморфнай прыкмеце рэаліі (наяўнасць расохі),

якая параўноўваецца з рагамі жывёлы. Не выключана, што тут субстытуцыя *каза*3 (гл.).

**Казёл**7 'сажань, прылада для вымярэння плошчы' (Жд. 2, Мат. Гом.). Да *казёл*1, гэта слова паралельнае *каза*8 або замяшчэнне назвы, як больш прымальнае або ўтворанае ў канкрэтным выпадку (у сістэме тэрміналогіі гаворкі).

**Казёл**8 'мера даўжыні (2,5 м)' (Мат. Гом.). Можна разглядаць як утварэнне на базе папярэдняга слова (прыстасаванне для вымярэння — мера); што ж датычыцца канкрэтнай лічбы, тут або адлюстраванне старых варыянтаў мер даўжыні (параўн. у Семянтоўскага, О мерах и весах, употребляемых в Витебской губернии. Витебск, 1874, стар. 12), або мясцовыя традыцыі. Магчыма, гэта некалькі павялічаны касы сажань.

**Казёл**9 'мера дроў (2,5 м$^3$)' (Мат. Гом.). Відавочна, да папярэдняга слова: укладка на кубічнага «казла» → «казёл» як новая мера. Не выключана, што суадносіны гэтых лексем больш складаныя. Калі прыняць, што назва *казачок, казёл* утвараецца ад назвы спецыфічнай укладкі дроў пэўнага аб'ёму, можна думаць, што яе рэальная даўжыня магла лічыцца і асобнай мерай. Такім чынам, з'яўленне слова *казёл* 'мера даўжыні' абавязана тэрміналагізацыі назвы спецыяльнай укладкі дроў як меры аб'ёму. Калі ж лічыць, што гэта малаверагодны (паводле складанасці пераносаў) варыянт тлумачэння, вельмі цяжка высветліць суадносіны слоў *казачок* і *казёл*. Магчыма, гэта незалежныя ўтварэнні і, прымаючы для слова *казёл* першы варыянт этымалогіі, можна экстрапаліраваць і на слова *казачок*. Тут неабходна дапусціць існаванне значэння 'прылада для вымярэння даўжыні'. Паколькі *казачок* у іншых значэннях як метафара ад *казак* < *каза* зафіксавана ў бел. і ў інш. слав. мовах, а рэалія носіць назвы-дэрываты ад *каза*1, *казёл*1, такое дапушчэнне цалкам верагоднае. Назва меры даўжыні таксама натуральная з'ява, як і магчымае наступнае ўтварэнне паняцця кубічнай меры. Прымаючы *казачок* 'лінейная мера, кубічная мера' адэкватным сажню (параўн. *каза* 'сажань'), атрымліваем *казачок* 'мера дроў, якая раўняецца сажню'. Гатовыя для ўжывання дровы маглі вымярацца кубічнай і лінейнай мерай, а таксама адным, двума і г. д. радамі паленняў. Звычайным можна лічыць варыянт сажань дроў 'сажань з адным радам дроў' і адпаведна *казак* дроў. Прымаючы пад увагу рус. *пятерик дров* 'пяціпаленны сажань' і прыведзеныя Далем даныя па даўжыні палена — 10—12 вяршкоў, можна меркаваць, што пяціпаленны сажань — гэта кубічны сажань пры мінімальнай даўжыні палена, а пры

іншым падліку (сажань — 3 аршыны, аршын — чатыры чвэрці па чатыры вяршкі, усяго 48 вяршкоў), пры даўжыні палена 12 вяршкоў, атрымліваем 1/4 сажня. Гэта можна прыняць, аднак рэальна ў нас *казачок* не 1/4, а 1/8 сажня. Можна прапанаваць наступную версію тлумачэння, каб суаднесці гэтыя лічбы. *Казачок* 'мера дроў' звычайна яшчэ і 'столькі дроў, колькі змяшчаецца на невялікім возе'. *Казачок* '1/4 сажня дроў' і *казачок* 'два вазы дроў, адзначанае ў слоўніку мінска-маладзечанскіх гаворак, суадносяцца як роўныя велічыні. Гэта дазваляе меркаваць, што *казачок* 'адзін воз дроў' і адпаведна '1/8 сажня' — другасныя ўтварэнні, вынік натуральнага развіцця значэння і ўзнікнення зручнай дробнай меры аб'ёму з наступнай спецыялізацыяй значэння 'аб'ём невялікага воза'. Аднак рус. болх., арл. *казак* значыць не 1/8, а 1/16 кубічнага сажня дроў, што матэматычна добра ўзгадняецца з папярэдняй лічбай як яшчэ больш дробная велічыня (1 : 2), але дрэнна тлумачыцца лінгвістычна, нават калі прымаць гэта слова як пранікненне з бел. гаворак (з формы *казак*) у якасці тэрміна. Апрача гэтага, пярэчыць нашым меркаванням і рус. дыял. (арханг.) *козлец* 'маленькі воз сена', якое паказвае, што гэта праблема не толькі бел. мовы: тлумачэнне павінна ўлічваць і такі факт, прапаноўваючы або тыпалагічна верагодную мадэль утварэння, або такі варыянт, які ўключае рус. лексему як роднасную. Па такіх крытэрыях прапануемая этымалогія не вельмі надзейная і перавага за ранейшымі версіямі. Гл. *казачок*.

**Казёл**$_{10}$ 'род бабкі: некалькі снапоў ячменю, аўса, састаўленых пэўным чынам для прасушвання' (ТСБМ, Мат. Гом.), 'бабка ячменных снапоў без шапкі' (полац., Нар. лекс.) Гэтыя фіксацыі нельга аддзяліць ад рус. слаўк., пск. *козёл* 'укладка снапоў' (пра лён), калін. 'вялікая ўкладка аўса', валд., наўг. 'асаблівая ўкладка жытніх снапоў у дажджлівы час'. Безумоўна, да *казёл*$_1$, аднак матывацыя не зводзіцца да адзінай, што, магчыма, указвае на розныя па ўтварэнню словы. Так, можна разглядаць асобна *казёл* 'укладка лёну' — гэта ўтварэнне па тыпу *казёл, козлы* ў дачыненні да прадметаў, пастаўленых у піраміду *(козлы)* вертыкальна з нахілам. *Казёл* 'спецыяльная ўкладка снапоў' суадносіцца хутчэй за ўсё з тэрмінамі *казёл, козлы, ставіць казлом,* якія абазначаюць або Т-падобныя канструкцыі, або спецыяльную ўкладку торфу, цэглы для больш хуткай прасушкі; такія словы суадносяцца з лексемай *казёл*$_1$ непасрэдна або — гэта вынік ужывання як уласнага тэрміна з адпаведным значэннем. Звяртае на сябе ўвагу дублетнасць ужывання *бабка* і *казёл,* гл. вышэй у дэфініцыях,

параўн. таксама рус. дыял. (1965) *козлуха* 'ўкладка снапоў ільну; сноп ільну' і прыклад: *«Козлуха — снопы составляешь бабочкой, а что бабочка, что козлуха — все одно, так называют снопик льна»* (СРНГ, 14, 69). Цяжка меркаваць, ці магла тут мець месца субстытуцыя тэрмінаў *бабка* і *казёл,* як у іншых выпадках, разгледжаных вышэй, ці гэта паралельнае ўжыванне тыпалагічна эквівалентных канструкцый (у змешаных гаворках). Тое ж і для разглядаемага слова: такі варыянт магчымы, але неабавязковы, як і ў выпадку *баба* 'саха ў студні з жураўлём' і *каза, казёл* 'тс'.

**Казёл**$_{11}$ 'упарты чалавек' (Янк. 3). Пераноснае ўжыванне *казёл*$_{1}$. Метафара празрыстая; тое ж відаць, як тыпалагічная універсалія, у іншых мовах: рус. *козел,* польск. *koziol* 'тс', літ. *ožį statyti* 'ўпарціцца, капрызіць' і да т. п.

**Казёл**$_{12}$ 'конік, Locusta viridissima і інш.' (Грыг., Касп., Сцяшк.; в.-дзвін., Шатал.), 'травяны конік як нажыўка' (полац., З нар. сл.). Відавочна, паўн. і паўн.-зах. рэгіянальнае ўтварэнне. Дакладных адпаведнікаў як быццам няма, аднак падобныя ўтварэнні ад *каза, казёл* і іх дэрыватаў вядомы дастаткова шырока, таму няма падставы меркаваць аб іншамоўным уплыве, параўноўваючы з літ. *ožiùkas* 'конік', *ožỹs* 'жужаль'. Матывацыя пераносу: параўнанне характэрных асаблівасцей насякомых і жывёлы (перамяшчэнне скокамі), магчыма, на ўзроўні складанага вобраза, калі ўплываюць і іншыя зааморфныя прыкметы. Нельга не ўлічваць уплыву моцнага «тэрміналагічнага» фону дэрыватаў ад *каза, казёл, конь, кабыла* і да т. п., дзе магчымыя як субстытуцыі, так і генералізацыя асобных форм і значэнняў, не выключаны калькі, аказіянальныя ўжыванні розных тэрмінаў і многія інш. працэсы.

**Казёл**$_{13}$ 'паласа, участак, адмераны драўляным брыгадзірскім цыркулем або палкай, роўнай яго даўжыні' (слаўг., Яшк.). Відаць, перанос ад *казёл* 'сажань, прылада для вымярэння даўжыні, плошчы'; параўн. сінонімы ў той жа гаворцы: *казулька, казюлька, палка* 'паласа, участак'. Натуральнасць пераносу не дазваляе меркаваць аб сувязі з *каза* 'паласа і інш.', хоць фармальна і семантычна гэта і магчыма.

**Казёл**$_{14}$ 'дошчачка з выемкай для здымання ботаў' (рас., Шатал.). Хутчэй за ўсё непасрэдна да *казёл*$_{1}$: устаноўленая з наклонам дошчачка на падстаўцы нагадвае або сабаку (і гэты вобраз рэалізуецца ў рус. *собачка*), або *казу, казла,* паколькі ёсць два выступы, утвораныя выемкай. Метафара знаходзіць аналогію ў шматлікіх утварэннях; аднак для кан-

крэтнага выпадку не выключана, што вобраз мог быць складаным: тут праглядваюцца тыповыя для іншых утварэнняў ад *казёл, сабака* магчымыя значэнні 'ўпірацца; трымаць' і наогул уплыў самой сістэмы тэрмінаў, утвораных ад заонімаў. Параўн. *каза*$_{11}$ (гл.).

**Казёл**$_{15}$ 'тоўстая галіна на дрэве — лапа, сук' (Янк. 3). Сувязь з *казёл*$_1$ фармальна бясспрэчная, матывацыя, аднак, не зусім ясная. Магчыма, вельмі простае ўтварэнне — разгалінаваны сук — сук; для расохі, рагулі назва *казёл* натуральная. Іншы варыянт тлумачэння — казёл як назва розных прыстасаванняў для сушкі гароху і інш., звычайна невялікае дрэўца з сукамі або кол, жэрдка з перакладзінамі. Зразумела, што галоўная адзнака прыстасавання — сукі, таму перанос назвы на адзін сук мог быць натуральным. Гэтыя варыянты не тлумачаць значэння 'тоўстая галіна — лапа' і можна думаць, што справа не толькі ў знешнім падабенстве. Таксама не выключана, што тут выпадак субстытуцыі назвай *казёл* іншага тэрміна; такая з'ява была адзначана намі для *каза* і *баба, бабка каза, казёл* і *кабылка, конь* і інш., што дазваляе меркаваць аб магчымым *кабыла, конь* або інш. у значэнні 'тоўстая галіна', для якіх такое значэнне з'яўляецца натуральным; характарызуецца вялікі, часта звышнатуральны памер прадмета. Калі гаварыць аб канкрэтнай рэаліі, можна прывесці славен. *bìk, kònj* 'неабрэзаная галіна вінаграднай лазы, галіна вінаграднай лазы', аднак прымаць гэты прыклад неабходна вельмі асцярожна, разглядаючы разам з іншымі назвамі (напр. *locenj*), якія сведчаць і аб іншай семантыцы. Тое ж датычыцца і чэш. (мар.) *kòň* 'вялікая галіна лісцевага дрэва', не выключана, што тут ад'ідэацыя да *kůň,* якое суадносіцца з чэш. дыял. *konár* 'моцная ветка', славац. *konár,* польск. *konar,* укр. (зах.?) *конар,* гл. Махэк$_2$, 272, дзе іншыя вытворныя формы і спроба этымалогіі.

**Казёл**$_{16}$ 'палавіна веніка' (Бяльк.), 'вязка лісцяў' (Мат. Гом.). Да магчымасці супастаўлення дэфініцый параўн. прыклад: *«Насабірай лісцяў падарожнікаў і сдзелай с іх казла і падвесь у сенцах»* (Мат. Гом., 4, 193). Усх. утварэнні нельга аддзяліць ад рус. пск., асташ., цвяр. *козел* і *казёл* 'пара венікаў, звязаных разам'. Сувязь з *казёл*$_1$ (фармальная) відавочная, матывацыю вытлумачыць не проста. Па сутнасці, нявызначанасць дэфініцыі для рус. слоў дазваляе меркаваць, што венікі маглі быць злучаны крыж-накрыж; суаднесенасць назвы *казёл* для гэтай рэаліі і *казёл*$_1$ цалкам празрыстая. Аднак *казёл* 'пара венікаў' — утварэнне другаснае, а сама рэалія суадносіцца з бел., параўн. у Бялькевіча, 217: *«Адзін ужо*

*ё казёл на венік, а другей нада зьдзелыць».* Пара венікаў, такім чынам, два «казлы». Матывацыя назвы казёл 'вязка' незразумелая, калі толькі не шукаць магчымых зааморфных прыкмет гэтай або папярэдняй рэаліі; ва ўсякім разе дзве злучаныя палавіны веніка можна ўявіць як варыянт расохі, рагулі, раздваення. У такім выпадку *казёл* 'вязка' неабходна разумець як другасную назву (ад *казёл* 'венік' , якое *казёл* 'венік з дзвюх палавін').

**Казёл**$_{17}$ 'подсціл (на чарэнь пры выпяканні хлеба)': *«Каб ад залы не быў чорны хлеб, кладзём* казёл *з дубовых лістоў»* (Мат. Гом., 193). Няясна; фармальная сувязь з *казёл*$_{1}$ відавочная, матывацыя зацямнёная. Магчыма, ад *казёл*$_{15}$ 'вязка лісцяў' — 'лісце як подсціл'. Менш верагодна меркаваць аб метафарычным ужыванні слова *казёл* 'падпора, падстаўка і пад.'.

**Казёл**$_{18}$ 'засохлая слізь, якая тарчыць з ноздры, і ўсякі бруд у носе' (Нас.). Дакладных адпаведнікаў быццам бы няма, аднак вытворныя, галоўным чынам, ад дэрыватаў асновы *коз-*: рус. пецярб. *козява,* асташ., цвяр. *козура,* рус. *козявка* 'тс'. Бел. слова можна разглядаць як вытворнае на базе рус. падобных слоў, першапачатковае значэнне 'ўсякія камары, машкара', 'усякая брыдота' з канкрэтызацыяй значэння 'засохлыя соплі'; усё ж аднаўленне формы *казёл, каза* не зусім зразумелае. Да семантыкі параўн. яшчэ рус. дыял. *козявка* 'вусень', вышневал., наўг. *козура* 'засохлая скурка невялікай жывёлы', варонеж. 'пра неахайную жанчыну'. Параўн. таксама прыведзенае Далем без геаграфіі *козулька* 'нешта змятае ў пальцах у выглядзе чарвяка'. Магчыма, аднак, *казёл, казёл*$_{18}$, *казёл*$_{1}$; у аснове пераносу магло ляжаць уяўленне аб выдзяленнях з носа як дрэннай, магчыма, шкоднай з'яве, калі ўсё непажаданае, шкоднае чалавеку суадносіцца з жывёльным светам. Такая матывацыя праглядваецца ў розных дэрыватах ад *каза, бык,* асабліва *воўк* і інш.

**Казёл**$_{19}$ 'грыб масляк' (ТСБМ, Бяльк., Гарэц., Дэмб., Жд. 3, Жыв. сл., Нар. словатв., Нас.; в.-дзвін., Шатал.; Юрч.; бялын., Янк. Мат.), 'перцавы грыб' (Нар. словатв.), 'пеўнік стракаты' (мазыр., Жыв. сл.). У Дэмбавецкага значэнні: 'Boletus luteus', 'B. flavus,' 'B. annulatus'. Магчымы варыянт — паралельнае ўжыванне тэрмінаў, утвораных розным спосабам, па розных метафарах, хоць, магчыма, і не без узаемаўплыву. З такога пункту гледжання можна разгледзець літоўскі прыклад. Слова ўтворана на базе зааморфнай прыкметы грыба, але потым матывацыя не ўспрымаецца, семантыка абумоўліваецца іншымі прыкметамі грыба.

**Казёл**$_{20}$ ’расліна казялец едкі, Ranunculus acer’ (міёр., Жыв. сл.; Касп.). Да *казёл*$_{1}$, калі гэта самастойнае ўтварэнне, або адваротнае ад *казелец,* больш частага і звычайнага ў назвах раслін. Дакладных адпаведнікаў як быццам няма. Аб матывацыі гл. *казелец.*

**Казёл**$_{21}$ ’легкавы аўтамабіль павышанай праходнасці’ (ТСБМ). Відаць, запазычанне з рус. *козел* ’тс’, якое або да *казёл*$_{1}$, або, магчыма, калькуе невядомую нам назву. Ва ўсякім разе, калі прыняць першую версію, цяжка з пэўнасцю вытлумачыць метафару.

**Казёл**$_{22}$ ’род гульні ў карты, даміно’ (ТСБМ). Выклікае сумненне правільнасць дэфініцыі; прыклад ілюструе толькі другую яе частку (гульню ў даміно). Відавочна таксама, што слова хутчэй за ўсё сустракаецца толькі ў выразе *стукаць казла,* што, відаць, калькуе рус. *забивать козла.* Апошняе можа ўзыходзіць да назвы гульні *казёл,* якое у сваю чаргу да *казёл* ’той, хто праіграў, апошні’. Не выключана, што гульня ў даміно нейкім чынам (у тэрміналогіі) атрымлівае ў спадчыну традыцыйныя паняцці народных гульняў: рус. гаворкі ведаюць такія, напрыклад, лексемы, як *козел* ’костка пры гульні ў бабкі; *бабка* — свінчатка’, *козёл-мозёл* ’ямка, дзе стаіць гулец у клюшкі’. Лексема ў гульнях *козёл* у такім выпадку магла суадносіцца з назвай хатняй жывёлы паводле розных матывацый. Рус. мова і гаворкі ведалі і *козла* ’гульню ў карты’, цяжка, аднак, меркаваць, як гістарычна адносіцца назва гульні ў карты і ў даміно *казёл*: у рус. мове лінгвістычная інфармацыя аб гульні ў карты была вядома ў XVI ст., даміно — у канцы XVIII, калі з’явілася назва *казёл* у гэтых гульнях, нам невядома.

**Казёл**$_{23}$ ’метал, шлак, які застыў пры плаўленні і прыкарэў да сценак печы, каўша і пад.’ (ТСБМ). Запазычанне са спец. рус. тэрміналогіі: параўн. у Даля з паметай горн. *посадить козла* ’астудзіць недаглядам вагранку, недаплавіўшы чыгуну; тады ламаюць печ’. Параўн. таксама н.-тагіл., свярдл. *козлик* ’кусок металу, які не расплавіўся ў мартэнаўскай печы’. Матывацыя рус. слова (калі гэта не калька з вядомага нам еўрапейскага тэрміна ў параўнальна позні час) у адносінах да *казёл* ’назва жывёлы’ не зусім зразумелая. Тут можна меркаваць і аб метафары на базе вядомага, хоць і не вельмі пашыранага ўяўлення аб пажаданым чалавечым і непажаданым, шкодным — жывёльным; дэрываты ад *каза, казёл* у славянскім свеце значна ўступаюць у частотнасці вытворным ад *воўк, сабака* і да т. п. Можна меркаваць і аб літ. упарты, як *казёл,*

і, нарэшце, аб магчымасці суаднесці *козлик* 'кусок металу' і рус. наўг. *козёл* 'у ганчароў — куча нарыхтаванай гліны'. Апошняе можа быць і па знешняму падабенству, незалежна або і ў межах семантыкі ўтвораных ад заонімаў тэрмінаў, якія называюць розныя правільнай формы ўкладкі, кучы і т. п. Калі ж разглядаць *казёл, козел, козлик* як магчымую метафару па форме, можна думаць, што гэта цалкам магчыма: рэалія магла характарызавацца такімі назвамі па прычыне наяўнасці вострых выступаў, наплываў (рагоў, рожак). Што ж датычыцца значэння 'метал, шлак, які прыкарэў да сценак печы, каўша', то гэта вельмі нагадвае магчымы вобраз пры ўтварэнні назвы *казёл* 'засохлая слізь у носе і да т. п.'.

**Казёл**$_{24}$, у *казла.* Назва гульні дзяўчынак у «галанцы» (гродз., Нар. словатв.). Апісанне гульні наступнае: «Выбіраюць пяць гладкіх аднолькавых каменьчыкаў, кладуць іх на зямлю або на разасланую вопратку. Пачынае гуляць адна дзяўчынка: бярэ каменьчык (галанец), падкідае яго ўгору і ў гэты момант бярэ з зямлі наступны, стараючыся злавіць падкінуты. Пасля падкідае адзін каменьчык і бярэ з зямлі два, затым бярэ па тры і чатыры. Калі не зловіць, гуляць пачынае наступная дзяўчынка» (стар. 266). Аўтары слоўніка змяшчаюць слова ў рубрыку «Назвы гульняў з няяснай матывацыяй». Фармальная сувязь з *казёл*$_1$ празрыстая, што ж датычыцца матывацыі, можна пагадзіцца з тым, што яна няясная. Здаецца, бел. слова нельга лічыць матываваным, калі толькі не меркаваць, што каменьчык у гульні мог насіць назву *казёл.* Лінгвістычна (*гуляць у казала,* а не *ў казлоў*) гэта не выглядае надзейна. Больш верагоднай здаецца версія, па якой бел. гульня суадносіцца з такімі гульнямі, дзе назва *казёл* належыць пэўнаму ўдзельніку гульні, напрыклад, бел. тураў. *казёл* 'той, хто падкідае мячык пры гульні ў лапту', рус. дыял. (бран., арл.) *козёл* 'гулец у лапту ' і, магчыма, *козёл* 'той, хто застаецца «казлом» у азартных гульнях'. Першае, што менш верагодна, можна разглядаць як утворанае ад *казёл*$_1$ (адпаведна *козел*) па «функцыянальнаму» падабенству: 'які скача як казёл', параўн. рус. дыял. *козёл* 'пра бойкага жывога чалавека', *козлом прыгать, в козлы (козлом) играть (взыграть)* 'хутка пабегчы', або як адэкватнае маркіраванаму *казёл* у азартных гульнях, матывацыя апошняга няясная, магчыма, вынік адмоўнай дыфузнай семантыкі ўтваральнага слова, магчыма, рэлікт — спадчына тых гульняў, дзе *казёл,* па сутнасці, быў тэрмінам-заонімам. У такім выпадку *казёл* — галоўны ўдзельнік гульні зааморфнага характару, у наступным — галоўны ўдзельнік гульні наогул; адмоўная

семантыка магла з'явіцца значна пазней (*казёл* — той, хто прайграе). Бел. слова можна тлумачыць па апошняму меркаванню (*казёл* 'галоўны ўдзельнік' або *казёл* 'хто не злавіў каменьчык'). Звяртае на сябе ўвагу, што гульня ў раскладзеныя на зямлі каменьчыкі магла патрабаваць або спецыяльнай позы гульца, або яго рэзкіх рухаў. Параўн. рус. пск. *козлиться* 'нагінацца, каб падняць што-н.' і таксама пск. *козлом (стаяць)* 'на карачках'. Параўн. да гэтага бел. тураў. *козёл* 'дзіцячая гульня': адзін стаіць, сагнуўшыся, а на яго ўскокваюць па чарзе ўдзельнікі і стараюцца ўтрымацца' — тут сувязь з *казёл*$_1$ і, апрача таго, зразумела, як з'яўляецца семантыка адмоўнасці (*быць казлом, казёл* — той, якому больш за іншых дастаецца). Меркаваць аб храналогіі ўтварэння цяжка, паколькі мы не маем дакладных адпаведнікаў да бел. слова, аднак аб яго магчымым старым паходжанні можа сведчыць серб.-харв. дыял. *kozàrati se* — так гавораць дакорліва дзецям, якія ўвесь час кідаюць і падкідваюць каменьчыкі; аўтары RJA (5, 416) мяркуюць, што гэта, магчыма, ад *kòzar* 'пастух коз' і азначае 'гуляць як *kozari*'. Да апошняга параўн. бел. гродз. *гуляць у каменьчыкі* — тое, што і *ў казла: «Як пасвілі каровы, то ў каменьчыкі гулялі»* (Нар. словатв., 261). Што бел. слова можна разглядаць як старую бел. інавацыю, сведчыць рус. пск., асташ., цвяр. *козули* 'гульня ў каменьчыкі, пры якой іх кладуць у жалабок паміж самкнутымі пальцамі рук і, падкідваючы, ловяць'. Гэта паралель між іншым падтрымлівае версію, па якой назва *казёл* магла адносіцца да каменьчыкаў.

**Казёл**$_{25}$ 'захворванне бульбы ' (Юрч.). Паколькі дакладна інфармацыі аб рэаліі ў слоўніку няма, па прыкладу *(«Сёліта ўся бульба ў кызлах»,* 106) відаць нейкае пашкоджанне скуры бульбы. Дакладныя адпаведнікі (у форме мн. ліку) бел. шчуч. *казлы* 'пашкоджаныя вочкі бульбы' (Сл. паўн.-зах.), відаць, другаснае 'вочкі на бульбіне' (Жд. 1); з іншых паралеляў параўн. тураў. *козаты* 'паточаны, шашалеваты': *козатые картоплі,* магчыма, рус. горыц., калін. *козлястый* 'няроўны, з паглыбленнямі (пра бульбу)'. Рус. лексема хутчэй за ўсё толькі няпэўная семантычная паралель. Усх.-палес. *козляк* 'парастак на бульбе' можна інтэрпрэтаваць як аналагічнае *каза* або як паралельнае да разглядаемага слова. Фармальная сувязь з *казёл*$_1$ бясспрэчная; матывацыя па тыпу чалавечы — нечалавечы, жывёльны; станоўчы, карысны — адмоўны, шкодны; аднак неабходна адзначыць, што ў слав. мовах звычайна па такой матывацыі ўтвораны розныя дэрываты ад *воўк, сабака* і да т. п. Што датычыць прыкладаў, можна пры-

весці серб.-харв. *kȍze* 'воспіны', *kòzice, kozjače, kozȉci* 'тс', *kozica* 'воспіна, рабацінка'. Улічваючы звычайнасць дублетаў *каза/казёл* у тэрміналогіі і натуральны характар субстытуцыі такіх утварэнняў з наступнай генералізацыяй таго або іншага дэрывата, можна меркаваць, што вялікай розніцы паміж бел. і серб.-харв. утварэннямі няма, аб чым сведчыць і тураў. форма *козаваты*. На жаль, позні характар рэаліі (бульбы) не дазваляе з упэўненасцю меркаваць аб праславянскім характары бел. назвы. Безумоўна, можна дапусціць, што тут выпадак позняй спецыялізацыі старой назвы, аднак, нават і пры такім дапушчэнні рэгулярны характар утварэння наогул не дае магчымасці сцвярджаць архаічнасць лексемы. Натуральнасць такой назвы (як дэрыват ад *каза*1, *казёл*1) можна пацвердзіць і наяўнасцю назвы для 'воспіна, рабацінка', утворанай ад асновы *bab-*; параўн. рус. наўг., пск. *бабушка* ў такім значэнні. Як было паказана намі, у радзе выпадкаў дэрываты ад *baba* і *koza* выступаюць як субстытуты.

**Казёлак,** *казёлкі* 'расліна Ranunculus acer' (Касп.). Самастойнае вытворнае ад *казёл*1 суфіксам *-ак(-ок)* (улічваючы месца націску, не выключаны польскі ўплыў). Магчыма, толькі лакальная адаптацыя (словаўтваральная) больш шырока вядомага *козелец,* гл. там і этымалогія.

**Казёлкі** 'расліна Delphinium consolida' (Кіс.). Рус. *козелки* 'тс', укр. *козёлкі* 'тс'. Палес. утварэнне ад *козелок* 'казляня'. У аснове метафары — перанос паводле падабенства формы: кветка расліны з яўнай зааморфнай прыкметай. Гэта асаблівасць характарызуецца такімі назвамі, як бел. *рагулькі, тапаркі,* укр. *черевички, гострушки, гвоздики, комарові носики, сокирки* і ўтварэннямі ад асновы *koz-* у гэтых мовах. Параўн. яшчэ *козлікі* 'тс' (гл.).

**Казёнка**1 'невялікая кадушка, па форме (часцей) — усечаны конус', аб'ём — на пуд-два збажыны, з адным ці двума вушкамі; карыстаюцца, калі перасыпаюць, пераносяць збажыну' (Янк. 2). Няясна. Магчыма, як і *казёнка* 'сякера, шуфлік' да *казённы*. Не выключана, што тут выпадак іншага роду. Рус. гаворкі ведаюць слова *казёнка* ў розных значэннях. Галоўныя з іх: 'шафа, камора, склеп, памост, ляжанка каля печы, адгароджаная частка хаты, лавачка і інш.'. Звяртаюць на сябе ўвагу такія дэфініцыі, як наўг. 'лаўка каля печкі ў выглядзе скрынкі', ніжнегар. 'закрытая лаўка як разнавіднасць скрыні каля ўвахода ў хату', па якіх можна меркаваць, што натуральнае значэнне 'ёмішча' магло пашырыцца такім чынам, што *казёнкамі* называлі розныя канструкцыі з дрэва

для захоўвання прадуктаў. З апісання рэаліі відаць яе дапаможнае прызначэнне; магчыма, гэта і не перанос з *казёнка* 'ёмішча', а назва па сумежнасці, функцыянальнай сувязі з *казёнкай* 'каморай'. Пярэчыць гэтаму той факт, што само бел. *казёнка* ў значэннях, адэкватных прыведзеным вышэй рус., не фіксуецца і толькі некаторыя з іх ('лавачка', 'кухня', 'ляжанка') ведаюць гаворкі, суседнія з беларускімі.

**Казёнка**$_2$ 'сякера заводскага выпуску' (Жд. 3; Янк. 2), 'шуфлік' (Мат. Гом.). Утворана аналагічна рус. курск. *казёнка* 'казённая кватэра' з выразаў *казённая сякера* і г. д. Семантычны кандэнсат з тыповай *-к-* суфіксацыяй. Параўн.: наступнае слова. Паколькі адпаведнікі не адшукваюцца, можна лічыць параўнальна познімі рэгіянальнымі дэрыватамі, што выцякае і з характару рэаліі.

**Казённікі** 'казённыя боты' (Мат. Маг.). Аналагічныя ўтварэнні (таксама семантычныя кандэнсаты) у рус. мове: пск. *казённік* 'дзяржаўная вінная крама', маск. і інш. 'дзяржаўны лес', вяц. 'сарафан'. Звяртае на сябе ўвагу ўсх. характар гэтага і папярэдняга слова, аднак бачыць тут уплыў рус. мовы нельга.

**Казіна́**$_1$ 'вельмі жорсткая, дзікая трава' (стаўбц., Прышч. Дыс.). Сувязь з назвай жывёлы відавочная: параўн. іншыя назвы для Nardus stricta: *казіная, казліная барада.* Структурны адпаведнік — рус. соль-ілецк., чкалаўск. *козина* 'волас, які выдаляецца з казінага пуху'. Словаўтваральна не вельмі ясна: па аналогіі да *казінец* можна было б меркаваць аб прыметнікавай утваральнай аснове і адпаведнай суфіксацыі *(-а).* Што датычыць старажытнай *-а*-суфіксацыі, то праславянскія дэрываты ад прыметнікаў з *-а*-суфіксацыяй адзінкавыя (гл. Слаўскі, SP, I, 60).

**Казіна́**$_2$ 'неўрадлівая, забалочаная сенажаць, дзе расце вельмі жорсткая дзікая трава'. (Яшк., Прышч. дыс.). Да папярэдняга слова; аб такім тыпе словаўтварэння параўн. і *казінец*$_4$.

**Казі́нае масла** 'расліна сон-трава, Pulsatilla patens' (маг., Кіс.). Фіксацыя адзінкавая, і можна меркаваць, што запіс памылковы. Аднак у дакладнасці назвы можна не сумнявацца: слоўнік Аненкава, дзе слова зафіксавана, вядомы як вельмі надзейная крыніца, лексемы *казіны* і *масла* сустракаюцца ў назвах раслін у розных славянскіх мовах, дзе, акрамя таго, адзначаюцца і структуры, адэкватныя беларускай, параўн. серб.-харв. *kozji loj,* чэш. дыял. *zaječi maslo* і інш. Паўдн.-слав. назва расліны Lonicera дастаткова празрыстая этымалагічна

ў адрозненне ад чэш. і бел. назваў і таму далей не разглядаецца.

У нашым выпадку цяжка вырашыць, ці падобна разглядаемая канструкцыя да такога тыпу батанічных тэрмінаў, як *казіная барада* (назва паводле падабенства рэалій), ці тут прыметнік указвае на немагчымасць выкарыстання расліны чалавекам (назва тыпу *мышыны гарошак*). Па гэтай прычыне мэтазгодна пачаць аналіз з другой часткі выразу. Яе фармальная сувязь са словам *масла* відавочная, аднак матывацыя можа быць рознай — абазначэнне па функцыі або па характэрнай прымеце расліны. У батанічным апісанні Pulsatilla як быццам няма інфармацыі аб наяўнасці вялікай колькасці алею ў гэтай расліне або аб масляністым пакрыцці лісцяў. Таму неабходна прааналізаваць магчымасць утварэння назвы па функцыі. Калі дапусціць, што *казінае масла* (жывёльны прадукт) лічыцца народным лекавым сродкам, як тлушч некаторых жывёлін, не выключана, што расліна з аналагічным да масла (мазі) вонкавым дзеяннем была названа *казінае масла*. Адсутнасць інфармацыі адносна лекавых уласцівасцей масла з казінага малака вымушае лічыць такое тлумачэнне вельмі гіпатэтычным; больш таго, прыведзены вышэй чэшскі выраз *zaječi maslo* для Carlina acaulis нематываваны і пярэчыць гэтай версіі. Вельмі падобныя да беларускай, аднак яшчэ больш нематываваныя назвы сустракаюцца ў іншых слав. мовах, напрыклад укр. *вороняче масло* 'Polygonatum officinale'. Як назва купены выраз сапраўды нематываваны. Ва ўкр. мове вядомы назвы для Sedum, якія абазначаюць расліну па знешніх прыкметах. Істотнымі з'яўляюцца тэрміны *масне зілля, тучне зілє* — яны характарызуюць хутчэй за ўсё воскападобны вонкавы слой на сукулентным лісце і таму матываваныя.

Новыя назвы таксама маглі скрыжоўвацца або асэнсоўвацца на ўзроўні народнай этымалогіі, пра што сведчыць укр. *дідове сало* 'Sedum'. Акрэслены вельмі схематычна працэс мог адбывацца ў зоне кантактуючых гаворак і аб прамежкавых ступенях утварэння гібрыдных тэрмінаў можна толькі здагадвацца. Час і месца іх утварэння вызначыць цяжка (акрамя ўкр.), зафіксаваны ст.-польск. *wronie masło,* славац. *vranie sadlo* 'Sedum'. Магчыма, гэта даволі старыя абазначэнні Sedum telephium, аб чым сведчыць і фрагментарны характар фіксацый, аднак запісы зроблены ў кантактуючых арэалах, што не выключае позняга распаўсюджання некалькіх структур з адной кампактнай зоны са спрыяльнымі ўмовамі для ўзаемаўплыву тэрмінаў і іх субстытуцыі. З цягам часу матывацыя некаторых з іх магла зацямняцца, што дазваляла пера-

носіць іх як нейтральныя назвы 'Sedum' на іншыя расліны. Sedum telephium — лекавая расліна, якая ўжываецца ў народнай медыцыне. Можна дапусціць, што назвы гэтай расліны пераносілі на іншыя кветкі з аднатыповымі лекавымі ўласцівасцямі. Такі перанос — з'ява, шырокавядомая ў гаворках. Таму можна меркаваць, што ўкр. назва *вороняче масло* для 'Polygonatum' перанесена з 'Sedum' паводле функцыянальнага падабенства: у спектры лекавага выкарыстання раслін ёсць агульныя моманты. Тое ж датычыць чэш. *zaječi maslo* для ўрочніка Carlina acaulis. Урочнік — вядомая лекавая расліна, яе корань змяшчае дубільныя рэчывы, смолы, эфірнае масла, якое валодае добрымі бактэрыцыднымі ўласцівасцямі. Функцыянальнае падабенства з Sedum відавочнае, блізкасць тэрміна да гібрыдных назваў Sedum сумненняў не выклікае, больш таго, дапаўняе акрэслены вышэй працэс іх утварэння.

Думаецца, бел. *казінае масла* перанесена з расліны Sedum. Функцыянальнае падабенства для сон-травы адзначаюць такія лекавыя ўласцівасці, як бактэрыцыдныя і фунгіцыдныя. Кампанент *казінае* можна разглядаць як яшчэ адзін стандартны субстытут заанімічнай часткі структуры (параўн. рус. *овечий* у назве *овечий горох* для Astragalus). Аднак перанос назвы ў даным выпадку хутчэй за ўсё быў спецыфічны. Можна сцвярджаць, што субстытуцыя першага кампанента была заканамернай: неабходна лічыцца з фактам пэўнай замацаванасці заоніма *каза* за раслінай сон-трава, параўн. ням. дыял. Bockskraut, які абазначае адзін з відаў Pulsatilla. Падрабязней гл. Лабко, БЛ., 26, 70—74.

**Казіная барада**₁ 'трава сівец, Nardus stricta' (карэл., астр., Сл. паўн.-зах.), *казліная барада* 'тс' (астрав., Сл. паўн.-зах.). Матывацыя празрыстая, аднак вобраз мог быць складаным: тут і колер, і падабенства формы, і функцыянальнае падабенства (уласцівасцей). Аб складанасці гэтага тыпу намінацыі сведчыць і адсутнасць дакладных адпаведнікаў на шырокай тэрыторыі, хоць сама структура вядомая ў розных славянскіх і неславянскіх мовах як назва раслін. Так, ва ўкр. мове ёсць лексема *бородка* для Nardus stricta (Макавецкі, Sł. botan., 238), аднак такая інфармацыя падаецца са слоўніка (траўніка і кветніка) Залесавай і Пятроўскай. У гэтай крыніцы шмат памылак і няпэўнасцей. Рус. адпаведнікаў быццам бы няма, таму бел. лексема ад *каза*, *казіны* для Nardus stricta з'яўляецца наватворам.

**Казіная барада**₂ 'расліна Valeriana officinalis' (Сержп. Прымхі, 204). Рус. *козья борода* 'тс' вядома з запісаў Аненкава з паметай «заходняе». Паколькі іншых адпаведнікаў няма, то

гэта інавацыя. Этымалагічная праблема зводзіцца да тлумачэння матывацыі назвы: сувязь з назвай жывёлы фармальна відавочная, аднак няма падстаў меркаваць аб пераносе па знешняму падабенству. Магчыма, тут перанос назвы з іншай расліны, дзе яна добра матывуецца. У рус. гаворках такую назву носяць розныя віды Tragopogon; матывацыя празрыстая (зааморфныя прыкметы расліны), аднак паміж Tragopogon і Valeriana няма знешняга або функцыянальнага падабенства. Сярод іншых слав. назваў для Valeriana паслядоўна сустракаюцца дэрываты ад асновы *kozьl-:* укр. *козляк,* рус. дыял. *козлик* (для Valeriana celtica), польск. *kozłek,* ст.-польск. *kozieł* і *kozlik* 'Valeriana', чэш. мар. *kozelec* і чэш., ст.-чэш. *kozlík.* Махэк (Jména rostl.) прыводзіць рус. *козелок, козельцовый корень* 'Valeriana', аднак СРНГ іх не падае. На поўдні слав. свету яны таксама невядомыя. Пералічаныя лексемы разглядаюцца як утвораныя ад назвы жывёлы; матывацыя — спецыфічны пах карэнішча расліны (так Махэк, Jména rostl., 224; Слаўскі, 3, 33). Параўн. укр. *смердучка* 'Valeriana'. Этымалогію гэтых лексем нельга непасрэдна выкарыстаць для тлумачэння бел. *казіная барада.* Яна, аднак, дазваляе нам дапусціць думку, што дэрываты ад *kozьl-* на паўн.-слав., а магчыма, і на паўд.-слав. тэрыторыі для Valeriana або іншых пахучых раслін былі вядомы больш шырока, параўн. серб.-харв. *kozlačica* 'Thalictrum', *kozjačica* 'Thymus'. Што датычыць валяр'яну, то для гэтай расліны назва, утвораная ад заоніма, не магла быць асноўнай, паколькі прасл. назвай лічыцца **odolěnъ* < *odolěti:* адвар з кораня валяр'яну, ужываўся як прэвентыўны сродак супраць мору і пошасці, гл. Махэк, там жа. Дэрываты ад *kozьl-* маглі ўжывацца паралельна, характарызуючы расліну па моцнаму паху карэнішча.

**Казінец**$_1$ 'скрыўленне ў каленях пярэдніх ног каня, прыроджанае або траўматычнае' (ТСБМ; полац., КЭС; Сержп. Грам.), 'падагра' (БРС; полац., Суднік, вусн. паведамл.) 'хвароба, калі калені не згінаюцца' (гродз., Цыхун, вусн. паведамл.), 'дрыжанне ног (хвароба)' (Байк.-Некр.), 'сутарга' (Федар. Рук.), *казініц* 'хвароба ног, калі яны слабеюць' (КЭС, лаг.). Укр. мірг. *козинець* 'хвароба калень пярэдніх ног каня', рус. скап., раз., калуж., кемер. *козинец* 'крывізна, скрыўленне пярэдніх ног у коней, калі нага нагадвае казіную' зафіксавана і Далем, але без геаграфіі. Усх.-слав. інавацыя. Матывацыя празрыстая (гл. дэфініцыі). Па словаўтварэнню гэта семантычны кандэнсат або адпрыметнікавы (ад асновы *казін-*) дэрыват з суфіксам *-ец,* аб тыпах утварэння гл. Сцяцко, Афікс. наз., 100—102, дзе і літ-ра.

**Казíнец**$_2$ 'казялец, Ranunculus acris' (Мат. Гом.). Дакладных адпаведнікаў няма. Статус слова няясны, магчыма, рэгіянальны наватвор, а магчыма, і старое ўтварэнне, паралельнае да *казелец* (гл.), параўн. серб.-харв. *kozinac* 'Astragalus onobrychis'; нягледзячы на тое што бел. і серб.-харв. словы называюць розныя расліны, матывацыя, відаць, аднолькавая. Параўн. бел. *гарох воўчы, гарох авечы, віхрава трава* (для віду Astragalus glycyphyllus), укр. *горох гадючий, горох кошачий* (для віду A. onobrychis), *горох вовчий, горох заячий, вовча ступа* і інш. для віду A. glycyphyllus. Словаўтварэнне, як у выпадку з *казінец*$_1$; з прыведзеных намі сінонімаў можна бачыць тут семантычны кандэнсат. Аб матывацыі (сувязь з назвай жывёлы) гл. *казелец*.

**Казíнец**$_3$ 'трава сівец, Nardus stricta' (карэліц., Жыв. сл.), *казіняц* 'тс' (пух., Сл. паўн.-зах.). Сувязь з назвай жывёлы відавочная, параўн. *каза* 'Nardus stricta' (ТСБМ). Аб словаўтварэнні гл. *казінец*$_1$.

**Казíнец**$_4$ 'неўрадлівая, забалочаная сенажаць, дзе расце вельмі жорсткая дзікая трава' (Прышч. Дыс.). Відаць, да папярэдняга слова.

***Казíнец**$_5$ *козінец* 'грыб пеўнік стракаты' (лельч., Жыв. сл.). Матывацыя зразумелая з ілюстрацыі: *«Коза чорная зверху, рэпатая, а пудо дном, як мох, то козья шэрсць»* (Жыв. сл., 211). Аб словаўтв. параўн. *казінец*$_2$.

**Казíцца** 'нараджаць казлянят, прывесці прыплод' (Бяльк.; мядз., Нар. сл., 60). Рус. зах.-бран., цвяр., калін. *козиться,* серб.-харв. *kòziti, kòziti se,* макед. *кози се,* балг. дыял. *кози, кози се* 'тс'. Нягледзячы на супадзенне форм дзеяслова ў незалежных арэалах, нельга меркаваць аб старажытным паходжанні слова, паколькі не выключаецца адносна позняе ўтварэнне па вядомай мадэлі. Аднак аргументаў на карысць позняга паходжання слова таксама няма. Архаічны характар утварэння можна пацвердзіць літ. *ožinótis, ožkúotis* у тым жа значэнні, што і слав. лексемы. Гэта дазваляе прапанаваць прасл. рэканструкцыю: *koziti(sę)* для разглядаемага слова са значэннем 'нараджаць казлянят'. Значэнне 'прывесці прыплод' (у Бялькевіча) можна разглядаць як другаснае; больш ясна такое значэнне развіваецца ў дзеяслова *каціцца* (гл.).

**Кáзíць** 'псаваць, перакрыўляць і інш.', 'перакрыўляць, крывіць твар', *кáзіцца* 'здзекавацца і інш.' (Нас.), *казити* 'псаваць, шкодзіць і інш.' (Гарб.). Укр. *казити* 'перакрыўляць, псаваць', рус. (варонеж.) *казúть* 'псаваць', польск. *kazić* 'псаваць і інш.', ст.-польск. (з XVI ст.) 'разбураць, псаваць, разбіваць (напр.,

збанкі)', славін. *kãzec* 'разбіваць, разбураць і інш. ', в.-луж. *kazyć* 'нішчыць, псаваць', н.-луж. *kazyś* 'псаваць і інш.', чэш. *kaziti* 'псаваць, разбураць, шкодзіць', славац. *kazit* 'псаваць, разбураць', славен *kazíti* 'псаваць, перакрыўляць', серб.-харв. *ка́зити се* 'псаваць свой выгляд', ст.-слав. **казити** 'псаваць, шкодзіць'. Прасл. *kaziti(sę)* традыцыйна лічыцца каўзатывам да *čeznǫti,* Трубачоў (Эт. сл., 9, 171) слушна звяртае ўвагу на тое, што паміж гэтымі словамі няма непасрэднай суаднесенасці ні ў фармальным, ні ў семантычным плане. Таму ранейшыя даследчыкі шукалі іншыя сувязі; можна згадаць спробу Махэка, Recherches, 82—86, суаднесці слав. *kaziti* і літ. *kežė̃ti* 'кіснуць', аднак у слоўніку (Махэк$_2$, 246) ён супастаўляе з слав. літ. *gõžti, góžti* 'пра псаванне піва і інш.'. Паводле Мее, MSL, 9, 1896, 144, можна меркаваць, што *kaziti* ад іменнай асновы *kaza;* фармальна (праз ступень $o \rightarrow \bar{o}$) гэта супадае з асновай у слав. *kazati*. Семантычная сувязь лексем зразумелая, калі прыняць, што *kazati* 'псаваць', 'памячаць, адзначаць (у дрэнным сэнсе)', гл. Трубачоў, там жа.

**Казлаборо́д** 'расліна Tragopogon', звычайна Т. pratensis (ТСБМ). Калька рус. *козлобородник* 'тс', якое з лац. Tragopogon < грэч. τράγος πώγων ''казліная барада'. Аналагічныя калькі і ў іншых мовах: польск. *kozia broda,* чэш. *kozibrada,* серб.-харв. *ко̏зја бра́да,* ёсць і ў іншых слав. мовах; ням. *Wiesen-Bocksbart,* літ. *ožkabar̃zdis* і інш. Дзіўна, што добра вядомая расліна са шматлікімі ў розных мовах народнымі назвамі тым не менш называецца калькаваным тэрмінам. Махэк (Jména rostl., 235) звяртае на звычайнасць *kozi* ў назвах раслін і, што гэта магчыма, сведчыць аб незалежным ад навуковага паходжанні слав. тэрмінаў. Меркаваць аб гэтым цяжка; не выключана нават, што некаторыя з слав. лексем (*казялок* і пад.) для Tragopogon утвораны пад уплывам калькі. Магчыма таксама, што падобныя назвы існавалі спрадвеку, а навуковая толькі «сканцэнтравала» фонд дэрыватаў ад *kaza* і *kozьlь*. Не выключана, што працэс намінацыі праходзіў больш складана і сваю ролю адыгралі форма лісця, пладоў, колер кветак, наяўнасць млечнага соку, уплыў назваў іншых раслін у межах народнай класіфікацыі.

**Казлава́ць** 'ванітаваць' (Сл. паўн.-зах.). Геаграфія слова (толькі паўн.-зах.) пры наяўнасці такіх утварэнняў, як літ. *ožiáuti* 'ванітаваць' і адпаведнай структуры (на базе выразу *казлоў драць)* не пакідае сумненняў у тым, што гэта не выпадковае ўтварэнне. Яго можна лічыць незалежным дэрыватам, аднак агульны фон двухмоўя не мог не ўплываць на падобную лексіку. Ёсць паўд.-слав. адпаведнікі да балт. і бел. дзеяслова:

славен.*kozláti,* зафіксаванае Плятэршнікам. Розніца (ва ўтваральных асновах і інш.) гэтых слоў з'яўляецца відавочнай, аднак неістотнай; галоўнае, што паралелі іх дазваляюць меркаваць аб старажытным характары слова і другаснасці выразу, падрабязней гл. *казлы драць.*

**Казліць** 'пець непрыемным, прарэзлівым голасам' (Нас.). Празрыстае ўтварэнне ад *казёл*1, матывацыя таксама зразумелая. Дакладных адпаведнікаў няма, рус. *козлить, козлиться* ў значэнні 'весці сябе як казёл і інш.' можна разглядаць як незалежныя ад бел.; аднак мадэль, па якой утвораны гэтыя лексемы, з'яўляецца, відаць, архаічнай. Бел. *казліць* можа захоўваць вельмі старажытную канструкцыю, якая ў выніку яе экспрэсіўнасці магла і змяняць структуру (клас дзеяслова) і спецыялізаваць значэнні. Рус. лексему, такім чынам, можна разглядаць як найбольш блізкую да архетыпу, хоць, зразумела, вельмі ўмоўна.

**Казлы́**1 'прыстасаванне для распілоўкі дроў' (Жд. 2; слуц., Жыв. сл.; Мат. Гом.; Сцяшк., Шат., Янк. 2, Сл. паўн.-зах.), 'сталюга' (в.-дзвін, Шатал.). Звычайна ў слав. мовах сустракаюцца формы з іншай акцэнтуацыяй: бел. *козлы,* балг. *козли* і інш. Гэта вымушае думаць аб бел. інавацыйным утварэнні формы мн. ліку на базе *казёл* 'козлы', якое да *казёл*1 — традыцыйны перанос паводле падабенства.

**Казлы́**2 'збітыя накрыж дручкі, якія кладуцца на грэбень страхі для таго, каб вецер не здзіраў саломы і не знёс дошак, якімі прыкрыты канёк страхі' (Мат. Маг.; Сцяшк.), *казлэ́* 'дошкі, якія прымацоўваюцца па краях саламянай страхі, каб не раскідалася салома' (Сцяшк., Тарн.), сюды ж *козлы* ў першым значэнні (Кор.-Шушк., Харузін), без націску, таму меркаваць аб фанетыцы нельга, магчыма з *-о-,* тое ж і ў Шэйна, 3. Яўна другаснае *козлі* 'канёк даху' (Тарн.), хоць яго можна разглядаць як *канёк,* г. зн. самастойнае ўтварэнне ад *казёл* з пазнейшай трансфармацыяй; матывацыя — з хрыбтом жывёлы параўноўваецца форма часткі даху. Паралелямі да бел. *казёл,* польск. *kozieł* 'кроква', укр. гуц. *кізла* 'тс', аднак дакладны адпаведнік — укр. усх.-палес. *козли* 'тс'. Рэгулярны характар пераносу назвы ад *казёл*1 не дазваляе меркаваць аб уплыве польск. Хутчэй гэта інавацыя; трэба ўлічыць наяўнасць пераносаў з назвы гэтай рэаліі з зааморфнымі прыметамі на іншыя дэталі даху. Укр. слова нельга аддзяляць ад бел. усх.-палес. Параўн. яшчэ *казёл*2.

**Казлы́**3 'сажань' (Мат. Гом.). Да *казёл* 'тс', трансфармацыя — пад уплывам іншых тэрмінаў у форме мн. ліку.

**Казлы́**$_4$ 'прыстасаванне для сушкі травы' (Сл. паўн.-зах.). Няма дакладнага апісання рэаліі, таму цяжка меркаваць: ці гэта незалежны наватвор, рэалізацыя тэрміна *казлы*$_1$, ці дэрыват ад *казёл?* Матывацыя зразумелая, магчымыя паралелі ёсць у суседніх рус. гаворках: смал. *козёл* 'кол, жэрдка (звычайна з перакладзінамі) для сушкі гароху, сена і інш.', пск. 'павешаны на зрубленае дрэўца з сукамі гарох'.

**Казлы́**$_5$ 'прыстасаванне для ляжання на дрэвах' (Мат. Гом.). Адсутнічае апісанне рэаліі. Матывацыя зразумелая, аднак утваральнае слова цяжка ўказаць дакладна. Магчыма, непасрэдна да *казлы*$_1$, аднак не выключана, што лексема ўтворана на базе назвы *казёл* падобнай рэаліі.

***Казлы́**$_6$, *козлэ, кузлэ* 'металічныя вілы' (малар., Нар. лекс.). Празрысты перанос ад *казёл*$_1$, аднак звяртае на сябе ўвагу форма мн. ліку і акцэнтуацыя; гэта, магчыма, тлумачыцца ўплывам паралельных тэрмінаў, або, што больш верагодна, тут рэалізацыя тэрміна *казлы* з дыфузным значэннем, калі розныя прадметы, дэталі прыстасаванняў і інш. з больш або менш відавочнымі зааморфнымі прыкметамі або проста падобныя атрымліваюць такую назву. Множны лік можна вытлумачыць уплывам формы *вілы.*

**Казлы́**$_7$ *казлэ́* 'прылада для наматвання пражы' (карэліц., Шатал.). Магчыма, тут семантычнае ўтварэнне ад *казёл*$_1$, ці рэалізацыя тэрміна *казлы,* якім называюць розныя прыстасаванні, падрабязней гл. папярэдняе слова.

**Казлы́**$_8$ *казлэ́* 'перакрыжаваныя кроквы, якія падтрымліваюць страху ў гаспадарчым будынку' (навагр., Нар. сл.; брасл., Сл. паўн.-зах.), укр, гуц. *кізли,* польск. *kozieł* (дыял. форма — паўдн.-зах. па геаграфіі), в.-луж., н.-луж. *kozoł* 'кроква'. Магчыма, стары (паўн.-слав.) перанос ад *казёл*$_1$ (матывацыя празрыстая), аднак можа быць тэрмін з дыфузным значэннем. Геаграфія слова сведчыць аб верагоднасці даўняй спецыялізацыі значэння. Пярэчыць такой спробе храналагізацыі відавочны рэгулярны тып пераносу. Статус бел. слова, нягледзячы на фіксацыю ў заходніх раёнах, здаецца незалежным.

**Казлы́**$_9$ 'агульная назва ядомых грыбоў' (касцюк., Жыв. сл.), 'род грыбоў' (Грыг.), 'грыбы казлякі' (Мат. Гом.). Усё гэта да *казёл*$_1$, дзе меркаванні аб матывацыі. Два апошнія значэнні можна аддзяліць ад першага, паколькі ў іх суадносіны з утваральным словам празрыстыя. *Казлы* 'агульная назва ядомых грыбоў' можа быць рэалізацыяй іншага варыянта ўтварэння: не ад назвы канкрэтнага грыба,

а ў межах супрацьпастаўлення — добры для чалавека — добры для жывёлы — *грыбы* 'баравікі' — *казлы* — 'не баравікі'.

**Казлы́**$_{10}$ 'грубая балотная асака, не прыгодная на корм жывёле' (ушац., Нар. лекс.). Да *казёл*$_{1}$; адносна матывацыі параўн. *казёл, казіная барада* 'Nardus stricta'. У канкрэтным выпадку магчымы не столькі перанос на аснове падабенства, колькі рэалізацыя адмоўнай семантыкі тэрміна *казёл* у значэнні 'не чалавечы: дрэнны, шкодны, бескарысны'.

**Казлы́**$_{11}$ 'казялец едкі, Ranunculus acer' (міёр., Жыв. сл.; Касп.; чэрв., Нар. лекс.). Можна разглядаць як аўтаномнае ўтварэнне (па зааморфнай прыкмеце), аднак хутчэй за ўсё гэта не паралельная назва да іншых, а адваротная дэрывацыя ад *казелец* і пад., ці проста лексема з фонду тэрмінаў для «казліных» раслін. Падобныя трансфармацыі могуць быць абумоўлены традыцыяй, уплывамі суседніх гаворак, зменамі ў сістэме тэрміналогіі і інш. Субстытуцыя ў назвах раслін — з'ява вядомая, параўн. *казінае масла* (гл.).

**Казлы́**$_{12}$ ў выразе *казлы драць* 'ванітаваць' (БРС, ТСБМ, Касп.; КЭС, лаг.; Мядзв., Нас., Шат.). На жаль, крыніцы не дазваляюць дакладна акрэсліць геаграфію гэтага выразу. Апрача бел. мовы яго ведаюць рус. (асташ., цвяр., пск., калуж., смал., варонеж.) *козла драть (содрать), козлы, козлов драть* 'тс' (гжатск., смал.) 'валяцца п'янаму ў балоце'. Даль прыводзіць яшчэ *лисиц драть* 'ванітаваць з перапою', гэта можна разумець як субстытут. Рус. гаворкі ведаюць тое самае значэнне для слова *драць:* пакр., пор., уладз. *драть* 'ванітаваць'. Традыцыйна (Блесэ, SB, 1935—1936) лічыцца калькай лат. або іншага балт. выразу. Кіпарскі (Балтызмы, 15) адзначаў: «...бел. *козлы драць* 'ванітаваць', якое мае дакладны адпаведнік у латышскай (*āžus kaut, durt, dīrāt, plēst, āžu ādas spīlēt, ar āžu adam brankt*' 'блевать'), здаецца, не мае адпаведнікаў ні ў польскай, ні ў рускай. Чэкман (Baltistica, VIII, 1972, 147) дапаўняе літ. *ožius káuti, ráuti, bieĩlyti, nérti*. Ці маглі такія выразы, ужытыя ў прамым значэнні, з'явіцца эўфемізмамі для паняцця 'ванітаваць'? Відаць, маглі, калі разумець іх як 'рабіць дрэнную (смярдзючую) справу; смярдзець', параўн. да гэтага рус. *пошел собак драть* (аб непрыемнай справе). Такое натуральнае тлумачэнне, відавочна, мела месца пры народнаэтымалагічных спробах разумення выразу; ва ўсякім разе лат. матэрыял дазваляе так меркаваць, паколькі, нягледзячы, што літ. і слав. прыклады двухсэнсоўныя, значэнне 'абдзіраць скуру' ўяўляецца для іх асноўным. Такая спроба этымалогіі не ўлічвае шэрагу фактаў, аднак, на

нашу думку, правільна адлюстроўвае (як гэта відна з лат. прыкладаў) пэўныя этапы моўнага працэсу адносна разглядаемага слова, калі першасная матывацыя стала губляцца або не была зразумелай шэрагу гаворак. На нашу думку, з'яўленне заоніма ў структуры выразу можна разумець і як першаснае, і як другаснае, што тлумачыцца надзейнымі паўдн.-слав. паралелямі: серб.-харв. *kozláti* 'ванітаваць' і славен. *kozláti* 'тс'. Геаграфія апошняга невядомая, аднак, відаць, з таго ж арэала, што і папярэдняе: на славенска-харвацкім пагранiччы. Фармальная сувязь з асновай заоніма *kozьlъ* відавочная. Пра сувязь з назвай *казла* сведчаць некаторыя літ. прыклады. У прыватнасці, звяртае на сябе ўвагу паралелізм як канструкцый, так і асобных лексем, этымалагічна больш празрыстых, якія характарызуюць семемы 'ванітаваць' і 'крычаць прарэзлівым голасам'. У абодвух значэннях адзначана рус. дыял. *драть*. Магчыма, менавіта з такога пункту погляду неабходна разглядаць бел. маг. *дзёргаць* 'ванітаваць' (Падлужны, вусн. паведамл.). Захаванне архаічнага славен.-харв. *kozláti* сведчыць або пра агульны (балта-славянскі) працэс, або пра старажытныя кантакты славян і балтаў. Пры гэтым неабходна падкрэсліць верагодны арэальны характар кантактаў, на што ўказваюць ускосна як змены ў семантыцы канструкцыі, так і відавочныя супадзенні розных слав. і літ. фактаў. Што датычыцца лат. матэрыялу, мы лічым, што адзначаныя выразы — вынік уплыву або слав., або літ мовы, пра што сведчыць як фармальнае супадзенне дзеяслоўнай часткі выразу *āžus dīrāt* з адпаведнай славянскай структурай, так і паслядоўнае, другаснае, на базе народнай этымалогіі асэнсаванне выразу, гл. вышэй пералік лат. прыкладаў. Больш цяжка акрэсліць статус літ. і слав. канструкцый. Супраць моўнага кантакту ўзаемаўплыву, магчымага калькавання нельга запярэчыць: меркаваць аб тым, што тут наглядаецца семантычная універсалія і ўтварэнні незалежныя, як быццам няма падстаў. Той факт, што ўласна выраз сустракаецца на сумеснай балт. і слав. тэрыторыі, яшчэ нічога не азначае: зах.-палес. гаворкі зберагаюць фактычна архетып, які не прадстаўлен дакладна ў балт. мовах, і наяўнасць выразу *казлы драць* можна разумець або як спецыфічнае яго захаванне (субстратны ўплыў і да т. п.), або як кальку, але абгрунтаваць гэта цяжка. Нічога не даказвае параўнанне са слав. прыкладамі, большая варыятыўнасць літ. выразаў — гэта, па сутнасці, адлюстраванне дыялектнай сітуацыі. Верагодна, што наяўнасць выразу ў літ., бел. і некаторых рус. гаворках сведчыць аб цэнтры інавацыі ў межах гэтай тэрыторыі; між іншым, вялікая актыўнасць прыведзенай вышэй спецыфічнай мадэлі ўтварэння назваў жабінай ікры адзначана на бел.-рус. пагранiччы (поўначы і ўсходзе Беларусі), хоць сама з'ява

вядома больш шырока. Калі і дапускаць экспансію выразу ў выніку моўных кантактаў, з пэўнай верагоднасцю можна сцвярджаць, што было гэта падчас асіміляцыі славянамі балтыйскага насельніцтва, а не ва ўмовах пагранічнага двухмоўя.

**Казлыта́ць** 'казытаць' (Бір., Сержп.). Паралельнае ўтварэнне да *казытаць* (паўдн.-зах. Случчына). Утворана або непасрэдна ад асновы *козл-,* да *казёл*₁, або ад *казытаць* з субстытуцыяй тэрміна. Гл. *казытаць.*

**Казлю́ка** 'сажань' (Мат. Гом.). Рэгіянальнае ўтварэнне ад асновы *козл-,* гл. *казёл*₁, або пераробка аднаго з некалькіх тэрмінаў-дэрыватаў ад *каза, казёл* для сажня. Гл. *каза, казёл.*

**Казля́к**₁ 'масляк' (БРС, ТСБМ; лаг., петр., Жыв., сл.; уздз., Нар. словатв.; брасл., гарад., лудз., Сл. паўн.-зах.; Сцяшк., Шат.), 'грыб Boletus bovinus' (Дэмб.), 'грыб Boletus scaber' (Яруш.), 'нейкі грыб' (Прышч. дыс., Сержп., Яруш.), 'перцавы грыб' (уздз., Нар. словатв.), 'усякі грыб' (Бяльк.), 'усе грыбы, апрача баравікоў' (арх. ГУ; глус., мазыр., стаўбц., Жыв. сл.; Маш.; шчуч., Сл. паўн.-зах.; Янк. 2), *козляк: білый козляк* 'грыб каўпак кольчаты, падбалацянка' (пін., Жыв. сл.), *козляк* 'агульная назва ядомага грыба, апрача баравіка' (бяроз., драг., іван., пін., Жыв. сл.), *козлякы, козлек, кузлякы, кузлек* 'тс' (драг., Жыв. сл.), *кузляк* 'тс' (стол., Жыв. сл.), *козлякі* 'агульная назва ўсіх ядомых грыбоў, акрамя баравікоў і падасінавікаў' (пруж., Нар. словатв.). Укр. усх.-палес. *козляк* 'любы ядомы грыб, за выключэннем баравіка', *козляки* 'тс', рус. *козляк* 'грыб масляк; грыб абабак' (першае лічыцца дыялектным: валд., наўг., цвяр., калін., бран., калуж., раз., ярасл., смален. і інш.). Лінгвагеаграфія не вельмі выразная. Улічваючы наяўнасць слова ў розных дыялектных зонах Беларусі і параўноўваючы вялікую рускую тэрыторыю распаўсюджання, *казляк* можна лічыць усх.-слав. інавацыяй. Бел. слова Сцяцко (Афікс. наз., 146) лічыць вытворным з дапамогай суфікса *-як,* відавочна, ад *казёл,* на карысць такой думкі паралельныя дэрываты ад *каза* — бел. *казяк,* рус. *козьяк* 'масляк, абабак', аднак на магчымасць іншага тыпу дэрывацыі ўказваюць такія прыклады, як бел. швянч. *казля* 'масляк' і *козляк, козлячок,* прыведзеныя Насовічам як дублеты да *казёл, каза* ў назвах грыбоў. Аб матывацыі гл. *каза, казёл.*

**Казля́к**₂, *казьляк* 'размоклая рэч' (Ян.). Перанос ад *казляк* 'грыб', цікава звярнуць увагу на літ. *óžgrybis* 'ababak' і 'вялы чалавек, размазня'.

**Казля́т,** *казляты* мн. 'грыб масляк' (стаўбц., Жыв. сл.). *Казлят* < *казляк* з утварэннем формы мн. ліку па мадэлі, добра вядомай рус. мове: *маслята, опята;* не выключаны, аднак, варыянт, што тут адваротная дэрывацыя з формы мн. ліку і фіксацыяй нерэгулярнай формы.

**Казна́** 'асоба, што многа гаворыць і ўсіх абгаворвае' (КЭС, лаг.). Рэгіянальны наватвор ад *казніць* 'абгаворваць' (гл.).

**Казні́ць** 'гаварыць, дзяўбці' ў выразе *«казні яму, ці не казні...»* (полац., Нар. лекс.). 'у вочы ці за вочы клясці, знеdevажаць' (КЭС, лаг.). Як паралель можна прывесці не вельмі дакладнае рус. *казниться* 'пакутаваць, мучыцца душою'. Другасны дзеяслоў ад *казнь,* засведчаны ў значэнні 'загад, павучэнне і інш.' падобных зах.-слав. польск. уст. *kaźń,* дыял. *kaźń, kaźnia,* в.-луж., н.-луж. *kaźń,* в.-луж. *kaznja,* ст.-чэш., ст.-славац. *kázn,* якія, як і слав. *kazn* 'пакаранне і інш.', да *kazati* (утваральная аснова *-kaz-,* яшчэ да тэматычнага пашырэння на *-a-ti*), гл. Трубачоў, Эт. сл., 9, 173. Фасмер (2, 161) думаў пра першаснае значэнне 'загад' і пра вялікую верагоднасць сувязі з *kajati(sę)*. Бел. слова — інавацыя на базе страчанай або запазычанай з польск. лексемы.

**Казу́лька** 'божая кароўка' (Шатал., З жыцця; Чач.), *казулькі* 'конікі палявыя' (Федар. Рук.). Укр. *козуля, козулька* 'насякомае Cerambix'. Словаўтваральна празрыстая структура; цяжэй вытлумачыць як вытворнае ад *каза*₁, ці тут перанос назвы з *казуля,* вядомага ў розных значэннях. Параўн. у Федароўскага ў рукапісным слоўніку: *kozaczki* 'конікі палявыя'. Лексемы з апошнім значэннем могуць быць аўтаномнымі ўтварэннямі (паводзіны насякомага нагадваюць паводзіны жывёлы), магчыма, нават першаснымі для семемы 'божая кароўка', напр., супадзенне назвы коніка і божай кароўкі ў бел. лельч. *кавалік.* Разам з тым міфалагічны кантэкст, які суправаджае розныя назвы Coccinella septempunctata як у слав., так і неслав. мовах, дазваляе меркаваць аб магчымай субстытуцыі назвы або міфалагічным варыянце, параўн. бел. *каройка, ярыца,* укр. *щедрик-ведрик* і рус. *козуля, козурка, козюлька, коровка* і інш. для сакральнага печыва з відавочнымі зааморфнымі адзнакамі.

**Казу́лька** 'маленькая лавачка' (Касп.). Рус. *козуля* 'кароткая лавачка, зробленая так, што сучкі дрэва з'яўляюцца ножкамі', *казулька* 'тс', халм., пск. 'маленькая лавачка, на якую садзяцца, калі дояць карову', маск. 'санкі, якія робяць са старой лаўкі'. Матывацыя назвы зразумелая (рожкі, зааморфная адзнака), аднак не вельмі ясна, утворана слова суфіксаль-

ным спосабам ад *каза* або тут перанос назвы ад *казуля,* параўн. інш. назву лавачкі *каза* (гл.). Статус інавацыі (усх.-слав.?) няясны.

**Казу́рка** 'казяўка, букашка; вош' (БРС; маладз., З жыцця). Аналагічныя структуры, якія адрозніваюцца значэннямі, ёсць і ў іншых мовах; суфіксацыя, па сутнасці, праславянская. Што датычыцца беларускіх лексем, тут неабходна, магчыма, разглядаць слова *казурка* 'божая кароўка' асобна, падрабязней гл. *казулька* ў тым жа значэнні. Апрача таго, не зусім ясны тып утварэння: суфіксальная дэрывацыя (магчыма, двайная) або перанос з *козура,* вядомага ў розных значэннях, з памяншальнай суфіксацыяй.

**Казу́тка** 'козлік, падобны да ўслончыка, на якім катаюцца зімой з горкі' (віц., Нар. лекс.), 'дрожкі' (Касп.). Два ўтварэнні, якія фармальна і тэрытарыяльна суадносяцца. Матывацыя першага зразумелая (параўн. *каза* 'тс', відавочна і наяўнасць зааморфнай адзнакі). Словаўтварэнне — ад асновы *коз-* з непрадуктыўнай *-ут*-суфіксацыяй, паралельнай да *-ур-, -ул-;* Сцяцко (Афікс. наз., 129) адзначае яе адпрыметнікавыя *малюта, галюта* і *галута* рэг. (віц.) утварэнні, што важна з пункту погляду геаграфіі. Не выключана, аднак, што неабходнай з'яўляецца рэканструкцыя прыметніка тыпу *козі.* Матывацыя другога слова — *казутка* 'дрожкі', няясная. Калі гэта не самастойнае ўтварэнне, можна меркаваць аб пераносе назвы з невялікіх санак, саней наогул, для якіх матывацыя больш-менш зразумелая.

**Казыта́ць** 'датыкаючыся да скуры, выклікаць лёгкае нервовае раздражненне, сверб' (БРС, ТСБМ, Бяльк., Федар. Рук.), *казытаць цыцкамі* (пра русалку) (КЭС, Федар., 1). Рус. *козытать* (у Даля, з паметай «зап.», відавочна, беларускае), польск. *kozytać* Карловіч (308) лічыць да *каза* на той падставе, што два пальцы, выстаўленыя для лоскату, нагадваюць казіныя рогі. Паводле Фасмера, 2, 297: «няясна». Думаецца, што версія, прапанаваная Карловічам, цалкам верагодная. Параўн. *казлытаць* 'тс' (гл.) і рус. курск. *казюкать* 'ласкатаць маленькае дзіця, робячы пальцамі рожкі'. Відавочна, бел. інавацыя, магчыма, на базе шырока вядомай гульні з прыказкай пра казу.

**Казы́тка**1 'русалка': «Казыткі маюць быць белые, як снег, паненкі і вельмі пекныя» (Федар., 1, 76, 76). Гэтая ж лексема прыводзіцца і ў Інстр. II; статус апошняй няясны, не выклю-

чана, што гэта эксцэрпцыя з Федароўскага. Да *казытаць* (гл.) матывацыя зразумелая: «русалкі як зловяць, так заласкочуць (заказычуць) цыцкамі».

**Казы́тка**₂ 'ласка, жывёла Mustela nivalis' (Мат. Гом.). Ілюстрацыя ў слоўніку (*«Учора папужала маіх хлопцаў казытка, дык больш во не пойдуць па каласы»*, с. 194) дазваляе думаць пра магчымую сувязь з *казытка*₁. Перанос назвы ў такім разе мог бы быць у выніку нейкай функцыянальнай субстытуцыі рэалій. Параўн. вядомы выпадак з назвай расамахі: *расамаха, расамака* 'нейкі невядомы звер' і 'нейкая страшная жанчына'. Тут можна было б думаць пра адваротны перанос у выніку забыцця рэаліі ці верагодным атаясамліванні рэалій, вядома, што ласка лічылася дэманічнай істотай, якая магла прынесці шкоду свойскай жывёле, гэта дазваляе меркаваць і аб магчымым ужыванні дзеяслова *казытаць* у дачыненні да начных паводзін ласкі ў хляве. Калі гэта так, можна разглядаць назву *казытка* як самастойную. Аднак яна з'яўляецца, безумоўна, другаснай, даўні тэрмін — 'ласка, ласіца'. У сваю чаргу *казытаць* таксама інавацыя, ужывалася даўняе *ласкатаць*. Можна дапусціць, што *казытка* 'Mustela' гэта калька назвы *ласка,* якая (пры калькаванні) была суаднесена з *ласкатаць* 'казытаць'. Калі ж сапраўды ёсць нейкая сувязь паміж *ласка* і *ласкатаць,* то тэрмін *казытка* мог быць утвораны ад *казытаць* паводле той самай матывацыі. Для *ласка, ласіца* прапанаваны былі розныя этымалагічныя версіі. Найбольш аргументаванай уяўляецца этымалогія, паводле якой назва *lasica* (магчыма, першасны дэмінутыў) ад **lasa;* апошняе — дэрыват ад прасл. прыметніка 'назва колеру', гл. Слаўскі, 5, 15—17, там жа літ-ра і агляд версій. Па другой версіі Трубачоў (ЭИРЯ, 2, 29—32) звязвае *ласіцу, ласку* з праслав. **lasta, *lastovica* 'ластаўка', якое суадносіцца з *ласка* 'любоў, пяшчота і інш.'. Таксама і Слаўскі (там жа) мяркуе, што ў паўн.-слав. мовах магло адбыцца другаснае збліжэнне (у выніку народнай этымалогіі) з **lasti(sę)* ці, можа, **lasъ* (лакамы, ласы); раней Растафіньскі (на падставе цікавых назіранняў над паводзінамі ласкі) і Брукнер звязвалі з прасл. **lasiti(sę)*. Відавочна, што матывацыя такога тыпу (*ласка:* якая ласціцца) не падыходзіць для тлумачэння *казытка,* магчыма, толькі падкрэсліваецца невыпадковасць суаднесенасці *казытка* (як калькі) з гукавым комплексам *ласк-*. Паўн.-слав. **laskotati,* як аб гэтым мяркуе Слаўскі (5, 28), магчыма, з'яўляецца інтэнсівам ад прасл. **laskati,* аднак не выключана, што суадносіцца з *lъskъ-tati* 'казытаць'. Таму цяжка меркаваць аб яўнай суаднесенасці назвы *ласка* 'Mustela' і *ласкатаць*. Хутчэй за ўсё

тут разам уплывалі і падабенства гукаў і народная этымалогія, і *казытка,* як калька *ласка,* абумоўлена шэрагам розных фактараў.

**Казю́к**$_1$, *казлю́к* 'казляня' (Дразд.). Відаць, усх.-бел. утварэнне з суфіксам, які спарадычна сустракаецца ў розных бел. гаворках, параўн. Сцяцко, Афікс. наз., 178.

**Казю́к**$_2$, *казю́ка* 'казяўка' (Мат. Гом.). Утворана пераносам назвы з *казюк* 'казляня' або суфіксальным спосабам ад *каза*$_1$.

**Казю́лька**$_1$ 'маленькая лавачка' (Касп.), 'выразаны з яліны цурбан з сукамі, які служыць замест зэдліка' (Бяльк.). Рус. смал. *казюлька* 'невялікая драўляная лавачка', 'драўляная лавачка з ножкамі з тоўстых сукоў'; падобныя значэнні зафіксаваны і ў Калінінскай вобласці. Рэгіянальны наватвор; да *каза*$_1$, відаць, праз *казюлька* 'нешта рагатае'. У слоўніку Бялькевіча зафіксавана асноўнае значэнне, у Каспяровіча — або перанос, або недастаткова поўнае апісанне рэаліі. Параўн. яшчэ *казулька.*

**Казю́лька**$_2$ 'казяўка, казурка' (БРС, ТСБМ, Бяльк., Нас.). Гэтыя ўсх.-бел. утварэнні нельга аддзяліць ад рус. пск., цвяр., смал., уладз., кур., варонеж. *козюлька* 'тс'. Статус інавацыі (усх.-слав.? рус.?) не зусім ясны. Словаўтваральна — ад *казюля, казюлька* 'нешта рагатае' або, магчыма, і перанос ад неадзначанай назвы свойскай жывёлы, як у іншых назвах, дзе сувязь з дэрыватамі ад *каза*$_1$ больш празрыстая. Матывацыя — наяўнасць зааморфных адзнак у насякомых. Параўн. яшчэ *казурка* (гл.).

**Казю́лька**$_3$ 'дошчачка з выемкай для здымання ботаў' (в.-дзвін., Шатал.). Верагодна, самастойны рэгіянальны наватвор ад *казюлька* 'нешта рагатае', якое да *каза*$_1$. Матывацыя назвы зразумелая: два выступы, утвораныя выемкай, успрымаюцца як рожкі. Аб іншых магчымасцях утварэння (перанос з *казюлька* 'свойская жывёла'; субстытуцыя тэрмінаў) гл. *каза*$_1$.

**Казю́лька**$_4$ 'сажань' (Мат. Гом.). Рэгіянальны наватвор ад *казюлька* 'нешта рагатае'. Да *каза*$_1$; рэалія з відавочнымі зааморфнымі прыкметамі. Не выключана субстытуцыя тэрмінаў.

**Казю́лька**$_5$ 'паласа, участак, адмераны драўляным цыркулем, або палкай, роўнай яго даўжыні' (слаўг., Яшк.). Перанос ад папярэдняга слова. Рэгіянальны наватвор.

**Казю́лькі**$_1$ 'козлы для пілавання дроў' (Бяльк.). Рус. пск.,

асташ., цвяр. *козюльки* 'тс'; гэта ж структура з тыповым для семемы 'козлы' развіццём значэнняў сустракаецца і ў іншых рус. гаворках. Лінгвагеаграфічна — утварэнне ў гаворках усходу Беларусі і роднасных ім рус.; усх.-слав. статуса, відаць, няма. Утворана суфіксальным спосабам ад *каза*₁ (хоць гэта не адзіны варыянт тлумачэння, параўн. інш. роднасныя назвы), матывацыя зразумелая — наяўнасць зааморфнай прыкметы.

**Казю́лькі**₂ 'падстаўкі з бервяна з ножкамі пад пасцельны насціл' (Касп.). У рус. гаворках Літвы *казюльки* 'тс' статус няясны. Паколькі ножкі ў падстаўцы збіваюцца крыж-накрыж, можна думаць, што тут рэалізацыя тэрміна *козлы,* параўн. папярэдняе слова. Менш верагодна думаць, што назва датычыцца бервяна і тут назіраецца субстытуцыя тэрмінаў са значэннямі 'перакладзіна', 'падстаўка', як гэта ў выпадках тыпу *каза* (гл.). Да разглядаемага слова адносіцца, відаць, і адзначанае ДАБМ *казю́лькі* 'падстаўкі пад стог'.

**Казяле́ц** 'расліна Ranunculus acer' (БРС, ТСБМ, Дэмб.; маг., Кіс.; Шат.). Укр. *козелець* 'тс'. Для рус. гаворак СРНГ падае помету «валагодскае»; *козеле́ц* і *козе́лец* для 'Ranunculus' ведаюць таксама смал. і валаг. гаворкі. У якасці іншаславянскай паралелі можна прывесці польск. *kozielec* 'Anemone ranunculoides'. Відавочна, усх.-слав. *козелец* (акцэнтуацыя ў асобных мовах у гэтым слове не зусім зразумелая), якое да прасл. *kozьlьcь* 'казляня'. Матывацыя няясная. Магчыма, як аб гэтым сведчаць падобныя назвы ў слав. мовах для Pimpinnella, Valeriana, назву расліна атрымала паводле спецыфічнага паху; на гэта ўскосна ўказвае звестка аб тым, што *казялец* курылі ў хатах, каб пазбавіцца клапоў (рус. смал., СРНГ, 14, 60). Гэта, аднак, здагадка; у назвах для Ranunculus з паказальнай для Беларусі ўкр. або рус. тэрыторыі такая ўласцівасць (пах) ніяк не адзначаецца. Вельмі часта ў назвах раслін дэрываты ад *каза, казёл* ужываюцца для характарыстыкі розных зааморфных прыкмет. Сапраўды, у *казяльца* лісткі ўтвараюць штосьці накшталт казліных рожак, аднак гэта не дае падстаў меркаваць аб пераносе назвы па знешняму падабенству.

**Казяло́к**₁ 'расліна Tragopogon pratensis' (Дэмб., Касп.). Дакладная паралель ва ўкр. *козелок* 'некаторыя віды Tragopogon'. Рус. маск . *козёлик* і дыял. *козелька* 'розныя віды казлабародніку'. Здаецца, ёсць падставы лічыць гэту назву ўсх.-слав. Да бел. і ўкр. можна дадаць яшчэ рус. ніжнегар. *козелок* 'расліна Sonchus oleraceus'. Гэтыя расліны не вельмі падобныя, аднак падабенства можна ўбачыць у істотных дэталях іншай расліны (Sonchus arvensis), апрача таго,

7 Зак. 1263

можна меркаваць і аб функцыянальным пераносе (ядомыя расліны). Ва ўсякім разе фармальна ўсх.-слав. характар слова рус. прыкладам не столькі даводзіцца, колькі падмацоўваецца, бо няма падстаў лічыць бел. фіксацыі залежнымі ад укр. матэрыялу. Мяркуем, што ў даным выпадку для назвы расліны быў ужыты заонім *казялок* 'казляня'.

**Казяло́к**$_2$ 'жалезная падстаўка ў выглядзе трыножніка' (карэліц., нясвіж., Нар. словатв.). Укр. *козелець* 'штатыў у вітушцы', усх.-палес. *козлік, козюлок* 'вітушка', рус. халмаг., арханг. *козелок* 'некалькі калоў, жэрдак, пастаўленых разам у шацёр', арханг. *козёл (козлы)* 'бярвенні, пастаўленыя ў піраміду для прасушкі', *козла* 'трыножнік з жэрдак, палак для вогнішча' (перм.); бел. канкрэтная (мясцовая) рэалізацыя, магчыма, усх.-слав. тэрміна для розных невялікіх перакрыжаваных (козлы) канструкцый.

**Казяні́цца** 'акаціцца (пра казу)' (Мат. Гом.). Рус. зах.-бран. *козениться*. Рэгіянальны наватвор: другасны дзеяслоў ад *казянё, казяня* 'казляня', параўн. рус. *козеня* (зах., паўдн., зах.-бран., наўг., кур., Даль), укр. *козеня, бел.* (цэнтр. і ўсх.) *казяня*. Мадэль утварэння вельмі старажытная. Рус. калін. *козленить,* цвяр., зах.-бран. *козиться.*

**Казя́рка** 'стары падраны кажушок' (лаг., КЭС). Утварэнне па тыпу *кажарка* ад *козі* 'казіны', магчыма, для адмоўнай характарыстыкі рэаліі. Пераноснае ўжыванне заонімаў (тыпу воўк, вуж, сабака і інш.) для адмоўнай характарыстыкі розных з'яў, рэалій і інш. шырока вядома. Параўн., у Грынчэнкі, 2, 265: *«Козиний кожух, а вербові дрова, то й смерть готова».*

**Казя́рнік** 'расліна стрэлкі, Capsella bursa-pastoris' (Мат. Гом.). Укр. усх.-палес. *козерник* 'вадзяная расліна, балотніца, Aeleocharis'. Можна дапусціць сувязь з заонімам *каза,* фармальна пярэчыць гэтаму нельга. Словаўтварэнне не вельмі зразумелае, магчыма, з суфіксам *-нік* (такога тыпу назвы раслін: *малочнік, мыльнік, капялюшнік, гл.* Сцяцко, Афікс. наз., 163) ад асновы ўскладненай *-ар*-суфіксацыяй; магчыма, адразу з ускладненым суфіксам (дэкампазіцыя з дэрыватаў тыпу *амшарнік*). Матывацыя (сувязь з назвай жывёлы) як бел., так і ўкр. тэрмінаў няясная. Не выключана, што і ў тым, і ў другім выпадку незалежныя дэрываты ад назваў раслін з асновай *коз-,* на гэта, па сутнасці, указвае словаўтварэнне. Шукаць матывацыю ў адносінах да разглядаемых раслін цяжка; ва ўсякім разе знешніх яркіх зааморфных адзнак няма. Аб субстытуцыі тэрмінаў меркаваць быццам бы таксама не прыходзіцца: бел. матэрыял не дае падстаў для гэтага. Мы дапускаем і маты-

вацыю іншага роду ('расліна, якую ахвотна паядаюць козы'), аднак непасрэднай інфармацыі пра гэта няма.

**Казя́ўка** 'ўсякае маленькае насякомае, кузурка' (БРС, ТСБМ, Грыг., Касп., Сержп. Прымхі). Дакладны адпаведнік — у рус. *козявка.* Недастатковая інфармацыя як з бел., так і з рус. гаворак не дазваляе меркаваць з упэўненасцю аб статусе гэтага слова, магчыма, усх.-слав. утварэнне, а магчыма, рэгіянальнае бел.-рус. Утворана, відаць, ад *казява* 'маленькае насякомае, жук', якое далей да *коза (каза*₁*)*. Фармальная сувязь з назвай жывёлы відавочная, параўн. рус. пск., смал. *козявка* 'козлы для распілоўкі дроў', цвяр. *козява* 'жук' і інш. Назва магла быць утворана суфіксальным спосабам ад *каза*₁, а магла быць і пераносам ад *казява* 'каза', апошняе менш верагодна, паколькі рэальна яно не засведчана ні ў рус., ні ў бел. гаворках. Матывацыя назвы: наяўнасць (мяркуемая) зааморфных адзнак у насякомага (магчыма, і канкрэтнага), паводле якой і ўтвараецца тэрмін.

**Ка́ім** 'скупы' (міёр., З нар. сл.), *каімка, каіміна* 'скупы і люты чалавек' (міёр., З нар. сл.; Нар. словатв.). На думку Крыўко (З нар. сл.), ад уласнага біблейскага імя Каін. Гэта фармальна пацвярджаецца матэрыяламі слоўніка Насовіча. Рус. *каін* 'пракляты, які не раскаяўся, акаянны'. Народная этымалогія звязвае з *каяцца.* Трансфармацыі семантыкі і формы ў слове адбыліся ў выніку кантамінацыі зыходнай лексемы з гукава і сэнсава блізкай. Так, звяртае на сябе ўвагу ўжо разгледжанае намі *каём, каёміна* (гл.) 'шустры, бойкі', рус. паўн., усх. *окаём* 'нягоднік, неслух, ашуканец', ярасл. *окоём* 'хлус, нягоднік', 'скнара, скупы'. Што датычыцца ўжывання ўласнага імя як апелятыва, то гэта з'ява добра вядомая, параўн. для той жа тэрыторыі *адам* 'скупы'. Апошняя паралель таксама сведчыць у карысць *каім* < *Каін.*

**Ка́ін** 'пракляты, які не раскаяўся, акаянны' (Нас.). У даным выпадку не выключаны ўплыў дзеяслова *каяць, каяцца* або яго вытворных. Параўн. папярэдняе слова.

**Кайданы́** 'злучаныя ланцугом жалезныя кольцы, якія надзяваюцца на рукі і ногі тых, хто абвінавачваецца ў цяжкіх злачынствах' (БРС, ТСБМ, Гарэц., Др.-Падб., Нас., Яруш.). У гэтай жа форме слова вядома і ў іншых мовах: рус. (паўд. і зах., паводле Даля, смален., СРНГ), укр. *кайдани,* польск. *kajdany.* Па сутнасці, бел.-укр. лексема (польск. з укр., гл. Слаўскі, 2, 24, там і літ-ра). Магчыма, аб укр. крыніцы неабходна меркаваць і для бел. слова. Першапачаткова — араб. *kajdāni* — форма парнага ліку ад *kajd* 'завязка, пута'

(так у Міклашыча, 110). Слова распаўсюджвалася, верагодна, праз цюрк.-тат. пасрэдніцтва. З літаратуры параўн. Бернекер, 1, 469.

**Ка́йдуб**$_1$, *кайдоб* 'бочка' (Мат. Гом.), *кайдуб, кайдуп, кайдоб, кайдупчык, кайдопчык* (палес., З нар. сл., Нар. сл.), *кайдуб* 'драўляны корпус ручнога млына' (кобр., Выг.). Усе формы да *kadьlbъ,* гл. аб этымалогіі *кадоўба.* Што датычыцца фанетыкі, можна меркаваць, што тут *-й-* на месцы *-ў-,* параўн. форму *каўдуб; ў* у выніку метатэзы з другой часткі слова. Менш верагодна думаць пра з'яўленне ўстаўнога *-й-* у *кайстра*$_1$ 'кастра'.

**Ка́йдуб**$_2$ 'вельмі гразкае месца' (Клім.), 'вытаптанае месца на лузе' (Яшк.), лексема дэманструе пераход: назва посуду > назва рэаліі геаграфічнага рэльефу. Падрабязней гл. *кадоўба,* з літаратуры параўн. Талстой, Геогр., 219, дзе разглядаецца такі тып семантычнага пераходу.

**Кайло** 'ручны інструмент у выглядзе востраканцовага стальнога кліна на драўляным цаўі для адкопвання кускоў горных парод; кірка' (БРС, ТСБМ). Рус. *кайла* і *кайло,* без геаграфіі (Даль). Дабравольскі адзначае слова ў смаленскіх гаворках паводле СРНГ Урал. і інш. Бел. з рус., а тое з ням. *Keil* 'клін', аднак Фасмер (2, 161) выказваў сумненне ў правільнасці гэтай этымалогіі.

**Кайма́** 'паласа' (ТСБМ): *«...вузкая кайма маладога асінніку...»* Значэнне яўна другаснае, аднак цяжка вытлумачыць, што тут — русізм або мясцовы перанос ад *кайма* 'шляк, край' (Бяльк.). Геаграфія не вельмі паказальная, аднак дазваляе думаць пра запазычанне з рус. літар. мовы. У рус. адзначаецца з XVI ст., запазычана з цюрк. моў (параўн. тур. *kajma* 'строчка, вышыўка, шляк'). Цюрк. слова ўтворана ад дзеяслоўнай асновы *kaj-, kajmak* 'аблямоўваць', гл. Бернекер, 1, 469.

**Кайро́т** 'кола ў калаўроце' (Жд. 3). Мясцовая трансфармацыя назвы *калаварот, каўрот,* якое ў выніку гаплалогіі (для апошняга працэсу больш падыходзячая форма — *калаварот*). Што датычыцца фанетыкі, *-й-* на месцы *-ў-,* магчыма, як у *ка́йдуб*$_1$ (гл.), у адносінах семантыкі можна сумнявацца ў дакладнасці дэфініцыі, а калі дэфініцыя нават дакладная, можна разумець такую семантыку як адпаведную этымалагічнаму значэнню слова *калаўрот* (гл.).

**Кайстра́**$_1$ 'кастра, адходы, якія атрымліваюцца ў выніку пераціранavailability адзеравянелых частак сцябла пры мяцці і трапан-

ні валакністых раслін (лёну, канапель і інш.)' (Бяльк., Мат. Гом., Яўс.), *койстра* (петрык., Шатал.), *кайстрыца* (Маш., Радч., Янк. 2, Янк. 3), *кайстрыйка, кайстрычка* (Бяльк.), *кайстрысты* 'з кастрыцай' (Яўс). Геаграфія слова ўсх.-бел. толькі н.-зыбк., усх.-бран. *койстра* 'тс'. Мясцовая (усх.-бел.) інавацыя на базе *кастра* (гл.), фанетыку вытлумачыць з упэўненасцю цяжка. Магчыма, *-й-* «узнаўляецца» па аналогіі з лексікай, дзе адзначаюцца формы з *-й-* і без; не выключана, што тут уплыў слова *кайстра*$_2$, якое магло ўспрымацца як ананімічнае, аб фанетыцы апошняга гл. *кайстра*$_2$.

**Кайстра́**$_2$ 'дарожная торба, заплечны мяшок' (БРС, ТСБМ, Бяльк., касцюк., КЭС; Серж., Некр., Чуд., Шн. 3; Эр. Очерки; Яўс.), 'торба, мех; кошык' (Мат. Гом.), 'торба' (Янк. 1), 'торба з палатна' (мін., Карскі, 2; Маш.), 'торба са скуры' (Грыг.), *кайстры* 'мяшкі ў выглядзе кішэнь з палатна, якія носяць старцы' (Радч.), *кайстрачка* (Сержп.), *кайсцерка* (Мат. Гом.). Укр. *кайстра* 'мяшок' усх.-палес. 'торба', спарадычна *кастра* і *тайстра,* рус. смал. і бран. *кайстра* 'мяшок, торба, аброчная торба', СРНГ прыводзіць яшчэ памету «паўдн.-усх.» у форме *кастра* — курск. Брукнер (564) адзначае: «...*kajstra* ў гаворках, хаця звычайная польск. форма — *tajstra*». Слова лічыцца запазычаннем з лац. мовы. Фасмер (2, 162), аднак, не ўказвае шляхоў запазычання. Геаграфія слова ва ўсх.-слав. мовах сведчыць аб пранікненні або запазычанні з польск. мовы. У польск. Брукнер (там жа) меркаваў аб непасрэднай крыніцы чэш. *tanistra*. Гэта для польск. *tajstra;* формы з *-к-,* аднак, бліжэй да лац. *canistrum* (з грэч.) 'кошык, пляцёнка'. Разглядаемая форма з'яўляецца, відаць, зыходнай для палес. *тайстра,* польск. *tajstra;* Фасмер (2, 162) тлумачыў з'яўленне *-t-* дыстантнай дысіміляцыяй; працэс, як у *гумага* < *бумага.* Фанетыку слова *(кайстра* < *canistrum)* вытлумачыць цяжка, хутчэй за ўсё тут нерэгулярныя трансфармацыі, «апрацоўка» ў гаворках. На гаворкавы (кантактны) шлях распаўсюджання ўказвае шырокая вядомасць нелітаратурнай для польскай мовы формы слова. Неабходна, аднак, звярнуць увагу на тое, што бел. слова — усходняе па геаграфіі. Сімптаматычна, што Сл. паўн.-зах. адзначае формы *кайстра* і *кэйстра* толькі з Рагачоўскага і Калінкавіцкага раёнаў, што сведчыць аб запазычанні з польск. перыферыйнага дыялекту. Рус. гаворкі атрымалі слова за бел. пасрэдніцтвам; кур. *кастра* або з усх.-палес. *кастра,* або вынік незалежнай карэкцыі формы па блізкай у гукавым плане *костра* 'кастрыца'. Аб распаўсюджанні слова на ўкр. тэрыторыі дакладных звестак няма; не выключана, што ёсць два арэалы пранікнення: з польск. мовы і бел. Параўн. яшчэ *тайстра* (гл.).

**Кайстра́**$_3$ 'агонь, полымя' (Мат. Гом.). Мясцовая трансфармацыя слова *касцёр.* Магчыма, спачатку з формы *кайсцёр,* аналагічна і не без уплыву *кайстра*$_1$ (гл.).

***Какажу́х,** *кокожух* 'твань, дрыгва; зыбкае месца' (тур., ДАБМ). Рэгіянальнае ўтварэнне ад *кажух* 'тс' (гл.). На думку Талстога (геагр., 185),— падваенне пачатковага складу, не выключана, аднак, што гэта ўтварэнне па аналогіі да *кобагня* і пад., г. зн. з эфемерным прэфіксам у выніку дзеяння мадэлі ўтварэння, пабудаванай на этымалагічным пераасэнсаванні. Калі тут рэдуплікацыя складу, то аналагічнымі ўтварэннямі можна лічыць рус. смал., паўдн. і зах., паводле Даля, *какаты* 'абутак з лыка або бярosты і інш.'*(каты)*, укр. какабат. *«Лучшая кошуля ніж какабат»* (Грынч., 2, 208).

**Какалу́га** 'чаромха, Prunus padus', *какалуша* 'тс' (Бяльк., Мат. Гом., Шат.), *кукалушка* 'тс' (Бяльк.) , *какалуша* 'тс' (Растаргуеў). Усх.-бел. інавацыя: гаплалогія з *калакалуша, калакалука* (гл.).

**Какалю́ка** 'кій з самаробнай папярочкай' (Дразд.). Дакладных адпаведнікаў як быццам няма. Бел. слова знаходзіцца ў празрыстай сувязі з *клюка* 'тс', параўн. рус., укр. *клюка* 'тс' прасл.: в.-луж. *kluka* 'крук', серб.-харв. *кљу̏ка* 'крук і інш.' і г. д. Галосны *-а-* ў другім складзе ў выніку праяснення прыгуку (у форме *каклюка*) або, што не выключана, указвае на ўплыў іншай лексемы (тыпу *какоўка* 'папярочка'). Аналагічнае рус. пск. *коколячка* 'драўляны цвік, на які вешаюць умывальнік', аднак відавочна, што калі галосны *-(j)а-* тут быў і ў зыходнай лексеме, генезіс яго іншы. Можна думаць, *колячка* адпавядае таксама пск. *колка* 'драўляны цвік, на які вешаюць шапкі, рушнікі і да т. п.', дэмінутыў ад *кол,* параўн. бран, смал., кур. і інш. *колок* 'драўляны цвік у якасці вешалкі'. Калі гэта так, пск. слова ўтворана хутчэй за ўсё рэдуплікацыяй першага складу. Верагодна думаць і пра архетып *кляч- (коклячь-),* параўн. кастр. *клячик* 'маленькі клін, драўляны гваздок', ярасл. 'драўляная палачка, на якой вісіць аўчына, калі яе мнуць'. Пры такім тлумачэнні і бел. і пск. словы, як аналагічныя па ўтварэнню *(коклюка, коклячка),* можна параўнаць з рус. *коклюха* 'палка, дубінка', *коклюшка* (паўдн.-урал.) 'папярочка ў лапаце', аднак, рус. паралель патрабуе агаворкі. Па сутнасці, толькі адзінкавыя значэнні рус. *коклюха* (форма наогул рэдкая), *коклюшка* суадносяцца з сememамі, адзначанымі ў *клюка, клюшка.* Параўн. *коклюшка* 'палкі; рукаятка, верхні канец якой зроблены шыйкай з перахватам; верацяно з пражай; цэўка ў кроснах; карункі; вузел,

якім сцягваецца пасярэдзіне перавясла і да т. п.' і *клюка, клюха* 'дарожная палка, посах; качарга, крук; палка з загнутым канцом і інш.', *ключка* 'невялікая палка або мыліца з загнутым верхнім канцом', *клюшка* 'палка з загнутым канцом; качарга; драўляныя жэрдкі з загнутымі канцамі, якія падтрымліваюць латок у даху; дзерава, вырубленае з коранем і інш.', гл. падрабязней СРНГ, 14, 88—89; 13, 319—320, 326—327. Падобныя недакладнасці вымушаюць сумнявацца ў прапанаваным яшчэ Мацэнаўэрам чляненні *ко-клюха,* аднак і для версіі *кокл-юва* за адзінкавымі прыкладамі (параўн. астрах. *кокляк* 'камень, кусок дрэва, качарга і да т. п. на дне рэчкі, за якія можа зачапіцца вудачка') нельга знайсці падтрымку. Старыя параўнанні Праабражэнскага, 1, 331, з літ. *kãklas* 'шыя', грэч. *κύκλος* 'круг, калясо' ўяўляюцца таксама мала верагоднымі. Да бел. і пск. слоў яўна далучаецца і алан., арханг. *коклёвка, коллевка* (апошняя форма не вельмі надзейная, гл. СРНГ, 14, 88) 'палка з крывым верхнім канцом для апоры; кульба (звычайна ў старцаў), аднак нельга не адзначыць, што і тут вычляненне другой часткі слаба пацвярджаецца семантычна,— рус. калуж., пск. *клёвка* 'матыга, молат', іншыя варыянты толькі ўскосна дазваляюць меркаваць аб сувязі гэтых слоў і вычлененай часткі *клёвка.* Апрача гэтага, не вельмі ясна і з'яўленне *ко-* ў разглядаемых словах, паколькі ўмоў для рэдуплікацыі быццам бы няма. Таму тут нельга выключыць уплыў лексікі з блізкай семантыкай, у структуры якіх аналагічная першая частка *(ко-)* з'яўляецца заканамернай. Фасмер (2, 282) меркаваў аб прэфіксе *ко-* ў адносінах да рус. *коклюха,* але як у тым выпадку, так і ў дачыненні да бел. слова такую версію нельга прыняць, паколькі гэта лексіка не з'яўляецца тыповай у шэрагу ўтварэнняў з такім суфіксам.

**Каке́ша** 'поўны, тоўсты' (міёр., З нар. сл.). Тут або мясцовая пераробка з адмоўнай кантамінацыяй (у выніку гульні слоў або ў працэсе дражнення) вядомага на той жа тэрыторыі *капеша* 'поўны, тоўсты' (< *капацца* 'марудна рабіць што-н.).

***Ка̀кешы,** *кокешы* 'калені' (Федар. Рук.). У тэксце: *«Торяна на печэ кокешы задзерла».* Дакладных адпаведнікаў быццам бы няма (калі дэфініцыя правільная). Думаецца, тут мясцовае ўтварэнне ад паліморфнай формы лексемы са значэннем 'кукішкі'. Бліжэйшай роднаснай формай (і тэрытарыяльна блізкай) з'яўляецца воран. *какошкі,* маст. *кокашки, кокашы,* дзятл. *кокішкі.* Тут семантычны пераход *кукішкі > калені,* які цяжка вытлумачыць.

**Каклéта** 'катлета' (Бяльк.). Дыстантная дысіміляцыя *(т — т, к — т)*. Параўн. *катлéта.*

**Какóра**$_1$ 'старая каржакаватая бяроза' (полац., Суднік, вусн. паведамл.), 'сухая крываватая палка' (полац., Садоўскі, вусн. паведамл.), *закакорына* 'закавыка' (слаўг., Яшкін, вусн. паведамл.). Параўн. *какора*$_2$ (гл.).

**Какóра**$_2$ 'частка каркаса лодкі' (жытк., Жыв. сл.; Маслен.; стол., Нар. сл.; ТСБМ), 'частка пабудовы' (Сержп. Грам.), *кокора* 'будан з загнутых і звязаных парамі галін вербалозу', 'нізкі разгалісты дуб на балоце, на які клалі стажок сена' (стол., Нар. сл.). Да палес. лексікі польск. *kokóra;* як тлумачыць Слаўскі, 2, 336, такога польскага слова няма, прыведзеная форма адзначана толькі ў Слоўніку Казлоўскага і датыччыцца Палесся. Як здаецца, наяўная інфармацыя не вельмі адэкватна адлюстроўвае бел. матэрыял за межамі палескай тэрыторыі, на гэта ўказвае, магчыма, сведчанне Сержпутоўскага і паўн.-бел. лексіка. Вельмі шырока прадстаўлены адпаведнікі да разглядаемага слова ў рускай мове. Найбольш дакладныя: *кокора* 'дзерава (звычайна хваёвае) з выгнутым каранем; ідзе на астовы, шпангоўты і да т. п. лодак, барак', «Какоры идут на поделку предметов, которые должны иметь на конце крючок или загиб, например прялки, кичиги, курицы (при постройке дома)» (СРНГ, 14, 93), 'бервяно з крывым загнутым канцом, якое ўжываецца пры пабудове хаты' і інш. Падобныя значэнні добра вядомы на моўнай тэрыторыі (СРНГ, там жа форма *кочёра, кочера* ў блізкіх значэннях і інш.). Этымалогія слова не вельмі пэўная, не выключаецца і іншамоўны ўплыў (гл. Фасмер, 2, 283) і працэс кантамінацыі, які вельмі зацямніў першапачатковую форму. Звычайна лічыцца праславянскім (Слаўскі, 2, 337), (БЕР, 2, 537). БЕР (там жа) мяркуе, што да рус. *кокора* адносіцца і балг. дыял. *кокор* 'грабавы куст', 'ссохлы грабавы куст, які выкарыстоўваецца для асвятлення', 'куст, які расце на камяністых месцах і з якога вяжуць венікі', 'камяністае месца, зарослае кустамі і цярноўнікам', *кокоряевам* (аб дрэве) 'пашкаджацца ў росце'. Параўн. серб.-харв. *кокара* 'галіна'. Скок (2, 120) параўноўвае гэту лексему з балг. чекор 'галіна', лат. *ceceris, cecers* 'пень', 'пень з каранямі' і лічыць, што калі гэтыя супастаўленні правільныя, серб.-харв. слова суадносіцца з рус. *кокора.* Паўтараецца, па сутнасці, даўняя этымалогія для гэтай групы лексікі, якую даў ужо Бернекер (1, 540). Розніца ў семантыцы слова на поўдні і поўначы і, апрача таго, вельмі няясная этымалогія назваў раслін, якія звычайна лічацца роднаснымі вышэй прыведзеным лексемам (гл. спец. *какарнак*). Па сутнасці, паўдн.-

слав. семантыка 'кучаравы', 'натапыраны' і да т. п., якая паслядоўна характарызуе валасы чалавека, пер'е птушак і г. д., паўтараецца на поўначы толькі ў лат. мове, дзе значэнні 'брыдкі, падступны і да т. п. чалавек', 'кучаравая галава' ўспрымаюцца як пераносныя, з 'пень з выдранымі з зямлі каранямі', гл. Мюленбах-Эндзелін, 1, 367. На думку Эндзеліна, як і *cencers* 'стары пень' (семантыка, засведчаная для рус. *кокора*), лат. *ceceris* з'яўляецца рэдуплікацыяй *cers* 'шышкаваты, слойны корань дзерава'. Семантыка лат. слова вельмі разнастайная: *cers* 'куст, кустарник', 'расліна, якая кусціцца з аднаго кораня' (напрыклад, жыта), 'шышкаваты, сукаваты корань дрэва', 'група кустарнікаў', 'букет кветак', 'месца, якое зарасло чаротам і трыснягом', 'зарослае месца на балоце', 'атожылак, парастак', 'нарасць'. Далей сюды ж адносіцца літ. *kẽras* 'куст', 'пень', 'выкарчаваны пень' і інш., якія суадносяцца з слав. *korenь*. Пры гэтым лат. *cera* 'ўскудлачаныя, натапыраныя валасы' неабходна лічыць другасным.

Асноўныя значэнні, якія даволі лёгка выводзяцца з літ. і лат., магчыма, і ў прус. мовах (параўн. *kerberse* 'кустарнікавая, куставая бяроза', гл. падрабязна аб рэканструкцыі і этымалогіі Тапароў J — K, 313—315) 'кусцісты, нізкарослы' засведчаны і ў слав. мовах: рус. *корь* 'корань' (толькі разан., фіксацыі пачатку і сярэдзіны мінулага стагоддзя), польск. *kierz* 'куст', *kierzek,* н.-луж. *keŕ,* в.-луж. *keŕ,* чэш. *keř,* славац. *ker* 'тс'. Паводле Слаўскага, 2, 157, можна рэканструяваць паўн.-слав. **kъrjь,* які апафанічна суадносіцца з прасл. *korenь* (у Тапарова, там жа, рэканструкцыя **kъrь*). Вытворныя ад кораня з нулявой ступенню аблаўта пруск. *kirno* 'куст', літ. *kìrna* 'кірчага', 'кусцістае, балоцістае месца', 'буралом', 'ражны, якія застаюцца пасля ссячэння кустоў' і інш. Адзначым значэнне літ. слова 'скнара' (LKŽ, 5, 848). З усх.-слав. фактаў звяртаюць на сябе ўвагу такія лексемы, як тульск. *карёк* 'кустоўе', якое Даль (2, 227) тлумачыў: «Вероятно, коряжник криворослый», рус. разан., тульск., валаг. 'кустоўе', (тульск.) 'дробне кустоўе' (СРНГ), валаг., разан., тульск., пенз. 'куст, які расце ад пня дрэва', н.-сіб. 'балоцістае месца, якое зарасло кустоўем', калуж., маск. (Даль), разан. 'група дрэў пасярэдзіне поля на нізкім месцы', маск. 'лес на востраве' і інш. Адзначым, што апошняе можна разглядаць як вытворнае ад *корь,* якое, відаць, да *кора*. Важна, што, апрача супадзення семантыкі, дакладных фармальных адпаведнікаў у балт. мовах няма. Буга (Rinkt, 2, 216) меркаваў аб сувязі рус. *кокора, кочера, кочерга* з лат. *kakalis, kakaža,* літ. *kakar̃lis*. Што датычыцца літ. *kakar̃lis,* то, паводле LKŽ, 5, 88, яно сустракаецца толькі на паўн. усходзе (р-ны: Купішк.,

Уцен., Ракішк.), асноўнае значэнне 'мяшалка' (з доўгай ручкай і крывым канцом, зробленая з дрэўца з загнутым коранем або з галінай, мяшаць страву, мясіць хлеб; качарга). Шустэр-Шэўц (8, 588) прапанаваў версію, паводле якой прасл. **kokor*- суадносіцца з коранем **kok*-. Пры гэтым суфіксацыя *-or* тлумачыцца як адпаведная чэш., славац. *sochor,* в.-луж. *capor, capr, sochor,* больш падрабязна ў таго ж аўтара ZfSl, XIX, 6, 586—587.

**Како́ра**3 (паўн., КЭС), *какор* 'бохан хлеба' (КЭС), *какоры* 'хлеб з мукі без дабавак', 'булачкі' (Анім.), *кокора* (Нік. Очерки, 95): «название пирога, позже ставшего «пытлюваным, солиным» хлебом», *какоркі, какоры* 'перапечкі з бульбы, мукі, з прэснага або кіслага цеста' (зах., Сл. паўн.-зах.), *какорына* 'тоўсты блін з цёртай бульбы' (Сл. паўн.-зах.; рас., Шатал.), 'блін з мукі' (Сл. паўн.-зах.). Рус. пск., наўг. *кокора* 'аладка', пск. 'тоўсты блін', 'ватрушка (з тварагом, бульбай, морквай і да т. п.)' (пск., тое ж і ў Сл. паўн.-зах. у шэрагу ілюстрацый), 'ватрушка з бульбай, абавязкова з кіслага цеста' (валд., наўг.), 'круглы хлеб, вагой у 2—3 фунты, прыгатаваны з лепшай мукі хатняга памолу'. Дэрываты *кокорина* наўг., пск. у розных значэннях: 'тоўсты блін (адзін)', 'ватрушка з аржаной мукі з тварагом', 'пірог' (пушк., пск.). Аналагічныя лексемы адзначаны і ў рус. гаворках на тэрыторыі прыбалтыйскіх рэспублік. На больш шырокай рус. тэрыторыі наўг., вялікал., калін. і інш. сустракаецца *кокорка, кокорока,* звычайна ў тых жа значэннях. Звяртае на сябе ўвагу валаг., ярасл., перм., урал. і інш. *кокорки* 'тварог', 'дробныя камячкі, камякі ў малацэ (с.-урал.), (перм., с.-урал. і інш.), 'камякі бруду і інш.', тут, магчыма, пазнейшая ад'ідэацыя да іншага слова. Далей на рус. моўнай тэрыторыі сустракаецца вельмі часта *кокура, кокурка* 'аладка', калач, абаранак, пірог і інш.'. Не вельмі яснае слова. З аднаго боку, рус. *кокора* запазычана з фін. *kakkara* 'клёцка; від хлеба', аднак гэтаму пярэчыць другі арэал (форма *кокура*) у глыбіні рус. гаворак. Вельмі спакусліва разглядаць рус. словы (*кокора* і *какура*) асобна, аднак шэраг супадзенняў у пабочных значэннях сведчыць аб іх цеснай суаднесенасці і пярэчыць такой магчымасці. Фасмер (там жа) лічыў, што ўтворана слова *какора* хутчэй за ўсё ад *кока* 'курынае яйка ў дзіцячай мове', 'пшанічны хлеб, пірог' (арханг.) і быў супраць Калімы, што тут уплыў фін. *kukko* 'нейкі пірог; певень' Пацвярджае думку Фасмера, магчыма, толькі рус. раз., сарат. і інш. *кокура* 'страва з цеста ў выглядзе круглай буханачкі з запечаным у сярэдзіне цэлым яйкам (маск., уладз., кастрам., казан., перм. і інш.), *кокурка* 'тс',

аднак гэта значэнне толькі пабочнае. Прыняць думку Фасмера нельга па шэрагу прычын (семантыка, форма, лінгвагеаграфічны крытэрый). Цікава, што для паўн.-рус. *кокач* 'пірог з кіслага жытняга цеста з начынкай з талакна, проса, гароху, рыжыкаў' Фасмер прыняў прапанаванне Калімы алан. *kokoi* 'хлеб з ячменя або аўса' ў якасці крыніцы запазычання, у той час як для іншых, верагодна, суаднесеных з фін. лексікай рус. слоў шукаў этымалогію на рус. глебе. Цікава пры гэтым звярнуць увагу на літ *kakarokas* 'пірог, ляпёшка', зафіксаванае ў Ракішскім і Купішскім раёнах. Лексема не вельмі ясная, аднак фармальна яна як быццам пацвярджае магчымы архаічны характар слав. лексікі.

**Како́ра**$_4$ 'гультай' (Мат. Гом.). Рус. паўн. 'пра нязграбнага, непаваротлівага чалавека', *кокора сицкая,* у Даля і ў акадэмічным слоўніку 1911г.: «(В местностях около реки Сити) есть привычка говорить о том, кто не ловок в обращении, не развязен, не умеет щегольно одеться.., кокора сицкая!» (яраcл., СРНГ, 14, 94), перм. 'пра лянівага чалавека, гультая', магчыма, і больш падыходзячыя па геаграфіі пск., цвяр., асташ. 'пра скупога, прагнага чалавека', пск. *какора* 'пра непадступнага, цвёрдага, як крэмень, чалавека', яраcл. 'пра неразумнага чалавека, дурня'. Звернем увагу на тое, што звычайная паралель да рус. *кокора* 'карань, пень і інш.' у этымалагічных слоўніках (Фасмер, 2, 282) *кокористый* з'яўляецца толькі рэгіянальным вытворным ад рус. *кокора* 'непадступны, цвёрды'. Параўн. рус. пск., асташ., цвяр. *кокористый* 'натурысты, упарты', 'незгаворлівы', 'скупы' і вышэй прыведзеныя дэфініцыі і геаграфію для *кокора.* Фармальнае супадзенне дазваляе суаднесці гэта слова з *какора*$_2$ і *какора*$_3$. Сувязь з другім словам уяўляецца малаверагоднай, хоць семема 'тоўсты' ў *какора*$_3$ магла перайсці ў 'непаваротлівы', і такое развіццё семантыкі можна было б прыняць. Аднак гэтай версіі пярэчыць лінгвагеаграфія бел. слова (*какора*$_4$ — паўд., а *какора*$_3$ — паўн.) і адсутнасць прыкладаў ужывання слова *какора*$_3$ для адмоўнай характарыстыкі чалавека. Між тым сувязь разглядаемых слоў з *какора*$_3$ даводзіцца значна лягчэй, а магчымасць ужывання семем 'калода', 'пень', 'дубіна' пераносна для характарыстыкі чалавека каментарыяў не патрабуе. Цяжэй вытлумачыць значэнне 'непадступны, цвёрды' ('скупы' і 'хцівы' — на базе менавіта гэтай семемы). Магчыма, неабходна суадносіць яго з такімі значэннямі рус. слова *кокора,* як 'галінасты, сукаваты; абрубак дрэва'.

**Како́рыце** 'кукуруза, *Zea mays*' (паўн., КЭС). Відаць, зб. форма ад *какарыца* (або *какорыца?)* 'кукуруза'. Падобныя

формы адзначаны Віленскім слоўнікам: *kokoryca* і ў Ліндэ: *kukuryca* 'Zea mays'. Слаўскі (3, 337) адзначае, што яшчэ ў XVIII ст. польск. назвы адчуваліся як усх.-слав. выраз. Укр. дыял. *кукуріца, кукуриця,* в.-луж., н.-луж. *kukurica,* чэш. *kukuřice,* славац. *kukurica,* славен. *kukuríca, kukoríca, kokorica,* серб.-харв. *кукурница.* Вандроўны тэрмін не вельмі яснага паходжання, верагодна, экспансія тэрміна разам з рэаліяй. На поўначы, магчыма, ад паўднёвых славян. Адносна этымалогіі Слаўскі (там жа) мяркуе, што, сапраўды, нельга, як аб гэтым пісаў Бернекер (1, 640—641 і інш.), выключыць паходжанне слова на слав. глебе. Ён звяртае ўвагу на тое, што найбольш частая ў слав. мовах форма *kukurica* праяўляе дзіўнае падабенства да слав. тэрмінаў для раслін з асновамі **kokor-*: **kukur-*. Галоўнай перашкодай да версіі аб слав. паходжанні слоў, якія абазначаюць кукурузу, з'яўляецца словаўтварэнне, і калі вышэй прыведзеныя формы можна неяк вытлумачыць на слав. глебе, то шырока прадстаўленыя лексемы *кукуруза, кукурудза* нельга разглядаць у такім аспекце. Агляд версій пад *кукуруза* (гл.).

***Какатáць,** *какытáць* 'сакатаць' (Бяльк.). У якасці адпаведнікаў можна прывесці ўкр. *кокотіти* 'лепятаць, балбатаць', верагодна, рус. ярасл., наўг. *кокотать* 'сакатаць', польск. *kokotać* 'пра голас фазана ў час гульні (паляўнічы тэрмін)', в.-луж. *kokotać* 'сакатаць', н.-луж. *kokotaś* 'сакатаць і інш.', славен. *kokotáti* 'тс', серб.-харв. *кокòтати* 'тс', балг. дыял. *кокоча* 'выдаваць голасам ко-ко'. Ёсць і формы з іншым суфіксам: польск. дыял. *koktati,* чэш. *koktati* і наогул без суфікса: польск. і інш. *kokać* у розных блізкіх значэннях. Паралелі да бел. лексемы быццам бы дазваляюць рэканструяваць праслав. *kokotati,* аднак спосаб утварэння слова не вельмі ясны. Слаўскі (2, 332) мяркуе, што ад *kokać* ( $<$ **kokati,* якое ад гукапераймальнага *ko — ko*) з пашырэннем суфіксаў *-ot-: -ъt-* або, магчыма, ад асновы *kok-* з тыповай для гукапераймальных дзеясловаў структурай *-ъt-ati, -ot-ati.* Параўн. і *кокат* (гл.). Да адзначанага польск. слова параўн. і літ. дыял. *kakóti* (пра пеўня).

**Какóўка** 'папярочка на дзержаку рыдлёўкі, віл' (касцюк., ушац., Жыв. сл.). Бел. слова з'яўляецца або пранікненнем з рус. гаворак (пра што сведчыць і значэнне слова, магчыма, тэрміналагічнае), або агульнага паходжання з рус. лексікай. У рус. *кокова* 'палка з крывым верхнім канцом, кульба', цвяр., наўг. 'мыліца', 'качарга', валаг. 'верацяно з намотанай не да канца пражай', 'кончык носа', алан. *коковка* 'загнуты верхні канец палкі, кульбы', наўг. і інш. 'палка з крывым верх-

нім канцом', кастр., воранеж. 'паліца, доўбня', цвяр., наўг. 'мыліца', 'качарга', цвяр. 'акруглы край верацяна і інш.', ніжнегар. 'клубок нітак на кароткай палцы' і мн. інш. Рус. *коковка* ў слоўніку Фасмера не праэтымалагізавана. Да бел. і рус. лексем паралелей быццам бы няма. Этымалагічна слова вельмі няяснае. Можна меркаваць аб чляненні *ko-koba,* як аб інавацыі ў некаторых рус. і адпаведнай бел. гаворцы. Па ўтварэнню гэта структура магла быць з рэдуплікаваным першым складам. Другую частку можна параўнаць з адзначаным у Даля рус. наўг. *кова* 'кол, пень, паля'. Магчыма, сюды можна аднесці бел. *кавеня,* укр. *ковінька* 'палка з загнутым канцом, кульба', *ковиза* 'кульба', аднак няяснае словаўтварэнне лексемы. Далей, сюды і рус. *закавыка, ковыка.* Але *ковыка* ў СРНГ толькі ў значэнні 'нейкая расліна'. Словаўтварэнне не вельмі яснае: *-ов-* прыметнікавы фармант, які ў выніку перараскладання ўвайшоў у састаў складанага суфікса. Звяртае на сябе ўвагу і тое, што семантыка такіх утварэнняў, як рус. *кокова, кокора, кокот, кокотышка, кошка, кука* і пад., не выключае магчымасці неаднаразовага збліжэння гэтых лексем, што можа выклікаць трансфармацыю як формы, так і семантыкі, або наогул прывесці да генерацыі кантамінаванай формы. Магчыма, разглядаемае слова з'яўляецца вынікам такіх збліжэнняў і трансфармацый.

**Како́хнуць** 'цяжка ўздыхнуць': *«Не какохня нядродная маці па чужому дзіцяці»* (Косіч, 2, 26). Бел. слова нельга аддзяліць ад рус. бран. *какохнуць* 'стагнаць ад болю', смал. *кохнуть* 'для перадачы стогнаў хворага' і інш. Мясцовая інавацыя на базе гукаперaймальнага слова. Пры гэтым бел. слова з бран. адпаведнікам, відаць, яшчэ больш абмежаванае па геаграфіі. Па структуры гэта лексема — утварэнне з рэдуплікацыяй першага складу, не выключана, што пад уплывам канструкцыі *кох-кох* або наогул на яе базе. Магчыма, бел. *кохлік* 'кашаль' (гл).

**Како́ш,** *какош* 'хвошч, Equisetum' (мазыр., З нар. сл.). Адпаведнікаў у іншых мовах з такім значэннем не знаходзіцца. Можна суаднесці з даўняй слав. назвай курыцы *kokošь.* Матыў намінацыі не вельмі відавочны, паколькі асобныя віды расліны (E. arveuse, E. sylvaticum, E. palustre) у асноўных дэталях адрозніваюцца паміж сабой. Апрача таго, сярод хвашчоў ёсць ядомыя і атрутныя віды. Не выключана, што тут перанос па знешняму падабенству або ў выніку пераносу заоніма як тэрміна. Параўн. серб.-харв. *ко̀ко̄шка* 'расліна Sedum telephium' (параўн. бел. *зайцава капуста, зайчыкава капуста),* 'Capsella', чэш. *kokoška* (няяснае для Махэка, Jména rostl,

63), рус. *кокушка* (у прамым значэнні 'зязюля'?), 'шышка, ('яйка', 'шарык у каньку даху', 'разнавіднасць верацяна'), серб.-харв. *kòкōшка* 'клубок, наматаны на спецыяльнае прыстасаванне' і інш. Не выключана таксама, што назва — вынік трансфармацыі больш шырока вядомага *какошнік* 'Calla palustris'; перанос назвы — паводле функцыі расліны (калі абедзве ўжываліся як корм для жывёлы і раслі ў блізкіх умовах). Гэта, аднак, малаверагодна па той прычыне, што знешне расліны не падобныя (няма і агульных сінонімаў, якія б пацвердзілі такую думку). Адносна этымалогіі прасл. *kokoš*. Гл. *какошка* 1.

**Какóш**2, *кокóш* 'бэлькі', *кошка* 'тс' (Маш.), *kokoše* 'вільчык' (Тарн.), *какашына* 'дзве дошкі (або жэрдкі), якія прыбіваюцца да лат з абодвух бакоў франтона' (мазыр., Нар. сл.), *какошкі, какошыны.* У рус. мове *кокошина* 'гак, які падтрымлівае латак для сцёку вады на даху сялянскага будынка' (з пам. «зап.», не выключана, што гэта бел. лексема). Іншыя паралелі: бел. *курыца,* рус. *курица* 'доўгі гак, высечаны з нятоўстага дрэва з коранем, які падтрымлівае скаты і латакі даху', наўг. і інш. 'кроквы', *куричина* 'кроква на хаце з гачкападобным выгінам на ніжнім канцы для падтрымкі латака, ската даху' (пск. і інш.), (цвяр., пск., наўг. і інш.) 'драўляны крук на канцы кроквы', *кура, куры* (арханг.) 'доўгая тоўстая жэрдка, на якой трымаецца латак'. Да значэння 'вільчык даху' параўн. рус. *кочет, кочетина* 'жэрдка або дрэва, загнутае з аднаго боку або з часткай кораня, якое ўтрымлівае салому на даху' (шуйск., уладз., іван. і інш.), *какора, кокша, петухи* і інш., што сведчыць не толькі аб ужыванні заонімаў як тэрмінаў, але і аб складаных працэсах узаемаўплываў, калькавання, магчыма, збліжэння лексем і трансфармацыі структуры да поўнай амафаніі. Таму цяжка меркаваць аб часе ўтварэння гэтых слоў і аб архетыпах. Беларуская лексіка выглядае як старая — захаванне даўняй лексікі ў тэрміналогіі з'яўляецца звычайным. Аднак не вельмі ясна. Бел. *кокаш* з'яўляецца незалежным ужываннем заонімаў у якасці тэрміна (перанос назвы як вынік супастаўлення характэрных адзнак птушкі — лапы, кіпцюры) або тут калька з вандроўнага тэрміна. Аб магчымасці незалежнага ўтварэння параўн. польск. *kokoszka* 'бэлька, якая злучае кроквы' і меркаванні Слаўскага, 2, 339 (аспрэчваецца магчымасць калькі з ням. *Hahnenbalken,* нягледзячы на тое што ёсць у гаворках яўна запазычанне *hambalek, hembalek*). Ням. паралель ва ўсякім разе пацвярджае складанасць праблемы, параўн. яшчэ рус. пск. *куричина* 'бэлька, якая падтрымлівае столь, рама'.

**Како́шка**1, *kakóška* 'курыца' (Федар., 6). Дэрыват ад прасл. *kokošь*, якое рэканструюе на базе ўкр. *кокош* 'певень', рус. *кокошь* 'курыца', польск. *kokosz* 'тс', в.-луж., н.-луж. *kokoš* 'тс', чэш., славац. *kokoš* 'певень', славен. *kokoš*, серб.-харв. *ко̏кош*, балг. *кокош* 'курыца'. Прасл. лексема ўтворана суфіксам *-ošь* ад той жа самай асновы, што і *kokotъ* (гл. *кокат*), гукапераймальнага паходжання. Параўн. лац. *coco-coco* аб спеве пеўня, франц. *coq* 'певень', англ., *cock* і інш. Што датычыцца функцыі суфікса, параўн. меркаванні Слаўскага, 2, 338, які параўноўвае *-ošь* з суф. *-uša* (рус. *квакуша* 'жаба', балг. *крекетуша* і інш.). Бел. кантынуант ад гэтай прасл. формы прадстаўлен толькі ў тэрмінах, параўн. *какош*1, 2. Таксама мае паралелі ў слав. мовах (укр. дыял. *кокошка*, рус. *кокошка* 'поўная, круглая жанчына', відавочны другасны перанос), польск. *kokoszka*, в.-луж., н.-луж. *kokoška*, славен. *kokôška*, серб.-харв. *ко̀кошка*, макед. *кокошка*, балг. *кокошка* сведчаць аб праславянскім яе характары, хоць рэгулярны характар памянш. суфікса дапускае і незалежнае ўтварэнне гэтых лексем у асобных мовах.

**Како́шка**2 '?' (Федар., 6, 8: *«Дзве какошкі, дзве какошкі Да мліна насіць»)*. Значэнне няяснае, аднак фармальная сувязь з даўняй назвай курыцы відавочная. Этымалогія *kokošь* пад *какошка*1.

**Како́шка**3 'своеасаблівы кранштэйн для пашырэння лаўкі, каб на ёй можна было паслаць пасцель' (стаўб., З нар. сл.). Відаць, суадносіны з тэрмінам *какош*2 (гл.); рэаліі, відавочна, падобныя, аднак назва *какош* пашырана значна больш, ёсць і адпаведнікі за межамі бел. мовы для гэтага слова. Таму *какошка*3 разглядаецца як другаснае.

**Како́шнік**1 'галаўны ўбор, намітка' (Бяльк.), 'старадаўні рускі жаночы галаўны ўбор у выглядзе ўпрыгожанага шчытка над ілбом' (БРС, ТСБМ). Слова ў другой фіксацыі неабходна лічыць русізмам, больш цяжкая справа з усх.-бел. лексемай. Адпаведнік гэтаму слову ў рус. мове: *кокошник* 'жаночы галаўны ўбор («кичкообразныя, полотенчатый, в виде чепца, шапочки, ...широкой туфли, шитой золотом и позументом») і да т. п.', змястоўнае апісанне рэалій дае СРНГ, 14, 101—102. Месца распаўсюджання слова — пск., цвяр., калуж., валаг., наўг. і інш., у глыбіні рус. моўнай тэрыторыі, сведчыць аб тым, што рус. лексема, паралелей да якой у іншых мовах не знаходзіцца, з'яўляецца інавацыяй. Бел. у такім разе або непасрэдна суадносіцца з рус. (у выніку гістарычнай сувязі ўсх.-бел. гаворак з рус.), або пранікненне з рус. гаворак.

Нельга выключыць і магчымасці прыўнясення слова перасяленцамі. Што датычыцца матываў намінацыі рус. лексемы, можна саслацца на даследаванне Зяленіна, які меркаваў, што тэрмін суадносіцца з назвай курыцы (або пеўня) *кокошь* па той прычыне, што рэалія нагадвае грэбень на галаве птушкі (Russ. Volksk., 234 і наст.; там і малюнак). Іншыя назвы галаўнога ўбору, звязаныя з назвай птушкі: рус. *кокоша, кокошка, сорока.*

**Како́шнік**₂ 'капытнік, Calla palustris' (мін., Кіс.; Касп.; чэрв., Нар. лекс.), *какочнік* 'тс' (віц., Ганч.; Кіс.). *Какошнік як* 'бабоўнік' (Жд. 2), аднак, відавочна, што тут размова ідзе аб той жа расліне (параўн. нар. сінонімы для Calla palustris: *заячы бабоўнік, бобак, бабоўнік),* а зусім не пра *бабоўнік* 'Laburnum' — ядавітую расліну, назва якой у бел. мове калькуе рус. тэрмін *бобовник* і з'яўляецца вельмі няўдалай, паколькі ў бел. гаворках лексема *бабоўнік* азначае расліну Calla або Menyanthes. Гэтыя расліны непадобныя, аднак у іх падобныя па форме карэнні, што тлумачыць аднолькавасць назвы. Як сінонім да *бабок* 'Menyanthes' падае слова *бабоўнік* і ТСБМ, прыводзячы трэцім значэннем 'Laburnum'. Відавочна, што тут недакладнасць тлумачэння лексемы *какошнік* (Жд. 2): ужыта для дэфініцыі народная назва. Адсутнасць шматлікіх сінонімаў у бел. гаворках для расліны Menyanthes дазваляе думаць, што *какошнік* у мінска-маладзечанскім слоўніку азначае толькі 'Calla' і нельга меркаваць аб магчымым пераносе назвы *какошнік* на Menyanthes. Зафіксаваны варыянт *какочнік* уяўляе спробу паказаць унутраную форму або трансфармацыю «суфікса» на больш падыходзячыя ў выніку дээтымалагізацыі лексемы. Фармальныя паралелі да гэтага слова ў рус. *кокошник;* дакладных адпаведнікаў няма. Улічваючы, што ўтваральная аснова ў бел. мове вельмі рэдка прадстаўлена (гл. *какошка*₁ і інш.), можна дапусціць, што тэрмін *какошнік стары* — бел. інавацыя даўняга перыяду або наогул архаізм; у слав. мовах няма агульнай назвы для Calla. Апошняе меркаванне, аднак, толькі дагадка. Матывацыя суаднесенасці назвы расліны з тэрмінам для птушкі раскрываецца праз сінонімы *петушкі, пеўнікі* (гом., Кіс.), *гуска, пятушкі* (маг., Кіс.), *пітушкі* (Бяльк.) і вядомыя меркаванні, паводле якіх так называюцца расліны з белым колерам кветак або са спалучэннем белага і жоўтага. Параўн. яшчэ рус. *белокрыльник.*

**Ка́ктус** 'расліна сям. Cactaceace' (БРС, ТСБМ). У ТСБМ недакладная дэфініцыя: 'паўднёвая расліна з бязлістым мясіста-сакавітым сцяблом, укрытым калючкамі'. Па-першае,

кактусы сустракаюцца ад Канады да Патагоніі, а па-другое, ёсць расліны з нармальна развітым лісцем (род Peireskia). Запазычанне кніжнага характару з ням. *Kaktus* або англ. *cactus,* якія ўзыходзяць да грэч. *κακτός*.

**Кактýн** 'нараст на дрэве' (Бяльк.). Статус слова няясны (адзіная фіксацыя на бел. моўнай тэрыторыі, адсутнасць паралелей і бел. адпаведнікаў), што не дазваляе з упэўненасцю меркаваць аб прыналежнасці лексемы да бел. мовы. Разглядаючы *-ун* як суфіксальнае, можна выдзеліць аснову *какт-(кокт)* і суаднесці яе з рус. *кокта* і *какта* 'дрэва, вывернутае з коранем цячэннем і выкінутае на водмель або якое завязла на дне рэчкі' (валаг.). Іншыя значэнні рус. лексем ('частка сахі', 'дрэўка ў брадніку' і інш.) дазваляюць меркаваць, што гэтыя словы частковыя сінонімы да *кокора* і пад., для якога значэнні 'патаўшчэнне', 'нараст' з'яўляюцца натуральнымі. Можна меркаваць, што слоўнікі не адзначылі ўсіх семем для рус. *кокта,* у прыватнасці, такіх, як 'сук', 'парастак', 'нараст'. Рус. дыял. *кокта* можна разглядаць і як двухсэнсоўны прыклад аналагічны *кокот,* г. зн. лексемы або ўскосна, або, магчыма, і генетычна суадносяцца з назвамі курыцы або пеўня. У першым выпадку ўскосная сувязь разумеецца як ад'ідэацыя, суаднясенне тэрміна з назвай птушкі і пашырэнне або трансфармацыя семантыкі ў выніку гэтага. Вельмі двухсэнсоўныя прыклады: рус. *кокот* (магчыма, як 'певень', у Афанасьева, арханг.), 'вілы з двума жалезнымі гачкамі', 'разгалінаваны сук, вялікая галіна', наўг. *кокта* 'курыца, кульба, малая какора на сялянскай страсе', пск., асташ., цвяр. *кокиться* 'ўладкоўвацца зручней, усесціся, улегчыся', *кочет* 'певень' і 'ручка ў касільна', *кочетина* 'вялікі певень' і 'жэрдкі або дрэва, загнутыя з аднаго боку або з часткай кораня, якія ўтрымліваюць салому на даху', *куричина* 'жэрдка з загнутым канцом', 'дышаль сахі', магчыма, і арханг. *курка* 'губа на дрэве' (хоць апошняе, магчыма, да *курить* 'дыміць') і да т. п. Калі дапусціць, што дэрываты ад *кокш-* могуць суадносіцца з назвай курыцы, можна меркаваць, што значэнне 'нараст' для такога заоніма не з'яўляецца незвычайным; ва ўсякім разе можна прыгадаць балг. дыял. *кокошинец* 'мазоль, барадаўка', *кокоши трън* 'тс'. Гэта, аднак, вельмі няпэўныя меркаванні. Да магчымай формы *кокша* 'курыца' параўн. серб.-харв. *кокша* (прыклад вельмі ненадзейны, не выключана, што ўтвораны як рыфмаваная структура на базе іншай, параўн. RHSJ, 5, 175); нам, аднак, гэты прыклад важны як магчымая словаўтваральная паралель да рус. лексікі.

**Кал** 'змесціва кішэчніка, якое выдзяляецца пры спараж-

ненні' (БРС, ТСБМ, Гарэц.), 'вадкі, найбольш моцны гной' (Шат.), 'гразь' (Клім.; бяроз., КЭС; драг., Нар. лекс., Нар. словатв., Сцяшк. МГ; бяроз., пін., Шатал.; брэсц., гродз., паўдн. бел., Яшк.), 'замёрзлая на дарозе гразь' (свісл., Шатал.). Паводле даных новых дыялектных слоўнікаў: 'гразь, гной, бруд' (беласт., гродз., карэл., свісл., гарад., Сл. паўн.-зах.). Статус слова ў літ. мове не вельмі ясны; тэарэтычна такое значэнне магло развіцца на базе вядомага ў гаворках значэння 'гной', аднак хутчэй за ўсё тут запазычанне (з польск., з рус.?). У гаворках слова адзначана найбольш часта на паўдн. захадзе. Укр. *кал* 'гразь; кал; гразь на дарозе, на целе і інш.', рус. *кал* (статус у гаворках няясны; СРНГ прыводзіць толькі смал., вяц. *кала* 'нечыстоты, кал', архангл. *калиться* 'спаражняцца'), польск. *kał* 'кал', дыял. 'гразь, мул, балота і інш.', каш. *kał* 'гразь на дарозе', славін. *ko* 'гразь, ціна', *kal* 'гразь на дарозе', н.-луж. *kala* (статус падазроны), чэш. *kal* 'вадкая гразь, брудная вада, калужа і інш.', славац. *kal* 'брудная вада, вадкая гразь і інш.', славен. *kal* 'гразь у калужы і інш.', серб.-харв. *кȁо,* дыял. *кал* 'гразь, ціна і інш.', макед. *кал* 'гразь і інш.', балг. *кал* 'гразь і інш.', ст.-слав. **калъ** 'гразь, ціна'. У шэрагу слав. моў супадаюць канкрэтныя значэнні тыпу бел., славен., укр. 'гразь на целе'. Прасл. *kalъ,* далейшыя сувязі няясныя. Трубачоў (Эт. сл., 9, 128) звяртае ўвагу на адзнакі архаізма ў гэтым слове і адсутнасць адпаведніка ў балт. мовах, слова нематываванае на слав. глебе, як і і.-е. **kālo-s* або **kālo-s-* на і.-е. глебе. З ліку традыцыйных паралелей можна згадаць ст.-грэч. πηλός, дар. πᾱλός 'гліна; гразь, балота і інш.', аднак π- у гэтым слове можа ўзыходзіць як да **p,* так і да **k^u̯*. Думка аб роднаснасці слав. і грэч. лексем належыць Мейе, MCL, 13, 1905, 291—292, а таксама слав. лексемы з лац. *squālus* 'брудны і інш.', гэта паралель іншымі аўтарамі аспрэчваецца па семантычных крытэрыях (Вальдэ-Гофман, 2, 582). Фасмер (2, 163) упэўнена мяркуе аб сувязі са ст.-інд. *kāla-* 'сіня-чорны'; Слаўскі (2, 32) таксама дапускае магчымасць праформы **kāloḥ,* што дазваляе суаднесці слав. лексему з іншымі назвамі колеру і плям (тыпу літ. *kalỹbas, kalývas* 'з белай шыяй (аб сабаках)', лац. *cālidus* 'з белай плямай на лбе (пра коней)', ст.-грэч. κηλάς αἴξ 'каза з плямай' і інш.). Відавочна, аднак, што найбольш моцны семантычна і фармальна прыклад — ст.-інд. слова — на самой справе або дравідыйскае, або вельмі дэфармаванае, ва ўсякім разе *-l-* тут першаснае, гл. Слаўскі, 2, 33; Трубачоў, Эт. сл., 9, 128, дзе спасылка на Майргофера, 1, 203. Трубачоў (там жа) звяртае ўвагу яшчэ і на тое, што ст.-грэч. καλάς лічыцца няясным па паходжанню, што вельмі зніжае яе надзейнасць як паралелі.

**Кала́** 'каля' (Бяльк., Жд. 2; капыл., Жыв. сл., мсцісл., З нар. сл.; Сержп. Прымхі, Сцяц., Шат.). Рус. зах.-бран. *кала,* калуж. *кала, кыла* 'тс', апошняе супадае з усх.-бел. формамі: *кыла* (Бяльк., З нар. сл.). СРНГ не фіксуе шэрагу адпаведнікаў да бел. лексемы, што дазваляе меркаваць аб магчымым беларускім паходжанні калуж. слова (вынік міграцыі насельніцтва). Сустракаецца ў гаворках *акала* 'каля'. Этымалагічна бел. *кала* — склонавая форма лексемы *кола* 'кола', канцавое *-а* не вельмі яснае. Лексема фіксуецца ў ст.-бел. гаворках і гэта не выключае магчымага працэсу ўплыву на засведчанае ў шэрагу моў *коло* 'каля' бел. прыназоўніка *каля.* Форма *коло* адзначаецца ў паўдн.-зах. гаворках, адносна *каля* гл. адпаведны артыкул. З літ. гл. Копечны, ESSJ, SG, I, A, 88. 89.

**Калаба́ны** 'абутак на драўлянай падэшве' (Сержп. Грам., Сцяшк.). Рус. валаг. *колобан* 'прадаўгаваты ячменны хлябок з завостранымі канцамі (у форме лодкі)'. Звяртае на сябе ўвагу падабенства формы, параўн. яшчэ рус. іркуц. (з запісаў Равінскага) *колобан* 'горка або сопка выцягнутай, мысападобнай формы'. Не выключана, што некалькі праясняе справу рус. дыял. *колобашка,* якое, як і *колобан,* суадносіцца з *колоб,* аднак, адзначае яшчэ і валаг. 'драўляная міска, чашка', 'груба зробленая міска і інш.', 'маленькая драўляная пасудзіна', пск. 'невялікая драўляная дошчачка авальнай формы ў рыбалоўнай снасці' і інш. Семантыка, аднак, далёкая; апрача таго, ці можна тут меркаваць аб нейкай суаднесенасці назвы абутку і назвы булачкі (параўн. празрысты перанос з назвы абутку на блін: рус. дыял. *лапоть* 'лапаць' і 'тоўсты блін'), або больш перспектыўна суадносіць бел. семему з рус. 'невялікая драўляная дошчачка...', для *колобашка* параўн. рус. варонеж., уладз., калуж. і інш. *колодка* 'драўляная дошчачка/падэшва, якая прымацоўваецца да лапцей у час дажджу', ніжнегар. *колодки* 'абцасы' і інш. Калі сканцэнтраваць увагу на такіх значэннях рус. слоў (дэрыватаў ад *колоб* або ад асновы *колб-,* збліжаных з папярэднімі), як у пск. *колобашка* 'корань, які застаецца пасля абпальвання дрэва і ідзе на дровы', 'абрубак дрэва, цурбан' і пад., можна думаць і аб пераносе падобнай назвы на грубы драўляны абутак. Надзейнасць як апошняга, так і папярэдніх меркаванняў невялікая па прычыне таго, што першаснай лексемы ў бел. мове не зафіксавана. Параўн. яшчэ *калабок* (гл.).

**Калабо́к** 'малы хлябок' (навагр., Жыв. сл.; Сцяшк.; в.-дзвін., Сл. паўн.-зах.; рас., Шатал.). Статус фіксацый слова ў першых дзвюх крыніцах няясны; параўн. меркаванне аўтара слоўніка: «магчыма, слова запазычана ў бежанстве з рускай

ці ўкраінскай мовы ў час першай сусветнай вайны» (Жыв. сл., 23). Апошнія запісы з поўначы Беларусі можна разумець або як суаднесеныя з рус. *колобок* 'тс' (паколькі гаворкі поўначы Беларусі роднасныя з рускімі), або як рус. запазычанне (на дыялектным узроўні). Рус. *колобок* (памянш. ад *колоб*) ведаюць на шырокай тэрыторыі, адносна ўкр. лексемы (прыводзіцца ў Грынчэнкі) можна сказаць, што статус яго не вельмі надзейны: слова сустракаецца ў казцы, параўн.: *«Баба... витопила в печі, замісила яйцями борошно... спекла колобок»* (Грынчэнка, 2, 270). Такім чынам, меркаваць аб усх.-слав. характары ўтварэння не даводзіцца. Рус. *колоб* этымалагічна вельмі няяснае ўтварэнне; з аднаго боку, праглядваюцца сувязі гэтага слова з утварэннямі ад *колб-* (параўн. *коўб*), якія называюць розныя акруглыя прадметы, абрубкі і да т. п., з другога — формы тыпу *колабушек* 'хлябок', нельга не суаднесці з *балабошкі* 'пышкі і да т. п.'. Апрача таго, звяртае на сябе ўвагу незразумелы паралелізм *коло-* і *кала-*, прычым не толькі на рус. тэрыторыі, дзе гэта можна было б вытлумачыць аканнем, але і ва ўкр. мове і ў паўн.-рус. окаючых гаворках (тут і назвы хлеба, і абрубкі дрэва, і посуд, і назвы геаграфічнага рэльефу, гл. больш падрабязна Талстой, Геогр., 231—232). Гл. яшчэ Фасмер, 2, 292, дзе агляд старых этымалогій рус. *колоб*.

**Калаварот** 'прыстасаванне для ручнога прадзення кудзелі, якое прыводзіцца ў рух панажом' (Сержп.), *коловоротка, коловоруток, коловорыток, коловорыдка;* з гаплалогіяй складу: рус. *коворыдка, ковориток* 'тс'. Магчыма, стары ўсх.-слав. тэрмін, ужыты для намінацыі новай культурнай рэаліі. У краінах Заходняй Еўропы калаўротак ужываецца з XVI ст., значна пазней з'яўляецца на ўсходзе (Нікіфароўскі, Очерки, 174: «Самопрялка... появляется позже и вытесняет веретено и прялку». Параўн. яшчэ Фалінская, II, 1, 80—83. Аб складаных шляхах пранікнення рэаліі сведчаць польск. дыял. *kołowrotek francuski, niemiecki, ruski, kółek ruski, francuski*. Аднак гэтыя назвы могуць быць параўнальна познімі, а наогул рэалія прыйшла з захаду, і бел. форма з непаўнагалоссем з'яўляецца новай. Але не вельмі ясна, быў тут толькі ўплыў польскай лексемы ці яе запазычанне. Наяўнасць *калаварот* 'кругаверць' (Нас.), шэраг значэнняў лексемы *калаўротак* (гл.) дазваляюць прыняць першую версію ва ўсякім разе для шэрагу значэнняў «не самапрадка». Запазычанне кантактным шляхам (інфільтрацыю) можна сцвярджаць галоўным чынам толькі для некаторых зах.-палес. форм (Фалінская, II, 2, к. 38). Інфільтрацыя, калі яна мела месца, была з польск. літар. мовы.

Польск. *kołowrót* у розных значэннях, у тым ліку і ў многіх тэхнічных, бел. *калаварот* 'вір', укр. *коловорот,* рус. *коловорот,* в.-луж. *kołwrot,* н.-луж. *kołowrot,* чэш. *kolovrat,* славац. *kolovrat,* славен. *kolovrat,* серб.-харв. *ко̏ловрат,* балг, дыял. больш далёкае фармальна і семантычна *коловрътник* дазваляюць рэканструкцыю прасл. злучэння *kolovortъ* (*kolo* + дэрыват ад *vṛtěti*), Слаўскі, 2, 371—373, дзе падрабязна аб слав. значэннях і літ-ра.

**Калавора́т** 'глыбокае месца ў рацэ, вір' (жытк., Яшк.). Рус. пск. *коловорот* 'вір', польск. *kołowrót* 'тс', серб.-харв. *ко̏ловрат* 'тс'. Прасл. злучэнне *kolo-vortь* (гл. *кола* і *вярцець*). Слаўскі (2, 372) мяркуе, што ў польск. мове значэнне 'вір' (адзначана ўжо ў Ліндэ) з'яўляецца пераносным, думаецца, што гэта не так і прасл. лексема разам з тэрміналагічнымі значэннямі магла мець паралельную семему 'вір', незалежную ад тэхнічных; пра гэта гаворыць, у прыватнасці, шырокі спектр значэнняў у слав. мовах разглядаемага слова, якія, натуральна, сведчаць аб полісемантычным яго характары. Параўн. *калаўротак* (гл.).

**Калада́н,** *колодан* 'гаспадарчы нож з драўлянай ручкай' (ТС). Дакладных адпаведнікаў з суфіксацыяй *-ан* няма. Бліжэйшыя паралелі: укр. *колодач* 'вялікі нож', 'нож, які носяць у ножнах па поясе', зах.-укр. *колодачик,* рус. дан., тульск. *колодей* 'вялікі кухонны нож з драўлянай ручкай', хоць у гэтым прыкладзе суфіксацыя не вельмі тыповая для такіх утварэнняў. Параўн., аднак, рус. смал. *колодейка* 'невялікі абрубак дрэва, цурбан', дзе суфіксацыя, магчыма, генетычна суадносіцца з папярэдняй. Матывацыя ўтварэнняў празрыстая — 'нож, які ўбіваецца ў калодку' (у адрозненне ад нажоў з тронкамі).

**Каладзе́й,** *колодзей* 'стальмах' (стол., Маслен.). Адсутнасць іншых фіксацый гэтага слова ў бел. мове і наяўнасць яго на тэрыторыі, пагранічнай да зах.-палес. арэалу, не выключаюць магчымасці таго, што гэта ўкраінскае слова. Укр. *колодій* 'стальмах', рус. *колодей* 'майстар, які робіць колы; стальмах' (у Даля; паметы «паўдн.» і «зах.» указваюць, відаць, на ўкр. і бел. тэрыторыю), польск. *kołodziej* 'майстар, які вырабляе колы і вазы; стальмах' (з XV ст.), славін. *kolódei* 'стальмах', в.-луж. *kołodźej, kołodźij,* н.-луж. *kołoźej* 'тс', ст.-чэш. *koloděj* 'тс'. Слаўскі (2, 370) далучае да традыцыйных паралелей рус. *колодей* 'вялікі кухонны нож' (так у Фасмера, 2, 293, які прыводзіць у адным артыкуле *колодей* 'той, хто працуе для сябе, у вольны час' і 'кухонны нож') і ўкр. *колодій* 'вялікі нож'.

Нельга пагадзіцца з гэтым: рус. і ўкр., як ні тлумачыць частку *-ій* у слове, суадносяцца з укр. *колодач,* бел. жур. *колодан* 'вялікі кухонны нож' ('нож з калодкамі'). Адносна разглядаемага слова неабходна заўважыць, што, магчыма, гэта архаізм. На карысць такой думкі сведчыць структура злучэння *kolo-dějь,* дзе другая частка — Nomen agentis ад *děti, dějati.* Слаўскі (2, 370) мяркуе пра паўн.-слав. **kolo-dějь* з першасным значэннем 'які вырабляе колы, вазы', аналагічна ў Махэка$_2$, 270: 'які вырабляе вазы'. Структурныя адпаведнікі: бел. *ліхадзей,* укр. *добродій.* Не выключана, аднак, што *kolodějь* — культурны тэрмін, які (і аб гэтым сведчыць лінгвагеаграфія) з'яўляецца вынікам калькі з іншамоўнага слова, для якога такая структура з'яўляецца натуральнай. Відавочна, што калька магла быць і даўняй, хоць нельга выключыць магчымасці пазнейшай экспансіі лексемы. З літаратуры параўн. ячшэ Шустэр-Шэўц, 8, 596.

**Калакалу́ша** 'чаромха, Prunus padus (=Padus racemosa)' (БРС, ТСБМ, Бяльк., Гарэц., Грыг., Дэмб., Касп.; віц., гродз., маг., мін., смал., Кіс.; Мат. Гом., Мат. Маг., Янк. 1, Яўс.; слаўг., Яшк.), *калакалуха* (Бяльк., Мат. Маг., Мядзв.), *калакушка* (Бяльк.), *какалуша* (гом., Кіс.). Укр. *калакалуша* і *колоколуша,* акаючыя формы, відавочна, сведчаць аб распаўсюджанні слова з паўн.-усх. гаворак, усх.-палес. *какалуша,* рус. зах.-бран. *калакалуша,* смал. *колоколуша,* росл., смал., кур., тульск. *колоколуха* 'чаромха' і 'ягады чаромхі', 'асобы від калючай травы', адзначаюцца таксама іншыя формы. Звяртае на сябе ўвагу і арл. *колокуша* 'расліна Rosa tomentosa', аднак, відаць, сюды гэта лексема не адносіцца (утворана ад асновы *колк-,* дэрываты ад якой азначаюць 'розныя калючыя расліны'). У іншых слав. мовах адпаведнікі да бел. слова як быццам не адзначаюцца. Слова не вельмі яснага паходжання. Па сутнасці, нельга з упэўненасцю высветліць першапачатковую фанетыку *кала-* або *колокуша.* Укр. даныя з'яўляюцца, па сутнасці, двухсэнсоўнымі. У слоўніку Макавецкага шэраг крыніц дубліруюць адна другую, іншыя (перакладныя слоўнікі) нельга прымаць пад увагу з прычыны падазронасці статуса зах.-укр. слова, а што датычыць паўн.-укр. запісаў, параўн. у Бялецкага-Насенкі: «Калакалуша: слово задесенское (белорусское)». Даль падае гэта слова з паметай «зах.» і змяшчае яго ў гняздо «колокол». Больш новыя даныя па рус. нар. гаворках удакладнілі тэрыторыю распаўсюджання слова. Так, сталі вядомымі запісы яго ў кур. і тульск. абласцях, аднак, паколькі іншых матэрыялаў няма, а іншыя запісы паслядоўна ўказваюць на пагранічныя беларускім гаворкі рускай мовы,

можна думаць, што гэта або вынік пранікнення слова як тэрміна, або факт, які сведчыць аб міграцыі насельніцтва ў розныя зоны на ўсход. Ствараецца ўражанне, што размова можа ісці толькі аб беларускай інавацыі (іначай гл. Цыхун, Бел.-укр. ізал., 82—83). Калі дапускаць, што зыходнай была форма *колоколуша,* а падставы для гэтага ёсць, нельга не ўбачыць магчымай сувязі з рус. дыял. *колока* 'чаромхавы гай', *колок* 'невялікі лясок; малады бярозавы гай; вільготнае балоцістае месца ў нізіне, якое зарасло хмызняком', паўн.-зах. *колокол* 'малады бярозавы лясок'. Параўн. (СРНГ, 14, 162) «Низменное место вроде чашенки, черемуха там, смородина, березняк. Смородина, а между ней кислица, черемуха, калина в том колке». Параўн. яшчэ бел. гродз. *калокавіна* 'чаромха'. *Калакалуха* пры такой версіі вынік рэдуплікацыі формы, адпаведнай да рус. дыял. *колка, колки* 'зараснікі чаромхі, глогу на полі, у лагчынах', *колк* 'невялікае балота, якое зарасло лесам'. Фармальна такую версію можна пацвердзіць прыкладамі дэрыватаў ад асновы *колк-* (рус. дыял. *колки — голкі, калючкі* і да т. п.): наўг. *колкуха* 'расліна Xanthium, або, магчыма, Arctium', *колкуша* 'расліна Arctium'. Параўн. яшчэ рус. арл. *колокуша* 'расліна Rosa tomentosa' і бел. маг. *калакуша* (Грыг.). У якасці спрэчнай гіпотэзы можна яшчэ прапанаваць этымалогію, паводле якой слова тлумачыцца на бел. глебе. Бел. слаўг. гаворкі ведаюць утварэнне *калалужжа* 'абшар каля лугу'. Па семантыцы ўтварэнне *калакалуша* на базе мяркуемай намі формы цалкам магчымае (чаромха — расліна вільготных мясцін). З фармальнага боку яго можна разумець як адваротную дэрывацыю *(калакалуга < калакалужжа)* з наступнай заменай суфікса. Параўн. крыч. *калакалушша* 'зараснік калакалушы', тое ж слаўг. (Яшк.). Аднак недахопы такога тлумачэння (у тым ліку і па лінгвагеаграфічнаму крытэрыю), нягледзячы на тое што для батанічнага тэрміна можна дапусціць больш-менш шырокую наступную экспансію, відавочныя, і прыняць яго нельга.

**Калаку́н** 'звон' (мазыр., Шатал.), *колокор* 'бразготкі' (петрык., Шатал.), сюды ж рус. *колокольчик, колокольчики, колокуньчики* (Бейл.) 'расліны Campanula persicifolia і Pulsatilla pratensis'. Бел. лексемы, відавочна, аднаго паходжання, паколькі адзначаны на параўнальна кампактнай ц.-палес. тэрыторыі. Па лінгвагеаграфічнаму крытэрыю нельга меркаваць аб пранікненні лексемы з рус. гаворак і, відаць, з укр. (параўн. геагр. па крыніцах у Грынчэнкі). Як на блізкую тэрытарыяльна можна ўказаць усх.-палес. (Оўруцкі р-н) *калаколо* 'загваздка', аднак фармальнае супадзенне з асновай *колокол* 'звон' яшчэ не сведчыць пра генетычную тоеснасць

з ёй усх.-палес. лексемы. Для бел. слова нельга ў прынцыпе выключыць паходжання з рус. гаворак (магчымы старыя міграцыі насельніцтва), аднак няма пярэчанняў супраць таго, каб лічыць гэта слова архаізмам. У слав. мовах лексема прадстаўлена даволі слаба: укр. зах. *колокіл, колокілок, колокіўця* 'прыстасаванне ў кроснах з кольцамі, праз якое праходзіць нітка да нічанак' (прыклад не вельмі надзейны, паколькі другое *к* тут можа паходзіць з -*т*-), букав. *калакончык, колокончик* (у назвах кветак), рус. *колокол* таксама ў розных значэннях і формах нядрэнна прадстаўлены ў гаворках, ёсць з падобнай да бел. трансфармацыяй — разан. *колкон;* далей у слав. мовах: палаб. *kluokü'öl,* балг. *клаколна (клъколна* ў старым запісу), ц.-слав. *клакол,* параўнальна позняе па часе фіксацыі. Не вельмі ясным уяўляецца статус балг. прыклада, паколькі ў таго ж аўтара сустракаецца і лексема *клакотна (клъкотна),* адносна якой БЕР (2, 414) мяркуе, што тут не выключана магчымасць друкарскай памылкі: -*т*- на месцы -*н*- як у *клаколна.* Аднак так жа можна разглядаць і -*н*-, параўноўваючы з балг. *клокот* і інш. формамі, для якіх некаторая трансфармацыя структуры з'яўляецца натуральнай і адзначана ў гаворках. Слав. лексемы дазваляюць рэканструяваць праформу *kolkolъ,* якая па ўтварэнню параўноўваецца ў БЕР, 2, 414, з прасл. *golgolъ* — і тут, і ў першым слове рэдуплікацыя асновы. Адпаведнікі да слав. лексемы літ. *kañkalas* (< **kalkalas*), ст.-інд. *kalakala* 'бязладныя крыкі, шум', а з паралелей без рэдуплікацыі звычайна прыводзяцца лац. *calāre* 'склікаць, выгукаць', ст.-в.-ням. *hellan* 'гучаць'. З другога боку, паколькі насавы зычны літ. слова *kañkalas* можа быць першасным, яго параўноўваюць са ст.-інд. *kaṅkanas, kaṅkanat, kankani* 'абруч, кольцападобнае ўпрыгожанне' і з літ. *kañklys* і інш. 'гуслі', гл. Фасмер, 2, 294, дзе літ-ра. У бел. лексемах у выніку дысіміляцыі адбылася замена зычнага (дыстантная дысіміляцыя *л-л, л-р* і *л-н*), падобныя трансфармацыі і ў інш. слав. мовах.

**Каламáжка**₁ 'лёгкая выязная павозка на рысорах' (БРС, ТСБМ; гродз., З нар. сл.; Касп., Нас., Серж. Грам., Чач., Шат., Янк. 3), 'сялянскі воз' (карэліц., Сцяш.), 'беларускі воз' (Шпіл.), 'воз' (дрыс., КЭС), *коломажка* 'малыя выязныя сані' (ТС), *каламажка* 'тачка' (Жд. 3), *кылымажка* 'прыгожая павозка' (Нік. Оч., апісанне рэаліі, с. 373). Укр. усх.-палес. *каламашка* 'воз прымітыўнай канструкцыі', рус. дыял. *каламажка, каламашка, коламажка, колымажка* і *колымашка* 'двух- або трохколавыя тачкі, вазкі; павозкі і да т. п.'. Махэк (2, 269) без асобых падстаў лічыць, што бел. *каламажка*

ўзыходзіць да ст.-польск. *kolimaga* (хутчэй ужо ад формы *kolomaga*). Магчыма, усх.-слав. дэрыват ад *колымага* 'воз, павозка' з наступнай асіміляцыяй галоснага. Апошняе слова вядома шэрагу слав. моў: бел. *калымага,* укр. *колимага,* рус. *колымага,* польск. *kolimaga* і *kolomaga* (XV—XVI стст.), ст.-чэш. *kolimah,* чэш. дыял. *kolmaha,* славац. *kolimaha* ў значэннях, падобных да вышэй прыведзеных 'воз; тачка і інш.'. Серб.-харв. *kolimog* 'шацёр' у кнізе, напісанай ц.-слав. мовай XIII ст. У рус. ц.-слав. *колимогъ, колимагъ* 'шацёр і інш.', *колымагъ, коъмагъ* 'tentorium стан'. RHSJ (5, 205) мяркуе аб тым, што слова, або па меншай меры аснова, яшчэ праславянская, аднак памылкова далучае сюды літ. *kalmogas* (параўн. у Фрэнкеля, 207: *kalmõgai* 'від павозкі', з бел.). Слаўскі (2, 34) больш асцярожна дапускае магчымасць даўняга (яшчэ прасл. дыял.) запазычання. Мяркуюць аб запазычанні з усходу, найбольш абгрунтаваным лічыцца распрацаваная Менгесам, ZfslPh, 23, 327—334, версія (якая ўзыходзіць да выказанай Коршам у рускім акадэмічным слоўніку думкі) аб суаднясенні слав. лексемы з племяннoй назвай калмыкаў *Xal'mag (*gali-mag),* пры гэтым мяркуецца, што значэнне 'высокія вазы-шатры' было запазычана. Гэта верагодна з культурна-гістарычнага погляду і пацвярджаецца рус. *мажара* 'воз' ад назвы венграў — мадзьяр, гл. Трубачоў, Дополн., 2, 291. Іншыя этымалогіі не пераконваюць па шэрагу прычын, параўн. агляд версій у Фасмера, 2, 291; Слаўскага, 2, 34—35.

**Каламажка**$_2$ 'чарнільніца' (шчуч., Сцяшк.). Рэгіянальны дэрыват ад *каламаж* 'тс', якое з польск. *kalamarz.* Адносна этымалогіі апошняга гл. *каламар.*

**Каламазь** 'мазь з дзёгцю, смалы і солі для змазвання калёс' (БРС, ТСБМ, Др.-Падб.), *коламазь* (Гарэц.; барыс., Сл. паўн.-зах.). Статус слова не вельмі ясны: у гаворках яно прадстаўлена слаба, звычайна для гэтай рэаліі ўжываецца *каланіца.* Укр. *коломазь* 'дзёгаць, які збіраецца на восях; наогул дзёгаць і мазь для колаў', рус. (ярасл., дан., ніжнегар. і інш.) *коломазь* 'мазь для колаў', (рыльск., судж., кур., разан.) 'дзёгаць з пылам на козлах', польск. дыял. *kołomaź* 'мазь для колаў', чэш. і ст.-чэш. *kolomaz,* дыял. *kolomaz,* славац. *kolomaz,* славен. *kolomàz,* серб.-харв. *kȍlomaz* (RJA, 5, 212, адзначае, што ў адным са старых слоўнікаў была заўвага, што гэта рускае слова). Магчыма і прасл. злучэнне *kolo-maz-,* род лексемы няясны, параўн. Махэк$_2$, 270.

**Калама́ніца** 'чарнільніца' (ваўк., Сцяшк.). Нельга выклю-

чыць памылковага запісу *каламарніца* або *каламажніца*. Менш верагодна дапускаць спрашчэнне групы зычных, паколькі пазіцыя тут даволі тыповая і ў іншых адпаведных выпадках спрашчэння не назіраецца. Або, магчыма, тут было фармальнае збліжэнне лексем *каламажка, каламазь* і *каланіца?* Няясна.

**Калама́р** 'чарнільніца' (Грыг., Др.-Падб.; глус., КЭС; Нас., Шн., Шпіл.). Укр. *каламарь,* рус. зах., н.-рас., паўдн. *каламарь* (Даль), польск. *kalamarz,* чэш. *kalamář,* славац. *kalamár,* славен. *kalamâriš,* серб.-харв. *kalàmâr* (з XV ст.), балг. *каламар.* Крыніца гэтых лексем лац. *calamārius, calamārium* 'скрынка для пісьмовых прылад', якое ад *calamus* 'пяро для пісьма і інш.', а гэта з с.-грэч. *καλαμάρι* 'чарацінка; чарацінка, падрыхтаваная для пісьма, пяро і інш.'. Шляхі пранікнення гэтых лексем розныя: для балг.— с.-грэч., н.-грэч. пасрэдніцтва (БЕР, 2, 159), для серб.-харв.— італ. (Скок, 2, 18), для славен.— венгерская (там жа), чэш. і польск. Махэк$_2$ (236) мяркуе, што слова прынята з вучонай латыні. Адносна бел., укр. і рус. выказваецца думка, што гэта запазычанне з польск. мовы (гл., напр; Слаўскі, 2, 34). На карысць гэтага лінгвагеаграфія ўсх.-слав. фіксацый — больш позні, параўнальна са ст.-польск. (XV ст), час, калі слова адзначаецца ў ст.-бел. мове (XVI ст.), Значэнне 'чарнільніца' на ўсходзе (ст.-польск. дэфініцыя ўключае'скрынка пісара і інш.'). Аднак нельга выключыць, што форма ўсх.-слав. лексемы (*-р-* на месцы *-rz-*) магла з'явіцца не толькі ў выніку этымалагічнага падыходу да польск. слова, але і як вынік непасрэднага ўплыву першакрыніцы.

**Калама́шка** 'лаянка на няўклюднага, чараватага чалавека' (Шат.). Фармальна суадносіцца з *каламашка* 'воз', 'нязграбны воз', 'воз для перавозу цяжкасцей' і да т. п.— значэнні, якія тлумачаць, відаць, утварэнне *каламашка* 'лаянка'. З разглядаемым словам суадносіцца *кылымашыцца* 'таўчыся, збірацца ў адным месцы' (Бяльк.) (паводле фанетычнага крытэрыю ўтворана ад асновы *каламаш-*). Семантыка, відавочна, адрозніваецца, аднак яе можна зразумець як натуральнае развіццё 'капацца, вазіцца' > 'таўчыся на адным месцы', > 'збірацца ў адным месцы'. Такое развіццё значэння верагоднае, паколькі ажыццяўляецца ў яўна экспрэсіўных лексемах, дзе семантыка з'яўляецца дыфузорнай і лёгка можа субстывавацца. Параўн. яшчэ пск. *колымажиться* 'важнічаць, фанабэрыцца'.

**Каламу́т** 'вір' (Жд. 2, Жд. 3), *каламута* 'мул з вадой, твань' (БРС, ТСБМ), *каламуць* 'тс' (БРС, ТСБМ), *каламутны* (БРС, ТСБМ, Сл. паўн.-зах.; Сержп. Прымхі; Сцяшк., ТС, Федар.,

Яруш.). Укр. *каломут, каламут, каламута* 'баламута, сварка, разлад і інш.', рус. кур., зах.-бран. (другаснае) *каламут* 'чалавек, які выклікае нязгоду, разлад, бязладдзе; баламут', зах.-бран. 'разлад, бязладдзе, нязгода; сварка', варонеж. *коломутица* 'блытаніна; разлад, смута', *коломутный* 'непразрысты, мутны (пра ваду, крыніцу)', польск. *kołomąt* 'хаос, блытаніна і інш.', дыял. 'пляткар, баламут і інш.', чэш. уст. *kolomut, kolomuta* 'змяшанне, хаос і інш.' (Юнгман разглядае як славац., Махэк₁ не разглядае лексемы: у артыкуле «rmouti-ti», для якога ўзнаўляецца *kolomútiti,* згадваецца чэш. дыял. *cholomet, cholomot* 'паршывец і інш.'), славац. *kalamuta, galamuta* 'замяшанне, хаос'. Паўн.-слав. аддзеяслоўнае ўтварэнне, бел. *каламут,* відаць, зберагае першасную семантыку 'круціць, муціць'. Час утварэння, як аб гэтым сведчыць семантыка, а таксама страта прамога значэння ў шэрагу моў, магчыма, гаворыць на карысць паўн.-прасл. Аб далейшай этымалогіі гл. *каламуціць*.

**Каламу́ціць** 'муціць, рабіць каламутным' (ТСБМ), 'выклікаць неспакой, уносіць беспарадак, блытаніну' (ТСБМ). Укр. *каламутити* 'муціць; бунтаваць', *каломутити* 'тс', рус. варонеж., зах.-бран. *каламутить* 'муціць ваду', кур., зах.-бран. 'выклікаць разлад, смуту; баламуціць', польск. *kołomącić* 'муціць, баламуціць, круціць', *kalamacić* 'муціць (напр., ваду), баламуціць' (там жа), *kałamucāć* 'муціць, боўтаць' з усх.-слав. фанетыкай; сведчыць, магчыма, аб больш шырокім распаўсюджанні слова ў бел. мове, славац. *zkolomutit* 'закрануць, падражніць, пашавяліць'. На поўдні славянскай тэрыторыі адзначана серб.-харв. *каламу́тити* (у Вука), якое RHSJ (4) суадносіць з *kalabúriti*. Адносна першага слоўнік мяркуе, што яно магло ўтварыцца ў выніку кантамінацыі *kalabúriti* і дзеяслова *mutiti;* адносна другога — ад *kalabàluk* 'вялікая колькасць людзей, шум, мітусня', якое з тур. *galabalyk*. Відаць, такое меркаванне нельга прыняць, паколькі ёсць дакладныя адпаведнікі ў паўн.-слав. мовах. Цікава і серб.-харв. *калабу́рити,* якое суадносіцца з прасл. *buriti* са значэннем 'хваляваць' і да т. п. Звернем яшчэ ўвагу на дзеяслоў *buniti* ў дэфініцыі як на вельмі сімптаматычны (параўн. Трубачоў, Эт. сл., 3, 99: «buriti... родственно *bura, а также глагольно-именной паре *buna-*buniti...». Наяўнасць у слав. мовах фанетычна розных лексем (першая частка -*kala*- і -*kolo*-) зацямняе этымалогію. Слаўскі (2, 371) мяркуе аб злучэнні **kolomǫtiti* 'муціць навокал', як аргумент прыводзяцца паралельныя чэш. (у Юнгмана) *kolotáceti se* 'круціцца', рус. *колобродить,* дыял. *колобродить,* бел. *каламесіць*. Надзейнасць гэтых прыкладаў не вельмі высокая,

аднак структура такая з'яўляецца магчымай: параўн. укр. *коломия* 'яма, вымытая вадой', серб.-харв. *kolòvada* («složeno od kolo osnove glagola voditi...», RHSJ, 5, 214), рус. *колободиться* 'вазіцца, многа займацца чым-н. і да т. п.', магчыма, рус. маск. *коломыка* 'пляткарка і да т. п.'. Фанетычныя недакладнасці Слаўскі тлумачыць ад'ідэацыяй першай часткі да *kalъ* 'гразь' і да **balamutiti* 'муціць' Махэк₁ (419). Махэк₂ (514) мяркуе аб праформе **kalomǫtiti,* дзе першая частка паходзіць ад *kalъ* 'гразь і да т. п.'. Фанетыку слав. утварэнняў ён тлумачыць наступным чынам: форма *kala* магла быць вынікам прагрэсіўнай асіміляцыі (укр. *каламутити*), а польск. і чэш. рэгрэсіўнай. Такое тлумачэнне не вельмі добра спалучаецца з паралельнымі формамі *koło-* і *kało-* ў польск. дыял. словах, а семантыку слав. прыкладаў нельга звесці да семантыкі *kalъ*. Параўн., у прыватнасці, бел. дыял. *каламут* 'вір' і сінонімы; рус. дыял. *коловерть, коловорот, круговорот*. Аднак, калі прыняць версію Слаўскага, відавочна, што нельга проста вытлумачыць серб.-харв. прыклады, паколькі на поўдні ўтварэнні з першай часткай *bala-* не адзначаюцца. Гэта значыць, што на серб. лексемы або сапраўды ўплывалі семантычна падобныя турцызмы, або тут дзейнічалі ўласна фанетычныя працэсы. Не выключана, што прапанаваныя этымалогіі наогул няпэўныя і больш верагодна бачыць тут кампозіт, у якім першая частка ўспрымаецца як экспрэсіўны фармант. Так разглядаў Кноблах (JC, 1969 (2), 141) лексемы *балагур, баламут* і інш. Найбольш істотным момантам такой версіі з'яўляецца магчымасць утварэння экспрэсіўнага фарманта на базе слова. Тады змяненне фанетыкі лёгка вытлумачыць як натуральнае для экспрэсіўнай лексікі або фармантаў. Не выключана, што з такімі фармантамі ўтвораны рус. бран. *коломат* 'крык, шум', аб другой частцы гл. Мартынаў, Бел.-рус. ізал., 70; укр. усх.-палес. *калабушить* 'ласкатаць', магчыма, бел. *каланытка* (гл.) і інш. Параўн. славац. *galamuta* 'змяшэнне, смута' і *balamuta* 'тс', што сведчыць, па-першае, аб блізкай семантыцы ўтварэнняў з рознымі фармантамі ў пачатку слова, па-другое, аб змяненні фанетыкі. Звяртае на сябе ўвагу і той факт, што нельга выключыць уплыву паўн.-слав. *balamǫtiti* на разглядаемую групу лексікі, аднак характар гэтага ўплыву не вельмі ясны. Магчыма, *balamǫtiti* ўласна славянскае ўтварэнне (гл. агляд версій Трубачоў, Эт. сл., 1, 146—147), не выключана, што паралельнае да *kalamǫtiti*. Версія аб запазычанні слова *(баламуць)* з манг. *balamut* больш верагодная, калі прыняць пад увагу аргументацыю Папова (Из истории, 35, заўвага 4), які адзначае, што ў іранскіх дыялектах Паміра *balāmūt* 'віхор'. Робіцца таксама слушная заўвага, што складанасць лексемы і семантыка не дазваляюць меркаваць аб выпадковым супадзенні. Аднак

апошнія прапановы не праясняюць справу, хоць лінгвагеаграфія і не пярэчыць версіі аб магчымым запазычанні слова (ва ўсякім разе слова *баламут*). Таксама не вельмі ясным з'яўляецца словаўтварэнне, калі дапускаць славянскае паходжанне слоў. Тут можна бачыць складанне назоўнік + дзеяслоў, або дзеяслоўны назоўнік (гл. прыклады вышэй).

**Каламы́тка** 'панос' (Мат. Маг.). Рус. *каламытка* 'тс'. Статус бел. лексемы няясны. Фіксацыя, аднак, і рус. слова прадстаўлена на абмежаванай тэрыторыі і гэта не дазваляе думаць пра банальнае запазычанне або пра інфільтрацыю. Наяўнасць жа сепаратных сувязей нельга аспрэчваць, хоць і няясна, на якой тэрыторыі знаходзіўся цэнтр інавацыі. Слова, як здаецца, было ўтворана на базе больш шырока вядомага *мыт* 'панос' (гл.). Паколькі гэта слова вядома і ў рус. і ва ўсх.-бел. гаворках, яно не вырашае пытання аб напрамку інавацыі. Адносна першай часткі лексемы *каламытка* можна выказаць наступныя меркаванні. Нельга выключыць магчымасці ўтварэння слова з пачатковым эспрэсіўным фармантам *кала- (коло-)* няяснага паходжання (відаць, выдзяляецца як самастойная частка з складаных слоў). Існаванне такога фарманта пацвярджаецца шэрагам прыкладаў: рус. бран. *коломат* 'крык, шум і інш.', укр. бук. *калабусьок* 'бусел' і інш., на жаль, не вельмі ясных этымалагічна. З другога боку, нельга выключыць сувязі першай часткі слова са слав. *kalъ,* параўн. бел. дыял. *каліцца* 'спаражняцца'. Трэба ўлічыць таксама, што другая частка разглядаемага слова суадносіцца з дзеясловам тыпу рус. *мытить.* Адносна значэння параўн. у Даля, 2, 956: «Хворать мытом, поносом». У такім выпадку *каламытка* ў большай меры нагадвае ўтварэнні тыпу бел. *каламут,* рус. *колоброд* і да т. п., аднак генезіс першай часткі слова няясны. Гл. яшчэ адносна этымалогіі другой часткі *мыт, мытуха.*

**Каламя́нка** 'густая моцная льняная тканіна' (БРС, ТСБМ, Гарэц.), 'палатняная блуза' (Др.-Падб.). Наяўнасць слова толькі ў літаратурнай мове не дазваляе вызначыць крыніцу запазычання. Укр. *каламайка* (у Грынчэнкі), рус. *коломенка* і *коломёнка, коломинка* (Фасмер, 2, 294), аднак статус няясны. У рус. мове лічыцца запазычаннем праз ням. *Kalamank, kalmank* або гал. *kal(a)mink* 'гладкая льняная або пяньковая тканіна', з с.-лац. *camelāncium* (Фасмер, 2, 294—259), дзе ням. словы з с.-лац. *calamancit,* якое шэрагам аўтараў тлумачыцца як утворанае на базе с.-грэч. *καμηλάνκιον* 'вопратка з вярблюджай воўны', гл. Бернекер, 1, 471; Фасмер, 2, 164.

**Каланда́** 'невялікая колькасць чаго-небудзь' (Мат. Маг.).

Няясна, няма ўпэўненасці ў дакладнасці дэфініцыі, параўн.: *«Ні падзелюць ужо калынду тую, сьмех ажно бярэць»* (с. 41). Відаць, слова непасрэдна суадносіцца з рус. яраслаў. *каланда* 'багацце', бран. *каландить* 'эканоміць'. Мяркуючы па рус. яраслаў. *каланду набить* 'разбагацець', прыведзеныя вышэй значэнні з'яўляюцца другаснымі, а першаснай была семема 'кашалёк, каліта'. На той жа рус. тэрыторыі зафіксавана *калама* 'кашалёк з грашыма, каліта'; на жаль, яно таксама няяснае. У разглядаемым слове *-н-,* відаць, другаснае; пры такім дапушчэнні, магчыма, з тат. *kalta* 'кашалёк'. Не выключана (і прыклад з бран. тэрыторыі гэта як быццам пацвярджае), што слова распаўсюджвалася з бел. гаворак (вядома, што ў Яраслаўскай вобласці ёсць перасяленцы з Магілёўшчыны), аднак унікальнасць бел. слова не дазваляе сцвярджаць гэтага з упэўненасцю.

**Қала́ндыш** 'целяпень, непаваротлівы чалавек' (івац., Нар. сл.). Фармальна як быццам бы няма пярэчанняў супраць таго, каб суаднесці з *каланда́* (гл.), для якога можна рэканструяваць значэнне 'кашалёк, каліта'. Параўн. да семантыкі бел. дыял. *капшук* 'мяшочак (для тытуню і інш.)' і 'жывёла, якая многа наядаецца'. Гэту версію, аднак, нельга лічыць задавальняючай (словы адзначаны ў розных гаворках, семантыка *каланда* не вельмі ясная, няма надзейных прыкладаў прапанаванай намі семантычнай мадэлі 'тоўсты кашалёк' — 'целяпень'). Больш пэўна суаднесці *каландыш* і *карантыш,* мяркуючы мену плаўных і азванчэнне зычнага. Не выключана, што гэтыя змены — вынік пранікнення слова ў іншыя гаворкі, унутраная форма не асэнсоўваецца і таму пачынаюцца фармальныя змены. Аб далейшай этымалогіі гл. *карантыш.*

**Қаланіца**1 'калёсная мазь' (ТСБМ, РБС-82, Сл. паўн.-зах.), *каланіца* 'адпрацаваная каламазь' (Бяльк., Гарэц., Қасп., Мат. Гом., Сержп., Шат.; маладз., Янк. 1; Яшк.), 'загусцелы дзёгаць' (лаг., ҚЭС), 'выгарэлы ў коле дзёгаць' (Нас.), 'размоклая дарога, багна, бруд' (слаўг., Яшк.). Сюды ж *каланічына* 'месца здабывання каланіцы — дзёгцю для змазвання колаў' (Яшк.). Укр. усх.-палес. *каланіца* 'мазь, якой змазваюць восі колаў і іншых дэталей у возе', рус. зах.-бран. *каланица* 'дзёгаць для змазвання колаў; густы дзёгаць на колах', пск., бран. *колоница* 'дзёгаць', велікалук., пск. 'дзёгаць самай дрэннай якасці', пск. 'ачышчаны дзёгаць', халмаг., пск. 'дзёгаць для змазвання колаў', апоч., пск. 'вадкі сасновы дзёгаць, смала', смал., кур. 'дзёгаць, змешаны з пылам на колах і восях', кур. дан., варонеж. *колоника* 'дзёгаць, смала,

змешаная з пылам на колах і восях', бран., смал., арл., калуж. 'найбольш дрэнны гатунак дзёгцю'. Лексема адзначана ў розных бел. гаворках, апрача паўдн.-зах. Разам з тым лінгвагеаграфічны крытэрый у канкрэтным выпадку не вельмі істотны, паколькі ілюстрацыі ў слоўніках сведчаць аб культурным характары слова, што дапускае яго лёгкае пранікненне ў розныя гаворкі. Паходжанне слова не вельмі яснае: магчыма, найбольш верагодным з'яўляецца найпрасцейшы варыянт — утварэнне ад *кола* (Даль) з суфіксам *-ніца* (*-ніка* ў рус. прыкладах), гістарычна, відаць, складаным. Пацвердзіць такі варыянт тлумачэння можа рус. калін. *колесня* 'калёсная мазь'. Распаўсюджанне слова на ўсх.-слав. тэрыторыю сведчыць пра сумесную бел.-рус. інавацыю або, калі гэта позняе ўтварэнне, толькі пра бел. інавацыю (у рус. гаворках *коло,* паводле Даля, адзначаецца ў бел. і ўкр. зонах). Іншыя версіі, якія можна прапанаваць (аб сувязі з *каліць, каляць* 'змазваць', або *каляны* 'запэцканы', або *каліць : акаліна* 'нагар'), менш верагодныя, паколькі патрабуюць дапушчэння нерэгулярных фанетычных змен і не вельмі надзейныя паводле семантычнага крытэрыю. Аднак і вышэй прапанаваная інтэрпрэтацыя словаўтварэння не бездакорная. У бел. гаворках таксама адзначана *колоница* «прямостороннее ведрышко для дегтя» (Нік. Очерк.). Калі параўнаць гэта слова з рус. *деготница, мазница,* можна дапусціць, што яно ўтворана такім жа чынам. Рус. лексемы двухсэнсоўныя па магчымай дэрывацыі, тут або вытворныя ад *деготь* і *мазь,* або семантычныя кандэнсаты. Калі дапускаць апошняе, для разглядаемага слова можна рэканструяваць рус. значэнне 'калонная мазь', для *колонна, колонка* тэхнічны тэрмін у дзягцярнай справе.

**Каланты́р**$_1$**, кыланты́р** 'пост, пікет, варта' (Бяльк.). Фармальнае супадзенне з *калантырыцца* 'валаводзіцца' дазваляе меркаваць аб магчымасці ўтварэння прамежкавых семем, аб значэнні якіх можна здагадвацца паводле полац. *калантыр, калантырыць* 'праводзіць час без сур'ёзных заняткаў', адкуль, магчыма, 'збор людзей, не занятых справай і да т. п.' Гэта, аднак, вельмі няпэўна па семантыцы, ілюстрацыя ў слоўніку пацвярджае дакладнасць дэфініцыі (*«Сылдаты йшлі і на кылантыр нямецкі пупалі»,* с. 241). Можна дапусціць магчымую сувязь з *каланча* 'вартавая вышка', мяркуючы аб замене суфіксацыі. Верагоднасць такой замены давесці цяжка, семантыка слова таксама няпэўная. Фармальнае падабенства ст.-рус. *калантарь, колонтарь* 'кальчуга' відавочнае, аднак семантыку двух лексем параўнаць нельга. Адзначым, што *-н-* у разглядаемым слове можа быць другасным (экспрэсіўны

інфікс), што дазваляе фармальна параўнаць бел. слова з рус. *колотыр, колотырь,* але значэнне рус. слоў ('ілгун, праныра і да т. п.') зусім іншае. Магчыма, сапсаванае *карантин* (Краўчук, вусн. паведамл.).

**Калантыр**$_2$ 'папрашайка' (Мат. Маг., Нас.), *колонтырка, колонтырник, колонтырнык* (Нас.). Рус. кур., новааск. *калантырь,* аднак значэнне яго невядомае (СРНГ, 12, 335). Сухамлін (Совещание по ОЛА, 1975, 173) мяркуе аб матэрыяльным падабенстве бел. *калантырка,* рус. *колотырка,* укр. *колотуха* 'дакучлівая жанчына'. У рус. мове *колотырь, колотыра, колотырник* і да т. п. лексемы ў розных значэннях адзначаны на рознай тэрыторыі, у тым ліку і на пагранічнай да беларускай. Рус. слова лічыцца вытворным ад *колотить* (Праабражэнскі, 1, 337—338), што на першы погляд выклікае пярэчанні паводле семантычнага крытэрыю. Параўн., аднак, рус. *колотить* 'плявузгаць, пляткарыць, таргавацца, набываць з цяжкасцю', *колотиться* 'прасіць; пабірацца; жабраваць; жыць у галечы; бадзяцца без справы; пляткарыць' : *«Матрена все колотится, прямая колотуха»* (СРНГ, 14, 184). Суфіксацыя ў разглядаемым слове, відаць, экспрэсіўная, што датычыць спосабу ўтварэння, то, магчыма, спачатку быў утвораны экспрэсіўны дзеяслоў: *колотить, колотырить.* Бел. слова ў любым выпадку ўтворана даўно (фанетычны крытэрый), але статус яго не вельмі ясны, як гэта можна меркаваць паводле значэнняў бел. *калаціць.* Не выключана, што тут мела месца інфільтрацыя лексікі з сумежных рус. гаворак, аднак нельга выключыць магчымасці захавання старой слав. тэндэнцыі. Параўн. серб.-харв. *кла́тити се* 'бадзяцца і да т. п.' з экспрэсіўнай суфіксацыяй — *клата́рити се* 'тс'.

**Калантыра** 'сварка' (Мат. Гом.). Аддзеяслоўны дэрыват; рэгіянальнае ўтварэнне ад *калантырыць* 'выклікаць сварку; сварыцца.' Рус. *колотырить* 'сварыцца, выклікаць сварку, рабіць, гаварыць што-н. насуперак'. Да семантыкі дзеяслова параўн. рус. дыял. *колотник* 'задзіра, буян і інш.', *колотня* 'спрэчка, сварка', *колотиться* 'біцца', укр. *колотиться* 'сварыцца', усе да *колотить,* гл. *калаціць.* Аб словаўтварэнні параўн. наступнае слова.

**Калантырыць** 'выпрошваць, клянчыць' (Бяльк., Нас.), *калантырыцца* 'тс'. Рус. смал. *колотырить* 'тс', арл., бран., смал., арханг. *колотырник* 'чалавек, які выпрошвае, клянчыць'. Магчыма, сумесная бел.-рус. інавацыя, генетычна да *колотить* 'калаціць', параўн. валаг., вяц. *колотиться* 'прасіць' , алан. 'жабраваць'. Развіццё семантыкі не вельмі яснае, магчыма, *калаціцца* 'трэсціся' > 'скнарнічаць' > 'таргавацца' > 'выпрошваць, жабраваць'. Утворана з экспрэсіўным суфіксам;

Праабражэнскі (1, 337—338) меркаваў адносна рус. *колотырить,* што слова ўтворана ад *колотыра колотить*, семантыку якога праясняе «денежки сколачивать», *колотить копейки.* Такі варыянт тлумачэння, асабліва з боку семантыкі, не вельмі пераконвае. Адносна ўтварэння параўн. яшчэ *калантыр.*

**Калантырыцца** 'валаводзіцца' (міёр., Нар. сл.). Добра вядомае ў розных значэннях у паўн. і ўсх. гаворках. Рус. воронеж., валаг. *колотырить* 'займацца нязначнай пустой справай', арханг. 'бадзяцца без справы' і мн. інш. Утворана ад *колотить* з экспрэсіўнай суфіксацыяй. Відавочна, сумесная бел.-рус. інавацыя, аднак геаграфія слова не выключае магчымасці рэалізацыі старой слав. тэндэнцыі; серб.-харв. *клатáрити се* 'вандраваць, бадзяцца'.

**Калапні** 'каноплі' (Гарэц., Др.-Падб., Жд. 2; дзісн., дзярж., КЭС; мядз., полац., Нар. сл.; полац., Нар. лекс.; Рам., Чач.), *колопня* 'каноплі' (Нас.). Гродз. *калапні,* мін. *калапня* (Кіс.). Метатэза ад *каноплі,* СРНГ адзначае *колопня* 'расліна Cannabis sativa' са спасылкай на Аненкава і з паметай «заходняе». Жыздр., кастр. *колопли* 'тс'. Укр. зах.-укр. *колопні посківні.* Аднак, відаць, няма патрэбы дапускаць усх.-слав. паходжанне слова, паколькі рэгулярны характар працэсу хутчэй за ўсё незалежнае развіццё метатэзы ва ўсх.-слав. мовах. Гл. *каноплі.*

**Калапéнька,** *калапенькі* 'расліна дрыжнік, Briza media' (міёр., Жыв. сл.). Рэгіянальнае ўтварэнне ад *калапні* 'каноплі', параўн. на той жа тэрыторыі адзначаную Аненкавым назву *палявыя канапелькі* 'тс', укр. нар. *конопель, конопелька, конопій,* рус. зах., смал., сарат. *конопель* 'тс'. Матывацыя пераносу назвы празрыстая, паколькі насенне дрыжніку падобнае да насення мужчынскіх экземпляраў канапель. Беларуская інавацыя з'яўляецца відавочнай, іншыя фіксацыі сведчаць або аб экспансіі лексемы, або ўказваюць на тыпалагічную з'яву.

**Калапнянка** 'хустка асенняя, якую завязваюць увосень, калі капаюць бульбу' (смарг., ДАБМ), *колопнюшка* 'цёплая хустка' (высок., ДАБМ). Мясцовыя наватворы ад *калапні* 'каноплі', параўн. бел. *канаплянка* 'цёплая (зімовая) хустка', рус. калым. *коноплянка* 'сетка, звязаная з ссучанай удвая або ўтрая канаплянай ніткі', іркуц. 'мужчынская шапка з мяккім верхам', том. 'шапка, рукавіцы з канаплянай пражы'. Да этымалогіі гл. ячшэ *каноплі.*

**Калатырыць,** *колотырыць* 'валтузіцца, церціся, дурэць' (Нас.), *калатырыць* 'забаўна, але неабгрунтавана гава-

рыць' (Касп.), *кълатырыцца* 'бескарыснаваждацца з чым-небудзь' (ушац., Нар. лекс.), сюды ж і *калатыры, калатырыць* (Нік. Напаў.). Дакладныя адпаведнікі ў рус. мове: валаг., чарап., варонеж. *колотырить* 'займацца пустой, дробнай справай', арханг. 'таптацца без справы', смал. 'круціцца, церціся каля каго-, чаго-небудзь, гарэзуючы, і да т. п.', валаг., пск. 'балбатаць, балакаць', алан. 'гаварыць глупства і да т. п.' Відавочная бел.-рус. інавацыя. Бел. лексема адзначана ў паўн. і ўсх. гаворках, што можа ўказваць на генетычна тоесную з рус. *колотить, колотиться* 'бадзяцца без справы, мэты', *колотить* 'пляткарыць', 'гаварыць дробязі, пустасловіць', валаг. 'пытаць', бел. *колотаты* 'пытаць' (нараўл., Мат. Гом.). Некаторыя семемы маглі развівацца незалежна ад утваральнага слова, у дэрыватаў, аднак, наяўнай інфармацыі недастаткова, каб зразумець цалкам іх іерархію. У бел. мове ў адрозненне ад рус. шэраг дэрыватаў атрымаў экспрэсіўны інфікс (гл. *калантырыць)*. Гэта больш верагодная версія параўнальна з тлумачэннем Нікіфароўскага, Напаў., 16, што бел. слова суадносіцца са ст.-рус. *калантарь, колонтарь, калантырь* 'кальчуга', прытым *калантыр* разумееццa як панцыр з нашытых на скуру драўляных планак, выраблядь такія планкі — 'займацца лёгкай, пустой справай, калантырыць', адкуль і *калатыры калатырыць.* Такое тлумачэнне вельмі штучнае і не ўлічвае шэрагу значэнняў слова *калатырыць* у бел. і *колотырить* у рус. гаворках, а таксама лексемы *колотить,* з якой яны, відавочна, суадносяцца. Па ўтварэнню паўн.-слав. лексемы нагадваюць серб.-харв. *клатáрити се* 'бадзяцца, вандраваць' *клáтити се* 'бадзяцца'. Фасмер (2, 296) зыходным для дзеяслова *колотырить* лічыў *колотыра* — дэрыват ад *колотить.* Гэта, аднак, хутчэй за ўсё дзеяслоўнае ўтварэнне: *колотить* > *колотырить;* генетычна мадэль магла быць і трохступенчатай, з паступовай стратай сярэдняга звяна ў выніку рэгулярнасці такога тыпу дэрывацыі. Аб далейшай этымалогіі гл. *калаціць.*

**Калаўрóт** 'прыстасаванне для ручнога прадзення кудзелі, якое прыводзіцца ў рух панажом' (БРС, ТСБМ, Бяльк., Касп., П. С., Сцяшк., Шат.), *калаўротак* 'тс' (БРС, ТСБМ, Сержп. Грам., Сцяц. Нар.; лях., Янк. 1, Сцяц. Нар., Сцяшк. МГ), *калаўротка* 'тс' (івац., Бір. Працы IM, 6), *калаўрот* 'прыстасаванне для падымання грузаў: вал з ручкай, на які намотваецца канат, ланцуг' (ТСБМ), 'свердзел' (Касп.), 'рухавік з кола, якое прыводзіць у бег санкі на лёдзе' (Касп.), 'месца на лёдзе, дзе кола надзета на забіты кол і пры дапамозе жэрдкі прыстасавана для катання санак па крузе' (Яшк., эскцэрпцыя з БелСЭ), *кылаўрёт* 'частка самапрадкі', 'прылада для размат-

вання маткоў' (Бяльк.), *ковроток* 'самапрадка' (Уладз.), *калаваруот* 'тс' (Серж. Грам.), *коворыдка, ковориток* 'тс' (Уладз.). Адносна гісторыі рэаліі параўн. у Нікіфароўскага, Очерки, 174: «Самопрялка... появляется позже и вытесняет веретено и прялку». Укр. усх.-палес. *коловороток* 'самапрадка' і *калаварот* 'корба ў студні', рус. шуйск., уладз. калаброд 'самапрадка'? 'кросны'?, кастр. *калаброды* 'у кроснах прыстасаванне для навівання цэвак', рус. *коловорот* 'ручны свердзел', дыял. *коловрат* як назва тэхнічных прыстасаванняў, пск. *коловорот* 'загіб, паварот ракі' і пск., цвяр. *коловрат* 'тс'. Рус. паралелі не даюць падстаў сцвярджаць аб магчымасці існавання непаўнагалоснага варыянта ад прасл. **vr̥těti* на ўсх.-слав. тэрыторыі. Рус. *калаброд* наогул выглядае як сапсаваная пры запазычанні лексема. Верагодна, для непаўнагалосных бел. слоў факт іх запазычання нельга аспрэчваць. Больш цяжка вытлумачыць тыя факты, дзе значэнне 'кола для катання санак' можа ўказваць на спрадвечнасць слова. У такім разе замену поўнагалоснай формы няпоўнагалоснай можна разумець як уплыў запазычанай, сэнсава блізкай лексемы. Сумнявацца ў тым, што ў бел. мове былі і ёсць кантынуанты прасл. злучэння *kolovortъ* (аб якім гл. Слаўскі, 2, 373) няма прычын (параўн. *калаварот*), аднак паслядоўны паралелізм фармальна розных структур вытлумачыць без іншамоўнага ўплыву цяжка. Параўн. яшчэ *коўрат* (гл.).

**Калаціць**$_1$ 'выклікаць дрыжанне чаго-н.; хістаць; трэсці; выклікаць дрыжыкі; часта і моцна стукаць, ударацць і да т. п.' (БРС, ТСБМ; навагр., З нар. сл.; Касп.; КЭС, лаг., Мат. Гом., Нас., Сержп., Шат.) 'малаціць' (БРС; івац., Бір., Працы ІМ, 6; Мат. Гом., Сцяшк.), да апошняга, відаць, *колотить мак* — у гульні, дзе намагаюцца пакалаціць (Радч.), і ў Сержпутоўскага (Прымхі) — каб вераб'і не калацілі.., 'абтрэсваць, аббіваць сады' (Касп., Нік. Оч.), 'упокат абшукваць' (КЭС, лаг.), *калаціць кішэні* 'трэсці кішэні', 'паласкаць (бялізну)' (гродз., З нар. сл.). Звяртае на сябе ўвагу спецыялізаванае значэнне 'боўтаць, збоўтваць: боўтаць смятану, каб зрабіць масла' (Вешт., КЭС, лаг.; Яруш.), *колотыты* 'рашчыняць цеста на бліны' (бяроз., Шатал.), *калаціць зацірку* 'круціць калатоўку ў гаршку' (КЭС, лаг.), 'гатаваць якую-н. страву, размешваючы калатоўкай' (ТСБМ) у сувязі з тым, што паралелі да гэтага слова ў рус. гаворках з'яўляюцца, па сутнасці, беларускімі: *колотить масло* (у Растаргуева). Аднак *колотовка* 'прылада для збівання масла, цеста і да т. п.' вядома шэрагу рус. гаворак, апрача таго, ёсць укр. *колотити* 'муціць' і 'збіваць масла', *калаціцца* 'збівацца (аб масле)', па гэтай прычыне

магчымая думка пра бел. семантычную інавацыю не з'яўляецца вельмі надзейнай. Польск. дыял. *kłócić* 'збіваць масла'. Відаць, тут, як і ў іншых выпадках з гэтым словам, або незалежнае ўзнікненне такіх семем (што наогул для значэння 'калаціць' натуральна), або адлюстраванне даўняй полісемічнасці лексемы. Укр. *колотити* 'муціць; збіваць масла; сварыцца; папіхаць; распараджацца', рус. *колотить* 'біць, калаціць і да т. п.', 'малаціць', 'збіваць (арэхі, чаромху)', 'замешваць (цеста)', 'забіваць жывёлу на мяса', 'забіваць', 'гаварыць, плявузгаць', 'пляткарыць', 'таргавацца, старацца выгадаць у цане'і інш., польск. *kłócić* 'боўтаць, трэсці', 'муціць, выклікаць непакой', 'прыводзіць да сваркі', дыял. 'збіваць масла', 'сварыць, гневацца на каго-н.' і інш., 'забіваць', н.-луж. *kłóśiś* 'збіваць, струшваць (з дрэў)', 'біць', 'малаціць (аббіваць лён)', в.-луж. *kłóčić* 'збіваць, струшваць', чэш. *klátiti* 'трэсці, струшваць, махаць і інш.', дыял. (у Юнгмана) 'збіваць масла', *klátiti se* яшчэ і 'бадзяцца', славац. *klátit'* 'трэсці і інш.', славен. *klátiti* 'збіваць фрукты з дрэў', серб.-харв. *кла́тити* 'хістаць', 'стрэсваць фрукты з дрэў', *кла́тити се* 'бадзяцца', дыял. *кла́тити* 'балбатаць, вярзці лухту, плявузгаць', макед. *клати* 'хістаць' і інш., балг. *клатя* 'хістаць і інш'. Праслав. *koltiti,* першаснае значэнне не вельмі пэўнае, магчыма, з самага пачатку полісемантычны дзеяслоў, або, як меркаваў Махэк₁ (201), з *kol-mǫtiti, kol-o-mǫ-tati* і пад., якія накладваліся на старое слова, роднаснае лац. *quatio*. Махэк₂ (252) пакінуў толькі супастаўленне з лац. *quatio, quatere* 'трэсці, біць і да т. п.'. З пункту гледжання фанетыкі такое супастаўленне не вельмі добрае. Паводле традыцыйнай версіі суадносяцца прасл. *koltiti* і *kolti* (гл. *калоць*), гл. Фасмер, 2, 296, са спасылкай на старую літ-ру. Слаўскі (2, 272) далучаецца да гэтай думкі і мяркуе, што значэннем, якое аб'ядноўвае прасл. лексемы, з'яўляецца 'біць', адкуль 'трэсці і інш.' Пры гэтым ён звяртае ўвагу на польск. *kłócić się* 'сварыцца' (параўн. тое ж бел. *калаціцца,* укр. *колотитися*), якое параўноўвае з дэрыватамі ад *kolti* рус. *колоться,* славен. *kláti se* 'біцца, сварыцца', серб.-харв. *кла̏ти се* 'біцца і інш.' Відавочна, аднак, што такім чынам нельга вытлумачыць усю семантыку кантынуантаў слав. *koltiti*. Што датычыць словаўтварэння *(kolti > koltiti),* было меркаванне аб прамежкавай ступені: праз **koltъ; koltiti* ў такім выпадку дэнамінатыў ад гэтага назоўніка. Такое меркаванне азначае яшчэ больш вузкую семантыку першапачатковага ўтварэння. Іншыя версіі адносна паходжання слав. слова не пераконваюць, хоць заслугоўвае ўвагі прыведзеная думка Матцэнаўэра, LF, 8, 170—171, аб магчымай суаднесенасці слав. слова са ст.-в.-ням. **scaltan* 'штурхаць', с.-в.-ням.

*schalten* 'штурхаць, совацьʼ, ст.-в.-ням. *scelten* 'сварыць, ганіцьʼ (калі дапускаць тут *s-mobile*).

**Кала́ч**₁ 'кругʼ (лельч., Нар. лекс.), магчыма, другаснае, параўн. ілюстрацыю: *«Калач коўбасы купіў»,* с. 131, да таго ж незразумелая наяўнасць слоў з оканнем і без, 'пятля (з вяроўкі або прутоў)' (БРС), 'круглае рабро ў рыбалоўнай прыладзеʼ (Пал. Крыв.), 'заверцень з вяроўкі ці звіткі ў форме абаранка' (ганц., пух., Сл. паўн.-зах.), 'абруч', 'завязванне хусткі абручомʼ (ТС), 'кальцо (жалезнае, драўлянае, вяровачнае або з лазы) на «ярме», у якое ўстаўляецца канец дышляʼ, *колач* 'тсʼ (Маш., але рэалія некалькі іншая: «прывязь, якая прымацоўвае ярмо да рагача сахі», с. 59), колач, колачык, колачы, калачы 'частка бараны: пруты, у якія ўстаўляюцца зубы', *калачы, калачыкы* '25 парна сплеценых драўляных прутоў на баранеʼ (Сержп. Грам., Сержп. Земл.); з пераносам назвы абруча на рэалію, замацаваную такім абручом, -*калач* 'дровы, пакладзеныя на дзве жэрдкі зверху і знізу і прывязаныя да іх' (навагр., Нар. лекс.). Звяртаюць на сябе ўвагу адзначаныя ў окаючых гаворках Палесся формы з аканнем, што, магчыма, неабходна тлумачыць пашырэннем слова з адпаведных гаворак. Параўн. яшчэ *калач*₂. Укр. усх.-палес. *калач* 'кальцо ў ярме валовай вупражы, у якое ўстаўляецца дышальʼ, 'кальцо з вяроўкі і да т. п., дэталь у возе', *колач* 'кальцо з лазы, якім прымацоўваюцца аглоблі да санейʼ, *калач* 'дзіцячая гульня з кальцом' (Чуб. 3), *колач* (у Шухевіча) 'разнавіднасць посуду: гліняная труба, сагнутая ў выглядзе кальца, з рыльцам, ужываецца для гарэлкі і носіцца на шнурку на плячы' і 'доўгі скрутак з сена на вяршыні стажка, каб дождж не трапіў у сярэдзіну', рус. наўг., валаг., яраслі. *калач* і *колач* 'драўлянае або металічнае кальцо, з дапамогай якога зацягваюць вяроўку, што замацоўвае сена на возе', 'частка хамута; набітая саломай кожаная падушка...ʼ, дан., цвяр. *калачы* 'выпадковыя вузлы на ніжняй вяроўцы невада', 'кольцападобная рачная пратока і інш.ʼ, польск. *kołaczek* 'круглы гаючы пластыр' (з XV ст.), чэш. *koláček* 'круглы чапец', серб.-харв. *ко̀љач* 'некалькі звязаных разам абручоў', 'звітая ў кальцо вяроўка', 'зруб у студні', 'кружок у ланцужку' і інш., славен. *koláč* 'маток дроту', 'посуд для віна', 'круг'. Некаторыя з прыведзеных лексем лічацца (Слаўскі, 2, 363, RHSJ, 5, 179) другаснымі, пераноснымі ад *kolačь* 'печыва ў выглядзе кола'. Думаецца, што няма патрэбы ў гэтым, паколькі значэнне 'круг, кальцаʼ з'яўляецца этымалагічна натуральным, калі меркаваць, што *калач*₁, як і *калач*₂, ад прасл. *kolo*. Гл. Мартынаў, Ареальн. иссл. в языкозн. и этнографии. Л., 1975, с. 24. Не выключана, што першаснае

значэнне 'зроблены (скручаны) у выглядзе кола' для прасл. дэрывата *kolačь* датычыць і *kolačь* 'круглы хлеб', якое ўжо пазней спецыялізавалася.

**Кала́ч**₂ 'круглая булка пшанічнага хлеба' (БРС, ТСБМ), 'абаранак' (Пятк.), *калачы* 'тс' (Кольб., Маш.), (на крайнім захадзе палескай тэрыторыі) *колач, калач* 'пірог', 'вясельны пірог прадаўгаватай формы', 'прадаўгаваты жытні пірог, які нясе ўнук сваёй бабцы-павітусе', (на захадзе, цэнтры і ўсходзе Палесся) 'вялікі баранак' (Вешт.). Адзінкава ў цэнтры Палесся зафіксавана значэнне 'блін' (Вешт.). Укр. усх.-палес. *калач* 'баранак', укр. *калач* і *колач* 'крэндзель і наогул белы хлеб', дыял. *колач сирний* (у Шухевіча) 'авечы сыр, злеплены ў выглядзе круглага хлеба з адтулінай пасярэдзіне, які смажыцца ў масле', рус. *калач* і *колач* 'белы хлеб', 'печаныя вырабы з мукі (у выглядзе жгутоў, кольцаў і да т. п.)', 'абаранак', польск. *kołacz* 'пірог з найлепшай пшанічнай мукі і інш.', дыял. 'буханка хлеба круглай або падоўжанай формы; белы хлеб, булка', н.-луж. *kółac* 'круглы хлеб, велікодны пірог', в.-луж. *kołač* 'круглае печыва', чэш. *koláč* 'круглы пірог і да т. п.' , славац. *koláč* 'печыва з белага квашанага цеста', славен. *koláč* 'круглы велікодны пірог, круглы пірог наогул, каравай белага хлеба і інш.', серб.-харв. *ко̀лач* 'хлеб, звычайна белы, з лепшай мукі, салодкі, спечаны ў форме кола', макед. *колач* 'абрадавы хлеб', балг. *колач* 'асобы абрадавы хлеб, звычайна з адтулінай пасярэдзіне'. Прасл. *kolačь,* дэрыват ад *kolo* (гл. далей *кола*), Слаўскі (2, 364) мяркуе, што першасным значэннем было 'печыва ў форме кола', што, на яго думку, пацвярджаецца чэш. дыял. *kolo,* балг. дыял. *коло,* рус. дыял. *колесо,* усё ў значэннях 'калач і да т. п.'. Калі прыняць такі пункт гледжання, неабходна і для *kolo, колесо* меркаваць аб першасным значэнні 'хлеб'. Не выключана, што прасл. дэрыват ад *kolo* меў больш дыфузную семантыку, накшталт 'зроблены (скручаны) у форме кола', а 'хлеб у выглядзе кола' было другаснай спецыялізацыяй. Параўн. *калач*₁, дзе шэраг значэнняў ніяк нельга вытлумачыць як другасныя намінацыі ад *kolačь* 'пірог'. Аб прасл. *kolačь* 'прадмет, які нагадвае па форме кола', пісаў Трубачоў, Ремесл. терм., 225. Трубачоў (там жа, 256) мяркуе аб магчымасці генетычнай сувязі назвы посуду для выпечкі хлеба (маецца на ўвазе славен. дыял. *kolač* 'асобая глыбокая патэльня, вялікая гліняная міска з адкрытым або закрытым круглым канічным узвышэннем пасярэдзіне для выпечкі вялікіх хлябоў'), што, відавочна, неабходна разумець як перанос назвы пасудзіны на выпечаны хлеб. Гэта не вельмі добра абгрунтавана у тым, што датычыць рэалій, хоць шэраг славян-

скіх значэнняў ('вялікі абаранак' і інш.) указваюць быццам бы на магчымасць ужывання спецыяльнай формы, а сам спосаб выпечкі вырабаў з мукі ў формах можа быць старажытным. Вештарт (Лекс. Пал., 119) лічыць, што палескія гаворкі крайняга захаду адлюстроўваюць уплыў польскіх абрадавых і моўных звычаяў.

**Кала́ч**$_3$ 'расліна рагоз, Typha', 'насенная шышка рагозу', 'кіях кукурузы' (лях., лід., Сл. паўн.-зах.), *калачы* 'каташкі (на бярозе)' (свісл., Шатал.), магчыма, сюды ж і драг. *калачык* 'пакаёвая кветка'. Укр. усх.-пал. *калач* 'кіях кукурузы', *калачики* (уст.) 'кукуруза'. Непасрэдная сувязь з *калач*$_2$ або *калач*$_1$ здаецца немагчымай, паколькі для бел. рэалій нельга дапусціць перанос гэтых назваў паводле падабенства. Магчыма, першапачаткова назва частак расліны, падобных на *калач*, параўн. рус., укр. нар. назву *калачик* 'расліна Malva'. Наступны этап — перанос назвы на круглыя плады або кветкі іншых раслін, параўн. рус. дыял. *калачики* 'расліны розных відаў Trifolium' і *калачики* ў наступным кантэксце: «Трава растёт калашник, красненьки калачики и беленьки калачики у нее, сверху, ... калашник похож на клевер, но это не клевер» (СРНГ, 12, 339). Такую у прынцыпе магчымую версію прыняць нельга, паколькі на бел. тэрыторыі наогул не засведчана слядоў падобнага працэсу. У бел. назвах для Typha адзначаны *кіейка, катке, кіёўка, кіёўнік,* укр. *палки, палочник,* бел. дыял. *калачык* 'песцік' і 'пладаносная частка сцябла некаторых раслін' можна параўнаць з бел. *таўкачык* 'назва хвашчу', а бел. дыял. *калатоўка* 'рагоз' нельга не суаднесці з *калатоўка* 'мяшалка'. Іншымі словамі, найбольш імаверна параўнаць разглядаемае слова з дзеясловам *калаціць* (аснову *колот-*). Пры гэтым, калі дапускаць аналагічны па ўтварэнню працэс (назва прылады, якой калоцяць > назва расліны), неабходна рэканструяваць *калач* (магчыма, як сінонім да *калатоўка*) як назву прылады, ужытую пазней для расліны, або хутчэй для насеннай шышкі рагозу і да т. п. Такі варыянт тлумачэння ўяўляецца не вельмі надзейным, паколькі мяркуем дэрыват ад *калаціць* не засведчаны (параўн., аднак, рус. дыял. *колот* 'песцік у маслабойнай ступе'). Аб іншай версіі сведчаць такія формы, як бел. дыял. *калачонік* 'стрэсены арэх', *калачанка* 'стрэсенае сена з саломай', *калачынка* 'амлет', *колотуша* 'тс', дзе *-ч-* заканамернае. Аднак спосаб утварэння ад асновы *калач-* няясны. Калі звярнуць увагу на такі сінонім для Typha, як *катке* (мн. ад *каток*), мяркуючы пры гэтым, што *каток* тут не ад *кот* (у сувязі з мяккасцю, *пухайка* 'рагоз'), а дэрыват ад *каціць* і *калачы* і *каташкі* (на бярозе), можна

прапанаваць і такі варыянт тлумачэння, пры якім *калач* — метатэза з *качая,* якое, у сваю чаргу, зваротны дэрыват ад *качалка, качалкі.* Параўн. рус. смал., росл. *качалка* 'шышка (лопуху?), якой кідаюць на вяселлі ў жаніха і шафера'. Аднак такая версія найменш імаверная.

**Калашма́н** 'птушка з касматымі нагамі', 'чалавек у штанах з шырокімі калашынамі' (БРС, ТСБМ), 'той, у каго шырокія з доўгімі калашынамі штаны' (Янк. 3), 'з доўгімі калашынамі' (Мал., Сержп. Грам.), *калашмай* (значэнне?) (Сцяцко, Славаўтв.), *калашмач* 'пра чалавека ў шырокіх доўгіх штанах' (Сцяц.). Сюды ж, верагодна, неабходна аднесці і *калашмэт* 'чалавек з кудлатымі валасамі' (Мат. Маг.). Прыведзеная лексіка дазваляе выдзеліць розную суфіксацыю і аснову, у якой *-м-* можа з'яўляцца суфіксальным элементам або адносіцца да асновы. Калі дапусціць, услед за Сцяцко, Афікс. наз., 95, што гэта ўтварэнні ад прыметніка *калашматы* 'чалавек у шырокіх штанах', у якіх ёсць і фармальны прыметнікавы паказчык — сегмент *-м-* (як частка суфікса *-мат-),* то цяжка вытлумачыць *калашман* 'птушка з касматымі нагамі', *калашмэт* 'чалавек з кудлатымі валасамі'. Тураўскі слоўнік адзначыў для лексемы *колоша* форму мн. л. *колошы* са значэннем 'пер'е на нагах у курэй' і дэрыват ад яе *колошаты* 'з аброслымі пер'ем нагамі (пра курэй)'. Што датычыць значэння 'чалавек з кудлатымі валасамі', яго можна разглядаць як наступнае развіццё семантыкі. На базе семемы 'з касматымі нагамі' натуральна магла ўтварацца семема 'касматы' і з наступным удакладненнем семантыкі, у адносінах да чалавека, 'з касматай (кудлатай) галавой'. Экспрэсіўнасць і слова, і суфікса цалкам дапускае мяркуемыя трансфармацыі семантыкі. Не вельмі ясным у данай версіі з'яўляецца генезіс суфікса *-мат-* (прыметнікавага, паводле Сцяцко). Аднак, паколькі як быццам надзейныя прыклады такой суфіксацыі ёсць (параўн. *таўсматы* 'таўставаты'), можна дапусціць, што яна ўзнікла ў выніку перараскладання структур, дзе *-м-* генетычны элемент кораня слова. Калі гэта не так, у межах таго ж дапушчэння, што *калашман* суадносіцца з *калоша, калошы,* можна прапанаваць наступнае. Нельга выключыць, што *-м-* тут на месцы *-в-,* калі ў якасці ўтваральнага слова выступала форма *калошва 'калоша', калошня,* засведчаныя на бел. тэрыторыі. У такім выпадку ў прыметніку маглі адбыцца працэсы фанетычнага ўзаемадзеяння і ў выніку дыстантнай асіміляцыі ўтварыцца *-м-*. Не выключана таксама, што трансфармацыя адбылася пад уплывам нейкага падобнага па структуры і семантыцы слова. Звяртае на сябе ўвагу дзеяслоў *калашмаціць,* для якога

ў бел. мове адзначана значэнне ’кудлачыць’ і дзе *-м-* як быццам рэгулярнае. Не выключана таксама, што *калашмэт* ’чалавек з кудлатымі валасамі’ наогул з’яўляецца вытворным ад гэтага дзеяслова і генетычна не суадносіцца з вышэй прыведзенымі словамі. Нельга выключыць яшчэ і той магчымасці, што *калашман* — утварэнне з экспрэсіўнай *-ман-* суфіксацыяй, а дэрываты з іншымі суфіксамі — вынік субстытуцыі суфікса *-ман-* на іншыя экспрэсіўныя, магчыма, больш натуральныя для канкрэтных гаворак. Пры гэтым, паколькі *-м-* адзначаецца ва ўсіх дэрыватах, замяняўся, верагодна, не суфікс *-ман,* а суфіск *-ан,* як больш часты. Пры такім тлумачэнні першаснасць прыметніка з’яўляецца праблематычнай і гэта, відаць, пацвярджаецца такім утварэннем, як *калашманы* ’калашматы’ (стаўбц., Нар. сл.), якое можна разглядаць і як утварэнне ад назоўніка.

**Калашма́ціць** ’шматаць, кудлачыць, тармасіць’ (ТСБМ), ’моцна тузаць, цягаць, стараючыся разадраць, пашматаць’ (ТСБМ), ’біць, калаціць’ (ТСБМ), *калышмаціць* ’растрасаць; лахмаціць; валтузіць’ (Яўс.), *колошмаціць* ’лупцаваць (чым-н.) цвёрдым па тулаву і галаве’ (жытк., Нар. словатв.). Статус слова не вельмі ясны: лінгвагеаграфія ўказвае як быццам на пагранічны да рус. гаворак арэал. Паводле нашых звестак, слова вядома прынамсі ў Мінскай вобласці, што разам з жытк. прыкладам знімае неабходнасць меркаваць аб уплыве рус. гаворак. З адпаведнікаў да бел. слова можна прывесці рус. *колошматить* ’несці лухту’, што дазваляе меркаваць аб бесперапынным характары распаўсюджання слова ў гэтай зоне. У іншых слав. мовах адпаведнікі да гэтых лексем як быццам адсутнічаюць; што датычыць формы, у рус. мове адзначаны яшчэ *колошмачить* ’біць, калаціць, калашмаціць’, *колошмятить* ’тс’. Адносна ўкр. матэрыялу нічога пэўнага сказаць нельга, па гэтай прычыне ўтварэнне можна разглядаць як рэгіянальную рус.-бел. інавацыю. Этымалагічна слова можа ўзыходзіць да *колотить,* аднак цяжка вытлумачыць наяўную ўставку, якая не нагадвае экспрэсіўныя структуры (экспрэсіўную суфіксацыю, інфіксацыю). Паводле семантычнага крытэрыю цяжка думаць аб суаднесенасці гэтага слова і адзначанага толькі ў бел. мове *калашман, калашматы* (Гл. вышэй). Магчыма, *калашмаціць* неабходна разглядаць як складанае слова, у якім другую частку можна суаднесці са *шматаць.* Першая частка можа разглядацца як экспрэсіўны кампанент (аб паходжанні гл. меркаванні пад *каламуціць, калатырыць),* узмацняючы семантыку зыходнага слова. Аднак поўнаму прыняццю гэтай версіі перашкаджаюць нека-

торыя недакладнасці словаўтварэння. Рус. наўг. *коломшить* і валаг. *коломяшить* семантыка адпавядае бел. *калашмаціць*. Не выключана, што гэтыя прыклады сведчаць аб магчымасці іншай этымалогіі другой часткі і розных як фармальных (метатэза, зближэнне з іншымі словамі), так і семантычных працэсах. На жаль, наяўны матэрыял не дазваляе меркаваць аб гэтым з упэўненасцю.

**Калашнік**$_1$ 'невялікі хлеў' (Жд. 2). Рэгіянальнае ўтварэнне, аналагічнае па паходжанню да *калашня* (гл.). Першапачаткова 'спецыялізаваная пабудова або прыбудоўка для мякіны і да т. п.', затым 'невялікая гаспадарчая пабудова' > > 'невялікі хлеў'.

**Калашнік**$_2$ 'хатняя кветка' (лельч., Мат. Гом.). Укр. усх.-палес. *калашник* і *калашнік* 'духмяная пакаёвая кветка невялікага памеру, якая цвіце белымі кветкамі'. Рэгіянальная інавацыя, этымалагічная структура ўтварэння — *калачнік*, далей да *калач*. Матывацыя, аднак, не вельмі ясная, можна думаць аб пераносе назвы (аб дэрывацыі ад яе) расліны Malva, параўн. усх.-палес. *калачики* 'Malva silvestris' (відавочны перанос падобнага тэрміна ў рус. *калачик* 'расліна Geranium') і аб незалежным ад гэтага ўтварэнні, дзе аснова суадносіцца з *калач*$_3$ (гл.). У такім выпадку гэта дэрыват з суфіксам або семантычны кандэнсат, параўн. рус. дыял. структуру *калачная трава*.

**Кала́шня** 'прыбудова да сенцаў' (іван. Жыв. сл.), 'вузкі закутак у гумне, адгароджаны ўздоўж падоўжанай сцяны', *калашня* (дзярж., Нар. сл.). Зыходная структура — *каласня*, як для *калашнік* — *каласнік*, параўн. рус. дыял. *колосник* 'пабудова для саломы, мякіны'. Адносна семантыкі зыходнага *колас* (гл.) параўн. рус. дыял. *колос* 'калоссе, якое аддзяляецца ад саломы пры малацьбе', 'калоссе, якое патрабуе дадатковага абмалоту', 'адходы, якія ўтвараюцца пры абмалоце зерневага збожжа (дробная салома, рэшткі каласоў і да т. п.)'.

**Калба́н** 'гладыш' (Касп., Мат. Маг.), *колбанец* 'тс' (Нас.), *калбан* 'пасудзіна з прутоў або саломы ў выглядзе гладыша' (Касп.), 'штучнае гняздо з саломы ў выглядзе конуса', сюды ж празрысты перанос назвы калбанчики 'расліна Campanula', параўн. рус. *колбочки* 'расліна Trollius europaeus', 'пладовыя шышкі гэтай расліны'. Рус. смал. *колбан* 'гліняны або металічны гладыш, гарлач велізарных памераў', больш далёкія — наўг. *колбик* 'вузкагорлы гліняны гладыш, які пашыраецца

ўніз у форме шара', 'гладыш для алею', маск. колбушка 'канічны гладыш з вогнетрывалай гліны'. Цыхун (Бел.-польск. ізал., 149) суаднёс *калбан* з укр. *ковбан* 'цурбан, калодка', рус. *колбяк* 'цурбан, балван', бел. *коўб* 'страўнік жывёлы' і інш., якія, на яго думку, узыходзяць да ўсх.-слав. *колб* 'шар, круглы і тоўсты канец чаго-н.', што патрабуе ўдакладнення. Як быццам існаванне ўсх.-слав. *колб* асобых сумненняў не выклікае. Параўн. рус. вяц. *колба* 'фігура ў форме невялікага шара', 'патоўшчаны шарападобны канец палкі', 'шарык як упрыгожанне ў розных вырабах', кастрам. 'галава', астрах. *колбан* 'абрубак дрэва, дошкі і да т. п.', сарат. *колбешка* 'невялікі абрубак дрэва, дошкі', валаг. *колбочка* 'мясісты кончык носа (у чалавека), *с колбочкой* 'з лішкам, вышэй краёў', валаг. *колбушка* 'верацяно з вялікай колькасцю напрадзеных нітак' і інш. Укр. гуц. *ковбок* 'больш тоўстая частка дрэва, ужо адрэзаная ад верху', бойк. *ко́вбиця, коўбчик* 'тс'. У прынцыпе *калбан* і інш. назвы посуду маглі ўтварыцца натуральна ад асновы *колб-*. У якасці семантычнай паралелі можна прывесці ням. *Kolbe, Kolben* 'дубінка', 'булава, паліца', 'галоўка, шышка' і *Kolben* 'колба (хімічны посуд)'. Аднак бел. і рус. назвы посуду могуць быць параўнальна познімі, г. зн. запазычанымі з ням. як тэхнічныя тэрміны. Параўнальна вузкая геаграфія распаўсюджання такіх назваў посуду як быццам пацвярджае магчымасць запазычання. У рус. пісьмовых помніках слова сустракаецца ў другой палавіне XVII ст. (існуе версія аб запазычанні ў канцы XVIII ст.; Шанскі, 11, К, 195). Тэарэтычна нельга выключыць і магчымасці ўзаемадзеяння запазычанага слова з славянскім, што дапамагло б вытлумачыць фармальную розніцу ням. і рус. слоў. Звяртае на сябе ўвагу таксама паслядоўнае супадзенне назваў посуду і слав. дэрыватаў ад *колб-*: калуж. *колба* 'бутля', 'шар', наўг. *колбик* 'гладыш', новасіб. 'каўбаса асобага прыгатавання', перм. *колбушка* 'абрубак дрэва', маск. 'гладыш канічнай формы', смал. *калбан* 'гладыш', уральск. *калбан* 'тоўсты абрубак дрэва'. Гэтыя факты вельмі падазроныя, хоць магчымасці трансфармацыі запазычанага слова выключыць нельга, у тым ліку і пад уплывам слав. слоў, як гэта мяркуецца. Адносна ўсх.-слав. *колб-* гл. падрабязней пад *каўбух*.

**Калбаны́** 'луг з купінамі' (Касп.). Адпаведнікаў да бел. слова ў іншых мовах як быццам няма. Можна суаднесці з усх.-слав. *колб-*, узнавіўшы яго на базе такіх фактаў, як рус. вяц. *колба* 'фігура ў форме шара', дыял. 'абрубак дрэва', укр. *ковбан* 'кароткі тоўсты абрубак дрэва', *ковбаня* 'катлавіна або яма, напоўненая вадой', рус. калуж. *калбина* 'невялікае возе-

ра', семантыка якіх дазваляе лічыць бел. слова роднасным гэтай аснове, але наяўнасць у прыведзеных лексем значэнняў 'яма', 'вадаём' гаворыць пра магчымы перанос 'посуд' > > 'вадаём'. Не выключана, што падобны ці нават больш складаны працэс быў у выпадку з разглядаемым словам, таму неабходна суаднесці *калбаны* і *калбан* 'гладыш' . Верагоднасць такога супастаўлення пацвярджаецца геаграфіяй, аднак фармальнае і семантычнае падабенства да *калдабан* 'выбоіна' дазваляе меркаваць аб утварэнні *калбаны* з *калдабаны* (выпадзенне складу, магчымы ўплыў іншых лексем), хаця і такая версія не з'яўляецца бясспрэчнай. Адносна ўсх.-слав. *колб-* гл. падрабязней пад *каўбух*.

**Калбата́ць** 'мяшаць, збіваць яйкі з мукой' (гродз., Мат. АС), *калбоціць, калбаціць, калбуціць* 'рашчыняць', 'замешваць', 'боўтаць' (гродз., Сл. паўн.-зах.), *калбоціцца* 'боўтацца, пераліваццa' (Сцяшк. МГ), 'боўтацца, пялёскацца' (шчуч., Сл. паўн.-зах.). Сюды ж і вытворныя: *калбочаная яешня, калбатуха* 'амлет, страва з малака, мукі, яец, перамешаных і спечаных на сале' (Сцяшк. МГ), *калбатун* 'баўтун, неаплодненае яйцо' (ашм., воран., іўеў., Сл. паўн.-зах.), *калбатуха* 'непрыгодная для яды страва, бурда' (смарг., Сл. паўн.-зах.). Паводле фармальнага крытэрыю і лінгвагеаграфіі (слова прадстаўлена толькі на захадзе Гродзенскай вобласці) верагодней суаднесці яго з літ. *kalbė̃ti* 'гаварыць'. Тут цікавы выпадак, калі ў прамым значэнні 'гаварыць' слова не зафіксавана, ёсць толькі двухсэнсоўныя прыклады, такія, як *калбатун* 'балбатун' («Калбатун кажуць на таго, хто многа гаворыць», лід., Сл. паўн.-зах., 2, 371). Двухсэнсоўны прыклад таму, што *калбатун* 'балбатун' можа быць наватворам на базе *калбатаць* 'боўтаць' > 'балбатаць', аднак больш імаверна, што дэрыват суаднесены з *калбатаць* 'гаварыць' або, дакладней, з экспрэсіўным варыянтам 'гаварыць' — 'балбатаць'. Тут цікавы выпадак працэсу, пры якім суаднесеныя па адной прыкмеце запазычаны і спрадвечныя дзеясловы ўзаемадзейнічаюць такім чынам, што запазычаны — *калбатаць* (і інш. формы) атрымлівае прамую семантыку бел. *баўтаць*. Парадаксальным з'яўляецца тое, што былі суаднесены толькі пераносныя значэнні абодвух слоў, а за літуанізмам замацавана адно з асноўных значэнняў дзеяслова *боўтаць*. Запазычанае слова да таго ж было па-рознаму адаптавана (гл. формы вышэй), гэта, аднак, можна разглядаць і як пазнейшыя трансфармацыі.

**Калбу́н** 'пячкур, Gobio' (Жд. 2). Укр. дыял. *колб* 'пячкур', *кобл* і інш., рус. дыял. *колб, колба* 'тс' (паўдн., паводле розных

крыніц), *колбень* ’тс’, польск. дыял. *koub’eń, koubla* (паўдн.-усх.) і інш., падрабязней агляд лексікі ў Герда, Лекс. балтызмы, 10, дзе ён лічыць формы тыпу *kolb* трансфармацыяй, запазычанай з літар. мовы лексемы (якой адпавядае бел. *келб,* гл. падрабязней гэтае слова). Такое меркаванне лагічнае, аднак не выключае іншай версіі. Рус. лексему разглядаў яшчэ Міклашыч, 154, які параўнаў яе з алб. *kulp-bi* ’прэснаводная рыба’; супраць Бернекер, 1, 659, Фасмер, 2, 286, які адзначыў, што алб. слова магло быць запазычана з слав. моў. Гэта неверагодна з пункту гледжання лінгвагеаграфіі, паколькі ў паўднёвых славян лексема не зафіксавана, аднак па гэтай жа прычыне албанская паралель не здаецца надзейнай. Брукнер (227) адзначаў, што апрача польск. і ўсх.-слав. моў іншыя слав. мовы гэтага слова не ведаюць, аднак лексема з’яўляецца старой, што даказваецца быццам бы яе роднасцю да *kiełbasa*. Не вельмі зразумела, якую семантыку меў на ўвазе Брукнер (фармальнае падабенства тут сапраўды ёсць), апрача таго, слова *каўбаса* вельмі няяснае, таму версія Брукнера не была прынята як малапераканаўчая. Паводле Безлая, SR, 5—7, 1954, 136, пячкур суадносіцца з слав. **kъlb* ’глыбокае месца ў рацэ’ (польск. *kołban* з’яўляецца ўкраінізмам, гл. Слаўскі, 2, 365, дзе спасылкі на літ-ру), версія недастаткова абгрунтаваная, але цікавая і каштоўная, галоўным чынам, таму, што ўкр. *ковбирь,* якое прыводзіць Безлай, магчымы дэрыват ад усх.-слав. *колб-,* вытворныя ад якога азначаюць розныя булавападобныя і шарападобныя прадметы. Семантыцы апошніх цалкам адпавядае і матывацыя назвы *калбун,* калі яны сапраўды адносяцца да вытворных ад *колб-*. Трубачоў (Дополнения, 2, 286) лічыць, што рус. *колбь,* польск. *kiełb,* прасл. **kъlbь* маглі быць запазычаны з гоц. **kalba-* ’цяля’ і падмацоўвае такую версію сінонімам *бычок для* Gobio’. Тут ёсць недакладнасці, на галоўныя з якіх звярнуў увагу Мартынаў, Бел.-польск. ізал., 94—95. Мартынаў (там жа) адзначае складанасць адносін паміж гэтымі слав. назвамі, што выцякае з арэала іх пашырэння, і лічыць, што версія Герда датычыцца толькі некаторых вытворных, сапраўды балтыйскага паходжання (гл. падрабязней пад *келб*), а слав. **kъlbъ* узыходзіць да гоц. **kulbo*. Гоцкая лексема на засведчана. Аднак мяркуецца, што яна суадносіцца з ням. *Kolbe* — назвай некаторых булавападобных рыб, якая хутчэй за ўсё адпавядае *Kolbe* ’булава, паліца’ — дакладная семантычная паралель усх.-слав. *колб-,* дэрываты ад якога азначаюць ’шарападобнае патаўшчэнне; абрубак дрэва і да т. п.’ Калі такая матывацыя натуральная для ням. назвы рыб, няма прычыны лічыць яе немагчымай для слав. *колб;* пры гэтым утварэнне слова на слав.

глебе больш верагоднае ў параўнанні з версіяй аб запазычанні лексемы з неадзначанай гоцкай крыніцы. Семантыка слав. дэрыватаў ад *колб-* 'драўляная цурка', 'патаўшчэнне на канцы падоўжаных прадметаў', 'мясісты, тоўсты кончык носа', 'абрубак дрэва' і да т. п. як быццам пацвярджае наша меркаванне, аб геаграфіі гэтых дэрыватаў і паходжанні гл. пад *каўбух*. Аднак арэал пашырэння назваў пячкура ў слав. мовах не выключае магчымасці запазычання слова з германскай крыніцы, на што ўскосна ўказвае лінгвагеаграфія польск. слова, параўн. геаграфію ў Герда, там жа, Слаўскага, 2, 143, пашырэнне слоў на іншай тэрыторыі (поўдзень еўрапейскай часткі РСФСР), магчыма, што толькі ўкр. (у бел. формы з *-е-* запазычаныя, а статус разглядаемага слова не вельмі ясны па прычыне адзінай фіксацыі) гэтага не выключае. Менавіта гэта падазроная геаграфія (паўдн.-усх. польскія формы, аб якіх пісаў Герд, відавочна, украінскія; паўн. і паўн.-усх. польская лексіка, і кашубская ў тым ліку, магла б разумецца як балтыйская, аднак, паводле Фрэнкеля, 236, літ. слова з'яўляецца паланізмам) ставіць пад сумненне таксама думку Слаўскага, 2, 143, аб дыялектным прасл. паўн.-слав. **kl̥bjь,* старажытнасць якога даводзіцца ўсё тым жа алб. *kulp-bi*. Параўн. з літаратуры яшчэ Махэк, ZslPh, 19, 58—59 (дзе балтыйская і слав. сінаніміка і меркаванні аб роднаснасці слав. назваў і літ. *kilbùkas* 'пячкур').

***Калбу́к,** *колбу́к* 'віхар'. Па тэрыторыі гэта фіксацыя адносіцца, паводле меркаванняў Кольберга, 440, да зах. Палесся (пруж.). Дакладных адпаведнікаў у значэнні 'віхар' як быццам няма на іншай бел. тэрыторыі. На думку Цыхуна, Бел.-польск. ізал., 148, суадносіцца з польск. *kołbuk* 'міфічная істота ў вобразе птушкі', *kołbuk,* або *kłobuk* 'злы дух, д'ябал', 'дух у выглядзе агню', якія фіксуюцца на Мазоўшы і ў Варміі. Меркаванне аўтара аб тым, што ідэнтыфікацыя бел. і польск. слоў у якасці ізалексы магчымая, паколькі ў народных прымхах віхар вельмі часта атаясамліваецца з д'яблам, патрабуе ўдакладнення. Па сутнасці, для польск. лексем аб значэнні 'віхар' ('д'ябал' < 'віхар') мяркуецца на аснове бел., аднак няясна, ці ёсць значэнне 'д'ябал' у бел. слова. Не выключана, што асноўныя яго значэнні іншыя і назва віхру — рэалізацыя пабочнай семемы. Можна думаць, што асноўнае значэнне бел. слова адпавядае польскаму 'злы дух, д'ябал' і ўжыта яно было менавіта ў такім сэнсе. Супраць гэтага лінгвагеаграфія. Ёсць пэўныя цяжкасці і семантычнага плана. Польск. лексіка лічыцца запазычанай, у якасці крыніцы аўтары Варшаўскага слоўніка бяруць або *Chobold* 'міфічная істота ў вобразе птуш-

кі', або *kobold* 'казачная істота, якая пільнуе скарбы ў гарах'. Зыходзячы з формы *kłobuk* як асноўнай, Слаўскі (2, 257) уключае адзначаныя польскія лексемы ў артыкул *kłobuk* 'капялюш, каўпак'. У польск. гаворках адзначана *kłobuch* 'ястраб', што можна супаставіць з вышэй прыведзеным значэннем 'злы дух у выглядзе птушкі'. Аднак тэрыторыя, на якой сустракаюцца гэтыя лексемы, розная. Калі зыходнай формай лічыць *kołbuk,* відавочна абгрунтаваным аказваецца меркаванне Цыхуна (там жа), што слова, магчыма, звязана з усх.-слав. *колб-* 'шар, круглы і тоўсты канец чаго-н.', а значэнне 'д'ябал' магло непасрэдна суадносіцца з вядомай на ўсходзе семантыкай лексем *коўб* 'страўнік жывёлы', *коўбы* 'вантробы, кішкі', паколькі ёсць розныя «зневажальныя» назвы аналагічнай з'явы на Кашубшчыне (гл. Сыхта, JP, 37, 1957; Сыхта, 1, 35—38). Паколькі падобныя назвы страўніка з'яўляюцца хутчэй за ўсё другаснымі (натуральныя вытворныя ад *колб-* 'шар і да т. п.'), а прыведзеныя польскія тэрміны для д'ябла этымалагічна няясныя, можна выказаць сумненне ў суаднесенасці бел. і польск. слоў. У такім выпадку застаецца прааналізаваць магчымасць утварэння разглядаемага слова ад *клубок* або ад *клобук,* або, як прапанаваў Цыхун, ад *колб-*. Фармальна першыя дзве лексемы аднолькава падыходзяць у якасці крыніцы. Бліжэй да мяркуемага ўтваральнага слова *клобук* (для першага неабходная метатэза *клубок* ~ *клобук).*

**Калга́н**1 'дуброўка (расліна)' (бярэз., Сл. паўн.-зах.). Слова адзначана ў цэнтры бел. тэрыторыі, у іншых гаворках адпаведнікаў як быццам няма. Паводле фармальнага крытэрыю можна думаць пра запазычанне. Рус. дыял. *калган, колган* 'расліна Potentilla erecta', 'расліна Polygonum bistorta'. Лексемы зафіксаваны ў радзе гаворак, пагранічных з беларускімі, аднак, відаць, у канкрэтным выпадку лінгвагеаграфія не паказальная, паколькі слова магло пашырыцца як культурны тэрмін. Фармальным адпаведнікам да прыведзеных лексем з'яўляецца рус., укр. *калган* 'расліна Alpinia galanga'. Ёсць усе падставы меркаваць, што ўсх.-слав. слова ўтворана са старой навуковай назвы гэтай расліны (параўн. яшчэ польск. назвы для Alpinia: *galgant, galangal*). Дакладная крыніца невядомая, магчыма, с.-лац. *galanga,* с.-грэч. *γαλάγγα* і араб. *χalandžān* 'дзікі імбір' узыходзілі да кіт. *kó- leung -kéung,* гл. Фасмер, 2, 165. Неабходна вытлумачыць перанос назвы з культурнай расліны на палявую кветку. Укр. назва *калган* адносіцца ў першую чаргу да кораня расліны. Параўн. у Макавецкага, 24: *«kalhan-klacz»*. Аб пераносе падобнай назвы пісаў Махэк, Jména rostl, 275, згадваючы ст.-чэш. назву *galgan planý*

для Cyperus, паколькі корань апошняга выкарыстоўвалі як сурагат кораня Alpinia. Што датычыць усх.-слав. тэрмінаў, то і тут назва *калган/колган* (у рус. гаворках) азначае як расліну, так і карані або, часцей, уласна карані раслін (СРНГ, 12, 341). Адносна Potentilla інфармацыя ёсць, што датычыць Polygonym bistorta, корань гэтай расліны шырока вядомы як сродак ад паносу. Магчыма, на падобнае ўжыванне разглядаемай расліны ўказвае і ілюстрацыя ў слоўніку: «Калган — добрае зелле, памагае ад жывата» (Сл. паўн.-зах., 2, 371). Статус слова не вельмі ясны, і, нягледзячы на даволі шырокую геаграфію рус. адпаведнікаў, нельга нічога пэўнага сказаць аб цэнтры рус. інавацыі і аб тым, ці ўдзельнічала бел. мова ў гэтым працэсе або слова трапіла сюды з рус. гаворак «культурным» шляхам. Адзначанае польск. слова лічыцца запазычаннем з с.-в.-ням., гл. Слаўскі, 1, 253.

**Калга́н**$_2$ 'галава' (экспрэс.) (Бір. Працы ІМ, 6; маг., Крывіцкі, вусн. паведамл.). Паводле фармальных прыкмет — запазычанае слова. Рус. маск., ульян., сіб. і інш. *калган* 'галава'. Не выключана, што ў такім значэнні слова ўзнікла на ўсх.-слав. глебе, параўн. цвяр. *колган* 'круглая гліняная пасудзіна з ручкай', алан. 'гладыш', горк. 'тоўсты абрубак дрэва, цурбан', цвяр., уладз. і інш. 'грубага вырабу посуд featured рознай формы'. Лінгвагеаграфія, аднак, не адпавядае такому рашэнню. Калі гэта слова было запазычана з такім значэннем, яно было б прадстаўлена больш шырока ў паўдн.-рус. гаворках. Магчыма, тут адбыўся больш складаны працэс і назвы посуду з гэтым словам генетычна не суадносяцца. Што датычыць рус. лексемы са значэннем 'цурбан', нельга выключыць уплыву з боку рус. дыял. *колба/калбан,* дастаткова шырока вядомага іменна ў такім значэнні. Аб гэтым жа сведчаць рус. дыял. *калган* 'гладыш з высокім горлам', 'гладыш', *калганчик* 'невялікі гладыш'. Параўн. яшчэ рус. дыял. *колба* 'фігура ў выглядзе шара', 'вялікая бутля' і 'галава', *колбик* 'вузкагорлы гладыш' і інш. Адносна крыніцы запазычання нельга сказаць нічога пэўнага; для рус. *калган* 'драўляная міска' Гараеў (440) прыводзіць у якасці ўсходняй крыніцы запазычанне цюрк. *kolγan*. Надзейнасць гэтай думкі невялікая (Фасмер, 2, 165). Аднак параўн. драг. *ко́ўган* у фразе: *Голова бы ко́ўган* (аб круглай вялікай галаве); Лучыц-Федарэц, вусн. паведамл.

**Калгатня́** 'непарадак, шум' (Шат.), *колготня* 'мітусня, бегатня, трывога, клопат, штурханіна', варонеж. 'непаседа', *колгота* 'тс', *колготать* 'несці лухту' (смал.), *колготиться* 'шумець' і інш. Што датычыць бел. слова, то тут можна бачыць архаізм усх.-слав. перыяду. Паводле Фасмера, 2, 287, *кол-*

*гота* — «темное слово». Трубачоў (Дапаўненні, 2, 287) мяркуе, што хутчэй за ўсё ўтворана ад **ко- голта,* як *колдоба *кодолба.* Ён звязвае гэты архетып з коранем, прадстаўленым у рус. *о-голтелый.* Такую версію прымае Шанскі (2, К, 195—196) і прыводзіць зафіксаванае Далем дыял. *оголтеть* 'ашалець'. Нягледзячы на трапнасць данай этымалогіі, нельга не ўбачыць, што фармальнае супадзенне з рус. *колдоба* мяркуемай Трубачовым праформы не пацвярджаецца семантыкай. Рус. *оголтелый,* не вельмі яснае, можа і не адносіцца сюды, неабходны спецыяльны аналіз, каб давесці роднаснасць з *колгота.* Паводле Шанскага, рус. слова ўтворана метатэзай ад *голкота* (рэальна засведчана *голкотня*), якое з'яўляецца вытворным ад *голк* 'шум, крык, стук, аддалены гук і да т. п.' *(голк-от-а > колгота).* Метатэза, відаць, параўнальна позняя, магчыма, усх.-слав. перыяду (бел. слова з'яўляецца архаізмам). Што датычыць утваральнай асновы, бел. адпаведнікі ёсць у ст.-бел. мове (XV ст.): *голка* 'шум' (гл. Карскі, Труды, 371), рус. вядомае на перыферыі паўн. гаворак, адносна ўкр. матэрыялу нічога пэўнага нельга сказаць. Далей можна прывесці в.-луж. *hołk* 'шум, гул', славен. *gôlk* 'грук, гром', балг. *глък* 'шум', ёсць і многа інш. форм, на аснове якіх узнаўляецца прасл. **gъlkъ*/gъlka,* гл. Трубачоў, Эт. сл., 7, 191. Лічыцца гукапераймальным, што даказваецца структурай лексемы. Гл. аб іншых паралелях і формах Фасмер, 1, 428—429, дзе і літ-ра.

**Калдабы́чкі,** *кылдабы́чкі* 'дзіцячая гульня' (Бяльк.). Ілюстрацыя *(«Ты ня ўмеіш гуляць у кылдабычкі»,* с. 241) не дае ніякага ўяўлення аб рэаліі. Фармальна суадносіцца з асновай *калдаб-, калдыб-* (вытворныя азначаюць 'розныя выбоіны, вадаёмы і да т. п.'), аднак па значэнню гэта супастаўленне ўдалае. Параўн. рус. *колды́бахнуть* 'кінуць што-н. з шумам у ваду, бухнуць', *колдыбышиться* 'качацца, калыхацца' ('гушкацца'?). Калі лічыць, што тут структура з складанай суфіксацыяй, аснову слова можна было б параўнаць з рус. кастрам. *колдун* 'у дзіцячай гульні — палка, якая доўга застаецца пад вадой, калі яе кідаюць канцом у ваду'. Не выключана, што неабходна бачыць тут структуру, якая ўзнікла ў выніку метатэзы, аднак і такое меркаванне не праясняе пытання.

**Калду́н**1 'вядзьмар, чараўнік' (пух., КЭС; Мат. Гом., Сержп., Сержп. Грам., Сержп. Прымхі, Сіг.; ганц., Сл. паўн.-зах.), *калдунка* 'вядзьмарка' (барыс., Шатал.), *калдуньнік* 'вядзьмар' (малар., Сіг.), *калдуха* 'чараўніца' (рэч., Мат. Гом.; браг., Шатал.), сюды ж *калдаваць* (Сержп.), *калдуваты, калдунства* (Сіг.). *Калдун* 'гульня' (гом., Мат. Гом.; гродз., Нар. словатв.), вет., маг. і рэч. *калдун* 'вядзьмар'. Зах.-палес.

лексемы паводле фанетычнага крытэрыю лічыць спрадвечнымі нельга; Сержпутоўскі фіксуе гэта слова ў казках, аднак часцей ужываюцца лексемы *ведзьмак* і *знахор,* хоць, паводле іншых яго прац, на Случчыне і блізкай да яе тэрыторыі слова ўжываецца. Статус апошняга, як і наогул статус бел. слова, падазроны, аднак выключыць магчымасць захавання архаізма на поўдзень ад Мінска і на ўсх.-палес. тэрыторыі нельга. Паводле даных ЛАБМ (пытанне 3016), лексемы *калдун, калдаваць* і да т. п. адзначаюцца ў розных рэгіёнах Беларусі. Статус гэтых фіксацый (а іх нямала) не вельмі ясны, паколькі ў тых жа пунктах запісваюцца звычайна і больш пашыраныя *знахар* або *чараўнік.* Больш-менш кампактныя арэалы ўтвараюць гэтыя лексемы на поўначы і ўсходзе беларускай тэрыторыі. Шанскі (2, К, 196) прыводзіць як роднасныя серб.-харв. *колдовати,* славен. *koldováti* 'жабраваць', што неверагодна, паколькі гэтыя словы разам з *колдуш* 'жабрак' адносяцца да венг. *koldus* 'тс'. Параўн. тэрыторыю — славен., харв. (кайк., паўн.-чак.) і значэнне, якое супадае з венг. Меркаванне, быццам значэнне 'жабраваць' утвараецца з 'жаліцца, плакаць' < < 'гаварыць', нельга прыняць, паколькі венг. слова не запазычана з слав. моў, параўн. MESz, 2, 524. Адносна славен. і серб.-харв. слоў гл. яшчэ Скок, 2, 124; Безлай, 2, 55 (разглядаюцца як запазычаныя з венг. мовы). Такім чынам, слова як спрадвечнае надзейна можна кваліфікаваць толькі для рус. мовы, а бел. слова як магчымую бел.-рус. інавацыю. Пра запазычанне рус. лексемы з венг. мовы пісалі Міклашыч, 123; Бернекер, I, 544, што, як слушна адзначае Фасмер (2, 288), неверагодна — рус. слова шырока распаўсюджана і значэнне яго іншае. Даволі папулярнай з'яўляецца даўняя версія Ільінскага, РФВ, 62, 250 і наст., што роднаснымі да рус. з'яўляюцца літ. *kalbà* 'мова', лат. *kalada* 'шум, спрэчка', лац. *calō, calāre* 'выклікаць, склікаць', грэч. χαλέω 'клікаць, заклікаць', χέλαδος 'шум'; фармальныя цяжкасці (*-д-* у рус. адпаведніку) відавочныя, апрача таго, вельмі няяснай з'яўляецца адсутнасць паралелей у іншых слав. мовах. Калі дапусціць, што слова ніякай сувязі з адзначанымі іншаславянскімі лексемамі не мае, бачыць у ім архаізм праславянскага перыяду малаверагодна. Версія аб інавацыі (рус.?, бел.-рус.?) здаецца таксама не вельмі імавернай. Семемы слова ў рус. гаворках ('вядзьмар', 'махляр', 'чалавек, які нешта бурчыць сабе пад нос') як быццам адносяцца да 'вядзьмар', а значэнне 'знахар' не з'яўляецца першасным. Так, рус. кастрам. *колдун* 'у дзіцячай гульні палка, якая доўга застаецца пад вадой, калі яе кідаць канцом у ваду', разан. *колдовина, колдовица* 'нарасць на дрэве', 'горб': *«На спине видала какая колдовица, с голову ведь сидит у горбатого»* (СРНГ, 14, 116). Такім чынам, перша-

пачатковая семантыка слова *калдун* магла быць 'той, хто гадае з дапамогай нейкіх сакральных прадметаў', 'чалавек з нейкімі фізічнымі недахопамі' > 'чалавек, які знаецца з нячыстай сілай', 'вядзьмар'). Магчыма, іменна так неабходна разумець бел. *колдыга* 'парода лесуна' (Кірк.), якое можна суаднесці з *калдыга* 'кульгавы чалавек'. Сярод шэрагу іншых варыянтаў найбольш цікавым уяўляецца наступны. Апрача форм тыпу *калдун* у бел. мове ёсць і лексемы з *-г-*, параўн. тураў. *голдун* і *голдунка*. Не выключана, што гэта звычайны позні звонкі дублет у гаворках, аднак можна думаць, што тут даўні варыянт лексемы. Ва ўсякім разе ў рус. мове зафіксаваны дэрыват ад *галдеть галдун* 'той, хто любіць крычаць', 'хто любіць ужываць непрыстойныя выразы'. Паводле семантычнага крытэрыю такое меркаванне таксама здаецца не вельмі надзейным. Вярэніч (БЛ, 2, 1972, 72—73) гаворыць аб сувязі бел. *каўтун* 'Plica polonica, хвароба' і *калдаваць, калдун*. Сапраўды, даволі пашыранай на бел. тэрыторыі з'яўляецца форма *калдун* 'хвароба каўтун'. Форма *калдун* 'каўтун' у рус. гаворках, за выключэннем некаторай часткі смаленскай (уласна беларускіх), не сустракаецца. Больш імавернай з'яўляецца думка Вярэніча (там жа і БЛ, 10, 1976, 57), што *калдун* 'каўтун' < *калдун* 'чараўнік'. Але і тут лінгвагеаграфія перашкаджае, паколькі *колдун* 'чараўнік' няма падстаў лічыць праславянскім, у той час як карп. і каш. назвы адпаведнай хваробы, відавочна, з'яўляюцца старымі. Паводле вусн. паведамл. Мартынава, *-ун-* суфіксацыя магла разумецца як аналагічная да суфіксацыі ў *ведун* 'знахар', што пры адпаведным збліжэнні семантыкі прывяло да ўтварэння новай лексемы. Наступная ірадыяцыя і шырокая яго экспансія ў гаворках для слова такога роду — цалкам натуральная (напрыклад, з фальклорам, у працэсе знахарскай практыкі і да т. п.). Што датычыць пэўных фармальных цяжкасцей (суадносіны назоўніка *колдун* і дзеяслова *колдовать*), можна спаслацца на яўна другасны паўдн.-слав. дзеяслоў *ḱoldovati* пры запазычаным з венг. назоўніку (гл. вышэй). Тэарэтычна таксама нельга выключыць, што гэта ўтварэнне на базе дзеяслова *колтати* або *колтити*, для якога можна рэканструяваць значэнне 'боўтаць, чараваць ваду для сурокаў', параўн. рус. вяц. *колтень* 'атрута або нагаворная вада для сурокаў'. Да формы слова параўн. пск., цвяр. *колтовка* 'жанчына, якая любіць пагаварыць' (суадносіцца з *колотовка,* ад *колотить*), да фанетыкі рус. *колдобина, колтобань, калдубань* і інш. Такую структуру можна суаднесці з пск. *колтать* 'кульгаць', што вяртае нас да версіі, разгледжанай вышэй (гл. семантычную паралель да *калдыга* 'лясун'). У рус. *колтать* ёсць значэнне 'балбатаць і да т. п.', у прынцыпе такая

семантыка дапускае развіццё магчымых сакральных значэнняў, аднак яўных доказаў няма. Пра магчымае запазычанне *колдун* неабходна згадаць версію, прапанаваную Карловічам, AfslPh, 5, 168, аб сувязі рус. слова з грэч. χαλδαῖος 'халдзей, маг, чараўнік'. Аднак недакладнасці такога тлумачэння відавочныя. Магчымая праформа *калдей,* калі дапусціць яшчэ і субстытуцыю суфікса, блізкая па форме да рус. слова. Апрача таго, нельга выключыць і пранікнення грэч. слова натуральным шляхам — з гаворкамі вандроўных гандляроў. Адзначым, што ў рус. мове пісьмовыя фіксацыі разглядаемай лексікі параўнальна познія: *колдование* (XVII і XVIII стст.), *колдовати* (XVII ст.), *колдовство* (XVII ст.), *колдун* (XVII ст.), *колдуниха* і *колдуница* 'тс', *колдунья* (XVII ст.). Гістарычныя матэрыялы рус. мовы сведчаць аб нейкай функцыянальнай спецыфіцы *калдуна («Колдование и иное ведовъство», «того человека ворожба ни колдование не иметь», «Ворожа и колдуя много...», «...с тем корением не может тебя никакой колдун или еретик никакою порчею испортити», «Ездит тот муж золот на своем золотом коне... а страстит под собою землю и воду и люди худые... ведуна и вещицу, колдуна и колдуниху», «Огради меня ризою своею от колдуна и колдуниц, от ведуна и от вещ(иц)...»* (Срезн.), аднак больш дакладнай інфармацыі, якая б дапамагла вытлумачыць унутраную форму лексемы, у нас няма. У шэрагу іншых фактаў гэты доказ становіцца аргументам супраць спробы аўтараў рус. этымалагічнага слоўніка (Шанскі, 2, К, 196—197) рэканструяваць праформу **koldъ* 'чараўнік, чалавек, які замаўляе', 'гаварун, чалавек, які гаворыць', якая далей разглядаецца ў межах прапановы Ільінскага.

**Калду́н**2 'Plica polonica, спецыфічная хвароба, якую раней лячылі праз запушчэнне каўтуна' (Сцяшк.), *калдуны* 'пра заблытаныя, скудлачаныя валасы' (БРС, ТСБМ, Жд. 2), *калдункі* 'адходы пры прадзенні кудзелі' (карэліц., Шатал.), сюды ж *калдунаваты, калдуніцца, калдуніць* 'блытаць, кудлачыць (пра валасы, шэрсць і пад.)' (БРС, ТСБМ). Рус. *колдун* 'злямчаныя валасы; каўтун' (смал., з новых запісаў 1973 г.), *колдунить* 'блытаць, заблытваць (пра валасы, пражу), чэш. мар. *koldún, choldún* 'каўтун', 'ламота і да т. п.' Чэш. форма з *koltún,* якое, як і чэш. *koltoun,* з польск. *kołtun* (Махэк2, 271). Махэк не тлумачыць форму з *-д-,* аднак відавочна, што гэта азванчэнне ўзнікла ўжо на мараўскай глебе. Рус. прыклад з'яўляецца дублетам бел. слова. Такім чынам, арэал распаўсюджання лексемы абмежаваны беларускай тэрыторыяй. Гэта можна разумець і як звонкі дублет да *каўтун ( < колтун),* а можна і інтэрпрэтаваць услед за Вярэнічам, БЛ, 2, 1972,

72—73; БЛ, 10, 1976, 57, як прамое ўказанне на сувязь з *колдовать, колдун.*

**Калду́н**3 'варэнік з мясам або з грыбамі' (Сцяшк., Яруш.), 'бульбянік' (Мат. Гом.), *калдуны* 'клёцкі, начыненыя мясным або іншым фаршам' (БРС, ТСБМ, Бяльк., Грыг.; мінск., Шпіл.). Апрача бел. мовы слова ведаюць у рус. гаворках, статус іх, аднак, няясны. Паводле Даля (III выд.), рус. *колдуны* 'варэнікі з начынкай з рубленага мяса' заходняе (беларускае). СРНГ падае раз. *колдуны* 'смажаныя піражкі', свярдл., с.-урал. 'варэнікі'. *Колтуны* 'род варэнікаў, якія вараць, а пасля падсмажваюць' таксама заходняе (Даль), як і *ковтуны* 'тс'. У польск. гаворках *kołdun* — 'разнавіднасць піражка, фаршыраванага сырым мясам', літ. *koldūnai* 'тс', запазычанне з бел. мовы або польск. перыферыйнага дыялекта. Польск. слова або пашырана ў перыферыйным дыялекце («крэсовая» інавацыя), або запазычана з бел. мовы. Бел. слова ў такім выпадку інавацыя на базе ўкр. *кавдун* 'бруха', польск. *kałdun* 'бруха, вантробы', в.-луж. *kałdona, khaldona, kalduny, kałdony,* н.-луж. *kałduna, kałduny,* дыял. *kałdyna, kałdyny* 'вантробы', чэш. *kaldoun, kaltoun,* ст.-чэш. *kaltun* 'трыбух', магчыма, першапачаткова 'адвараныя трыбухі' → 'варэнікі, піражкі з трыбухой' → 'варэнікі з мясам'. Зах.-слав. лексіка запазычана з ням. мовы, параўн. с.-в.-ням., с.-ням.: *kaldūne* (з XIV ст), ням. *Kaldaunen* 'ядомыя вантробы, трыбухі', якое з с.-лац. *caldūna,* нар. лац. крыніца **caldumen* 'цёплыя яшчэ вантробы забітых жывёл', якое да лац. *calidus* 'цёплы'. Параўн. з шматлікай літаратуры Слаўскі, 2, 35; Махэк2, 236. Бел. *калдун* 'страўнік' (гарад., Сл. паўн.-зах.), *калдун, калдуны* 'галушкі з мясам' у гаворках і на захадзе, і на ўсходзе, што ў большай меры нагадвае бел. інавацыю. Гом. *калдун* 'бульбянік' — далейшае развіццё семантыкі беларускага слова.

**Калду́н**4 'страўнік' (гарад., Сл. паўн.-зах.). Іншыя фіксацыі адсутнічаюць, аднак не выключана, што слова ведаюць больш шырока. Паводле лінгвагеаграфічнага крытэрыю запазычана з польск. перыферыйнага дыялекту, дзе *kałdun* 'страўнік, вантробы, бруха і да т. п.'. Пра этымалогію гл. падрабязней *калдун*3.

***Калды́ба,** *колдыба* 'крывы, кульгавы, які павольна ідзе' (Нас.), *калдыбаць* 'кульгаць' (БРС, ТСБМ, Бяльк.), *калдыбыць* і *кылдыбаць* (Юрч. З жыцця), *колдыбаць* (Нас.), *кылдыбаць* (Бяльк.), *колдыбайло* 'кульгавы', 'павольны ў рабоце'

(Нас.), сюды ж *калдыб* 'пра цяжкую хадзьбу пры хворых нагах' (мсцісл., Нар. лекс.; Нас.). Рус. зах. бран. *калдыбать* 'ісці павольна, кульгаць', смал. *колдыба* 'кульгавы', *колдыбка* 'скалечаная нага, кукса', *колдыб* 'дзеянне па дзеяслову колдыбать', *колдыбай* 'кульгавы', *колдыбать* 'кульгаць', кур. *колдыбать* 'тс', 'павольна ехаць, ледзь цягнуцца', разан. 'не мець сталага месца', *колдыбащий* 'няўстойлівы, непастаянны, які часта мяняецца': *«Моя жизнь колдыбащая...»* (СРНГ, 14, 119). Паводле геаграфіі — інавацыя ў сумежных бел. і рус. гаворках. Што датычыць этымалогіі, рус. *колдыбай, колдыбать* Фасмер (2, 288) лічыў роднасным *колдыка* 'кульгавы, які ідзе перавальваючыся', *колдыкать*, бел. *колдыга* (гл.), *колдыгаць*. Апошнюю групу слоў шматлікія этымолагі разглядаюць у сувязі з гоц. *halts* 'кульгавы', грэч. *κόλος* 'абрублены, надламаны', арм. *kał* 'кульгавы', літ-ра ў Фасмера, там жа. Як відаць, і.-е. семантыцы адпавядае смал. *колдыбка* 'скалечаная нага, кукса', аднак гэта суфіксальнае ўтварэнне і няма ніякіх падстаў лічыць яго першасным у параўнанні з іншымі лексемамі гэтай групы. Славянскіх паралелей, якія б дазволілі рэканструяваць праславянскую форму, няма. Як здаецца, бел. і рус. словы ўтвораны не па мадэлі 'абрублены, абрэзаны' → 'куксаты' → 'кульгавы'. Параўн. рус. валаг. *колдыбашить* 'балбатаць, пустасловіць' (< 'боўтаць'), цвяр. *колдыбашиться* 'калыхацца, вагацца', разн. *колдыбащий* 'няўстойлівы', *колдыбацца* 'качаваць, матацца'. Аналагічная версія была прапанавана Бернекерам (1, 660), які рус. *колдыкать, колдыбашить* і пад. уключыў у артыкул *kъltajǫ, kъltati,* дзе аб'яднаны лексемы са значэннямі 'кульгаць', 'рухаць', 'калыхаць; гайдаць' і да т. п. Структура дазваляе меркаваць аб архетыпе **kl̥t-* і яго звонкім адпаведніку **kl̥d-*. Статус гэтых форм не зусім ясны: шэраг рус. дыял. фактаў (пск., цвяр., асташк. *колтовня* 'чалавек, які таргуецца за кожную капейку', *колтыг* 'жмінда', 'шум, сварка' і *колты́га* ў абодвух значэннях) сведчыць аб празрыстай сувязі з адпаведнымі вытворнымі ад *колот-* (развіццё семантыкі: 'хістаць' → 'хістацца', 'трэсціся' або непасрэдна 'трэсці' → 'трэсціся' → 'дрыжаць' → 'скупіцца' і ў прынцыпе можна дапусціць, што разглядаемая лексіка паходзіць іменна ад гэтай асновы. Параўн. яшчэ *колты* 'плёткі' (у Даля без геаграфіі). Што датычыць фанетыкі, можна прывесці як прыблізны адпаведнік бел. *кальбель* < < *калыбель.* Аднак тое ж развіццё семантыкі магло быць цалкам самастойным; значэнне 'кульгаць' не зафіксавана ў вытворных ад *колотить.* Такім чынам, прыведзеныя архетыпы цалкам магчымыя, хоць іх усх.-слав. характар відавочны. Параўн. яшчэ *калдыга* (гл.).

**Калдыба́**$_2$ ’цвёрды выступ каля паглыблення на разбітай або мёрзлай дарозе’, ’няроўнае ворыва з ямкамі і выступамі’, ’скіба дзярновай зямлі на раллі’ (слаўг., Яшк.). Рус. разан. *колдырь* ’вялікі кавалак чаго-н.’, ’нарасць на дрэве’, *колтырь* ’вялікі кавалак (хлеба і да т. п.)’, да семантыкі параўн. *скіба* (хлеба) і *скіба* (зямлі). Аб архетыпе гл. пад *калдыба*$_1$, семантыка намінацыі не вельмі зразумелая. Магчыма, неабходна суаднесці відавочна ўтвораныя ад асновы *колот* рус. дыял. *колоть* ’няроўная, узгорыстая, абледзянелая паверхня дарогі, якая замерзла пасля моцнай адлігі’, ’узгоркі замёрзлай восенню гразі, ледзь пакрытыя снегам’, ’няроўная, ухабістая паверхня дарогі, якая высахла ад летняга спёку’ і да т. п. Параўн. да гэтага пск., асташк., цвяр. *колоть* ’сумятня, сварка’, празрыстае вытворнае ад *колотить* ’сварыцца’. Што датычыць словаўтварэння рус. паралелі і семантыкі намінацыі, параўн. яшчэ пск., асташк., цвяр. *колотьба* ’няроўная, абледзянелая паверхня дарогі’, дыял. *колоткой* ’ухабісты, гразкі (аб дарозе)’, *колотливый* ’тс’, ’(пра сэрца), якое моцна калоціцца’. Параўн. яшчэ арханг., халмаг. *колотовка* ’глыба мёрзлай зямлі’ і назвы розных прылад, утвораных ад *колот-*; ленінгр. *колотушка* ’палка, якой разбіваюць сухія камкі зямлі на ворыве’. У шэрагу рус. дыял., вытворных ад *колд-,* адзначаны *колдыбнуть* ’моцна стукнуць’, *колдыбахнуть* ’кінуць штонебудзь з шумам у ваду; баўтнуць’, якія, магчыма, сведчаць на карысць апошняга варыянта тлумачэння. Разам з тым праблема з’яўляецца вельмі складанай, паколькі нельга не параўнаць разглядаемае слова і вялікую групу лексікі, якую рэпрэзентуюць такія рус. дыял. лексемы, як *колдыбашина* ’выбоіна, ухаба’ (параўн. *колдыбашный* ’ухабісты’), *колдыбина,* бел. *калдыбіна* і да т. п. Аднак відавочная розніца ў семантыцы дазваляе меркаваць, што бел. слова — рэгіянальны наватвор ад *калдыбаць* (?), наконт семантыкі параўн. нашы меркаванні вышэй.

**Калды́га**$_1$, *колды́га* ’крывы, кульгавы чалавек, які павольна ідзе’ (Нас.), *колдыгаць* ’кульгаць’ (Нас.). Дакладны адпаведнік у суседніх смал. гаворках: *колдыга* ’кульгавы чалавек’, *колдыгай* ’тс’ (тут дадатковая суфіксацыя, як у смал. *колдыбай* ’тс’), *колдыгать* ’кульгаць’. Утварэнне, аналагічнае *калдыба*$_1$ (гл.). Рэгіянальны наватвор, інавацыя ва ўсх.-бел. гаворках. Звяртае на сябе ўвагу яшчэ і росл., смал. *колдыка,* смал. *колдыкать* ’кульгаць’. Відаць, няма патрэбы разглядаць бел. *калдыга* як звонкі дублет да прыведзеных слоў. Суфіксацыя ў бел. слове з’яўляецца натуральнай, параўн. маг. утварэнні *хварыга* ’хворасць, прыпадак’ (Нас.). Падобную

смал. суфіксацыі адзначае Сцяцко, Афікс. наз., 76, у некаторых беларускіх гаворках, параўн. полац. *хадыка* 'хадок, хадуля'. Што датычыць мяркуемай намі суфіксацыі ў *калдыба* (гэты элемент лёгка выдзяляецца, параўн. прыведзеныя словы), можна думаць, што яна нерэгулярная, магчыма, трасфармацыя *-ыг-а* пад уплывам дзеяслова *дыбаць* 'кульгаць'. Падрабязней гл. *кандыба,* відаць, роднаснае гэтаму кругу лексікі.

**Калды́га**₂ 'скіба дзярністай зямлі на раллі, вялікія кавалкі сухой зямлі на заскароджаным полі' (слаўг., Яшк.). Утварэнне, аналагічнае *калдыба*₂. Суфіксацыя (па тыпу) у даным выпадку не вельмі ясная, аднак іншы варыянт тлумачэння таксама не высвятляе гэтага пытання. Параўн. рус. дыял. *колча* 'кульгавы чалавек', 'купіна', пск., кур. *колчеватый* 'ухабісты, няроўны, купісты (звычайна пра дарогу)', *колчи* 'ўхабіны, камкі замёрзлай гразі на дарозе, ворыве і да т. п.' Аднак, думаецца, няма патрэбы суадносіць семемы 'кульгавы' і 'ўхабісты', відаць, тут незалежныя ўтварэнні ад асновы *колт-*. У такім выпадку тут не толькі семантычная паралель да разглядаемага слова, але і генетычна роднасная лексіка (дэрываты ад *kl̥t-/kl̥d-*).

**Калды́га**₃ 'парода лесуна' (Кірк.). Дакладных адпаведнікаў да гэтага слова няма. З фармальных паралелей бел. *калдыга* 'кульгавы', параўн. у Насовіча *колдыга* 'крывы, кульгавы, які павольна ходзіць'. Вельмі сімптаматычная інфармацыя ў Насовіча, 241: *«Колдыга... хромой чортъ. Колдыга чортовъ, усе круциць да муциць»,* відавочна, сведчыць на карысць таго, што *калдыга*₃ паходзіць ад *калдыга* 'кульгавы'. Адносна этымона гл. *калдыга*₁.

**Кале́йка** 'чыгунка' (палес., Выг.; Сл. паўн.-зах.; ваўк., Сцяшк. МГ). Да польск. *kolej* 'тс', што датычыць словаўтварэння, непасрэднай крыніцай быў польскі дэмінутыў *kolejka.* Гл. яшчэ *каляя.* Значэнне 'чыгунка' ў польск. тлумачыцца Слаўскім (2, 350). У канцы першай палавіны XIX ст. з'яўляецца выраз *kolej żelazna* — калька зах.-еўр. моў. Параўн. франц. *chemin de fer,* ням. *Eisenbahn.* Польск. *kolej* 'чыгунка' ўтворана скарачэннем выразу *kolej żelazna.*

**Кале́йка** 'чарга' (слон., Арх. Бяльк.; бяроз., Выг.; ашм., Марч., Дыс.; Мат. Гом., Сцяц., Сцяшк. МГ), 'чарга пасвіць жывёлу' (Мат. Гом., Сцяц., Сцяшк. МГ), 'тс' (Мат. Гом.; лун., Шатал.). Сл. паўн.-зах. прыводзіць шэраг фіксацый з розных пунктаў на захадзе Беларусі. Як асноўнае значэнне аўтары слоўніка выдзяляюць 'чарговасць на ўтрыманне пасту-

ха, на выган і догляд жывёлы' і адзначаюць яшчэ 'чарга', 'ісці, рабіць па чарзе'. Не выключана, што значэнне 'чарга пасвіць жывёлу' — інавацыя ў зах.-бел. гаворках на базе запазычанага польск. *kolejka* 'чарга', якое да *kolej* 'тс'. Адносна далейшай этымалогіі гл. *каляя.* Сцяцко (Афікс. наз., 151) разглядае як уласна беларускае ўтварэнне з суф. *-ейк-а калейка* 'чарга ў выглядзе кола', што паводле таго ж лінгвагеаграфічнага крытэрыю і шырокай распаўсюджанасці слова ў зах. гаворках не пераконвае. Больш імаверна меркаваць, што *калейка* 'чарга пасвіць жывёлу' нейкім чынам было суаднесена з бел. *коло* 'тс', што і магло выклікаць інавацыю значэння запазычанага слова. Аднак гэта цяжка пацвердзіць, паколькі *кола* 'чарга' — рэгіянальна абмежаванае ўтварэнне.

**Калéка**1 'чалавек, які страціў якую-небудзь частку цела або здольнасць валодаць ёю ці наогул мае які-небудзь фізічны недахоп' (БРС, ТСБМ, Бяльк., Касп., Нас., Серж. Прымхі, Сцяшк. МГ, Шат.). Сл. паўн.-зах. адзначае ў гродз. і зах.-брэсц. гаворках, пры гэтым у окаючай гаворцы (бяроз.) адзначана форма *колека;* ТС фіксуе слова ў шэрагу пунктаў, не падаецца яно Ян. Укр. *каліка,* рус. *калека,* дыял. і літар. польск. *kaleka, kalika,* чэш. мар. *kalik,* славац. *kalik*. У зах.-слав. мовы запазычана з усх.-слав. (Слаўскі, 2, 27). Формы з *-і-* ў зах.-слав. мовах могуць адлюстроўваць або ўкр. фанетыку, або ўсх.-слав. з *-и- (калика)* і, магчыма, сюды не адносяцца. Польск *kaleka* з бел. мовы, як, магчыма, і літ. уст. *kolieką̀* 'тс'. Слова лічыцца запазычаным з усходу з тур.-перс. *kalak* 'скалечаны, абязвечаны', іншыя называюць тур. *kalik* 'няпоўны; якога не хапае; які мае недахопы; недахоп, пропуск; рэшткі'. У сучаснай тур. мове ёсць і значэнне 'векавуха'. Гл. Фасмер, 2, 166; Слаўскі, 2, 27. Першая форма наогул не засведчана, другая не бездакорная з боку семантыкі. Апрача таго, не вельмі ясна, якім шляхам слова трапіла ва ўсх.-слав. мовы. Жураўскі (Тюркизмы, 81) адносіць ст.-бел. *калека* да цюркізмаў. Там жа (88—89) слова адносіцца да ліку тых, якія напоўнілі беларускі тэзаўрус у XVI ст. у выніку найбольш інтэнсіўных сувязей Вялікага княства Літоўскага з Крымскім ханствам. Магчыма, гэта і так, паколькі ў помніках рус. пісьменнасці слова не адзначаецца. Шанскі (2, К, 25) далучае да гэтых слоў антрапонім *Калѣка Карпъ Даниловичъ* з Пскоўскага І летапісу, адзначанага пад 1341 г., аднак прыклад гэты вельмі двухсэнсоўны. У той жа час няма ніякіх прыкмет таго, што ў ст.-бел. мове гэта слова не з бел. гаворак, а з цюрк. моў. Ва ўсякім разе ў гаворках слова ведаюць дастаткова добра і, відаць, даўно, аб гэтым сведчыць пранік-

ненне яго на захад. Калі лексема сапраўды цюркізм, крыніцу неабходна шукаць у цюрк. мовах і гаворках, якія геаграфічна кантактавалі з усх.-слав. мовамі. Аднак цюркская версія не задавальняла шэраг аўтараў, а альтэрнатыўныя версіі не пераконваюць (ні сувязь з лац. *cadūcus* праз італ. *calиco* 'бедны, жабрацкі', ні з ц.-слав. *клосьнъ* 'кульгавы', балг. дыял. *клосан* 'пакалечаны', арм. *kał* 'паралізаваны, кульгавы', гоц. *halts* 'кульгавы') як небездакорныя ў розных адносінах. Таксама нельга прыняць спробу Шанскага, ЭИРЯ, VII, 132, вытлумачыць слова на ўсх.-слав. глебе як утворанае з прэфіксам *ка-*. Параўн. яшчэ *каліка* (гл.).

**Кале́ка**₂ 'рыба мянтуз, Lota' (ваўк., Бір. Працы, ІМ, 6, Бяльк., Дэмб.; полац., Жук., З нар. сл.; Мядзв., Нас.; бых., Рам.; круп., Сл. паўн.-зах.; ваўк., Сцяшк.), 'рыба ёрш', таксама ў форме *калечка* (Мат. Маг.), 'рыба падкаменшчык, Cottus gobio' (Жук.); з такім значэннем ёсць і ў суседніх рус. росл., смал. *калека* і *калечка* 'мянтуз', фактычна беларускае. Апрача гэтага, Даль з паметай чарнамор. падае *калѣка* 'мянтуз'. Статус апошняга няясны, відаць, ніяк нельга разглядаць гэту фіксацыю як сведчанне аб яшчэ адным арэале распаўсюджання слова. Не выключана, што суадносіцца з *калека*₁, ва ўсякім разе менавіта такое народна-этымалагічнае асэнсаванне назвы ёсць і заснавана на нейкіх спецыфічных прыкметах гэтай рыбы. Паводле геаграфіі — беларуская інавацыя. Калі прымаць прапанову Голуба-Копечнага, 227, адносна чэш. *mník* 'дробная рыба', можна вельмі асцярожна меркаваць, што назва *калека* магла адлюстроўваць тую ж семантыку. Параўн. у рус. дыял. дражнілцы: *«Калечина-малечина, много часов до вечера?»,* дзе як быццам суаднесены дэрываты ад *калека* і асновы *мал-*. Аднак менавіта па семантычнаму крытэрыю гэта версія ўступае папярэдняй. Яшчэ аб адной магчымасці тлумачэння сведчыць дэфініцыя ў рукапісным слоўніку Мядзведскага: «калека... з печані якога здабываецца тлушч, які ўжываецца ў якасці лекаў», аднак мадэль утварэння, якую можна выкарыстоўваць для данага выпадку, не вельмі ясная. Спецыфічная геаграфія (у асноўным паўночныя і ўсходнія гаворкі) і адсутнасць слова ў паўднёвых не выключаюць магчымасці запазычання слова з балтыйскай (прыбалтыйска-фінскай?) крыніцы, аднак інфармацыі, каб пацвердзіць такую думку, у нас няма. Не выключана таксама, што слова неабходна суаднесці з слав. *kalъ* (гл. *кал*).

**Кале́на**₁ 'частка нагі, дзе злучаюцца бядровыя і галёначныя косці; месца згібу нагі' (БРС, ТСБМ, Бяльк., КЭС; КЭС, лаг., Мат. Гом., Нас., Сержп., Сержп. Грам., Радч., Сл. паўн.-зах.,

Сцяшк. МГ, ТС, Шат., Яруш.), 'частка адзення, якая прыкрывае гэту частку нагі' (ТСБМ, Нас.), *калені* 'нага ад каленнага сустава да таза' (ТСБМ), 'сустаў пальца рукі' (Сл. паўн.-зах.), 'вугал згібу, павароту ракі' (ТСБМ; віц., Нар. сл.; ТС, Яшк.), 'лука' (Сл. паўн.-зах.; дэфініцыя выклікае сумненне, параўн. ілюстрацыю: *«Калена ля ракі, там коні ходзяць»,* с. 373, відавочна, што тут хутчэй 'паварот', 'месца на павароце'), 'вір, глыбокае месца на павароце ракі' (там жа), 'патаўшчэнне на чароціне ці саломіне' (КЭС, лаг., Мат. Гом., Сцяшк. МГ), *каленца* 'тс' (ТСБМ, Сл. паўн.-зах.), каленка 'тс' (Нас.), 'сустаў на пальцы рукі' (рас., Шатал.), *калена* 'асобная частка, закончаны матыў у музычным творы' (ТСБМ, Шат.), 'фігура кадрылі' (ТСБМ, Мат. Гом.), 'пакаленне ў радаслоўнай' (ТСБМ), 'род, саслоўе' (Сл. паўн.-зах.). Сюды таксама выразы *лысы, як калена* (Сл. паўн.-зах.), *даць каленца* 'ўдарыць каленам ззаду', *сесці на каленцах* 'сесці, сагнуўшы ногі ў каленях' (ТС). Укр. *коліно* 'каленны сустаў', 'род', 'пакаленне', 'згіб (ракі і да т. п.)', 'пераход голаса ў песні', харк. *колінце* 'патаўшчэнне, каленца ў сцяблíне', у лемкаў яшчэ *колінця* 'суставы пальцаў', звяртае на сябе ўвагу і *колінчити* 'біць (каленам?), рус. смал. *коленки* 'патаўшчэнні саломіны', арханг. *коленко* 'каленца, згіб', літар. і дыял. *колено* 'каленны сустаў', 'паварот ракі і да т. п.', як спецыфічна дыялектныя СРНГ адзначае 'змяненне матыву, пераход (у песні), куплет; асобная частка ў танцы «ланце»', 'сям'я, род'. Зах.-слав.: польск. *kolano* 'каленны сустаў', 'паварот ракі', 'згіб трубы', 'каленца ў сцяблíне травы' (звычайна *kolanko,* з XVI ст.; Слаўскі (2, 342) звяртае ўвагу на дакладны семантычны адпаведнік у лац. мове: *geniculum* 'тс', *genú* 'калена' і літ.: *kelùkas* 'каленца', *kelȳs* 'калена'), н.-луж. *kóleno* 'каленны сустаў', в.-луж. *koleno* 'тс', 'згіб', палаб. *ťül'ón* 'каленны сустаў', чэш. *koleno* 'каленны сустаў', 'згіб', 'каленца (саломіны)', 'пакаленне, род', славац. *koleno* (у падобных значэннях), славен. *kolẹ̑no* 'каленны сустаў', 'згіб', 'пакаленне', 'каленца (саломіны)', серб.-харв. *кȍлено* 'каленны сустаў', 'род, пакаленне', 'народ', ёсць і значэнне, адэкватнае рус. *колено* жаночае і мужчынскае 'пол, жаночае і мужчынскае пакаленне', 'каленца (у саломіне)' *koljence,* макед. *колено* 'каленны сустаў', 'згіб', 'род', 'пакаленне', *коленце* 'згіб', балг. *коляно* 'каленны сустаў', 'род', 'абшчына', 'патоўшчаная частка сцяблíны', дыял. *коленце* 'каленца (у саломіне)'. Слав. адпаведнікі дазваляюць рэканструяваць прасл. *kolěno,* наконт значэння цяжка меркаваць, якія з прыведзеных славянскіх сапраўды даўнія, якія вынік натуральнага развіцця значэння. Даўнія семантычныя паралелі (лац.

*genu* 'каленны сустаў' і 'род, племя', адпаведна с.-грэч. γόνυ и γένος) дазваляюць сцвярджаць, што такое значэнне можа быць старым. Што датычыць словаўтварэння, відаць, можна выдзеліць суфікс *-ěno* (Слаўскі, 2, 342, прыводзіць як структурны адпаведнік прасл. *polěno* і як паралель да *kolěno* літ. *kelénas* 'калена'). Аснову слав. лексемы параўноўваюць з літ. *kelỹs* 'калена', лат *celis* 'тс'. Не выключана, што з іншых і.-е. адпаведнікаў сюды сапраўды адносіцца грэч. κῶλον 'член', κωλήν 'сцегнавая косць; плечавая косць', κώληψ 'каленны сустаў' гл. Слаўскі, там жа; Фасмер, 2, 289. Далей сюды ж адносяць і *член* (гл.).

**Каленіца** 'попельны (паташны) завод, дзе перапальваецца (гартуецца) попел для канатнага завода' (крыч., Меер, 1786). Відаць, рэгіянальнае ўтварэнне; адносна структуры параўн. укр. закарп. *калениця* 'посуд, у якім прыгатаўляюць гліну для мазання', параўн. *каляння* 'пэцканне', *каляти* 'пэцкаць, брудзіць', рус. фальк. *каленецкая страла* 'гартаваная страла'. Да *каліць* 'паліць', 'гартаваць' гл. *каліцца* 'гартавацца'.

**Калéнік** 'расліна ляскаўка, Silene cucubalus' (віц., Кіс.). У іншых мовах адпаведнікаў як быццам няма. Не вельмі яснае паходжанне, магчыма, да *калоць,* параўн. рус. алан. *колетуха* 'расліна Cirsium, чартапалох'. Што датычыць семантыкі, падставы для такога меркавання ёсць — у некаторых відаў Silene як лісце, так і плады пакрыты восцю. Параўн. яшчэ рус. дыял. *колкий* у назвах раслін, у якіх ёсць калючкі, рожкі і да т. п., гл. СРНГ, 14, 137. Не выключана таксама, што тут утварэнне ад *калоць* 'расшчапляць і да т. п.'; семантыку тлумачаць нар. сінонімы: бел. *ляскаўка, лускавіца, луснец,* рус. *хлопушка* і да т. п. Гэтыя супастаўленні, аднак, не вельмі дакладныя. Магчыма, неабходна меркаваць аб утварэнні ад *калець* (< *колеть),* параўн. *калелая* як назва хваробы (гл. ніжэй). Словаўтваральна гэта было б больш надзейна *(*колетная трава),* параўн. зах.-сіб. *каленная* 'расліна Dracocephalum thymiflorum, змеегалоўнік' — лекавы сродак ад радзімца, прыпадка (хваробы ў маленькіх дзяцей), які суправаджаецца сутаргамі. Аднак рускі прыклад двухсэнсоўны, паколькі семантыка лацінскай назвы сведчыць хутчэй на карысць першай прапанаванай версіі. Магчымая сувязь з *каляя* не пераконвае па семантычных прычынах.

**Калéц** 'напарстак' (Касп.). Магчыма, сюды ж рус. урал. *калец* 'вяровачная пятля ў варотах, якая служыць запорам'. Няясна, ці сапраўды тут рэгіянальнае ўтварэнне ад *кола* (гл.), як аб гэтым меркаваў Сцяцко, Афікс. наз., 153, або толькі

трансфармацыя шырока вядомай структуры *кальцо/кольца.* Апошняя форма сведчыць аб магчымых працэсах граматычнага пераасэнсавання пры ўзаемадзеянні розных гаворак. Параўн. яшчэ *кальцо.*

**Кале́ць** 'зябнуць, мерзнуць' (БРС, ТСБМ, Нас., Шат.), 'дубець, карчанець' (Нас.), 'здыхаць' (Яруш.). Рус. бран., смал., цвяр., пск., наўг., вяц. і інш. *колеть* 'цвярдзець' (у Даля без геаграфіі), (смал.) 'здыхаць'. Відаць, інавацыя ў бел. і шэрагу рус., пагранічных з беларускімі гаворках. Утворана аналагічна *дубець, карчанець* і да т. п. ад *кол* (гл.). Што датычыць семантыкі, асноўнае значэнне 'станавіцца цвёрдым', адкуль і 'мерзнуць' і 'здыхаць'. З вытворных слоў звяртае на сябе ўвагу *калелая* ў выразе *калелая бярэ* (Янк., БП), *бадай яго каліэлая ўзела* (Сержп. Грам.). У Насовіча *калёлая* тлумачыцца як наз. жан. р. са значэннем 'холад, дрыжыкі': *«Колѣлая цебе берець, на печь лѣзешъ»* (Нас., 242), *колѣлый* 'замёрзлы, азяблы'. Думаецца, што можна меркаваць пра беларускую інавацыю, паколькі дакладны адпаведнік быў адзначаны толькі Дабравольскім: *колелая* 'дрыжыкі, ліхарадка'. Не выключана, што тут эўфемістычная назва хваробы, параўн. рус. дыял. назву ліхаманкі *колотуха.* У такім выпадку значэнне магло развіцца натуральна на базе семем 'зябнуць' і 'дрыжаць, трэсціся' (параўн. і *трасца* ў аналагічных выпадках). Да статуса інавацыі параўн. рус. том. *колеться* 'зябіць, ліхаманіць': *«колется тебе всё, колется, хворатся».*

***Кале́шня,** *коле́шня* і *колэ́шня:* 'гуменца для сена, саломы' (кам., Нар. сл.), 'мякіннік, прыбудова да хлява, гумна' (кам., Нар. сл.), 'паветка для калёс, плуга, бараны, саней' (кам., брэсц., малар., пін., стол., Нар. сл.; Хар.), 'прыбудоўка, дзе знаходзілася майстэрня на колы, калёсы' (пруж., кобр., драг., усх.-палес., Нар. сл.), 'дрывотня' (зах.-палес., Нар. сл.; малар., Харузін). Фанетычны варыянт да *калесьня* ў падобных значэннях. Яшчэ Харузін (263) пісаў: «Слово *колешня,* по-видимому, стоит в прямой связи с общеславянским словом *коло* — круг, колесо». Паводле семантыкі — інавацыя, з падобнай фанетыкай адзначаецца і ў іншых, відавочна, укр. або блізкіх ім гаворках. Статус інавацыі не вельмі ясны. Параўн. укр. валын. *колешня* 'дрывотня', гуц. 'вазоўня; таксама і для жывёлы пад адным дахам з хатай', *колішня* 'двухколавы перадок у плузе', рус. дан. 'першая пара быкоў, якая знаходзіцца непасрэдна каля пераду плуга'. Адносна суфіксацыі гл. яшчэ Сцяцко, Афікс. наз., 165—166.

**Калёныя** ў выразе *калёныя* або *вадзяныя арэхі* 'расліна

Trapa natans'. (Дэмб.). Адпаведнікаў у іншых бел. гаворках як быццам няма. Таксама нельга з упэўненасцю меркаваць аб іншаславянскіх паралелях. Семантыка беларускага слова не вельмі ясная. Вядома, што арэхі ўжывалі ў ежу як у сырым выглядзе, так і прыгатаваныя. Магчыма, слова неабходна разглядаць як вытворнае ад *каліць* 'смажыць і да т. п.', параўн. рус. наўг. *калить* 'грэць', кастр. 'кіпяціць ваду', вяц. *калить яйца* 'запякаць яйкі ў закрытым гаршку без вады, у печцы'. Іншая магчымасць тлумачэння — сінонім, зафіксаваны таксама на Магілёўшчыне — *каменныя арэхі*. Калі разумець *каменны* як цвёрды, то *калёны* ад *каліць* 'гартаваць'. Параўн. да семантыкі і формы рус. бран. *калёный* 'цвёрды': *«Кружовник калёный»* (СРНГ, 12, 351), хоць тут, магчыма, адпаведнік бел. *каляны* (гл.). Разам з тым імаверна, што гэта назва адпавядае рус. дыял. *колкие орехи,* укр. дыял. *їжачок, рагатка,* ням. *Stachelnuß, Spitznuß*. У такім разе да *калоць,* аднак словаўтварэнне не вельмі яснае. Параўн. рус. сіб. *каленная* 'расліна змеегалоўнік Dracocephalum thymiflorum' прыклад двухсэнсоўны, не выключана, што семантыка менавіта такая і паходзіць таксама ад *калоць.* Гл. *колкий* у назвах розных раслін, якія маюць *калючкі,* рожкі і да т. п. (СРНГ, 14, 137).

**Калёсы** 'конная чатырохколая гаспадарчая павозка' (БРС, ТСБМ, Бяльк., Грыг., Жд. 2, Касп., Кліх; Растарг., КЭС, лаг.; Маш.), палес. форма — *калёса* (Нас., Нік. Оч., Серб., Сержп. Грам., мазыр.; Сержп.)? — *«перо скрыпіць, бы не мазаные калёса»* (Сцяц. Нар.; Сцяшк. МГ, Радч.)? — *«тарарай колёсы, тарарай Повезли Ганночку з пекла в рай»;* Шат. (калёса); мін., Шпіл. (*«...телега в робѣ петербургскіхъ ломовыхъ...»*, 4, 27). Распаўсюджанне на палескай тэрыторыі гл. у Масленікавай, 172. Адзначаюць таксама Сл. паўн.-зах., ТС (у форме *колёса*). Вядома фактычна на ўсёй тэрыторыі. Укр. матэрыял нам невядомы, але Даль прыводзіў паўд.-рус. *колёса* 'воз' у пагранічнай да беларускай зоне (смал., зах.-бран.) і ў глыбі моўнай тэрыторыі — маск., том. У польск. мове *kolasa* 'старажытны воз, карэта', 'сялянскі воз' і інш., звяртаюць на сябе ўвагу адзначаныя на Мазоўшы і ўВарміі формы *kolosa, koloski,* як рэгіянальныя і адпаведныя беларускім. У іншых зах.-слав.: ст.-чэш. *kolesa* 'воз', славац. *kolesá* 'воз для перавозу бярвенняў'. На поўдні: серб.-харв. *kolèsa* 'воз'. Слаўскі (2, 344) мяркуе аб прасл. **kolesa,* мн. ліку ад *kolo;* па мадэлі ўтварэння аналагічнае лац. *rotae* 'воз' (*rota* 'кола'). Польск. крыніцы XVI і асабліва XVII ст. даюць падставы выводзіць рэаліі з усх.-слав. тэрыторыі. Брукнер (245) меркаваў нават

аб запазычанні ў польск. мову. Лінгвагеаграфія бел. слова сведчыць аб пазнейшым яго распаўсюджанні. Не выключан таксама ўплыў польскай лексемы; аб яе шырокай экспансіі гл. у Слаўскага, 2, 343—344 (у ням., франц., італ. і інш.), у тым ліку пры пасрэдніцтве розных моў.

**Калёўка** 'спецыяльны рубанак для выстругання дошак і планак з фігурнымі краямі (багетаў, карнізаў і інш.)' (БРС, ТСБМ; драг., Жыв. сл.; Касп., Клім., Мат. Гом.), 'фігурны профіль дошкі або бруска, які атрымліваецца струганнем' (ТСБМ, Мат. Гом.). У рус. мове адзначана *калёвка* 'жалабок, канаўка (у сталярнай справе)', *колёвки* 'паглыбленні, выемкі, канаўкі ў налічніках; розныя ўпрыгожанні на іх'. На рус. слова звярнуў увагу яшчэ Матцэнаўэр (LF, 8, 41), які лічыў, што яно запазычана з франц. *cale* 'клін, падстаўка', супраць Фасмер (2, 166). Ён лічыць асноўнай формай дзеяслоў *калевать* 'выдзёўбваць, выразаць (карніз, жалабок)', для якога ў якасці крыніцы запазычання мяркуецца *(aus) kehlen* у тым жа значэнні. З пункту погляду рэаліі такая этымалогія можа быць прынята; аднак няясным застаецца шлях запазычання. Лінгвагеаграфія выразу (калі толькі бел. слова не запазычана параўнальна позна з рус. мовы) сведчыць аб магчымым польскім пасрэдніцтве.

**Калі** прысл., злучн. у розных значэннях (ТСБМ, Бяльк., Грыг., Мал., Нас., Нік. Напаў., Нік. Оч., Сержп., Сержп. Прымхі, Радч., Шат., Сл. паўн.-зах., ТС *(колі)*). Укр. *коли,* рус. *коли, коль,* ст.-чэш. *koli,* славен. *kòli,* балг. уст. *коли,* ст.-слав. **коли**. Прасл. *koli/kole,* падрабязна аб фіксацыях і формах у слав. мовах гл. ESSJ SG, 2, 356—360. Там жа мяркуецца, што слова ўтворана ад і.-е. займеннай асновы **k̯ʉo-* (аб якой падрабязна гл. пад *хто*), пашыранай *i-* партыкулай. Пры гэтым, верагодна, структура была ўтворана яшчэ ў даславянскі перыяд, паколькі ў літ. мове адзначаюць як надзейныя паралелі *kõl, kõlei* (дыял. *kõlaik*) 'як доўга, пакуль'. Больш праблематычная сувязь з лац. *quālis,* 'які', грэч. πηλίκος, якая прымалася шэрагам этымолагаў, нягледзячы на фармальную перашкоду. Калі дапусціць такую сувязь для і.-е. перыяду, неабходна аднавіць архетып **k̯ʉā-,* што прымусіла Покарнага (1, 646) рэканструяваць праформу **k̯ʉo/k̯ʉa-,* аднак апрача фармальнай перашкоды ёсць яшчэ і семантычныя. Што датычыць іншых і.-е. паралелей, неабходна згадаць яшчэ прапанову Махэка$_2$, 269, які не сумняваўся ў тоеснасці слав. утварэння і ст.-інд. *-khálu.* Апошняе звычайна ўжываецца пасля займеннікаў, параўн. *na khálu* 'зусім не' і *ніколі,* чэш. *nikoli.* Гэта прапанова патрабавала б раздзялення як генетычна роз-

ных функцыянальных варыянтаў слав. *koli,* што не здаецца правільным. Параўн. яшчэ іншыя меркаванні адносна архетыпу ў ESSJ, S Ĵ, 2, 360.

**Каліб** умоўны злучнік (паўн., КЭС; Нас., Рад., Сержп. Грам.), *кыліп* 'каб' (чавус., Нар. сл.). Карскі адзначаў і ст.-бел. *кыліб.* Як злучэнне ёсць адпаведнае ўкр. *коли-б(же).* У рус. гаворках зах.-бран. *кали б* (фактычна беларускае, у Растаргуева), Даль адзначыў *коли-бы,* да якога Бадуэн дэ Куртэнэ дадае яшчэ *коли-ба, кыли-б* (апошняе — смал.). СРНГ падае яшчэ з архіўных матэрыялаў Сразнеўскага смал. *колиб,* падпарадкавальны злучнік. Гэты факт разам з бел. *кыліп* дазваляе меркаваць аб лакальнай семантычнай інавацыі ў магілёўскіх і смаленскіх гаворках. Прыведзеныя матэрыялы даюць магчымасць рэканструяваць усх.-слав. структуры *коли-б.* Што датычыць рус. *коли-бы, коли-ба,* не вельмі ясна, ці сапраўды гэтыя формы дазваляюць рэканструкцыю архетыпа *коли-бы* (такую праформу дае ESSJ SG, 2, 360). Архетып *koli-by* прапанаваны як больш архаічны (*-by,* аснова аорыста, < *byti*), аднак, зыходзячы з фактычнага матэрыялу, не выключана, што старыя формы з'яўляюцца рэгіяналізмамі.

**Каліба** 'ад хваробы' (Касп.). Ілюстрацыя як быццам пацвярджае дэфініцыю: *«Каб цебе каліба, як ты мяне падманіў».* З назваў хваробы адразу звяртае на сябе ўвагу рус. вяц. *калига* 'хвароба грыжа', аднак паводле лінгвагеаграфічнага крытэрыю гэта паралель не вельмі надзейная. Адносна семантыкі рус. назвы параўн. смал. *килаватка* 'бручка, Brassica napus', бел *грыжа* 'тс' (нягледзячы на генезіс апошняй назвы). Няясна; у роднасных паўн.-бел. гаворках паралелей да гэтага слова не адзначана, таму можна меркаваць аб рэгіянальным утварэнні. Фармальна можна дапусціць сувязь з *калыбаць (калібаць),* параўн. да фанетыкі *калібель* (Жд. 3, Кліх), аднак такое супастаўленне нічога не праясняе. Цалкам імаверна, што Касяровічам зафіксавана структура, дзе канкрэтнай назвы не было наогул. Можна думаць, што першапачаткова тут была структура тыпу **каб цябе, каб...,* дзе другое *каб* не толькі ўзмацняе першае, але, магчыма, з'яўляецца субстытутам адпаведнай формулы, якая магла ўключаць і назву хваробы. Прычынай падобнай з'явы магла быць другародная функцыя назвы хваробы параўнальна з функцыяй уласна структуры, не выключана таксама, што тут назіраецца эўфемізацыя выразу, узмацняючая праклён, паколькі пад другім *каб* можа разумецца любая хвароба з найбольш непажаданых. У канкрэтным выразе *каліба* адпавядае разгледжанаму вышэй *каліб* (гл.). Праўда, не вельмі ясна, з'яўляецца

гэта наватворам унутры гаворкі, ці тут назіраецца вынік узаемадзеяння гаворак і ўплыву выразу *каліба цябе каліба* на мяркуемы '*каб цябе, каб...*' Не выключана і запазычанне, аднак знайсці крыніцу нам не ўдалося. У польск. гаворках таксама няма матэрыялу, які б дазволіў меркаваць аб запазычанні. Звяртае на сябе ўвагу дыял. *kaleba* і *kalemba* 'старая і худая карова', 'лянівая жанчына' і да т. п., аднак гэта паралель не задавальняе. Фармальна падобны гукакомплекс знаходзіцца ў назвах раслін: *kolibaba* 'расліна... galeopsis ladanum', *kolebok* 'radix bardanae' (дэфініцыя паводле старога тлумачэння Карловіча). Семантычна такое супастаўленне магчымае (назва расліны можа суадносіцца з назвай хваробы), але вельмі няпэўнае. Не выключана і мясцовае ўтварэнне ад *калоць* з суфіксацыяй як у *сядзіба, гасціба* (гл. Сцяцко, Афікс. наз., 84—85). Аб канкрэтнай семантыцы назвы меркаваць цяжка, аднак у гаворках дэрываты ад *калоць* азначаюць розныя хваробы і з боку семантыкі такое тлумачэнне сумнення не выклікае. Нельга выключаць таксама нейкай памылкі пры запісе, відавочна, патрабуецца ўдакладненне прыведзенай Касяровічам інфармацыі.

**Калі́бр** (Сержп.: *чэрці ўсялякага калібру); калибиръ* 'размер' (Нас.). Відавочнае запазычанне, фанетычны крытэрый не вельмі пераканаўчы, паколькі такая форма магла натуральна ўтварыцца на бел. глебе з першаснага *калібр*, гэта дазваляе меркаваць, што запазычана з польск. *kaliber* 'памер, велічыня'. Польск. слова хутчэй за ўсё да ням. *Kaliber,* якое з італ. *calibro,* а гэта з араб. *kâlib*. Аднак і арабская лексема ўзыходзіць да грэч. *καλοπόδιον* 'форма, узор', гл. Фасмер, 2, 166.

**Ка́ліва** 'асобна ўзятая расліна, сцябліна, саломіна і інш.' (БРС, ТСБМ, Кліх; КЭС, лаг., Сержп., Прымхі: ... *вырываюць яго адно каліво ці цыэлы куст...;* Федар. Рук.; Шат., Яруш.), сюды ж, відаць, *каліва* ў Касяровіча, нягледзячы на яго дэфініцыю 'маладая расліна', параўн. ілюстрацыю: *«Дай мне каліва расады»,* с. 150, *каліва* 'адно гняздо бульбы, адзін корч' (Сцяшк. МГ), адно зернетка (збожжа, маку, якога-н. насення і інш.)' (БРС, ТСБМ, Бяльк., Касп., Нас.). Сержп. Прымхі: *семь каліў гароху, тры каліва перцу...;* Федар. Рук., Шат.; барыс., Шн., 2, 68: *«Разъ пошла баба воды брацъ ў колодзись, зачарпнула вядромъ ды и поглядзела: ци пойно зачарпнула?.. видзиць — каливо гороху у-вы днѣ ляжиць...* 'невялікая колькасць чаго-н.; трошкі, крыху' (БРС, ТСБМ, Жд. 3, Касп., Мядзв., Нас., Яўс.). Апошняе значэнне звычайна характэрна для памяншальнай формы слова: *каліўка* 'вельмі мала, трошкі

і да т. п.' (Бяльк., Мат. Гом., Нас.), апрача гэтага, фіксуюць *каліўку* 'тс' (Мат. Маг.), *каліўка* 'зерня' (Бяльк.; навагр., КЭС; Нас.). Насовіч (228) таксама адзначае: «Самая мелочь в сходстве. И каливки бацькины подобравъ». Далей адзначаюць вытворныя *каліўца* (у БРС як памянш.-ласк. да *каліва* ў асноўных значэннях), Насовіч дае *каливцо* 'дробнае зерне', Каспяровіч і Палявой фіксуюць значэнне 'трошкі'. Пашыраны такі дэрыват, як *каліўе* 'сцёблы траў або збожжавых злакаў' (ТСБМ, Шат.), 'бульбоўнік (націна)' (ДАБМ, Жд. 3; КЭС, лаг., Ян., Мат. Гом.), *каліўе* 'тс' (Сцяшк.). Апрача гэтых, ДАБМ падае *каліўнік, каліўянік* 'тс', а Мат. Гом.— *каліўнік, каліваишнік, каліўяшнік* 'тс'. У новых слоўніках *каліва, кальва, кальво, каліво* 'асобная сцяблінка, галінка гародніны і інш.' (даўг., віл.), 'асобная расліна' (в.-дзвін., шальч., віл., іўеў., шчуч., крын., зэльв., гродз.), 'націна аднаго клубня' (паст., круп., барыс., смарг., маст., шчуч.), 'малая колькасць, трошкі чаго-н.' (рас., лаг., пруж., Сл. паўн.-зах.), паст., віл. *каліўца, каляўца* 'асобная сцяблінка, галінка гародніны і інш.' (Сл. паўн.-зах.), *каліўя* 'націна бульбы', *калівіна* 'каліва, адна сцябліна', *каліво* 'сцябло расліны' (ТС), 'корч, куст (гародніны)' (Ян.), *каліўе* 'націна бульбы, буракоў' (Ян.). Апрача бел. мовы, адзначана ва ўкр. усх.-палес. гаворках: *каліва, каліванне, калів'е, калів'я* 'націна бульбы', *калівешнік* 'тс' і 'націна морквы, гароху', чарніг. *каліво* 'корч бульбы' і 'пра каноплі, лён — палову «повесма»'. У рус. калуж. адзначана *каливина* 'трошкі; кропелька', *каливо* 'націна агародных раслін', бран. 'корч бульбы', вялікал. *каливье* 'націна бручкі', сіб. *каливья* 'націна бульбы', зах.-бран. *калева* 'корч бульбы', бран. *калева* і *каліва* 'нейкая расліна', смал. *калива* 'сцябліна', *калевка, калёвка* і *каливка* 'найменшая колькасць чаго-н.; кропелька'; калуж., смал., зах.-бран. *калевка;* смал. *калевка,* калуж., смал. *калёвка,* пуціўльск., курск. *каливка,* таксама арл., бран. *каливка* 'пацерачка (адна)', росл., смал. 'дружочак, міленькі і да т. п.', зах.-бран. *калево* і *каливо* 'найменшая колькасць чаго-н.; кропелька': *калево,* росл., смал., калуж.. *каливо* 'дробнае зерне (адно)', смал. *калево,* смал., іркуцк. *каливо,* калуж., смал. *калёвочка* 'найменшая колькасць чаго-н., кропелечка', пск., смал. *каливочка* 'тс'; *колево, коливо* 'парастак, расток, сцябліна' (зах. паводле Даля), *колево* 'аўсяны колас, «бронь».' Ёсць таксама пск. *коливистый, колевистый* 'зярністы, каласісты (збожжа, авёс і да т. п.)'. Гэтыя прыклады дазваляюць з вялікай дакладнасцю меркаваць аб лінгвагеаграфіі слова. Праўда, СРНГ у якасці паралелі прыводзіць яшчэ польск. *kaliwo,* аднак з гэтым нельга пагадзіцца. Найбольшая колькасць прыкладаў

«польскага» слова у значэннях, адэкватных беларускім, падаецца Карловічам: *kaliwa, kaliwo, kaliwko,* адносна якога можна з упэўненасцю гаварыць, што гэта беларускае слова. Слаўскі наогул не разглядае гэтай лексемы, хоць форма *kaliwek* фіксуецца ў Ліндэ. Дарашэўскі ў слоўніку літаратурнай мовы ўказвае бел. крыніцу. Аналіз геаграфіі слова сведчыць, што, па-першае, гэта ўсх.-слав. лексема; па-другое, распаўсюджана яна або ў бел. гаворках, або ў тых рус. і ўкр., якія гістарычна ці геаграфічна суадносяцца з бел. Далейшы статус яго (запазычанне, інавацыя, архаізм) паводле гэтага крытэрыю вызначыць цяжэй. Не выключана (параўн. прыклады з рус. гаворак) рэканструкцыя формы *калево;* бел. лексіка дэманструе галосны ў пазіцыі пасля націску. Спроба дастаткова надзейнай этымалагізацыі на слав. глебе належыць Безлаю, 2, 10, які параўноўвае бел. *каліва* з шэрагам слав. лексем. Сюды славен. *kâl* 'расток, парастак' (адзначаны формы муж. і жан. роду), *kâla,* далей *kâlec, kâlček, kâlíca* 'расліна чарнушка, Nigella sativa (матывацыя назвы няясная), таксама *kaliv, kâlast i kalíti, kalí, vzkalíti,* якія суадносяцца з *(vz-)klíti, (vz-)klije,* напрыклад *seme kali, seme vzklije iz zemblje.* Для гэтых форм прапануецца прасл. рэканструкцыя **kōlъ,* паралельная да **kъlъ.* Паводле Безлая, сюды можна аднесці в.-луж. *kał,* якое традыцыйна, услед за Мукай, 1, 565, лічылі запазычаннем з ням. *kohl* або н.-ням. *kal* (так Більфельд, Lehnwörter, 153). Значэнне луж. слова 'капуста, Brassica oleracea' супадае з ням. (аб іншых значэннях і формах гл. падрабязна Шустэр-Шэўц, 7, 483), што сапраўды як быццам падтрымлівае версію аб запазычанні слова. Але Шустэр-Шэўц (7, 483—484) звяртае ўвагу на тое, што ні па фармальнаму, ні па лінгвагеаграфічнаму крытэрыю такая версія не можа быць прынята. Фанетыка луж. лексікі не адпавядае мяркуемай ням. крыніцы.

**Ка́ліва**$_2$ 'памінальная куцця' (Мядзв.). Дакладных адпаведнікаў у бел. крыніцах не адзначана. З магчымых рус. паралелей звяртае на сябе ўвагу калуж. *калево задать* 'памерці', прыклад, аднак, вельмі двухсэнсоўны (магчыма, пад уплывам *калець* 'здыхаць'). Па гэтай прычыне можна думаць, што тут змяненне фанетыкі аналагічна *каліва*$_1$, паколькі ў запазычаным *коливо* (рус., укр., ц.-слав.), якое з грэч. *κόλλυβον* першы галосны пад націскам. Зыходзячы з формы — з н.-грэч., праз царкоўную лексіку.

**Калі́ка**$_1$ 'старац, пераважна сляпы, які жабруе, спяваючы духоўныя вершы' (БРС, ТСБМ). Выглядае як кніжнае слова, відаць, з рус. *калика* 'тс'. У рус. мове слова пэўнай этымалогіі

не мае, хоць неаднаразова разглядалася. Многія аўтары лічаць этымалагічна роднасным *калека* (гл.), паводле іншых — слова суадносіцца з *калига* 'назва абутку' (так, яшчэ ў Даля, 2, 190). Назва абутку ўзводзіцца да с.-грэч. *καλίκια* (аб этымалогіі гл. Фасмер, 2, 167). Фасмер (там жа) мяркуе аб магчымасці аднясення слова да ўсходняй лексікі і параўноўвае з адзначаным у шэрагу цюрк. моў *kalyk* 'народ, людзі' (слова арабскага паходжання). Адносна гэтай версіі Севарцян (Лексикографический сборник, V, М., 1962, 28) адзначаў такую этымалогію як спрэчную, паколькі цяжка вытлумачыць і з боку семантыкі і па іншых прычынах рус. *калика* з цюркізаванай кыпчакскай формы арабск. *xalq* 'народ'. Вахрас (Наим. об., 98—99) звяртае ўвагу на тое, што ў ст.-рус. мове была вядома форма *калиги* ў значэнні 'багамольцы' (звычайна *калига, калиги* 'від абутку'). Там жа ён прымае думку Фасмера аб запазычанні слова *калика* з цюрк. моў. Пры гэтым Вахрасам прыводзіцца матэрыял, які даказвае, што багамольцы звычайна вандравалі дружынамі, і па гэтай прычыне цюрк. слова са значэннем 'народ', асабліва з пейаратыўным сэнсам 'зброд, шайка' цалкам магло быць ужыта для наймення гэтай дружыны. З шэрагу цюрк. прыкладаў, прыведзеных Вахрасам (там жа, 100), звяртае на сябе ўвагу тат. (В) форма *kalik* 'народ', кірг., казах. і інш. *qalyq* 'тс'. Наколькі такая версія дастаткова надзейна абгрунтавана лінгвагеаграфічна, вырашыць цяжка. Слаўскі (2, 27) сумняваецца ў мэтазгоднасці раздзялення форм *калека* і *калика,* аднак паводле значэння і фармальна гэтыя лексемы яўна розныя. Аб магчымых працэсах (пазнейшага) іх збліжэння пісаў Даль; гістарычна, аднак, яны разыходзяцца. Спроба этымалагізаваць слова на славянскай глебе не ўяўляецца перспектыўнай. Праўда, звяртае на сябе ўвагу рус. саран., пенз. *калить* 'жабраваць', валаг. 'моўчкі прасіць міласціну', аднак слова гэта няяснае, адзначана ў мове «калунов» — прафесійных жабракоў (у Пензенскай губ.) і, магчыма, з'яўляецца аргатычнай пераробкай больш шырока вядомага ў рус. гаворках *каличить* 'прасіць міласціну' і да т. п. *(< калика)*. Ёсць і пенз. *калила* 'жабрак', цвяр. *каліман* 'манюка'.

**Каліка**$_2$ 'бручка, расліна Brassica napus' (Жд. 2; рас. Шатал.). Паводле матэрыялаў Смулковай, Лекс. балтызмы, 41, слова вядома на паўночным усходзе ад Полацка і літоўска-латвійскім пагранічны. Сл. паўн.-зах. гэтай лексемы не адзначае. У формах *калега, калига, каля, каляга, колега* ў розных рус. гаворках, а ў форме *калика,* паводле Бурнашова: «В Санкт-Петербургской и... в ближайших к остзейским губер-

ниям местах» (СРНГ, 12, 354—355), а таксама ленінгр., наўг., пск., калін., смал. і да т. п., *як каликка* пецярб. Геаграфія слова як быццам пацвярджае даўняе меркаванне, што яно з'яўляецца запазычаннем. Смулкова (там жа) указвае на крыніцу запазычання з некаторых гаворак паўн.-усх. Літвы *kālis* 'бручка', якое з літ. *kolÿs, kõlis, kolinÿs* 'тс'. Відавочна, што ні па фармальнаму крытэрыю, ні паводле лінгвагеаграфіі меркаванне Смулковай не з'яўляецца бездакорным. Розныя фанетычныя варыянты сведчаць на карысць запазычання ўскладненай структуры (і па гэтай прычыне нельга бачыць у бел. лексеме дэрыват ад літ. слова), а рус. форма *каликка* сведчыць аб уплыве фін. моў. Разам з тым названы ў Фасмера ў якасці магчымых крыніц запазычання эст. *kaalik* 'бручка' фін. *kaali* 'капуста' могуць быць прыняты галоўным чынам як сведчанне таго, што слова сапраўды было запазычана з фін. моў, што, між іншым, даказваецца і наяўнасцю яго ў лат. арэале. Шэраг сінонімаў (бел. *немка,* рус. *репа-саксонка)* указвае на зыходную ням. крыніцу (*Kohl* 'капуста'), якую меркавалі і для фін. лексем (гл. Фасмер, 2, 167), аднак паводле фармальнага крытэрыю мэтазгодным уяўляецца бачыць у рус. і бел. прыкладах культурнае запазычанне, якое рознымі шляхамі трапіла ў балт., фін. і слав. мовы. У такім выпадку правільным здаецца аддзяленне балт. лексем ад слав., а бел. разглядаць як экспансію запазычання ў рус. мову.

**Калікóлечы** 'калі-небудзь' (гродз., Сцяшк., МГ). У Сл. паўн.-зах. не адзначана, у іншых гаворках быццам бы таксама не фіксуецца. Паводле лінгвагеаграфіі і структурнаму падабенству можна параўнаць з польск. часціцай *-kolwiek (i-kolwie),* аформленаму як *надоечы* (гл.). Не выключана таксама, што тут структура, паралельная да *каліль* (гл.) 'калі-небудзь' (**каліколь?*), параўн. *калінеячы* (гл.).

**Калíль** 'калі-небудзь' (калінк., З нар. сл.), *коліль;* (Янк. 2), *колільса* (калінк., З нар. сл.). Магчыма, з *калінь, колінь* (параўн. ніжэй), з асіміляцыяй *-л-* да *-н-*. Па тэрыторыі гэтыя ўтварэнні, праўда, з розных арэалаў Палесся. Менш верагодна бачыць у другой частцы прасл. *li-,* вядомае ў розных функцыях (гл. спец. ESSJ SG, 2, 409—413). Як здаецца, нельга вывесці з формы *каліколь* (гл. вышэй), фіксацыя якой відавочна ўскладняе этымалагізацыю гэтых лексем.

**Калíна** 'расліна Viburnum opulus' (БРС, ТСБМ, Бяльк., Касп., Маш., Радч., Сержп. Грам., Сцяшк., Яруш.). Паводле слоўніка Кісялеўскага *каліна* адзначаецца ў Беларусі паўсюдна. З новых крыніц фіксуюць Сл. паўн.-зах., ТС (тут

яшчэ *каліны* 'ягады каліны'). Ёсць таксама шэраг вытворных, з якіх звяртае на сябе ўвагу *калініца,* адзначанае ў Бялькевіча, Насовіча і Радчанкі, якое апрача бел. сустракаецца ў смал. гаворках — *калиница* 'куст каліны' (фальк.), 'ягада каліны'. Магчыма, гэта беларуская інавацыя (ва ўсх. гаворках), параўн., аднак, серб.-харв. *калиница.* У бел. гаворках зафіксаваны таксама *калінавы мост* (Бяльк., Доўн.-Зап.), параўн. Махэк$_2$, 236. Паралелі да бел. *каліна:* укр. *калина,* рус. *калина* (літар. і дыял.), польск. *kalina,* кашуб. *kalëna,* в.-луж. *kalena,* н.-луж. *kalina,* чэш. *kalina,* славац. *kalina,* славен. *kalína,* серб.-харв. *кàлина,* макед. *калина* (тут у значэнні 'дрэва гранат'), балг. *калина.* Звычайна ў слав. мовах значэнне 'расліна Viburnum opulus', аднак сустракаюцца і розныя іншыя, відавочна, другасныя па паходжанню. Адносна этымона прасл. *kalina* існуюць розныя думкі. Адна з традыцыйных версій, паводле якой слав. лексіку суадносілі са ст.-в.-ням. *holuntar,* ням. *Holunder* 'расліна бузіна, Sambucus', аспрэчваецца Фасмерам, 2, 168, і шэрагам іншых этымолагаў. Паводле Бернекера, 1, 473, слова суадносіцца з прасл. *kalъ* з першапачатковай матывацыяй 'куст з чорнымі ягадамі'. Відавочна, што гэта этымалогія абавязана «каляровай» версіі паходжання слав. *kalъ.* Фасмеру, 2, 168 яна ўяўляецца дастаткова правільнай. Бернекер (там жа) меркаваў аб імавернасці паходжання слова ад *kaliti* (у сувязі з ярка-чырвонымі ягадамі каліны). Брукнер (214) звяртае ўвагу, што *kaliti* этымалагічна не суадносіцца з назвай колеру ('каліць' — 'рабіць цвёрдым, гартаваць', а не 'распальваць'). У апошні час Трубачоў (Эт. сл., 9, 121) аддаў перавагу этымалогіі, паводле якой *kalina* суадносіцца з *kalъ* па прычыне вільгацелюбівасці расліны (так Якабсон, Word, 8, 4, 1952, 388; Махэк, Slavia, 23, 1954, 65; Махэк$_2$ 236, з літ-рай і семантычнымі паралелямі яшчэ ў Naše Řeč, 11, 1927, 121—125). Слаўскі (2, 30) прыняў гэту этымалогію, прыводзячы паўд.-слав. *kalina* 'балота'. Трубачоў (там жа) падкрэслівае, што спачатку *kalina* азначала 'сырое месца', а ўжо потым — вільгацелюбівую расліну. Сапраўды, семантычную паралель да гэтага можна ўбачыць у слав. *bagъno* 'балота' і 'расліна Ledum'. Параўн., аднак, Талстой, Геогр., 158 і інш., аб цяжкасці рашэння пытання, што было першым — назва балота ці назва расліны. У канкрэтным выпадку празрыстасць утварэння (калі прымаць этымалогію Махэка) не пакідае сумненняў першаснасці назвы балота. Разам з тым нельга не адзначыць, што яркія ягады расліны з'яўляюцца істотнай прыкметай (параўн. каліна як сімвал дзявоцтва, гл. падрабязней *калінкі),* апрача таго, існуюць розныя погляды на этымалогію слав. *kaliti.* Параўн. яшчэ ў Тураў-

скім слоўніку, 2, 179: *«Стоіць певень над рэкою с чырвоною бородою»* (загадка пра каліну). У сувязі з гэтым звяртае на сябе ўвагу серб.-харв. *ка̏лика, ка̏љика* 'рабіна, Sorbus aucuparia' і дыял. *калика* 'невялікае дрэўца з плодам, падобным да рабіны, аднак неядомым'. Трубачоў (Эт. сл., 9, 120) адносіць гэта слова да *kalina, kaliti ( < kalъ), kalъ,* аднак якая тут матывацыя? Параўн. яшчэ рус. валаг., арханг. *калúна́* 'моцны нагрэў, жар і да т. п'.

**Калі́наўка** 'рыба краснапёрка, Scardinius erythrophtalamus' (ц.-палес., Пал., Крыв.), *калінка* 'верхаводка, Alburnus alburnus' (зах.-дзвін., Сап.). Рус. пенз. *калиновка* 'гусцяра, Blicca bjoerkna'; паралелі да *калінка* таксама ў рус. гаворках — пенз. 'верхаводка', 'гусцяра', варонеж. 'ялец, Leuciscus leuciscus'. Апрача гэтых прыкладаў, звяртаюць на сябе ўвагу ўкр. *каліняк* 'рыба лінь, Tinca tinca', балг. *каленик, каленича* 'тс', і, магчыма, польск. *kaliniak* (у Варшаўскім слоўніку); Карловіч не падае гэтага слова, статус няясны, хутчэй за ўсё гэта тое ж зах.-палес. (зах.-укр. *каліняк,* гл. спіс крыніц у Усачовай, Этимология, 1971, 129—130). Фармальна слова суадносіцца з *каліна,* а паводле некаторых крыніц такое супастаўленне падмацоўваецца і семантыкай. Параўн. у Усачовай, там жа, 173, адносна ўкр. *каліняк:* 'лінь, які нерасціцца падчас цвіцення каліны', і СРНГ, 12, 356: калін., цвяр. *калиник* 'рыба Abramis brama; буйны лешч'; «Нерестится во время цвета калины». Не вельмі ясна, аднак, якое значэнне з гэтых лексем з'яўляецца зыходным, паколькі рыбы з ліку прыведзеных роднасныя і шмат якія слав. назвы з'яўляюцца для іх агульнымі (гл. падрабязней матэрыялы Усачовай, Этимология, 1971 і наст.). Балг. слова, БЕР (2, 164) супастаўляе з дыял. *калник* 'від балотнай рыбы', у якім *-е-* лічыцца страчаным (ненаціскная пазіцыя). Далей у якасці ўтваральнай асновы мяркуецца ст.-слав. **калѣнь,** з матывацыяй 'рыба, якая жыве ў мутнай вадзе, у балоцістым месцы'. Там жа і се̇мантычныя паралелі: *лайненик* 'гнаявік (жук)', 'рыба, якая жыве ў балоцістай, мутнай вадзе'; таксама звяртаецца ўвага на лац. тэрмін *tinca* ў назве рыбы, які, паводле Младэнава, 228, паходзіць ад кельцкага слова і роднасны балг. *тиня* 'ціна'. Для ўсх.-слав. тэрмінаў лічыць сувязь з *kalina* выпадковай нельга, паколькі намінацыі па такога тыпу мадэлях з'яўляюцца звычайнымі, параўн. празрыстыя рус. дыял. *колосовик* 'буйны лешч, які нерасціцца ў перыяд калашэння жыта', *колосовица* 'рыба рапушка, якую ловяць у чэрвені, калі каласіцца жыта' *колосовка* 'рыба верхаводка, якая нерасціцца ў перыяд калашэння жыта' і інш. Для бел. *калінаўка* 'краснапёрка', магчыма, яшчэ нельга выключыць пэўных «каляровых» асацыяцый, тым

больш, калі згадаць славянскі тэрмін *kalina* як назву каровы па масці (польск. *kalina* 'карова масці ярка-чырвонай', укр. *калина* 'вол цёмна-чырвонай масці'). Няясна, аднак, ці суадносіцца гэты тэрмін з назвай дрэва (колер ягад), ці з *kaliti* 'распальваць', параўн. рус. *калина* 'жар і да т. п.' Не выключана, што ўкр. і балг. лексемы неабходна разглядаць асобна, тым больш, што лінь з шэрагу разглядаемых асобна рыб яўна выдзяляецца. Разам з тым, як ужо гаварылася, няма патрэбы сумнявацца ў вялікай імавернасці суаднясення ўсх.-слав. назваў рыбы і слав. *kalina*.

**Калінéячы** 'калісьці' (карэліц., Сцяшк.). Аформлена як надоечы (гл.); другую частку слова можна разумець па-рознаму. Магчыма, утворана з *неяк (гл.),* але не выключана, што і з *калінь* (гл.). Паводле значэння 'калісьці' хутчэй суадносіцца з *неяк* 'аднойчы'.

**Калíнкі** 'свята ў гонар маладой, калі яна аказалася нявіннай' (З — ч). Рус. арэнб. *калинка,* параўн.: «Пирушка на второй день свадьбы, когда присутствующим показывают свадебную сорочку новобрачной, свидетельствующую о ее невинности, а родителей новобрачной угощают калиновой настойкой» (СРНГ, 12, 356), варонеж. *распивать калинку* (пра абрад на трэці дзень вяселля) больш далёкае, аднак таксама звязана з *калінай. Калину ломати* — у вясельных песнях: 'губляць нявіннасць', *калину стратити* 'згубіць нявіннасць'. Семантыка, відаць, усх.-слав., аднак што датычыць бел. *калінкі* і рус. паралелі, цяжка сцвярджаць, што тут утварэнне таго ж перыяду, хутчэй за ўсё інавацыя ў абмежаваным арэале з наступнай экспансіяй.

**Калінóк** 'струнны музычны інструмент, балалайка' (Бяльк.). Няясна. Дакладных адпаведнікаў у іншых бел. гаворках як быццам няма, у іншых мовах таксама. Паралелі нам невядомыя. Не выключана, што суадносіцца з *каліна* (фармальная сувязь з асновай ёсць), аднак матывацыя няясная. Можа рэканструяваць і форму **коленок,* аднак і да яе паралелі нам невядомыя.

***Кáлінь,** *кóлінь* 'калі-небудзь' (пін., Нар. лекс.). Прыклад мадэлі, рэпрэзентаванай такімі ўтварэннямі ў гаворцы, як *дэнь* 'дзе-небудзь', *хтонь* 'хто-небудзь', *кудань* 'куды-небудзь', *шчонь* 'што-небудзь'. У рус. гаворках адзначаны ўтварэнні тыпу *коли не, колино,* якія адлюстроўваюць іншы тып утварэння і па значэнню не супадаюць з бел. прыкладам. Магчыма, аб такой самай рэдукцыі другога слова (якое ўспрымаецца як складанае з істотна рознымі па функцыі часткамі?) сведчыць

і адзначанае на іншай тэрыторыі *каліль, коліль.* Ізаляванасць гэтых форм дазваляе меркаваць, што яны другасныя і паходзяць ад *колінь.*

**Калі́сь** 'некалі, у мінулым, даўней' (БРС, ТСБМ, Бяльк.; дзярж.; КЭС; Нас.), 'калі-небудзь, у будучым' (ТСБМ), *калісьці* 'некалі, у мінулым, даўней' (БРС, ТСБМ; дзярж., КЭС). У Насовіча ў форме *коли-сь-то.* Сл. паўн.-зах. адзначае формы *калісь, колісь, колесь, колысь* 'некалі, даўней', *калісьці, калісьця* 'тс'. У ТС *колісь* і *коліся* 'тс'. Укр. *колись,* рус. *колись* (смал., зах.-бран., куйбыш.), *колись-то* (курск., смал.). Відавочная бел.-укр. інавацыя, да *koli* (гл. *калі*), *-сь,* відаць, займеннікавага паходжання, параўн. Сразнеўскі, 1, 772. Адносна функцый лексемы гл. спецыяльна ESSJ SG, 2, 356—357.

**Калі́стаўка** 'птушка юрок, Fringilla montifringilla' (рэч., Мат. Гом.). У іншых гаворках адпаведнікаў да гэтай лексемы як быццам не адзначана. Дакладны адпаведнік у рус. алан. *калистовка* 'птушка юрок'. Далей сюды ж алан. *калистик* 'тс', пск., *калист* 'птушка бусел, Ciconia', пецярб. 'Ciconia alba'. Статус бел. слова няясны; рус. лексема падтрымліваецца шэрагам паралелей і нельга выключыць магчымасці, што бел. слова трапіла з рус. гаворак. Адносна рус. можна выказаць меркаванне, што пск. лексема, магчыма, утворана з формы *аист.* Пры гэтым *-л-* перад *-и-* разумеецца як эпентычны, *-к-* як нерэгулярная пратэза. Гэта меркаванне вельмі няпэўнае. Апрача таго, няясна, паводле якой матывацыі аб'яднаны назвай *бусел* і *юрок.* Не выключана, што тут іншамоўнае слова, і падобныя назвы гэтых птушак генетычна суадносяцца толькі на ўзроўні запазычання. Адносна бел. фіксацыі можна выказаць яшчэ і наступнае меркаванне. *Калістаўка* 'юрок' падаецца як патэнцыяльна бел. слова ў Інстр., II, пыт. 105: *юрок, юр, вьюрок, калістаўка...* Як відаць, форма *вьюрок* ужо не з'яўляецца ўласна беларускай; не выключана, што і *калістаўка* адлюстроўвае адпаведнае *калистовка* з вядомай працы Мензбіра.

**Калітá** 'сумка для грошай, вялікі кашалёк' (БРС, ТСБМ), 'грошы, багацце' 'паходная торба, сумка' (ТСБМ). У гаворках: 'мяшок, сумка' (Нас., Булг.), 'мяшочак на грошы' (Бяльк.), 'сумка' (Грыг.), 'скураны мяшок на грошы' (Касп.), скураны мяшэчак' (касцюк., КЭС; Нік. Оч.), 'партманет' (тураў., КЭС), 'мяшок' (лун., Мат. І дыял. канф.), 'кішэня ў скураным поясе (мяшочак)' (Маш.), 'невялікая сумка на грошы', 'скураная сумка, якая носіцца беларусамі пры скураным поясе, у якой захоўваецца крэмень, сталёвыя пласцінкі і трут' (Мядзв.), у Сержпутоўскага слуц. і мазыр. значэнне не вельмі

яснае: *«расперазаўся ён, зняў каліту й лёг на пол спачынаць»* (Сержп., 7), 'самаробны скураны мяшок на грошы' (Чуд., Шн., Яруш.). Таксама шырока прадстаўлена ў беларускай мове памяншальная форма *калітка*. Укр. палес. *калитка* 'кашалёк; мяшочак для табакі, красала', укр. *калита* 'мяшок з грашыма', *калитка* 'скураны кашалёк', рус. *калита* 'кашэль, сумка, мяшок, карман', ст.-рус. *калита* (з XIV ст.), у гаворках адзначана на тэрыторыі, суседняй да беларускай: смал., арл., яраcл. 'разнавіднасць кашалька, скураны мяшочак на грошы і рознага роду дробязей (красала і інш.), які звычайна чапляецца да пояса', валаг. 'кашалёк, сумка', 'кішэня'. Польск. *kaleta* (з XVст.) 'мяшочак для грошай', а ў гаворках *kalita, kalota, kalatka* 'скураная кішэня; скураная сумачка', літ. *kolytà,* лат. *kalīte,* с.-н.-ням. *kalite* 'каліта'. Лічыцца запазычаным з тур. даўнейшага *kalita, chalita* 'кашалёк, мяшочак на грошы' (у тат., казах., алт. *kalta* 'кашалёк, кішэня, скураны мяшок'), якое як быццам бы з араб. *charīta* 'тс' (гл. Слаўскі, 2, 29, дзе і спасылка на літаратуру). Неабходна адзначыць, што дакладная цюрк. крыніца невядомая; Бернекер (1, 474) піcaў пра мяркуемае паўн.-тур. **qalita*. Цікава адзначыць рус. урал. *калита* 'каліта', якое можна разумець як сепаратнае запазычанне, непасрэдна звязанае з прыведзенай рус. лексікай. Лінгвагеаграфія слова, як відаць, выключае магчымасць запазычання кантактным шляхам. Магчыма, што гэта культурнае запазычанне ўжо пасля часоў Кіеўскай Русі, аднак даволі старое (параўн. ст.-рус. фіксацыю); з усх.-слав. моў (з беларускай) слова трапіла ў польск. і інш. мовы.

**Калі́тка**$_1$ 'невялікія дзверы для праходу ў варотах, плоце, агароджы; фортка' (БРС, ТСБМ, Касп.; гарад., Сл. паўн.-зах.). Суадносіцца з рус. *калитка* 'тс', якое зафіксавана ў пісьмовых помніках параўнальна позна — з другой палавіны XVII ст. У гаворках адзначаецца таксама калін. 'вароты', цвяр. 'пярэднія вароты для ўваходу на ганак', яраcл., кастр., маск. 'дзверы сялянскай хаты, якія вядуць з ганку ў сені', тульск. 'драўляная крышка, якая зачыняе ўваход у падполле', 'навес'. Характар сувязі бел. і рус. лексем няясны — на поўначы гэта, магчыма, спрадвечнае слова, на іншай бел. тэрыторыі — культурнае запазычанне з рус. мовы. *Калитка* як быццам выключна рус. слова, этымалогіі фактычна няма. Бернекер (1, 474) уводзіць слова ў артыкул *kalita* 'кашалёк', паводле Праабражэнскага, 1, 286, рус. *калита* суадносіцца з *коло, колесо*. Паводле Фасмера, 2, 168, абедзве версіі памылковыя; неабходна рэканструяваць архетып *колита* 'дзверы' ад *колъ*. Словаўтваральны тып, аднак, застаецца незразумелым. Не выключана, што блі-

жэй да ісціны быў Бернекер. На жаль, у нас няма непасрэдных доказаў таго, што *калітка* 'фортка' і *каліта, калітка* 'кашалёк' непасрэдна суадносяцца ў выніку падабенства. Можна толькі меркаваць, што немалую ролю тут магла адыграць не столькі чатырохвугольная форма, колькі падобнасць упрыгожанага чатырохвугольніка кашалька да дзвярэй, форткі, верагодна, замацаваных перакрыжаванымі рэйкамі. Нашы меркаванні заснаваны, галоўным чынам, на ўскосных доказах. Так, параўн. *калітка*$_2$, дзе назіраецца імаверны перанос па форме. Можна прывесці і полац. *у калітачку скласці* (хустку) 'скласці роўненька, квадрацікам, якое, на нашу думку, непасрэдна суадносіцца з шырока засведчаным на рус. моўн. тэрыторыі *калитка* 'пірог, піражок з начынкай, звычайна адкрыты'. Цікава адзначыць, што на магчымую першасную сувязь указвае яўная адідэацыя ў рус. дыял. *калитка* 'піражок з узорам з гарызантальных палосак (у выглядзе «калиткі»). Відаць, няма патрэбы ў пераносе назвы з *калітці* 'кашалёк' на іншыя рэаліі, не выключана, што тут рэалізуецца разгалінаваная семантыка запазычанага слова. Што датычыць лінгвагеаграфіі, то рус. *калитка* 'фортка' ў значнай меры супадае з арэалам адпаведнай назвы для кашалька, аднак на бел. тэрыторыі гэта русізм.

**Калі́тка**$_2$, звычайна мн. ліку, 'чатырохвугольныя ласкуты ў безрукаўцы' (лун. Малч.). Паралелі да бел. слова ў польск. мове: *kalita, kalitka* (у мн. ліку) 'ласкуты ў каftанах', '«зубы», прышытыя да нізу гарсэту' і да т. п. Этымалагічна суадносіцца з *каліта* як 'чатырохвугольнае (скуранное?) упрыгожанне на вопратцы'. Шырока прадстаўлена ў польск. гаворках, што, магчыма, сведчыць аб запазычанні бел. слова з польск. мовы.

**Калі́тка**$_3$ 'лагчына, зарослая кустамі' (Касп.). Адпаведнікаў у бел. мове да гэтага слова няма. Ілюстрацыя ў слоўніку не выключае магчымасці, што тут зафіксаваны мікратапонім: *«Зьвядзі каня ў калітку пасьціць»* (Касп., с. 151). Рус. наўг. *калита* 'частка ворыўнага поля', валаг. 'лес, які знаходзіцца блізка ад вёскі', арханг. *калитка,* паводле СРНГ, 12, 359: «Небольшой земельный участок, выгороженный особо среди одного обода — земельного владения, принадлежащего нескольким хозяевам». Гэтыя факты таксама няпоўныя (мікратапанімія?), але дастаткова аднародны арэал, дзе адзначана слова, сведчыць, магчыма, пра агульную інавацыю. Няясна, на базе якой лексемы ўтворана слова, паколькі магчымая ідэя «чатырохвугольнасці» адносіцца і да *каліта* і да *калітка.* Можна думаць пра сувязь слова з праслав. *kalъ;* дэрыват у такім выпадку павінен быў азначаць спачатку 'вільготнае, балоцістае месца'. Пярэчаць гэтаму відавочныя

рус. паралелі (семантычныя цяжкасці) і словаўтваральны крытэрый.

**Калітка**$_4$ 'расліна гарлачык, Nuphar luteum; Nymphaea alba' (лельч., стол., лун., Бейл.). Паводле лінгвагеаграфічнага крытэрыю неабходна аднесці сюды і *калітки,* адзначанае ў Сержпутоўскага, 63: *«Падплыла дошка к берагу, заплуталася паміж калітак і стала».* Далей сюды ж *калітнік* 'гарлачыкі жоўтыя' (саліг., Нар. словатв.). Бейліна (Лекс. Пол., 422) як адпаведнік прыводзіць укр. *калитник* 'расліна Capsella bursa pastoris', што наўрад ці правамерна. Укр. назва — празрыстае ўтварэнне ад *калита* 'кашалёк, сумка', тое ж і ст.-польск. *kaleta pasterska, kaletki,* літ. *kolytà* 'расліна Thlaspi arvense', матывацыя зразумелая, паколькі насенныя каробачкі вельмі нагадваюць сумкі рознага тыпу, параўн. лац. назву і рус. кальку *пастушья сумка.* Семантыка тэрмінаў для Nuphar, Nymphaea з'яўляецца іншай, параўн. бел. сінонімы: *глечыкі, кушынкі, жбанкі,* палес. *банка, гладышечки,* укр. *кубишка, збанок, банька* і інш. Думаецца, што ўкр. назву для Capsella можна разглядаць асобна ад бел. Апошнія ў такім выпадку — відавочна беларуская рэгіянальная інавацыя. Фармальная сувязь з вышэй прыведзенай лексікай відавочная; цяжка, аднак, аддаць перавагу збліжэнню з *каліта,* паколькі нельга цалкам выключыць магчымай сувязі з *калітка*$_3$. Думаем, што слова неабходна ўсё ж такі лічыць роднасным да *каліта,* аднак не 'кашалёк чатырохвугольнай формы і да т. п.', а ў значэнні 'мяшочак, капшук і інш.'. Падставы для такога меркавання ёсць, паколькі шэраг слав. сінонімаў для Nuphar, Nymphaea сведчыць аб тым, што кветкі або насенныя органы параўноўваліся з галоўкамі маку і называліся тэрмінамі з семантыкай «выпукласці». Параўн. бел. *булдоўка* для Nuphar, *макаўка, макоўка* 'Nymphaea', палес. *болбуткі, бубенчики* 'Nuphar', *болбутки* 'Nymphaea', магчыма, укр. *бабка* 'Nuphar', мак. *водяний бамбулька* 'плод гарлачыка' і інш. Не выключана таксама, што бел. назва — вынік канкрэтнай рэалізацыі больш шыракавядомай мадэлі, паводле якой утвораны і ўкр. і інш. назвы; у такім выпадку можна думаць аб існаванні універсаліі ў межах народнай тэрміналагічнай сістэмы намінацый. У любым выпадку інавацыйны характар назвы відавочны.

**Каліўка** 'бручка, Brassica napus' (ДАБМ, Касп., Мат. Гом.), *каляўка* 'тс' (ДАБМ). Рус. асташ., пск., цвяр., наўг., пецярб. *калевка* 'тс', наўг., пск., цвяр., велікал., уладз., калуж., а таксама ў рус. гаворках Прыбалтыкі *каливка* 'тс'. Рэгіянальнае ўтварэнне ад *каліва* 'бручка', параўн. у такім значэнні

наўг., пск., цвяр. *калива*. Структура апошняга слова не вельмі ясная; нельга прыняць меркаванне Смулковай, Балтызмы, 41, што крыніцай бел. слова з'яўляецца лат. *kāļiš* або літ. *kõlis* 'бручка'. Не выключаецца магчымасць утварэння слова на слав. тэрыторыі (параўн. варыятыўнасць лексемы: *калика, калига, калива, каля* і да т. п.). Адпаведная структура была ўжо ў мове, адкуль пайшла міграцыя тэрміна, магчыма, было некалькі зон, адкуль слова запазычана. Параўн. *каліка* (гл.). Бел. слова сустракаецца ў розных гаворках, што, відаць, сведчыць не столькі аб страце лексемы на большай тэрыторыі, колькі аб розных напрамках яе пранікнення.

**Калíць**1 'пэцкаць' (жытк., Арх. ГУ; ТС), польск. *kalić* 'пэцкаць', 'брудзіць', 'муціць', славін. *kalac* 'пэцкаць, брудзіць' каш. *kalëc,* в.-луж. *kalić* 'муціць', 'запырскваць', н.-луж. *kališ* 'муціць (ваду)', 'пэцкаць', чэш. *kaliti* 'пэцкаць', 'муціць', славац. *kalit'* 'брудзіць', 'муціць' славен. *kalíti* 'муціць', серб.-харв. *ка́лити* 'брудзіць, муціць'. Прaслав. вытворнае ад *kalъ* (гл. *кал*), дзеяслоў на *-iti-*.

**Калíць**2 'бяліць, рабіць пабелку' (тураў., Выг.; гом. КЭС; петрык. Мат. Гом.; кам., Сл. Паўн.-зах., ТС). Укр. палес. *калити* 'мазаць сцяну глінай', польск. *kalić* 'бяліць', славац. *kal'iti* 'бяліць (сцены)'. Беларускае быццам бы толькі палескае, статус іншых фіксацый не вельмі ясны, наўрад ці правамерна рабіць дапушчэнне аб праславянскім характары слова. Бел. інавацыя відавочная — на базе семемы 'мазаць глінай', ад *kaliti* > *kalъ* (гл. *кал*). Утварэнне, паралельнае да *каліць*1 (параўн.).

**Калíць**3 'гартаваць' адзначана толькі форма *калытыся* 'гартавацца' (драг., Жыв. сл.). Статус слова няясны, гэта палескі кавальскі тэрмін і не выключана, што ён запазычаны з суседніх моў. Рус. *калить* 'гартаваць', чэш. *kaliti,* славац. *kalit',* славен. *kaliti,* серб.-харв. *ка́лити,* макед. *кали,* балг. *каля* 'гартаваць'. Праславянская семантыка па-рознаму разумеецца даследчыкамі, існуюць розныя погляды на сувязі слав. лексемы і як вынік былі прапанаваны розныя этымалогіі. Паводле Бернекера, 1, 476, прасл. *kaliti* суадносіцца з ірл. *calath,* кімр. *calad* 'цвёрды', лац. *callum, callus* 'мазоль' і да т. п.; Мее (BSL, 14, 373) шукае сувязі з рус. *колеть* 'цвярдзець'; Ваян (RÉS, 19, 112) лічыць, што слав. *kaliti* — паралельнае з герм. **kōljan* 'ахалоджваць'. Былі і іншыя прапановы, сярод якіх найбольш абгрунтаванай і прынятай у некаторых новых слоўніках з'яўляецца версія аб сувязі слова з прасл. *kalъ,* гл. спец. Махэк, LF, 65, 314—315. Паводле

гэтай версіі, генетычная сувязь лексем відавочная, паколькі ў традыцыйнай (даўняй) ганчарнай вытворчасці цвёрдасць надаецца напальваннем. Такая думка была падтрымана Слаўскім, 2, 29, аднак неабходна адзначыць, што сам Махэк$_2$ (236) адмовіўся ад ранейшай прапановы і прыняў фактычна версію Бернекера. Сумненні таксама ў Машынскага (JP, 39, 1959, 2). Трубачоў (Эт. сл., 9, 124) вельмі ўпэўнена мяркуе аб эвалюцыі семантыкі 'апускаць металічны выраб у ваду, у раствор гліны' > 'гартаваць'.

**Калíць**$_4$ 'напальваць' (Мат. Гом.). Рус. дыял. *калить* 'тс', наўг. і інш. 'грэць і да т. п.'. Можна разумець як вытворнае ад *каліць*$_3$, семантыка зразумелая, паводле геаграфіі — інавацыя ў рус. і часткова бел. гаворках.

**Калíць**$_5$ 'прабіраць, выгаворваць' (Юрч.). У іншых бел. гаворках адпаведнікаў як быццам няма. Рус. раз., уладз., сарат., арханг. *калить* 'лаяць, сварыць; сварыцца', вяц. 'рабіць каму-небудзь строгую заўвагу'. Статус беларускага слова няясны, яно магло трапіць у бел. усх. гаворкі разам з рус. перасяленцамі. Аднак не выключана, што тут незалежныя ўтварэнні; на базе *калить* 'каліць' утвораны рус. лексемы, а бел.— або па той жа семантычнай мадэлі, або ў выніку развіцця семантыкі 'знеслаўляць' (< 'пэцкаць') > 'выгаворваць', параўн. бел. тур. *каляць* 'знеслаўляць' і 'пэцкаць' (да *кал*). Больш верагоднай уяўляецца першы варыянт тлумачэння, параўн. семантычную паралель у рус. маск. *жечь* 'лаяць, сварыць'.

**Кáлка**$_1$ 'галка, птушка Corvus monedula' (слонім., Арх. Бяльк.; Сцяшк. Сл. паўн.-зах.). Польск. *kawka* 'тс'. Фанетыка бел. слова сведчыць аб больш складаным працэсе, хоць сам факт запазычання або ўплыву польск. формы выключыць нельга, аб чым сведчыць і лінгвагеаграфія. Ёсць і іншая магчымасць тлумачэння: *калка* < *галка* (апошняя форма адзначана на галоўнай тэрыторыі, Сл. паўн.-зах.) у выніку існавання дублетаў *к-* і *г-* у запазычаных словах, калі форма з *к-* успрымаецца або як адаптаваная, або як спрадвечная. Гэта, аднак, менш верагодна.

**Кáлка**$_2$, у Доўн.-Зап., 3, 39: *«Кидайса, метайса, завиваты не давайса! Кинь калку (кибалку?) хочъ пидъ лаўку, Сама выбежъ на вулоньку!»*. Далей аўтар адзначае *калка кибалка* 'жаночы галаўны ўбор' і спасылаецца на аналагічныя кантэксты ў Янчука і Чубінскага; паводле гэтага можна меркаваць, што слова было вядома на зах. Палессі дастаткова шырока. Этымалогія няясная; можна суаднесці з *калка*$_1$, паколькі

ў шэрагу назваў сустракаюцца падобныя намінацыі; параўн. рус. дыял. тэрміны для жаночага галаўнога ўбору *кокошка* і *сорока.* Па розных прычынах гэта меркаванне маланадзейнае; магчыма, неабходна параўноўваць з бел. *галка* 'круглы, гладкі камень, якім таўкуць перац, гарчыцу', *галкі* 'галушкі, клёцкі; печыва з мукі і тоўчанай бульбы', аб першаснай семантыцы якіх сведчаць бел. *галы* 'ягадзіцы', славац. *hálka* 'шарык', польск. *galka* 'шар, булдавешка' і інш. Падобная семантыка дапускае параўнанне гэтых лексем з разглядаемым словам; аднак паводле фактычнага крытэрыю такое збліжэнне недакладнае.

**Каллёт** 'верхняя спадніца' (Мат. Маг.). Асіміляцыя зычных. Гл. *камлёт.*

**Ка́лман** 'анучнік, зборшчык утыльсыравіны' (Сцяшк.). Без адпаведнікаў. Слова па структуры нагадвае запазычанне, але відавочна малы арэал распаўсюджання лексемы сведчыць пра магчымы рэгіянальны наватвор. Хутчэй за ўсё, адантрапанімічнае ўтварэнне. З магчымых слав. паралелей звяртаюць на сябе ўвагу рус. зах.-бран. *калманоги* 'кульгавы', бел. *калматы* 'касматы' (гл.), аднак разглядаемае слова наўрад ці суадносіцца з імі.

**Калма́тка** 'расліна жабнік, Filago arveusis' (БРС, ТСБМ). Адпаведнікаў у гаворках як быццам няма; беларускі наватвор ад *калматы* (гл.). Адносна семантыкі параўн. бел. брэсц. *касмотка* 'тс', магчыма гродз. *барадач,* укр. *оповст полевий.* Семантыка ўтварэння празрыстая: розныя часткі расліны пакрыты тоненькімі валаскамі. Разам з тым звяртае ўвагу, што ў шэрагу сінонімаў у большай меры падкрэсліваюцца лекавыя ўласцівасці расліны (бел. *гарлянка,* укр. *горлянка)* і іншыя яе асаблівасці, так што, магчыма, назва з падобнай семантыкай можа быць істотнай пры ўстанаўленні сепаратных сувязей бел. і іншаславянскай лексікі. На жаль, у канкрэтным выпадку гэта зрабіць не вельмі лёгка, паколькі назвы з падобнай матывацыяй для блізкіх раслін сустракаюцца даволі шырока, параўн. бел. віц. *пух* для *Antennaria,* чэш. мар. *myší úško* для Gnaphalium і да т. п.

**Калма́ты** 'пакрыты густымі скудлачанымі валасамі, поўсцю, касматы, кудлаты', 'зроблены са скуры з доўгай густой поўсцю; з доўгім ворсам', 'аброслы валаскамі, пушынкамі; нягладкі' (БРС, ТСБМ). У гаворках: 'ускудлачаны, непрычасаны; касматы' (Мал., Сл. паўн.-зах., Сцяшк., Шат.). Ёсць таксама форма *камлаты* 'тс' (івац., Бір., Працы, ІМ, 6; саліг., Нар. словатв.; Сл. паўн.-зах., ТС, Федар., 1). Дакладных

адпаведнікаў да гэтага слова як быццам няма. Сустракаецца яно толькі ў с.-бел. гаворках; сказаць цяжка, ці вядома шырэй; таксама з дзвюх форм цяжка выдзеліць першасную. Відавочная інавацыя або архаізм, нельга таксама выключыць запазычанне слова. Калі зыходзіць з архетыпу *калм-,* можна прывесці некаторыя паралелі з суседніх рус. гаворак (гл. *калмач* і *камлак*), аднак у лінгвагеаграфічным аспекце яны неістотныя. Для такой структуры можна меркаваць аб праформе *kl̥m-,* магчыма, паралельную да *kl̥t-* і да т. п. (параўн. *калдыга* і інш., гл. вышэй). Аб імавернасці такога меркавання сведчыць зах.-бран. *калманоги* 'кульгавы', у такім выпадку можна думаць аб даўняй семантыцы 'боўтаць', 'боўтацца' і 'кульгаць' ('хадзіць, перавальваючыся'?). Не выключана, што сюды можна аднесці і ўкр. *калмичити* 'змочваць снапы ў вадкай гліне перад пакрыццём даху'. Калі зыходзіць з першаснай формы *камл-,* неабходна мець на ўвазе магчымасць утварэння такой асновы і з больш ранняй **кабл-*. Такая магчымасць уяўляецца тым не менш малаверагоднай, хоць выключыць яе поўнасцю нельга (параўн. *камлук, каблук*). Можна меркаваць аб магчымай сувязі з *лахматы.* Калі метатэза *халматы* сапраўды мела месца, наступнае азванчэнне зычнага не здаецца неверагодным. Апрача ўсяго гэтага, тут мог рэалізавацца субстратны ўплыў (параўн. *жанік ∼ жаніх* і інш. у бел. зоне моцнага балтыйскага ўплыву). У такім выпадку лёгка можна вытлумачыць параўнальна вузкі арэал распаўсюджання бел. слова. Адносна запазычання нічога пэўнага сказаць нельга. Таксама няясна, ці ёсць падставы лічыць разглядаемае слова архаізмам, паколькі нельга падмацаваць такое меркаванне надзейнымі доказамі. Адносна формы *калматы* параўн. яшчэ полац. *хамла́к* (гл. падрабязней пад *калмык*).

**Калма́ч** 'кудлач' (клец., Нар. лекс.). Да *калматы* (гл.), утворана суфіксам *-ач* як *таўсмач* ад *таўсматы* і да т. п. Рэгіянальны наватвор, з іншых дэрыватаў можна назваць бел. *камлак* (гл. *камлакі*) *калмык* (гл.) і, магчыма, смал. *калмык* 'чараўнік'.

**Калмы́к** 'касмыль' (стаўб., З нар. сл.). Дакладных адпаведнікаў няма. Фармальна суадносіцца з смал. *калмык* 'чараўнік' і, магчыма, укр. *калмичити* 'змочваць снапы ў вадкай гліне перад пакрыццём даху' (адносна ўкр. слова параўн. яшчэ *калматы*). Што датычыць семантыкі, можна думаць, што супастаўленне бел. і смал. слова цалкам магчымае. Сувязь семем 'касмыль' і 'чараўнік' уяўляецца натуральнай, параўн. валаг. *космачиха* 'ведзьма' (параўн. таксама падобныя семан-

тычныя паралелі пад *калдун*1). У любым выпадку *калмык* 'касмыль' неабходна кваліфікаваць як беларускую інавацыю з няясным статусам, паколькі смал. прыклад неістотны з пункту погляду лінгвагеаграфіі. Цікава, аднак, дапусціць, што гэтыя прыклады, магчыма, сведчаць аб даўнейшай актыўнасці асновы *калм-,* а таксама актыўнасці семантычнай мадэлі 'кудлаты', 'чараўнік' або падобнай да гэтай. Словаўтваральна лексема не вельмі зразумелая. Дакладны суфіксальны адпаведнік у бел. *касмык* і, магчыма, ва ўкр. *космик* 'тс', адносна ўтварэння параўн. *космак, космок,* памянш., паводле Грынчэнкі, ад *косом* 'касмыль'. Няясна, як суадносіцца разглядаемае слова і полац. *хамлы́к, хамла́к* 'тс' (Суднік, вусн. паведамл.).

**Кало́віна** 'яма на дарозе, выбітая коламі і запоўненая вадой' (мін., Яшк.). Рэгіянальнае ўтварэнне ад *кола* (гл.), магчыма, паралельнае *калявіна,* калі там *-в-* не ўстаўное. Меркаванні адносна суфіксацыі гл. у Сцяцко, Афікс. наз., 144, суфікс генетычна складаны.

**Кало́вішча** 'гразкае месца' (стол., Яшк.). Сувязь з *кал* 'гразь і інш.' бясспрэчная; утворана, відаць, генетычна складаным суфіксам *-ов-ішч-а,* меркаванні адносна якога параўн. у Сцяцко, Афікс. наз., 167.

**Кало́да**1 'кароткае тоўстае бервяно; абрубак тоўстага бервяна, прыстасаваны для якіх-н. гаспадарчых або бытавых патрэб' (БРС, ТСБМ, Бяльк., Касп., Нас., Нік., Радч., Сержп., Сержп. Прымхі, Сцяшк., Федар., Шат., Шатал., Яруш.). У дыялектных слоўніках таксама ўдакладненні семантыкі: 'бервяно, якое вісіць ніжэй вулля на дрэве і не дае мядзведзям разбурыць пчаліную сям'ю' (Анох.), 'каток, якім прыкатваюць пасевы' (Касп.), 'дзесяцівяршковая плаха ў прыстасаванні' (Нік. Очерки), 'кусок тоўстага палена, які прывязваецца на канцы жураўля' (Шатал.), 'кароткае тоўстае бервяно' (Сл. паўн.-зах., ТС), магчыма, сюды неабходна аднесці і *колода* 'сядзенне для малых дзяцей, якія не ўмеюць хадзіць' (ТС, апісанне рэаліі адсутнічае, сувязь з *калода*1 бясспрэчная). Далей сюды дэмінутыў *калодка* 'абрубак бервяна і да т. п.' (БРС, ТСБМ, Бяльк.; воран. З нар. сл.; Касп., Кліх., Нас., Нік. Очерки, Радч., Сержп. Грам., Сержп. Прымхі, Яруш.), 'драўляная падстаўка для кавадла' (зах.-бел., Нар. словатв.), 'адрэзак бервяна для гаспадарчай патрэбы' (Сл. паўн.-зах., Ян.), 'апорны слуп' (Сл. паўн.-зах.), 'нерасшчэплены кругляк дроў' (там жа). Укр. *колода* 'калода, бервяно', гуц. 'тоўсты брусок у прыстасаванні для расцягвання скуры', бойк. 'калода з гнілой сярэдзінай', укр. *колодка* 'абру-

бак бервяна', рус. *колода* 'абрубак бервяна і інш.', дыял. яшчэ і 'ствол старога дрэва, якое гніе на дне ракі, возера, балота', 'намоклы абрубак дрэва на дне ракі', 'вялікі пень', 'драўляны каток для абмалоту збожжа', 'сельскагаспадарчая прылада' і мн. іншыя, польск. *kłoda* 'калода, бервяно' і інш., в.-луж., н.-луж. *kłoda* 'калода, бервяно' і інш., чэш. *klada* 'тс', славац. *klada* 'тс', славен. *kláda* 'калода і інш.', серб.-харв. *кла̏да* 'тс', макед. *клада,* балг. дыял. *клада* 'тс'. Больш падрабязна аб фіксацыях лексікі і слав. сememах гл. ніжэй. Узнаўляецца прасл. *kolda*, дэрыват ад **kolti* 'калоць', семантыка ў немалой ступені рэканструюецца на базе этымалогіі, паводле якой слав. слова паходзіць з і.-е. **kel-/*kol-* 'дзяўбці'. Прасл. значэнне ўзнаўляецца як 'што-н. расшчэпленае, абчасанае', 'абрубак дрэва, калода', параўн. Слаўскі, 2, 259. З і.-е. адпаведнікаў можна прывесці ст.-грэч. *κλάδος* 'галіна, атожылак дрэва', ст.-ісл. *holt* 'дрэва, лясок', ням. *Holz* 'дрэва' і інш., с.-ірл. *caill* 'лес', кімр. *celli* (кельц. **kaldī*), параўн. іншыя адпаведнікі пад **kel-, *kel-, *klā-* у Покарнага, 546. Да прасл. семантыкі параўн. яшчэ Трубачоў, Ремесл. терем., 159.

**Калода**$_2$ 'вулей, зроблены з камля дуплістага дрэва' (БРС, ТСБМ, Анох., віл., ашм., іўеў., З нар. сл., Касп.; слаўг., Нар. сл.; Нас., Сержп. Грам., Сцяшк., Федар. 1, Шат.), сюды ж калодны вулей (Мат. Гом.). Сл. паўн.-зах. адзначае слова з паметамі вільн. і віл.; *кало́да* 'вуллё' (ТС). У Янковай *колодка* 'від вулля'. Сюды далей і празрысты перанос *калода* 'сям'я пчол' (слаўг., Нар. сл.), *калодка* 'тс' (вор., З нар. сл.). Сл. паўн.-зах. (ганц., віл.) адзначае *калода*' сям'я пчол, адзінка пры лічэнні сем'яў пчол', *калодка* 'вулей'. Укр. *колода* 'вулей', *колодка* 'тс', усх.-пал. *колуодка* 'вулей-дуплянка', рус. кур., свярдл. і інш. *колодка* 'вулей у дупле дрэва, борць'; дакладнасць рус. адпаведнікаў не вельмі высокая. Магчыма, бел.-укр. інавацыя, да *калода*$_1$, матывацыя назвы празрыстая. Не выключана, што цесна суадносіцца з польск. *kłoda* 'бочка' і да т. п. утварэннямі.

**Кало́да**$_3$ 'частка красён, навой' (Касп.; рас., Шатал.), *калоды, калодка* 'тс' (Нік.). Сл. паўн.-зах. падае гэтае слова з бел. гаворак на тэрыторыі Латвіі. Апрача бел., адзначаюцца ў іншых слав. мовах: рус. пск., асташк., цвяр., наўг., валаг., калін., маск. і інш. *колода* 'задні навой'. Здаецца, бел. слова нельга лічыць архаізмам у адносінах да бел. тэрыторыі, паколькі кампактны арэал бел. *калода* 'навой' нельга аддзяліць ад рус. фіксацый. Апрача ўсх.-слав., звяртае на сябе ўвагу балг. дыял. *клада* 'любое з дзвюх асноўных бакавых станін у кроснах', што паводле семантычнага крытэрыю нельга лічыць

адпаведным да бел. Відаць, інавацыя ў паўн. бел. і адпаведных рус. гаворках. Трубачоў (Ремесл. терм., 130) адзначаў, што большасць слав. назваў навоя толькі другасна рэквізавана з іншых пластоў лексікі, аднак тыпалагічна найбольш старажытная стыхія адзначаецца ў бел. *калодка,* што, магчыма, своеасаблівае мясцовае вяртанне да найбольш простага (і, відаць, найбольш даўняга) спосабу намінацыі. Неабходна дадаць, што паводле структуры *калодка* з'яўляецца дэрыватам ад *калоды,* якое і неабходна разглядаць у плане прапанаванай Трубачовым версіі аб старажытным тэрміне для навоя.

**Кало́да**$_4$ 'калодзеж' (Федар., 6). Параўн. ілюстрацыю ў Федароўскага, 6, 168: *«Пашла дзеўка па воду, ўваліласе ў калоду».* Статус бел. слова не вельмі ясны — архаізм?, інавацыя? або тут калька? Значэнне бел. слова вельмі цікавае ў плане дыскусіі адносна паходжання слав. назвы студні (гл. *калодзеж).* Звяртае таксама на сябе ўвагу семантычны адпаведнік — літ. *šulinỹs* 'студня' ( < *šùlas,* сярод значэнняў якога ёсць і 'слуп, падстаўка'). Ці не калька? Аднак па спосабу ўтварэння літ. слова іншае, аб матывацыі назваў можна толькі здагадвацца (апісання бел. рэаліі няма, матывацыя літ. слова можа быць рознай). Этымалагічна да *калода*$_1$ (гл.). Да магчымай гісторыі рэаліі параўн. ст.-рус. з канца XVI ст. *колода варничная* 'выдзеўбаная калода, якая замяняе зруб у саляным калодзежы'.

**Кало́да**$_5$ 'мера збожжа' (Нас.). Іншых фактаў з бел. гаворак няма. Лексема адзначаецца Карскім у ст.-бел. мове, аднак не вельмі ясна, як суадносіцца яна з больш новымі фактамі. Укр. бойк. *колода* 'мера збожжа', магчыма, далей сюды неабходна аднесці і ст.-рус. *колода,* для якога мяркуецца значэнне 'мера'. Срезнеўскі падае гэта слова без тлумачэння, у той час як Сл. XI—XVII стст. дае дэфініцыю 'кадзь, кадка, выдзеўбаная з кавалка дрэва'. Ілюстрацыя *(«Перцю же выходила колода безо князя, а пры князи Г колоды на неделю, а колода Н бочек»)* сведчыць хутчэй на карысць дэфініцыі 'мера', паколькі *бочка,* відаць, ужыта тут таксама як мера ёмістасці. Такая думка пацвярджаецца яшчэ і тым, што метрычнае значэнне было ўласціва ст.-бел. лексеме *колода* (параўн. Скурат, Меры, 62, дзе і аб ст.-укр. значэнні). Статус гэтых лексем не вельмі ясны, этымалагічна яны ўзыходзяць да *колода* 'пасудзіна', аднак засведчана такое значэнне вельмі слаба (магчыма, ёсць ст.-бел., параўн. у Скурата, там жа). Слова з такім значэннем ёсць у польск. мове, дзе *kłoda* 'кадаўб', затым 'кадзь' (з XIV ст., аб сучасным дыялектным размеркаванні гл. МАПГ, 3, к. 106) як 'мера' адзначаецца таксама з XIV ст.

Параўн. яшчэ палаб. *klád* 'бочка'. Паводле лінгвагеаграфічнага крытэрыя для бел. мовы нельга выключыць уплыву польскай мовы, аднак пры гэтым неабходна ўлічваць і рус. валаг. *колода* 'кадка-дуплянка', а таксама сведчанне аб ужыванні гэтага слова на захадзе (хоць не выключана, што тут на ўвазе меліся зах.-бел. фіксацыі).

**Кало́да**₆ 'тоўстая, непаваротлівая жанчына' (Жд. 3; міёр., З нар. сл.; Мат. Маг.), *калотка* 'тс' (міёр., З нар. сл.). З прычыны рэгулярнага характару пераносу ад *калода*₁ цяжка з упэўненасцю меркаваць аб статусе слова. Магчыма, незалежныя ўтварэнні па распаўсюджанай мадэлі.

**Кало́да**₇, *колода* 'палатно, якое кладуць на крышку труны' (стол. Нар. лекс.). Мясцовы перанос ад *колода* 'труна'. Рус. валаг., арханг., кастр., маск. і інш. *колода* 'труна, выдзеўбаная з суцэльнага дрэва'. Цяжка меркаваць аб старажытнасці пераносу *колода* 'труна' ад *колода* 'бервяно і да т. п.' (калода₁), магчыма, архаічнае ўсх.-слав., яшчэ да прыняцця хрысціянства (параўн. рэгіянальны палескі звычай пакідаць на могілках бервяно-лодку для нябожчыка); магчыма, спачатку *колода* 'лодка' (з такім значэннем у рус. гаворках — жыздр., калуж. і інш.), якое пазней злілося з паняццем 'труна'.

**Кало́да**₈ 'божая кароўка, Coccinella septempunctata' (Жд. 3; Шатал. З жыцця, Сцяшк.). Паводле матэрыялаў Шаталавай (З жыцця, 166 і наст.), *колода* 'божая кароўка' пашырана ў брэсц., івац., навагр., стол., малар., пін. гаворках, а ў кам.— *кулода*. Апрача гэтага, у злучэннях: *калода-багода* (клец., пруж.), *колода-волода* (кам.), *Матруна-колода* (брэсц.), *Андрэйка-калода, дранчык-калода* (слуц.). *Матруна-колодыця* (кам). Далей сюды ж *калодачка* 'тс' (лід., Сл. паўн.-зах.), параўн. у ілюстрацыі: «У нас называюць калодачка, а божая кароўка — красненькая ў зямлі». Магчыма таксама, што прыгаворы № 626 (Кацілася калода...) і 627 (Гнілая калода...), віц. і ў Дабравольскага (нумерацыя паводле выдання «Дзіцячы фальклор», Мн., 1972) таксама адлюстроўваюць гэту назву. Апошнія значна б пашыралі ў такім выпадку геаграфію слова, якую інакш неабходна кваліфікаваць як паўднёва-заходнюю (з выхадам за межы палескага арэалу). Дакладныя адпаведнікі да бел. слова адсутнічаюць. Пакуль што неабходна кваліфікаваць назву або як бел. інавацыю, або архаізм, або, што не выключана, як запазычанне (ці кальку). Адносна апошняга ніякага пэўнага матэрыялу няма, аднак наяўнасць у слав. мовах запазычанняў для назвы Coccinella ў прынцыпе дапускае такое тлумачэнне

для бел. слова. Фармальнае супадзенне назвы з *калода*$_1$ яшчэ не азначае неабходнасці прыняць такую этымалогію як канчатковую. Разам з тым такая сувязь была несумненнай для Шаталавай (З жыцця, 174), якая мяркуе, што назва магла ўзнікнуць паводле знешняга падабенства да рэаліі. Па сутнасці, той жа думкі прытрымліваецца Уцешны (ОЛА, 1975, 19), які разумее бел. лексему як назву паводле прадмета. Нават калі яго меркаванне правільнае, яно патрабуе ўдакладнення. Іншыя назвы з гэтай класіфікацыйнай групы, паводле таго ж аўтара, усх.-слав. *korbъka* і чак. *gospa škrinica* «каробка божая» (пра божую кароўку). Адзначым, што семантыка прыведзеных лексем дапускае два тлумачэнні. Паводле першага — ўсх.-слав. *коробка,* чак. *škrinica* можна разумець як 'ёмішча' і такім жа чынам разглядаць беларускую назву, для якой неабходна такую семантыку рэканструяваць ('пасудзіна, бочка', 'наогул пасудзіна'). Матывацыя назвы божай кароўкі ў такім выпадку не вельмі зразумелая. Паводле другога тлумачэння, *калода, коробка* — назвы пераносныя, параўн. бел. *калода* 'тоўстая жанчына', рус. смал. *коробка* 'маленькая тоўстая або цяжарная жанчына', параўн. да апошняга рус. калін. *бабочка-коробочка* 'нейкі від матылька'. Семантыка рус. дыял. *коробка, коробочка,* дзе значэнні 'тонкі дашчаты гнуты дах над ганкам', 'кошык' і да т. п. сустракаюцца паслядоўна (параўн. яшчэ пашыранае *коробиться, коробатиться,* перм. *коробка* 'сагнутая частка спіны курыцы ці качкі') дазваляе меркаваць, што асноўнай назвай такога тыпу для божай кароўкі магла быць *коробка,* у той час як бел. калода — толькі калька гэтай назвы. Параўн. адпаведнае да прыведзенай рус. назвы бел. брэсц. *бабочка-коробочка* 'божая кароўка'; слова на той жа тэрыторыі; такім чынам, калька магчымая. Супраць такой версіі — відавочна іншая семантыка ўсх.-слав. *колода* і *короб/коробка.* Іншыя версіі: згодна з думкай Уцешнага, ОЛА, 1975, 28—29, 31, для назваў божай кароўкі былі характэрнымі розныя трансфармацыі бел. *багоўка (кàроўка-багоўка),* для іншых — кантамінацыя і да т. п. У прыватнасці, адідэацыю і скажэнне формы нельга выключыць і для рус. *коробка* і пад., і для бел. *калода,* у такім выпадку зыходнай для іх з'яўляецца агульнавядомае *korvъka.* Аднак, калі такое тлумачэнне для назвы *коробка* ( $<$ *коровка)* можна прыняць, сумненні адносна слова *калода* застаюцца. Фармальная варыянтнасць слав. тэрмінаў для Coccinella дазваляе прыняць і такое меркаванне, тым больш, што трансфармацыі адбываюцца ў рыфмаваных кантэкстах дзіцячых прыгавораў, аднак іменна апошні факт дазваляе прапанаваць яшчэ і наступнае тлумачэнне назвы. Так, для шэрагу бел.

тэкстаў лексемы *калода, пень-калода* з'яўляюцца характэрнымі. Параўн. прыклады з «Дзіцячага фальклору», 363 і наст.: *«Божая каройка, што заўтра будзе — Дождж ці пагода, пень ці калода?»* Нельга выключыць, што бел. слова таксама эксцэрпіравана з вышэй прыведзеных і іншых тэкстаў.

**Калода**$_9$, *колода* 'рад саломы на страсе' (ТС). У ілюстрацыі: «Колода — одзін шар соломы, як стромчэйша хороміна, то дзев'яць колод» (ТС, 2, 207). Далей, магчыма, сюды ж таксама тур. *жыто як колода* 'густое, добрае жыта', тое ж і адносна травы, *трава колодою* 'густая трава'. У беларускіх гаворках адпаведнікаў да гэтых лексем не выяўлена; тут або інавацыя, або архаізм. Магчыма, да *калода* 'трубка палатна' (адкуль вычляняецца семема 'шчыльна скручанае'?). Звяртаюць на сябе ўвагу таксама некаторыя славянскія ўтварэнні, дзе семантыка «густаты» з'яўляецца відавочнай. Можна прывесці ўкр. *колода* '(у ганчароў) партыя місак, да 35 штук, укладзеных адна ў другую; ставіцца бокам у ганчарную печ' (прыклад двухсэнсоўны, можа, тут перанос паводле падабенства ад *колода* 'бервяно'), 'чарада' («Колода — отара, як іде тісно, не в роспаш», Грынч., 270), рус. кастр. *колода* 'самы вялікі лік (у мове дзяцей)', новасіб. 'група людзей, якія носяць адно прозвішча і звязаныя паміж сабой сваяцтвам'. Адносна бел. слова яшчэ мяркуецца (Цыхун, вусн. паведамл.) аб магчымасці ўтварэння ад *калода* 'сям'я пчол'; неабходна адзначыць, што сям'я пчол яшчэ не азначае 'рой', семантыка якога была б больш падыходзячай. Звяртаюць на сябе ўвагу яшчэ і рус. новасіб. *крыша колодой* 'двухсхільны дах', у сувязі з якім узнікаюць няпэўныя асацыяцыі з *калода* 'вулей', паколькі ёсць рус. *колода* 'вулей' і *колодезня* 'пакрышка на вулей'. Магчыма, у такім выпадку бел. *калода* першапачаткова 'страха як крышка ў калоды (вулля)'. Аднак, паводле словаўтварэння і інш. прычынах, гэта вельмі няпэўна. Магчыма, усё-такі ў сувязі з колькасцю саломы, якая патрабуецца для пакрыцця даху? Параўн. у такім выпадку, з аднаго боку, рус. куйбыш. *колода* 'укладка з дзесяці-пятнаццаці снапоў', а з другога — ст.-рус. *колотка* 'маток (карункаў і да т. п.) пэўнай таўшчыні'.

**Кало́да**$_{10}$, *колода* 'кавалак або трубка палатна' (ТС). Дакладных адпаведнікаў як быццам няма. Рус. *колодка* 'кавалак карункаў даўжынёй у 10 аршын' неабходна суадносіць хутчэй са ст.-рус. *колодка* 'маток мішуры, карункаў і да т. п. пэўнай таўшчыні'. Бел. *колода* ў такім выпадку — мясцовы перанос ад *колода* 'выдзеўбанае дрэва'. Што датычыць семантыкі, параўн. *калодачкі* 'пянёўе ў птушак', рус. *колодка пера* і да т. п., гл. таксама Аткупшчыкоў, Из истории, 124—126,

дзе для прасл. *kolda* наогул у якасці зыходнай семантыкі мяркуецца значэнне ’нешта выдзеўбанае’. Такім чынам, тураў. *калода* сапраўды ’трубка палатна’, параўн. да семантыкі яшчэ і наступнае слова, а таксама бел. *калодка* ў коле і *трубка* ’тс’.

**Кало́да**₁₁ ў выразе *жыто ў колодзе* ’жыта, якое яшчэ не выкаласілася’ (ТС). Параўн. у прыкладзе: *«На Юрэй, як хорошэго году, то жыто ў колосе, а як плохого — то ў колодзі»* (ТС, 2, 207). Тут *калода* ’трубка’ (жыта ў фазе трубкавання, утварэння трубкі — сцябла). Тая ж семантыка і ў тураўскай назве для трубкі палатна — *колода,* магчыма, сюды ж рус. *колодка пера;* адносна семантыкі (’пяро з поласцю’) параўн. укр. дыял. *колодка* ’першае пер’е маладой птушкі’, далей звяртае ўвагу *калодка* ’ступіца кола’ і трубка ’тс’. Не выключана, што палес. *кадыца* ’ступіца’ таксама адлюстроўвае тую ж семантыку. Сюды, відаць, і бел. *калода* ’студня’, дзе *калода* ’выдзеўбанае дрэва’, фактычна ’труба’. Статус бел. слова — магчыма, усх.-слав. архаізм.

**Калода**₁₂ ’камплект ігральных карт’ (БРС, ТСБМ, Бяльк., ТС), укр. *колода* ’тс’, рус. *колода карт,* дзе адзначаецца з канца XVIII ст. Паводле крыніц бел. слова і характару рэаліі можна думаць, што яно запазычана з рус. мовы. Паводле Шанскага, 11, К, 208, *колода* (іграличая) утворана лексіка-семантычным спосабам на базе *колода* ’абрубак дрэва’; у аснову назвы пакладзена падобнасць поўнай калоды карт з калодкай, абрубкам дрэва. Наіўнасць такой этымалогіі відавочная, разам з тым неабходна адзначыць, што пошукі этымона на ўсх.-слав. глебе могуць быць і небесперспектыўнымі. Так, параўн. шэраг фактаў, сабраных намі (гл. *калода*), а таксама рус. дыял. *колода* ’цюк, звязка рыбалоўных снасцей (сетак) у 50 «делей» (г. зн. кускоў пэўнай велічыні)’ (Касп.), ’частка рыбалоўнага невада — адно звяно ў сетцы («дели»). Гэтыя факты дазваляюць меркаваць пра наяўнасць лічбавага значэння ў слове *колода,* якое магло складвацца рознымі спосабамі, у тым ліку і на базе розных мер ёмістасці. Было і нейкае даўняе значэнне ў гэтага слова, аб якім пісаў Даль (*калода* ’сто мільёнаў’) і якое адзначана ў рус. кастрам. (у мове дзяцей) як ’самы вялікі лік’. Разам з тым, няма дакладнай інфармацыі адносна лічбавага значэння слова *колода,* якое б супадала з колькасцю карт у калодзе (52). Рус. *колода* ’цюк з 50 сетак’ можна разумець па-рознаму, да таго ж зафіксавана яно толькі аднойчы. Магчыма, большую ўвагу неабходна звярнуць на ст.-рус. *колотка* ’футляр’, у такім выпадку першапачатковая семантыка назвы ’футляр’, ’запакаваныя карты’, ’набор, камплект карт наогул’. Цікава адзначыць і рус.

дан. *колодочка серняков* 'каробка запалак'. Аднак галоўнае не ў гэтым, паколькі ў даным выпадку сам характар рэаліі патрабуе ў першую чаргу праверкі магчымага іншамоўнага ўплыву. У сувязі з гэтым адразу звяртае на сябе ўвагу той факт, што ўласна запазычання быць не магло — аб гэтым сведчыць празрыстая форма рус. слова. Аднак, паводле семантычнага крытэрыю, непасрэдную сувязь з *калода* 'бервяно' дапусціць нельга (як перанос). Думаецца, што рус. *колода (карт)* неабходна суаднесці *талия/талья (карт)*. Даль (2, 719) тлумачыць: апрача рус. мовы, слова ведае ў тым жа значэнні польск. мова *(talja)*. Фасмер не звяртае ўвагі на гэту лексему, у той час як яна непасрэдна суадносіцца з адпаведнай тэрміналогіяй у зах.-еўрап. мовах. Можна спаслацца на ням. *Taille* 'новая калода карт', *Taill schlagen* 'пачынаць новы круг у гульні', *taillieren* 'тасаваць карты' (і 'адкрываць'), франц. *tailler* 'банкаваць', якія, відаць, толькі часткова адлюстроўваюць як даўнюю картачную тэрміналогію, так і сувязі з асноўным значэннем зыходнага дзеяслова 'рэзаць, сячы і мн. інш.', параўн. семантыку франц. *tailler,* італ. *tagliare*. Значэнне 'абрубак' ( < 'сячы') не падаецца сучаснымі слоўнікамі для вытворных ад гэтых дзеясловаў, аднак лёгка рэканструюецца. Апрача таго, Мартынаў (вусн. паведамл.) звярнуў увагу на славеснае запазычанне (з італ.) *tálja* 'калода, абрубак бервяна'. Мяркуем, што зацямненне матывацыі вышэй прыведзеных тэрмінаў, празрыстая сувязь з дзеясловам *tailler* і вытворнымі, у шэрагу якіх значэнне 'абрубак' павінна было быць адным з асноўных або лёгка рэканструявацца ў рус. двухмоўным асяроддзі. Такім чынам, рус. *колода* — этымалагічная калька з адпаведнага зах.-еўрап. тэрміна; пры гэтым не выключана, што сам тэрмін не проста быў страчаны, а ўзнік як эфемер ва ўмовах двухмоўя. Апошняе меркаванне не выключае магчымасці звычайнага (аднак з этымалагізацыяй!) калькавання.

**Кало́дачка** 'каленца (у сцябле)' (бяроз., Шатал.), 'суставў' (там жа). Адносна семантыкі параўн. ілюстрацыю да першага значэння: *«На соломынэ аж тры колодычкы вырослі»* (с. 70). Паводле Цыхуна (вусн. паведамл.), тут перанос ад першапачатковага *калода* 'трубка, сцябліна ў злакавых'. Да матывацыі параўн. *калена як* 'патаўшчэнне, вузел на сцябліне' і 'частка сцябліны паміж патаўшчэннямі'. Прыклады адпаве́дных утварэнняў: *калена* 'сустаў пальца рукі', і на той жа тэрыторыі (бяроз.) *«жыто пошло ў каленцы»*. Выходзячы з прыведзеных фактаў, менш верагодна думаць аб першаснасці значэння 'сучляненне як патаўшчэнне'. Паводле першага тлу-

мачэння назва матывуецца звычайнымі пераносамі ў межах устаноўленай (і ўжо дыфузнай) семантыкі; калі ж прыняць другую версію, цяжка абгрунтаваць яе з боку семантыкі. Параўн. яшчэ інфармацыю па *калода*.

**Калодачкі** 'пянёўе ў птушак пасля ліньки' (лід., Сл. паўн.-зах.). Абмежаваныя звесткі аб гэтым слове ў крыніцах па беларускай мове не адлюстроўваюць сапраўднай карціны пашырэння слова. Укр. зах. *в колодочки вбиватись* (пра куранят), *колодка* 'першыя пёры маладой птушкі', рус. *колодка пера,* ст.-рус. з XVII ст. *колодка* (у гусінага пяра). З іншых слав. моў можна прывесці чэш. мар. *kladka* 'тс'. Магчыма, сюды адносіцца і польск. *kodłuch,* зафіксаванае аднойчы ў ст.-польск. мове XVI ст. (у тэксце пра гусінае пер'е і пер'е як пісьмовыя прылады), дыял. в.-польск. *kodłuch* і *kvoduch,* сілез. *kvoduch, koduch, kotuch,* гл. Слаўскі, 2, 326—327. Відавочныя дэрываты ад *kolda* 'бервяно'; матывацыя назвы не зусім ясная. Паводле Слаўскага (там жа), дакладная семантычная паралель да гэтых утварэнняў — *pieniek pióra,* аднак, калі гэта разумець літаральна, нельга не ўбачыць, што *kolda* 'пень' зафіксавана амаль што выпадкова толькі ў некаторых гаворках, а супадзенне значэння пачынаецца, галоўным чынам, у межах другаснай семантыкі (тыпу 'аснова, галоўная частка і да т. п.'). Пры апошнім разуменні прапанаваную Слаўскім паралель можна прыняць, але неабходна адзначыць, што сама па сабе гэта частка пяра з'яўляецца нейкім аналагам ніжняй часткі дрэва без галін і сукоў. Да семантыкі вышэй прыведзеных фактаў параўн. яшчэ і *пень, пні* 'рэшткі пер'я ў ашчыпаных птушак', не выключана, што гэта значэнне сведчыць на карысць неабходнасці размежавання значэння 'пень пяра' і 'ніжняя частка пяра', якая з'яўляецца трубчастай. Апошняе нагадвае семантыку тур. лексемы *калода* ў дачыненні да трубкі (сцябліны) збожжавых, магчыма, тут рэалізавана семантыка «пустаты», якая праглядваецца ў шэрагу фактаў (параўн. *калода*$_{10}$). Цікава, што магчымая двухсэнсоўнасць паходжання назіраецца і ў выпадку з назвай ступіцы *кола,* для якой апрача назвы *калодка* ёсць сінонім трубка (у бел. мове), аднак рус. (зах. паводле Даля) *колода* мае сінонім *маточина* з адпаведнай семантыкай ('аснова' і да т. п.).

**Калоддзе** 'калоды, бярвенне' (БРС, ТСБМ, Нас., Шат.), *калодздзя* 'тс' (Сл. паўн.-зах.), *калодзье* (ТС). Сюды ж зафіксаванае Насовічам *колодзико* 'невялікія абрубкі дрэва' і, магчыма, наступная лексема ў Радчанкі, 240: *«Тольки буду по снитку ходить, По снитку, по лебеду, По колодью, по выколодью».* Слаўскі (2, 259) звяртае ўвагу на магчымасць рэкан-

струкцыі праслав. *koldьje* на базе польск. *kłodzie,* чэш. мар. *kládi,* укр. *колоддя,* бел. фіксацыі (у Насовіча), славен. *klâdje*. Да гэтых прыкладаў неабходна дадаць і рус. смал., арханг., анеж. і інш. *колодье* (ёсць і форма *колодьё*) 'тс'.

**Калодзеж**₁ 'вузкая, глыбокая яма, звычайна ўмацаваная ад абвалаў зрубам, трубамі для здабывання вады з ваданосных слаёў зямлі', 'студня з калаўротам або асверам для чэрпання пітной вады' (БРС, ТСБМ; рэч., Маш.; Нас.), *калодзезь* 'тс' (БРС, ТСБМ, Бір., Шушк., Яруш.), *калодзейзь* 'тс' (ДАБМ), *калодзезь* 'тс' (Касп., Сержп., Сцяшк.), *калодзец* 'тс' (Нік., Оч.?; лаг., тур., Яшк.), *калодзёдзь* 'тс' (жытк., Яшк.), *калодзіж* 'тс' (Бяльк.; сак., Федар.; Шат.; гор., Яруш,), *калодзісь* 'тс' (Бяльк., Сержп. Прымхі, Сцяц.), *калодзядзь* 'тс' (малар., Нар. лекс.), *колодзяж* 'тс' (Маш.),*калодзясь* 'тс' (чырв., ваўк., Бір. Працы, ІМ, 6, Сцяшк.), далей, магчыма, *колодзезь* 'крыніца', параўн. у Радчанкі, 111: *«А в лузе, в лузе, красна калина, Под тою калинкою колодезь тече»,* таксама *калодзеж* 'крыніца на ўзвышшы ў выглядзе азярыны з мноствам пульсуючых струменяў, паверхня вады ў якой мае блакітны колер', 'вельмі глыбокае прыроднае возера з цёмнай паверхняй вады' (слаўг., Яшк.), 'невялікая мінеральная крыніца на высокім месцы' (жытк., Яшк.), сюды ж і празрысты перанос *колодзязь* 'зруб хаты' (жытк., Нар. сл.), *калодзезь, калодзясь, колодэзь* 'студня' (Сл. паўн.-зах.), *калодзісь* 'укладка дроў квадратнай формы' (кар.); *колодзезь* і *колодзедзь* 'студня' і 'зруб' (ТС). Аб размеркаванні лексем гл. яшчэ ДАБМ, к. 241, а таксама Камент., 806—807, дзе агляд канкрэтных форм. Укр. *колодязь* 'студня', бойк. *колод'ац* 'крыніца', рус. *колодец* 'студня', алан. *колодез,* курск. *колодезь,* смал., кур., разан., тамб. *колодесь, калодезь* 'зліццё многіх крыніц у адзін ручай, які ўпадае ў раку', сарат., тульск., вяц., паўдн.-уральск. *колодец* 'крыніца', арханг. *колодцы* 'крыніцы, якія зліваюцца разам і даюць пачатак рацэ', арханг., маск., 'незарослы травой правал у балоце', разан. 'зруб'. Дакладны адпаведнік таксама ст.-слав. **кладѧзь,** у слоўніках звычайна прыводзяць серб.-харв. *кла̏денац* 'калодзеж' і 'крыніца', макед. *кладенец,* балг. *кладенец* 'крыніца, студня' а таксама славен. *kladénec*. Апошняе, паводле Безлая, 2, 35, новакніжнае з серб.-харв., а форма *kladez,* якая таксама згадваецца ў некаторых слоўніках, узнікла пад уплывам ст.-слав. лексемы. У серб.-харв. адзначана яшчэ форма *хладенац* 'студня', а ў балг. *гладенец* і *гладнец.* Звяртае на сябе ўвагу адсутнасць слова ў заходніх славян (і фактычна ў славенцаў), што хутчэй за ўсё сведчыць аб

даўняй дыялектнай асаблівасці (яшчэ праславянскага перыяду). Гэта назва студні ў слав. мовах аналізавалася ў шматлікай літаратуры. Гіпотэза аб запазычанні слова з герм. моў (з гоцкай) падтрымлівалася і падтрымліваецца шэрагам этымолагаў. Аргументацыя пабудавана галоўным чынам на словаўтваральным крытэрыі (суфікс у прасл. *koldęzь* не з'яўляецца тыповым) і пашыранай у герм. мове і іншых мадэлі, паводле якой суадносяцца семемы 'калодзеж' і 'холад'. Параўн. агляд літ-ры ў Фасмера, 2, 293. Аднак і «германская» крыніца не з'яўляецца бездакорнай. Так, Кіпарскі (Gemeinslav, 38) адзначаў, што ў германскай мове не знойдзена ніякіх слядоў мяркуемай праформы **kaldingaz, kaldingiz,* параўн. Мартынаў, Лекс. взаим., 65—68. Па сутнасці, рэальныя факты (дац. *kilde* 'крыніца' і нек. інш.) хутчэй з'яўляюцца магчымымі семантычнымі адпаведнікамі, а не словаўтваральнымі. Словаўтваральную варыятыўнасць слова (параўн. нашы прыклады) нельга вытлумачыць, зыходзячы толькі з адзначанай герм. праформы. Славянская этымалогія будуецца на празрыстай сувязі з *kolda* 'бервяно і да т. п.' Пры гэтым, напрыклад, Буга (1, 582) спасылаецца на такую семантычную паралель, як літ. *šulinỹs* 'студня з жураўлём' пры *šùlas* 'стоўп і да т. п.' Аб сувязі з *kolda* меркавалі таксама Брукнер (ZfslPh, 6, 65), Кіпарскі (ВЯ, 1956, 5, 134 і ў іншых працах), Скок (2, 87). Разам з тым нельга не адзначыць, што ў любым выпадку неабходна лічыцца з існаваннем іншай семантычнай мадэлі для назвы студні. Тут і верагодныя герм. назвы з семантыкай «холаду», літ. *šaltìnis* 'крыніца' пры *šáltas* 'халодны', магчыма, серб.-харв. *хладенац* (паводле Скока, 2, 87), балг. *студенец,* польск. *studnia,* в.-луж. *studnja,* н.-луж. *studńa,* чэш. *studně,* славац. *studňa.* Адносна апошніх можна дабавіць яшчэ і рус. *студенец,* укр. *студениця.* Ёсць усе падставы лічыць іх, па-першае, праславянскімі, а па-другое, больш даўнімі ў параўнанні з *koldęzь.*

**Калодзеж**$_2$, *калодзеш* 'ямачка каля пупавіны, па якой вызначаюць малочнасць каровы' (рас., Шатал.). Рус. дыял. *колодези* 'ямка пад рэбрамі, па якой вызначаюць малочнасць каровы' (у Бурнашова без геаграфіі), паўдн.-урал. *колодцы* 'малочныя пратокі ў вымі каровы': *«Как-то выбирают её по колодцам. Как палец-то лезет в этот колодец, то молоко хорошее»* (СРНГ, 14, 156). Фармальная сувязь з *калодзеж*$_1$ і матывацыя назвы празрыстая. Што датычыць геаграфічнага і храналагічнага статусу лексемы, вызначыць яго не вельмі лёгка. Нельга выключыць таго, што адзначаныя факты — толькі рэшткі ўсх.-слав. (а магчыма, паводле геаграфіі рус-

кага?) даўняга ўяўлення і адпаведнай лексемы. Іншы варыянт — лакальная інавацыя, пры гэтым, улічваючы відавочную розніцу ў словаўтварэнні і семантыку прыведзеных лексем, нельга выключыць і такую думку, што гэта наогул незалежныя ўтварэнні, прычым як на базе *калодзеж* 'студня' (параўн. асабліва *калодзеж* у тэхнічных значэннях), так і на базе 'яма з вадой, паглыбленне і да т. п.' Параўн. рус. дыял. *колодезь, колодесь* 'ямка для масла ў кашы'.

**Калóдзіца,** *колодыця* 'калодка ў коле' (малар., Нар. словатв.), *колодіца* 'тс' (лун., Шатал.), *колодзіца* 'тс' (ТС). З адпаведнай суфіксацыяй адзначаецца яшчэ і ўкр. *колодиця* 'тс' (таксама і ўсх.-палес.); рус. гаворкі ведаюць такую структуру, аднак значэнне слова іншае ('пастка для звяроў'). Сувязь утварэння з *калода*$_1$ відавочная, аднак матывацыя не вельмі ясная, паколькі іншыя тэрміны для гэтай рэаліі маюць розную матывацыю. Тут і бел. *трубка,* што дазваляе меркаваць аб адпаведнай семантыцы і для *колодіца* 'выдзеўбаны абрубак', ' калодка', параўн. да гэтага *калода* 'трубка палатна', 'сцябло' і інш. Не выключана таксама, што першаснае значэнне 'аснова', 'галоўная частка' (як у назве тыпу ўкр. *маточина,* рус. *матица*). Яшчэ адзін варыянт тлумачэння — суаднясенне з *калода* як назвай ёмістасці (выдзеўбанай пасудзіне або проста паводле формы?), параўн. палес. *кадушка* 'тс', рус. *ступица* 'тс', таксама і ў назвах вулля: рус. дыял. *колода, ступка, кадочка.* Статус разглядаемага слова: рэгіянальная (заходне-палеская?) інавацыя.

**Калóдка**$_1$ 'капыл, кавалак дрэва ў форме ступні, на якім шавец робіць абутак' (ТСБМ, магчыма, тут у больш шырокім значэнні). Дакладныя адпаведнікі ў гаворках ёсць, аднак ТСБМ ілюстрацый з мовы пісьменнікаў не падае, можа гэта «слоўнікавы» русізм. Але сувязь з *калода*$_1$ відавочная і спосаб дэрывацыі рэгулярны. У гаворках з паметамі талач. і гарад. адзначае Сл. паўн.-зах.; ёсць і ў Касяровіча; геаграфія не выключае іншамоўнага ўплыву. Адзначаецца і ўкр. *колодка* 'тс'.

**Калóдка**$_2$ 'сярэдняя частка кола' (БРС, ТСБМ, Маш., Шат.), *калёсная калодка* (КЭС, лаг.), бар., астрав., лід., віл. Сл. паўн.-зах. Укр. *колодка* 'тс', адносна рус. матэрыялу пэўных звестак няма, Даль (з паметай «зах.?») падае *калода* ў тым жа значэнні, польск. *kłódka* 'тс'. Статус апошняга не вельмі ясны; паводле геаграфіі можна меркаваць аб сумеснай бел.-укр. інавацыі з наступнай экспансіяй слова. Сувязь з *калода*$_1$ відавочная, матывацыя не вельмі ясная (гл. падрабязней пад *калодзіца*).

**Калóдка**$_3$ 'драўляная або металічная aправа, у якую ўстаўляецца або на якую насаджваюць асноўную частку інструмента' (ТСБМ), *кулітка* 'тронкі нажа' (малар., Нар. лекс.), сюды ж, відаць, і *колодка* 'частка рубанка' (Ян.), апошняе не вельмі зразумела. Такое вытворнае як тураў. *колодан* 'гаспадарчы нож з драўлянай ручкай' сведчыць аб больш шырокім распаўсюджанні слова ў параўнанні з інфармацыяй крыніц. Засведчана ў іншых мовах: укр. *колодка* 'ручка, дзяржанне', рус. *колодка,* польск. *kłódka* 'тронкі нажа, відэльца', н.-луж. *kłodka* 'дзяржанне касы, лапаты', в.-луж. *kłotka, kłodka*, 'ручка', чэш. мар. *kladka* 'ручка, дзяржанне сярпа'. Усе лексемы да прасл. *koldъka* (паўн.-слав., паводле Слаўскага, 2, 273), дымінутыва ад *kolda* 'калода, бервяно', аднак не вельмі ясна, ці можна на аснове прыведзеных фактаў узнавіць як архаічнае значэнне 'тронкі'. Шэраг лексем, якія пры адпаведным этымалагічным рашэнні можна суаднесці з разглядаемым словам (параўн., напрыклад, *калодка* 'ступіца ў коле') дазваляюць меркаваць аб значэнні 'аснова', 'галоўная частка' (параўн. яшчэ *колодка пера*), аднак не выключана, што такое значэнне было характэрным ужо для *калода,* г. зн. для зыходнага слова такое значэнне нельга разглядаць як паказчык архаікі (калі дапускаць, што разгалінаванне семантыкі патрабуе часу). Таксама паўн.-слав. характар утварэння *koldъka* 'тронкі' цяжка давесці па прычыне натуральнага развіцця «тэхнічнай» семантыкі, так што, магчыма, прыведзеныя вышэй лексемы могуць быць і незалежнымі.

**Калóдка**$_4$**,** звычайна *калодкі* 'род скуранога абутку на драўлянай падэшве, дзеравяшкі' (ТСБМ; гродз., З нар. сл.). Укр. *колодочка* 'абцас', рус. дыял. *колодка* 'драўляная дошчачка, падэшва, прымацаваная да лапцей для дажджлівага надвор'я', *колодки* 'абцасы', у Даля *колодка* 'драўляны абцас пад абутак'. Відаць, спачатку *калодка* 'абцас', што дазваляе зразумець матывацыю сувязі з *калода*$_1$. Рэгулярны характар утварэння, магчымасць экспансіі рэаліі не дазваляюць з упэўненасцю бачыць тут усх.-слав. інавацыю.

**Калóдка**$_5$ 'абрубак дрэва як функцыянальны элемент народнага абраду' (Касп., Кос., Нас.), 'назва гэтага абраду' (Касп.). Відавочна, што ў большасці прыкладаў захоўваюцца толькі рэшткі абраду, пры гэтым сапраўдная першапачатковая *калодка* змяняецца да трэскі або веліконднага яйка. Абмежаваная геаграфія слова як быццам дазваляе бачыць тут інавацыю; аднак наяўнасць слова ў двух розных арэалах не выключае магчымасці больш даўняга паходжання. Пра звычай «валачыць калодку» ў літоўцаў, латышоў і ўкраінцаў

пісаў Снегіроў (Русские простонародные праздники и суеверные обряды, I. М., 1837, 114—115), параўн. яшчэ Фрэнкель, 1047; Мюленбах-Эндзелін, 1, 318 (bluku vakars). У літоўцаў *tabala* 'цурбанны вечар, куцця', фактычна звычай у гэты святочны вечар гуртам валачыць цурбан з аднаго двара ў другі. У плане рэалій інтэрпрэтацыя прыведзенага матэрыялу можа быць рознай: гэта можна разглядаць і як стары абрад, які быў захаваны ва ўсходніх славян (а магчыма, і ў іншых), не выключана, што была невыпадковая кансервацыя — захаванню абраду спрыяла суседняя балтыйская традыцыя, можна разумець і як экспансію абраду з больш-менш кампактнай зоны; пры гэтым фактычная безупыннасць у распаўсюджанні (ад балт. плямён да ўкр. тэрыторыі) можа сведчыць пра напрамак экспансіі. Цяжкасць стратыфікацыі з'явы абумоўлена, магчыма, агульнаеўрапейскім яе характарам (першапачаткова), што наогул тыпова для свят розных каляндарных цыклаў народаў Еўропы. Апошняе з'яўляецца вынікам як генетычна суаднесеных з'яў, так і другасна пашыраных. Адносна канкрэтнага выпадку аб першапачатковай функцыі калодкі-цурбана можна толькі здагадвацца (яе прымацоўвалі хлопцам або незамужнім дзяўчатам), аднак аднолькавая назва рэаліі ў балтаў і ўсх. славян дазваляе меркаваць, што замена першапачатковага святочнага атрыбута нейтральнай *калодкай* з адпаведнай субстытуцыяй назвы была даўняй.

**Калóдкі,** *колóдкэ* і *колы́ткы* 'скураныя нашыўкі на аброці, навочнікі' (малар., Нар. словатв.). Здаецца, зыходнай формай можна лічыць *колыткы;* што датычыць формы *колодкэ,* тут, відаць, недакладны запіс складанай зах.-палес. фанетыкі. Такое меркаванне даказваецца, галоўным чынам, семантычным паказчыкам, паколькі фармальная сувязь з *калода*$_1$ ніяк не пацвярджаецца семантычна. У той жа час і фармальная, і семантычная суаднесенасць з *каліта, калітка* асобых сумненняў не выклікае, але не вельмі ясна, ці быў тут перанос паводле падабенства, ці толькі рэалізацыя «дыфузнага» тэрміна для падыходзячай рэаліі. Параўн. семантыку слова *каліта*$_1$ і наст. (гл.).

**Калотка** 'клін, які ўстаўляецца ў рукаў' (маст., Сл., паўн.-зах.). Фармальная сувязь з *калодка* ($<$ *калода*$_1$) як быццам відавочная, аднак матывацыя няясная. Магчыма, неабходна, мяркуючы па форме слова, суадносіць з *калоць* 'шчапаць' і ўзнаўляць значэнне 'клін' (калотка 'тое, чым колюць'), аднак гэта вельмі няпэўна. У сувязі з апошнім супастаўленнем звяртае на сябе ўвагу польск. *kłótka* 'паленца, трэска', якое Карловіч, 2, 337, адносіў да *kłódka* ($<$ *kłoda*).

***Калохаць,** *калохаты* 'пужаць' (драг., З нар. сл.). Іншых фіксацый гэтай лексемы ў бел. гаворках як быццам няма. Адпаведнік да палес. слова ва ўкр. мове — *колошкати* 'тс'; Грынчэнка (2, 372) прыводзіць цікавы кантэкст з Паўлаградскага павета: *«Я гнав овець до старости, а вони два перебігли та й давай мені колошкати овець: кшикають на вівці, одбивають од мене. Я кричу: не полохайте, а вони колошкають».* Тут ужываюцца разам і *колошкати* і *полохати*. Выпадкаў, калі гукі *-п-* і *-к-* у пачатку суадносяцца, вельмі мала, аднак яны ёсць і выкліканы рознымі прычынамі (метатэзы складу ў слове, кантамінацыя і да т. п.), таму магчымае суаднясенне *полохати* і *колохати* ў прынцыпе цалкам натуральнае. З адпаведнікаў звяртае ўвагу рус. калін. *колохнуть* 'мёрзнуць', аднак прыклад вельмі двухсэнсоўны па ўтварэнню і сюды, відаць, не адносіцца (хоць можна разумець і як першапачатковае 'трэсціся і да т. п.'). Далей, магчыма, сюды адпаведнае па форме да ўкр. прыкладу *колошкацца* 'корпацца, марудзіць' (дзятл., Сл. паўн.-зах.), паколькі такое значэнне з'яўляецца агульным для самых розных лексем. Збліжэнне тым больш магчымае, што для бел. дзеяслова можна меркаваць аб розных першапачатковых значэннях, з якіх пазней развілося 'палохаць'. Калі меркаваць па форме ўтварэння, можна бачыць тут архаічную структуру ( < **kolxъ*). Экспрэсіўнае ўтварэнне (гукапераймальнае) з нерэгулярнай фанетыкай. У такім выпадку звяртае на сябе ўвагу рус. тамб.*талашиться* 'мітусіцца, кідацца і да т. п.' Разам з тым супастаўленне гэта не вельмі дакладнае і далейшая гісторыя слоў няясная.

**Калоць**₁ 'датыкаючыся чым-н. вострым, выклікаць боль; утыкаючы што-н. вострае, рабіць дзірку, адтуліну ў чым-н., праколваць', 'бадаць, пароць (рагамі); забіваць чым-н. вострым (свіней)', 'рассякаць на часткі; расшчапляць, раздрабняць' (ТСБМ). У гаворках адзначаюцца значэнні 'датыкаючыся вострым, выклікаць боль і да т. п.' (Бяльк., Касп., Нас., Сержп. Прымхі, Яруш.), 'забіваць свінню' (Сержп. Прымхі), 'забіваць (рыбу) васцямі' (полац., З нар. сл.), 'рассякаць на часткі, расшчапляць' (Радч., Юрч.); у форме *калоцца* 'бадацца' адзначаюць Мат. Гом.; *калоць* 'бадаць; забіваць; адчуваць востры боль, шчапаць' (Сл. паўн.-зах.), *колоць* 'расшчапляць, калоць дровы; біць рагамі' (ТС). У іншых мовах: укр. *колоти* 'калоць, бадаць, забіваць', ' калоць свіней; расшчапляць, калоць дровы', рус. *колоть* 'калоць; раздрабляць; забіваць свіней; калоць дровы і да т. п.', у гаворках яшчэ і 'бадаць', 'жаліць'. Польск. *kłuć* 'калоць; праколваць чым-н. вострым; раніць вочы', ст.-польск. таксама 'змагацца

на турніры', літар. і дыял. 'забіваць (свінню) і інш.', 'расшчапляць, калоць дрэва' і цікавае ў Ліндэ, дыял. 'прарастаць' (у Карловіча, 2, 377: «*Pszenierka się kole*»). Шэраг польск. значэнняў (гл. Слаўскі, 2, 275) безумоўна пад беларускім уплывам, параўн. адпаведныя спасылкі ў Карловіча, там жа, в.-луж. *kłóć* 'калоць; расшчапляць і да т. п.', н.-луж. *kłojś* у падобных значэннях, чэш. *kláti* 'калоць, забіваць; змагацца на турніры' чэш. мар. 'бадаць; расшчапляць', славац. *klat'* 'забіваць (свіней)', славен. *kláti* 'калоць; расшчапляць; біць; забіваць; кусаць; мучыць і да т. п.', серб.-харв. *кла́ти* 'забіваць; мучыць; калоць; кусаць і да т. п.', макед. *колам* 'забіваць, мучыць', балг. *коля* 'пераразаць горла або адразаць галаву жывелё, калоць', дыял. 'разразаць', ст.-слав. **клати** 'заколваць, забіваць'. Узнаўляецца прасл. *kolti* з відавочна даўняй дыферэнцыяцыяй значэнняў на базе 'калоць (біць, датыкацца чым-небудзь вострым', што давала і 'расшчапляць' і 'забіваць' (адкуль 'мучыць' і інш.), гл. Слаўскі, 2, 275, дзе шырока прыводзіцца ранейшая літаратура. З і.-е. адпаведнікаў звычайна прыводзяць літ. *kálti* 'каваць, выдзёўбваць' (цікава, што адпаведнае да слав. *kovati* літ. *káuti* мае значэнні 'біць, забіваць' зусім не кавальскія тэрміны), лат. *kalt* 'біць'; з улікам іншых і.-е. форм узнаўляюць і.-е. *kol* параўн. БЕР, 2, 564.

**Кало́ць**2 'свідраваць' (Юрч.). Адпаведнікаў да гэтай лексемы як быццам няма. Магчыма, мясцовы наватвор на базе *калоць* 'праколваць дзірку', адкуль 'рабіць дзірку' > 'свідраваць'.

**Кало́ць**3 у выразе *калоць-калоць* 'ківаць з боку на бок, патрасаючы' (Нік. Напоў.), да *калаціць* (гл.).

**Калоша** 'частка штаноў, якая надзяваецца на адну нагу; калашына' (БРС, ТСБМ, Бяльк.; лаг., клец., КЭС; Нас., Сержп., Сцяшк., Янк. 3), сюды ж *калудшачкі* (Сержп. Отч.), у Чачота *колоша* — «літоўскі правінцыяналізм», *калоша* 'абмотка з анучы ад ступні да калена нагі; носяць у час жніва' (Сцяц., Шат.), *калошка* 'частка шкарпэткі, якая аблягае нагу вышэй ступні' (навагр., Нар. сл.), *калоша* 'брыжы на рукаве' (свісл., Шатал.). У форме *калоша, калойша* і *калаша* 'калашына' лексему адзначае Сл. паўн.-зах., *колоша* 'тс' (ТС). Далей адзначаюцца формы *колошва* 'калашына' (пін., Жыв. сл.; драг., КЭС; пін., Нар. лекс.; Тарн.), *колошвіна* (іван., КЭС), *калойша* 'тс' (Сцяшк.), *калошня* 'тс' (Бяльк.), *калошні* 'тс' (Мат. Гом.). Адпаведна ўкр. *колоша* і *холоша* 'калашына', усх.-палес. *колошка* 'ніжняя частка рукава сароч-

кі, які не мае манжэту', *колоші* 'ніцяныя рукавы ў кроснах', *колошні* 'зімовыя суконныя штаны', *холошні,* бойк. *колошні* з адсылкай да *холошні.* У рус. мове ў гаворках *калоша, колоша* і *калоши, колоши* 'калашвына; штаны' таксама цвяр. 'разнавіднасць жаночых панчох з сукна' і інш., дан. 'пер'е на нагах птушкі', *калошва* 'калашына шараварaў', кур. *калошевина* ў Фасмера, 2, 297, рус. і ўкр. словы традыцыйна параўноўваюцца з серб.-харв. *кла̏шња* 'разнавіднасць панчохі', балг. *клашник* 'вопратка без рукавоў' і *клашня* 'грубая тканіна'. У БЕР, 2, 426—427, *клашне, клашна, клашни, клашня* лічацца запазычаным з серб. *кла̏шње* 'від грубай тканіны', *кла̏шња* 'від мужчынскіх штаноў', 'вопратка да калена', пры гэтым усх.-слав. лексіка не згадваецца, як не згадваецца і супастаўленне гэтых лексем у слоўніках Міклашыча, Бернекера. З апошніх па часу толькі слоўнік польскай мовы (у канцы 50-х гадоў) звярнуўся да ўсх.-слав. лексікі, але Слаўскі, 2, 32, толькі паўтарыў даўняе параўнанне гэтых слоў з серб.-харв. *ка̀лача, ка̀љаче* 'галёшы' і зрабіў заўвагу, што гэтыя ўтварэнні неабходна аддзяліць ад запазычаных з ням. *Galosche* (*Kalosche* больш даўняя форма) і што яны з'яўляюцца запазычаннямі больш старэйшага ўзроўню з іншай крыніцы. Відаць, серб.-харв. *ка̀љаче* неабходна разглядаць як параўнальна новае запазычанне, хаця непасрэдную крыніцу прывесці цяжка. Іншы варыянт — гэта кантынуант таго запазычання, крыніцу якога адлюстроўвае, магчыма, і бел. *калычы* 'гетры' (гл.). У такім выпадку як даўнюю паралель неабходна разглядаць серб. *клашња*, якое фармальна і семантычна як быццам бездакорна суадносіцца з бел. *калошня,* укр. *колошня.* Бел. слова распаўсюджана ў рэгіёне, куды ў прынцыпе магло пранікнуць слова з укр. моўнай тэрыторыі (*колошня* ў Бяльк. і гомельскае), аднак нельга выключыць магчымасці, што гэта незалежны ад укр. арэал. Пашыраны на зах. Палессі варыянт *колошва* і форма *калоша, калойша* на асноўнай бел. тэрыторыі выключаюць распаўсюджанне слова з зах.-палес. або праз іх з адпаведных укр. гаворак. Відаць, існавала сапраўды прасл. лакальнае ўтварэнне *kolsьnja* (усх.-слав. *колоша* ў такім выпадку другаснае?). Адносна формы *колошт* неабходна адзначыць, што яе ўсх.-слав. статус не відавочны, паколькі распаўсюджанне слова ў рус. гаворках абмежаванае. Калі ж да таго прыняць пад увагу культурны характар рэаліі, наогул нельга выключыць магчымасці пашырэння слова з бел. і ўкр. гаворак. Так, паводле даных СРНГ, лексема мае шырокую геаграфію. Разам з тым пры аналізе гэтага слова нельга не прымаць пад увагу культурнага статуса рэаліі, што прымушае больш уважліва

прааналізаваць магчымасць запазычання гэтага слова. Франц. назва абутку *galoche* 'скураны галёш' не мае пэўнай этымалогіі. Тэарэтычна нельга выключыць, што тут культурнае запазычанне з вядомай крыніцы. Апошняе ўжо само па сабе ў пэўнай меры тлумачыць нерэгулярную фанетыку, апрача таго, неабходна адзначыць спецыфічную адаптацыю слова пры вусным запазычанні, для якога нельга выключыць і рознае пасрэдніцтва. Адносна серб. *клашња* неабходна згадаць версію аб яго імаверным раманскім паходжанні. Тут маецца на ўвазе даўняе (яшчэ да метатэзы плаўных) запазычанне з лац. *calceus* 'чаравік, чобат'. Як па семантычнаму крытэрыю, так і фармальна гэта не вельмі дакладнае супастаўленне. Семантыка лац. слова можа адлюстроўваць толькі прыватны момант. Параўн. італ. *calra* 'панчоха, шкарпэтка'; 'гольфы', 'павязка на назе жывёлы', *calzone* 'калашына', 'штаны' і франц. *chausson* 'чаравік', *chausse* 'штаны' і інш. Семантыку паўдн.-слав. лексем параўн. у БЕР, 2, 426—427 і асабліва RHSJ, 5, 41—42. Паводле іх версіі, лац. слова само павінна ўзыходзіць да іншамоўнай крыніцы. Што датычыць значэння, хутчэй за ўсё сінкрэтычная семантыка была ўжо ў слова-крыніцы. Думаецца, што паўн.-слав. адпаведнік да серб. лексемы сведчыць аб тым, што лакальнае прасл. запазычанне ўзыходзіць не да лац. лексемы, а да мяркуемай першакрыніцы, магчыма, і праз нейкае пасрэдніцтва. Калі лічыць зыходнай форму на *-sa,* неабходна рэканструяваць архетып *kolsa;* відавочна, што пры дакладнай суаднесенасці з лац. (с.-лац.) *calcea* зыходнай формай павінна быць *kolc-*. (Наим., 209). Паводле Вахраса, Наим., 209, на сапраўды запазычанае ст.-усх.-слав. *колоча* (с.-лац.) уплывала блізкае па гучанню і сэнсу спрадвечнае *холоша,* аднак прапануемая ім этымалогія апошняга слова непераканаўчая, распаўсюджанне гэтай формы абмежаванае, яна не пацвярджаецца паўдн.-слав. прыкладамі. Апрача таго, *х*-пачатковае можна вывесці з *к*-пачатковага.

**Кало́шы**₁ 'капялюхі, пласцінчатыя спажыўныя грыбы з шырокай светла-буравcovered шапкай і на высокай ножцы з венчыкам' (карэліц., Нар. словатв.). Відавочна, маецца на ўвазе грыб Lepiota procera, які, паводле даных Клімчука (Жыв. сл., 187), на Брэсцка-Пінскім Палессі і ў шэрагу гаворак Беларусі носіць назвы *ворона, дрона, каня, ковпак, курка* (адзначаны і шэраг варыянтаў). Звяртае на сябе ўвагу спецыфіка беларускіх назваў (суаднясенне з тэрмінамі для птушак), параўн., напрыклад, укр. у Макавецкага, 10: *бабка, білянка, іванец, колпак, пражівка* і інш. Відавочна, што семантыка *капялюх* або палес. *ковпак,* укр. *колпак,* рус. *зонтик* не дапа-

магае зразумець унутраную форму разглядаемай назвы, якая з'яўляецца як быццам спецыфічна беларускай. Фармальная сувязь з *калоша* 'калашына' вымушае праанaлізаваць магчымую сувязь названых лексем. Найбольш імаверна, як здаецца, лічыць істотнай асаблівасцю грыба полую высокую ножку, якая сама па сабе можа быць успрынята як *калашына*. Цікава прывесці зафіксаваную для шампіньёна назву *калошкі* (Сл. паўн.-зах.), паколькі гэта і роднасны (у плане сістэматыкі) да капялюха грыб і таксама мае і манжэтку, і полую ножку. Цікава, што назву можна было б разгледзець і ў плане спецыфічнай мадэлі «птушыных» назваў, разумець тэрмін для грыба як субстытут «птушынай» назвы, дзе *калоша* 'птушка з аброслымі пер'ем нагамі', параўн. тураў. *пеўні*. Можна спаслацца на адзначаную Клімчуком, там жа, 198, палес. назву для пласцінчатых грыбоў *грыбы с пір'ем*. Што датычыць назвы грыбоў, спашлёмся на зафіксаваную намі ў Мінску *чулочки* 'нейкі грыб' і ўкр. *панчошка* 'грыб Rozites caperata', укр. тэрмін для якога *ковпак* і рус. *колпак* знаходзяць паралель у бел. *колпак* для Lepiota прыведзенай вышэй. Не вельмі яснаназіраецца тут субстытуцыя тэрмінаў або мясцовая назва грыба Lepiota — характарыстыка яго доўгай і стракатай ножкі. Той факт, што адзначана ўжыванне *калошкі* 'шампіньёны', сведчыць, відаць, пра наяўнасць пераносу назвы, аднак няясна, які грыб мог першапачаткова быць так названы.

**Кало́шы**₂ 'абутак з гумы, галёшы' (Бяльк., Сцяц. Нар., Сцяшк.), *калош* (Сцяц. Нар., Сцяшк.). Паводле Сцяцко (Нар., 149), слова ведаюць у шэрагу раёнаў Гродзенскай і Брэсцкай абласцей. Тое ж і ў Сл. паўн.-зах. (*калошы* і *калошкі*). Фіксацыя ў Бялькевіча адлюстроўвае іншую крыніцу: формы *калош*, як і літар. *галёш* разам з формай у мн. ліку відавочныя запазычанні з польск. *kalosz, kalosze* (з XIX ст.), форма *galosz* засведчана ў Ліндэ. У слав. мовах прадстаўлены формы і з пачатковым *k*- і *-g*. Лічыцца, што крыніцай польск. і іншых лексем з'яўляецца ням. *Galosche*, вядомае і ў больш архаічным напісанні *Kalosche*, што, магчыма, тлумачыць і розныя варыянты слова ў іншых мовах. Слаўскі (2, 31) звяртае ўвагу на тое, што форма *galosz* можа непасрэдна паходзіць з франц. *galoche* '(скураны) галёш'. Ням. лексема запазычана з франц., паходжанне якой не вельмі яснае; былі прапанаваны розныя гіпотэзы. У прыватнасці, меркавалі аб пераробцы лац. *calopus* 'капыты', *calopodia* 'драўляныя сандалі'. Была спроба суаднесці франц. слова з лац. *gallica, gallicula* 'гальскі абутак (абутак, які насілі галы)', паколькі з пункту гледжання рэалій спецыяльны від абутку хутчэй мог быць запазычаны. Параўн.

вышэй *калодкі* як відавочна незалежную рэалію; не выключана, аднак, што яе неабходна разумець у больш шырокім кантэксце еўрапейскага драўлянага абутку. Аднак і ў такім выпадку ў плане генезісу больш імавернай з'яўляецца першая версія. Не выключана, што ў франц. назве адлюстраваны вандроўны тэрмін, з якім суадносіцца лац. *calcea* і інш., гл. падрабязней пад *калоша*.

**Калта́ць** 'трохі памыць што-небудзь у сцюдзёнай вадзе' (КЭС, лаг.). Іншыя крыніцы як быццам не падаюць гэтага слова, няма і дакладных адпаведнікаў у іншых усх.-слав. мовах. Дэфініцыя разглядаемага слова здаецца залішне канкрэтнай, відаць, неабходна дапускаць больш дыфузную — 'памыць' або 'пабоўтаць' ('абмыць'). Як роднаснае ў такім выпадку можна разглядаць рус. дыял. (вяц., у Даля да значэння) *колтень* 'атрута або нагаворная вада для сурокаў', а ў якасці адпаведніка — дыял. *колтать* 'качаць, калыхаць, боўтаць і да т. п.' (заходняе, паводле Даля), *колтаться* 'хістацца, боўтацца і інш. '. Рус. *колтать* ' балбатаць і інш.' зафіксавана ў шэрагу гаворак (валаг., пск., цвяр. і інш.), што можна разглядаць і ў плане арэальных адносін і як аргумент на карысць усх.-слав. паходжання дзеяслова, параўн. укр. *ковтки* 'збітыя касмылі воўны', 'завушніцы', рус. *колтки* 'завушніцы' (пск. і паўн.-рус. у Бернекера, I, 660), для рус. слоў прапануецца рэканструкцыя *kъltati,* што разглядаецца як варыянт да *koltiti*. Храналогію лексемы трэба ўдакладніць, паколькі да ўсх.-слав. фактаў неабходна дабавіць польск. дыял. *kiełtać* (варыянты *kiełdać*, *giełdać*) 'кроіць, рэзаць тупой прыладай; малоць (рухаючы); хістаць, круціць, мяшаць', *kiełtać się* 'хістацца, калыхацца' (паўдн.-польск., у Карловіча не фіксуецца, Слаўскі (2, 147) падае эксцэрпцыю з Купалы, JP, 38, 129—131, і інфармуе, што слова зрэдку сустракаецца ў літаратурных творах), далей макед. дыял. *să klъ̆t'a* 'калыхацца, кратацца', адзначанае Малэцкім. На аснове гэтых прыкладаў можна ўзнавіць прасл. *kḷtạti* 'калыхаць, хістаць'; што датычыць абмежаванага распаўсюджання лексемы, гэта можна разумець і як арэальную суаднесенасць, якая сведчыць аб даўніх кантактах племянных гаворак (прасл. дыял. лексема, як аб гэтым мяркуе Слаўскі, 2, 147) і як архаічнасць слова, страчанага большасцю слав. моў. Параўн. яшчэ нашы меркаванні пад *калдун, калдыга* і інш.

**Калтая́,** *калтаўя, келтая, калтуя* 'цапільна' (ДАБМ) (заходняе паводле распаўсюджання), *калтая* (смарг., Шатал.), *келтоя* (на бел. зах. пагранiччы, Смулк., Лекс. балт.), *калтая* 'дошчачка з дзіркай у жорнах, дзе змяшчаецца верхні

канец млёна' (мядз., Нар. сл.), *калтэйка* 'прылада, якой абіваюць лён' (Шчарб.) і яшчэ больш далёкае *кылтуя* 'пабітыя жывёлай пасевы' (чавус., Нар. сл.). Новымі крыніцамі слова фіксуецца на захадзе: *калтуя* 'біч і цапільна', 'таўкач', 'палка, палена'. Паводле лінгвагеаграфіі і фармальнага крытэрыю суадносіцца з літ. *kéltuve* 'біч, цапільна'. У гаворках, паводле LKA, I, к. 55, *keltuve* як генеральная форма адзначаецца галоўным чынам у паўднёва-заходняй частцы Літвы і на ўсходзе (ігн.), а таксама ў астраўной гаворцы на тэрыторыі Беларусі. У шэрагу варыянтаў звяртае на сябе ўвагу форма *keltojà* 'цапільна' (у гаворцы на тэрыторыі Беларусі), якая бліжэй да разглядаемых слоў, аднак гэта форма двухсэнсоўная, паколькі можа адлюстроўваць як зыходны варыянт лексемы, які і быў крыніцай для бел. слоў, так і бел. уплыў на літ. гаворку. Сам факт запазычання слова сумнення не выклікае, аднак відавочная неадэкватнасць рэальна засведчаных літ. і бел. лексем указвае на больш складаны працэс. Няма ніякай патрэбы прымаць меркаванне Лаўчутэ (Балт., 67), што на семантыку лексемы *кылтуя* 'пабітыя жывёлай пасевы' аказала ўплыў літ. *kéltuva* 'жывёла; статак', гэта ў любым выпадку малаверагодная думка навеяна недакладнай дэфініцыяй бел. слова. Адзначым, што ў плане геаграфіі бел. маг. прыклад можна разумець і як суаднесены з асноўным арэалам гэтай лексемы,— як вынік міграцыі насельніцтва, аднак, хутчэй за ўсё, тут субстратная з'ява.

**Калту́ннік** 'расліна гарычка лёгачная, Gentiana pheumontana' (Касп.), *каўтуннік* 'Gentiana uliginosa' (маг., Кіс.). Рус. валаг. *ковтун* 'расліна папараць жаночая, Athyrium Filix Femina', *колтун* 'тс'. Надзейнасць гэтага супастаўлення невысокая, паколькі па спосабу ўтварэння гэта, відавочна, розныя лексемы. Рус. хутчэй за ўсё знаходзіцца ў непасрэднай сувязі з *колтун* 'каўтун, Plica polonica', назву расліна магла атрымаць паводле падабенства пэўных частак папараці да *каўтуна.* Менш верагодна бачыць у рус. назве слова, суаднесенае з усх.-слав. *колтать,* хаця такую сувязь нельга выключыць для рус. валаг. *ковтышек* 'расліна пярэсна, Trollius europeaus', валаг. *колтушки* 'тс', арханг. 'жоўтыя краскі, якія растуць на лузе'. Разам з тым кветкі ў гэтых раслін цяжка характарызаваць у межах семантыкі дзеяслова *колтаць,* калі тут толькі не адлюстравана пабочная семантыка (параўн. вышэй рус. *колтень*). Па гэтай прычыне найбольш імаверна шукаць непасрэдную сувязь разглядаемага слова і *калтун, каўтун* 'Plica polonica'. Паводле фармальнага крытэрыю *каўтуннік* павінен разумецца як назва расліны, якая лечыць ад *каўтуна.* Непа-

срэдных доказаў такога ўжывання Gentiana ў нас няма, аднак вядома, што розныя расліны гэтага роду знайшлі шырокае выкарыстанне ў народнай медыцыне пры лячэнні рэўматызму, ліхаманкі, лёгачных і страўнікавых захворванняў, адзначаюць таксама, што некаторыя віды ў народнай медыцыне вядомыя як сродкі супраць захворвання нервовай сістэмы. Здаецца, што ўжо апошняга сведчання і асабліва звестак пра лячэнне рэўматызму дастаткова, каб лічыць матывацыю верагоднай. Як вядома, Plica polonica — хвароба ўнутраная і нездарма традыцыйна лічыцца, што яна насылаецца чараўнікамі; можна меркаваць па шэрагу сімптомаў гэтай хваробы, што расліна з такім наборам уласцівасцей сапраўды магла ўжывацца як лекавая. Пры апошнім варыянце тлумачэння лексему неабходна кваліфікаваць як інавацыйную (інавацыя на ўсходзе або паўночным усходзе бел. тэрыторыі).

**Калты́га** 'неахайны, брудны чалавек', 'неахайная кабета', *калтыжніца* 'нячыстая жанчына' (гарад., Сл. паўн.-зах.). Насовіч адзначыў *калтыга* ў значэннях 'суцяга, скнара', 'махляр, ашуканец, карцёжнік', *колтыжнік* 'махляр', *колтыжничать* 'выцягваць у другога грошы падманам'. Рус. пск., асташк., цвяр. *колтыг* 'жмінда і да т. п.', *колтыга* 'тс', *колтыжничать* 'скупіцца, быць хцівым', адзначаны таксама ў перм. гаворках *калтышник* 'скупянда', *калтышничать,* а іншыя па форме *колтовня* 'чалавек, які таргуецца за кожную капейку' ў пск., асташк., цвяр. Відавочна, што толькі адзначаныя ў Насовіча словы можна суаднесці з рус. прыкладамі і кваліфікаваць іх як вынік лакальнай бел.-рус. інавацыі. Што датычыць *калтыга* 'неахайны, брудны' і 'неахайная, брудная жанчына', відавочна, што паводле семантычнага крытэрыю з іншымі рус. і бел. лексемамі іх суаднесці нельга. Адносна этымалогіі гл. *калтаць*.

**Калу́жа** 'лужына' (іўеў., Сл. паўн.-зах.; Сцяц., Словаўтв.; слаўг., Яшк., вусн. паведамл.) 'балоціна' (гродз., Сл. паўн.-зах., 2, 381, параўн. ілюстрацыю: *«Жабы па калужах водзяцца*), 'калдобіна' (хойн., Шатал.), *калужына* 'лужына пасля дажджу на дарозе' (кліч., Жыв. сл.; Касп., Мат. Гом.; слаўг., Яшк., вусн. паведамл.; быx., ветк., рэч., Яшк.), 'азярына са светлай вадой на лузе' (рэч., Яшк.), *калужка* 'лужына' (жытк., Яшк.), *калужынка* (віц., Шн.), *калужэнька* (брэсц., КЭС), далей адзначаюцца формы *калюжа* 'лужына' (Мат. Гом.), 'мокрае месца, лужына, балоціна' (жытк., Яшк.), *калюжына* 'тс' (БРС, ТСБМ, Мат. Гом.), 'выбоіна, яма на дарозе ад кола, яміна' (Гарэц., Нас.). Укр. *калюжа* 'лужына', зах. *калюжа* 'тс', 'гразь', 'гразь, прынесеная вадой', бук. 'брудная вада'; рус.

*калужа* 'стаячая вада, ціна, гразь' (паўдн.), вельмі пашыраны дэрыват *калужина* 'лужына і пад.' (цвяр., ярасл., кастр., кур., вяп., уладз., ніжнегар., перм. і да т. п.), 'бруднае, мокрае месца; дрыгва', 'выбоіна на дарозе' і інш., кур., зах.-бран., тульск. і інш. *калюжа* 'лужына' , кур. 'вада ў выбоінах', паўдн., тульск. і інш. 'балоцістае месца, дрыгва, гразь', кур., данск. *калюжына* 'лужына' смал., пск., маск. 'невялікая, але глыбокая выбоіна, дзе ў час дажджу збіраецца вада', пск., смал. 'балоцістае месца, твань', *калюжка* і інш., польск. *kałuża* 'невялікае паглыбленне са стаячай балоцістай вадой' (ст.-польск. з XV ст., таго ж часу і дыял. *kałuż* 'твань, дрыгва'), ст.-польск. 'лагчына, канава з бруднай вадой і да т. п.', 'невялікая сажалка', дыял. форма яшчэ *kałuża,* чэш. *kaluž, kaluže* 'лужына', слова адзначаецца і ў гаворках, славац. *kaluža* 'брудная вада, лужына', славен. *kalúža* 'лужына', серб.-харв. уст., дыял. *kàluža* 'гразь, лужына', серб, *кàљужа* 'тс'. Слав. прыклады дазваляюць рэканструкцыю праслав. *kaluža, kal'uža,* якое, відаць, з'яўляецца навацыяй да формы *kaluga* (параўн. *калюжа,* гл.). Лічыцца вытворным ад *kalъ* (фармант *-ug-ja*), гл. Слаўскі, 2, 35—36, з падрабязным аглядам літаратуры, варыянт з мяккім зычным у аснове, відавочна, таксама стары. Махэк (2, 237) падтрымлівае сувязь з *kalъ,* аднак падкрэслівае, што тут хутчэй за ўсё гаплалогія з **kalo-luža,* аб чым пісалі яшчэ Лось, Фасмер і інш. Трубачоў (Эт. сл., 9, 127) звяртае ўвагу на фармальныя цяжкасці пры такім тлумачэнні (*-l'uža* ў параўнанні з *luža,* таксама і на несупадзенне арэалаў *kaluža* і *luža*). Шэраг аўтараў спрабавалі вытлумачыць слова як злажэнне пачатковага фарманта *ka* і *luža* (так Маліноўскі, PF, 5, 117; Фасмер, 2, 170; яшчэ Міклашыч, 153). Цікава адносна сувязі з *kalъ* або *luža* прывесці інфармацыю, якую падае Шымкевіч, Корнеслов, 133, з уключэннем назвы расліны калужніцы ў артыкул «Лугъ». Аўтар адзначае: «Въ Рейфовомъ Лексиконѣ слово лужа занимает мѣсто особаго корня». Прыведзеная аргументацыя супроць версіі **kalo-luža* датычыць таксама і спробы разглядаць лексему як прэфіксальную. Апрача гэтага, неабходна адзначыць, што як магчымае прэфіксальнае слова *kaluža* Шымкевіч прыводзіць шэраг ненадзейных прыкладаў, для якіх такі спосаб утварэння не з'яўляецца натуральным. Неабходна заўважыць, многія дэрываты ад *kalъ* пацвярджаюць прынятую намі версію, параўн. укр. *калюка* 'вялікая гразь', польск. дыял. *kaleń* 'лужына'. З вытворных звяртаюць на сябе ўвагу, магчыма, усх.-слав. *калужына* і далей славен. *kalužati se,* серб.-харв. *калу̏жати се* 'пэцкацца, вазіцца ў гразі' ў параўнанні з серб.-харв. *калу̏гати се* і бел. тураў. *калюжыцца* 'пэцкацца ў гразь у калюзе'; апош-

нія прыклады, магчыма, неабходна разумець як старажытныя ўтварэнні.

**Калужа́нка,** *калу́жынка* 'кошык' (Мат. Гом.). У іншых беларускіх крыніцах не адзначаецца, аднак сумнявацца ў дэфініцыі як быццам няма прычыны, нягледзячы на непераканӑўчыя ілюстрацыі. Параўн.: *«Ой якія добрыя яблыкі стаяць у калужанцы. У цябе новая калужынка такая харошчая»* (Мат. Гом., 199). Нягледзячы на супадзенне фармальна і па акцэнтуацыі з *калужына* 'лужына' суаднесці гэтыя лексемы, як здаецца, нельга. З магчымых паралелей звяртаюць на сябе ўвагу адзначанае Далем рус. усх.-сіб. *колуга* 'кошык, кашолка' і больш блізкае фармальна тамб. *калужка* 'драўлянае самаробнае выдзеўбанае блюда'. Не выключана, што сюды неабходна аднесці і арханг., халмаг. *калуга* 'драўляная скрыня, рыбнік з прарэзамі, зроблены ў выглядзе лодкі, які выкарыстоўваецца для перавозкі жывой рыбы па вадзе'; на гэту рэалію назва магла перайсці з больш даўняга плеценага вырабу. У такім выпадку, нягледзячы на іншую суфіксацыю, гэты прыклад неабходна кваліфікаваць як больш дакладны адпаведнік у параўнанні з *калужка* 'драўлянае блюда'. Апошнюю лексему, відаць, неабходна супастаўляць з вядомай назвай драўлянай міскі (у рус. гаворках *калга, калгашка, калган, калгушка, колган* і да т. п.). Беларускія і паўн.-рус. прыклады дазваляюць узнавіць аснову *кал-,* хаця, відавочна, поўнасцю выключыць іншай магчымасці нельга. Значэнне асновы пакуль што неабходна разумець як 'плецены выраб', пры гэтым, відавочна, назва характарызавала або яго форму, або нейкую спецыфічную прымету. Дакладных адпаведнікаў у іншых слав. мовах намі не выяўлена, аднак калі дапускаць архаічнасць утварэння, усх.-слав. прыклады можна параўнаць з каш. (славін.) *kalizńa* 'пустое, нежылое памяшканне' і, магчыма, больш падыходзячае па семантыцы рус. с.-ур. *калепа* 'гняздо собаля ў кучы ламачча', разглядаючы іх як роднасныя на ўзроўні асноў. Пры гэтым рускі прыклад не вельмі ясны фармальна, а зах.-слав.— семантычна, што не дазваляе лічыць гэтыя супастаўленні надзейнымі. Калі разглядаць прыведзеныя лексемы як усходнеславянскія, можна паспрабаваць разгледзець іх як дэрываты ад *kalъ* падобныя фармальна да рус. наўг. *калюх* 'пасудзіна для адыходаў (з якой звычайна кармяць свойскіх жывёл)' (як вытворнае ад *kalъ* гэта слова разглядае Трубачоў, Эт. сл., 9, 125, аднак з іншай матывацыяй). Магчыма, архетып рэаліі *(калужанка, колуга)* неабходна разумець як плецены выраб, аблеплены, абмазаны глінай. Пацвердзіць гэта цяжка, хаця як на нейкі аналаг можна спа-

слацца на ўтворанае іншым спосабам серб.-харв. *калѐница* 'сноп саломы, змочаны растворам гліны, які ўжываецца для пакрыцця даху', 'гліняная міска', чэш. дыял. *kalenec* 'тс'. Рус. алан. *колыганка* 'кошык, абмазаны гноем і abліты вадой, прыстасаваны катацца з горак', пск., цвяр., кастрам. *колыжка* 'невялікі вазок', тульск., раз. 'калыска' і паводле тлумачэння Даля «лубяное лукошко или плетюшка» (яросл., вяц.). Паходжанне гэтых лексем зразумелае, параўн., напрыклад, рус. тульск. *колыска* 'плеценая калыска для дзіцяці' або яросл. *колышка* 'плецены кошык', 'плецены кошык для сена', 'вялікі дрэннай работы кошык для бульбы і да т. п.', каляз., цвяр. 'каробачка з бярosты, пасудзіна для вады'. Відавочна, што назва плеценай калыскі магла пераносіцца на іншыя плеценыя вырабы. Не выключана, што ў выпадку з бел. лексемай назіраецца падобны працэс. Словаўтварэнне можна тлумачыць як вынік субстытуцыі суфікса (пры зацямненні ўнутранай формы?); *-ы-* > *-у-* першапачаткова, магчыма, чыста фанетычны працэс *(калыб- калуб-)*, хаця не выключана, што была толькі мена суфікса.

**Калу́н**[1] 'цяжкі тапор з клінападобным лязом для колкі дроў' (БРС, ТСБМ, драг., Жыв. сл.; бяроз, слуц. КЭС, Сл. паўн.-зах.; Сцяц.), укр. дыял. *колун,* рус. *колун* 'тс'. Усх.-слав. утварэнне з суф. *-ун* ад *колоти* 'калоць', якое далей да **kolti*. Вельмі праблематычным з'яўляецца аднясенне да гэтай лексемы балг. дыял. *кулун* 'певень' (Трубачоў, Эт. сл., 10, 160), нават калі ўлічваць ц.-слав. *колоунъ* 'animal quoddam', тым больш, што ўжо рэгулярная суфіксацыя не дазваляе з упэўненасцю сцвярджаць праславянскае паходжанне слова.

**Калуны́** 'буякі, ягады расліны Vaccinium uliginosum' (маст., Сцяшк., Сл.). Не выключана, што назва адносіцца і ўласна да расліны, аднак у этымалагічным плане гэта не так істотна. Рус. валаг. *колун* і *колунь,* расліны роду Cirsium, сувязь з *колоть,* паколькі расліны калючыя, тут відавочная. Больш праблематычнай з'яўляецца такая сувязь для рус. наўг. *колун* 'расліна вежавіца, Turritis glabra', якая з'яўляецца лекавай, што патрабуе іншай матывацыі і для бел. лексемы. У апісанні расліны Vaccinium uliginosum як быццам няма даных, якія б дазволілі звязаць *калуны* і *калоць*. Ягады не калючыя, таму назву тыпу тураў. *колюк* тут, відаць, бачыць нельга. У суседніх мовах назвы для Vaccinium з такой семантыкай у ням. невядомыя. Што датычыць лекавых уласцівасцей расліны (як балг. *колика* 'расліна Euphorbia', *колики* 'расліна Helianthus), назвы празрыстыя, паколькі расліны лечаць колікі, то сапраўды ягады буякоў дапамагаюць пры энтэракалітах.

З моўнага пункту погляду гэту версію давесці не вельмі лёгка, паколькі неабходна дапускаць існаванне слова *калуны* 'колікі, калаццё' і далей сапраўднасць мадэлі назва хваробы — назва расліны (тыпу рус. *прострел*) у канкрэтным рэгіёне. Яшчэ адно магчымае рашэнне падказвае вядомая мадэль, калі расліна атрымоўвае назву па месцы, дзе расце. Аднак і тут няма надзейных доказаў таго, што *калунамі* маглі назваць купіны, хаця тэарэтычна гэта цалкам магчыма. У такім выпадку назва магла быць утворана як *багон, багун* і да т. п. Можна меркаваць яшчэ і аб сувязі з *кал* 'балота, гразь', аднак параўн. словаўтварэнне.

**Калупа́ць** 'падчэпліваючы чым-н. вострым, аддзяляць, абдзіраць што-н.; рабіць у чым-н. паглыбленне', 'капаць, ускопваць', ' капацца, корпацца ў чым-н., дастаючы адтуль што-н.' (БРС, ТСБМ, Бяльк., Касп.; бешан., Нар. сл.; Радч.; Сержп.; Федар. Рук.; Шат.), укр. *колупати,* рус. *колупать* 'тс'. Трубачоў (Эт. сл., 10, 160) на падставе польск. дыял. *kołupać* і ўсх.-слав. лексем дапускае рэканструкцыю прасл. *kolupati.* Верагоднасць такога рашэння нязначная, паколькі статус польск. слова няясны. Карловіч памячае яго як запазычанне з фіксацыяй у мове палякаў на перыферыі (за межамі моўнай тэрыторыі). Слаўскі гэту лексему не разглядае. Большую цікавасць выклікае польск. дыял. *kłupać* 'калупаць', асабліва ў сувязі з бел. *клупаць* і рус. *клупать,* аднак статус польск. слова няясны. Не вельмі ясны і статус дыялектных значэнняў; не выключана, што яны ў большасці другасныя. Асноўныя факты былі вядомыя этымолагам вельмі даўно і першыя спробы этымалогіі (Міклашыч, Мацэнаўэр і інш.) пакуль што не знайшлі альтэрнатывы. Трубачоў (там жа) лічыць, спасылаючыся на Фасмера, 2, 298, што слова ўтворана складаннем прэфікса *-ko* і дзеяслова **lupati.* Сабалеўскі (Slavia, 5, 444) меркаваў аб гаплалогіі з *кололупати,* аднак з гэтым нельга пагадзіцца і з пункту погляду фармальнага і семантычнага крытэрыю. Паколькі папулярная ў апошні час думка адносна вялікай архаічнасці падобных прэфіксаў надзейна не пацвярджаецца, фактычна няма прычын лічыць разглядаемае слова праславянскім.

**Калу́пашак** 'плецены кош на воз' (Сцяшк.), *колупушок* 'кош для перавозкі бульбы' (Мат. Гом.), 'плецены кораб на сані або воз' (ТС). Рэгіянальная інавацыя, зах.-бел. форма, магчыма, і незалежная. Утворана метатэзай з *палукашак,* які, відаць, да **палукош,* дзе *кош-* назва вялікага кораба на воз. Менш верагодна думаць пра сувязь *палукашак* з вядомым у рус. мове *лукошко* і *лукно.* Таксама нельга лічыць выходнай

разглядаемую лексему, якая магла быць аддзеяслоўным утварэннем ад *калупаць* 'плесці', параўн. смал. *колупаць* 'плесці лапці'. Апошняе — лакальная інавацыя, параўн. бел. *калупаць* 'вязаць' (карункі), утворанае на базе *калупаць* 'марудна вазіцца'. Адносна ўкр. бойк. параўн. *колупінок* і *колупіток* < *полукіпок*.

**Калупа́с,** *кылупас* 'чалавек, які не спяшаецца, робіць марудна' (Яўс.). Мясцовае ўтварэнне ад *калупаць* 'рабіць марудна'. Утворана экспрэсіўным суфіксам *-ас,* параўн. яшчэ *вырвас* 'хапуга', які, апрача магілёўскіх, вядомы яшчэ шэрагу беларускіх гаворак, гл. Сцяцко, Афікс. наз., 62.

**Калу́фар** 'расліна Tanacetum balsamita (віц., Кіс.), *колуфер* 'тс' (Нас.). Рус. *калуфер, кануфер* 'тс', ст.-польск. *karupiel, karupień, karupier, karpiel* 'назвы раслін'. Магчыма, апошняя форма сюды не адносіцца, гл. Слаўскі, 2, 85—86. Крыніцай прыведзеных лексем лічыцца лац. або грэч. назва гваздзікоў *caryophyllum, καρυόφυλλον* гл. Слаўскі, там жа; Фасмер, 2, 771 (дзе і літ-ра). Корш. (AfslPh, 9, 510) меркаваў аб турэцкім пасрэдніцтве (тур. *karanfil*), што цалкам магчыма, калі ўлічыць такую назву, як польск. *turecka piwonia* для Tanacetum balsamita. Расліна вядомая як лекавая і аздобная, у Еўропе сустракаецца і як здзічэлая; відавочна, што назва прыйшла разам з рэаліяй. Для бел. мовы, як можна меркаваць паводле лінгвагеаграфічнага крытэрыю (поўнач і ўсход), пасрэднікам была рус. мова.

**Ка́луш** 'няўмека' (Сцяц.). Няясна, магчыма, утворана з *калупш,* якое да *калупша* 'нетаропкая, марудная жанчына', адзначана на ўсходзе (Яўс.). У такім выпадку да *калупаць* 'марудна рабіць што-н.?' да *калупаць* (гл.). Адносна семантыкі параўн. яшчэ карэліц. *калупа* 'маруда', апошняе прымушае выказаць здагадку і аб магчымай экспрэсіўнай трансфармацыі слова *калупа.*

**Калу́ша** 'чаромха' (Сцяшк. Сл.). Мясцовая трансфармацыя больш шырока вядомага *калакалуша.* Хаця, магчыма, неабходна меркаваць пра непасрэднае ўтварэнне суфіксам *-ух-а* ад *кал* 'гразь, балота'? Гл. усю праблематыку пад *калакалуша.*

**Калцо́** 'кольца' (Сержп. Прымхі), 'кружок' (Сл. паўн.-зах.), 'прывязь у выглядзе абручыка, зробленая з вітак, гужбы ці іншага матэрыялу для звязкі бярвення ў плыты' (круп., касп., З нар. сл.). Гл. *кальцо, кольца.*

**Калчада́н** 'агульная назва мінералаў, якія з'яўляюцца

сярністымі, мыш'яковістымі, а таксама сурменістымі злучэннямі металаў' (ТСБМ). Тэрмін запазычан з рус. мовы, дзе праз франц. *calcédoine* узыходзіць да с.-лац. *calcidonius, chalcedonius lapis*. У сваю чаргу апошняе да χαλκηδών — мясцовай назвы ў Малай Азіі, прым. χαλκηδόνιος гл. Мацэнаўэр, Cizí sl., 210, дзе ў сувязі з рус. *халцедон* звяртаецца ўвага на align рознае паходжанне рус. слоў.

**Калча́н** 'скураная або драўляная сумка, чахол для стрэл' (БРС, ТС, ТСБМ). Ва ўсх.-слав. мовах запазычанне з тат. *kolčan* 'тс', гл. Міклашыч, 123; Бернекер, 1, 543. У бел. мове, мяркуючы паводле крыніц, кніжнае запазычанне з рус. мовы.

**Калчачэ́я** 'месца, дзе збіраюцца людзі, дзе гуляюць дзеці' (слаўг., Яшк.). Утворана з *талчачэя* 'тс', фанетычная трансфармацыя, відаць, не без уплыву наступных *-ч-*. *Талчачэя,* у сваю чаргу, таксама лакальна абмежаванае (слаўг.), параўн. больш шырока вядомае рус. *толчея* ў падобным значэнні.

**Калыба́** 'зыб на рацэ' (гом., Яшк.). Дастаткова блізкія формы адзначаны ў рус. мове: раз. *колыбка* 'гайданка (на моры, возеры, рацэ)' і асабліва адзначае Джэмсам *colliboke* 'хвалі'. Хутчэй за ўсё незалежныя ўтварэнні, вытворныя ад *kolybati* (аб якім гл. пад *калываць*).

**Калыбе́ль** 'калыска' (чырв., ваўк., Бір., Працы ІМ, 6; Бяльк., ДАБМ, Шэйн), *калбель, кальбель* (Бір. Там жа; Жд. 3; Сл. паўн.-зах.), *калюбель* (кір., Нар. сл.). ТС адзначае формы *кольбель, колбель, калыбель* і *колыбель*. Формы з *у* прадстаўлены ў дастаткова абмежаваным арэале: *калубель* (чырв. З нар. сл.; Мал. Сл. паўн.-зах.; Сцяц.; дзятл., слон., Сцяшк.; в.-дзвін., Шатал.), *калубень* (Жд. 2); У іншых слав. мовах: укр. палес. *колибелька* 'калыска', якая стаіць на падлозе', *колыбель* у рус. літар. мове і гаворках; у шэрагу гаворак таксама адзначаюцца формы *колубель* і *колубень*. Паводле Трубачова, Эт. сл., 10, 165, вытворнае з суф. *-el* ад *kolybati* (гл. *калываць*), аднак лінгвагеаграфія за ўсх.-слав. паходжанне, калі не за бел.-рус. інавацыю. Параўн. яшчэ *калы́бка* (гл.).

**Калы́бка** 'калыска' (Нік., Оч.; ЭШ), *калыпка* (Сл. паўн.-зах.). Адносна рэаліі Нікіфароўскі (Оч., 324) удакладняе, што *калыбка* гушкаецца з аднаго боку ў другі, а *зыбка* хістаецца ў вертыкальным напрамку; відаць, пры аналізе лексемы неабходна мець на ўвазе гэты культурны аспект, паколькі *zybъka,* безумоўна, праславянская лексема з больш шырокім арэалам, як і *kolěbъka*. Апрача бел., адзначаюць рус. дыял. *колыбка;* што датычыць фактаў укр. мовы, апрача ст.-укр.

*колыбка* (з XVII ст.) і палес. *колибка* 'калодка ў коле' (спецыфічнае значэнне, параўн. яшчэ бел. *калыска* 'паглыбленне ў бервяне', гл. ніжэй) надзейных фактаў як быццам няма. Гэта, аднак, можна тлумачыць як натуральную страту больш архаічнага, параўнальна з *калыска,* утварэння. Слова ведаюць яшчэ ў кашубскім рэгіёне: славін. *kolipkă,* памор. *ku̯óliıbka, ku̯ólïbka* з больш новых запісаў Сыхты *kolibka* 'калыска', што вельмі цікава ў арэальным аспекце. Паводле Трубачова, Эт. сл., 10, 165, вытворнае з суф. *-ka* ад дзеяслова **kolybati* (гл. *калываць*); статус слова (паўн.-слав.? дыял. прасл.?) акрэсліць цяжка.

**Калыва́ць** 'вагаць, хістаць' (БРС; зах.-бел., Весці), *калывацца* (БРС, ТСБМ, Бір.; Сл. паўн.-зах.; Сцяшк., Федар.). Магчыма, сюды і ашм. *калыта́цца* 'івацца' *(зуб... калытайацца),* калі гэта не з *калатацца* 'калаціцца, трэсціцца — івацца'. Фанетычна дакладная паралель ва ўкр. *коливати* 'хістаць, калываць', 'ісці павольна, хістаючыся', што неабходна разглядаць як бел.-укр. інавацыю на базе больш архаічнага **kolybati* (рэканструкцыю дазваляюць зрабіць зафіксаваныя ў рус. і каш. арэалах лексемы, статус укр. *колибати,* якое прыводзіць Фасмер, 2, 299, няясны). Паводле Трубачова, Эт. сл. 10, 164, да шырока вядомага прасл. *kolěbati.* Звяртаецца ўвага (там жа, 130), што *-y-* ў **kolybati* хутчэй за ўсё дыфтангічнага паходжання, калі гэта сапраўды ў адносінах *-ě-, -oi-* ў *kolěbati.* Той факт, што ад **kolybati* ўтвораны інтэнсівы *kolysati/kolyxati* (больш шырока вядомыя ў славянскіх мовах), безумоўна, сведчыць на карысць вялікай архаічнасці формы **kolybati.* З даўніх прапаноў спробы знайсці і.-е. адпаведнікі (Патабня, Цупіца) падтрымкі не знайшлі, як і меркаванні Міклашыча, а пазней Бернекера аб сувязі з *kolo.* Слаўскі (2, 347) не выключае магчымай сувязі з гукапераймальнымі ўтварэннямі (аналагічныя думкі яшчэ ў Бернекера і Скока) тыпу польск. дыял. *klebotać, chlebotać* 'калываць, хістаць, муціць', рус. *хлебать* і асабліва дыял. *хлебестать* 'калывацца, хістацца і да т. п.'; БЕР (2, 550) дапускае і.-е. праформу **kᵘ̯ol-* што вельмі няпэўна; спосаб утварэння няясны. Трубачоў (Эт. сл., 10, 130, 395) прымае як найбольш верагодную версію, якая была распрацавана Голубам-Копечным (176) і Махэкам₂ (268), дзе *kolěbati* разглядаецца як прэфіксальнае. Пры гэтым пярэчанні датычаць у першую чаргу самога факта такога рашэння, паколькі ў дэталях этымалогія Махэка дастаткова абгрунтаваная. Сапраўды, падобныя прэфіксальныя ўтварэнні (тыпу ўкр. *ковертати*) сустракаюцца сярод дзеясловаў руху, другая частка злажэння добра параўноўваецца Махэкам з літ. *láibas* 'тонкі, высокі', лат. *laĩbs* 'тонкі, слабы', што

з семантычнага пункту погляду таксама сумненняў не выклікае. Трубачоў (Эт. сл., 10, 164) адзначае, што, калі тлумачыць **ko-lěb-* < **loib-*, як Махэк₂, 268, фанетыку кораня **lyb* можна разумець як экспрэсіўную трансфармацыю **loib-* > **lŭib-* > > **lyb-*, а гэта знаходзіць аналогію ў літ. мове, дзе, магчыма, роднаснае *láibas* мае экспрэсіўны варыянт *lùiba, luibà*; аб адносінах *ui/ai* ( < i.-e. *oi*) гл. Буга, Rink., 1, 459; 2, 263; а *lùiba* спецыяльна 1, 298.

**Калыглу́з** 'балаваны хлопец, свавольнік' (Бяльк.), 'расхлябаны чалавек' (Жд. 2), *калыглас* 'гарэза, вісус' (Касп.); Насовічам адзначана форма *колыглаз* з яўнай народнай этымалагізацыяй, параўн. ілюстрацыю: *«У гетого колыглаза по коллю вочи ходзюць»,* параўн. яшчэ смал. *колыглаз: «Что с ним поделаешь — он такой колыглаз — ему хоть глаз коли!»* (СПНГ, 14, 207). Цыхун (Бел.-польск. ізал., 149) прыводзіць форму *калыгвуз,* мяркуючы аб сувязі бел. лексемы і польск. *kałauz* 'вядучы, завадзіла' ў тым плане, што крыніца запазычання лексем была аднолькавай. Слаўскі не разглядае гэтай лексемы, няма яе і ў слоўніку Карловіча, а Варшаўскі слоўнік разглядае як запазычанае з тур. *kelaguz, kelavuz* і да т. п. 'камандзір, правадыр'. Геаграфія бел. слова сведчыць хутчэй аб запазычанні з польск. перыферыйнага дыялекту, а не з турэцкай мовы непасрэдна, апрача таго, неабходна лічыцца з уласна беларускай гісторыяй слова (гл. вышэй заўвагу адносна народнай этымалогіі).

**Калы́м** 'выкуп', 'пабочны заробак' (БРС, ТСБМ), 'хабар' (карм., Мат. Гом.). Сюды ж *калыміць* (ТСБМ, Сцяшк.). Відавочна, запазычана з рус. *калым;* пры гэтым, відаць, неабходна аддзяліць *калым* 'выкуп' як «слоўнікавае» запазычанне, у той жа час як *калым* 'пабочны заробак', 'хабар' сапраўднае запазычанне, магчыма, і рознымі шляхамі.

**Калыма́га** 'даўнейшая карэта з высока размешчаным кузавам' (ТСБМ), 'калёсы' (ТСБМ; карм., Мат. Гом.); як прыклад да адказу на пытанне «Павозка для агульных работ» прыводзіцца ў Інстр. І. Што датычыць лексемы ў ТСБМ, гэта відавочнае «слоўнікавае» запазычанне; адносна паходжання *калымага* 'калёсы' гл. *каламажка*₁.

**Калы́ска**₁ 'плецены або драўляны дзіцячы ложак (звычайна падвешаны на вяроўках да столі), які можна калыхаць, гушкаць' (БРС, ТСБМ, Бяльк., Гарэц., Грыг., Касп.; КЭС, лаг.; Мал., Мат. Гом.), *колысочка* (Радч., Сержп. Прымхі, Сцяшк., Шат., Яруш.), *калыска-палатнянка* 'палатняная калыска накшталт заплечнай ношкі' (Жд. 3), 'гушкалка' (Нас.), 'арэлі,

гушкалка' (Сл. паўн.-зах., ТС, Ян.). Укр. *колиска* 'люлька' і 'арэлі, гушкалка', рус. *колыска* 'тс', польск *kołyska* 'люлька' (і ст.-польск.; Слаўскі (2, 377) звяртае ўвагу толькі на спарадычныя фіксацыі ў гаворках), чэш. мар. *kolíska* 'люлька', славац. *kolíska* 'тс'. У гаворках не заўсёды паслядоўна слова азначае рэалію з «маятнікавым» рухам, што, відаць, пазнейшае і для этымалогіі неістотна. Лінгвагеаграфія не выключае магчымай экспансіі рэаліі разам з назвай, аднак акрэсліць цэнтр інавацыі (усх.-слав. тэрыторыя?) даволі цяжка. Паводле Слаўскага, 2, 377, паўн.-слав. **kolysъka* ад **kolysati* (гл. пад. *калыхаць*).

**Калы́ска**₂ 'паглыбленне ў адным бервяне, у якое кладуцца іншыя, каб не раскачваліся пры перавозцы' (Жд. 3). У іншых слоўніках як быццам не адзначаюцца. Апісанне рэаліі не вельмі дакладнае, па гэтай прычыне сувязь з *калыска*₁ (перанос па функцыі? форме?) уяўляецца не адзіна магчымай, ва ўсякім разе шэраг роднасных лексем сведчыць аб апасродкаванай сувязі, пашырэнні новага тэрміналагічнага значэння. Так, звяртаюць на сябе ўвагу рус. валаг. *колыга* і *калыга* 'крыты выгіб (палазоў, абручоў і да т. п.)', дзе сувязь (семантычная з *калыска*₁) можа быць яшчэ непасрэднай, арханг. *колыга* 'кожны з двух падоўжаных бакавых брусоў, якія злучаюць пярэднюю і заднюю часткі дроў'. Невялікая надзейнасць такога супастаўлення ў тым, што сувязь з рус. *калыга, калыжка* і да т. п. з'яўляецца праблематычнай. Бел. хутчэй за ўсё рэгіянальны наватвор.

**Калы́ска**₃ 'агрэх' (Мат. Гом.). Ілюстрацыя ўдакладняе: *«На полі ў цябе асталася калыска»,* аднак рэалія застаецца няяснай — ці гэта агрэх пры пасеве, ці пры ўборцы. У іншых крыніцах не фіксуецца. Сувязь з *калыска*₁ не выключана, развіццё значэння: 'паглыбленне ў глебе' → 'месца, адкуль цяжка выкасіць што-н.' → 'агрэх'. Далей, калі назва абагульняецца, 'агрэх наогул'. Іншы варыянт тлумачэння зыходзіць з таго , што *калыска* азначае 'агрэх пры пасеве'. У такім выпадку слова можна параўнаць з вытворнымі ад *лысы, якія ў рус. гаворках з*'яўляюцца цікавым матэрыялам для рашэння гэтай задачы. Так, у СРНГ знаходзім *лысина* 'прагаліна, лужок ў лесе', *лысить* 'пакідаць прабел' і 'пакідаць пры падмятанні падлогі паласы пылу', *лыситься* 'праясняцца (пра неба)'. Цікавым з'яўляецца і такі выраз *как лысо* 'рабіць абы як', далей, наяўнасць структурна падобных дэрыватаў: *лыска* 'мянушка жывёл з белай плямай на лбе' і 'адзнака на кары дрэва сякерай або нажом'. У плане структурна дакладнай паралелі можна прывесці рус. церск. *колыснуться* 'памерці,

прапасці', аднак статус гэтай перыферыйнай лексемы вельмі няясны (адзінкавая фіксацыя). Апрача таго, прэфіксальны (з *ко-/ка-*) зыходны дзеясловў з адпаведным значэннем як быццам не зафіксаваны, і гэта таксама зніжае надзейнасць версіі. Паводле геаграфіі (калі прыняць першую версію) — рэгіянальны наватвор.

**Калыха́ць** 'рухаць з боку ў бок, гайдаць, хістаць' (БРС, ТСБМ, Бяльк., Гарэц., Грыг., Касп.; Нік. Напоў.; Сержп. Прымхі, Сл. паўн.-зах., Сцяшк., Яруш.), 'гушкаць дзіця' (БРС, ТСБМ, Сл. паўн.-зах., Сцяшк., ТС: *колухаць*), *калыхацца* 'гушкацца (на арэлях)' (ТСБМ, Бяльк., Сцяшк., Сл. паўн.-зах., Яруш.), да апошняга яшчэ і калыханка 'гушкалка, арэлі' (Жд. 3, КЭС, лаг.) без геаграфіі (ТС: *колуханка*). Укр. *колихати* 'хістаць, гайдаць, гушкаць дзіця; гайдаць (на арэлях)', рус. *колыхать* 'гайдаць, хістаць, гушкаць дзіця', пск., асташк., цвяр. 'біць'; *колыхаться* 'гушкацца (на арэлях)' адзначана на пагранічнай з беларускай тэрыторыі; польск. дыял. *kołychać* 'гушкаць дзіця', якое прыводзіцца Трубачовым, Эт. сл., 10, 165, відавочны беларусізм у польскім перыферыйным дыялекце і пагранічных гаворках, гл. Карловіч, 2, 409—410; Слаўскі, 2, 376 (адносна *kołychać,* засведчанага ў Сыракомлі і ў любельскіх гаворках) ставіць пад сумненне архаічнасць слова. Славен. *koléhati* Плятэршнік (1, 424) параўноўвае з рус. *колыхать,* нягледзячы на фанетычную недакладнасць і значэнні славенскай лексемы ('трэсці, качацца на зямлі'). Статус гэтага слова не вельмі ясны, як і славен. дыял. *koléhati se* 'вылятаць (з вулея)', тое ж датычыць і серб.-харв. *kolihati,* якое ў RHSJ, V, 191, тлумачыцца як 'калыхаць' да таго ж з паметай «ненадзейнае». У любым выпадку, калі нават пагадзіцца з дакладнасцю паўдн.-слав. фактаў, нельга выключыць магчымасці, што гэта незалежныя параўнальна познія ўтварэнні; на карысць гэтага меркавання — экспрэсіўны характар лексемы. Такім чынам, тут хутчэй усх.-слав. інавацыя (+ магчымыя на поўдні). Лічыцца другаснай, больш экспрэсіўнай формай ад **kolysati,* а гэта, у сваю чаргу, інтэнсіў ад **kolybati* (гл. *калываць*), так Трубачоў, Эт. сл., 10, 166. Паводле Слаўскага, 2, 376, тут паўн.-слав. інтэнсівы (з *-ys-, -ych-*), якія ўзнаўляюцца на базе ст.-польск. *kolić* 'кружыць, круціцца і да т. п.' і серб.-харв. *окòлити* 'акружыць', < прасл. *kolo* (Слаўскі прыцягвае яшчэ макед. дыял. *коле* '(ён) гушкае'). На думку Слаўскага, там жа, лексемы **kolysati,* **kolychati* адносяцца да **koliti,* як рус. дыял. *ломыхать* 'ламаць з трэскам' да *ломить* 'ламаць'. Калі з фармальнага боку ў прапанове Слаўскага як быццам ўсё добра,

семантычна аспект выклікае сумненне, на што слушна звяртае ўвагу Трубачоў, Эт. сл., 10, 166, маецца на ўвазе сур'ёзнае адрозненне маятнікавага руху ад кругавога вярчэння, а таксама тое, што форма **kolysati* непраўамерна аддзяляецца ад **kolybati*.

**Қалычы́** 'гетры' (гарад., Қасп.; Німа калычоў адзець, а сцюдзёна). Цікава, што лексема звярнула на сябе ўвагу Эпімаха-Шыпілы (гл. таксама Сл. Эп.-Шып.). З іншаславянскіх магчымых паралелей серб.-харв. не зусім дакладнае *каљаче* 'галёшы', якое ў Слаўскага, 2, 32, разглядаецца як даволі архаічнае запазычанне, параўн. аднак Скок, 2, 37, дзе *kaljače* разглядаецца як белградскі неалагізм, вынік кантамінацыі *kalošne* < *galošne* і *kaljati* (да *kȁo,* прасл. *kalъ*). Фактычна (паколькі версія Скока не бездакорная ў фармальным плане) этымалагічная праблема бел. і серб.-харв. слоў аднолькавая: або параўнальна новае запазычанне і яго магчымая трансфармацыя, або даўняе ўтварэнне (хутчэй за ўсё запазычанне). Цяжкасць нашай задачы ў тым, што слова зафіксавана толькі аднойчы, а ілюстрацыя дадатковай інфармацыі не дае. Перыферыйны характар лексемы сапраўды не выключае, што яна рэпрэзентуе архаічную форму запазычання; параўн. *-č-* у **xolša,* а таксама меркаванні Скока, 1, 670, адносна паходжання *-šn-* у *klašnja* (*sn* < *čьn*). Відавочна, што структура бел. лексемы параўнальна з іншымі магчыма роднаснымі (гл. пад *калоша*) вымушае дапускаць трансфармацыю структуры (у выніку адаптацыі запазычання?). Бачыць тут новае запазычанне з той жа крыніцы, да якой узыходзіць рус. *калоши* 'галёшы', няма падстаў як з фармальнага пункту погляду, так і паводле семантычнага крытэрыю. Семантыка бел. слова сведчыць на карысць архаічнага паходжання, паколькі адпавядае даўняму сінкрэтызму значэнняў гэтай рэаліі. Нельга выключыць, што разглядаемая лексема з'яўляецца слав. архаізмам (а поўнач Беларусі — зона магчымай кансервацыі лексічнай архаікі) або слав. інавацыяй; на гэту магчымасць звярнуў увагу Мартынаў (вусн. паведамл.), маючы на ўвазе як семантычную паралель лац. *tībiāle* (да *tībia* 'галёнка') 'род галёнкавай абмоткі або панчохі', тое ж і *нагавіцы* і да т. п. Калі разумець *калычы* як славянскае ўтварэнне, можна паспрабаваць, як паказвае лац. прыклад, звязваць бел. лексему з гіпатэтычнай назвай галёнкі **kol-*. Цяжкасці такога рашэння відавочныя. Можна прапанаваць разуменне семантыкі, якое выцякае з магчымага супастаўлення з слав. *kolo* або з дзеясловам **koliti,* рэальна зафіксаваны як быццам толькі ў ст.-польск. мове. З пункту погляду рэалій

14 Зак. 1263

разумець *калычы* як першапачатковае 'анучы', 'шырокія абмоткі' цалкам магчыма, больш цяжка вытлумачыць словаўтварэнне. Ёсць яшчэ і такі варыянт тлумачэння, які дапускае, што слова можа быць мясцовай інавацыяй, напрыклад, семантычнай, калі яно суадносіцца з рус. уладз. *калышки* 'жаночыя чаравікі з суконных абрэзкаў', ярасл. 'рэшткі стаптанага і падранага абутку, апоркі'. Параўн. уладз. *паличкu* 'чаравікі'. Інавацыя магла адбыцца на базе значэння 'палатняны абутак, якім абмотваюць ногі'.

**Калы́шка** 'калыска' (Сержп., Сержп. Грам., Сцяц. Афікс. наз., Янк. 2). Паралелі ў рус. смал., валаг., кур. і інш. гаворках *колышка* 'дзіцячая калыска, люлька', ярасл. 'плецены кош' і інш. Лінгвагеаграфія дазваляе кваліфікаваць разглядаемае слова як бел.-рус. ізалексу; этымалагічна — дэрыват ад *колыхати* (гл. *калыхаць*).

**Ка́льва** 'каліва' (Сцяц.), *кальво* 'тс' (карэліц., Нар. лекс.), *кальва* 'адно гняздо бульбы' (Сцяшк.), *кальва, кальво* 'асобная расліна' (Сл. паўн.-зах.), *кальво* 'малая колькасць, трошкі чаго-н.' (пруж., Сл. паўн.-зах.). Што датычыць формы, параўн. *кальбель, калыбель,* адносна этымалогіі гл. *каліва.*

**Кальва́рыя** 'гара, на якой стаяў ці стаіць касцёл, а таксама многа капліц вакол яе' (вілен., мін., Яшк.), 'могілкі' (мін., Яшк.). Слова, відаць, з польскага перыферыйнага дыялекта, у беларускай мове, як паказваюць крыніцы, распаўсюджання не атрымала. Польск. *kalwaria* 'цыкл малюнкаў або іншых вобразатвораў, якія адлюстроўваюць розныя сцэны му́кі Хрыста; месца, дзе яны размешчаны' з лац. *calvāria, (Calvariae locus*) назва гары, на якой Ісус Хрыстос быў пакараны на крыжы, а лац. да арамей. *gulgoltā* (*Golgothē — Галгофа*); суадносіцца з *calva, calvus* 'чэрап', адносна семантыкі параўн. прыклад Дарашэўскага, 3, 484: *Lysa Góra*.

**Ка́львін** 'свавольнік, вісус' (Касп.). Бліжэйшы адпаведнік польск. (гл. першакрыніцу ў Карловіча, 2, 296) *kalwin* 'недаверак, бязбожнік', ад імя рэфарматара Кальвіна. Улічваючы, што ў любым выпадку слова з'яўляецца запазычаннем, нельга выключыць, што яно ўтворана ў польск. перыферыйным дыялекце. Спосаб утварэння (ад уласнага імя) даволі вядомы, параўн. *лютар* (з адмоўнай характарыстыкай) (Цыхун, вусн. паведамл.).

**Кальсо́ны** 'сподняя мужчынскія штаны' (БРС, ТСБМ; клец., іўеў., КЭС; Сцяц., Сцяшк.). Як паказвае геаграфія, слова ў гаворкі магло трапіць з польск. мовы; польск. *kalesony* (фіксуецца і ў Віленскім слоўніку) узыходзіць да франц.

*caleçon* 'споднікі' і ў сваю чаргу перадае італ. *calzoni* 'споднія штаны' (ад *calza* 'панчоха', лац. *calceus,* якое да *calx* 'пятка'). У франц. мове зафіксавана і *calçon* (з 1680 г.), аднак, відаць, *кальсоны* да яе не ўзыходзіць. Бел. фармальна ідэнтычнае з рус. *кальсоны*, ва ўсякім выпадку ў слоўніку літаратурнай мовы, можа быць і русізмам, для якога мяркуюць польскае пасрэдніцтва, параўн. Шанскі, 2, К, 33.

**Кальцо** 'кольца', 'прадмет, які мае форму вобада, абруча, акружнасці' (ТСБМ, Радч.), у гаворках звычайна канкрэтызуецца: 'кольца на рэгулятары ў плузе', 'кольца ў дузе' (*кольцо* драгіч., Жыв. сл.), 'металічны кружок, за які чапляюць ворчык у баране' (лун., Шатал.), 'абручы ў нераце' (навагр., Жыв. сл.), 'кольца на розе ў каровы' (рас., Шатал.). У розных гаворках адзначаны *кальцо* 'пярсцёнак' (Бяльк., Радч., Сакал., Сцяшк., ТС); Тураўскі слоўнік адзначае яшчэ *кольцо* 'дзіцячая гульня'. Аб распаўсюджанні лексемы *кольцо* 'пярсцёнак' на Палессі гл. Сакалоўская, Лексіка Палесся, 293. Укр. *кільце* 'кольца наогул, за выключэннем пярсцёнка і інш.', рус. *кольцо* 'прадмет, які мае форму абруча, акружнасці з металу або іншага матэрыялу', 'пярсцёнак' і інш., у гаворках: 'кольца, якое сцягвае калодку кола', 'дэталь ў баране', арханг., цвяр. 'дэталі сахі', пск. і інш. 'абручы ў венцеры' і інш., польск. *kolce* 'кольца', дыял. *kolco* 'частка плуга, кола ў плузе' (крак. і інш.); чэш. матэрыял няпэўны, славац. дыял. *kol'ca* 'кола ў плузе', славен. *kólce* 'кольца, маленькі круг', серб.-харв. *kólce,* памянш. ад *коло;* слоўнікі адзначаюць з XVIII ст., адносна фінальных гукаў у гаворках параўн. макед. *колце* 'кола, кольца', балг. *колце, колцо,* памянш. да *коло. Лексема* фіксуецца таксама ў пісьмовых помніках: ц.-слав. *кольцє,* ст.-рус. *кольце, кольцо; кольце* ў Скарыны. Вытворнае з суф. *-ьце* ад *kolo,* гл. Трубачоў, Эт. сл., 10, 167, магчыма і праславянскае. Звяртаюць на сябе ўвагу відавочна позні́я семантычныя інавацыі тыпу *кальцо* 'пярсцёнак'.

**Кальча́га,** *кальчы́га* 'кульгавы чалавек' (Бяльк.). Рус. смал. *колчига* 'лаянкавая мянушка старой', *колчихать* 'кульгаць', яросл. і інш. *колчихать* 'кульгаць', алан. і інш. *колча* 'кульгавы чалавек', кастр. *колчи-нога* і да т. п. Форма *калчыга* — утварэнне ў кампактнай зоне, відаць, бел. рэгіянальная інавацыя, аднак асноўная тэрыторыя распаўсюджання дэрыватаў ад *колч-* руская. Відаць, у сувязі з усх.-слав. *колт-, колтать,* параўн. рус. *колченожка/колтоножка, колчи-нога, колты-нога* і інш. Параўн. яшчэ *калтыга* і інш.

**Кальчу́га** 'даўнейшы воінскі даспех у выглядзе рубашкі

з металічных кольцаў' (ТСБМ). Укр. *кольчуга,* рус. *кольчуга* 'тс', у наўг., раз., валаг., арханг. *кольчуг, кольчук, кольчуга* 'пакрытая скурай кароткая шуба, накідка, якая быццам бы зберагае ад дзіды, нажа або кулі', 'звязаная з нітак рыбалоўная снасць'. Адзначаюцца яшчэ кубан. *кольчужка* 'корань дрэва ў выглядзе кальца, які агаліла цячэнне вады', 'скрутак вяровак або рамянёў' (у гаворках другаснага распаўсюджання), алан. *кольчужные цепочки* 'нашыйнае ўпрыгожанне'. Відавочна, што лексема ў гаворках пашырана мала і неабходна дадаць, што ў большасці выпадкаў фіксуецца ў мове фальклору. Статус бел. і ўкр. слоў наогул няясны. Польск. *kolczuga,* якое апрача 'даспех' як быццам мела значэнне 'кальцо', гл. Слаўскі, 2, 346 (канец XVI ст.), у XV—XVI ст. звычайна *zbroja kolcza.* У рус. помніках (у форме *кол(ь)-чюга*) упершыню адзначаецца ў 1525 г., сустракаюцца і *колчюга* і *колчатыи доспьхъ.* Выраз *броня кольчата* адпавядае грэч. ϑώραξ ἁλυσιδωτός, гл. у Сразнеўскага, там жа; Шанскі (11, 8, К, 220) мяркуе, што лексема *кольчуга* магла ўтварыцца ва ўсх.-слав. мовах на базе гэтай структуры. Трубачоў (Дополн., 2, 299) з кароткай спасылкай на Ваяна BSL, 52, 1957, 165, указвае на магчымасць запазычання рус. *кольчуга* з польск. мовы. Слаўскі (2, 346) лічыць, што польск. *kolczuga* ўтворана субстантывацыяй пры дапамозе суф. *-uga* ст.-польск. прым. *kolczy* 'зроблены з металічных кольцаў' (у XV—XVI стст. фіксуецца *zbroja kolcza*), якое са ст.-польск. *kolce* 'кальцо з металу' (XIV ст.). Што датычыць рэаліі, то яна лічыцца зах.-еўрап. знаходкай, параўн. Sł. staroż. sł., 6, 281, які звязвае яе з кельтамі. Параўн. таксама аргументацыю ў Слаўскага, там жа: ням. *Ringel-panzer* 'кальчуга', с.-в.-ням. *rinc,* памянш. *ringel* 'кольца, пярсцёнак, кольца кальчугі', ст.-в.-ням. *hringâ* 'кольца кальчугі, кальчуга'.

**Калю́ба** 'качарга' (Сцяшк.). У іншых крыніцах як быццам не адзначаецца. Этымалогія няясная, магчыма, знаходзіцца ў сувязі з рус. дыял. *кал-/кол-: коляба* 'крыўляка', *калябиться* 'крыўляцца, ламацца', *каляга* 'калека, бязногі', *каляжина* 'вывернутае з коранем дрэва, корч', *каляжыться* 'крыўляцца, ламацца', *каляжка* 'нага, ножка'; параўн. яшчэ да семантыкі смал. *кальчушка* 'крывая палка' і 'крывая нага'. Відавочна, што пэўных доказаў мяркуемай сувязі няма, да таго ж наогул нельга выключыць магчымасць як памылковага запісу, так і недакладнай яго расшыфроўкі, іншымі словамі, аўтэнтычнай формай павінна быць *кацюба* (Цыхун, вусн. паведамл.).

**Калю́га** 'ямка на дарозе, выбітая коламі, звычайна з вадой, граззю' (БРС, ТСБМ, Жд. 2; мазыр., З нар. сл.; Касп.; Мат.

Гом.; жытк., Нар. словатв.; Нас., Сержп. Прымхі, Сцяшк., Шат.; Яўс.), 'каляіна на дарозе' (маладз., слаўг., Яшк.), 'гразь з вадой' (драг., Нар. словатв.), 'гразь, слата, бездарожжа' (палес., Яшк.). Першае значэнне не з'яўляецца вузкім; звычайна *калюгай* можа називацца і лужына на полі, лузе. У новых слоўніках: *калюга* 'лужына' (ТС, Сл. паўн.-зах.)', п'яніца; каляіна (Сл. паўн.-зах.), 'гразкае месца, сенажаць каля рэчкі' (слуц., Сл. паўн.-зах.). У Яшкіна падаецца значэнне 'глыба зямлі на раллі' (нясв.); тэарэтычна такую семантыку можна дапусціць, аднак тут яшчэ і адзінкавасць фіксацыі, таму дэфініцыя выклікае сумненне. Укр. дыял. *калюга* 'гразь на дарозе', 'лужына', 'выбоіна на дарозе', чарніг.-сумск. 'вада пасярод дрыгвы', рус. зах.-бран., бран., курск. *калюга* 'лужына', курск. 'неглыбокая азярына', белгар., бран. 'яма з вадой', польск. *kaluga* 'лужына', славін.-каш. *k'aluga, k'alёga* 'лужына на дарозе', серб.-харв. *ка̀љуга* 'лужына, гразь, твань'. Суфіксальны варыянт да *калуга, kaluga* (беларускія формы такога тыпу нам невядомы), вытворнага ад *kalъ* (суфікс *-uga*), гл. Трубачоў, Эт. сл. 9, 126, параўн. таксама *калужа* (гл.).

**Калю́гавіна** 'каляіна з выбоінамі' (КЭС, лаг.; маладз., Янк. 1), 'калюга' (навагр., Сцяшк.; слаўг., Яшк.); *калюгавіна* 'глыбокая брудная канава на дарозе, прарэзаная коламі' (бах., Мат. АС), 'калюга' (Нас.; слаўг., Яшк.), *калюгжына* 'тс' (слаўг., Яшк.). З новых запісаў: *калюгавіна, калугавіна, калювіна* 'каляіна' (Сл. паўн.-зах.). У суседніх гаворках адэкватнай лексікі як быццам не адзначана. Асноўны арэал, як здаецца, на захадзе беларускай тэрыторыі, аднак цэнтр інавацыі хутчэй за ўсё іншы. Параўн. геаграфію лексем *калявіна* (Нас.), *калягіна* (Шат.), *калявіна* (лаг., смал., Яшк.), *калавіна, каловіна* (пух., слаўг., Яшк.); формы тыпу *калюгавіна* могуць быць вынікам кантамінацыі лексем *калюга* і *калявіна*. Наяўнасць форм *калягіна* і *калявіна* сведчаць аб пратэтычным характары *-г-, -в-* (у *каляіна*). Параўн. яшчэ *калюга* (пух., слаўг., Яшк.), якое, відаць, з *калея* + *калюга*. Наогул група слоў са значэннем 'каляіна, калужа' ўключае шэраг кантамінаваных канструктаў (лакалізуецца на сумежжы гаворак або ў зонах з неаднародным насельніцтвам).

**Калюгова́тый** 'выбоісты' (Нас.), да *калюга* (гл.).

**Калю́гі** 'тапачкі для мерцвяка' (навагр., Нар. сл.). Статус слова няясны. Знаходзіцца ў бясспрэчнай сувязі з адзначанымі ў розных гаворках рус. шуйск. *калиги* 'абутак для мерцвяка', якое са с.-грэч. *καλίγι(ον), καλίγα* 'чаравік' (да лац.

*caliga* 'паўботы'), гл. Фасмер, 2, 167. Фанетыка ў бел. мове тлумачыцца, магчыма, народнаэтымалагічным збліжэннем з *калюга* 'лужына' (у такім выпадку *калюгі* 'тапачкі ад гразі'), шлях пранікнення слова з рускіх гаворак няясны.

**Каля́** прыназоўнік з родн. скл. (прастор., аб'ектн., кольк. адносіны) (БРС, ТСБМ) у Гарэц.; віл. Карск., Касп., Кліха ў прасторав. адносінах, у Сл. паўн.-зах. яшчэ і 'для, за': *...ён каля яе стараўся...; цёця каля яго возьмецца...* і 'у час'. У форме *кале* 'каля' адзначана Кліхам і Сержпутоўскім (Сержп. Грам.— асноўны арэал і з казак, мазыр.). Геаграфія пашыраецца, калі ўлічыць форму *каляблізку* 'у недалёкай адлегласці' (КЭС, лаг.) і *каляболацце* (слаўг., Яшк.). Асноўны матэрыял у ДАМБ, к 221, Камент., 766—767. Слова сустракаецца на большай частцы тэрыторыі, канцэнтрацыя — на паўночным захадзе. Укр. (у запісах Чубінскага) *кіля,* польск. крак. *kola,* славін. *kolä.* У шэрагу моў сустракаюцца формы, падобныя да бел. *кале:* польск. *kole, kele, kiele,* гл. Карл., 2, 406, 407, каш. *kuole* (і інш.), чэш. *kole* 'каля'. Паводле паходжання ўтварэнне з *kolo* (параўн. адносна этымалогіі *кола*) з традыцыйнай менай галоснага як у формах *podlo/podle.* ESSJ (SG, 1, A, 89) мяркуе і аб магчымасці аднясення бел. *каля* да старога тыпу *kole;* пярэчыць гэтаму, на яго думку, рус. калуж. *кала, кыла.* Адносна апошняга параўн. *кала* (гл.). Бел. *каля* хутчэй за ўсё незалежнае ад польск., славін. форм (націск), наяўнасць формы *кале, калі* (ДАБМ) на беларускай можа сведчыць на карысць паходжання *-я-* з канцовага *-е-.* Параўн. яшчэ *ля* (гл.).

**Калявіна** 'каляя' (Бяльк., Жд. 3, Нас.; лаг., Яшк.), 'мокрая сенажаць' (Жд. 3), *калягіна* 'каляя' (Шат.), *калягінка* 'тс' (Кліх). У асноўным ц.-бел. і ўсх.; рус. пск., асташк., цвяр. *калявина* 'выбоіна на дарозе', рослл., смал. *калявина,* кур., арл. 'каляя', *калевина* 'тс', раст. 'калужа, стаячая вада, яма з вадой', смал. (зах., у Даля), тул., зах.-бран., варонеж., кур., пск., валаг., сіб. *колевина* 'каляя', пск., асташк., цвяр. *колёвина,* смал., росл. *колевина* 'выбоіна на дарозе'. Інавацыя ў сумежных гаворках, хутчэй за ўсё на базе *каляіна* (< *каляя,* да *кола,* гл.) з устаўным *-в-,* аб гэтым сведчыць форма *калягіна* з менай *г/в.* Паколькі мена пратэзы *г/в* больш натуральная для паўднёва-заходняй тэрыторыі, тут, магчыма, мена *j/b* — параўн. ДАБМ, к. 49. Сцяцко (Афікс. наз., 143—144) мяркуе аб суфіксе *-авін-а (-явін-а),* параўн. *калюга — калюгавіна, полаз — палазавіна.* Суфікс генетычна складаны, слоў тыпу *каляя, калюга* і пад. многа, як і суфіксальных кантамінаваных варыянтаў, таму нельга выключыць прапанаванай вышэй эты-

малогіі. Звяртаюць на сябе ўвагу рус. пск., асташ., цвяр. *каёвка* 'каляя', *колёвина* 'кожнае выцягнутае паглыбленне, рубец' у сувязі з арханг. *колёвки* 'выструганыя фігурныя профілі дошак або брускоў', магчыма, аманімія спрыяла пашырэнню (сістэмнасці) запазычанай асновы (гл. *калёўка*).

**Каляда́** 'даўнейшы абрад хаджэння па хатах у калядныя вечары з віншаваннем, велічальнымі песнямі' (БРС, ТСБМ, Гарэц., Нас.; Сержп. Грам.), 'царкоўнае хрысціянскае свята нараджэння Хрыста, якое адзначалася 25 снежня па ст. ст. і ў наступныя дні да вадохрышча' (Сцяшк.), *каляда* 'калядны вечар, куцця' (Сл. паўн.-зах., Шат.), *каляда посная, каляды* 'свята нараджэння Хрыста' (ТСБМ, Бяльк., Гарэц., навагр., КЭС; Нік. Очерки., Мядзв., Нас., Сержп. Прымхі, Сл. паўн.-зах.; Сцяшк., Чач., Шат.), *каляда* 'песня, якая спяваецца падчас гэтага абраду' (ТСБМ, СЛ. паўн.-зах.) 'прадукты, якія дарылі ў час каляд' (ТСБМ, Мал., Сл. паўн.-зах., Тс), 'плата свяшчэнніку за хрэсны ход у час каляд' (Нас.), параўн. яшчэ ў Радчанкі: *«Ой панъ иде, коляду несе, Три куски сала, чтобъ коза встала*'; 'хвост вяпрука, які вараць на куццю і ядуць у «багатую каляду»' (Сцяц., Нар.), 'вяпрук, якога колюць на каляды, туша яго' (зах.-бел.: Жд. 2; Сцяц. Нар.; Сцяшк., Янк. 1). Таксама сустракаецца ў песнях (параўн. у Насовіча: *«Ехала коляда, колядуючи... Пошла коляда по леду, разсыпала коледа коляду...»* і Радчанкі: *«Ишла коляда с конца в конец, Зайшла коляда к Ивану...»),* што дало падставу Сержпутоўскаму пісаць пра персаніфікацыю каляды; раней Шпілеўскі адзначаў: *каляда* 'бог весялосці і радасці' (Архіў АН СССР, фонд Сразнеўскага). У Насовіча яшчэ *коледа* ў выразе *зборколеда* 'пра розныя рэчы, сабраныя ў адну купу'. Форма каляды адзначаецца ў Сл. паўн.-зах. і Растаргуевым (з Косіч?), барыс. зафіксавана форма *калёды* (Сл. паўн.-зах.). Укр. *коляда* 'свята нараджэння Хрыста, калі пяюць калядныя песні', 'песні ў калядны вечар', 'падарунак каляднікам за песні', рус. *коляда* 'свята нараджэння Хрыста, калі ходзяць па дамах і пяюць калядныя песні', 'вечар напярэдадні каляд', а таксама 'абрадавая песня', 'падарункі і грошы каляднікам за песні' смал., калуж., наўг., кур., арл. 'вяпрук, якога колюць на каляды' (геаграфія невядомая) і шэраг іншых, польск. *kolęda* 'калядная песня', 'навагодні або калядны падарунак', 'адведванне веруючых ксяндзом', дыял. і ст.-польск. 'хаджэнне па хатах з песнямі і збіранне дароў', шэраг іншых значэнняў, славін.-каш. *kalǫda* 'калядная песня', 'абрад хаджэння па хатах з песнямі', н.-луж. уст. *koloda* 'навагодні падарунак', чэш. *koleda* 'калядная песня', таксама 'час, калі пяюць каляд-

ныя песні', 'падарунак калядам, падарунак на Новы год', славац. *koleda* 'калядная песня, якую пяюць на Новы год', славен. *kalę́da* 'абрад, свята, калі ходзяць па хатах з музыкай і песнямі; пры гэтым збіраюцца падарункі', адзначаецца і форма 'куцця (вечар)', дыял. *kòlēnde* 'навагодні падарунак', серб. *кȍледа, колéда* 'калядаванне, хаджэнне па хатах з песнямі', макед. *коледа* 'калядаванне, куцця (вечар), свята нараджэння Хрыста', балг. *коляда, коленда, коледа* 'каляды' (у Герава і ў дадатках да слоўніка), ст.-слав. **калѧда** '*calendae*' ('навагодняе свята'). Прасл. *kolęda* запазычанне з лац. *calendae* 'першы дзень месяца', першапачаткова, відаць, свята, звязанае з пачаткам года, паколькі даўнія рымскія святы «календы» адзначалі з 1 па 5 студзеня, далей у сувязі з хрысціянскім уплывам аднесена да свята нараджэння Хрыста (гл. Трубачоў, Эт. сл., 10, 135). Міклашыч (24) выказваў меркаванне аб пачатковым распаўсюджванні ў славян Панонії; праславянскае паходжанне як быццам пацвярджаецца шэрагам фактаў, але не вельмі надзейна. Распаўсюджанне слова на ўсходнеславянскай тэрыторыі сведчыць, магчыма, аб познім характары. Параўн. і Дзясніцкая, Слав. языкозн., 329—332, дзе мяркуецца аб пранікненні балканскай назвы на захад і ўсход славянскага свету.

**Қамакі́** 'бульбяная каша — тоўчаная вараная бульба, запраўленая скваранымі салам або іншым тлушчам' (Янк. 1, Янк. 2, Жд. 3, Растарг., Мат. Гом.; ст.-дар. Нар. сл. і Нар. словатв.). Рэгіянальнае бел. утварэнне з суф. *-ак-і* ад лексемы *ком.* Да *камы́* (гл.). Параўн. іншыя дыялектныя сінонімы Гомельшчыны: *каўмакі́, комікі, камячы́нкі.*

**Қамае́дзіцы** 'свята напярэдадні благавешчання, прысвечанае мядзведзю, калі ў абед трэцяй стравай былі гарохавыя камы' (Нікольскі, Жывёлы, 31), да *камы́* і *е́сці* (гл.).

**Қамалёўка** 'суконны андарак' (гродз., Сцяшк. Сл.). Параўн. польск. (з зах. зямель) *kamlówka* 'адыходы валакна з ніжняй часткі канапель', аструдск. і варм.-мазур. *komle* 'жменя або снапок ільну, 'адыходы валакна пасля першага часання пасмы льну ад кораня'. Да *каме́ль* (гл.). Аднак там жа і на Мазоўшы існуе *kamlować* 'часаць воўну', 'часаць адыходы валакна на спецыяльным грэбені', якое звязана (у плане запазычання) і з ням. *Kamm* 'грэбень' > сілез. *kamy* 'ручныя шчоткі для часання воўны'.

**Қама́м** 'пюрэ' (петрык., Мат. Гом.). Да *ком, камы́* (гл.). Нязвыклая форма (!). Адсутнасць інфармацыі не дае магчымасці зрабіць іншыя высновы.

**Кама́нда** 'кароткі вусны загад камандзіра па ўстаноўленай форме', 'вайсковае падраздзяленне, часова выдзеленая вайсковая часць спецыяльнага прызначэння' (ТСБМ, Яруш.). Найбольш верагодна, што лексема з'яўляецца запазычаннем з рус. мовы, дзе ўжываецца з пач. XVIII ст. У рус. з ням. *Kommando* 'каманда' (або гал.) або франц. *commande* 'тс' < с.-лац. *com(m)enda* 'намесніцтва' < лац. *commendō* 'давяраю, даручаю' (Фасмер, 2, 300; Шанскі, 2 (К), 222).

**Кама́ндаваць** 'аддаваць каманду', 'быць камандзірам чаго-небудзь', 'загадваць' (ТСБМ, Яруш.), *камендаваць* 'тс' (Сержп. Прымхі). Аналагічна да папярэдняга,— з рус. *командовать* 'тс', якое (у XVIII ст.) з франц. *commander* 'тс' < с.-лац. *commandare* < *commendare* 'даручаць', 'давяраць' (Фасмер, 2, 300; Шанскі, 2 (К), 223). Аднак форма *камендаваць* з польск. *komendować, komendywać* < *komenda* 'вясельны маршалак'.

**Каманды́тар** 'начальнік нейкага згуртавання людзей' (КЭС, лаг.). Параўн. ст.-бел. *комендаторъ* 'начальнік рыцарскага ордэна', якое з польск. *komendator* (Булыка, Запаз. 163); *-ы-* з'явілася ў выніку распадабнення галоснай *-а-*.

**Камандзі́р** 'начальнік вайсковай часці, падраздзялення, ваеннага судна' (ТСБМ), *къмандзе́р* 'чалавек, які ў час работы любіць камандаваць іншымі' (міёр., З нар. сл.), *камандзе́р* 'тс' (Грыг., Яруш., Нас.), *камандзе́рка* 'жанчына ў гасціне, якая зацягвае песні, пачынае забавы, гульні, забаўнік' (Нас.). Форма з *-ір* несумненна запазычана праз рус. мову (у якой існуе з канца XVII ст.). Форма з *-ер,* відаць, больш старая; параўн. ст.-рус. *кумендеръ* 'званне высокага рангу ў духоўна-рыцарскім ордэне' (XIV ст.), ст.-польск. *komender* (XV ст.), хаця на яе аказала ўплыў форма *камандзір,* першакрыніца якой франц. *commandeur* 'камандзір' (Шанскі, 2 (К), 222).

**Камандзіро́ўка** 'службовае заданне, даручэнне, звязанае з паездкай', 'камандзіровачнае пасведчанне' (ТСБМ). Запазычана з рус. мовы ў 20-х гадах XX ст. Першакрыніцай з'яўляецца ням. *Kommandierung* > *командировка* (з пач. XIX ст.) — паўкалька з *Kommandeur* 'камандзір' і *-ung* > > *-овк-а* (Шанскі, 2 (К), 223).

**Каманіца**[1] 'каманішнік лугавы, Succisa pratensis Moench' (гродз., смал., маг., Кіс.), лоеў. *каменішнік* 'тс' (Мат. Гом.), маг. *куманіца, куманічнік, каманішнік* 'тс' (Кіс., Мядзв.), маг. *каманішнік* 'чараўнік двухлісты, Platanthera bifolia (L.) L.C. Rich.' (Кіс., Інстр. II), маг. *камані́чнік* 'паўночнік палявы,

Knautia arvensis (L) Coult' (Kic.), а таксама, відавочна, у песні з Віцебшчыны: *«кыманіца зіліная, маладзіца маладая...»* (Рам. 8). Укр. *команúця, комóнник, команá, комáнка* 'канюшына, дзяцеліна, браткі', рус. смал. *комонúца* 'каманішнік', польск. *komonica* 'рутвіца', ст.-польск. 'баркун', 'канюшына', 'каманішнік', в.-луж. *komonica* 'сорт канюшыны', чэш. *komonice,* славац. *komonica* 'баркун', 'канюшына', славен. *komónjica, komónika,* серб.-харв. *комòљика, комòника, комòњика,* 'палын звычайны, чарнобыль', 'рамонак', балг. *комонига* 'баркун, шалфей', *комоника* 'чарнобыль', 'браткі'. Прасл. *komonica*//*komonika* < *komonь* 'конь', параўн. ст.-польск. *konik, konicz,* а таксама мар. *končina* і інш. 'канюшына' = 'конская трава'. Большасць з гэтых траў з'яўляецца кормам або ўжываецца як лякарства для коней (Махэк, Jména, 120). Махэк (там жа) мяркуе, што ўсх.-слав. назвы запазычаны з польск. (гэта пацвярджае геаграфія), а польск. запазычаны са ст.-чэш. *komonicě* (Бернекер, 1, 555; Фасмер, 2, 304—305; Махэк2, 272; Слаўскі, 2, 389—390; агляд іншых, менш пераканаўчых этымалогій гл. яшчэ БЕР, 2, 574, і Трубачоў, Эт. сл., 10, 175—177. Бел. форма з *-ме-* ўтварылася ў выніку народнай этымалогіі (атаясамленне з лексемай *камень*). Тое ж і ў *каманіца2*.

**Каманíца**2 'ажына' (смал., КЭС), *каменíца* 'касцяніца камяністая, Rubus saxatilis' (Маш.), *камяніцы, камянíчкі* 'касцяніцы' (ельск., нараўл., Мат. Гом.). Рус. *комонúца, команúца, комонúка, команúка, куманúка, куманúха, куманúца* 'ажына', 'касцяніка', 'марошка', 'чырвоныя парэчкі', белгар. 'суніцы', арханг. *кумáнька* 'сорт ажын', кастрам. *команéц* 'чырвоныя парэчкі'. Бел.-рус. ізалекса. Да *komonь* 'конь', параўн. рус. *кóмóнь, кумáнь* 'конь' > 'конская ягада' (Фасмер, 2, 414—415). Аналагічна паводле назваў жывёл утвораны: кобр. *мыдвэ́дыны* 'ажына' (Нар. лекс.), прасл. *ežina* 'ажына' < *ežь* 'вожык', літ. *gérvuogė* 'ажыны' < *gérvė* 'журавель' або *лісíчкі, вавярýшкі, ласí* — назвы грыбоў.

**Каманíца**3, *комонíца* 'мажная дзяўчына' (хойн., Мат. Гом.). Укр. *комонúця* 'бясплодная кабыла', 'бясплодная жанчына', 'распусніца', рус. валаг. *комонúца, команúца, комоннúца* 'кабыліца', 'ялаўка'. Да *komonь* 'конь', параўн. том. *комáн* 'тс', свярдл. *команúна* 'кляча' (Этымалогію гл. Фасмер, 2, 304—305). Бел. лексема — у выніку семантычнага пераносу.

**Каманíць,** *къманíць* 'падгаворваць' (міёр., Нар. сл.). З *гаманíць* (гл.). Блізкая семантыка ў рус. пск. *гомонúться* 'раіцца, перагаворвацца', *гомòнúть* 'па-сяброўску гутарыць

паміж сабою'. Пераход звонкіх//глухіх характэрны для былога балтыйскага арэалу (параўн. рус. *гуманика* 'марошка' — *куманика* 'ажыны', 'марошка'; гл. *каманіца*$_2$).

**Камáр,** *къмáр, комáр, кумáр* 'двухкрылае насякомае-крывасмок Culex pipiens' (ТСБМ, Сцяшк., Бяльк., Яруш., Растарг., Сл. паўн.-зах., ТС; КЭС, лаг.), *камарнó* 'шмат камароў' (Янк. 3), *камарня́* (Бяльк., Сцяц. Нар., Сл. паўн.-зах.; чэрв. Нар. лекс.), *камарнéча* (Ян.), *камарэ́ча* 'тс' і агульная назва мошак (Інстр. II, Некр., Янк. 3, Сержп., ТСБМ, ТС), мсцісл. *кымарьё* 'тс' (З нар. сл.). Укр. *комáрь,* бойк.*комари́ці* 'машкара', рус. *комáр(ь)* 'тс', 'мурашка', раз. *камáр* 'тс', польск. *komar, ст.-польск.* і дыял. *komór, komor, kumar, kumor, komos, kumas, komosa, kamosa, kator* 'камар', н.-луж. *komar,* в.-луж. *komor,* чэш. славац. *komár,* славен. *komár,* серб.-харв. *ко̀мар,* макед. *ку́мар, ко́мар, комарец,* балг. *комар, кумар, кумарь* 'тс'. Прасл. *komarъ//komarь.* І.-е. адпаведнікамі з'яўляюцца: літ. *kamãnė* 'сляпень; лясная пчала', лат. *kamane* 'чмель, сляпень', літ. *kamìnė* 'лясная пчала', лат. *kamine, kamene,* ст.-прус. *camus* 'чмель', далей с.-в.-ням. *hummen* 'гудзець', *humbal* 'чмель', ням. *Hummel* 'пчала', нарв. *humre* 'іржаць, бурчаць' (Фасмер, 2, 301; Слаўскі, 2, 377—378; БЕР, 2, 568). Немінен (Lingua Pozn., 3, 187—205) і Фрэнкель (212) гэту лексему звязваюць з прасл. *komъ* 'клубок, рой, камяк, камлыга, груда' (гл. *камы́*), параўн. бел. выраз *«камары мак таўкуць»* — калі камары роем, слупам (клубком) круцяцца то ўгору, то ўніз. У такім выпадку вылучаецца суфікс *-ар* і *-or, -ór* таксама, як і *-ах-а* ва ўкр. *комаха* 'насякомае', 'мурашка', *-os-, -os-* у польск. лексемах (Гл. вышэй). А Махэк$_2$ (271) і Янача́к (Slavia, 24, 3) залічаюць у спіс балт. адпаведнікаў і літ. *šamalẽlis* 'камар' і *mãšalas* 'мошка'.

**Камáрак** 'чалавек нізкага росту' (гродз., Сцяшк. Сл.), з польск. *komarek* 'камарык', да *камáр* (гл.).

**Камáрнік,** *комáрнік* 'будан з лазовых галін, абкладзены зямлёю' (жытк., Нар. сл.). Укр. гуц. *комарни́к* 'хаціна для авечага пастуха', бойк. 'хата для пастухоў на паланіне', 'хлеўчык на паланіне, у якім пастухі вараць сыр'; польск. паўдн. *komarnik,* чэш. валаш., славац. *komárník* 'столік, паліца ў пастухоўскай хаціне, на якіх сохне сыр'. Карпатызм. Параўн. рум. *comarnic* 'задняя, адгароджаная частка ў пастухоўскай хаце, дзе сушыцца сыр'. Відавочна, генетычна звязана з *камора* (гл.). (Махэк$_2$, 271).

**Камáрыкі,** *комáрыкы* 'зязюльчын светнік, Coronaria flos cuculi L'. (бяр., Нар. лекс.). Квітнеючыя краскі на балоцістых

мясцінах у сваёй масе ствараюць уражанне лятаючых камароў. Да *камáр* (гл.).

**Камары́сы** 'колер поўсці ў свойскіх жывёл, калі па чорнай ці бурай поўсці раскіданы белыя рысачкі ці кропелькі' (КЭС, лаг.). Няясна.

**Камасáцыя** 'ліквідацыя цераспалосіцы, узбуйненне дробных зямельных надзелаў' (ТСБМ; мядз. Жыв. сл.), *камісáцыя* 'хутарызацыя' (Сцяшк.), *камасавáцца* 'рассяляцца на хутары (там жа). З польск. *komasacja, komasować* 'тс'.

**Камацёс** 'склюд' (М. Гарэцкі — Абабурка, Дыял.), 'каменячос' (шальч., Сл. паўн.-зах.) — у выніку апрашчэння з *каменячос* з семантычным пераносам з Nomen agentis у Nomen instrumenti (у 'склюд').

**Камáшы** 'чаравікі з паўхалявамі' (Мат. Гродз., Сцяшк., Бес.; смал. КЭС; гарад., в.-дзвін., докш., брасл. Сл. паўн.-зах.), *кымáшы* 'тс' (Бяльк.), 'мужчынскія чаравікі, туфлі з гумавымі ўстаўкамі па баках, без шнуроўкі' (ТСБМ), 'жаночыя чаравікі на шнурках, на гузіках, з гумкамі' (вілен., гродз., смарг., Сл. паўн.-зах.). Тое ж *гамáшы* (дзятл., паст., Сл. паўн.-зах.). З ням. *Kamasche* і больш новага *Gamasche* (магчыма, праз пасрэдніцтва польск. мовы) < франц. *gamache* < праванс. *gamacho* < ісп. *guadamací* 'ціснёная скура' < араб. *gadāmasī* 'скура з горада *Gadames* (у Трыпалі)'. (Клюге$_{11}$, 184; Даза, 353; Слаўскі, 2, 36).

**Камáшка** 'мурашка' (Ян.). Укр. *комáха, комáшка* 'насякомае', 'мурашка', рус. паўд. *комáшка* 'усялякае дробнае насякомае', 'мошка', 'маленькі камар', раз. 'мурашка', наўг. *комашни́к* 'мурашнік', кур. *комашня́* 'рой камароў ці мошак', 'мурашкі'. Усх.-слав. утварэнне ад *komati* 'таўчы, біць, мяць' (Трубачоў, 10, 171) і суф. *-ах-а* (з экспрэсіўным значэннем). Параўн. прасл. *komъ* 'той, што прыняў круглую форму, клубок, рой'. Іншыя прыклады з суф. *-(а)х-а* гл. Сцяцко, Афікс. наз., 73—74.

**Камашы́рка** 'шарсцяная хустка з махрамі' (горац., хоц., Мат. Маг.). Няясна.

**Камбáйн** 'складаная машына, якая адначасова выконвае работу некалькіх механізмаў' (ТСБМ), *камбáй, канбáйн, комбáйн, кынбáй* 'тс' (Сцяшк.; Яшк. З жыцця; Сл. паўн.-зах.), *камбáер* 'камбайнер' (Сцяшк.). Запазычана праз рус. мову з англ. *combine* 'аб'ядноўваць, камбінаваць, спалучаць' (< лац. *combīnō* 'злучаю дзве рэчы') у 30-х гадах XX ст. (Шанскі, 2 (К), 224).

**Ка́мбала** 'марская рыба з сямейства Pleuronectidae' (ТСБМ), чачэр., *камбала́* 'блізарукі чалавек' (Мат. Гом.). З рус. *ка́мбала,* якое запазычана з фін. *kampala, kampela, kampelo* 'тс' у канцы XVII ст. (Фасмер, 2, 173). Параўн. таксама рус. курск., смал. *ка́мбал* 'аднавокі, касавокі чалавек', пск., кубан. *ка́мбала́* 'тс', смал. 'блізарукі'.

**Камбе́ль** 'камель дрэва, снапа' (гродз., віл. Сл. паўн.-зах.). З літ. *kamblỹs* 'камель дрэва' (Сл. паўн.-зах., 2, 389).

**Каме́дыя** 'разнавіднасць драматычнага твора' (ТСБМ), 'смешнае відовішча' (КЭС, лаг.), *камэ́дзія* 'камедыя, смех' (Бяльк.), *кумэ́дзія* 'смешная падзея' (Бяльк.); *каме́дна* 'смешна' (Ян.; браг. Мат. Гом.), *камэ́дна* 'тс' (Бяльк.), карэліц. *каме́дны* 'смешны' (Ян.), *камэдзіць* 'гарэзіць, жартаваць'; *камадыя́н* 'камедыянт', *камадыяніцца* 'вычвараць' (КЭС, лаг.), 'капрызіць' (Сцяшк. Сл.). Ст.-бел. *комедия, комедея* 'камедыя' (пач. XVII ст.). Са ст.-польск. *komedia,* якое з лац. *cōmoedia* < ст.-грэч. κωμῳδία 'тс' < κῶμος 'гулянка, вясёлая працэсія' + ᾠδή 'спеў' (Булыка, Запазыч. 163; Слаўскі, 2, 379).

**Каме́ль**1 'ніжняя частка дрэва, расліны, якая прылягае да кораня', 'перавязаны канец снапа, веніка і да т. п.', 'аснова, тоўсты бок якой-небудзь рэчы' (Нас., Маш., Мядзв., Бяльк., Сцяшк., ТСБМ, Гарэц., Бір. Дзярж.; КЭС, лаг.; Нік. Очерки; віц., Хрэст. дыял.; Федар. 1; Растарг.; Сл. паўн.-зах.), 'каржакаваты, прысадзісты, здаровы чалавек' (Др.-Падб.), *камёлак* 'тое ж аб дзецюку, аб кавалку дрэва' (Нас., Бяльк., Юрч.), *камлява́ты, камлякава́ты* 'дужы, мажны' (добр., Мат. Гом.; іўеў., Сцяшк. Сл.; віл., гродз., Сл. паўн.-зах.), шкл. *камлюшок* 'сцёрты венік' (Мат. Маг.), *камлі́, камле́, камлюкі́* 'валакно з ніжняй часткі трасты льну', 'пачаскі з ніжняй часткі трасты льну' (Сл. паўн.-зах.).

Укр. *коме́ль,* рус. раз., наўг. *ка́мель,* паўн.-рус., калуж., арл. *ко́мель* 'камель раслін, дрэў', 'ствол дрэва', перм. *ко́мень* 'ствол дрэва'; польск. аструдск., варм.-мазурск. *komle* 'пачаскі пасля першага часання жмені льну ад каранёў'. Такім чынам, лексема пашырана на прыбалт. арэале, і суф. *-ель* можна лічыць роднасным да ст.-прус. *-elis,* літ. *-ẽlis*. Утворана ад *komъ* > *ком, камя́к* (гл.). Параўн. таксама літ. *kamẽnas, kamíenas* 'камель дрэва', лат. *kamans* 'тс'. Літ-ру гл. Фасмер, 2, 302; Шанскі, 2 (К), 228.

**Каме́ль**2, мазыр. *коме́ль* 'бязрогая карова' (З нар. сл.), *каме́зы* 'тс' (смал., КЭС), *камёзы* 'лабаты, бязрогі' (Гарэц., Др.-Падб.), *камёзасць* (Гарэц.). Укр. *комо́лий,* рус. *комо́лый,*

*коматый* 'тс', перм. *комёл* 'бязрогі бык'; ст.-польск. *komoły,* польск. *gomoły,* в.-луж. *gomoły,* чэш. *komolý, chomolý,* мар. *gomol'a* 'бязрогая карова', славен. *komôł* 'бязрогі', *komólčen* 'локцевы', серб.-харв. *ко̀молац* 'локцевая косць'. Прасл. *komolъ* роднаснае да *kоmъ* 'камяк'. І.-е. адпаведнікі: ст.-в.-ням. *hamal,* ст.-англ. *hamola* 'скалечаны': ст.-грэч. κολοβός 'бязрогі', хец. *karmalassāi* 'застацца пакалечаным, нерухомым' (Махэк₂, 271; Фасмер, 2, 304; Слаўскі, 1, 315; Трубачоў, Эт. сл., 10, 174—175).

**Камендáнт** 'начальнік войск крэпасці', 'начальнік, які наглядае за парадкам перамяшчэння войск', 'адказны за ахову і гаспадарку грамадскага будынка' (ТСБМ), 'чалавек, які любіць камандаваць' (міёр., З нар. сл.). Яшчэ ст.-бел. *комендантъ* 'судовы выканаўца' (XVII ст.) запазычана са ст.-польск. *komendant,* якое са ст.-в.-ням. *Kommendant* 'камандуючы' < < франц. *commandant* < лац. *commendāns, -dantis* 'той, хто дае ўказанне, распараджэнне' (Булыка, Запаз. 163; Слаўскі, 2, 380).

**Кáмень,** *кáмінь, кáмынь, кáмэнь* 'цвёрдая горная парода ці абломак з яе рознай велічыні і формы', 'абточаны камень у жорнах' (Сл. паўн.-зах., ТСБМ, Сержп. Прымхі; Бяльк.; драг., Жыв. сл.; Федар. 1; Бес., Яруш., Яшк.), *камéнне* (зб.) 'камяні' (ТСБМ, Радч., Сержп.; стаўбц., Нар. словатв.; Яшк., Гарэц.; мсцісл., З нар. сл.), *каміене* (Бес.), *камéння* 'тс' (бяльк.), *камéчо, камéчча* 'тс' (слонім., Жыв. сл.; гродз., З нар. сл.; Сл. паўн.-зах.; свісл., Сцяшк. Сл.); *камéньчык* 'малы камень' (Сержп. Прымхі; Бяльк., Янк.), 'костачка ў сліве, вішні' (браг., Нар. словатв.; Ян., Янк. 2; нараўл., Мат. Гом.), *камянёк* 'тс' (полац. Янк. 2); *камéньчыкі* 'гульня' (гродз., Нар. словатв.); *кáмень* 'мера вагі ($\approx$10 кг, $\approx$1 кг)' (Інстр. III); *камяны́* 'зроблены з каменя' (КЭС, лаг.), *камéнный* 'тс' (Бяльк.), *камéнны* 'з каменя або з цэглы зроблены' (ТСБМ, Сцяш.); *камéнык* 'крэпкі хлопчык' (Бяльк.); *кáменка, кáмінка* 'печ з камення (у лазні)' (ТСБМ, Бяльк., Сцяц.; усх., КЭС); укр. *кáмінь,* рус. *кáмень,* польск. *kamień,* н.-луж., в.-луж. *kamjeń,* палаб. *komói,* чэш. *kámen,* славац. *kameň,* славен. *kámen,* серб.-харв. *ка̏мен,* макед., балг. *камен,* ст.-слав. **камы.** Прасл. *kamy* (род. *kamene*). Блізкія і.-е. адпаведнікі: літ. *akmuõ (akmeñs),* лат. *akmens* 'тс', ст.-інд. *áśmā, áśman-*'камень', 'неба' авест. *asman-* 'тс', ст.-грэч. ἄκμων 'кавадла', 'неба' < < і.-е. **ak'/*ok'* (Слаўскі, 2, 37—38). Фасмер (2, 173—174) далучае да і.-е. яшчэ ст.-в.-ням., ст.-сакс. *hamar,* ст.-ісл. *hamarr* 'молат' (параўн. Мартынаў, Слав. акком., 160—161).

**Каменялóмнік** 'расліна Saxifraga' (ТСБМ; маг., Кіс.; Дэмб.

1; б.-каш., Мат. Гом.), лексема з'яўляецца перакладам лац. назвы *saxifragus* 'той, хто разбівае каменне'. Расліна называлася так, бо выкарыстоўвалася старажытнымі грэкамі (Махэк, Jména, 97—98) пры лячэнні ўнутраных органаў ад утварэння камянёў або паводле таго, што калі расла з каменя, раскалвала яго. Аналагічна стол. *ка́мэнны цвіток* 'бурачок камяністы' ~ лац. *saxātilis* 'той, хто жыве сярод скал'.

***Каме́р,** *комы́р* 'каўнер' (лун., Шатал.), драг. *кумі́р* (Лучыц-Федарэц, вусн. паведамл.), укр. *ко́мір,* да *каўне́р* (гл.).

**Ка́мера** 'ізаляванае памяшканне спецыяльнага прызначэння', 'пустая ў сярэдзіне частка прыбора, машыны', 'унутраная абалонка шыны, мяча' (ТСБМ), 'дзірка ў верхнім камені жорнаў' (лаг. Шатал.). Новае запазычанне з с.-лац. *camera* 'пакой' (або з ням. *Kammer* 'камора') праз польск. ці рус. мовы (Слаўскі, 2, 390—392; Фасмер, 2, 174; Шанскі, 2 (К), 36—37). Больш старое запазычанне ў бел. гаворках і больш пашыранае *камора* (гл.).

**Каме́чыць** 'мяць, комкаць' (Некр.), *камя́чыць* 'тс' (ТСБМ, Бяльк.). Утворана ад *камя́к,* якое з *ком* (гл.).

**Каме́шнік** 'качарэжнік' (Янк. 1, Янк. 2, Шушк., Ян., Сцяш. Сл.; бабр., петрык. Шатал.; Сержп. Прымхі; Жд. 2; рэчыц. Нар. сл.; ст.-дар., Сл. паўн.-зах., Мат. Гом.), да *камяня́* (гл.).

**Камёзы.** Гл. *каме́ль*₂.

**Камізэ́лька** 'кароткая адзежына без рукавоў і каўняра, якую надзяваюць на сарочку або блузку' (ТСБМ, Шат., Сцяшк., Бес., Тарн., Мядзв., Малч., Гарэц.), *камзэ́лька* 'тс' (Сцяшк.; смал., КЭС), *камізолка* (глус., КЭС), *камызэлька* (Нік. Очерки; віц., карэліц., Янк. 1, Жд. 2) *камузэ́лька* (Сцяц.). Запазычана з польск. *kamizelka* 'мужчынская жылетка пад пінжаком' < франц. *camisole* 'каптан' < італ. *camiciola* — памяншальнае ад *camicia* 'кашуля' < лац. *camīsia* (Слаўскі, 2, 38—39).

***Камідорына,** *кымідорына* (Яўс.), сапсаваная форма да *памідорына* < *памідор* (гл.).

**Камі́н** 'пакаёвая печ з адкрытай топкай пры падлозе' (ТСБМ). Відавочна, з рус. *ками́н* — новага запазычання (з пач. XVIII ст.) з ням. *Kamin* < італ. *camino* 'комін' < < н.-грэч. *κάμινος* 'печ, комін' (Слаўскі, 2, 385).

**Камі́нак,** *каміно́к, камяно́к* 'выемка ў печы, месца ля чалеснікаў, дзе раскладалі агонь для асвятлення хаты' (ТСБМ,

КЭС, лаг.; Інстр. I, Сцяшк.),'пярэдняя частка печы' (Яруш.), 'выступ на коміне для запалак, гзымс'(Сцяц.; Мат. Маг.; в.-дзвін. Шатал.; Сцяшк.) 'шкло ў газавай лямпе' (мін., Кар.; Жд. 2; КЭС, лаг.; Інстр. I; жытк., Жыв. сл.). Запазычана з польск. *kominek*. Да *комін* (гл.). Сюды ж *камінáр* 'чысцільшчык комінаў', 'запэцканы ў сажу' (ТСБМ, Некр., Сцяц., Жд. 3, Гарэц., Сцяшк.) і *камінарнік* 'тс' (стаўбц., Жыв. сл.; шчуч., Нар. лекс.; вілей., Нар. сл.; Сцяшк.).

**Камісáр** 'кіруючая асоба з грамадска-палітычнымі, адміністрацыйнымі функцыямі', 'паліцэйскі, прыстаў' (ТСБМ), *камысар* (Сержп. Казкі), *кымісáр* (Бяльк.), ст.-бел. *комисаръ, коммисаръ* (пач. XVI ст.) 'ураднік са спецыяльнымі абавязкамі' < ст.-польск. *komisarz* < ням. *Kommisar* < с.-лац. *commissarius* (Булыка, Запаз., 163).

**Камі́сія** 'група людзей як орган выканання пэўных задач', 'орган дзяржаўнага кіравання' (ТСБМ, Яруш., Бяльк.), ст.-бел. *комисия, комисея, комисыя, коммиссия, конмисия* 'камісія' запазычаны са ст.-польск. *komisja* < ням. *Kommission* < франц. *commission* < лац. *commissiō* 'даручэнне' (Слаўскі, 2, 386; Булыка, Запазыч., 164).

***Кáмкаць**₁, *кáмкаты* 'квакаць' (Клім.), драг. *кýмкатэ* 'тс' (Лучыц-Федарэц, вусн. паведамл.). Гукапераймальнае.

***Кáмкаць**₂, *кáмкаты* 'скардзіцца' (Клім.). Да *кáнькаць* (гл.).

**Камкáць** 'мяць у ком' (Нас.). Да *ком, комкаць* (гл.).

**Камлáк** у выражэнні *«камлакі едуць!»* — табу: так казалі замест «памажы, божа!», калі стрыглі авечак, каб хутка адрастала руно, каб авечкі былі калматыя» (Федар. 1), *камлáты* 'калматы' (саліг., Нар. словатв.; ТС; люб., Сл. паўн.-зах.), *камлáценькі* (аб ваўнянках) (слонім., Сл. паўн.-зах.), *камлáч* 'калматы' (Бір. Бел. антр.). Беларускае. У выніку перастаноўкі *лм* ← *мл*, да *калмáты* (гл.).

**Камлáтчына** 'дрыгва, балота' (гродз., Сцяшк. Сл.). Адпрыметнікавае ўтварэнне пры дапамозе айканімічнага суфікса *-чына* (Сцяцко, Афікс., наз., 127; Адамовіч, Мікратапан. назвы, 33—34). Да *камлáк* (гл.).

**Камлéнне** 'вельмі хутка' (Нас.). У выніку кантамінацыі слоў *вока* і *імгненне* (Нас. 228), параўн. чэш. *okamžik*. Магчыма, аднак, дапусціць, што разглядаемая лексема — аддзеяслоўны назоўнік ад *(ляцець) кумільгом* 'хутка, раптоўна' (Сцяшк. Сл.).

**Камлём** 'хутка, раптам; у імгненне вока' (Нас., Бяльк.). Скарочаная форма ад *кумільгом* 'тс' (Сцяшк. Сл.). Тое ж драг. *ку́мылём* (Лучыц.-Федарэц, вусн. паведамл.).

**Камлёт** 'саматканая шарсцяная спадніца больш высокай якасці, чым андарак' (Юрч., Бяльк.), 'андарак' (чачэр., Жыв. сл.), 'суконная або шарсцяная тканіна' (Гарэц.), *камлот* 'тоўстая баваўняная або шарсцяная тканіна з чорных і карычневых нітак'. Відавочна, праз рус. мову з ням. *Kamelot* або з франц. *camelot* 'тканіна з воўны ангорскай казы' (Фасмер, 2, 175).

**Камлу́к**₁ 'дужка ў плеценым посудзе (кашалі), у баране' (Сцяш.; зэльв., Сцяц.; навагр., свісл., Шатал.), свісл. *камлучок* 'тс' (Сл. паўн.-зах.) — у выніку распадабнення *б* ~ *м.*, да *каблу́к* (гл.).

**Камлу́к**₂ 'абцас' (паст.). З рус. *каблук* 'абцас' (Сл. паўн.-зах., 2, 390).

**Камлю́к**₁ 'камель' (ТСБМ, Др.-Падб., Юрч.; КЭС, лаг.), *камлюх, кымлюшок* 'тс' (Яўс.); міёр. *камлю́к, къмлюшок* 'тонкае паленца дроў' (Нар. сл.), *камлюшок* 'сцёрты венік' (шкл., Мат. Маг.); *камлю́к* 'прысадзісты, каржакаваты чалавек' (Др.-Падб.; гродз., З нар. сл.), 'хлопчык-таўстун' (калінк., З нар. сл.), 'моцны, хуткі' (полац., Нар. лекс. і З нар. сл.), *камлюкава́ты* 'камлісты', 'невысокі, прысадзісты' (КЭС, лаг.; ТСБМ). Да *камель*₁. Утворана пры дапамозе суф. *-'ук (-'ух).* Сюды ж і свісл. *камлукаваты* 'тоўсты, нязграбны' (Сцяшк. Сл.).

**Камлю́к**₂ 'камень' (нараўл., Мат. Гом.). Ад *каменю́к,* параўн. укр. *каменю́ка* 'камень'.

**Камлы́га** 'вялікі бясформенны кавалак, абломак цвёрдай масы, ком, глыба зямлі' (ТСБМ, Гарэц., Нас., Др.-Падб., Яшк.), зборн. *камлы́жжа* 'камякі мёрзлай зямлі' (Яўс.; бялын., Янк. 1; Нас.), *камлы́жына* 'сухі ком зямлі на раллі, не разбіты бараной' (Мядзв.), *камлы́шка* 'тс' (Бяльк.), *камлы́жыць* 'рабіць шар з чаго-небудзь мяккага' (Нас.). Утворана, відавочна, ад *камлаты* (гл. *камель*₂) пры дапамозе экспрэсіўнага суфікса *-ыга* (як *касты́га* < *касцяны гузік;* Сцяцко, Афікс. наз., 182).

***Камляко́м,** *камлеко́м* 'гуртам, кучкаю' (саліг., Нар. словатв.), да *камяк* (гл.).

***Камнякі́,** *комнякі́* 'камы' (івац. Жыв. сл.), да *камякі́* (гл.). Пераход *-м'а* > *мн'а* характэрны для зах.-палес. гаворак.

**Камода** 'невысокая шафа з некалькімі шуфлядамі для захавання бялізны і розных хатніх рэчаў' (ТСБМ, Сцяшк.; Сл. паўн.-зах.), *камод* 'тс' (Яруш.). З польск. *komoda* 'тс', якое з франц. *commode* 'выгодны' < лац. *commodus* 'тс' (Слаўскі, 2, 388—389). Форма без *-а* прыйшла з рус. мовы.

**Камок** 'кавалак гразкай зямлі, цеста; скамечаны ў камяк воск' (Бяльк., ТСБМ, Сержп. Прымхі, Інстр. І, Др.-Падб.; віл., З нар. сл.), да *ком* (гл.).

**Камора,** *каморка, комора, кумора* 'кладоўка, халоднае памяшканне пры хаце для захоўвання запасаў ежы, адзення', 'бакоўка, прыбудоўка ў вясковай хаце, дзе спяць, стопка' (Нас., ТСБМ, Чуд., Мал., Сцяшк., Сцяц. Нар., Жд. 3, Сержп. Грам., Сцяц.; карэліц., докш., Янк. 1; В. В., Яруш., Бяльк., Гарэц., Тарн.; шаркаў., Нар. сл.; Рам. 8, Сл. паўн.-зах. кантрольны пункт лясніцтва' (ТСБМ, Інстр. III; Яшк.); 'будынак для складвання сена' (Яшк.), 'асобная клетачка ў сотах' (ваўк., Сл. паўн.-зах.; ашм., З нар. сл.), навагр. *каморкі* 'складкі ў смаржках' (Жыв. сл.). Ст.-бел. камора 'тс' і 'таможня' (XV—XVIII ст.). Лексема ёсць ва ўсіх слав. мовах. Вельмі старое запазычанне з лац. *camera (camara)* 'скляпеністая столь' (зрэшты такое значэнне ёсць і ў ст.-рус. *комора, камора* побач з іншымі: 'дом, жыллё', 'пакой', 'кладоўка', 'гандлёвая пабудова') < ст.-грэч. *καμάρα* 'скляпенне' (Слаўскі, 2, 390—392); Фасмер (2, 305) выводзіць гэта запазычанне з-за націску са ст.-грэч. *καμάρα,* а не з лац.

**Камо́рнік,** *кымо́рнік* 'спецыяліст па межаванню зямельных надзелаў, землямер' (ТСБМ, Нас., Яруш., Мядзв., Гарэц., Др.-Падб., Бяльк.; Сл. паўн.-зах.), *каморніцтва* 'землямерная справа' (Гарэц., ТСБМ). Ст.-бел. *коморникъ* 'загадчык каморы, памочнік, падкаморы', 'феадальна залежны селянін у Вялікім княстве Літоўскім (XVII—XIX стст.), які не меў зямлі і ўласнага дома, бабыль' Значэнне 'землямер' уласнабеларускае. Узнікла яшчэ ў часы Вялікага княства Літоўскага (Падкаморы у судова-арбітражным органе XVI—XIX стст. аглядаў спрэчныя землі, заслухоўваў сведчанні суседзяў, выносіў рашэнне і вызначаў межы; яму памагалі каморнік 'памочнік падкаморыя' і пісар (Бел СЭ, 8, 7), да *камора* (гл.).

**Камо́тны** 'пацешны, жартаўлівы' (гродз. Сл. паўн.-зах.). Няясна, да *камедны* (?) < *камедыя* (гл.).

**Камоўнік** 'ажыннік', *камочнік* 'тс' (смарг., Шатал.), да *камы́* 'ажына' (гл.).

**Ка́мпа** ’зацвярдзелае дрэва, якое доўга ляжала ў вадзе’ (смарг.), з літ. *kámpa* ’тс’ (Сл. паўн.-зах., 2, 391).

**Кампа́н** ’сябар, таварыш’ (Сцяш.). З польск. *kompan* ’таварыш, саўдзельнік гулянкі’ < с.-в.-ням. *kompān, kumpān* < ст.-франц. *compain* <нар. лац. *cum* ’з’ і *panis* ’хлеб’, ’хто есць хлеб разам з кім-небудзь’ (Слаўскі, 2, 394).

**Кампанава́ць**[1] ’складаць цэлае з асобных частак’ (ТСБМ). Відавочна, са ст.-польск. *komponować* ’выдумваць, складаць’, якое з лац. *compōnere* ’складаць у цэлае’ (Слаўскі, 2, 389).

**Кампанава́ць**[2], *компоновáті* ’быць у таварыскіх адносінах, вадзіць кампанію’ (ТСБМ; пін., З нар. сл.), *кампанавацца* ’сябраваць’ (іўеў., Сл. паўн.-зах.), да *кампанія* (гл.).

**Кампа́нія** ’група блізка знаёмых людзей, якія разам праводзяць час’, ’аб’яднанне прадпрыемцаў, ваенны паход’ (ТСБМ, Яруш.), *кампáня* ’таварыства, кампанія’, *кынпáнія, кумпáнія* ’тс’ (Бяльк.). Ст.-бел. *компания, конпания* (XVII ст.), запазычанне са ст.-польск. *kompania,* якое зітал. *compagnia* < нар. лац. **campānia* < *compagno* ’таварыш’ (Булыка, Запазыч., 164; Слаўскі, 2, 394—395). Пазней, у XIX—XX стст. на значэнне лексемы ўплывалі (праз рус. мову) ням. і франц. мовы.

**Кампор** у выразе: *«як кампор у вадзе»* (стаўб., З нар. сл.), *кампора* ’камфара’ (слонім. Арх. Бяльк.; Сержп. Прымхі), літарат. *камфарá, кáмфара* і *камфóра* (ТСБМ). Апошняе слова і дыял. *кампора* запазычаны з польск. *kamfora* ’тс’. Гл. таксама ст.-бел. *камфоръ* ’тс’ (XVI ст.) < ст.-польск. *kampor* < с.-лац. *camphora* ’тс’; параўн. таксама *zniknął (przepadł) jak kamfora.* Іншыя літар. словы з рус. *камфарá, кáмфоре,* якія зітал. *canpora* < н.-грэч. *κάμφορα* ’тс’. Канчатковай крыніцай з’яўляецца ст.-інд. *karpūra* ’дрэва, Cinnamonum camphora’ (Літ-ру гл. Слаўскі, 2, 36, 37; Фасмер, 2, 176).

**Кампот** ’пітво з садавіны, ягад, згатаваных у вадзе з цукрам’ (ТСБМ). Відавочна, запазычана з рус. *компот,* якое ў XVIII ст. прыйшло з франц. *compote* ’тс’ < ст.-франц. *composte* < лац. *composita* ’змешаная’ (Шанскі, 2, 245—246; Слаўскі, 2, 399). Фасмер (2, 306) дапускае пасрэдніцтва ням. мовы.

**Кампура́т** ’раўня, роўны каму-небудзь’ (стаўбц., Жыв. сл.). Відавочна, ў выніку кантамінацыі слоў *кампáн* (гл.) і польск. *kamrat* ’калега, таварыш’ (> **кам(у)рад,* параўн. польск. дыял. *kombrat* з ад’ідэацыяй да *brat* ’брат’).

**Кампялёўка** ’майка’ (Сцяш.). З польск. *kostium kąpielowy* ’купальны касцюм’ і *kąpielówki* ’плаўкі’.

**Кампу́т,** ко́мпут 'агульны рахунак, рэестр, колькасць асоб, прадметаў' (Нас.), ст.-бел. *компутъ* 'лік, спіс', са ст.-польск. *komput* 'тс' < лац. *computus* 'рахунак' < *computāre* 'лічыць'. Параўн. яшчэ ст.-бел. *кампутовать* (гл. Булыка, Запаз. 165).

**Камп'ютэр** 'электронная вылічальная машына' (ТСБМ). З рус. *компьютер* < англ. *computer* 'тс' < *compute* 'падлічваць, вылічаць'.

**Камрат** у песні: *ой дубе, мой дубе, зялёны камрачэ, да чого ж ты смуцён, молоды козачэ?* (пін., Зянк.). З *камрат* 'таварыш', укр. *камрат* 'тс' < польск. *kamrat* < ням. *Kamerad, Kamrad* 'тс' (Слаўскі, 2, 39). Канчатак *-чэ* (замест *-це*) пад уплывам рыфмы *(козачэ)*.

**Камса́** 'дробная рыбка анчоўс, Engraulis encrasicholus' (ТСБМ; шчуч. Сл. паўн.-зах.), 'падкормка для маладых пчол' (круп. Сл. паўн.-зах.). З рус. *хамса́, хамза́* 'тс', якія з н.-грэч. χα(μ)ψί 'тс' (Фасмер, 2, 175 і 4, 221).

**Камсі́ць** 'біць таўхлямі' (мсцісл., З нар. сл.), *камса́ць* 'моцна біць, лупцаваць' (мсцісл., Мат. Маг.), *комшаць* 'жаваць' (в.-дзвін., Сл. паўн.-зах.), *камша́ніца* 'цёртая салома' (Сцяшк. Сл.), *комшыцца, камшоліцца* 'капацца, марудзіць' (слаўг., Нар. словатв.), *камшыць, комкаць* 'ляпіць снег у камок', 'змяць адзежыну' (КЭС, лаг.), *камшыць* 'камячыць' (ТСБМ) і *комшъць, комкъць* 'прагна есці' (міёр., Нар. сл.), *комчаць* 'комкаць', *комшаны* 'мяты, цёрты' (ТС). Шматлікія прыклады-адпаведнікі з іншых слав. моў гл. Трубачоў, Эт. сл., 10, 180. Прасл. *komъsati* 'рваць, глытаць вялікімі кавалкамі', дзеяслоў з *-s-* нарашчэннем кораня, да *komъ* > *ком. камя́к* (гл.). Параўн. таксама Слаўскі, 2, 393.

**Камштоліцца** 'гуляць' (петрык., Шатал.). Няясна.

**Каму́лка** 'бязрогая карова' (Ян.), да *каме́ль*₂ (гл.). Аднак не выключана, што гэта лексема генетычна звязана з літ. *gamulà* 'бязрогая скаціна' (больш падрабязна гл. Трубачоў, Эт. сл., 10, 174—175).

**Каму́на** 'група людзей, аб'яднаная для супольнага жыцця пры абагульненні працы і сродкаў вытворчасці', 'камунізм', 'тып гарадскога самакіравання ў сярэдневяковай Заходняй Еўропе' (ТСБМ, Яруш.). З польск. або з рус. мовы. Першакрыніца франц. *commune* 'гміна, абшчына'.

**Камуна́льны** 'які адносіцца да гарадской гаспадаркі'.

З польск. або рус. мовы, у якіх з франц. *communal* < лац. *commūnis* 'агульны, абшчынны'.

**Камунізм** 'найвышэйшая грамадска-эканамічная фармацыя' (ТСБМ). Запазычана з польск. *komunizm* ( < ням. *Kommunismus*) і з рус. *коммунизм* < франц. *communisme* (Слаўскі, 2, 402; Фасмер, 2, 303; Шанскі, 2 (К), 234—235).

**Камуніст** 'прыхільнік камунізму' (Яруш., Бяльк., Сцяшк.). Запазычанне з польск. ці з рус. мовы, куды слова прыйшло з ням. ( < англ. < франц. моў). У рус. мову магло трапіць непасрэдна з франц. (Шанскі, 2 (К), 236; Слаўскі, 2, 402). Значэнне 'член камуністычнай партыі' (ТСБМ) з'яўляецца савецізмам.

**Каму́ха** 'рэшткі семя пасля выціскання з яго алею' (навагр., Сл. паўн.-зах.) — у выніку перастаноўкі *м⇄к*, да *маку́ха* (гл.).

**Каму́нія** 'прычасце, прыняцце асвячонага хлеба і віна', 'еўхарыстыя', 'трэцяя частка імшы ў касцёле' (Федар. 1), ст.-бел. *комуния, коммуния* 'тс' запазычана са ст.-польск. *komunia,* якое з лац. *commūniō* 'супольнасць, з'яднанасць, адзінства', а з IV ст. 'аб'яднанне веруючых', 'прычасце' < лац. *commūnis* 'агульны' (Слаўскі, 2, 402).

**Каму́ш** 'веранда' (лун., Нар. сл.). Відаць, паходзіць з укр. *комúш* 'трыснёг', якое з тур. *kamiş* 'тс'. Значэнню 'веранда' папярэднічала значэнне 'сені', 'прыбудоўка' — прымітыўнае збудаванне каля франтона з крокваў і лат, пакрытых (як страха) трыснягом.

**Каму́шыкі** 'газнічка' (гродз. Сл. паўн.-зах.). Няясна.

**Камы́**₁ 'бульбяная каша' (Мядзв., Янк., Малч., Гарэц.; шкл., Мат. АС; горац., КЭС; докш., Янк. Мат.; полац., Янк. 2; паўд.-усх., КЭС; ТСБМ, Мат. Гом.; Серб., Бяльк.); 'бульбяная каша з гарохам ці бобам' (свісл., Шатал.; полац., Нар. сл.; ашм., швянч., глыб., віл., паст., Сл. паўн.-зах.), 'клёцкі з бульбы або з гароху' (Др.-Падб.); 'каша з бобу ці гароху' (швянч., Сл. паўн.-зах.; Нік. Очерки; Мат. Гом.); 'пюрэ канаплянае' (Мат. Гом.), 'каша з льнянога семя' (барыс., Сл. паўн.-зах.) 'талакно' (даўг., Сл. паўн.-зах. 'клёцкі, начыненыя мясам' (рас., в.-дзвін.), 'бульбяная каша, змешаная з тоўчаным макам' (Грыг., Маш.); 'цвёрдае цеста з аўсянай або гарохавай мукі, скачанае ў шарыкі, зваранае ў вадзе' (в.-дзвін., КЭС); 'гарохавы суп' (Жд. 3), 'густое цеста ў камах' (Нас.), 'клёцкі з цёртай бульбы' (в.-дзвін., Нар. сл.). Балтызм. Параўн. лат. *kami* 'тоўчаны, вараны гарох, скачаны ў галкі'

(Блесэ, SB, 5, 22—23). Другое значэнне лат. *kams* 'ком, камяк' таксама праглядваецца ў семантыцы бел. *ка́мы.*

**Камы́**₂ 'ажына' (Сцяшк.; смарг., Шатал.; Сл. паўн.-зах.). Рус. уладз. *комы́* 'тс', казан. 'макуха'. Макед. *комиње* 'вінаградныя жамерыны', *комов* 'які мае адносіны да вінаградных жамерын; серб.-харв. *ко̏м* 'жамерыны' славен. *kom* 'нешта круглае'; польск. дыял. *kom* 'камяк'. Відавочна, ажыны названы так паводле іх цвёрдасці і акругленасці формы пладоў. Да прасл. *komъ* (Трубачоў, Эт. сл., 10, 179). Параўн. літ. *kẽmuras* 'гронка ягад' (Буга, Rinkt, 2, 220).

***Камылга́,** *комылга́* 'нарасць на дрэве: на хвоі, на бярозе' (малар., Нар. лекс.). Утворана ад прыметніка *komolъ(jь)* 'круглы', 'выступ, нараст на месцы рагоў' (Трубачоў, Эт. сл., 10, 174—175) і суф. *-г-а* (Сцяц., Афікс. наз., 134), як *сіньга́* 'рыба сінец, Abramis ballerus' ад *сіні.* Галосны *-ы-* на месцы *-е-,* г. зн. [э] у малар. гаворцы, якое знаходзіцца ў чаргаванні з *-о-,* параўн. укр. *весна,* зах.-палес. *высна́* 'вясна'. Роднасным да *комылга́* з'яўляецца ўсх.-маг. *кыміня́* 'куля (шар), зробленая з альховага нарасту' (Бяльк.), якое пад уплывам *камяня́* 'палка для абапірання пры хадзе' змяніла *л* > *н.*

**Камы́ш**₁ 'рагоз., Typha' (даўг., Сл. паўн.-зах.) перанесена інфарматарам з рус. *камы́ш,* параўн. прыклад у запісе (Сл. паўн.-зах., 2, 392).

**Камы́ш**₂ 'запечак' (маст., Сл. паўн.-зах.). Няясна.

**Камэ́ля** 'фабрычная пража з танкаруннай воўны' (свісл., Нар. сл.), 'баваўняныя ніткі' (гродз., Сл. паўн.-зах.). Параўн. польск. мазав., хэлм.-дабж., варм.-мазур. *kamlować* 'часаць воўну (на спецыяльным грэбені)'. З ням. *kämmen* 'часаць (воўну)', *Kamm* 'грэбень' ( > польск. сілезск. *katy* 'ручныя шчоткі для часання воўны', паўн.-усх. *kamle* 'тс', 'машына для часання воўны'.

**Камя́га** 'прымітыўная лодка ў выглядзе карыта, выдзеўбаная з аднаго ствала дрэва' (бых., Рам. 8; Нас., Мядзв., Жд. 2; добр., Мат. Гом.); 'карыта ля калодзежа для вадапою' (Бяльк.; Др.-Падб., Гарэц., Нас., Юрч., Яруш.; Багародзіцкі, УЗ ЛГПИ, 1968, 325, с. 94, 97, 102) 'жолаб' (Сержп., Отчет; Юрч., Бяльк.); *камя́жышча* 'месца, дзе стаіць камягá' (Яшк.). Укр. *ком'ягá,* польск. *komięga (komiega),* рус. *комя́га.* Прасл. *komęga,* якое ў сувязі з адсутнасцю значэння 'ствол дрэва' ў прасл. *komъ* трэба разглядаць як *komę-ga* < **komen-ga* з адхіленнем у вакалізме кораня *kъty/kъmene* (адкуль ст.-чэш. *kmen* 'сцябло, ствол'). Роднаснае да яго літ. *kamẽnas*

'ствол, сцябло' (Трубачоў, Эт. сл. 10, 172—173). Іншыя дапушчэнні аб паходжанні слова (гл. Фасмер, 2, 307; Слаўскі, 2, 382—384) з'яўляюцца малаімавернымі.

**Камягі** 'кучавыя воблакі' (віл., Сл. паўн.-зах.), да *камяк, камякі* (гл.). Магчыма, пераходу *к* > *г* спрыяла экспрэсіўнасць суфікса *-яга.*

**Камя́к,** *камякі, камякé* 'сціснуты, змяты, злеплены кавалак мяккай масы' (ТСБМ), 'камы, бульбяная каша' (навагр., свісл., лун., Шатал.; стаўб., З нар. сл.; Федар. Рук.; слонім. Шн. 3; лях., барыс., дзярж., ганц., пух., ст.-дар., Сл. паўн.-зах.; Мал., Янк. БП, Гарэц., Сцяшк., Жд. 3); 'няўдала спечаны, глёўкі хлеб' (КЭС, лаг.; ашм., Сл. паўн.-зах.); шчуч. 'галушка', 'засохлая гразь', воран. 'макуха' (Сл. паўн.-зах.). Прадуктыўнае ў бел. гаворках утварэнне з суфіксам *-'ак,* да *ком, камы*₁ (гл.).

**Камяніца**₁ 'каменны або цагляны будынак' (Нас., Нік. Очерки, Сцяц. Нар., Гарэц.). З польск. *kamienica* 'тс'.

**Камяніца**₂ 'поле з камяністай глебай' (ТСБМ, Яшк.), рэгіянальнае (магілёўскае) утварэнне, як і іншыя падобныя словы з лакальным значэннем (*махавíца* 'махавое балота'). Гл. Сцяцко, Афікс. наз., 110.

**Камянічка** 'майнік двухлісты, Majanthenum bifolium L.' (ельск., Жыв. сл.), да *каманíца*₂ (гл.). Назва паводле падабенства з касцяніцамі.

**Камяно́к,** кымяно́к 'ачаг', 'каменне ў лазні' (Нас., Нік. Очерки; дзярж., Шн. 2). Ст.-бел. *коминокъ* 'ачажок', да *комін* (гл.). Параўн. таксама *камінак.*

**Камяня́,** *каміня́* 'качарга' (мазыр., бабр., Шатал.; лельч., Мат. Гом.; ст.-дар., Нар. сл.; пруж., маг., Нар. словатв.; Янк. 1); *камéнька* 'кій, якім абапіраюцца пры хадзьбе (з загнутай ручкай)' (Янк. 1). У выніку распадабнення губных (*м* → *в*) з *кавяня́, кавéнька* (гл.).

**Камяцéліцца,** *кымяцéліцца* 'валаводзіцца' (Бяльк.) — сапсаванае рус. *канитéлиться* 'тс'.

**Кан** 'бітон для малака' (мядз., Жыв. сл.; Жд. 2), *кана* 'тс' (усх., КЭС; ігн., красл., астр., смарг., паст., Сл. паўн.-зах.), смал. *ка́на* 'тс' Са ст.-в.-ням. *channe* (суч. ням. *Kanne* 'бітон', 'збан', 'кубак') праз пасрэдніцтва ідыш. Тое ж літ. *kãnė,* лат. *kanna* 'бідон'. Першакрыніца — лац. *canna* 'кошык', 'човен'. Параўн. таксама *конаўка* < прасл. *kony* і *канка.*

**Кана́** 'памінальная сыта (хлеб у салодкай вадзе)' (Вешт.,

ТС), 'куцця на дзяды' (калінк., Мат. Гом.), *каны́* 'канцы, смерць' (капыл., Жыв. сл.), *каны́ адступнэ́і* 'апошнія вянкі зруба над бэлькамі' (віц., КЛАБНГ, п. 17). Беларускае. Утворана пры дапамозе суф. *-а* ад прасл. *konъ* 'канец, мяжа', якое з прасл. *čęti* (SP, 2, 195—196; Трубачоў, Эт. сл., 4, 109 і 10, 195—196). У гаворках атаясамліваецца з пазнейшым *канон, кану́н* (гл.).

**Кана́ва,** *кына́ва* 'доўгі неглыбокі і нешырокі роў для сцёку вады' (ТСБМ, Сержп. Ск., Сцяшк., Яруш., Бяльк.; ганц., вільн., гарад. Сл. паўн.-зах.); 'пашыранае і выраўненае рэчышча' (слаўг., Яшк.); міёр. *къна́віна* 'канава', дубров. *кына́ў* міёр. (Нар. словатв.), *кана́ўка* (Сцяшк.; ветк., слаўг., Яшк.). Н.-луж. *kanała* 'тс'. Перароблена польск. *kanał* 'канал' (параўн. бел. дубров.) > *канаў,* аднак незвычайнасць заканчэння на *-ў* прывяла да рэгулярнага афармлення ў *-ва* (напр., як *вара́ва* 'мноства').

**Канава́л** 'лекар без спецыяльнай ветэрынарнай адукацыі, які займаецца лячэннем і пакладаннем коней і быкоў', 'дрэнны ўрач, невук у медыцыне' (ТСБМ, Бяльк., Янк. 1; мазыр., З нар. сл.; навагр., Нар. словатв.). Укр. *конова́л,* рус. *конова́л,* арханг., ленінград., наўг. *конева́л*. Ст.-рус. *коневалъ, коновалъ* (XVI ст.). Запазычана са ст.-польск. *konował* 'тс' (Фасмер, 2, 311), якое з *koń* 'конь' і *walić* 'паваліць', напр. рус. *вали́ть* (каня, быка) 'пакладаць' з першаснага значэння 'той, хто валіць (кладзе) каня перад пакладаннем'. Аднак Слаўскі (2, 426) гэту лексему адносіць у разрад прасл. (паўн.-слав.) *konovalъ*. І Трубачоў (Эт. сл., 10, 194) разглядае яе як прасл. разам з іншымі, падобнымі да яе: *konoderъ* 'каналуп', *konokradъ* 'канакрад', *konopasъ* 'канапас', *konoščipъ* 'мядзведка, Grillotalpa vulgaris' *konovęzь* 'канавязь', *konovodъ* 'канавод'.

**Канава́ць** 'вызначаць', *канаванне* 'вызначэнне лёсу', *наканава́ны* 'загадзя вызначаны' (Нас.). Утворана ад *кон* 'вызначэнне лёсу', 'чарга', якое з'яўляецца прасл. *konъ* (гл. Трубачоў, Эт. сл., 10, 195—196).

**Канада́** 'жанчына, якая ўмее прасіць', *кана́дзіць* 'выпрошваць' (КЭС. лаг.), ігн. 'вельмі хацець' (Сл. паўн.-зах.); смал. *кана́ить* 'прасіць', арханг. *ку́нда́* 'той, хто неадчэпна прыстае'. Няясна. Магчыма, звязана з літ. *gañdas* 'чуткі, гавэнда'. Параўн. семантычна блізкае ўкр. бойк. *конопадити* 'канькаць', 'назаляць'.

***Канадры́ста,** *конодры́ста* 'кураслеп (анемона) дуброўны, Anemone nemorosa L.' (лун., Шатал.), стол. *конодрысь,* драг. *коно́здрыця* 'тс' (Нар. лекс.). Складанае слова: першая частка

да прасл. *konь* 'конь', у паўн.-слав. гаворках яна замяняецца на *каза-* (параўн. гродз. *казадрост белы, казарост жоўты*); другая — да прасл. *drьstь* (ад дзеяслова *drьstati, drьščǫ*) 'дызентэрыя'. Параўн. яшчэ ст.-польск. *kozia drześć* 'казялец, Ranunculus candidus' (SP, 5, 38), мар. *kozí dřist,* польск. *kozidrzyst* 'анемона'.

**Каназа́** 'капрызнае дзіця', 'дзіця, якое любіць крыўляцца, сюсюкае, любіць і вымагае ўвагу ад дарослых', *каназíцца* 'крыўляцца ў гутарцы, сюсюкаць, прыкідвацца зусім маленькім' (паст. Сл. паўн.-зах.; Янк. 1); любан. *канасíцца* 'капрызіць' (Сл. паўн.-зах.); *каназобка* 'той, хто прытвараецца быццам плача' (глус., Янк. Мат.). Укр. *конозити, куно́за,* рус. *конози́ть,* польск. *konozić, konozić się* з іншымі значэннямі. Паводле Трубачова, Эт. сл., 10, 195, прасл. *konoziti,* якое з *ko-* і *noziti.*

**Кана́л** 'штучнае рэчышча, прызначанае для злучэння асобных вадаёмаў, для арашэння і асушэння' (ТСБМ, Яшк.). Ст.-бел. *каналъ* (XVII ст.), якое са ст.-польск. *kanał* 'канал' < < ням. *Kanal* < лац. *canālis* 'труба, канал, роў' < *canna* 'трыснёг, труба' < ст.-грэч. *κάννα* 'тс' (Булыка, Запазыч., 136; Слаўскі, 2, 41; Шанскі, 2 (К), 41).

**Канано́йцы** 'слабы' (ваўкав., Сцяшк. Сл.). Сапсаванне (у выніку перастаноўкі *н*↔*й*) з *канаёнцы* < польск. *konający* 'які памірае, канае, даходзіць'.

**Кана́па** 'мэбля ў выглядзе лавы (мяккая або без абіўкі) са спінкай і падлакотнікамі, прызначаная для сядзення некалькіх асоб або ляжання' (ТСБМ, Гарэц., Шпіл., Яруш., Бяльк., Сцяшк.; карэліц., Янк. Мат.; маст., шальч., Сл. паўн.-зах.), *кынап, кына́па* 'тс' (Бяльк.); *кана́фа* (чэрв., Сл. паўн.-зах.; Жд. 3). Запазычана з польск. *kanapa* 'тс', якое з франц. *canapé* < с.-лац. *canapeum* < лац. *cōnōpēum, cōnōpium* 'ложак з палогам ад камароў < ст.-грэч. **κωνωπεῖον, κώνωψ** 'камар' (Слаўскі, 2, 41—42).

***Канапа́тка,** *кыныпа́тка* 'дзяўчына з рабаціннем на твары', *кыныпацік* 'тое ж пра хлапчука' (Яўс.), *кыныпа́цінькій* 'тс' (мсцісл., Нар. словатв.), *конопя́тый* 'рабы' (пін., Шатал.), шчуч. *канапа́ты* 'тс'; івац., шальч. 'васпаваты', 'шурпаты, з няроўнай паверхняй', 'плямісты' (шальч., Сл. паўн.-зах.). Рус. *конопа́тка* 'вяснушка', 'воспіна', *конопа́тый* 'тс'. Бел.-рус. ізалекса, утвораная ад *канопа* 'каноплі' і суф. *-ат* (як *барадаты, паласаты*). Параўн. яшчэ рус. церск. *конопля́* 'вяснушка'. Названа паводле падабенства вяснушак да насення канапель (Фасмер, 2, 311—312).

**Канапа́ціць** 'затыкаць шчыліны пакуллем, мохам' (ТСБМ),

*канапа́тка* 'інструмент для канапачання' (карм., Мат. Гом.). Відавочна, паходзіць з рус. *конопа́тить*. Да *каноплі* (гл.).

**Канапе́лька** 'дрыжнік сярэдні, Briza media L.' (ТСБМ; віл., Жыв. сл.; мсцісл., Янк. 2), *кынапе́лька* 'тс' (Бяльк.). Рус. смал. *конопе́ль* 'тс', да *каноплі* (гл.). Названы паводле падабенства кветкі (мяцёлкі) да канаплянага семя.

**Канапе́лькі** 'зябер звычайны, Galeopsis tetrahit L.' (дзятл., Сцяшк. Сл.). Рус. яросл., сарат. *конопе́льник* 'тс'. Матывацыя — падабенства лістоў з канаплямі.

**Канапля́нік** 'верабей, Passer domesticus' (ТСБМ, Янк. 1; Сержп. Грам.; дзятл., Сцяшк. Сл.; Мат. Гом.; жлоб., Жыв. сл.); петрык. *канаплю́к* 'тс', петрык., калінк. *канапля́нка,* нараўл. *канопля́нка* 'тс' (Мат. Гом.), 'жулан, Lanius cristatus' (Інстр. II). Рус. *конопля́ник,* перм., вяц. *конопля́ничек,* кур. *коноплятничек* 'верабей'. Да *канапля́ны* < *каноплі* (гл.). Птушка названа паводле яе звычаю аббіваць (аб'ядаць) пасевы спелых канапель і проса.

**Канапля́нка,** нараўл. *конопля́нка* 'цёплая парцяная хустка фабрычнага вырабу' (ТСБМ, Сцяц. Нар.; браг., петрык., Шатал.; Мат. Гом.; гродз., З нар. сл.), 'невялікая баваўняная хустка' (браг., Нар. словатв.), 'цёплая суконная або кашамíравая хустка' (Сцяшк.; клец., КЭС; маладз., лях., Янк., Мат.), 'льняная хустка хатняга вырабу' (шальч., Сл. паўн.-зах.), да *каноплі* (гл.). Утварылася шляхам намінацыі *канапляная хустка* (якая першапачаткова была канаплянай і больш грубай, таўсцейшай, чым льняная).

**Канапу́шкі,** *конопу́шкі* 'вяснушкі' (івац., Сл. паўн.-зах., пін., Шатал.), да *каноплі, канапа́тка* (гл.). Магчыма і з **канаплюшкі*.

**Кана́рак** 'канарэйка, Serinus canaria' (Нас.). З польск. *kanarek* 'тс' < *Kanar* 'Канарскія астравы', але, магчыма, і з н.-лац. *aves canariae* (Слаўскі, 2, 42).

**Кана́рхаць,** *кына́ркыць* 'чытаць каноны і казаць стыхіры ў царкве', 'дакучліва і са слязьмі выпрошваць', *кына́ркыньня* 'вымаганне', *кына́ркыла* 'вымагальнік' (Гарэц., Нас., Яўс.), *канархіст(а)* 'добры спявак, пачынальнік спеваў', 'запявала', 'забаўнік' (Нас.). Рус. *кона́рхать* 'чытаць каноны ў царкве', смал. 'дакучліва прасіць', укр. *кана́рхати* 'спяваць на клірасе' 'гаварыць у нос', 'гібець', ст.-рус., ц.-слав. *конархати.* З грэч. *κανοναρχῶ* 'чытаю каноны' (Фасмер, 2, 307). Значэнне 'прасіць' узнікла ў XVIII ст., калі бедныя вучні спяваннем канонаў зараблялі сабе на пражытак (Насовіч, 229).

**Канарэ́йка,** *кынаре́йка* 'птушка, Serinus canaria' (ТСБМ, Бяльк., БелСЭ, 5). Запазычана з рус. *канаре́йка,* якое з франц. canari 'тс' (па тыпу *индейка)* < н.-лац. *avis Canaria* 'канарэйская птушка, птушка з Канарскіх астравоў'. (Фасмер, 2, 177—178; Шанскі, 2 (К), 42).

**Кана́т** 'тоўстая моцная вяроўка з валакна або дроту' (ТСБМ), *кына́т* 'тс' (Бяльк.). З рус. *кана́т* 'тс', якое паводле Фасмера (2, 178) з н.-грэч. *κανάτι* < с.-грэч. *καννάτα* 'вяроўка'. Гл. яшчэ Шанскі, 2 (К), 42. Сюды ж *кана́тнік* 'травяністая расліна з сямейства мальвавых, са сцябла якой атрымліваюць грубае валакно' (ТСБМ).

**Кана́та** (?) у фальклорным запісе: *«— Дзе цурка твая? — Пашла да канаца, пасцель белу слаці»* (навагр., Дзмітр.) — відаць, памылкова замест *да канаці.* У такім выпадку гэта відазмененае запазычанне з польск. *komnata* > *konnata* > > *konata* > *каната.* Яшчэ ст.-бел. *комната, ковната* 'пакой' (XV ст.), якое са ст.-польск. *komnata, kownata* 'тс' < с.-лац. *caminata* і *camnata* 'пакой з камінам', 'дом' (Слаўскі, 2, 388; Булыка, Запаз., 164).

**Кана́ць** 'паміраць, пакідаць жыццё, дажываць апошнія мінуты', 'набліжацца да канца' (ТСБМ, Гарэц., Сержп. Прымхі, Сцяшк., Мал.; КЭС, лаг.). Прасл. *konati,* утворанае ад *konъ* 'канец, мяжа' (падрабязна гл. Трубачоў, Эт. сл. 10, 181—182 і 195—196 з разборам літаратуры). Сюды ж гродз. *кана́цца* і беласт. *кона́тісе* 'цягнуць жэрабя перад пачаткам гульні' (Нар. словатв., Сл. паўн.-зах.).

**Канва́** 'рэдкая сятчатая тканіна (баваўняная або льняная), якая служыць асновай пры вышыванні крыжам' (ТСБМ, Сцяшк.), лід. *канво́* 'тс' (Сл. паўн.-зах.). Паводле націску запазычана з рус., (а не з польск.), *канва́, якое* (у XIX ст.) < з франц. *canevas* 'канва'. Аднак раней, яшчэ ў XVI ст. ст.-бел. *канавасовый* 'з палатна канавасу' прыйшло са ст.-польск. *kanawasowy* < *kanawas* < *(kanawac(a), kanafas* 'шаўковая або баваўняная тканіна', суч. польск. *kanafas* 'пераплётны матэрыял') < італ. *canavaccio* 'ануча' < с.-лац. *canovacium* 'грубае палатно', якое ўзыходзіць да *canava* 'каноплі' (Булыка, Запаз. 136; Слаўскі, 2, 47—48).

**Канва́лія** 'ландыш майскі, Canvalia majalis L.' (Сцяшк.; маст., шальч. Сл. паўн.-зах.; свісл. Шатал.; віц. Кіс., Інстр. II); *камвалея лесавая* (гродз. Кіс.). З польск. *konwalia* 'тс', якое з с.-лац. *(lilium) convallium* < лац. *convallis* 'даліна, якую акаляюць горы' (Слаўскі, 2, 442—443).

**Канве́ер** 'транспарціровачны пас, прыстасаванне для пера-

мяшчэння вырабаў ці грузаў' (ТСБМ). З рус. мовы, куды ў 30-х гадах XX ст. з англ. *conveyer* 'транспарцёр', < *convey* 'перадаваць, перавозіць' (Шанскі, 2 (К), 248).

**Канве́рт** 'пакет з паперы для перасылкі пісьма па пошце', 'коўдра ў форме пакета' (ТСБМ, Бяльк., Сцяшк.), *канаве́рт* 'тс' (Сцяшк.; бяроз. КЭС); *кунве́рт* (Бяльк.), маст. *канвэ́рт,* пруж. *коновэ́рт* 'тс' (Сл. паўн.-зах.). З рус. *конве́рт,* якое ў Пятроўскую эпоху з франц. *couvert* 'закрыты, схаваны' < < *couvrir* 'накрываць' < с.-лац. *copertum* < *coopertus* 'накрыты'. Застаецца няясным узнікненне насавога *-н-*. Магчыма пасрэдніцтва ням. *Kuvert.* Гл. Фасмер, 2, 308; Шанскі, 2 (К), 250.

**Канволь** 'паркаль з атласнымі палосачкамі' (ветк., Мат. Гом.). Відавочна, з ням. *Kammvolle* 'часаная воўна', што не звязваецца семантычна. Магчыма, недакладна запісана значэнне ў інфарматара або гэта семантычны перанос: паркаль вырабляецца таксама з часанай бавоўны.

**Канвой** 'узброенае суправаджэнне, прыкрыццё' (ТСБМ). З рус. *конвой,* якое з гал. *konvooi* або франц. *convoi* 'суправаджэнне, абоз' < *convoyer* 'суправаджаць', < нар. лац. **conviare* 'тс' < лац. *via* 'дарога' (Фасмер, 2, 308; Слаўскі, 2, 445). Сюды ж коласаўскі наватвор *конвойнік* 'канваір' (КТС).

**Кангрэс** 'міжнародны з'езд, нарада' (ТСБМ; Яруш.). Відавочна, запазычана з польск. мовы, дзе *kongres* 'з'езд' з XVII ст. Аднак не выключана другаснае запазычанне з рус. *конгре́сс,* якое (у пач. XVIII ст.) з ням. *Kongress* < лац. *congressus* 'сход' < *congredi* 'сустракацца' < *gradior, gradī* 'крочыць' (Слаўскі, 2, 417; Шанскі, 2 (К), 252). Лексема *кангрэс* у значэнні 'парламент' з англ. *congress* 'тс'.

**Кандалы́** 'абутак на драўлянай падэшве' (паст., Сл. паўн.-зах.; ТС; Лучыц-Федарэц, вусн. паведамл.). З рус. *кандалы* 'кайданы' — паводле падабенства: у такім абутку ідучы, чалавек моцна грукае аб падлогу, як у кайданах. Рус. лексема *кандалы* (са ст.-рус. *кайданы, койдалы, кандалы*), дыял. *кайданы, кайдалы* — у выніку распадабнення *й...н*>*н...л.*>суч. рус. *кандалы́*) < з араб. *qajdāni* парны лік ад *qajd* 'завязка' праз тур. *kajd* 'завязка' (Фасмер, 2, 23—24, 178).

**Кандзе́йка** 'невялікая гліняная міска з ручкай' (Растарг.) прымыкае да рускамоўнага арэалу (паўсюдна), дзе *кандея́, канде́йка* 'яндоўка, коўш', 'гаршчэчак', 'місачка', 'глячок', 'медная міска замест званка (у кляштарах)', укр. *кандійка, кондійка* 'сасуд для асвячэння вады ў царкве', ст.-рус. *кандия.*

З с.-грэч. *κοντίον* 'медная міска, якая выкарыстоўваецца манахамі ў манастырах' (Фасмер, 2, 179). Іншыя, малаімаверныя версіі, там жа.

**Кандзёр** 'бульбяны суп' (б.-каш., Мат. Гом.), драг. *каньдёр* 'тс' (Лучыц-Федарэц, вусн. паведамл.). Няясна. Малапераканаўча Фасмер (2, 179) ад *ка-н-дёр* < *драть* 'лушчыць'.

**Кандзю́х** 'жывот' (Нас., чач., Мат. Гом.), 'тоўстая кішка свінні' (Нас.), да *кіндзю́к* (гл.).

**Кандзярава́ты** 'кучаравы' (швянч., шальч. Сл. паўн.-зах.), да прасл. *kǫderъ* (адной з рэканструяваных прасл. форм — гл. Слаўскі, 2, 126—127). Утворана ад польск. прыметніка *kędzierawy* пры дапамозе бел. суфікса *-ават-ы*.

**Кандра́т** 'тхор' (нар. Мат. Гом.) — табу. Параўн. *Міша* 'мядзведзь'.

**Кандра́тка** ў спалучэнні *братка-кандратка* 'божая кароўка' (Шатал., З жыцця), *кандра́цька* 'тс' (бярэз. Сл. паўн.-зах.). Ад імя *Кандрат*.

**Кандра́цікі** 'крынічнік-дуброўка, Veronica chamaedrus L.' (маг. Кіс.). Відавочна, з **квадрацікі* ў сувязі з квадратнай формай (контурам) кветкі з чатырох пялёсткаў.

***Кандры́чка,** *кандрэ́чка* 'худая, шустрая, натурыстая кабета з выкрутасамі' (драг., Нар. словатв.). Рус. пск., цвяр. *кандрычи́ть* 'біць', смал. 'здзекавацца, мучыць', валаг. 'упарціцца, упірацца', валаг., кур., маск. *кандрычиться* 'тс', стаўрап. 'капрызіць', бран. *кандрючить* 'наравіцца'. Утворана ад *драчыць, дранчыць* (< прасл. *dročiti* гл. SP, 4, 252—253; Трубачоў, Эт. сл., 5, 122—123) і прыстаўкі *ка-* з інфіксам *-н-* (Фасмер, 2, 179).

**Канду́ктар** 'праваднік' (ТСБМ, Яруш.). Паводле Фасмера (2, 310), у рус. мове — праз польск. або з ням. Калі прыняць першае, дык у бел. мову прыйшло з польск. *konduktor,* якое з франц. *conducteur* 'тс' з ад'ідэацыяй да с.-лац. *conductor, conducere* 'зводзіць, пераводзіць' (Слаўскі, 2, 410; Шанскі, 2 (К), 256).

**Канды́ба** 'кульгавы', 'павольны ў хадзе' (Нас., Гарэц., Бяльк., ТСБМ), *кандыбы* 'хадулі' (ТСБМ; слуц., Нар. словатв.), *кандыбаць* 'ісці кульгаючы, павольна, з цяжкасцю перастаўляючы ногі' (ТСБМ, Бяльк., Гарэц., Жд. 3), *кандыбыць* (Бяльк.), драг. *шкандэ́батэ* (Лучыц-Федарэц., вусн. паведамл.). Укр. *кандиба* 'кляча', *шкандибати* 'кульгаць', 'ісці прыкульгваючы', рус. іркуц. *кандыба* 'кульгавы', варонеж.,

бран., кур., свярдл. *кандыбать* 'прыкульгваць, кульгаць', варонеж., 'паволі рабіць што-небудзь', рус. паўд. *шкандыба, шкандыбать* 'кульгаць'. Трубачоў разглядае гэтыя словы як вытворныя ад *дыбать* з прыстаўкай *ка-,* ускладненыя зычным *ш-* і інфіксам *-н-* (Фасмер, 4, 448). Да *дыбаць;* параўн. літ. *dūbinti* 'ісці, крочыць доўгімі нагамі'. Прыстаўка *ка-* і інфікс *-н-* у словах *кандзёр* і *кандрычка* (гл.).

**Кандыда́т** 'той, хто намечаны для выбрання, прыёму, назначэння' (ТСБМ, Яруш.), Ст.-бел. *кондидатъ* (XVII ст.) 'тс'. Запазычана са ст.-польск. *kandydat,* якое з лац. *candidātus* 'убраны ў белае адзенне' (з часоў Рыму — прэтэндэнт на пасаду павінен быў быць апрануты ў белую тогу) < лац. *condere* 'бялець, блішчэць' (Слаўскі, 2, 44; Шанскі, 2 (К), 43—44).

**Кане́ц** 'мяжа, ускраіна, край (вёскі, вуліцы, поля і г. д.)', 'заканчэнне', 'палавіна хаты', 'фасад', 'апошні момант чаго-небудзь', 'смерць, гібель', *канцы́* 'астаткі нітак асновы', 'нізка (грыбоў)' (ТСБМ, Яруш., Яшк., Сцяшк., Бяльк., Сержп. Прымхі, Сержп. Грам.; валож., Жыв. сл.; Ян., Сл. паўн.-зах.). Укр. *кінець,* рус. *конец,* польск. *koniec,* н.-луж. *kóńc,* в.-луж. *kónc,* чэш. *konec,* славац. *koniec,* славен. *kónec,* серб.-харв. *ко́нац, ко̏нац,* макед. *конец,* балг. *конец, конч,* ст.-слав. **коньць.** Прасл. *konьcь* 'канец, пачатак', 'апошняя кропка' < < *konъ* (гл. Трубачоў, 11, 5—6; 10, 195—196). Роднасныя і.-е. адпаведнікі: лат. *at-kan* 'зноў', ст.-інд. *kanī́nas* 'малады', *kanyā̄* 'цнатлівая', с.-ірл. *cinim* 'узнікаю, находжу', ст.-грэч. *καινός* 'новы' (агляд літ-ры гл. Фасмер, 2, 310; Слаўскі, 2, 418—419).

**Канёк,** парны лік *канькі́* 'прыстасаванне для язды па лёдзе' (ТСБМ, Мат. Гом., Сл. паўн.-зах.), як і *канёк* 'вільчык' (ТСБМ; лаг., бяроз. Шатал.), — дэмінутыўная форма ад *конь* (гл.). Названы паводле знешняга падабенства (Фасмер, 2, 316; Шанскі, 2 (К), 299; Слаўскі, 2, 446). Першая лексема запазычана з рус. мовы.

**Канёўнік** 'хлеўны нячысцік, які займаецца коньмі і каровамі' (Нік. Няч.). Да *конь* (гл.), (аб суфіксе гл. Сцяцко, Афікс. наз., 171). З такім жа суфіксам *-'оў-ка* вядома слова *канюўка* 'дзве дошкі, прыбітыя да лат з абодвух бакоў франтона' (драг., Нар. сл.).

**Ка́нік** 'бітон з кранам для адстойвання малака' (Сцяшк.), да *кан, ка́на* (гл.).

**Каніку́лы** 'перапынак у занятках для адпачынку навучэнцаў' (ТСБМ), драг. *канікýлэ* 'тс' (Лучыц-Федарэц., вусн. паведамл.). Відавочна, запазычана з польск. *kanikuła* 'спякота'

і старое значэнне 'канікулы', якое з лац. *canīcula* 'малы сабачка' (у выражэнні *diēs caniculāres*) — ад назвы сузор'я Малога Пса і таго перыяду, калі сонца знаходзіцца ў гэтым сузор'і (з 22 ліпеня да 23 жніўня) і стаіць гарачае надвор'е; па гэтай прычыне быў устаноўлены перыяд адпачынку ад заняткаў. Форма мн. ліку па аналогіі з *суткі* (Фасмер, 2, 180; Шанскі, 2 (К) 44).

**Каністра** 'плоскі бак з герметычнай накрыўкай для захоўвання вадкасцей' (ТСБМ). З ням. *Kanister* < лац. *canistrum* 'плеценая з чароту карзіна' < ст.-грэч. *κάνιστρον* 'тс' < < *κάννα* 'трыснёг'. Запазычанне з перыяду Вялікай Айчыннай вайны (Шанскі, 2 (К), 44).

**Ќаніца**, *ќанка* 'льняны саламяны або з гнуткіх галінак (абшытых палатном) абручык вакол галавы замужняй жанчыны пад хусткай, на які накручвалі валасы' (Маш.; слонім., Шн.; Тарн., Сакал.). Да *тканіца* < *тканка* (Помн. этнагр., 135).

**Канон** *канун, кануна* 'сыта, куцця, абрадавая салодкая страва, якая гатуецца к памінкам' (Нас., ТС, Вешт.; калінк., Мат. Гом.; бярэз., рагач., круп., чэрв., пух., калінк. Сл. паўн.-зах.); 'узаконенае правіла вышэйшай царкоўнай іерархіі', 'спіс рэлігійных кніг', 'царкоўнае песнапенне ў пахвалу святога або свята' (ТСБМ). Укр. *канун* 'салодкая страва к фэсту', канон; рус. смал. *канон* 'куцця з мёдам', кастр. 'салодкае піва на ўсяночнай', рус. *канун* 'маленне', 'паніхіда', 'дзяды', 'першая гадавіна смерці', 'памінкі', 'куцця', 'піва', 'асвячоны мёд', смал. *кануна* 'паніхіда' і інш. Ст.-рус. *канонъ* (XII ст.), *канунъ*. Апошняя форма — народная. Запазычана з грэч. *κανών* 'палка, шнур, лінейка'. Разгляд літ-ры гл. Фасмер, 2, 180—181.

**Каноплі** 'расліна Cannabis sativa L.' (ТСБМ, Бяльк., Сцяшк.; навагр. Жыв. сл.; гродз., гом. брэст., Кіс), *канапля* (Сержп., Грам., Яруш.; віц., маг. Кіс.), *кынаплі́, канаплі́* (Бяльк.; Шат.), *калопня, калапні* 'тс' (Яруш.; гродз., мін. Кіс.). Укр. *конопля,* рус. *конопля,* польск. *konopie,* каш. *kųónopla,* н.-луж. *konopje,* в.-луж. *konopje,* чэш. *konopě,* славац. *konope,* славен. *konóplja,* серб.-харв. *кòнопља,* макед. *коноп,* балг. *конóп(ье)*. Прасл. *konopja, konop(j)ь*. Да інда-іран. **kana-* 'насенная'. У якасці еўрапейскага культурнага слова выкарыстана форма **kana-pus-* 'мужчынскія каноплі' (параўн. ст.-інд. *pútān* 'мужчына, самец'), > 'каноплі ўвогуле', а для 'мужчынскай каноплі' ўжывалася словаскладанне **pus-kana* > > слав. *poskonь* (бел. і *плоскуні)*. Больш падрабязна агляд

літ-ры гл. Фасмер, 2, 312; Слаўскі, 2, 425—426; Трубачоў, Эт. сл., 10, 188—193).

**Кансе́рвы,** размоўн. *кансе́рва* (адз. лік) ’прадукты харчавання, расфасаваныя ў герметычную тару’ (ТСБМ). Відавочна, з польск. *konserva* ’тс’ (XIX ст.), якое з італ. *conserva* ’захоўванне’ < *conservare* ’захоўваць у добрым стане’ < лац. *cōnservāre* ’захоўваць, берагчы’ (Слаўскі, 2, 428—429). Літаратурная форма ў мн. ліку — з рус. мовы.

**Канстыту́цыя** ’асноўны закон дзяржавы’, ’будова арганізма, склад цела’ (ТСБМ) *кансцітуцыя* (Яруш.). Ст.-бел. *конституция, констытуция, констытуцыя* ’укладанне, устанаўленне’ (XVI ст.), са ст.-польск. *konstytucja,* якое з лац. *cōnstitūtiō* ’устанаўленне’, ’арганізацыя, стан’ (Слаўскі, 2, 431; Булыка, Запаз., 167).

**Кант** ’востры бераг, край, рабро чаго-небудзь’, ’аблямоўка’, ’кайма’ (ТСБМ, Клім., Сцяшк.; гродз., З нар. сл.), драг. *кант, кантэ* ’стрэлкі ў адпрасаваных штанах’ (Лучыц-Федарэц., вусн. паведамл.). З польск. *kant* ’край, востры бераг’, якое з ням. *Kante* < ст.-франц. *cant* ’вугал’, < лац. *canthus* ’куток у воку’, ’вобад кола’ (Слаўскі, 2, 45—46; Фасмер, 2, 181).

**Ка́нтар**[1] ’вуздэчка без цугляў для прывязвання каня’ (ТСБМ), ’моцны повад пры моцнай аброці (КЭС, лаг.). Ст.-бел. *кантаръ* ’аброць’. Запазычана са ст.-польск. *kantar* ’тс’, якое з венг. *kantár, kentar* < джагатайск. *kantar* ’кароткія лейцы’, тур. *kantarma* ’вуздэчка’ (Булыка, Запаз., 137; Слаўскі, 2, 46).

**Ка́нтар**[2] ’спружынавы бязмен на шэсць пудоў’ (Сцяшк.) ’род бязмена’ (ТСБМ, Бяльк., Яруш., Растарг.; віц. КЭС; Сцяц. Нар.); ’чыгунная гіра’ (Мядзв.) ’бязмен з двума рычагамі’ (Мат. Гом.), ’вага’ (Яруш.). Укр. *кантар,* рус. *контарь* ’вага ў 2,5 пуда’, ст.-рус. *контарь* (з XVI ст.), польск. *kantar* ’вага ў 50 кг’. З тур. *kantar* ’вага, бязмен’, якое праз араб. узыходзіць да ст.-грэч. *κεντηνάϱιον* < лац. *centēnārius* ’цэнтнер’ (Фасмер, 2, 213; Слаўскі, 2, 46—47).

**Кантава́цца** ’гультаяваць, праводзіць час, нічога не робячы’ (усх.-бел., КЭС). Да *кант* ’бок, край, рабро’, ’абшыўка’. Перанос значэння паводле падабенства: ’перакочвацца з боку на бок, лежачы’.

**Канто́плі** ’апоркі, боты з адрэзанымі халявамі’ (стол., Сакал.). Сапсаванае з *пантофлі* (гл.).

**Канто́ра** ’калгасная канцылярыя’ (Сцяшк.), ’аддзел прадпрыемства з арганізацыйна-гаспадарчымі функцыямі’ (ТСБМ,

Яруш.). З рус. *контора* 'тс', якое з ням. *Kontor* або з гал. *kantoor* < франц. *comptoir* 'бюро', 'прылавак' < *compter* 'лічыць' (Фасмер, 2, 313; Слаўскі, 2, 47).

**Кантýры** 'катаванні', 'пакуты' (Шпіл.), з польск. *tortury* 'тс' (з дысіміляцыяй *t...t*).

**Кантынгéнт** 'устаноўленая норма для пэўных мэт' (ТСБМ), *канты́гент* 'дзяржаўная пастаўка збожжа, падатак' (Сцяшк.). З польск. *kontyngent* 'устаноўленая норма падаткаў' < лац. *contingēns, contingentis* 'які выпадае на долю' — праз ням. *Kontingent* (Слаўскі, 2, 442), літаратурная форма — з рус. мовы.

**Кантэ́нтны,** *кантэ́тны* 'задаволены' (Федар. 2; КЭС, лаг.), ст.-бел. *контентъ* (XVI ст.) 'тс'. Запазычана са ст.-польск. *kontent* < лац. *contentus* 'задаволены, які абмяжоўваецца чым-небудзь' (Слаўскі, 2, 435).

**Кантранíк** 'сірата, батрак' (брасл., Сл. паўн.-зах.), сапсаванае *кантрактнік* 'адзін з бакоў кантракту'. Да *кантрáкт* 'дагавор, пагадненне' (ТСБМ, Яруш.), ст.-бел. *контрактъ* (XVI ст.) 'тс', якое са ст.-польск. *kontrakt* 'тс' < лац. *contractus* 'умова, абавязацельства' (Слаўскі, 2, 437).

**Канты́чка** 'зборнік духоўных песень і кантаў', (ТСБМ, Нас., Гарэц., Нік. Очерки) запазычана з польск. *kantyczka* 'тс', якое з лац. *canticum* 'песня, спеў' (Слаўскі, 2, 46).

**Канýрак** 'вузкае месца за печчу' (Сцяшк.). Узнікла ў выніку кантамінацыі лексем *закамáрак* і *нарá* (гл.).

**Канýркі,** *канoркі* 'карункі' (Мат. Гом.)., у выніку перастаноўкі н⇄р.

**Кáнуць** 'знікнуць бясследна' (ТСБМ, Сержп. Прымхі), 'працячы, выступіць' (ТС). Прасл. *kapnǫti* 'сачыцца, выступаць', 'капнуць, упасці' (гл. Трубачоў, Эт. сл., 9, 147—148; Фасмер, 2, 182).

**Канфітýры** 'варэнне' (Сцяшк.), запазычанне з польск. *konfitury* 'садавіна, засмажаная ў цукры або мёдзе' < франц. *confiture* 'закансерваваная садавіна ў цукры' (Слаўскі, 2, 415).

**Канцыля́рыя** 'аддзел установы, заняты справаводствам', ст.-бел. *канцелярия, канцелярыя, канцлерея, канцлярыя, канцлярея, канслерия* (пач. XVI ст.) 'тс', запазычана са ст.-польск. *kancelaria* < позн. с.-лац. *cancellaria* 'тс' < лац. *cancellārius* 'адзін з членаў варты ўладара, які, стоячы перад кратамі дзвярэй (суда), абвяшчаў яго загады' < лац. *cancelli* 'агароджа' (Слаўскі, 2, 43).

**Канча́р**, *канчу́р* 'аддзелены канец чаго-небудзь' (ТСБМ, Др.-Падб., Гарэц.; стаўбц. Прышч.; слонім., Нар. лекс., Сл. паўн.-зах.; навагр., Нар. словатв., стаўбц. З нар. сл.); 'сук, галіна дрэва, канцы галін' (Сцяшк.), *канчарэ́* 'кароткія бярвенні паміж вокнамі і на вуглах' (гродз., Мат. АС); *канча́рык* 'канец градкі' (гродз., З нар. сл.; Сл. паўн.-зах.); *канчуры* 'паспісваныя алоўкі' («Маладосць» 1969, 1, 156); *канча́р* 'корч, куст' (Сцяшк.), *канчы́р* 'няроўнасць на дарозе ад каранёў дрэў'. Бел. прасл. рэгіяналізм, утвораны ад прасл. *konьсь* 'капец' пры дапамозе суф. *-ar'ь*. Ад *konьсь* утвораны і дзятл. *канча́к,* шальч. *канчу́к* 'канец баразны', паст., докш., віл. *канчык, ка́нчычок* 'кончык' (Сл. паўн.-зах.).

**Канча́лі** 'крайнія вуліцы ў вёсцы; канец вуліцы, край населенага пункта' (Яшк.). Вузкі бел. рэгіяналізм (з суфіксам *-аль,* які ўтварае назоўнікі з назыханнем прасторавых паняццяў, як *кругаль* 'кругавая дарога', гл. Сцяцко, Афікс. наз., 146—147). Сюды ж *канчальны* 'канчатковы' (Гарэц., Др.-Падб.). Падобнае ўтварэнне ў лексемы *канчулянец* 'жыхар канца вёскі' (карэліц., Нар. словатв.) і *канчанец* 'тс' (Янк. 1), *канчані* (мн.) 'тс' (бялын., Янк. Мат.). Гл. таксама *канча́р.*

**Канча́так** 'канец, заканчэнне' (Гарэц.), *канчатка* 'тс' (Яруш.). Беларускае. Суф. *-ат-ак (-ат-ка)* як у *занятак* (гл.). Параўн. *канчаткі* 'кавалак палатна з канцамі асновы, якім карыстаюцца пры датыканні красён' (астр., Сл. паўн.-зах.). Да *канец* (гл.).

**Канча́ты** ў фразе: *калі ў віхар кінуць канчаты нуо̑ж...* (Сержп., Прымхі). Параўн. ст.-бел. *кончеръ* (XVI ст.) 'меч з вузкім клінком' (якое паводле Булыкі (Запаз., 170) паходзіць са ст.-польск. *koncerz* < чэш. *končíř*), укр. *кінчак,* рус. *конча́р, конча́н* 'тс' < татар. *kandżar,* тур., крым.-татар. *xandžär* 'крывы кінжал', ст.-чэш. *končitý* 'востры', *končíř* 'рапіра' (Фасмер, 2, 316).

**Канчу́к** 'раменны бізун' (ТСБМ, Гарэц., Грыг., Сцяшк., Сержп., Ск., Д.-З.; Федар. 6; гродз., Крачк.; Мядзв.), *ганджу́к* (стол., Нар. лекс.), *канча́к* (Яруш.), *кончу́к* 'тс' (ТС), ст.-бел. *кончукъ* 'тс' (XVII ст.). Укр. *канчу́к,* рус. *камчу́к, камчу́г,* польск. *kańczug* З памяншальнай формы тур. (крым.-татар.) *kamčyk* < *kamčy* 'бізун, нагайка' (Булыка, Запаз., 170; Фасмер, 2, 176; Слаўскі, 2, 48).

**Канша́хты** 'шашні, патаемная сувязь' (Нас.). Сапсаванае з *кантакты* 'адносіны'; *-ш-,* магчыма, мае кантамінацыйны характар.

***Каншля́,** *коншля́* 'малады конік' (ТС), пруж., слонім. 'жарабец', драг. 'гультаяваты конь, слабы конь' (КЭС), навагр., баран. *каньсля* 'тс', (Федар. Рук.), *кончля* 'невялікі слабы конь' (Дразд.). Утварэнне з *-ęt-* суфіксам *(konьk-ę)*; *-л-* < *-j-*. Параўн. бел. *канча́, канчо* 'слабы, мізэрны конь' (Янк. 1, Сцяц.).

**Каншча́к** 'конскае шчаўе, Rumex canfertus Willd.' (Сцяшк.). Утворана ад назвы *каня, канча́, канчо* (Янк. 1; Сцяц.; усх.-палес., Жыв. сл.).

**Каны́.** Гл. *кана́.*

***Канькі́,** шчуч. *ка́нькі* 'канькі' (З нар. сл.). Гл. *канёк.*

**Кань** 'спосаб гарызантальнай кладкі бярвенняў у сцяне (без шула)' (Клім.); *кань* і *каня* 'спосаб кладкі сцяны, пры якім бярвенні ўпускаюцца ў шула або ў паз', 'паз у сцяне' (Шушк.; лун. Шатал.; івац., пух. Жыв. сл.; ТС; КЭС, лаг.; навагр. Жыв. сл.; чэрв. Нар. лекс.), 'папярочная сцяна' (ганц., пух., барыс. Сл. паўн.-зах.), пух. *канявая сцяна* 'перагародка з бярвенняў у хаце', драг. *каняванка* 'сцяна, якая перагароджвае хату на дзве часткі' (Нар. сл.), *канявая сцяна* 'сцяна з суцэльных бярвенняў ад вугла да вугла' (Сцяшк.). Бел. рэгіяналізм *кань* паходзіць з прасл. *tъkanь* < *tъkati* 'складваць бярвенні', параўн. ст.-грэч. *τυκίξω* 'чашу каменне', ст.-англ. *đӯn, đűan* 'ціснуць, штурхаць', ст.-в.-ням. *dûhen* 'прыціскаць'. Аб першаснай ступені будаўніцтва як пляценне агароджы (> складанне сцяны), гл. Трубачоў, Ремесл. терм., 147 і інш. Параўн. яшчэ віц. *къніва́я* 'вільчык' (Нар. сл.) як спосаб пляцення верха страхі.

**Ка́нькаць.** Гл. *ка́ня.*

**Каню́к.** Гл. *ка́ня.*

**Канюкі́** 'канькі' (пін., Нар. лекс.). Да *канёк* (гл.).

**Канюшы́на** 'шматгадовая, аднагадовая кармавая травяністая расліна Trifolium (ТСБМ, Яруш., Дэмб. 2, Кліх, Мядзв., Сцяшк., Кіс., Бяльк., Сержп. Грам.; палес. Нар. лекс.), *канюшкі* 'канюшына раллявая, Trifolium arvense L.' (гродз., Кіс.). Укр. *конюшина,* як і бел. лексема, запазычана з польск. *koniezyna* 'тс' < ст.-польск. *konicz* < *konik*. Семантычнае развіццё параўн. *каманіца*₁.

**Ка́ня**₁ 'драпежная птушка (Buteo) сямейства ястрабіных' (ТСБМ, Мядзв., Маш., Дразд., Гарэц.), 'каршун, Milvus' (Маш.), 'кнігаўка, Vanellus vanellus' (ТСБМ; в.-дзвін., бярэз., рас., Сл. паўн.-зах.), 'чапля, Ardea cinerea' (тураў.,

КЭС; Маш., ТС), *канюк, канюка* 'каршун чырвоны' (Дразд., ТС); 'каня' (маст. Сл. паўн.-зах.), *канюх* 'каршун' (ТСБМ, чэрв. Сл. паўн.-зах., Др.-Падб.), *ка́нюх* 'тс' (Бяльк., Гарэц.). Прасл. *kan'a, kan'ukъ* (гл. Трубачоў, Эт. сл., 9, 142—143). Лексемы маюць гукаперайм,альнае паходжанне — паводле своеасаблівага манатоннага піску. Адсюль і дзеяслоў *канькаць* 'выпрошваць са слязьмі, дакучліва прасіць, паўтараць адно і тое ж' (ТСБМ, Янк. 1, Гарэц.; полац. Нар. лекс.), *канькъць* 'тс' (Бяльк.; ушац., Нар. сл.).

**Ка́ня**$_2$ 'грыб: варона, капялюх' (беласт. Жыв. сл.) < польск. *kania* 'грыб-паразіт'. Слаўскі (2, 44) адносіць гэту лексему ў рад іншых, якія абазначаюць драпежных істот і расліны-паразіты.

**Кап** 'наплыў, нарасць на дрэве' (ТСБМ), рус. *кап* 'тс'. Да *ка́паць* (Гараеў, Доп., 1, 16). Параўн. таксама *кануць* (гл.). Іншыя меркаванні гл. Фасмер, 2, 183.

**Ка́па** 'ўзорыстае пакрывала на ложак' (ТСБМ, Сцяшк., Клім., Нас.), 'скураное пакрыццё хамута' (в.-дзвін., свісл., Шатал.; Масл.; Клім., Сл. паўн.-зах.; КЭС, лаг.). З польск. *kapa* 'тс', якое з познелац. *cappa* 'пакрыццё галавы', 'плашч з капюшонам' (Слаўскі, 2, 49—50; Фасмер, 2, 183).

**Капа́** 'куча сена, саломы, складзеная конусам, невялікі стажок' (ТСБМ, Сцяшк., Бяльк., Сержп., Грам., Яруш., Мал.; КЭС, лаг.); драг. *копняк* (З нар. сл.), міёр. *къпяшка* 'тс' (Нар. сл.), *капіца, капешка* (Інстр. I); *капа* 'пяцьдзесят адзінак, штук' (Шпіл.; усх.-бел., КЭС), 'мера ў 60 адзінак, штук' (Мал., Гарэц., Сцяшк.; слуц. Лекс. і грам.; Зян., Сержп. Грам., Бяльк., Нік. Очерки; КЭС, лаг.; ТСБМ); 'сход сялян' (ТСБМ), 'сельскі правінцыяльны з'езд у Вялікім княстве Літоўскім' (Яшк.). Прасл. *kopa* ўтворана ад *kopati* (Трубачоў, Эт. сл., 11, 10—12; там жа і літаратура). Блізкія і.-е. адпаведнікі: літ. *kãpas* 'капец (магіла)', *kapaĩ* 'могілкі' (параўн. бел. *капцы́* 'курганы'), лат. *kaps* 'магіла', '60 штук', літ. *kopà* 'пясчаная дзюна'.

**Капава́ць**$_1$ 'цяміць, кумекаць' (стаўбц., Нар. сл.; смарг. Спяш. Сл.; зэльв. Жыв. сл.), *капаві́ты* 'разумны, кемлівы' (Сцяшк.). Паводле геаграфічнага пашырэння — паланізм (< *kapować* 'тс', 'падглядваць, віжаваць, сачыць', якое ўзыходзіць да лац. *caput* 'галава').

**Капава́ць**$_2$ 'складаць у копы' (браг., Мат. Гом.), *капнаваць, капіць* 'тс' (там жа). Да *капа́*$_1$. Сюды ж і *капаві́шча* 'месца, дзе ставяць капу сена' (слаўг., Яшк.).

**Капава́ць**3 ’мець або пражыць 60 год’ (смарг. Сл. паўн.-зах.). Да *капа́*1.

**Капаві́шча** ’месца старажытнага суда’ (Гарб.). Ад *капішча* (гл.). Відавочна, суды, рашэнні прымаліся каля культавага храма, дзе збіралася большасць жыхароў.

**Капа́йла** ’марудны’, *капу́н* ’тс’ (Нас.; брасл., шчуч. Сл. паўн.-зах.), ушац. *капошка,* карэліц. *капач* ’тс’ (Янк. Мат., Пан. дыс.). Да *капа́цца* ’рабіць марудна, няўмела’ < *капа́ць* (гл.).

**Капа́лька** ’драўляная міска’ (гродз., Сцяшк. Сл.) — у выніку пераходу *н’* > *л’*. Да *капа́нька* (гл.).

**Капа́льня** ’руднік’, ’кар’ер, месца, дзе капаюць гліну, пясок, вапнавы камень і інш.’ (ТСБМ, Нас.), навагр., астрав. ’шахта’ (Сл. паўн.-зах.). Укр. *копа́льня.* Відавочна, запазычанне з польск. *kopalnia* ’шахта’, якое ўтворана ад *kopać* ’капаць’ на ўзор лац. *fodīna* ’тс’ < *fodere* ’капаць’ (Слаўскі, 2, 451—452). Сюды ж астрав. *капальнякі́,* воран. *капаня́к* ’драўніна, якую выкарыстоўваюць у шахтах для ўмацавання лавы’ (Сцяшк.).

**Капалю́ш** ’летняя шапка з палямі’ (іван., КЭС), *капе́люш* ’саламяная, сітавая, лазовая шапка’ (Шн. 3, Шпіл.; гродз. Рам. 1), *капелю́ша* ’капялюш’ (Мядзв.); *у капэлюшы́* ’д’ябал’ (Выг.), *капелюшы́* ’лісты гарбузоў’ (Бір.), *капелю́ш, капелюшы́, капелюшнік, капелюшкі, капелю́шнічок, капелю́шына* ’гарлачык жоўты, Nuphar luteum (L.) Sm.’, ’гарлачык чыстабелы, Numphaea candida Presl.’, ’падалешнік еўрапейскі, Asarum europaeum L.’ (Бейл.), да *капялю́ш* (гл.).

**Капані́** ’сані, палазы якіх не гнутыя, а зроблены з дрэва, выкапанага з коранем’ (Нас.; КЭС, лаг.; круп., Жыв. сл.; Др.-Падб.; светлаг., Мат. Гом.; віл. Сл. паўн.-зах.; бялын., Янк. Мат.); *кыпанікі* ’тс’ (Яўс.), *капа́нікі* ’палазы’ (гом., Мат. Гом.), *кыпа́нь, кыпане́ц* ’дрэва з загнутым коранем’ (Нік. Очерки), *капа́ны* і *ко́паны* ’вычасаны з дрэва, выкапанага з коранем’ (ТСБМ). Рус. смал., калуж. *ко́пани* ’палазы з такога кораня’. Узыходзіць да прасл. *kopanь,* якое з дзеепрыметніка прошл. часу *kopanъ* < *kopati* > *капа́ць* (гл.). Параўн. рус. цвяр., пск., пецярб. *ко́панцы* ’сані’, а таксама рус. наўг., кастрам., ярасл., цвяр., урал. *копань* ’дрэва, выкапанае з коранем для выкарыстання яго ў будаўніцтве гаспадарчых памяшканняў, суднаў, саней’, укр. *копани́ця* ’тс’.

**Капані́чыць** ’матычыць’ (Некр., Янк. 1, Мат. Гом; бялын., Янк. Мат.; кіраў., стаўбц., Нар. лекс.). Ад назоўніка *капані́ца*

'матыга' (ТСБМ, ТС, Сцяшк., Бяльк., Сержп. Грам.; стол., Крыв.— Вяр.; жлоб., Шатал.). Да *капаць* (гл.).

**Капа́ннік** 'той, хто капае бульбу' (Шн. 3), 'землякоп' (смарг. Шатал.), *капа́нніца* 'жанчына, якую нанялі капаць бульбу' (смарг. Шатал.; Янк. 2), паст. *капа́ніца* 'тс' (Сцяшк. Сл.). У выніку асіміляцыі з *капа́льнік, капа́льніца* 'тс'.

**Капа́нька** 'карыта' (свісл., Сцяшк. Сл.). Паўн.-польск. *kopań*, ст.-польск. *kopania, kopańka* 'ночвы', 'начынне, выдзеўбанае з дрэва'; н.-луж. *kopanka* 'ночвы', 'выдзеўбаныя паўкруглыя дошкі на вільчыку', *kopanki* 'вільчык', славен. *kopánja* 'карыта, ночвы', серб.-харв. *ко̀пања*, славон. *копањ*, чакаўск. *kopȁnja*, макед. *копана, kupáńa, копан* 'карыта', 'шырокая, выдзеўбаная з дрэва пасудзіна', балг. *копа́ня, копанка, копань* 'тс'. Прасл. *kopanь, kopanja, kopanъka* < *kopati* 'рыць, выдзёўбваць', 'капаць' (Слаўскі, 2, 452—453; Фасмер, 2, 317; БЕР, 2, 609).

**Ка́пар**₁, *капёр* 'металічная або драўляная канструкцыя (козлы) для забівання паляў' (ТСБМ, Сцяшк., Федар. Рук.; КЭС, лаг.), лельч. *ка́пар, ка́пор* 'вага ў студні з жураўлём' (Нар. сл., ДАБМ). Рус. *копёр, капер*, укр. *копе́р, ка́пар*, польск. *kafar*. Мяркуюць, што гэта запазычанне з ням. *Käpfer* 'галоўка бруса', з с.-н.-ням. *kepere* ці з гал. *keper* (Фасмер, 2, 318; Шанскі, 2 (К), 303—304). Аб запазычанні ст.-бел. *капаръ, капоръ* са ст.-польск. *kafar* гл. Булыка, Запаз., 139, і Корчыц, Дасл. (Гродна), 31. Гл. таксама ЕСУМ, 2, 407 і 566.

**Ка́пар**₂ 'дзіцячая або жаночая цёплая шапка прамавугольнага пакрою з завязкамі пад падбародкам' (ТСБМ, Інстр. I; полац. ДАБМ), *капе́р* (докш., ДАБМ). Рус. *ка́пар, ка́пор* і роднасныя: укр. *капа*, ст.-польск. *kapa* 'спецыяльнае прыстасаванне для закрывання галавы ад укусаў пчол', в.-луж. *kapa, khapa* 'чапец, каптур', славен. *kápa* 'пакрыццё галавы', серб.-харв. *кȁпа* 'від шапкі', балг. *капа* 'шапка'. Лексема *капар* запазычана з гал. *kaper* 'шапка' < гал. *kap*, якое з італ. *capparo, capero* < познелац. *cappa* 'накрыццё галавы'.

**Капара́лка**, *кыпыра́лка* 'матыка' (рас., Шатал.) — кантамінаванае ўтварэнне ад *капалка* і *капарнуць* 'капнуць'.

**Капарва́с** 'купарвас' (Федар., 6). З польск. *koperwas* 'тс' < с.-в.-ням. *kupfer-wasser* 'медная вада' (Слаўскі, 2, 459).

**Капарэ́ц** 'драўляны блок, які выкарыстоўваецца для

падымання вулляў на дрэва' (Сержп. Бортн.). Да *ка́пар*₁ (гл.).

**Ка́пасны** 'злосны, упарты, шкадлівы', *ка́пасць* 'злосць', *на ка́пась* 'на зло' (Некр.; мазыр. Шн.). Укр. *ка́посний, ка́пость* 'тс', *ка́посник, ка́постити;* рус. арханг. *ка́постливый, ка́постный, капостӯн,* цвяр., анеж. *ка́постник.* У выніку перастаноўкі зычных *к...п* < *п...***к** з *пакасць* < **pakostь* 'няправільнасць, памылковасць' < ст.-слав. **опако, пакы** 'адваротна'.

**Капатлі́вы** 'марудлівы, непаваротлівы' (ТСБМ) — у выніку кантамінацыі *капацца* 'рабіць што-небудзь марудна, няўмела,важдацца' ( < *капаць)* і *карпатлівы* (гл.).

**Капаце́ць**₁ 'часта падаць', 'падаць буйнымі кроплямі'. Укр. *капоті́ти* 'тс' Бел.-укр. ізалекса. Утворана ад назоўніка **kapъtъ* 'капля', 'паданне кропель' (параўн. ст.-чэш. *kapet,* суч. чэш. *kapet* 'кропля', укр. *каптӣти* 'капаць'), як *тупацець* < < *тупат, шаркацець* < *шоргат* і інш., да *ка́паць* (гл.).

**Капаце́ць**₂ 'курадыміць' (Касп.) прымыкае да рус. арэалу пашырэння гэтай лексемы: *копотеть, копотить* 'дымець', 'пыліць' < прасл. *kopъtěti/kopъtiti* < *kopъtъ/kopъtь* 'сажа' < < і.-е. **kuep-/*kuop-/*kuәp-* (Трубачоў, Эт. сл., 11, 29—30).

**Ка́паць** 'падаць кроплямі', 'крапаць', 'ліць кроплямі' (ТСБМ; гродз., віл., Сл. паўн.-зах.). Укр. *ка́пати,* рус. *ка́пать,* ц.-рус. *капати,* польск. *kapać,* н.-луж. *kapaś,* в.-луж. *kapać,* чэш. *kapati, kapat, kvapati,* славац. *kvápat', kapat',* славен. *kápati,* серб.-харв. *ка̏пати,* макед. *капе,* балг. *капя, ка́пъ, капа,* ст.-слав. **капати** 'капаць'. Прасл. *kapati.* Сцвярджэнне таго, што *kapati* < *kap-kap!* (Фасмер, 2, 184) не з'яўляецца рашэннем праблемы. Трубачоў (Эт. сл., 9, 145) прапануе звярнуць увагу на аманімію *kapati* 'падаць кроплямі' і ц.-слав. **капати**' капаць, рыць' і атаясаміць гэтыя дзеясловы,— параўн. першаснае значэнне ў прасл. *kapati* 'біць', 'удараць' (з дуратыўным значэннем), якое з *kopati* 'капаць, рыць'. БЕР (2, 612) рэканструюе для апошняга дзеяслова прасл. форму ў выглядзе *kapāti.*

**Капа́ць,** *кыпа́ць* 'ускопваць, рыхліць зямлю', 'выкопваць, даставаць што-небудзь' (ТСБМ, Янк. 1., Бяльк., Сцяшк., Яруш., Янк. Мат.), 'разграбаць (аб курах)' (Інстр. III). Укр. *копати,* рус. *копать,* польск., *kopać,* н.-луж. *kopaś,* в.-луж. *kopać,* чэш. *kopati,* славац. *kopat',* славен. *kopáti,* серб.-харв. *ко̀пати,* макед. *копам, купа́ям,* балг. *копая,* ст.-слав. **копати** 'тс'. Прасл. *kopati* (Трубачоў, Эт. сл., 11, 18—20). Роднаснае да літ. *kapóti* 'рубаць', лат. *kapât* 'тс', ст.-прус. *en-kopts* 'закапаны', далей — з арм. *kop'em* 'высякаць, вырэзваць'; н.-перс.

*kāvad, kāfad* 'капаць', 'расколваць', ст.-грэч. *κόπτω* 'сячы' і *σκάπτω* 'капаць'.

**Капа́ч** 'прылада, якой капаюць зямлю, выкопваюць караняплоды' (ТСБМ, Гарэц., Мал.; КЭС, лаг.; брасл., барыс., Сл. паўн.-зах.), *капа́чык* 'тс' (Сцяшк.), 'прылада, якой гной скідаецца з воза' (Касп., Гарэц., Нік., Очерки), *кыпа́ч* 'тс' (Бяльк.), *капа́ч, капачка* 'прылада, якой вымаюць з печы патэльню' (Сцяшк.; лід. Сл. паўн.-зах.); ваўк. *капа́ч* 'маруда' (Сл. паўн.-зах.), 'землякоп' (КЭС, лаг.; брасл., глыб., Сл. паўн.-зах., Кл., Янк. БП, ТСБМ), 'чалавек, які выбірае бульбу' (Сцяшк.; маст. Сл. паўн.-зах.). Да *капа́ць* (гл.). Аб суфіксе гл. Сцяцко, Афікс. наз., 31—32. Прасл. *kopačь* (Трубачоў, Эт. сл., 11, 12—13).

**Ка́пачка** 'кропелька' (Бяльк.), *ка́пычку* 'крышку' (Яўс.), *ка́пачкі сабраць* 'быць вельмі падобным' (Гарэц., Янк. БП). Укр. рус. *ка́почка* 'капелька'. Усх.-слав. утварэнне, якое тэрытарыяльна проціпастаўляецца зах.- і паўд.-слав. *kapъka* (Трубачоў, Эт. сл., 9, 150). Аднак параўн. *ка́пка* 'капля' (Ян., Бяльк.), да *ка́паць* (гл.).

**Капа́чка,** *кыпа́чка* 'жанчына, якая працуе на ўборцы бульбы' (Яўс., Сцяшк.); 'матыка' (браг., Шатал.). Да *капа́ч* (гл.).

**Капашо́ніцца** 'паварочвацца' (паўдн.-усх., КЭС). Экспрэсіўнае ўтварэнне (з суфіксам *-он-*) ад *капашы́цца* (гл.).

**Капашы́цца** 'шавяліцца, варушыцца', 'бязладна, мітусліва рухацца' (ТСБМ, Гарэц., Юрч., Растарг.), 'паволі рухацца, марудзіць' (Растарг., Др.-Падб.), 'корпацца, важдацца, капацца' (ТСБМ; брасл., пух., Сл. паўн.-зах.). Укр. *копошитися,* рус. *копошиться,* чэш. *kopošiti se* (якое аднак Махэк$_2$ (275) лічыць запазычаннем з рус. мовы). Паводле Трубачова (Эт. сл., 11., 23—24), прасл. *kopošiti (sę),* якое з'яўляецца этымалагічна тоесным да *koposati//kopositi* — дзеяслоўнага інтэнсіва на *-s-* ад *kopati* > *капа́ць.*

**Капе́ж,** *капі́ж* 'каплі дажджу або талага снегу, якія падаюць са стрэх' (ТСБМ; Некр.; драг. Нар. словаўтв.;ганц., шчуч., ст.-дар. Сл. паўн.-зах.); 'ледзяшы на стрэхах' (петрык., Шатал.); 'ніжні край страхі, даху, які выдаецца над сцяной' (ТСБМ, Сцяшк.; Сержп. Прымхі, Клім.), 'жолаб каля даху' (Сцяшк.), 'месца пад страхою, куды сцякае вада або падаюць каплі са страхі' (Яшк., Клім., Бір. Дзярж.; чэрв., дзярж., гродз., беласт. Сл. паўн.-зах.), 'стрэшка пад франтонам' (В. В.), 'шчыт страхі' (Бір. Дзярж.), 'стрэшка ў яме для бульбы', 'коптар, з коптарам' (Сцяц. зэльв.). Укр. *капеж, капіж*

'лядзяш', рус. сіб. *капеж* 'капеж', польск. *kapież* 'вадасцёк, рына', серб.-харв. *ка̑пеж* (зборн.) 'кроплі'. Прасл. *kapežь,* утворанае ад *kapiti* (каўзатыў ад *kapati* 'капаць') і суфікса *-ežь* > *-еж,* параўн. бел. *гібе́ж* 'месца згібу нагі', *вале́ж* 'павалены лес'.

**Капе́йка** 'адна сотая рубля і манета гэтай вартасці', *капейкі* 'дробныя разменныя манеты', 'грашовыя сродкі' (ТСБМ). З рус. *копейка,* якое з *копейная деньга* (XV ст.) — на манеце была выява князя на кані з дзідай у руцэ *(съ копиемъ)* <*копьё* (Фасмер, 2, 317; Шанскі, 2 (К), 303). Да *кап'ё* (гл.).

**Капе́ль,** *капэ́ль* 'вадасцёк' (лунін., Шатал.), бяроз. *копэ́ль* 'гразкае балота' (Шатал.), рус. *капель* 'капеж', 'рына', ст.-рус. *капель* 'капеж' чэш. *ká̆pěj, kvápjij, kápij* 'вадасцёк'. Прасл. *kapějь/kapělь,* утворанае ад *kapati* > *ка́паць* (гл.).

**Капяра́ччык** 'прадавец' (Жд. 2), да *кааперацыя* (гл.).

**Капе́ц,** *копе́ц* 'куча агародніны, накрытая ад дажджу і марозу саломай і прысыпаная зверху зямлёй' (ТСБМ, Бяльк., Касп., Яўс., Бір., Дзярж., Сцяшк., Рам. 7; Яшк.; слуц., Лекс. і грам.; чэрв. Сл. паўн.-зах.; бялын., Янк. Мат., Янк. 1); 'курган, магільны насып' (Янк. 1; паст., навагр., шчуч., пух., Сл. паўн.-зах.; Серб., Грыг., Яруш., Касп., Мал., Гарэц., ТСБМ); 'насып са слупам як межавы знак' (Касп., Яруш., Гарэц., лід., в.-дзвін., паст., Сл. паўн.-зах.; ТСБМ), *копэ́ц* 'мурашнік' (лунін., Шатал.), *капе́ц* 'тс' (пух., Сл.-паўн.-зах.); 'кратавінне' (беласт., ганц., Сл. паўн.-зах.); *капе́ц//капцы́* 'смерць, пагібель, канец' (ТСБМ, Некр., Янк. БФ, Сержп., Яўс., Бір. Дзярж., Янк. 1); *капе́чышча* 'месца, дзе быў капец бульбы, буракоў' (Яшк.). Прасл. *kopьcь* 'насып, куча, узгорак' — памяншальнае ад *коръ* < *kopati* > *капа́ць* (гл.) (прыклады і этымалагічную літ-ру гл. Трубачоў, Эт. сл., 11, 38—40 і 28). Параўн. таксама бел. драг. *скопэ́ц* 'тс'.

**Капе́ша** 'поўная, тоўстая, здаровая жанчына' (міёр., З нар. сл.). Рэгіянальнае ўтварэнне ад *капа* ( < *kopa)* і суфікса *-еша* (Сцяцко, Афікс. наз., 187). Магчыма таксама, што лексема паходзіць ад *капе́шка* 'малая ўкладка снапоў, саломы на полі' (барыс., паст., рас., шум., Сл. паўн.-зах.) і называе жанчыну паводле знешняга падабенства. Гэта лексема займае большую тэрыторыю, параўн. *капешка* (полац., Нар. лекс. Яўс., Бяльк.) і *капё́шка* 'тс' (Юрч., в.-дзвін., Шатал.).

**Кап'ё** 'дзіда', 'спартыўны снарад у форме дзіды' (ТСБМ, Сержп. Грам.). Укр. *копи́я* 'дзіда, піка', рус. *копьё,* ст.-польск.

*kopije, kopija,* н.-луж. *kope, korjo,* чэш. *kopí*, мар. *kopija,* славац. *kopija,* славен. *kopjê,* серб.-харв. *кòпље*, *kòpje,* макед. *копје,* балг. *кóпие, копе,* ст.-слав. **копиѥ** 'кап'ё'. Прасл. *kopьje/kopьja* (прыметнікі) < *kopьje dervo* 'дрэўка, якім б'юць, колюць' < *kop-ti* (Трубачоў, Эт. сл., 11, 40—41).

**Капёлак,** *капёлык* 'месца на печы каля каптура' (Бяльк.) — у выніку перастаноўкі зычных *к. . .п* < *п. . .к* < *пяколак* (гл.).

**Капітáл** 'вялікая сума грошай', 'багацце, скарб', 'вартасць ад прыбавачнай вартасці ў выніку эксплуатацыі наёмных рабочых' (ТСБМ, Яруш.). Відавочна, з польск. *kapitał* 'тс', якое з лац. *capitalis* 'які мае адносіны да галавы, жыцця, асноўны, галоўны'. Не выключана магчымасць запазычання з рус. *капитáл* < ням. *Kapital* < італ. *capitale* 'асноўная сума'.

**Капітáн** 'афіцэрскае званне', 'асоба, якая мае гэта званне', 'камандзір судна', 'кіраўнік спартыўнай каманды', ст.-бел. *капитанъ* (пач. XVII ст.). Запазычана са ст.-польск. *kapitan* (Булыка, Запаз., 138), якое з с.-лац. *capitāneus* 'галоўны' < < *caput* 'галава'.

**Капíца**1, *копыця, копíца* 'часовая ўкладка сена, саломы' (ТСБМ, Сцяшк., Крачк.; лоеў., добр., Мат. Гом.; свісл., маст., беласт., пруж., драг., пін., Сл. паўн.-зах.). Прасл. *kopica* < *kopa* > *капа* (гл.).

**Кáпíца**2 'прывязка ў цэпе' (рэчыц., Нар. сл.; браг., Шатал.), 'абруч, на які замужнія жанчыны накручвалі валасы' (Малч.; кобр., Шн. 3). Польск. *kapica,* н.-луж. *kapica,* в.-луж. *khapica,* ст.-чэш. *kapicě,* славен. *kápica,* серб.-харв. *кàпица,* балг. *капица.* Паводле Слаўскага, 2, 54—55, лексема паходзіць з польск. *kapica,* якое з *kapa* і суфікса *-ica.*

**Капішон** 'капюшон' (Сцяшк., Інстр. I), *капіжон* 'тс' (лід., шчуч., Сл. паўн.-зах.). Запазычанае з польск. *kapiszon* 'каптур', якое з франц. *capuchon* 'тс' < *cape* 'плашч з капюшонам' (Слаўскі, 2, 55—56).

**Кáпішча** 'культавае збудаванне ўсх. і прыбалт. славян з часоў паганства' (ТСБМ), 'месца, дзе закопваюць здохлую жывёлу' (Бяльк.). Укр., рус. *капище* 'паганскі храм', арханг. 'месца звозу лесу, звалка'. Ст.-рус. запазычанне са ст.-слав. **капище** 'храм' < **капь** 'з'ява, вобраз, прывід' > 'статуя, выява' < ст.-чуваш. **käp,* сучаснае чуваш. *päk,* уйгурск. *kep* 'форма, карціна', ст.-тур. *gib* 'карціна' (Фасмер, 2, 185; Шанскі, 2, (К), 55).

**Кáпка**1 'кропля' (ТСБМ, Яруш., Сцяшк., Юрч., гродз. З нар. сл.; КЭС, лаг.; Гарэц., Бяльк.); 'рагі на шкле' (Нік. Очер-

ки), 'трошкі, крышку' (Яўс., Янк. 1), 'кропка, плямачка' (Гарэц.), 'кавалак скуры, што прышываецца да дзіравага бота' (КЭС, лаг.). Укр. *капка* 'кропля', 'плямачка, крапінка', рус. КАССР *капка* 'капля'. Прымыкае да зах. і паўдн.-слав. пашырэння гэтай лексемы. Прасл. *kapъ-ka* < *kapati* (Трубачоў, 9, 150) > *капа́ць* (гл.).

**Ка́пка**$_2$ 'пячурка ў печы, куды кладуць сушыць анучы, рукавіцы' (Бяльк.), 'ямка ў печы, куды зграбаюць вуголле' (віл. Шатал.), *ко́пка* 'тс' (ТС); у зах.-палес. гаворках у гэтых значэннях ужываецца *куча* і *ку́чка* (якія там звычайна называюць 'загародку ў хляве для жывёлы', 'буданчык' і нават 'старую малую хаціну'), а *копка* вымаўляецца з [*б*], у такім выпадку першаформы гэтай лексемы — *кабка, кобка,* якія маюць адпаведнікі ў іншых слав. мовах: чэш. *kobka, koba* 'камера', 'сені', 'загародка для свіней у хляве', ст.-чэш. *kobka* 'крама', 'мясная крама', славац. *кобка* 'камера', ст.-польск. *kob* 'свінух' (в.-польск. з XV ст.), *kub* 'тс' (пач. XVII ст.), суч. польск., вял.-польск. куяўск. *kubel* 'загародка для кормнікаў', а таксама ўкр. *коба* 'капюшон', *кобеля* 'кошык', 'торба; сумка' і чэш. *kabela,* в.-луж. *kobjeł, kobjełka, kobjałka,* н.-луж. *kob'ela,* ст.-польск. *kobiela,* суч. польск. *kobiałka* 'тс'. Усе яны ўзыходзяць да с.-в.-ням. *kobel,* якое першапачаткова адзначала 'кошык', цяпер жа 'клетка', 'свінух', 'будка для фурмана' — памяншальная форма ад *koben, kobe* 'хлеў', 'хаціна', 'будан' (Махэк$_2$, 233; Слаўскі, 2, 293—295 і 297—298; Трубачоў, 11, 87).

**Капка́н,** *капка́ны* 'паляўнічая пастка', 'кайданы' (Нас., ТСБМ, Сцяшк.) < рус. *капкан,* запазычанага з цюрк. *kapkan, kapγan* 'пастка, пятля' < цюрк. *qap-* 'хапаць' (Фасмер 2, 186; Шанскі, 2 (К), 56; ЕСУМ, 2, 373).

**Капка́с,** *копка́с* 'абцас' (пін., Шатал.). У выніку кантамінацыі з *каблук (//*коблук)* і *абцас.*

**Каплаву́хі** 'віславухі' (паўд.-мін., З нар. сл.; Бір. Дзярж.; слуц., Працы, 6; Растарг.), укр. *капловухий, каплоухий* 'тс', рус. н.-рас., кубан. *каплоухий* 'тс', 'тупы', 'дурнаваты', пск., цвяр. *каплоу́х* 'разявака', свярдл. 'з малымі вушамі'. Фасмер (2, 186) суадносіць з дзеясловам *клепать,* балг. *клепне* 'звісае (ляпаючы)', чэш. *klepiti,* укр. *кла́пати* 'ляпаць' (параўн. укр. *клапоу́хий, клапкий* 'віславухі'). ЕСУМ (2, 374) разглядае гэту лексему як складзеную з *капель* 'навушнік у шапцы' і *вухо* 'вуха'. Магчымы, аднак, варыянт этымалогіі з кантамінацыяй лексем *віславухі* (або *аблавухі*) і *лапавухі* > **лаплавухі* з наступным распадабненнем *л...л* > *к...л.*

**Каплі́** 'капёж' (Юрч.). Да *ка́пля* (гл.).

**Капліві́ы** 'цяжкі, марудны' (красл.) фармальна мог утварыцца ад *капаць, *капіць* (прасл. *kapiti* 'ліцца па кроплях'), як *імчаць — імклівы, маўчаць — маўклівы, кеміць — кемлівы.* Грынавецкене (Сл. паўн.-зах., 2, 405) суадносіць гэту лексему з літ. *kapliúoti,* лат. *kaplot* 'цяжка рабіць'.

**Капліца,** *каплічка* 'невялікі царкоўны або касцёльны будынак з іконамі без алтара', 'малельня' (ТСБМ, Грыг., Гарэц., Мядзв., Сцяшк., Бяс.; Сержп. Грам.; Бір. Дзярж.; ганц. Сл. паўн.-зах.). Ст.-бел. *каплица* (канец XV ст.) запазычана са ст.-польск. *kaplica* 'бакавая частка касцёла, пакой, у якіх адпраўляецца набажэнства' < ст.-чэш. *kapla, kaplicě* < < с.-в.-ням. *kápelle* < ст.-в.-ням. *kapëlla* < с.-лац. *capella* 'плашч', у прыватнасці 'плашч св. Марціна з г. Тур (Францыя)' як 'рэліквія і месца захоўвання яе' > 'невялікая святыня' (Слаўскі, 2, 56).

**Каплу́к** 'рулі, від стравы з бульбы, цыбулі, перцу з дадаваннем скарынак хлеба' (слонім. Шн. 3). Гл. *каплу́н*1.

**Каплу́н**1 'цура' (браг., бяроз. Шатал.; вільн., Сл. паўн.-зах., 'ежа накшталт супу з кавалачкаў сухога хлеба, цыбулі, залітых варам і заскваранных салам' (драг. Нар. словатв.; драг., іван. Вешт.; кобр. Нар. лекс.), 'абрадавая страва з хлеба і салодкай вады або малака' (івац. Жыв. сл.). Укр. жытомірск. *каплу́н* 'ежа з хлеба, вады і солі', рус. н.-рас. 'халаднік', польск. *kapłun, kapłon* 'тс'. Відавочна, балтызм, утвораны ад дзеяслова **kap(l)-* (параўн. літ. *kapóti* 'рубіць, сячы', 'з'ядаць, тачыць', *kaplỹs* 'адрэзаны, адколаты', 'бяззубы'), які азначаў 'ламаць, крышыць' — галоўнае адрозненне каплуна ў тым, што хлеб ломіцца, крышыцца, а не варыцца, не закалочваецца (як жур), не смажыцца. Сюды ж і *каплу́к.*

**Каплу́н**2 'пакладаны певень' (ТСБМ, Бес., Федар. 6; драг. Нар. словатв.), 'пражорлівы' (Некр.). Ст.-бел. *каплунъ* (XVI ст.) запазычана са ст.-польск. *kapłun* 'тс' (і *kapłon*), якое пры пасрэдніцтве ст.-чэш. *kapún* — з с.-в.-ням. *kappūn* 'тс' < нар.-лац. *cappōne (m)* < *cāpo* 'тс', 'малады пеўнік', 'малакасос' (Слаўскі, 2, 58). У польск. слове *ł-* — у выніку жартаўлівай ад'ідэацыі да *kapłan* 'святар', 'жрэц'.

**Ка́пля** 'кропля, часцінка вадкасці' (ТСБМ, Сержп. Ск., Сцяшк., Яруш.; КЭС, лаг.; шчуч., Сл. паўн.-зах.). Укр., рус. *капля,* ст.-рус. *каплꙗ,* польск. уст. дыял. *kapia* 'тс', 'капеж', чэш. *kápě,* славац. *kaplina,* славен. *káplja,* серб.-харв. *ка̏пља,* балг. *капля,* ст.-слав. **каплꙗ.** Прасл. *kapja* < *kapati* 'капаць' (Трубачоў, 9, 147).

**Капля́р** — сапсаванае *капрал* (Мал.), якое, відавочна, праз польск. мову запазычана з франц. *caporal* або ням. *Kaporal* — абодва з італ. *caporale* < *capo* 'галава', мн. лік *càpora;* параўн. таксама і с.-лац. *caporalis* 'капітан' (Слаўскі, 2, 59).

**Ка́пнуць** 'памерці' (Растарг., Юрч.), серб.-харв. *ка̏пнути* 'выбіцца з сіл', макед. *капне* 'знемагчыся', балг. *капна* 'ўпаду ад знясілення, згіну'. Прасл. *kap-nǫ-ti,* якое пасля спрасцілася ў *кануць* 'прапасці, знікнуць бясследна', як рус. *тонуть* < *topnǫti* 'тапіцца'. Да *ка́паць* (гл.). Семантыка больш падрабязна ў Трубачова (9, 147—148).

**Капо́ра**₁ 'ланцуг для прывязвання лодкі' (петрык. Мат. Гом.). Няясна. Магчыма, у выніку распадабнення з *какора* (гл.) 'крывы камель, корань дрэва', семантыка якой развівалася наступным чынам: 'крывы камель (дуба), які выкарыстоўваўся ў якасці шпангоўта лодкі' > верхняя частка шпангоўта, за якую прывязвалі лодку' > 'ланцуг'.

**Капо́ра**₂, *капо́рэ* 'а нічога, дармо', 'няхай сабе, ліха з ім' (пін., Нар. лекс., Жыв. сл.). Відавочна, з'яўляецца працягам укр. *ка́пар,* якое з іўрыцк. *kappārā* ў пераносным значэнні 'варты жалю', 'мізэрны', 'нічога не варты', якое з дзеяслова *kāpar* 'пакрываць' *kipær* 'выбачыць, пакрыць віну' (ЕСУМ, 2, 369).

**Капо́рка** 'маруда' (в.-дзвін., Сл. паўн.-зах.). Да *капа́ць* (гл.) > *капацца* 'корпацца ў чым-н.', 'рабіць марудна'. Нарашчэнне *-ор-* пад уплывам *поркацца* 'тс'. Параўн. таксама *капоцька* (гл.).

**Капо́т**₁ 'капота, верхняе адзенне' (мсцісл. Бяльк.), *капота* 'верхняе (святочнае) адзенне' (Шат., Шпіл.; паўд.-усх., КЭС), 'род верхняга адзення' (Гарэц., Бес.); 'жакет, фуфайка, халат' (астр., смарг.), раг., паст. (Сл. паўн.-зах.), 'плашч з даматканага сукна' (Сцяц. зэльв.), 'доўгая верхняя мужчынская вопратка з даматканага сукна' (Сцяшк.), 'шляхецкі шарак з металічнымі гузікамі' (гродз. Нар. сл.), 'кароткае самаробнае і паношанае верхняе адзенне' (клец. Нар. лекс.), 'дзіцячае або жаночае адзенне накшталт паліто' (дзярж., Нар. сл.), 'сукенка з рукавамі' (ст.-дар., Нар. сл., ТСБМ), *капот* 'тс' (браг. З нар. сл.), драг. 'сукенка для дзіцяці' (Сл. паўн.-зах.). З франц. *capote* 'плашч з капюшонам', 'жаночы капялюш' праз польск. мову, у якой існуе з XVII ст. (Слаўскі, 2, 58—59). Параўн. *ка́па* (гл.). Форма *капот,* відавочна, з рус. *капот* 'жаночы халат'.

**Капо́т**$_2$ 'адкідная металічная накрыўка ў машынах' (ТСБМ) — культурнае слова з пач. XX ст., запазычанае, відаць, з рус. *капот* 'тс', якое з франц. *capot*.

**Капо́та** 'смерць' (клец., Нар. лекс.). З польск. *kapota* 'правал, пагібель, канцы'.

**Капо́цька** 'непаваротлівы, марудны' (стаўбц. Нар. сл., Сцяц. Афікс. наз.) рус. пск., цвяр. *копотуха* 'дзеянне непаваротлівага чалавека'. Да *капа́цца* (гл.).

**Капо́шка** 'маруда', 'той, хто павольна і няўмела робіць' (бялын. Янк. Мат.; Кан. дыс.; Сцяц. Афікс. наз.), *капошкацца* 'вадзіцца' (Сцяшк. Сл.). Да *капашыцца* (гл.).

**Капро́н** 'штучнае валакно з сінтэтычнай смалы капралактаму' (ТСБМ), у склад якога ўваходзіць капронавая кіслата, якая была так названа паводле лац. назвы 'казы' — *capra* (невялікая колькасць кіслаты маецца ў казіным малацэ) (Шанскі, 2 (К), 58; ЕСУМ, 2, 376).

**Капро́ўнік** *лесавы* 'валяр'ян лекавы, Valeriana officinalis L.' (гродз. Кіс.). Укр. зах. *копри́вник, копрівняк* 'расліна Sylvia (Грынч.); польск. *pokrzywnik*. Да прасл. *koprъ,* якое ўзыходзіць да *ku̯op-* 'пахнуць' (параўн. літ. *kvãpas* 'водар, запах', *kvepė̃ti* 'пахнуць'), з нарошчаным *-ov-nikъ*. Параўн. *крапіва* (гл.). Больш падрабязна гл. Трубачоў, 2, 25—26; Фасмер, 2, 318; Слаўскі, 2, 455—456; Скок, 2, 150; Бязлай, 2, 64).

**Капры́з** 'раптоўнае, настойлівае патрабаванне', 'дзівацтва', 'недарэчная задума' (ТСБМ, Яруш.), *капрызы* (Бяльк.), *капрызіць* 'злавацца, *капрызны* 'гняўлівы, схільны крыўдзіцца' (КЭС, лаг., ТСБМ), *капры́за* 'капрызны чалавек'. З франц. *caprice* 'капрыз' < італ. *capriccio* 'тс' < *capra* 'каза' (значэнне 'дзівацтва, раптоўныя патрабаванні' паявілася на падставе незвычайных скокаў казы (Слаўскі, 2, 60) — праз польск. або рус. мову.

**Капса́ць** 'штурхаць', *капсануць* 'штурхнуць, піхнуць' (Янк. 1, Янк. БП; калінк., Мат. Гом.; Гайдук. Працы, 6), драг. *капсаніты* 'марнавацца, драхлець' (З нар. сл.). Ст.-укр., ст.-рус. *копысати* 'біць капытом, рыць, капаць зямлю капытам', польск. люблін., мазав. *kopsać* 'тс'. Паводле ЕСУМ (2, 570), з'яўляецца прасл. *kopysati (kopsati)*. Няма падстаў для такога сцвярджэння. Відавочна, балтызм. Параўн. літ. *kapsė̃ti* 'дзёўбаць', *kapstinė̃ti, kapstýti* 'грэбці (аб курах)'. Прасл. *kopystъ/kopystka* 'лапатка', якое прыводзіцца ў слоўніках побач з раз-

глядаемай лексемай, адносіцца да *kopati* ( + суф. *-ystь*), гл. Трубачоў, 11, 34, 35.

**Ка́псля** 'капсуль у бутэльцы' (Яруш.), малар. *капсыль, капсуль* 'жалезная пракладка паміж колам і загваздкай' (Нар. словатв.). З польск. *kapsla* 'тс', якое з ням. *Kapsel* 'футарал, зложніца, кажух, капсула'. Форма на *-уль,* магчыма, афармілася пад уплывам рус. мовы.

**Капта́н,** *кафтан* 'даўнейшая двухбортная верхняя адзежына з доўгімі поламі' (ТСБМ, Нас., Серб., Яруш., Малч., Гарэц., Шат., Бяльк.), 'кароткае паліто на кудзелі' (навагр. Нар. сл.), 'пінжак' (Сцяшк., Бяльк., Касп., бяроз. Выг.), *кыпта́н, кыхта́н* 'тс' (Бяльк.), 'безрукаўка' (Малч.), 'кофта' (Сл. паўн.-зах.; глус., маг. Янк. Мат.; Нас.; Сцяц. зэльв.; Сцяшк.; Зн. дыс.; Тарн.; карэліц., петрык. Шатал.), 'жаночая сукенка' (Бяльк.; міёр. Нар. словатв.). Ст.-бел. *каптанъ, кафтанъ, кахтанъ (XVI ст.),* 'кафтан', запазычанае з перс. *chäptan* пры пасрэдніцтве тур. *kaftan* 'доўгая верхняя адзежына' (Слаўскі, 2, 20; Булыка, Запаз. 144).

**Капту́н** 'паўшубак, кажух' (мсцісл. Бяльк.). Узнікла ў выніку кантамінацыі лексем *каптан* і *капту́р* (гл.); параўн. зах.-рус. *каптурок* 'кафтан', кап. *капту́р* 'верхняя вопратка' (Нар. словатв.).

**Капту́р** 'дзіцячы ці жаночы галаўны ўбор' (ТСБМ, Жд. 3, Сцяшк.; маладз. Янк. Мат.; Др.-Падб., Гарэц., Мал.; КЭС, лаг.), 'галаўны ўбор, які старыя кабеты насілі пад хусткай' (ДАБМ, 331; Сцяшк.; Мат. Гродз.; Зав.; Мат.; дзісн., КЭС), 'абруч, які насілі жанчыны на галаве' (клец. КЭС), 'высокая прычоска' (Жд. 3), 'асобым чынам завязаная намітка' (глус. ДАБМ, 840; Нік. Очерки); 'пірамідальна выцяжны комін над горнам' (драг., Жыв. сл.; Жд. 3; Бяльк.; міёр., Нар. сл.; Дразд.; нясв., Нар. словатв.; паўн.-усх. КЭС; мядз., міёр., Шатал.); 'абажур' (Гарэц., Др.-Падб.); 'дзесяты сноп, якім накрываецца бабка' (карэліц., Шатал.) 'з коптурам, з верхам (накласці)' (ТСБМ; глус., Янк. Мат.); 'жалезнае колца на канцы калодкі кола' (Масл.). Ст.-бел. *каптуръ, коптуръ* 'каўпак, капюшон, клабук' запазычана са ст.-польск. *kaptur,* якое, аднак, не мае надзейнай этымалогіі, дакладней, надзейнай крыніцы запазычання. Калі прыняць пад увагу значэнне 'пакрыццё галавы або вачэй жывёлам і птушкам', то лексема магла б паходзіць з лац. *captūra* 'лоўля', с.-лац. 'турма'. Бернекер (485—486) дапускае сувязь з раманскім *cap-:* с.-лац. *capparo,* італ. *capperone* 'плашч ад дажджу', іншыя с.-лац. пакрыцці галавы — *capitra, capitulare...* (гл. Слаўскі, 2, 61—62). Устаўное *-т-* магло б быць вынікам дысіміляцыі *-pp-* > *-pt-*. ЕСУМ (2, 377) услед за Мікла-

шычам першакрыніцу лексемы выводзіць з цюрк. моў (параўн. чагат. *kaptur* 'вялікі мех'.

**Каптýшка** 'газоўка' (талач. Шатал.), да *капціць* (гл.).

**Капýза** 'вялікая зімовая, цыліндрычнай формы, неакуратная футраная шапка' (кобр. Шн. 3; Сцяшк., Сцяц. Зэльв.; драг. Нар. словатв.); 'канфедэратка, абшытая чорным футрам' (Федар. Рук.), *капýся* 'льняныя або саламяныя абручы, якія паляшучкі надзявалі на галаву пад хустку, каптур' (Тарн.). Запазычана, як і ўкр. *капуза* 'тс', з польск. *kapuza,* якое з ням. *Kapuze* < італ. *cappuccio* 'пакрыццё галавы, каптур' < с.-лац. *caputium* 'капюшон манаха' < *cappa* 'плашч' (Слаўскі, 2, 63).

**Капýл,** *копýл* 'прылада, пры дапамозе якой выдзёўбваюць ночвы, цясла' (мазыр., З нар. сл.). Да *капыл,* які ўтвораны ад *капаць* (гл.) пры дапамозе суфікса *-ыл.*

**Капýн** 'вельмі марудлівы чалавек' (Пан., дыс.; міёр., З нар. сл.; ТСБМ), *капунь* — пра варушэнне, капанне (мсцісл., Нар. лекс.), да *капáцца, капашы́цца* (гл.).

**Кáпур** 'пяхцёр', 'гняздо, у якім выводзяцца восы' (рагач. Сл. паўн.-зах.; генетычна роднаснае да рус. *кáпор* 'чапец', якое паходзіць з гал. *kaper* 'шапка' < італ. *capparo, capero* (Фасмер, 2, 184).

**Капýста** 'агародная расліна Brassica oleracea L.' 'страва з капусты' (ТСБМ, Касп., Грыг., Бес., Бяльк., Яруш., Сцяшк., Сержп. Грам.; полац. Нар. сл.), 'кіслая страва з буракоў, морквы, часам і з капусты' (Нік. Очерки); 'гульня' (гродз. Нар. словатв.); *капýсціцца* 'раскошна садзіцца, рассядацца' (Яўс.). Укр. *капýста* 'капуста' і *кáпуст* 'бручка', рус. *капýста,* ст.-рус. *капуста* (страва) (XII ст.), польск. *kapusta,* чэш. *kapusta,* славац. *kapusta,* славен. прэкмур. *kapûsta* і *kâpus, kapús,* серб.-харв. *кàпуста* 'жаўтазель, Genista L.' макед., балг. *капýста, капýска* і *кáпус* 'капуста', ст.-балг. *капоуста* (XI ст.). Вандруючае культурнае слова, якое ўзыходзіць да с.-лац. *compos(i)ta* '(змешаная, складзеная) кансерваваная, кіслая капуста', параўн. таксама італ. *composta* 'мешань', 'кампот', швейц. *kãpu(s)ta* 'кіслая капуста', а таксама ст.-в.-ням. *kumpóst,* с.-в.-ням. *kumpóst, kompóst* 'тс' > ст.-польск. *kompost* 'тс' (XV ст.), пазней *kampust, kanpust, kańpust* 'кіслае малако'. Пачатковае *ka-* ўзнікла ў выніку кантамінацыі групы раманскіх слоў, якія паходзяць з с.-лац. *capitium* 'галоўка капусты' (< *caput* 'галава') > італ. *capuccio* 'качанная капуста'; зах.-ням. *Kappus,* с.-в.-ням. *kappûz, kabez.* Літ-ра: Бернекер, 218; Брукнер, 218; Слаўскі, 2, 62—63; Фасмер, 2, 188; БЕР, 2, 225; ЕСУМ, 2, 378—379; Бязлай, 2, 18.

**Капусы́р** 'грыб з віду рагацікавых, Clavaria coralloides L., Clavaria Botrytis Pers' (Дэмб. 1). Няясна.

**Капу́т** 'канец, смерць' (ТСБМ). Паходзіць з нямецкай мовы (праз польскую ці рускую), параўн. н.-в.-ням. *kapútt* 'сапсаваны, разбіты, зламаны', 'які загінуў' < франц. *capot* 'прапаў, праіграў' у выразе *être* (або *faire*) *capot* 'вашы карты пабіты'; аналагічна ням. *kaputt machen* (Фасмер, 2, 188; Клюге, 350—351; ЕСУМ, 2, 379). Даза (139) дапускае генетычную сувязь франц. *capot* з praванс. *cap,* якое з нар.-лац. *capus,* лац. *caput* 'галава'. У Вялікую Айчынную вайну лексема набыла значэнне 'канец, смерць' — у выніку другаснага запазычання (Шанскі, 2 (К), 59—60).

**Капу́цік** 'расянка, Drosera rotundifolia L.' (ельск. Жыв. сл.). Відавочна, з *капыцік* < *капыт.* Матывацыя: паводле падабенства круглых лістоў да капыта.

**Капу́ша** 'звязка лістоў тытуню' (хойн. Мат. Гом). Да *папу́ша* < *папужа* 'скрутак лісця'. Балтызм. Параўн. літ. *papūžà* 'пачак, стос' (Грынавецкене, Сл. паўн.-зах., 3, 405). Не выключана кантамінацыя з рус. *пампу́ша* 'тс' (гл. Фасмер, 3, 195).

**Капца́н** 'неахайны чалавек, замухрышка', 'дрэнны майстар' (Мал.; стаўбц. Жыв. сл.), *капцоны* 'лахманы, абарванае адзенне' (Нас.), *капцанавата* 'беднавата' (К. Чорны). Запазычана з ідыш: *kabzen, kápcən* 'жабрак, бядняк' < іўрыцк. *qabṣān* 'жабрак, старац' (Фасмер, 2, 188; Слаўскі, 2, 51; ЕСУМ, 2, 380).

**Капцéць** 'вылучаць копаць, сажу пры гарэнні', 'куродымець', 'жыць без мэты', 'вэндзіць', 'карпець, надакучаць' (ТСБМ, Сл. паўн.-зах. , Бяльк., Др.-Падб., Федар. 6). Утворана ад *копаць* 'сажа' (гл.) < прасл. паўн. *kopъtъ* < і.-е. **ku̯ēp-,* **ku̯əp-,* **kūp-* 'дыміць, варыцца' (Літ-ру да гэтага слова гл. Фасмер, 2, 319; Шанскі, 2 (К), 305; Слаўскі, 2, 454; ЕСУМ, 2, 449). Сюды ж *капцёлка, капцілка, капцю́лка* 'газоўка, лямпа без шкла' (ТСБМ; в.-дзвін., Шатал.; бялын., карэліц. Янк. Мат.; Др.-Падб.), 'вяндліна' (зэльв. Сцяшк.), *капцю́х* 'светач' (маст.), 'курная хата' (іўеў., Сл. паўн.-зах.), віл. *капцю́ха,* бярэз. *капцюшка,* драг. *коптю́ха* (Сл. паўн.-зах.).

**Капцёрка** 'ротны або батальённы склад вайсковай амуніцыі, абмундзіравання' (ТСБМ). З рус. *каптёрка,* якое ўтварылася са скарочанага слова *каптена́рмус* (< франц. *capitaine des armes*) пры дапамозе суфікса *-ка* (як, напрыклад, *чыталка*).

**Ка́пці** 'лапці з вяровак' (Сцяшк.), 'тапачкі з нітак' (слонім., Сл. паўн.-зах.). Ст.-бел. *капти* 'хатнія туфлі' (XVI ст.) запазычана са ст.-польск. *kapcie* < славац. *kapce* 'буркі' < венг. *kapca* 'ануча', 'лямцаваны абутак'. Апошняе можа быць славізмам (< ст.-рус. *копытьца*) або запазычаннем з тур. *qapsaq* 'матэрыял для абкручвання ног', *kapsamak* 'абхопліваць, абдымаць' (Слаўскі, 2, 51—52; Булыка, Запаз., 139).

**Капцю́р,** *кабдзю́р* 'кіпцюр', 'пазногаць' (ТСБМ, Гарэц., Сцяшк., Мал.; ушац., леп., гродз. КЭС; барыс., чэрв., шчуч., бярэз., глыб., навагр. Сл. паўн.-зах.), чэрв. *копаць* 'капыт, край капыта' (Сл. паўн.-зах.). Пачатковае *ка-* ўзнікла пад уплывам *когці* з *кі-: кіпці* 'кіпцюры' (Сл. паўн.-зах., ТСБМ). Апошняе з'яўляецца балтызмам, параўн. літ. *kìbti* 'чапляцца', 'прыліпаць', *kìbčius* 'той, хто чапляецца' (Арашонкава, Весці, 1, 1971, 91; Лаўчутэ, Слов., 114).

**Капчо́нка** 'вэнджанае свіное мяса, кумпяк' (полац. Нар. сл.), *капчоны* 'вэнджаны' (Сцяшк.). З рус. *копчёнка, копчёный* 'тс'.

**Капчу́рка** 'газоўка' (Яўс.). Відаць, у выніку кантамінацыі *капцёлка* і *пячу́рка* (ад абедзвюх вылучаецца сажа, копаць).

**Капчы́ць** 'абкопваць бульбу' (Др.-Падб.). Да *капцы́* (= *рабіць капцы́* 'акучваць, абганяць бульбу'), капе́ц (гл.).

**Капшу́к**$_1$ 'мяшочак для тытуню' (ТСБМ, Бяльк., Шат., Касп., Мядзв., Арх. ГУ, Арх. Бяльк., Малч., Некр., Клім., Гарэц., Сцяшк., Шн., Янк. 1, Янк. Мат.; КЭС, лаг.; Яруш., Нік. Очерки, Сержп.), 'сумка для грошай' (Др.-Падб., Сержп.), 'плавальны пузыр' (З нар. сл.), 'жывот' (Жд. 2). Параўн. укр. *капшук, капчук* 'кісет для тытуню', рус. *капшук, капчук* 'кісет, сумка для дробных рэчаў, старая шапка', польск. *kapciuch, kapszuk* 'кісет для тытуню' з бел. як і літ. *kapšùkas* 'тс'. Усходнеславянскае запазычанне з цюрк. моў. Параўн. татар. *kapčyk* 'мяшочак' ад *kap* 'мяшок' (Слаўскі, 11, 52, Фасмер, 2, 189, Локач, 94).

**Капшу́к**$_2$ 'мёрзлая бульба, якая праляжала зіму на полі' (Жыв. сл.). Параўн. літ. *(ap)kapšavóti bùlbe* 'абкопваць бульбу'. Магчыма, *капшук* < літ. *kãpčius, kãpšius* 'грэбля, яма', якое ў сваю чаргу з бел. *капец* (Фрэнкель, 217—218). Гл. *капшук*$_4$.

**Капшу́к**$_3$ 'целяпень' (Жыв. сл.), да *капшук*$_2$.

**Капшук**$_4$ 'сажалка на гары з праведзенай ад яе канавай' (Яшк.) з літ. *kãpčius* у тым жа значэнні. Літоўская форма

з бел. *капец* (гл. *капшук*$_2$). Як і *капшук*$_2$, *капшук*$_3$, кантамінацыя з *капшук*$_1$.

**Капшучо́к** 'лямпачка без шкла' (Бяльк.), да *капшук*$_1$.

**Капшчы́зна, капшчы́на** 'грашовы пабор з тых асоб, якія сыцілі мёд, варылі піва, рабілі гарэлку, трымалі корчмы' (Гарб., Бел. арх., АВАК). Цытата з апошняй крыніцы, магчыма, сведчыць аб унутранай форме слова: *«Капщизна одинакова по всему великому князьству Литовскому маеть быти брана, то есть: отъ меду копа грошей, от пива копа грошей...* (XIV, 19, 1555) (гл. Гілевіч, Вопросы лит. и языка, 1968, 161). Тады *капшчызна, капшчына* ад *капа* (гл.). Гл. таксама сінанімічнае *чопавае* (Булахаў, Працы VIII, 119).

**Капы́жыцца** 'фанабэрыцца' (КЭС, лаг.), *капызіцца* 'капрызіць' (Нас.). Кантамінацыя *капыціцца* (гл.) і *капрызіцца* (гл.).

**Капы́за** 'запальчывы чалавек' (Яўс.). Кантамінацыя *капыжыцца* і *капрыза* (гл.). Параўн. *капыціцца* 'капрызіцца' (Нас.).

**Капы́л**$_1$ 'кавалак дрэва ў форме ступні, на якім шавец робіць абутак' (ТСБМ, Яруш., Касп., Бяльк., Грыг., Гарэц., Некр. і Байк.; КЭС, лаг.). *«Не мерай усіх на свой капыл»* (Янк. БП), 'дэталь саней', 'дубовы брусок, што ўстаўляецца ў полаз, а за яго закручваецца вяз для злучэння палазоў' (Сцяшк., Сержп. Грам.), укр. *копил* 'тс', рус. *копыл* 'тс'. Адпаведна да вядомай версіі звязана генетычна з балг. *копеле* 'незаконнанароджаны', серб.-харв. *ко̏пил* 'тс' (Бернекер, 564; Фасмер, 2, 320; Трубачоў, Эт. сл., 11, 32—34). Семантычна гэта тлумачыцца як пераход тыпу рус. *пасынок* 'пасынак' і 'падпорка, лішняя галіна, больш тонкі з двух ствалоў, якія выраслі з аднаго кораня'. Але гэта тлумачэнне не пераконвае, хаця ўкр. *копил* мае таксама значэнне 'незаконнанароджаны' і можна меркаваць аб праславянскім характары лексемы, якая застаецца этымалагічна непразрыстай. Да таго ж першае значэнне застаецца за межамі семантычнага пераходу. Ці не звязана *капыл* 'кавалак дрэва ў форме ступні' з прасл. *kopyto* (адпаведна з фармантамі: рэгулярным *-ylъ* (SP, 1, 112) і нерэгулярным *-yto* (гл. *капыта*).

**Капы́л**$_2$ 'матыка для апрацоўкі ляда' (Малчанава, Мат. культ.; Маш., Шатал.), ад *капаць* (*«капылом капылім бульбу»* — Шатал.). З фармантам *-ylъ* (SP, 1, 112).

**Капы́на** 'ледзь-ледзь' (Клім.), да *капаць* (гл.) з дэмінутыўным суфіксам *-іна*. *Капына́з* 'паветка без сцен' (Нар. сл.). Няясна.

**Капы́рсціцца** ’ўпарціцца, наравіцца, капрызіць’ (ТСБМ, Гартны), да *капрызіцца* (гл.).

**Капы́та**, *капыт* ’капыты’, укр. *копито,* рус. *копыто,* чэш. *kopyto*, славац. *kopyto*, польск. *kopyto*, в.-луж. *kopyto*, н.-луж. *kopyto*, балг. *копито*, серб.-харв. *ко̀пито*, славен. *kopíto.* Існуюць дзве версіі паходжання гэтага праславянскага слова. Першая: ад *капаць* (параўн. *kopać* ’капаць і біць нагой, капытам’, ст.-рус. *копысати* ’выкідваць зямлю капытамі’ (Бернекер, 565; Фасмер, 2, 320). Шпэхт (Der Ursprung, 85) параўноўвае прасл. *kopyto і* ст.-інд. *śapháh*, ст.-іран. *safa* ’капыт’, ст.-ісл. *hófr,* ст.-в.-ням. *huof* ’тс’. У абедзвюх версіях нявытлумачанай застаецца суфіксацыя *-yto,* якая не характэрна для славянскай моўнай глебы (вакалізм *-y-* даволі рэдка сустракаецца ў фарманце *-to* (SP, 11, 40). Уражвае адсутнасць паралелей у балтыйскіх мовах. Польск. *kopać* і ст.-рус. *копысати* маглі атрымаць другаснае значэнне пад уплывам *kopyto.* Можна, аднак, звесці дзве версіі да адной, калі звярнуць увагу на індаеўрапейскія паралелі да прасл. *kopati;* ст.-грэч. *σκάπτω* ’капа́ю’, *σκάπετος, κάπετος* ’капанне’ (і.-е. **(s)k̂ap*). Тады ў нашым выпадку можна рэканструяваць пачатковае і.-е. **(s)k̂* з падвойнай рэфлексацыяй у мовах *satəm: *(s)k* і *k̂* (Мартынаў, Слав. аккам., 154).

**Капы́тка** ’жаночы галаўны ўбор з матэрыі’ (Шатал.). Назва звязана з формай убору. Ці запазычана з польск. *kapica, kapka* ’чапец’? (гл. Слаўскі, 2, 54—55).

**Капы́тнік** ’Asarum europaeum’ (Шат., Кіс.), ’падалешнік’. Назва паходзіць ад формы ліста, падобнага да капыта’ (гл. Лекарств. раст. и их применение, Минск, 1977, с. 131, рыс. 61), ’Plantago L.’ (Сцяшк.), ’трыпутнік’. Магчыма, тое самае тлумачэнне назвы.

**Капы́ца** ’круглы раменьчык, якім звязваюць часткі цэпа’ (Выг.). Параўн. польск. *kapica* ’тс’, якое ад ст.-польск. *kapica* ’манашаскі ўбор, каптур’ (Слаўскі, 2, 54).

**Капы́ціцца** ’быць упартым’, ’капрызнічаць, гарачыцца’ (Яўс.), ’спатыкацца (пра каня)’ (Нас., Шат.). Да *капыта?* Параўн. *капытціцца* ’спатыкацца (пра каня)’ (ТСБМ). Магчыма, таксама кантамінацыя з *капырсціцца* (гл.).

**Капэ́лія,** *капэля* ’гурт, вялікая кампанія (неадабральна)’ (Бяльк., Бір. Дзярж.). Першапачаткова ’група музыкантаў’ (параўн. *капэля*) з польск. *kapela* ў тым жа значэнні ад ранейшага ’група музыкантаў, якая выступала ў капліцы’ (Слаўскі, 2, 52—53). Польск. *kapela,* ням. *Kapelle,* с.-лац. *capella* (гл. *капэля*).

**Капэ́ля** 'група музыкантаў' (Ант. бел. нар. песні) (гл. папярэдняе).

**Капя́к**$_1$ 'насып зямлі' (Нас. Доп.), параўн. бел. *капец* (гл.) з іншым фармантам, да *капаць* (гл.).

**Капя́к**$_2$ 'невялікі стажок сена' (З нар. сл.). Да *капа́* (гл.).

**Капялю́х,** варыянт да *капялюш* з тым жа значэннем (Гарэц., Др.-Падб.), таксама запазычанне з польск. *kapeluch* 'тс' (Слаўскі, 2, 53—54).

**Капялю́ш** 'від галаўнога ўбору з палямі' (ТСБМ, Шат., Бяльк.), з польск. *kapelusz,* якое з с.-лац. *capellus* 'тс' (гл. *капялюх*).

**Капялю́шнік** 'лопух, Arctium L.' (Жыв. сл., Кіс.). Ад *капялюш.* Параўн. іншую назву той самай расліны: *брылёўнік* (форма і велічыня ліста). Другое значэнне *капялюшнік*'гарлачык жоўты, Nuphar smith' (Жыв. сл., Кіс.), 'ліст белага гарлачыка, Nymphaea alba L.' (Нар. словатв.). Назва згодна з тымі ж характарыстыкамі толькі для формы і велічыні кветкі.

**Капяшы́на,** *капяшчы́на* 'капа сена' (Нар. словатв.), да *капа* (гл.). Словаўтварэнне не зусім зразумелае. Магчыма, другаснае ад інтэнсіўнага дзеяслова з -*s*-суфіксацыяй: *kopa* > > *kopati* > *koposíti* > *kopos-ina.*

**Кара́,** укр. *кора,* рус. *кора,* чэш. *kura,* славац. *kôra,* польск. *kora,* балг. *кора,* серб.-харв. *ко̏ра,* славен. *kóra* ўзводзяцца да прасл. *kora,* якое мае ў якасці найбольш блізкіх адпаведнікаў лац. *corium* 'скурка, скура', *cortex* 'кара'. Трэба таксама мець на ўвазе адпаведнікі да прасл. *skora* (Трубачоў, Эт. сл., 11, 44—45).

**Ка́ра,** укр. *кара,* рус. *кара,* чэш. *kára,* славац. *kára,* польск. *kara,* серб.-харв. *ка́ра,* ст.-слав. **кара.** Прасл. *kara* ўтворана ад дзеяслова *karati* 'караць'. Так, Трубачоў (Эт. сл., 9, 151), які насуперак Слаўскаму, 2, 65, мяркуе, што не *karati* < *kara* (тады б мы чакалі *kariti*, як *slaviti*<*slava*).

**Караба́н** 'складка на скуры, маршчыны' (З нар. сл., Сцяшк. МГ) да прасл. *korbiti* 'моршчыць' < *korbъ* 'каробка' (Трубачоў, Эт. сл., 11, 52).

**Карабе́ль,** укр. *корабель,* рус. *корабль,* чэш. *koráb,* славац. *koráb,* польск. *korab,* ст.-слав. **корабль,** балг. *кораб,* серб.-харв. *ко̏рабаљ,* славен. *korabelj.* Лічыцца праславянскім запазычаннем з грэч. *κaϱάβιον* (Бернекер, 567). Спасылка на адзінасць гэтага эвентуальнага праславянскага грэцызма нічога не

даводзіць, бо праблема палеабалканізмаў у праславянскай мове зусім не вывучана. Зафіксаванае толькі ў візантыйскую эпоху грэч. *καράβιον* тым не менш перадаецца ў славянскіх мовах з *-bъ-,* а не *-υ-,* што гаворыць на карысць яго палеабалканскага паходжання (параўн. Трубачоў, Эт. сл. 11, 46—48).

**Карабе́ц**[1] 'караблік' (Дзмітр.) — другасная форма ад *карабель* (слядоў *караб* = прасл. *korbъ* у гэтым значэнні не наглядаецца).

**Карабе́ц**[2] 'карп, Cyprinus carpio' (Маш.), кантамінацыя *карп* з папярэднім.

**Карабо́к** 'невялікая каробка' (Янк. Мат., Янк. 1, Др.-Падб.) (гл. *каробка*). Словаўтварэнне з фармантам *-ъкъ;* прасл. *korbъkъ.*

**Караб**'я́ 'вялікая лубяная каробка' (Янк. 1). Архаічная форма з суфіксам *-ьja,* якая працягвае імёны ж. р. на *i.* Параўн. ст.-слав. **крабии,** серб.-харв. *крабија,* ст.-польск. *krobia,* рус. *коробья.*

**Карава́й** 'рытуальны вясельны хлеб', укр. *коровай* 'тс', рус. *коровай* 'тс', балг. *кравай* 'тс', серб.-харв. *кра̀ва̑ј* 'тс', славен. *kravâj* 'тс' (заходнеславянскія паралелі адсутнічаюць). Аб фальклорных даных гл. Іванаў-Тапароў, Иссл., 243 і наст. Традыцыйна *каравай* разглядаецца як «бык-жаніх» (*«каравай — карова»), каравай — варапай* 'выкрадальнік нявесты' ў адпаведнасці з абрадам «умыкання». Словаўтваральная мадэль выкарыстоўвае фармант *-ějь/ -(j)ajь* (Ваян, Gram. comp. IV, 532; SP, 1, 88). Параўн. літ. *vasarà* 'лета', *vasarójis* 'яравы хлеб' (Трубачоў, Эт. сл. 11, 115).

**Карава́н** — запазычанне з усходу ў рад еўрапейскіх краін. Параўн. перс. *karwan* ( < ст.-інд. *karabhá* 'вярблюд'). Напрамак запазычання і мовы-пасрэднікі вызначыць цяжка (Локач, 86; Фасмер, 2, 190).

**Карава́ць** 'здзіраць кару' (Шат., Выг.). Гл. *кара.*

**Карава́шнік,** *каравачнік* 'зборшчык утылю, каравак' (Янк. 1, Янк. III, Мат. АС, Хрэст. дыял., Шатал.). Гл. *караўка.*

**Караве́нькі** 'брудны' (Нар. словатв.). Гл. *каравы.*

**Кара́віць** 'брудзіць' (Яўс.), да *каравы.*

**Кара́вы** 'брудны' (Шат., Касп., Сл. паўн.-зах., Мат. АС, Янк. 111), укр. *коравий* 'закарузлы, закарэлы', рус. *корявый* 'тс', чэш. *koravý* 'зацвярдзелы', славац. *koravi* 'закарузлы', балг. *корав* 'цвёрды', серб.-харв. *ко̀рав* 'цвёрды, закарузлы'

ўзыходзяць да прасл. *koravъ,* якое да *kora* (Трубачоў, Эт. сл., 11, 51).

**Караго́д,** рус. *корогод,* укр. *корогод.* Варыянты ад *харавод* (рус. *хоровод,* якое да *хор* ( < грэч. χορός 'групавы танец') і *вадзіць.* Змена *-х-* на *-к-* і *-в-* на *-г-* не мае тлумачэння (Фасмер, 2, 332—333).

**Карагóль** 'ястраб перапёлачнік, Accipiter nisus L.' (Касп.) — вандроўнае слова, якое мае цюрк. крыніцу *(karguj)* (Трубачоў, Эт. сл. 11, 68—69; Слаўскі, 3, 117—119).

**Карадзíцца** 'курчыцца, сімуляваць курч, капрызіць' (Нас., Гарэц., Сл. паўн.-зах., Байк. Некр.), укр. *коротитися* 'скардзіцца на боль', польск. *kródzić* 'укарочваць' семантычна далёкае і, магчыма, не звязана з беларускай і ўкраінскай лексемамі (Слаўскі, 3, 152). Падрабязна аб гэтай групе слоў Мяркулава, Этимология, 1973, 55—58. Фактычная адсутнасць лексемы на рускай моўнай глебе гаворыць або аб вузкай інавацыі, або аб запазычанні. Менш верагоднымі з'яўляюцца генетычныя суадносіны з літ. *skur̃sti* 'чэзнуць, марнець', *skurdùs* 'хваравіты, кволы' (Мяркулава, там жа, 57).

**Ка́рак,** укр. *карк* — запазычанні з польск. *kark* 'карак', якое ўзыходзіць да прасл. *kъrkъ* (параўн. спрадвечныя чэш. *krk,* в.-луж. *krk,* серб.-харв. *kȑkara* 'спіна' і інш.) (Слаўскі, 2, 77).

**Караку́ль**1 'багаты чалавек' (Нар. лекс.), параўн. укр. *куркуль* 'багаты мужык, багацей'. Магчыма, да назвы драпежніка. Гл. *караголь.*

**Караку́ль**2 'няўдаліца' (Нар. лекс.). Няясна.

**Караку́лька** 'ручка касы' (БДА), укр. *каракуля* 'ручка каля рала', параўн. рус. *каракули* 'крывое дрэва', няяснага паходжання (Фасмер, 2, 192). Супраць цюрк. этымалогіі Фасмера ЕСУМ, 2, 385.

**Кара́л,** рус. *коралл, королёк* (па аналогіі з *король).* Запазычанне праз польск. *koral, koralik* з італ. *corallo* (лац. *corallium*). Форма мн. л. *каралі, кралі* (Гарэц., Др.-Падб., Яруш.) з польск. *korale* (Бернекер, 567; Фасмер, 2, 322, 365).

**Карамы́сла,** *каромысел,* укр. *коромисло,* рус. *коромысло.* Надзейнай этымалогіі няма. Гл. Фасмер, 2, 334; Папоўска-Таборска, SOr, 17, 369—370; Трубачоў, Этимология-1972, 40.

**Карана́сты** 'невысокае шырокае дрэва з моцным карэннем; плячысты чалавек', укр. *коренастий* 'тс', рус. *коренастый*

’тс’, чэш. *kořenatý* ’з моцным карэннем’, славац. *korenastý,* польск. *korzeniasty,* серб.-харв. *кȍренаст,* славен. *korênast* ’тс’ (гл. *карань*). Суфікс *-astъ* (Трубачоў, Эт. сл., 2, 60).

**Каранёк** ’невялікі калодачны вулей’ (З нар. сл.), *каранік* ’калодачны стаячы вулей’ (З нар. сл., Жд. 3, Бяльк.). Магчыма, да *kъrnъ* ’кароценькі’, параўн. бел. *карнаты* (гл.), або першапачаткова ’вулей з кары’ (Бяльк., 221).

**Каранты́ш** ’чалавек невысокага росту’ (Нас., Касп., КЭС, лаг.; ТСБМ), да *каратыш* (гл.) з экспрэсіўнай назалізацыяй. Магчыма, пад уплывам *карандаш* ’аловак’ (параўн. *карандаш* ’малое дзіця’ (Жд. 3).

**Карапу́з** рус. *карапуз,* якое або з франц. *crapoussin* ’карапуз’з другасным упадабненнем да *пуза,* або з цюрк. *karpuz* ’арбуз’ з метафарычным пераносам (Фасмер, 2, 193).

**Карапу́зіцца** ’выстаўляць пуза, выхваляцца’ (Нас., Касп.), да *карапуз* (гл.).

**Кара́скацца** ’карабкацца’ (Нас., Гарэц., Др.-Падб.), украінскія і рускія адпаведнікі толькі з прэфіксамі *(відкараскатись, откараскаться).* Магчыма, кантамінацыя *карабкацца* з *карась.* Польск. *karaskać się* запазычанне з бел. мовы (Слаўскі, 2, 66—67).

**Кара́сь**1 ’карась, Carassius vulgaris’, укр. *карась,* рус. *карась.* чэш. *karas,* в.-луж. *karas,* балг. *караш,* серб.-харв. *ка̀рас,* славен. *karas.* Надзейнай этымалогіі не існуе. Магчыма, запазычанне з усходу; параўн. марыйск. *karaka* ’карась’, удмур. *karaka* ’тс’ і інш. (Трубачоў, Эт. сл., 9, 152).

**Кара́сь**2 ’жалезная паласа, якую прымацоўваюць да ніжняй часткі драўлянай восі калёс’ (Маслен., КЭС, лаг.). Паходжанне няяснае.

**Карата́ць** ’скарачаць, праводзіць час’, укр. *коротати* ’тс’, рус. *коротать* ’тс’, балг. *кратам се* ’канчаць’. Няма ўпэўненасці ў праславянскім характары слова (балгарская паралель семантычна адменная ад усходнеславянскіх). Найбольш верагодная версія: да **kortъ* ’кароткі’ (Трубачоў, Эт. сл., 11, 97—98).

**Каратыш** ’чалавек невысокага росту’ (ТСБМ, Нас., Шушк.), укр. *каротиш* ’кароткае бервяно’, рус. *коротыш* ’маленькі чалавек, кароткае бервяно’, н.-луж. *krotuš* ’маленькі чалавек’. Усё ж такі ніжнелужыцкая форма мае іншую суфіксацыю. Архаічнасць усходнеславянскіх форм даводзіцца тым, што ў іх адлюстраваны прыметнік з асновай на *-й* перад тым,

як ён яшчэ ў праславянскі перыяд далучыў да сябе рэгулярны фармант *-kъ* (параўн. прасл. *kortъkъ* < *kortъ*) (гл. *кароткі*).

**Кара́ўка**₁ 'старая каравая ануча' (ТСБМ, Нас., Янк. 111, Хрэст. дыял. Яўс.). Гл. *каравы*. Параўн. *караўка* 'неахайная жанчына' (Жд. 2).

**Кара́ўка**₂ 'доўгае, тоўстае бервяно з карой', да *кара* (гл.).

**Карачава́ты** 'моцна скрыўлены, пакрыўлены, крывы, пакручаны (пра дрэва)' (Нар. лекс.) (гл. *карачкі* і *карачун* у значэнні 'крывое дрэва', гл. таксама *карачунаваты*).

**Кара́чкі** 'кукішкі, карачкі' (Шат., Нас., Гарэц., Др.-Падб.), *карачы* 'тс' (Сцяц. Нар.), укр. *карачки* 'тс', рус. *корячка* 'тс' да *korakъ* (параўн. серб.-харв. *кȍрак,* славен. *korák* 'крок'), якое ў сваю чаргу да *korkъ* 'нага' (гл. *крок,* якое запазычана з польск. мовы) (Трубачоў, Эт. сл., 2, 50, 77—80). Прасл. *korakъ* паводле Трубачова адлюстроўвае фальшывае поўнагалоссе, якое спарадычна ўзнікала яшчэ ў праславянскі перыяд. Калі гэта так, то лексема *карачкі* з'яўляецца рэліктам усходнеславянскіх паралеляў да серб.-харв. *ко̀рак* і іншых паўднёваславянскіх лексем: *карачка* < *koračьka* < *korakъ*. Форма *карачы* хутчэй за ўсё другаснае ўтварэнне па аналогіі.

**Карачу́н** 'заўчасная смерць' (Нас.), 'смерць, канец' (Мал.), 'нешта пакрыўленае' (Клім., Нар. лекс.), 'крывое і сукаватае дрэва' (Нар. лекс.), 'нізкарослы чалавек', «Сіціўрат, або Карачун, Зюзя — падземны цар, казачны бог марозаў, які нёс смерць» (Кіркор). Разнастайнасць семантыкі слоў, якія прыводзяцца, робіць рэканструкцыю першаснага значэння даволі цяжкай. Паралелі з іншых славянскіх моў амаль не дапамагаюць вырашыць гэту задачу: рус. *карачун* 'заўчасная смерць', 'злы дух, чорт, дэман', 'пост перад калядамі', 'святочны абрад, каляды', 'сонцаварот зімовы' (іншыя значэнні яшчэ больш няпэўныя), славац. *kračun* 'каляды', балг. *крачун* 'свята летняга і зімовага сонцавароту'. Уражвае тое, што слова зафіксавана амаль толькі ва ўсх.-слав. мовах, прычым украінскія паралелі ненадзейныя. Семантыка ўмоўнай рэканструкцыі *korčunъ* дэманструе тры тыпы значэнняў: 'зімовы сонцаварот' (сюды таксама 'каляды'), 'летні сонцаварот' (відаць, называўся *krěsъ:* серб.-харв. *крѐсови* ў тым значэнні) і міфалагічная істота — 'злы дух, падземны цар, уладар маразоў, смерць'. Лёгка заўважыць унутраную сувязь двух першых значэнняў, 'крывое сукаватае дрэва' зафіксавана толькі ў беларускіх паралелях, якое, паводле нашых меркаванняў, адносіцца да іншай лексемы *korkъ* (гл. *карачкі*) (Казлова, Этимология, 1982). Што датычыць лексемы з міфа-

лагічным значэннем, то мы не схільны яе ўзводзіць ні да *korkъ* 'нага', ні да *korčiti* (гл. Трубачоў, Эт. сл., 11, 56—58). Рус. *карачун* 'дзіця, якое поўзае' або балг. *крачун* 'вялікая нага', з нашага пункту погляду, звязана з *korkъ* і *korčiti*, а не з *карачун* у міфалагічным значэнні. Арэал распаўсюджання для апошняга сведчыць хутчэй аб яго іншамоўным паходжанні. Прапанаваная нядаўна гіпотэза можа, як нам здаецца, праліць святло на паходжанне слова. Паводле гэтай гіпотэзы, балг. *крачун* і рум. *craciun* 'каляды, свята зімовага сонцавароту' ўзыходзяць да алб. *kërcun* 'пень, цурбан', што тлумачыцца рытуальным спальваннем пня падчас зімовага сонцавароту (Чабэй, Studime filologjike, 1964, 1, 61; Дзясніцкая. Слав. языкозн., 1978, 169). Рум. *crăciun,* укр. *крачун,* славац. *kračun* у рамках карпацкай міграцыі з поўдня, аб чым сведчыць геаграфія распаўсюджання слова і фанетыка ўкр. паралелі. Пад гэтым адносна познім працэсам праглядваюцца старажытныя моўныя сувязі бел.-рус. лексемы ў міфалагічным значэнні. Гэтыя сувязі мелі месца да метатэзы плаўных і іх можна кваліфікаваць толькі ў плане ўсходнебалканскай міграцыі славян (VI ст. н. э.). Для больш старажытнага перыяду застаецца магчымасць (улічваючы албанскую лексіку) палеабалканскага паходжання славянскіх слоў у палескім арэале. Параўн. яшчэ Дзясніцкая, там жа, 168—170.

**Карачýнаваты** 'моцна скрыўлены, пакрыўлены, пакручаны (пра дрэва)' (Нар. лекс.). Прамы дэрыват ад *карачун* у значэнні 'крывое дрэва'. Папярэдняя лексема гаворыць аб тым, што *карачун* у гэтым значэнні дэрыват ад *koračiti* (параўн. рус. *корачить* 'рабіць крывым, гнуць').

**Карб** 'гадавое кольца на розе каровы' (З нар. сл.), *карбы* 'знакі на рагах у каровы', 'зарубкі на бірках' (З нар. сл.). Да ўкр. *карб* 'знак, след, зарубкі', літ. *kar̃bas* 'зарубка' і інш.— запазычанні з польск. *karb* 'зарубка', якое ў сваю чаргу з с.-в.-ням. *kërbe* 'зарубка' (Слаўскі, 2, 70). Гл. *карбаваць*.

**Карбавáць** 'рабіць зарубкі' (ТСБМ), укр. *карбувати* 'тс' запазычанні з польск. *karbować* 'тс'. Дзеяслоў не з'яўляецца адыменным дэрыватам папярэдняй лексемы. На беларускай моўнай глебе лексема *карб* (гл.) амаль толькі ў спецыфічным значэнні, таму яе можна разглядаць як другасную адносна *карбаваць* (Слаўскі, 2, 70).

**Карбáціць** 'карабіць, гнуць' (Яруш., Гарэц.), 'горбіць' (Юрч.), 'карбаціцца' (Гарэц.). Значэнне 'горбіць' паказвае, што *карбаціць* можна разглядаць як кантамінацыю *карабаціць* ( $<$ *korbatъ* $<$ *korbъ* — Трубачоў, Эт. сл., 11, 51) і *гарбаты*.

**Карбо́ванец** 'сярэбраны рубель', укр. *карбованець* 'рубель', да *карбаваць* (гл.).

**Карбо́нка** 'скарбонка, скрыначка з дзіркай у верхняй накрыўцы, куды кідаюць грошы' (Бяльк.). Кантамінацыя да *скарбонка* і *карбаваць*. Параўн. у спецыфічным значэнні *карбованец* (гл.).

**Карбо́ўка** 'драўляны зубчасты валік або кольца для ціснення штрыхоў на сырым посудзе' (Крыв., Вяр.), да *карбаваць* (гл.).

**Карбу́нак.** Ужываецца ў праклёне *«Каб цябе карбунак задавіў! Акыш! Каб на вас карбунак які напаў»* (Янк. Мат.). Гл. *карбунец.*

**Карбуне́ц** 'карбункул' (Суднік, Вусн. паведамл., полац.), нерэгулярнае пераўтварэнне ад *карбункул* з дапамогай прадуктыўнага суфікса *-ец* (*-ак* < *ъkъ* у папярэднім выпадку). Гл. *карбункул.*

**Карбу́нкул** 'гнойнае запаленне глыбокіх слаёў скуры' (ТСБМ), непасрэдна з лац. Carbunculus. Nomen deminutivum ад *carbō carbonis* 'вугаль' (*carbunculus* 'рубін') або праз польск. пасрэдніцтва (Слаўскі, 2, 70—71).

**Карва́ты** 'закарузлы, закарэлы' (Нар. лекс.) < **караваты* да *каравы* (гл.).

**Карва́ць**1 'ложак' (Бяльк.), з *кравацъ* (гл.).

**Карва́ць**2 'яловыя палкі, якія перашкаджаюць мядзведзю дабрацца да калоды з пчоламі' (Рам.). Няясна.

**Карвашы́** 'адкладныя нарукаўнікі ў світках часцей за ўсё каляровага сукна' (КЭС), запазычанне з польск. *karwasz,* якое з венг. *karvas* (Брукнер, 221).

**Карга́** 'старая' (ТСБМ), рус. *корга* 'старуха'. Запазычанне з цюрк. *karga* (Бернекер, 490).

**Карго́злік** 'слабы, невялікага росту чалавек' (Мат. Маг.), з **карнагуз-лік.* Першая частка гэтага складанага слова да прасл. *kъrnъ* (укр. *корний,* рус. *корный* 'кароткі'), другая — *гуз, гузна* (гл.). Параўн. рус. *кургузый* < *kъrnъ- gųzъ.* Няясная трэцяя частка. Магчыма, да суфіксаў *-el-ikъ.* Параўн. *курдупель* (гл.) < *kъrnъ-dup-elь* (Лабко, Бел.-польск. ізал., 72).

**Кардо́н**1 'дзяржаўная граніца' (ТСБМ), 'месца, дзе знаходзіцца лясніцкі пункт' (Яшк.), 'граніца'. Запазычанне з польск.

*kordon* 'граніца', з франц. *cordon* 'вяровачка, шнур' (ад *corde* 'вяроўка') (Булыка, Запаз., 141; Фасмер, 2, 324).

**Кардо́н**₂ 'цвёрдая і тоўстая папера' (ТСБМ) < франц. *carton,* якое ў сваю чаргу з італ. *cartone* — Nomen augmentativum ад *карта.* Замена зыходнага *т* на *д* цяжка вытлумачыць.

**Кардо́ўнік** 'аер' (Касп., Мат. Маг.), 'рагоз, пухоўка шыракалістая, Typha latifolia l' (Кіс.), 'плюшч галінасты, Sparganium ramosum Hads' (Кіс.). Магчыма, ад лац. *carduus* 'чартапалох' (назва калючай расліны).

**Кардо́хля** 'бульба' (Бяльк., Мат. Маг.), да *картохля* ( < *картофка* < польск. *kartofla*).

**Кардо́па** 'бульба' (Бяльк.), да *картопа* < *картопля* (параўн. укр. *картопля*) (гл. папярэдняе слова).

**Каржа́віць,** *каржэ́ць* 'пакрыцца брудам, граззю' (Др.-Падб., Гарэц.), параўн. рус. *каржевина* 'жалезны нагар, акаліна', да *іржа* (гл.) з прэфіксам *ка-* (Фасмер, 2, 198).

**Каржа́к** 'каржакаватае дрэва, корч' (ТСБМ), з польск. *krzak* 'куст' (гл. *каржакаваты*).

**Каржакава́ты** 'нізкі з тоўстым сукаватым ствалом (пра дрэва)', 'невысокі, шыракаплечы, моцнага целаскладу; каранасты' (ТСБМ, Шат., Касп.), 'каравы' (Яруш.). Словаўтваральная будова лексемы празрыстая — *каржакаваты* < *каржак-ав-аты.* Запазычанне з польск. *krzakowaty* 'тс', якое ад *krzak* 'куст, кустоўе'. Гл. *каржак.*

**Каржа́н** 'кажан' (Шатал.), ад *кажан* (гл.) пад уплывам *каржанець* (гл.), *каржацець* (гл.).

**Каржане́ць** 'абсыхаць' (Юрч.), 'не расці' (Янк. БЛ). Параўн. рус. *коржавый* 'сухі, зморшчаны, шорсткі', *коржаветь* 'цвярдзець', да *корж* (гл.).

**Каржаце́ць** 'станавіцца сухім, цвёрдым, пакрывацца «каржом» — сухой коркай' (Янк. 111). Само тлумачэнне ўказвае на сувязь з *корж* (гл.).

**Каржэ́іна** 'вельмі закарэлая, брудная асоба' (Нар. словатв.), 'вельмі закарэлы, брудны' (З нар. сл.). Да *корж* (гл.) і папярэдніх лексем. Словаўтварэнне: *каржэіна* ад *каржэй* (гл.) і суфікса *-іна.* (Nomen augmentativum et peiorativum).

**Каржэ́й** 'вельмі закарэлы, брудны' (З нар. сл.), да *корж* (гл.). Суфікс *-эй* утварае некалькі тыпаў назоўнікаў, у тым ліку ад прыметнікаў і назоўнікаў (прасл. *-ějь*) (SP, 1, 87).

**Каржэ́ністы** 'прысадзісты, каржакаваты' (Яўс.). Утворана ад наступнага. Гл. *каржэнь*$_1$.

**Каржэ́нь**$_1$ 'прысадзісты, каржакаваты чалавек' (Яўс.), да *каржак* (гл.), кантамінаванага з *каржэнь*$_2$ 'корж' (гл.).

**Каржэ́нь**$_2$ 'корж' (Нар. сл.), 'сухар, засушаная аладка' (Нас., Грыг.). Да *корж* (гл.). Утворана з дапамогай суфікса *-энь* < *ьn'ь,* якое ўтворана ў праславянскай мове з суфіксам прыметніка *-ьnъ* + структуральны суфікс назоўнікаў *-jь* (SP, I, 138).

**Каржы́** 'адбіткі пальцаў пры фарміраванні хлеба' (Жыв. сл.), 'засушаныя бліны' (Шпіл.), 'нячышчаная бульба, якую таўкуць у ступе і дабаўляюць ячнай або грэцкай мукі' (Серб.), 'каржы' (Бяльк.). Pluralia tantum, да *корж* (гл.). Першае значэнне звязана з тэхналогіяй прыгатаўлення каржоў.

**Карзі́на** 'кашолка' (ТСБМ, Сл. паўн.-зах., Яруш.), 'кош з лазы' (Нар. сл., Яшк.), *карзінка* 'кош' (Мат. Маг.). Зыходзячы з формы і значэння лексемы *корзаць* (гл.), *карзіна* вытворнае ад *корзаць:* бел. *корзаць* 'плесці', укр. *корзити* 'плесці, моршчыцца'. Магчыма, сюды ж рус. *корза* 'старая (= маршчыністая)'. Параўн. лат. *kur̃za* 'маршчына' (Фасмер, 2, 327). Праз значэнне 'плесці' *корзаць* звязана з *карзіна.* Адносіны ўсходнеславянскіх і латышскіх паралелей няясныя.

[**Карзі́ншчыца**] *кôрзи́нщица* 'пчала, якая збірае мёд' (Анох.), да *карзіна* (гл.).

**Карзу́н** 'кабан' (Гарэц.). Параўн. *кнорез* (гл.) 'кабан'. Вытворнае ад *корнарезун* магло ператварыцца ў *карзун.* Славянскія паралелі да *кнорэз* вельмі разнастайныя, што тлумачыцца іх амаль поўнай дээтымалагізацыяй. Упадабненне да суфіксальных форм дало таксама *карзюк* (гл.).

**Карзю́к** 'вялікі непакладаны кабан' (Грыг.), 'кныр' (Мат. Маг.). Параўн. *карзун* (гл.).

**Карк**$_1$ 'карак' (Нар. лекс., Дразд., Гарэц., Др.-Падб.), укр. *карак* (гл. *карак*), запазычанне з польск. *kark* 'карак', якое ўзыходзіць да прасл. *kъrkъ* (Слаўскі, 2, 77).

**Карк**$_2$ 'частка касы, якая непасрэдна прымацоўваецца да касся' (Тарнацкі, Studia). Метафарычная назва, абумоўленая знешнім падабенствам (гл. *карк*$_1$).

**Каркаві́на** 'карак' (ТСБМ), 'шыя і плечы ніжэй шыі' (КЭС, лаг.), 'свіны ашыек' (Сцяшк., Вешт., Шатал.), да *карк*$_1$ (гл.). Словаўтварэнне даволі празрыстае: *каркав-іна* (першая частка — прыметнік з суфіксам *-ав,* другая — суфікс *-іна*).

**Каркадзе́д,** *каркадзедак* 'падлетак, што не расце, ліліпут' (Янк. 111), да *карнадзед.* Параўн. *карналы* (гл.) 'кароткі', *карноткі* (гл.) 'тс'. *Каркадзед* < *карнадзед* пад уплывам *карк* (гл.).

**Каркадо́н** 'скокі на свята Купалы' (Мухл.). Няясна.

**Карка́жа** *«малы некі хлопец расце, каркажа»* (Сл. бел. нар. фраз.). Да *каржак* (гл.), *каржакаваты* (гл.) 'невысокі, каранасты'. Гл. таксама *каркажаваты.*

**Каркажава́ты** 'каржакаваты' (Нар. лекс.). Само тлумачэнне сведчыць аб паходжанні (гл. *каржакаваты*).

**Карка́лі** 'пусткі' (Нар. лекс.). Няясна.

**Каркалі́на** 'крывое, кусцістае дрэва' (Нар. сл.). Да **kork-alь, korkъ* 'адгалінаванне'. Параўн. макед. *крак* 'адгалінаванне, галіна'. Адсюль **kork-alь* 'галінасты'. Ад *каркаль* утварылася *каркаліна.*

**Каркалі́сты** 'крывы, кусцісты' (Нар. сл.). Таксама ад *каркаль* з дапамогай суфікса *-іст-* (гл. *каркаліна*).

**Карканос** 'з кароткім носам' (Федар. VII). Ад *карнанос.* Параўн. ст.-рус. *кърноносъ* 'кірпаносы'.

**Карка́с** 'касцяк' < рус. *каркас* < франц. *carcasse* 'касцяк' (Фасмер, 2, 200).

**Ка́ркаць** (пра крык варон), укр. *каркати,* рус. *каркать* 'тс'. Іншаславянскія паралелі маюць іншую фанетычную структуру і шэраг іншых значэнняў, якія суадносяцца толькі як гукапераймальныя: чэш. *krkáti* 'адрыгваць', славац. *kŕkať* 'квакаць', польск. *karkać* 'кудахтаць', серб.-харв. *kŕkati* 'хлябтаць', славен. *kȓkati* 'гудзець' (аб пчолах). Агульная форма гэтых заходне- і паўднёваславянскіх слоў: *kъrkati.* Маюць бліжэйшую паралель у літ. *kũrkti* 'квакаць'. Што датычыцца ўсходнеславянскіх паралелей, то для іх нельга дакладна рэканструяваць архетып. Мы дапускаем *karkati,* якое цяжка суаднесці з *kъrkati,* з аднаго боку, і з літ. *kar̃kti* 'кудахтаць', з другога; у якасці паралелі да апошняй літоўскай формы мы б чакалі бел. **карокаць* і ўсх.-слав. паралелі з поўнагалоссем (Слаўскі, 2, 78).

**Ка́ркі** 'павозка' (Жд. 3), 'малыя санкі' (Шат.). Запазычанне з ням. *Karch* 'павозка', с.-в.-ням. *karech* 'двуколка', таму Pluralia tantum. Магчыма, таксама ўплыў бел. *калёсы* для назвы павозкі.

**Каркуля́тны** 'ашчадны' (КЭС, лаг.), да *каракуль* (гл.), з суфіксацыяй на *-атны (-at-ьnъ).*

**Карку́шкі.** У выразе *«несці на каркушках — несці за плячамі»* (Нар. сл.), да *карк* (гл.).

**Каркю́шкі** 'кавалак бервяна' (Крачк.). Мабыць, недакладная дэфініцыя: слова мае форму Pluralia tantum і змест, які не адлюстроўвае гэту множнасць. Хутчэй за ўсё насілкі, г. зн. парныя палкі, якія кладуцца на плечы тых, хто нясе. Параўн. укр. *коркиші* 'плечы'.

**Карма́**$_1$ 'задняя частка карабля', укр. *корма,* рус. *корма* 'тс', ст.-слав. **кръма,** балг. *кърма,* серб.-харв. *кр́ма* 'рулявое вясло', славен. *kŕma* 'тс'. Слова, відаць, праславянскае. Яго архетып — *kъrma* 'рулявое вясло'. Параўн. ст.-слав. **кръмчии** 'кормчы, рулявы', **кърмило** 'руль'. Існуе гіпотэза аб старажытнагрэчаскіх сувязях гэтай групы слоў. Параўн. ст.-грэч. πρύμνη 'карма'. Марфалогія і семантыка славянскага і грэчаскага слоў супадаюць, але фанетыку вытлумачыць цяжка. Такія змены ў фанетыцы могуць узнікнуць у працэсе запазычання і адаптацыі. Больш пераканаўчая грэчаская паралель: κορμός 'вясла' (Гесіхій) **(**κορμός ναυτικός**).** Не выключаны таксама палеабалка́нскі характар гэтых слоў, роднасць іх і πρύμνη ($^*k^u > π$ або κ у розных дыялектах). Ва ўсякім разе гэта слова, як і назва карабля ў цэлым (гл. *карабель*), магла мець палеабалканскую моўную крыніцу (Бернекер, 668; Пэрсан, Beitr., 172).

**Карма́**$_2$ 'сярэдняя частка невада ў выглядзе доўгага вузкага мяшка, куды пападае рыба пры лоўлі, куль' (ТСБМ, Касп., З нар. сл., Яшк., Нік., Мат. АС), рус. *корма* 'мяшок невада'. Сабалеўскі (ЖМНП, 1886, сент., 151) бачыў сувязь з *карман* 'кішэня' (гл.), якое, аднак, само патрабуе этымалагічнага тлумачэння.

**Карма́**$_3$ 'затока, завадзь у форме рукава', 'выступ сушы ў выглядзе паўвострава, які ўразаецца ў балота' (Яшк.). Семантычная сувязь з папярэднім словам відавочная. Агульная сема для *карма*$_2$ і *карма*$_3$ — 'куль, мяшок, рукаў', але этымалагічнага рашэння пакуль што няма.

**Карма́г** 'абломак нажа' (Грыг.). Відаць, трэба чытаць *кармач* (гл.), якое ад *карнач* 'нож з кароткім зламаным лязом' (гл.).

**Кармазы́н** 'тонкае сукно пунсовага колеру' (Нас., Мядзв., Бяльк., Др.-Падб., Гарэц.), укр. *кармазин,* рус. *кармазин.*

Праз польск. *karmazyn* з італ. *carmesino* (Булыка, Запазыч., 141; Фасмер, 2, 201).

**Кармач** 'складаны нож' (Касп.). Гл. *карнач.*

**Карма́ш** 'кірмаш' (Сержп., Нік.), гл. *кірмаш.* Магчыма, кантамінацыя з наступным словам.

**Карме́шка** 'кармленне на мяса жывёлы' (КЭС, лаг.). Гл. *карміць.*

**Карм́ільніца** 'рабочая пчала' (Анох.). Гл. *карміць.*

**Карм́іць,** укр. *кормити,* рус. *кормить,* чэш. *krmiti,* в.-луж. *kormić,* польск. *karmić,* балг. *кърмя,* серб.-харв. *kŕmiti* 'карміць жывёлу', славен. *kŕmiti* 'тс': прасл. *kъrmiti, kъrmъ.* Гл. *корм.*

**Кармлёта** 'ежа, корм' (Нас.), да *корм* (гл.). Словаўтварэнне з дапамогай суфікса *-(j)ota* (*м* > *мл* перад *j*).

**Карму́шка**1 'пасуда для кармлення', да *корм* (гл.).

**Карму́шка**2 'страва з халоднай вады, кусочкаў хлеба з соллю або цукрам' (Сцяшк.), да папярэдняга.

**Карм́ык** 'кручок з блешняй' (Крыв.), рус. *кармак, кормак.* Запазычанне з цюрк. *kartmak* 'кручок' (Фасмер, 2, 201).

**Карм́ыч** 'даглядчык жывёлы' (Яўс.). Мабыць, таксама да *карміць* (гл.). Словаўтварэнне не зусім яснае: *-ыч* < *-ісь* < < *-ikjь.* Параўн. *карміч* ~ *карміць,* як *родзіч* ~ *радзіць.*

**Карна́** 'ліпавая кара' (Сл. паўн.-зах.). З літ. *karnà.*

**Карнава́л** (ТСБМ) 'перыяд часу ад каляд да масленіцы (Сцяшк.). Запазычанне з франц. *carnaval,* якое ў сваю чаргу з італ. *carnevale* (з лац. *carnem levare* 'выдаляць, пазбаўляцца мяса'). Параўн. польск. *mięsopust* 'пост' (Брукнер, 220; Слаўскі, 2, 81).

**Карнаву́гал** 'круглая ўпадзіна сярод поля, якая арэцца пазней, бо ў ёй доўга вясной стаіць вада' (Яшк.). Відавочна, складанае слова: *карна-вугал.* Другая аснова празрыстая. Яе значэнне 'асобная частка поля'. Што датычыцца першай, то яна ўваходзіць у склад іншых слоў, сярод якіх найбольш распаўсюджанае *карнавухі* (гл.) 'з адрэзанымі вушамі'. Параўн. таксама *карнаткі* (гл.), гл. *карна́ць.* Такім чынам *карнавугал* мела першаснае значэнне 'адрэзаны вугал, адрэзаная частка поля'.

**Карнаву́хі** 'з адрэзанымі або абвіслымі вушамі' (Нас.,

Шат., Қасп., Бяльк., Гарэц., Др.-Падб., Жыв. сл.). Складаны прыметнік. Першая аснова да *карнáць* (гл.).

**Қарнáлы** 'кароткі' (Фед. Рук.). Дзеепрыметнік з *л*-суфіксацыяй, да *карнáць* (гл.).

**Қарнáткі** 'кароткі' (Шатал.), да *карнаты* (гл.).

**Қарнáты** 'кароткі, адрэзаны' (Нас., Қасп., Федар. VII; ҚЭС. лаг.).Дзеепрыметнік з *т*-суфіксацыяй ад *карнаць* (гл.).

**Қарнáць** 'укарочваць' (Нас.). Укр. *корнати,* рус. *корнать,* чэш. *krniti* 'кастрыраваць', серб.-харв. *кр́њити* 'абломліваць, рэзаць, шкодзіць', славен. *krniti* 'абразаць, калечыць': прасл. *kъrniti/karnati.* Магчыма, да прасл. **kъrpnǫti* з наступным пераўтварэннем на дыялектнай глебе ў **kъrnǫti* > **kъrniti,* пакольні **kъrnǫti* ўспрымалася як разавае дзеянне (для **kъrpnǫti* > **kъrnǫti* параўн. *topnǫti* > *tonǫti* 'тануць, тапіцца'). Қалі дапусціць **kъrniti* < **kъrnǫti* < **kъrpnǫti,* тады можна даць наступныя індаеўрапейскія паралелі да славянскіх слоў: літ. *kir̃pti* 'рэзаць' (альтэрнацыя *ir/ur* у балтыйскіх мовах добра вядомая). Лат. *cìrpt* 'тс', ст.-інд. *kr̥pāṇī* 'нажніцы, кінжал' ст.-грэч. *κρώπιον* 'серп', ірл. *corran* 'тс', *cirrim* 'рэжу' (Фрэнкель, 257—258). Існуючыя этымалогіі ( ~ літ. *kur̃sti* 'глухнуць', лат. *kurns* 'глухі' або ст.-інд. *kírṇáḥ* 'паранены' і інш. гл. Фасмер, 2, 330) не задавальняюць.

**Қарнáч**₁ 'нож з кароткім лязом' (Сцяшк.), 'нож з кароткім зламаным лязом' (Юрч.), 'маленькі чалавек' (Мат. Маг.), да *карнаць* (гл.), *карнаты* (гл.). Ад апошняга ўтварылася *карнач (karnatъ > karnatjь > karnačь)* пры дапамозе *jь*-суфіксацыі, якая ператварае прыметнік у адпаведны назоўнік (SP, 1, 80—81).

**Қарнáч**₂ 'шчаўе тупалістае, Rumex obstusifolius' (Қіс.). Як аб гэтым сведчыць само тлумачэнне, лісце гэтай расліны нібы падрэзанае, карнатае, да папярэдняга.

**Қарнáчык** 'зламаны ножык' (Бяльк.). Гл. *карнач*₁.

**Қарнíз** праз ням. *Karnies* з італ. *cornice* (першасная крыніца: лац. *coronis* < ст.-грэч. *κορωνίς* (Фасмер, 2, 202).

**Қáрнік**₁ 'член карнага атрада, карнай экспедыцыі' (ТСБМ) — Nomen agentis ад *караць* (гл.).

**Қáрнік**₂ 'спецыяльна абсталяваная частка хлява для захоўвання сена' (Жыв. сл.), да **кармнік* як месца захоўвання кармоў. Выклікае сумненні магчымасць суфіксацыі з дапамогай суфікса *-ік ( < -ікъ),* якія страціў былую прадуктыўнасць. Але трэба ўлічыць верагоднасць формы **кармнік* < *kъrm-ьn-ikъ* <

< *kъrmьnъ (-ьn-ikъ)*. Трэба таксама мець на ўвазе паралелізм назваў гаспадарчых пабудоў (*кароўнік, курнік* і г. д.). Тады ў якасці першаснай формы прымаюцца адносныя прыметнікі на *-ьnъ* (*kurьnъ,* а ў нашым выпадку *kъrmьnъ*), да якіх рэгулярна далучаецца суфікс *-ikъ*.

**Карні́сты** 'пераборлівы' (Сл. паўн.-зах.). Магчыма, запазычанне з літ. мовы. Параўн. літ. *karnús* 'тс' (Сл. паўн.-зах., 2, 420). Беларускае слова атрымала прадуктыўны суфікс назваў асоб — *-іст*.

**Карно́ткі** 'кароткі' (зэльв. Сцяц.; Шатал.). Параўн. *карнаты* (гл.) 'тс', да *карнаць* (гл.). Непасрэднае ўтварэнне ад *карнаты* + суфікс *-ъкъ,* магчыма, пад уплывам *кароткі*. Пераход *а* > *о* або пад націскам (тыпу *штаны* > *штонікі*), або таксама па аналогіі з *кароткі*.

**Карняві́шча** 'карэнішча, карэнне' (ТСБМ). Да прыметніка *карнявы* пры дапамозе суфікса *-ішча*. Гл. *корань*.

**Каро́ба** 'посуд з ліпавай кары, зроблены для сыпкіх рэчываў' (Нас.). Гл. *кораб*.

**Каро́бачка**$_1$ 'ахоўная сетка ад пчол на твар і галаву' (З нар. сл.), да *каробка* (гл.), падобнасць рэалій у тым, што яны плеценыя. Гл. *каробачка*$_2$.

**Каро́бачка**$_2$ 'від жаночай прычоскі: сплеценыя косы і ўкладзеныя на патыліцы' (Сцяшк.). Гл. *каробачка*$_1$.

**Каро́бка** 'невялікая скрынка' (ТСБМ), 'пасудзіна вялікіх памераў для ссыпання збожжа', 'шырокая пасудзіна сярэдніх памераў з лазы для захавання мукі, круп і іншых рэчываў', 'шырокая пасудзіна для сяўбы ўручную', 'кошык для збірання грыбоў, ягад', 'спецыяльная, шчыльна сшытая з ліпавай кары пасудзіна для збору мёду' (З нар. сл.), 'прылада для лоўлі ўюноў (З нар. сл., Шатал., Крыв., Рам.), 'скрыначка, пенал' (Бяльк.). Найбольш ужывальнае вытворнае ад *кораб* (гл.) слова. Параўн. укр. *коробка,* рус. *коробка,* чэш. *krabka,* польск. *krobka*. Паўднёваславянскіх паралелей да вытворных з суфіксацыяй на *-ъка* няма, бо такая суфіксацыя не характэрна для іх. Вядома, што паўд.-слав. мовы аддаюць перавагу сінанімічнаму суфіксу таго ж паходжання *-іса:*серб.-харв. *кра̏бица* 'каробачка', славен. *krábica* 'каробка'.

**Каро́ва**$_1$, укр. *карова,* рус. *корова,* чэш. *kráva,* в.-луж. *krowa,* палаб. *korvo,* польск. *krowa,* балг. *крава,* макед. *крава,* серб.-харв. *кра̏ва,* славен. *kráva* (прасл. *korva*). Пошукі этымону для гэтага слова заўсёды былі цяжкімі. Што даты-

чыць старажытнасці, то відавочным з'яўляецца яго яшчэ балта-славянскае паходжанне. Параўн. літ. *kárve* 'тс', ст.-прус. *curwis* 'вол' (апошняе, магчыма, каш.-слав. паходжання: каш. *karw* 'стары вол'). Усе іншыя паралелі не з'яўляюцца надзейнымі, бо аўтары адпаведных этымалогій прымаюць за пастулат унутраную форму 'рагатая', што трэба абгрунтаваць. Перш за ўсё, паколькі лац. *cornu* 'рог', ст.-грэч. *κέρας* (*κέρϝας*) і ст.-іран. *srū, srva* (Бернекер, 557) узыходзяць да *k̑or-u̯/kor-n,* мы б чакалі на балта-славянскім моўным грунце *s*-пачатак, але прасл. *korva* не мае такіх паралелей ні ў адной з індаеўрапейскіх моў (нават калі лічыць паралелямі назвы сарны і лані). Так, ст.-прус. *sirwis* 'лань' хутчэй, генетычна тоесна літ. *šir̃vis* 'шэры конь, заяц' (яўная назва па колеру), *šir̃vas* 'шэры'. Прасл. *sьrna* 'сарна' можна параўнаць са ст.-слав. **срѣнъ** 'белы' (іншыя славянскія паралелі абазначаюць 'іней, шэрань'). Мы падтрымліваем іншую версію з унутранай формай не 'рагатая', а 'жвачная'. Тады прасл. *korva* суадносіцца са ст.-інд. *cárvate* 'жуе' (Махэк, KZ, 64, 262; Мартынаў, Слав. акком., 163). Сюды ж прасл. *červo* 'чэрава' (адно са значэнняў — 'страўнік'). Спроба супаставіць *korva* з сапсаванай глосай Гесіхія *κάρτην · τὴν βοῦν* (*κάρτην* замяняецца на *κάρϝην*) не пераконвае (Параўн. Трубачоў, Эт. сл. 11, 108—109).

**Каро́ва**₂ 'назва грыба гаркуха, кароўка' (Жыв. сл.). Гл. *кароўка, кароўяха.*

**Каро́ваць** 'мітусіцца, клапаціцца' (Фед. Рук.). Няясна.

**Каро́віна** 'ялавічына' (Нар. сл.) — мяса ялавых кароў.

**Каро́віцца** 'брыдзіцца, гідзіцца' (Яўс.), да *карожыцца* (гл.) пад уплывам *карова.*

**Каро́глі** 'пяць невялікіх кавалкаў кола (для гульні)' (Шн.). Няясна.

**Каро́дзіць** 'бурчаць' (Яруш.). Гл. *карадзіцца.*

**Каро́жыцца** 'капрызіць' (Др.-Падб.), 'капрызіць', 'рабіць сутаргавыя рухі' (Гарэц.). Параўн. *кароза* (гл.).

**Каро́за**₁ 'капрыза' (Яўс., Янк. Мат.). Параўн. славен. *koruže* 'дрэнны конь', прасл. *koruza* (Куркіна. Этымалогія, 1970, 95).

**Каро́за**₂ 'сойка' (Гарэц.). Этымалогія адсутнічае (гл. Фасмер, 2, 198).

**Каро́зленькі** 'закарузлы' (Нар. сл.). Да *кара* (Фасмер, 2, 75). Больш надзейна да *карузлы,* (гл.).

**Каро́ль**$_1$, укр. *король,* рус. *король,* чэш. *král,* в.-луж. *kral,* польск. *król,* балг. *крал,* серб.-харв. *кра̂љ*, славен. *kralj,* прасл. *korlь.* Традыцыйная этымалогія зводзіцца да запазычання ў якасці тытула імені Карла Вялікага (як *цэсар,* якое зыходзіла да імені Цэзара). Запазычанне мела месца да метатэзы плаўных у славянскіх мовах, таму гэта фанетычная з'ява атрымала абсалютную храналогію (VIII—IX стст.) у адпаведнасці з даціроўкай праўлення Карла Вялікага. Калі ж не прымаць этымалогіі *korlь* < *Karl,* мы адразу пазбаўляемся крытэрыю для храналагізацыі. Існуе іншая магчымасць этымалагізацыі прасл. *korlь,* для якога словам-крыніцай аб'яўляецца прагерм. *karla* 'стары, старэйшына' (ст.-ісл. *karl* 'муж знатнага роду', фінскі германізм *karilas* 'стары'). Прыняцце гэтай гіпотэзы мяняе храналогію запазычання ў бок значна большай старажытнасці (Параўн. Мартынаў, Лекс. взаим., 68—71; Трубачоў, Эт. сл., 11, 82—89).

**Каро́ль**$_2$ 'трус' (Шатал., Сл. паўн.-зах.). У значэнні 'трус' мы сустракаем у бел. дыялектах формы *кролік* і *кроль.* Апошняе, на нашу думку, з'яўляецца зваротнай дэрывацыяй ад *кролік,* якое запазычана з польск. *królik.* Польская форма, у сваю чаргу, з ням. *Künigl* < лац. *cuniculus.* Ням. лексема асэнсоўвалася як Nomen deminutivum ад *König* 'кароль' (Бернекер, 572; Фасмер, 2, 380).

**Каро́н,** *клясці ў карон* 'праклінаць не на жыццё, а на смерць' (Нар. словатв.). Ад *каран* (выраз, мабыць, звязаны з бытам беларускіх татараў). Націскное *а* перайшло ў *о.*

**Каро́на,** укр. *корона,* рус. *корона.* Запазычанне з польск. *korona,* якое ад лац. *corona* 'вянок' (Булыка, Запазыч., 172; Бернекер, 574; Фасмер, 2, 334).

**Каро́нка** (у маладой) (Зав.), да *карона.*

**Каро́нкі** 'карункі' (Бяльк., ЭШ), 'ленты або карункі, якія нашываліся ўнізе спадніцы' (Сцяшк.). Запазычанне з польск. *koronka* 'тс'.

**Каро́слівы,** да *кароста* (гл.).

**Каро́ста**$_1$ 'кароста (хвароба)' (ТСБМ, Шат., Мядзв., Гарэц., Сл. паўн.-зах., Федар. VI), укр. *короста,* рус. *короста,* ст.-слав. **краста,** балг. *краста,* макед. *краста,* серб.-харв. *кра̏ста,* славен. *krásta.* Агульнае значэнне 'кароста, парша, струпы'. Звяртае на сябе ўвагу ірл. *carrach* 'пакрыты струпамі, паршой'. У ірл. лексеме лёгка выдзяляецца суфікс *-ach,* а *carr* < **kars* — 'скурная хвароба', якое мае рэгулярныя славянскія адпаведнікі, яны ўзводзяцца да прасл. *sъrx* — (бел.

*шаршыць,* рус. *шершавый,* чэш. *srchý* і балт.: літ. *šiurkštùs* 'грубы, шурпаты', *pašiùrti* 'станавіцца грубым, шурпатым'). Параўнанне кельт. і слав. форм прыводзіць да неабходнасці рэканструяваць **k̑ors/*k̑r̥s*. Гэта паказвае, што прасл. *korsta* адлюстроўвае кельцкую фанетыку і семантыку і з'яўляецца, такім чынам, лексічным пранікненнем (Мартынаў, Язык, 42).

**Каро́ста**$_2$ 'кастрыца' (Сл. паўн.-зах., Сцяшк.; Сцяц. зэльв.; Шатал., Бір. Пр.), укр. *короста* 'тс', польск. *krosta* 'кастрыца, якая аддзяляецца пры часанні канапель'. Існуе тэндэнцыя змешваць *кароста*$_1$ і *кароста*$_2$ (гл. Трубачоў, Эт. сл. 2, 93—95), але *кароста*$_2$ мае іншыя паралелі і перш за ўсё балтыйскія, чаго нельга сказаць пра *кароста*$_1$: літ. *karšti* 'часаць лён, каноплі і інш.'. Відавочна, частка гэтых паралелей кантамінавалася з прасл. *kostra* (параўн. ст.-рус. *костра* 'грубая кара льну і канапель, якая застаецца пасля іх часання', і серб.-харв. *кȍстрина* 'кастрыца, адходы пры апрацоўцы льну').

**Каро́ткасць,** укр. *кароткість,* рус. *короткость,* чэш. *kràtkost,* славац. *kràtkosť*, польск. *krótkość,* балг. *краткост,* макед. *краткост,* серб.-харв. *кра́ткост,* славен. *kratkôst*. Рэгулярнае вытворнае з суфіксам *-ostь* ад *kortъkъ* 'кароткі' (гл. Трубачоў, Эт. сл., 11, 101). Гл. *кароткі*.

**Каро́ткі,** укр. *короткий,* рус. *короткий,* чэш. *krátký,* славац. *krátky*, в.-луж. *krótki,* палаб. *kort'ě (< kort ъkъ),* польск. *krótki,* балг. *кратък,* макед. *краток,* серб.-харв. *кра́так,* славен. *krátek*. Этымалогія слова даволі празрыстая. Прасл. *kortъkъ* атрымаў сваю рэгулярную суфіксацыю *-ъkъ* з прасл. *kortъ* (*й*-аснова). Назоўнік *kortъ* у значэнні 'раз' захаваўся ў паўд.-слав. і зах.-слав. мовах. Усх.-слав. мовы запазычылі старасла-вянскія формы *крат, кратны* (гл.), *кратнасць* (гл.). Прасл. *kortъ* непасрэдна суадносіцца з прасл. *čьrtǫ, čersti* 'праводзіць баразну', літ. *kir̃sti, kertù* 'рубіць', лат. *cìrst* 'тс', ст.-інд. *kártati* 'рэжа' (Трубачоў, Эт. сл., 11, 102; 4, 75—76). Такім чынам, *kortъ* меў значэнне 'адрэзаны кавалак, канец'. Гэта не значыць, што тут мы маем справу з праславянскай інавацыяй (*čersti > kortъ > kortъkъ* 'кароткі'). Сапраўды, у балт. мовах не існуе надзейнай паралелі да *kortъkъ*. Літ. *kartùs* 'горкі', якое з'яўляецца фармальна тоесным прасл. *kortъ,* мае іншую семантыку (параўн. Хэмп, RS XXX, 1, 43). Але насуперак Трубачову, Эт. сл., 11, 103, нельга адмаўляцца ад параўнання прасл. *kortъkъ* і лац. *curtus* 'кароткі'. Семантычная тоеснасць, якой не хапае фармальна тоеснаму літ. *kartùs,* тут відавочная, а фармальныя разыходжанні мінімальныя (лац. *curtus* павінна адпавядаць не прасл. *kortъ,*

а *kъrtъ*). Улічваючы тое, што паняцце 'кароткі' ў балт. мовах перадаецца лексемай іншага паходжання (літ. *trum̃pas* 'кароткі', *trùpùtis* 'крошка', *trupẽti* 'крышыцца'), магчымым з'яўляецца другаснае пранікненне італ. *kartus* (блізкага да лац. *curtus*) у прасл.

**Каро́тчык** 'жаночая вопратка з сукна, шыецца кароткай, крыху ніжэй пояса' (Бяльк., Мат. Маг.). Сама дэфініцыя змяшчае этымалагічнае тлумачэнне (гл. *кароткі*). Суфікс *-чык* характэрны для ўсх.-слав. моў.

**Каро́ўка** 'грыб: малачай, млечнік, ваўнянка' (Жыв. сл.). Іншая назва таго ж грыба ўказвае на матывацыю назвы. Увогуле грыбы сямейства Russulaceae (сыраежкавыя) выдзяляюць млечны сок і таму называюцца кароўкамі, малачаямі, млечнікамі (гл. Лек. раст., 44—45).

**Каро́ўка-баго́ўка,** *каро́ўка-муго́ўка, каро́ўка-мудро́ўка.* Розныя назвы божай кароўкі. Асноўная матывацыя выкарыстання лексемы *кароўка* для назвы насякомага — яго рабое надкрылле. Божай яна называецца, бо не належыць чалавеку, як звычайная карова. Параўн. рус. *дивий мед = божий мед* (Тапароў, Этнолингв. балто-слав. контакты, 1978, 136; Мартынаў, Язык., 49—50).

**Каро́ўкі** 'аер' (Нар. сл.). Да *карова* (гл.), матывацыя няясная.

**Карп** 'рыба Cyprinus carpio', укр. *карп,* рус. *карп,* чэш. *karp,* славац. *kapor,* польск. *karp,* в.-луж. *karpa,* палаб. *karp*. Разглядаецца як запазычанне са ст.-в.-ням. *karpo* (Параўн. Бернекер, 575). Але ў славянскіх мовах існуе назва карпа з метатэзай плаўных: укр. *короп,* рус. *короп,* балг. *карп,* серб.-харв. *кра̑п,* славен. *kràp,* што робіць нямецкае паходжанне назвы больш праблематычным. У кожным разе нельга выключыць магчымасць славянскага паходжання нямецкай лексемы. Цікавым фактам з'яўляецца існаванне ст.-інд. *śapharaḥ* 'від карпа', якое сведчыць аб палатальным *к* на пачатку слова. Ст.-грэч. *κυπρῖνος* 'карп' гаворыць аб вандроўным характары лексемы. Непасрэдную крыніцу славянскіх форм вызначыць цяжка (Фасмер, 2, 334; Каламіец, 109—111).

**Карпані́на** 'марудная, нерацыянальная і малапрадукцыйная работа' (ТСБМ). Гл. *карпаць.*

**Карпа́нне** — сінонім да папярэдняга (Гарэц.). Гл. *карпаць.*

**Карпано́сы** 'кірпаносы, кірпаты' (Нас.). Гл. *кірпаносы.*

**Карпатлі́вы.** Гл. *карпаць.*

**Карпа́ты**₁ 'узняты, задзёрты нос' (КЭС, лаг.). Гл. *кірпаты.*

**Карпа́ты**₂ 'буграваты, з нягладкай паверхняй' (Сцяшк.), 'з нягладкай паверхняй (аб бульбе, напрыклад)' (Сл. паўн.-зах., Сцяшк. МГ), укр. *коропатий,* серб.-харв. *кра̏пе* 'няроўнасці' даюць магчымасць рэканструяваць прасл. *korpa* 'бугор, няроўнасць', што адпавядае літ. *kárpa* 'бародаўка', лат. *karpa* 'бародаўка, мазоль'; такім чынам, лексема яшчэ балта-славянская.

**Карпа́ць**₁ 'калупаць, павольна рабіць што-небудзь' (Нас., Янк. 111, Мал., Гарэц., Др.-Падб.). Гл. *корпаць.*

**Карпа́ць**₂ 'укараціць што-небудзь' (Др.-Падб.). Гл. *кірпаты.*

**Карпа́ч** 'шчаўе прыбярэжнае, Rumex hydrolaptum Huds'. Да *карпаць*₂ (гл.). Параўн. назву тупалістага шчаўя — *карнач* (гл.).

**Карпа́чка** 'драўляны плужок для акучвання бульбы' (Выг.), да *карпаць*₁ (гл.).

**Карпашы́ць** 'пяршыць' (Нар. словатв.). Мабыць, кантамінацыя *карпаць*₁ і *пяршыць.*

**Карпе́ль** 'марудны чалавек' (Нар. словатв.). Да *карпаць*₁. Словаўтварэнне на *-ель.* (Nomen agentis).

**Карпе́ць** 'трывожыць, хваляваць' (З нар. сл.), 'цярпець невыгоды, нястачы' (КЭС, лаг.). Да *карпаць*₁. Семантычна няясна.

**Карпу́ха** 'марудная жанчына' (Нар. словатв.). Да *корпаць.* Словаўтварэнне на *-уха* (дэвербальныя Nomina agentis — SP, 1. 75).

**Ка́рта**₁ ў картачнай гульні. Гл. карта₃.

**Ка́рта**₂ 'геаграфічная карта'. Гл. карта₃.

**Ка́рта**₃ 'дакумент, пасведчанне' (КЭС, лаг.), 'ліст, запіска, паштоўка' (Нас., Шат., Шн., Гарэц., Др.-Падб., Булг., Мал., Шпіл., Сержп.). Старое запазычанне (1539) з польск. *karta,* якое з італ. *carta* < лац. *charta* 'папера' < ст.-грэч. χάρτης (Булыка, Запазыч., 142; Фасмер, 2, 203).

**Картава́ць** 'тасаваць карты' (ТСБМ, Сцяшк., Янк. III, Гарэц., Янк. 1), да *карта*₁.

**Картаве́шка** 'зняважлівае слова на чалавека з невыразнай гаворкай' (КЭС, лаг.), гл. *картавы.* Суфіксальнае ўтварэнне пры дапамозе пеяратыўнага фарманта *-ешка.*

**Карта́вы** 'чалавек з невыразнай гаворкай' (КЭС, лаг.), рус. *картавый*. Калі рэканструяваць гэты прыметнік як *kъrtavъ* (Фасмер, 2, 203), то беларускую і рускую лексемы трэба разглядаць як запазычанне з польскай мовы, але польская крыніца не засведчана. Балг. *кръте́ние* 'віск' з усходнеславянскімі лексемамі звязвае толькі яе гукапераймальны характар. Далейшае этымалагізаванне зусім ненадзейнае (гл. Фасмер, 2, 203; Слаўскі, 2, 72).

**Карта́віць** 'гаварыць картава', да *карта́вы*.

**Картагра́ч** 'карцёжнік' (Некр.). Штучна створанае складанае слова з другой асновай *-грач* ад дзеяслова *граць (іграць)*.

**Карта́к** 'мужчына без рук' (Жд. 3). Калі да *kъrtakъ* (запазычанне з польскай мовы), тады сюды ж польск. *karcić* 'біць, караць', балг. *къртя* 'вырываю, аддзяляю', серб.-харв. *кр̀тити* 'мучыць, ламаць, крышыць' (прасл. *kъrtiti*). Апафанічны варыянт *kortъ* (гл. *кароткі*). Бел. *картак* зыходзіць да **kъrtakъ* з суфіксам *-akъ,* які рэгулярна дае вытворныя са значэннем дэвербіяльных Nomina agentis (SP, 1, 90).

**Карталу́шка** 'афіша, абвестка' (КЭС, лаг.), да *карта*. Словаўтварэнне няяснае.

**Картапленё** 'бульбоўнік' (Сцяшк., Янк. Мат.). Да *картопля* (гл.). Суфіксальны фармант *-eno* (SP, 1, 128).

**Картапле́нне** 'націна бульбы' (Янк. Мат.). Да *картопля* (гл.). Словаўтварэнне пабудавана на складанай суфіксацыі *-пьје (-ьје),* якая прывяла да ўзнікнення ад прыметнікаў зборных назоўнікаў.

**Картопллі́ска** 'бульбянішча' (Жыв. сл.). Пры дапамозе суфікса *-isko* Nomina loci ствараюцца на польскім моўным арэале (адпаведна беларускаму і ўсходнеславянскаму *-išče*). Таму гэту лексему трэба лічыць паланізмам. Параўн. *карта-плішча* (гл.).

**Картаплі́шча** 'поле, дзе расла бульба' (Сцяшк., Яшк.). У адрозненне ад папярэдняга ўтворана на беларускім моўным грунце.

**Картапля́нік**1 'бульбоўнік' (Шат., Янк. Мат.), да *картопля*.

**Картапля́нік**2 'блін з цёртай бульбы' (гл. *картопля*) (Шат., Вешт. Нар. словатв.).

**Карта́ць** 'картавіць' (Янк. II). Алеграформа ад *картавіць* (гл.).

**Карта́чка** 'фатаграфічны здымак', да *карта*3 (гл.).

**Карто́пель** 'бульба' (Жыв. сл., Выг.), да *картофель,* якое з польск. *kartofel* < ням. *Kartoffel* < іт. *tartufolo* 'труфель', потым 'бульба', названая так дзякуючы падабенству да труфеля (Слаўскі, 2, 89).

**Карто́плі** 'бульба' (Сержп. Грам.; Арх. ГУ), Pluralia tantum у функцыі зборнага назоўніка.

**Карто́пля** 'бульба' (Нас., Шат., Жыв. сл., Сцяшк., Выг., Янк. II, Шн., Бяльк.). Гл. *картопель.*

**Карто́пнік** 'бульбоўнік' утворана ад *картоплянік* (гл.).

**Карто́пчына** 'бульбіна' (Жыв. сл.). Суфікс *-ina* ў функцыі Nomina singulativa.

**Картафленё** 'бульбоўнік' (Сцяшк.). Гл. *картапленё.*

**Картафля́нік** 'бульбоўнік' (Сцяшк., Жыв. сл.). Гл. *картаплянік*$_1$.

**Карто́фля** 'бульба' (Грыг., Сцяшк.). Гл. *картопля.*

**Карто́фляшкі** 'бульбяныя піражкі з макам' (Шпіл.), да *картофель* (гл. *картопель*).

**Карто́хлі** 'картоплі' (Жыв. сл.), да *картофлі* са спарадычным пераходам *ф* > *х.*

**Карто́шка** 'бульба' з дэмінутыўным складаным суфіксам *-ошка.* Гл. *картопель, картопля.*

**Карту́з** 'шапка з казырком'. З н.-ням. *kartûse* ( < франц. *cartouche* < італ. *cartoccio*), нямецкае слова значыла таксама 'папяровы мяшочак з табакай'. Параўн. наступнае.

**Карту́зная таба́ка**. Назва курыльнай табакі вышэйшага сорту. Яе прадавалі ў папяровых мяшочках (Нік. Очерки). Гл. папярэдняе слова.

**Карту́ль** 'чалавек малога росту' (Жд. 3). Слова, у якім захавалася прасл. *kortъ* у значэнні 'кароткі' (гл. *кароткі*). Суфікс *-ulь* утварае назоўнікі ад якасных прыметнікаў (SP, 1, 110).

**Карту́на,** *карту́н* 'баваўняная тканіна, паркаль' (ТСБМ). Запазычанне з польск. *kartun* 'паркаль', якое з прус.-ням. *kartun* з неарганічным *r* (адсюль таксама літ. *kartūnas* (Фрэнкель, 225; Булыка, Запазыч., 142).

**Картуно́вы** 'з картуну' (Федар. VII). Гл. *картуна.*

**Картэ́ўнік** 'карцёжнік' (Гарэц., Др.-Падб.), да *картаваць* (гл.).

**Каршачóк** ’каршун’ (Сержп. Грам.). Трэба адзначыць, што *каршачок* — дэмінутыўная форма ад *коршак* (гл.).

**Карýза** ’асоба, што без прычыны чапляецца, каб распачаць зваду’ (КЭС, лаг.), ’задзіра’ (Бяльк.), ’задзірысты, неадчэпны чалавек’ (Янк. I, Янк. Мат.), ’задзіра, забіяка’ (Янк. Мат.). Ад *каруза* паходзіць *карузлы* (гл.), шэраг значэнняў якога, як і значэнні рускіх паралелей (параўн. рус. *скорузлик* ’заморак, заморaная жывёла, чалавек’), даюць магчымасць параўнаць яго са славен. *koruze* ’кляча, дрэнны, благі конь’ (Куркіна, Этимология, 1970, 95). Але паходжанне суфікса *-иза* застаецца праблематычным. Значэнне ’задзіра’ ў лексеме *каруза,* такім чынам, спалучаецца са значэннем ’няраслы, чахлы, заняпалы’.

**Карузіцца** ’шукаць прычыны для звады ці бойкі’ (КЭС, лаг.). Гл. *каруза.*

**Карýзла** ’карава, заскарузла’ (Гарэц.). Гл. *карузлы.*

**Карýзленькі** ’невысокі, недарослы’ (Нар. словатв.). Гл. *карузлы*$_1$.

**Карýзлівы** ’чалавек, ахвочы чапляцца хоць да каго, каб пачаць зваду ці бойку’ (КЭС, лаг.; Янк.). Гл. *каруза.*

**Карýзлік**$_1$ ’невялікага росту, слабы чалавек’ (Касп., Бяльк.), ’недаростак’ (Нар. сл.), ’каравы, мізэрны’ (Гарэц.). Гл. *карузлы*$_1$. Дэмінутыўны суфікс *-ік* падкрэслівае пеяратыўнае значэнне.

**Карýзлік**$_2$ ’неахайны, брудны’. Гл. *карузлы*$_2$.

**Карýзлы**$_1$ ’няраслы, чахлы’ (ТСБМ), ’закарэлы, схуднелы’ (гл. *каруза*). Значэнні ’няраслы, чахлы, схуднелы’ пацвярджаюць правільнасць суаднясення бел. *каруза* са славен. *koruze* ’кляча’ (Трубачоў, Эт. сл., 11, 106).

**Карузлы**$_2$ ’загрубелы, заскарузлы’ (ТСБМ). Параўн. макед. *коруза* ’струп’ (Трубачоў, Эт. сл., 11, 106).

**Карýнкі** ’карункі’ (Нас., Шат., Касп.). Гл. *каронкі.*

**Карх**$_1$ ’карак’ (Сл. паўн.-зах.), гл. *карак, карк.* Экспрэсіўнае *к* > *х.*

**Карх**$_2$ ’пра кашлянне’ (Нар. лекс.). Гл. *кархаць*$_1$.

**Кархавіна** ’спіна’ (Сл. паўн.-зах.), да *каркавіна, карк, карак* (гл.).

**Кáрхаць**$_1$ ’кашляць’ (Нас., Бяльк., Др.-Падб., Грыг.), ’харкаць’ (Гарэц.). Кантамінацыя *харкаць* і *кашляць.*

**Ка́рхаць**$_2$ 'біць у патыліцу' (Нас.), да *карх*$_1$ (гл.).

**Ка́рхаць** 'каркаць злавеснай птушкай' (Нік. Напоў.), да *каркаць* з экспрэсіўнай зменай $к > х$ (параўн. *карх*$_2$).

**Карха́вінне** 'макрота, якая выдзяляецца пры кашлі' (Нас., Гарэц., Др.-Падб., Шатал.), да *кархаць*$_1$ (гл.), не зусім ясна агаласоўка рэгулярнага суфікса.

**Кархаві́нне** 'жабіна ікра' (Сл. паўн.-зах.), пераносна да папярэдняга. Кантамінацыя з *кракавінне* (гл.).

**Кархе́лік** 'чалавек, што часта кашляе, кархае' (Бяльк.), да *карха́ць*$_1$ (гл.) з падвойнай рэгулярнай суфіксацыяй: *карх-ел-ік*.

**Кархі** 'пра нездаровае кашлянне' (Нар. лекс.). Гл. *карх*$_1$.

**Карцёж** 'азартная і зацяжная гульня ў карты' (ТСБМ), да *карта*$_1$ (гл.) і *картавацъ* (гл.).

**Карце́нне** 'непакой, трывога, турбота' (Юрч.), да *карцець* (гл.).

**Карце́ць** 'карцець, хацецца' (Нас., Касп., Бяльк. Шат.,), 'трывожыць, непакоіць' (Сцяшк., Сцяшк. МГ., Юрч., Янк. 1), 'згараць ад нецярплівасці штосьці зрабіць' (Гарэц.), укр. *кортить кого* 'карціць зрабіць што-небудзь, падмывае зрабіць што-небудзь', рус. *кортеть* 'карцець, адчуваць боль'. Апошняе значэнне можа быць крытэрыем для рэканструкцыі семантыкі праславянскага слова. Да яго добра пасуе серб.-харв. *кр̀тити* 'мучыць', параўн. семантыку ў выразе тыпу «пакутлівае жаданне» або «знемагаць, чакаючы што-небудзь». Балтыйскія паралелі да прасл. *kъrtiti* (параўн. яшчэ балг. *къртя* 'ламаць, біць', рус.-ц.-слав. *чрьсти* 'рубіць'): літ. *kir̃sti* 'рубіць', лат. *cìrst* (Слаўскі, 2, 71—72). Гл. таксама *кароткі*.

**Карце́ч** праз польск. *kartecza, kartacz* з ням. *Kartätsche* < < італ. *cartoccio* 'папяровы пыж' (Слаўскі, 2, 88).

**Карці́ць** 'турбуе, трывожыць, непакоіць' (Гарэц., Бір., Янк. III, дзярж.). Гл. *карцець*.

**Карці́на**$_1$ 'карціна'. Запазычанне з італ. *cartina* 'сорт паперы' (пач. XVII ст.). Параўн. прыклад з Александрыі (Булыка, Запазыч., 142).

**Карці́на**$_2$ 'іграnumbers карта' (Нар. словатв., Гарэц.). Наваўтварэнне ад *карта* (гл.).

**Карці́нка** 'малюнак' (Бяльк.). Запазычанне з рус. мовы.

**Карцо́ўка** 'дэталь ў коле воднага млына' (Кліх), запазы-

чана з польск. *korcówka* 'тс' (да *korcić* 'трывожыць, непакоіць').

**Ка́рча** 'сухаваты корч, калода' (Шн.). Гл. *корч.*

**Карчава́ць,** укр. *корчувати,* рус. *корчевать,* чэш. *krčovati,* славац. *krčovat', krčiti,* польск. *karczować,* серб.-харв. *кр́чити,* славен. *kŕčiti.* Дзеяслоў дэнамінатыўнага паходжання, ад *корч* (гл.). Прасл. *kъrčiti, kъrčovati* < *kъrčь* (Слаўскі, 2, 75). Ад *kъrčь* спачатку ўтварыліся прэфіксальныя дэрываты тыпу *iz-kъrčiti,* а потым як другасныя дзеяслоўныя формы без прэфіксаў (Ваян, RES, XXII, 39).

**Карча́га**1 'пень, вывернуты з карэннем, корч' (ТСБМ), да *корч* з прадуктыўным ва ўсходнеславянскіх мовах суфіксам *-ага* (SP, 1, 64).

**Карча́га**2 'амфара, гляк' (ТСБМ) 'плецены сасуд з саломы, які мае форму караткашыйнага графіна' (Касп., Нік. Очерки), укр. *корчага* 'сасуд з вузкім горлам', рус. *корчага,* ст.-рус. *кърчага,* ст.-слав. **кърчагъ,** чэш. *křčah,* балг. *кърчаг,* серб.-харв. *кр̀чаг.* Прасл. *kъrčaga* можна тлумачыць як вытворную ад *kъrkъ* 'шыя' і суфікса *(j)aga-* 'сасуд, які мае горла' (параўн. назву сасуда *гарлач*) (Трубачоў, ЭИРЯ, 2, 1962, 39). Гэта версія мае яўныя перавагі перад версіяй аб цюркскім паходжанні слова (тур. *korčak* 'кішка, мех, бурдзюк') (Фасмер, 2, 341).

**Карча́к**1. Гл. *корч.*

**Карча́к**2 'дужы, каржакаваты чалавек' (Жыв. сл.), да *корч.* Метафарычны перанос значэння.

**Карчако́п** 'работнік, які капае карчы' (КЭС, лаг.). Этымалогія гэтага складанага слова празрыстая, да *корч* (гл.) і *капа́ць* (гл.).

**Карчане́ць** 'моцна азябшы, траціць адчуванне' (ТСБМ, Чорны) («зрабіцца як корч, як пень»), параўн. *дубець* у тым жа значэнні. Гл. *корч.*

**Карчаўё** (пагардліва) 'старыя' (Нар. сл.), Nomen collectivum з суфіксам *-овьје* і рэгулярным націскам на апошнім складзе, да *корч* (гл.).

**Карчачо́к** 'пянёк' (Кліх). Характэрны дэрыват дэмінутыўнага суфікса *-ок ( < ъкъ) -ечок.* Гл. *корч.*

**Карча́шка** 'каравая ануча' (Янк. Мат.). Відаць, да *карчажка,* якое ад *карчага* (?) у значэнні 'нешта зморшчанае'.

**Карчава́ха** 'месца, дзе выкарчаваны лес, кусты пад сена-

жаць ці поле’ (Яшк.), да *карчаваць* з экспрэсіўным суфіксам *-аха.*

**Карчма́** ’піцейны дом, шынок, заезны дом’, укр. *корчма (корчми робити* ’праводзіць пацехі, гульні з музыкай’), рус. *корчма,* чэш. *krčma,* славац. *krčma,* в.-луж. *korčma,* польск. *karczma,* рус.-ц.-слав. *кърчма* ’карчма’, ’моцны напітак’, ’сасуд для віна’, серб.-харв. *кр̀чма* ’карчма, пачастунак, частаванне’, славен. *kȓčma,* балг. *кръчма* ’частаванне, пачастунак’, прасл. *kъrčьma.* У гэтай лексемы відавочна выдзяляецца суфікс *-ьma.* Суфікс мала прадуктыўны, найбольш надзейны прыклад *vědьma,* якое, аднак, да Nomāna agentis, чаго нельга сказаць пра *kъrčma.* Ва ўсякім разе іншы падзел на марфемы наўрад ці магчымы. Каранёвая марфема *kъrč-* прадстаўлена, як здаецца, у серб.-харв. *кр̀чити* ’частаваць або прадаваць алкагольныя напіткі’. Апошні прыклад вельмі няпэўны (адзіная фіксацыя ў песні). Да таго ж гэты дзеяслоў вядомы і шырока распаўсюджаны ў іншым значэнні (прасл. *kъrčiti* ’карчаваць’), таму, калі ісці ад чыстай формы, мы атрымліваем досыць нечаканы рэзультат: *kъrčiti* ’карчаваць’+*-ьma*=*kъrčьma* ’выкарчаванае месца’. Семантычна гэта амаль што немагчыма вытлумачыць. Найбольш верагоднай версіяй з’яўляецца ўзвядзенне *kъrčьma* да *kъrkati* ’прагна есці, жэрці’ (параўн. серб.-харв. *кр́кати* і балг. *къркам* у гэтым значэнні). Іншыя версіі зусім неверагодныя (Агляд версій у Слаўскага, 2, 73—74).

**Карчо́к** ’маленькая карчага, пянёк’ (Гарэц., Сл. паўн.-зах., Др.-Падб.). Гл. *корч, карчага.* Рэгулярны дэмінутыў.

**Карчо́м** ’нязрушна’ *(карчом сядзець)* (Некр.), да *корч* (гл.).

**Карчо́мка** ’маленькая карчма’. Гл. *карчма.*

**Карчо́мнае** ’месца, дзе стаяла карчма’ (Яшк.). Гл. *карчма.* Субстантываваны прыметнік сярэдняга роду.

**Карчо́ўе** ’месца, дзе багата пнёў і карэнняў’ (Яшк.). Зборны назоўнік, вытворны ад *корч* (гл.), з тыповым суфіксам *-ovьje.*

**Карчу́к** ’невялікі корч’ (ТСБМ, Шат.). Характэрная дэмінутыўная суфіксацыя на *-ук* (як *плячук* і г. д.).

**Карчу́шка** ’недагарэлае палена дроў’ (Жыв. сл.), да *корч* з дэмінутыўным суфіксам *-ушка.*

**Карчы́** ’кусты, хмызняк, зараснік’ (Жыв. сл.) у значэнні Nomina collectiva.

**Ка́рчык** 'гестка' (Нар. сл.). Няяснага паходжання.

**Карчы́сты** 'кусцісты' (Янк. III), да *корч* (гл.).

**Карша́к** 'каршун' (ТСБМ, Маш., БДА, Нік. Арх., Бяльк., Касп.). Гл. *коршак*.

**Каршо́чак** 'кулачок' (Нас. Бел. песни), да *корх* (гл.).

**Каршу́н**₁, укр. *коршун*, рус. *коршун*. Генетычна суадносіцца з бел. *каршак* 'каршун', *коршак* 'ястраб'. У індаеўрапейскіх паралелях, якія звычайна прыводзяцца, найбольш пераканаўчыя ст.-інд. *kársati* 'цягне, валочыць, рве', ст.-іран. *karš-* 'цягнуць'. Тады слова *каршун* пры рэгулярнай у славянскіх мовах суфіксацыі для вытворных Nomina agentis чляніцца на марфемы *kъrš* і *-unъ*. Як мы бачым, у індаеўрапейскіх прыкладах іншая ступень аблаўту, але гэта яшчэ не азначае, што прыведзеныя лексемы не знаходзяцца ў генетычных суадносінах. Калі ўсё ж такі прызнаць генетычную суаднесенасць прасл. *kъrš-* і ст.-іран. *karš-*, то *kъrš-unъ* можна тлумачыць як 'той, хто цягне і рве' (параўн. *věd-unъ* 'той, хто ведае'). Але перш чым рабіць такі вывад, трэба ўлічыць характэрную распаўсюджанасць лексемы (толькі ўсходнеславянскія мовы, славацкую паралель можна тлумачыць як пранікненне з усходу: *kršak* < *коршак*). Лінгвагеаграфія сведчыць хутчэй на карысць іранскага паходжання.

**Каршу́н**₂ 'частка калаўрота ў выглядзе двузубай вілкі з жалезнымі зубамі, на якую надзяюць шпульку' (Шатал.). Метафарычны перанос назвы птушкі на прыладу. Гл. *каршун*₁.

**Каршу́н**₃ 'гульня ў каршуна'. Адзін з удзельнікаў («перадавы») стаіць, астатнія бяруцца за яго. Каршун іх ловіць, а перадавы яму не дазваляе, абараняе сваіх дзетак (Нар. словатв.). Гл. *каршун*₁.

**Каршуне́ц** 'коршак' (Маш.). Гл. *каршун*₁. Тыповая дэмінутыўная суфіксацыя.

**Каршэ́ль** 'карак' (Нар. лекс.) у выразе *даць у каршэль* 'даць па шыі' (Нар. сл., Янк. Мат.), 'карак, задняя частка шыі' (Сцяшк., Сцяшк. МГ), 'шыя і плечы ля шыі' (КЭС, лаг.). Словаўтваральны варыянт да *каршэнь* (гл.). Аб суфіксацыі *-elь* гл. SP, I, 108; *-enь-* SP, I, 125.

**Каршэ́нь** 'каршэнь, карак', 'удар у патыліцу' (Нас., Касп., Шат., Бяльк., Гарэц., Янк. БП, Мат. АС), *«мужык ... выпіхнуў папа ў каршэнь за дзверы»* (Шн.), 'шыя, карак' (Янк. III, Нар. сл., Шатал., Нас.). Утворана, як і *каршэль*, ад *карх* (гл.) 'карак'.

**Ка́ры**$_1$ 'воз, вялікія калёсы для перавозкі грузаў' (ТСБМ, Касп., Сл. паўн.-зах., Шатал., КЭС, лаг; Сцяшк., Некр., Сцяшк. МГ, Кліх, З нар. сл.), 'кароткія сані для перавозкі бярвенняў' (ТСБМ, Янк. Мат., Нар. сл., Жыв. сл., Бяльк., Шатал., КЭС, лаг.). Відавочна, з лацінскай крыніцы (лац. *carro* 'воз'), але час і напрамак запазычання няясны. Форма Pluralia tantum, магчыма, па аналогіі з *калёсы* (гл.). Тады *кары* як назва калёсаў першасная.

**Ка́ры**$_2$ 'чорны, цёмны (аб вачах)', як і ўкр. *карий,* рус. *карий* 'тс', запазычанне з тур. *kara* 'чорны, цёмны' (Бернекер, 488, Слаўскі, 2, 91).

**Кары́на** 'кавалак, абломак дрэвавай кары' (ТСМБ), да *кара* (гл.). Апошняе ўспрымаецца як зборнае, таму пры абазначэнні кары выкарыстоўваецца суфікс *-іна* ў функцыі сінгулятыўнага.

**Кары́сць,** укр. *користь,* рус. *корысть,* чэш. *kořist* 'здабыча, трафеі', польск. *korzyść* 'карысць', серб.-харв. *кѐрист, славен. korîst* 'здабыча'. Зыходнае значэнне 'здабыча' (Фасмер, 2, 343). Тады прасл. *koristь* ад *koriti* ў значэнні 'пакараць' (чэш. *kořiti,* в.-луж. *korić,* рус. *корить* і інш.) (Міклашыч, 130), гл. *карыць.* Аднак гэта версія не мае тлумачэння з пункту гледжання словаўтварэння. Мы не ведаем суфікса *-stь,* з дапамогай якога б фарміраваліся назоўнікі ад дзеясловаў. Вельмі праблематычная версія аб *koristati* < *ko-ristati* (*ristati* 'гнацца') (Варбот, Этимология, 1970, 65—70). Іншыя этымалогіі яшчэ менш надзейныя. Агляд версій гл. Трубачоў, Эт. сл., 11, 71—73.

**Кары́та** 'карыта, начоўкі, човен' (ТСБМ, Сл. паўн.-зах.), 'збітыя вуглом дзве дошкі, якія прыбіваюцца на версе гонтачнай страхі' (Сцяшк., Шатал.), 'шуфляда ў ручным млыне, куды падае мука' (Шатал.), укр. *корито* 'тс', рус. *корыто* 'тс', чэш. *koryto* 'карыта, кармушка', славац. *koryto* 'тс', н.-луж. *kóryto* 'тс', польск. *koryto* 'тс', балг. *корито* 'тс', макед. *корито* 'тс', серб.-харв. *кѐрито* 'тс', славен. *koríto* 'тс'. Трэба адзначыць, што паралельна амаль усе славянскія дыялекты ведаюць яшчэ адно значэнне для прасл. *koryto* 'жолаб, роў, рэчышча'. Менавіта апошняе значэнне навяло даследчыкаў на думку пра сувязь прасл. *kŏryto* з дзеясловам *ryti.* Тады *ko*-прэфікс, як у *kadъlbъ* (ад *dъlbti* 'дзяўбці'), (гл. Трубачоў. Ремесл. терм., 169). Гэта этымалогія (Міклашыч, 133) здаецца надзейнай (што датычыць прэфіксальнай і каранёвай частак слова). Значна менш надзейнае чляненне *kor-yto.* Словаўтварэнне як *kop-yto,* але калі *kop-yto* да *капа́ць,* то адпаведнага

зыходнага дзеяслова для *karyto* мы не знаходзім, а паходжанне ад *kora* вельмі праблематычнае, параўн., аднак, *карыць*1. Суаднесенасць са ст.-прус. *pracartis* 'карыта' і літ. *prākartas* 'кармушка' базіруецца на семантычнай тоеснасці, але фанетычныя разыходжанні растлумачыць цяжка (гл. агляд версій у Трубачова, Эт. сл., 11, 122—125). Фасмер (2, 343) прытрымліваецца другой этымалагічнай версіі Міклашыча і ўзмацняе яе паралеллю Шпэхта: лат. *karaûte, karuôte* 'лыжка' з тоеснасцю суфіксаў *(ūt=yt)*.

**Кары́ца** 'высушаная пахучая кара з галінак карычных дрэў' (ТСБМ). Да *кара* (гл.) з прадуктыўнай дэмінутыўнай суфіксацыяй на *-іца*.

**Кары́ціна** 'пакацістая ўпадзіна паміж двума ўзгоркамі' (Яшк., Нар. сл.), да *карыта* (гл.). Суфіксацыя на *-іна* ў функцыі сінгулятыўнасці.

**Кары́цца**1, *карытца* 'карыта' (Бяльк,), 'выемка, куды ўстаўляецца бёрда' (Жыв. сл.), да *карыта* (гл.). Суфікс сярэдняга роду *-ьсе,* які ўтварае дэмінутывы і гіпакарыстыкі (SP, I, 101).

**Кары́цца**2 'дэталь у калаўроце, пры дапамозе якой рэгулююць шнуры' (Нар. сл.). Гл. *карыцца*1.

**Кары́цца**3 'пакарацца, скарацца' (Кіркор, Ант.; Нас. Бел. песни, Сержп. Грам., Шн.), да *карыць* (гл.).

**Кары́ць**1 'ачышчаць дрэва ад кары' (Шат., Сцяшк., Сл. паўн.-зах., Янк. 3, КЭС., лаг.). Сувязь з лексемай *кара* (гл.) відавочная. Аднак цяжка вызначыць тып гэтай сувязі. Прасл. *koriti* мае другасныя значэнні і значэнне, зафіксаванае на ўсх.-слав. глебе (укр. *корити,* рус. *корить*), не мае адпаведных паралелей у іншых славянскіх мовах. Аднак калі прасл. *koriti* разглядаць як карэлят да *čьrtǫ črěsti* (?) 'рэзаць', то значэнне 'ачышчаць дрэва ад кары' можна разглядаць як першаснае, а *kora* як 'штосьці зрэзанае'.

**Кары́ць**2, укр. *корити,* рус. *корить,* чэш. *kořiti* 'пакараць', славац. *korit sa* 'пакарацца', в.-луж. *korić* 'пакараць', польск. *korzyć* 'карыць', балг. *коря* 'тс', макед. *кори* 'тс', серб.-харв. *ко̀рити* 'тс', славен. *koríti* 'тс': *koriti sę* 'спрачацца'. Найбольш верагодным з'яўляецца параўнанне з лац. *carināre* 'здзекавацца', ірл. *caire* 'вымова, знеслаўленне'. Параўн. з апошнімі ст.-слав. **корити** 'знеслаўляць', славац. *korit'sa* 'здзекавацца', рус. *коритись* 'тс'. Семанатычныя адрозненні двух радоў дзеясловаў вымушаюць нас дапусціць ідэю аб суіснаванні аманімічных дзеясловаў *koriti*1 і *koriti*2, якія, напрыклад, ва

ўсходнеславянскіх мовах поўнасцю зліліся. Тады, магчыма, рэфлексацыі *koriti*1 са значэннем 'пакараць'і адпаведна *koriti sę*1 'спрачацца' можна суаднесці з літ. *kāras* 'вайна', гот. *harjis* 'войска' (супраць Фрэнкель, 220 і Трубачоў, Эт. сл., 11, 76—77).

**Кары́чневы** 'буравата-жоўты, колеру жолуда або карыцы' (ТСБМ). Рус. *коричневый*. Тлумачэнне бел. слова з'яўляецца і яго этымалогіяй. Ад *карыца* (гл.) з суфіксамі *-ьн-, -ев-*.

**Карэ́бчык** 'скрынка' (Ант.), 'невялікі караб' (Мал.). Да *кораб*. Форма фанетычна блізкая да рэфлексаў у польскай мове (Параўн. польск. *torebka* 'маленькая торба', дзе *e* перадае другасны ъ).

**Карэ́жыцца** 'карабаціцца, ламацца' (Бяльк.). Гл. *каро-жыцца*.

**Карэ́за** 'сойка'. Гл. *кароза*2.

**Карэ́лка** 'мурза' (Касп., Жыв. сл.), да *карэлы* (гл.). Рэгулярнае, дэмінутыўнае ўтварэнне.

**Карэ́лы** 'пакрыты слоем засохлай гразі', *каравы* 'брудны', да *карэць* (гл.).

**Карэ́мза** 'плаксівае дзіця' (Нар. словатв.). Ці звязана з *рымза* 'тс'? Калі вакалізм можна вытлумачыць, то марфалогія застаецца незразумелай.

**Карэ́нішча,** да *корань* (гл.) з аугментатыўным суфіксам *ішча*.

**Карэ́нне,** да *корань* (гл.). Nomen collectivum на *-ьje*.

**Карэ́с** *«няма карэсу без інтарэсу»* (Федар. IV). З франц. *caresse* 'ласка'.

**Карэ́таць** 'гнаць марудлівага'. Да *карэта?* (гл.).

**Карэ́та** 'павозка, экіпаж'. Запазычанне праз польск. *kareta* з італ. *caretta* 'вазок' (ад *carro* 'воз' лац. *carrus* 'воз на чатырох колах'). Гл. Булыка, Запазыч., 141; Слаўскі, 2, 76.

**Карэ́ц**1 'коўш, кубак, конаўка', укр. *корець* 'мера сыпкіх цел; коўш, кубак', рус. *корец* 'коўш, тара з бяросты, мера зерня', ст.-чэш. *kořec* 'сасуд для сыпкіх цел', славац. *korec* 'мера зерня', ст.-польск. *korzec* 'тс', 'сто літраў', ст.-слав. **корьць** 'мера', балг. *корък* 'драўляная пасуда для збору вінаграду', серб.-харв. *кȍрац* 'кадачка'. Слова яўна старажытнае, узыходзіць да прасл. *korьcь*. Найбольш верагодная этымалогія, як здаецца, зводзіцца да паходжання ад *кара*. Але словаўтваральны бок выклікае сумненні (Бернекер, 580). Спасылка на *gъrnьcь* (Трубачоў, Эт. сл., 11, 129) не пераконвае

(*gъrnьcь* — Nomen deminutivum ад *gъrnъ,* якое само азначае ’сасуд’). Да таго ж існуюць і іншыя значэнні для *карэц,* якія не ўкладаюцца ў гэту схему (гл. *карэц*₂). Больш перакануўчым нам здаецца версія аб запазычанні і міграцыі гэтага тэрміна (Махэк₂, 277). Маецца на ўвазе ст.-грэч. *κόρος* ’мера’, лац. *corus* ’мера’, магчыма, вандроўны тэрмін. Напрамак запазычання ўдакладніць цяжка (Параўн. яшчэ Скок, 2, 150).

**Карэ́ц**₂ ’калодка з адтулінай у верхнім камяні жорнаў’ (Сл. паўн.-зах.), рус. *карец* ’тс’, ст.-рус. *корьць* ’млынавы коўш, скрынка над жорнамі’, адкуль сыплецца зерне’. Апошняе значэнне сведчыць аб сувязі па паходжанню з *карэц*₁ і таксама аб далёкай ад *кара́* (гл.) семантыцы. Агульнай семай для ўсіх значэнняў з’яўляецца ’мера’.

**Карэ́ц**₃ ’ручка касы’ (БДА). Няясна.

**Карэ́ць** ’чарсцвець, станавіцца закарузлым ад гразі, цвярдзець’. Да *кара́* (гл.) (=пакрывацца *карой*).

**Каса́**₁ ’каса ў жанчын’, *косы* ’валасы’(З нар. сл.), укр. *коса* ’каса’, *коси* ’валасы’, рус. *коса* ’каса’, *косы* ’валасы’, ст.-чэш. *kosa* ’валасы на галаве’, палаб. *t’ösa* ’каса’, ст.-польск. *kosa* ’каса’, балг. *коса* ’валасы на галаве’, мак. *коса* ’валасы’, серб.-харв. *ко̀са* ’валасы’, *ко̏се* ’косы’, славен. *kosa* ’каса’. Прасл. *kosa* ’валасы на галаве’ генетычна суадносіцца з *česati* ’часаць, прычэсваць’ як розныя ступені аблаўту. Але прасл. *kosa* рэгулярна адпавядае літ. *kasà* ’каса’, лат. *kasa.* Балтыйскія паралелі сведчаць аб тым, што значэнне ’каса ў жанчын’ з’яўляецца найбольш старажытным. Гэта адпавядае значэнню славянскага дзеяслова *česati* (Трубачоў, Эт. сл., 11, 132). Іншыя індаеўрапейскія паралелі да прасл. *kosa:* ст.-в.-ням. *haro* (сучас. *Haar* ’валасы’) < прагерм. *hazwa* ’часанне’, ірл. *cass* ’кудзер’ і інш. Нельга разглядаць літ. *kasà* і лат. *kasa* як запазычанні з славянскіх моў толькі на падставе таго, што ў балтыйскіх мовах адсутнічаюць паралелі да прасл. *česati* і, значыць, няма фармальнай і семантычнай пары тыпу *česati-kosa* (наяўнасць балтыйскай пары літ. *rankà riñkti* ’рука — збіраць’ не з’яўляецца аргументам на карысць балтыйскага паходжання прасл. *ręka,* якая таксама не мае пары). Адносна карэляцыі *kosa* — *volsъ* ’волас’ гл. Мартынаў, Язык, 51.

**Каса́**₂ ’прылада для кашэння’, укр. *коса,* рус. *коса,* чэш. *kosa,* славац. *kosa,* в.-луж. *kosa,* польск. *kosa,* балг. *коса,* макед. *коса,* серб.-харв. *ко̀са.* Бліжэйшая паралель да прасл. *kosa* — ст.-інд. *śásati* ’рэжа’. У сувязі з гэтай паралеллю ўзнікае пытанне аб нерэгулярнасці пачатковага зычнага ў славян-

скай лексеме. Тлумачэнне *к* у прасл. *kosa* (павінна было быць **sosa*) дысіміляцыяй нельга разглядаць як доказ, паколькі такой заканамернасці не існуе, хоць спарадычна такія замены магчымы. Намі зроблена спроба растлумачыць *kosa* ў рамках агульнай тэорыі акамадацыі (Мартынаў, Слав. акком., 159). Шэраг даследчыкаў разглядае прасл. *kosa* 'прылада для кашэння' як метафарычны перанос ад *kosa* 'каса ў жанчын', лічачы такім чынам *каса*$_1$ і *каса*$_2$ адной лексемай з двума значэннямі (Брукнер, 259; Якабсон, Word, XI, 4, 1955, 611).

**Каса́**$_3$ 'селязёнка' (Шат., Касп.). Названа так па сваёй форме, гл. *косы*. Уліваючы абмежаваны арэал распаўсюджання слова, не выключана балтыйскае яго паходжанне (Параўн. Сакалоўская БЛ, 16, 1979, 3—4).

**Каса́**$_4$ 'прамень' (Шат., Яруш., Шатал.). Чыста метафарычны перанос ад *каса*$_1$. Параўн. Шатал., 76: *«косы сонейка папаускала аж да самэй землі»*.

**Касава́ты** Гл. *косы*.

**Касава́ць** 'выкрэсліваць, закрэсліваць', 'адмяняць, ліквідаваць', 'пераглядаць у касацыйным парадку', 'рабіць непрыкметным, адсоўваць на задні план' (ТСБМ). Ст.-бел. *касовати* 'адмяняць (1554)' з польск. *kasować* (Булыка, Запазыч., 142) < лац. *cassum reddere* (Фасмер, 2, 207).

**Касаве́ц** 'касавокі' (Шатал.). Нерэгулярнае ўтварэнне ад неіснуючага *касавы*, якое ўзнікла на аснове *касавокі*.

**Касаві́ла** 'кассё' (Касп.). Нерэгулярна да *касіць, каса* (гл.). Параўн. *матавіла* і інш. Скл. суфікс *-ov-idlo*.

**Касаві́льна** 'кассё' (Касп.), да *касавіла* (гл.) з дабаўленнем суфікса *-ьno* (SP, I, 136—137).

**Касаві́ца** 'час касьбы', 'касьба' укр. *косовиця*, рус. *косовица*, польск. *kosowica* 'касьба'. Цікавы абмежаваны арэал распаўсюджання гэтага слова. Застаецца не зусім зразумелай семантычная неабходнасць складанага суфікса *-ov-ica* (гл. Трубачоў, Эт. сл., 11, 152, без тлумачэнняў). Зрэшты таксама і ў назвах 'кася' (параўн. папярэднія словы).

**Касаво́кі** 'асоба з косым вокам'. Тыповы складаны прыметнік з другой часткай *-вокі*.

**Касаву́рыць** 'глядзець коса, убок, касіць вочы' (Нас.). Слова, безумоўна, складанае. Яго першая частка ўзыходзіць да *косы* (гл.). Але другая частка застаецца няяснай (магчыма, кантамінаванай).

**Касаго́р** 'узвышша са спускам з аднаго боку', укр. *косогір,* рус. *косо́гор,* ст.-рус. *косогоръ*. Усходнеславянская інавацыя. Складанае слова, якое ўзыходзіць да *косы* (гл.) і *гара* (гл.).

**Касаго́рына** 'калі дарога ці шнур зямлі мае косы схіл' (КЭС, лаг.). Да папярэдняга з выкарыстаннем сінгулятыўнага суфікса *-іnа*.

**Каса́р** 'касец' (Сл. паўн.-зах.), укр. *косарь,* рус. *косарь,* чэш. *kosař* 'каваль, які куе косы', в.-луж. *kosař* 'тс', польск. *kosiarz* ' касец', балг. *косар* 'тс', серб.-харв. *ко́сар* 'каваль, які куе косы', славен. *kosár* 'тс'. Да *каса* з суфіксам *-arь.*

**Касары́** 'сузор'е (тры побач зоркі)' (Нар. лекс.), 'сузор'е Плеяд, стажары' (Сл. паўн.-зах.), укр. *косарі* 'сузор'е Арыёна', рус. *косари* 'адно з сузор'яў Млечнага шляху', польск. *kosarze* 'сузор'е Арыёна', да *касар* (гл.).

**Каса́сты** 'касасты, з доўгай касою', да *каса* (гл.).

**Каса́тка**1 'вясковая ластаўка', рус. *касатка* да *каса*1, паколькі ў ластаўкі раздвоены хвост, які нагадвае *касіцы* (Бернекер, 581; Фасмер, 2, 206).

**Каса́тка**2 'чалавек добрай душы', рус. *касатик,* да *касатка*1.

**Каса́ты** 'калі ў каня доўгая грыва', 'дрэва, калі галіны абвісаюць на дол' (КЭС, лаг.), да *каса*1 (гл.).

**Касаўё** 'кассё' (ТСБМ, Касп., Шатал., Нар. лекс.). Утворана ад *каса*2: *кас-аў-ё (*kos-ov-ьje).*

**Каса́цік** 'касач' (Бяльк.). Гл. *касач*1.

**Каса́цца** 'дакранацца' (Шат.). Відаць, запазычана з рус. *касаться.*

**Каса́ч**1 'касач, Iris pseudacorus'. Ад *касаты* (гл.) пры дапамозе суфікса *-jь*; *kasat-jь* > *kasačь.*

**Каса́ч**2 'цецярук-самец' (ТСБМ). Гл. папярэдняе.

**Каса́ч**3 'заяц' (Касп.), да *косы* 'касавокі' (гл.).

**Касе́та** 'касета' (ТСБМ). Рус. *кассе́та,* укр. *касе́та.* Запазычанне, мабыць, праз рус. *кассе́та,* з еўрапейскіх моў. Крыніцай для рус. слова з'яўляецца, як можна меркаваць, англ. *cassette* 'касета', 'шкатулка' < франц. *cassette* < італ. *cassetta.* Гэта апошняе з'яўляецца памяншальнай формай ад *cassa* 'скрынка, скрыня'. Паводле Шанскага, 2, К, 85, упершыню слова *кассета* фіксуецца ў рус. мове ў канцы XIX ст. Яно шырока вядома і ў іншых еўрапейскіх мовах. Параўн.

укр. *касе́та,* польск. *kaseta,* чэш. *kaseta,* славац. *kazeta,* балг. *касетка,* серб.-харв. *касета,* славен. *kaséta.*

**Касе́ц** 'касец' (ТСБМ, БРС, Сцяшк., Бяльк.). Рус. *косе́ц* 'тс', укр. дыял. *косі́ць* 'тс', чэш. дыял. *kosec* 'касец', 'жнец', славац. *kosec* (такая ж форма сустракаецца ў дыялектах славац. мовы), польск. дыял. *kosiec.* Параўн. далей серб.-харв. *ко̀сац* 'касец, жнец', славен. *kósec* 'касец'. Прасл. форма **kosьcь* 'касец', 'жнец'; утворана ад прасл. дзеяслова **kositi* 'касіць, жаць' пры дапамозе суф. **-ьcь,* які ўтвараў у прасл. мове nomina agentis. Фармацыі гэтага тыпу, як можна бачыць з агляду матэрыялу ў Трубачова, Эт. сл., 11, 181, адсутнічаюць у некаторых слав. мовах (у прыватнасці, балг., в.-луж.), што яшчэ раз сведчыць аб дыялектным характары прасл. мовы.

**Касёра** 'качарга' (Сл. паўн.-зах.). Зыходзячы з геаграфіі слова (Гродзеншчына), можна меркаваць аб сувязі (запазычанне) з польск. *kosior* 'тс' (таксама *kosiór;* аб польскім слове гл. падрабязна ў Слаўскага, 2, 522—523; параўн. яшчэ Брукнер, 259). Аднак Трубачоў (Эт. сл., 11, 137—138) адносіць бел. слова да ліку праславянскіх з зыходнай формай **kosera* (да **kosa, *kositi*); няпэўна.

**Касіе́р** 'касір' (Сцяшк., Сл. паўн.-зах.). Параўн. укр. дыял. *ка́сієр,* польск. (Ліндэ) *kassyer,* польск. *kasjer,* балг. *касиер.* У гэтай форме слова з'яўляецца запазычаннем з італ. мовы. Параўн. італ. *cassiere* 'касір' (вытворнае ад італ. *cassa* 'каса'). Пры гэтым варта адзначыць, што, відавочна, у якасці крыніцы выступае італ. *cassier* — форма, магчымая для некаторых італ. дыялектаў, дакладней для паўночных, дзе часта адпадаюць галосныя ў канцы слоў. Калі гэта так, то мы маем магчымасць удакладніць крыніцу запазычання з пункту гледжання лінгвагеаграфіі і тым самым часткова праясніць роль паўночных італ. гаворак у фарміраванні еўрапейскай лексікі.

**Касі́р** 'касір' (ТСБМ). Рус. *касси́р,* укр. *каси́р.* Бел. і ўкр. лексемы, здаецца, запазычаны з рус. мовы. У рус. мове гэта слова было запазычана з ням. у Пятроўскую эпоху. Гл. Фасмер, 2, 207; Шанскі, 2, К, 86. Зыходнай ням. формай было спачатку *Kassierer,* адкуль узята рус. *касирер* (у паперах Пятра I). Сучасная форма *касси́р* упершыню ў рус. мове фіксуецца ў Слоўніку Нордстэта 1780 г. (Шанскі, там жа). Усё ж такі не вельмі ясным, у высвятленні Шанскага, застаецца пытанне аб узаемадзеянні форм ням. і італ. паходжання. Паводле Шанскага атрымліваецца, што ням. *Kassier* ( < італ. *cassiere*) не адлюстроўваецца ў старых рус. паперах.

**Касі́ць**1 'касіць (касой)' (БРС, Шат., Бяльк., Сцяшк., Сл. паўн.-зах.). Дзеяслоў прасл. паходжання. Параўн. бел. *касі́ць* 'касіць касой' (таксама і ў дыялектах), рус. *коси́ть,* ст.-рус. *косити,* укр. *коси́ти,* ст.-польск. *kosić,* польск. *kosić* (таксама і ў дыялектах), ст.-чэш. *kositi* 'касіць касой', чэш. *kositi* 'тс', славац. *kositi,* балг. *кося́* 'касіць (касой)', макед. *коси,* серб.-харв. *ко̀сити,* славен. *kosíti* і г. д. Прасл. **kositi* 'касіць, зрэзваць; галіць і да т. п.' Дзеяслоў **kositi* з'яўляецца вытворным ад назоўніка **kosa* 'каса; від зброі; серп; сякера', 'баявая сякера' і да т. п. Звычайна прыводзяцца роднасныя формы: ст.-інд. *śásati* 'рэжа', *śastrám* 'нож', лац. *castrāre* 'адрэзваць' і г. д. Гл. Фасмер, 2, 345; Трубачоў, Эт. сл., 11, 133—135, 142.

**Касі́ць**2 'разграбаць зямлю; скрэбці' (Сл. паўн.-зах., 2): *«Курыца косіць зямлю. Куры косяць ячмень. І вераб'і косяць зямлю».* Паводле Сл. паўн.-зах., 2, 431, магчымае запазычанне з літ. мовы. Як крыніца прыводзіцца літ. *kàsti* 'тс'. Не выключаецца, што такая этымалогія можа мець месца. Але тут не вельмі падыходзіць з фармальнага боку прапануемая крыніца запазычання — літ. дзеяслоў *kàsti,* хоць па семантыцы ён добра адпавядае бел. лексеме. Таму можна меркаваць аб іншай крыніцы запазычання, дакладней, аб іншай форме гэтага літ. дзеяслова. Параўн. літ. *kasýti* 'драпаць, скрэбці' (параўн. Фрэнкель, 1, 226).

**Ка́ска** 'каска' (ТСБМ, БРС). Рус. *ка́ска,* укр. *ка́ска.* Лічыцца запазычаннем з франц. мовы. Параўн. франц. *casque* 'тс' (а гэта ўзята з ісп. *casca*). Гл. Фасмер, 2, 206. У рус. мове гэта слова з'явілася ў XVII ст. (параўн. Шанскі, 2, К, 83—84). Ісп. *casca (casco)* паходзіць ад *casco* 'чэрап, чарапок, галава' (звязана з дзеясловам *cascar* 'разбіваць' і далей з народным лац. **quassicāre* 'тс'; параўн. лац. *quassō* 'разбіваю', таксама *guatiō*). У франц. мове была таксама вытворная форма *casquette* 'шапка з казырком' (адсюль з часоў Пятра І, праз польск. мову, запазычаны *кашке́т* і *каске́т;* апошняе з франц.).

**Касма́ты** 'касматы' (ТСБМ, БРС, Касп., Сл. паўн.-зах.). Параўн. у іншых слав. мовах: рус. *косма́тый,* ст.-рус. *косматыи,* укр. *космаці́й* 'тс'; ст.-чэш. *kostmatý,* славац. *kostmatý,* в.-луж. *kosmaty,* н.-луж. *kósmaty,* ст.-польск. *kosmaty,* польск. *kosmaty,* ц.-слав. **косматъ,** балг. *косма́т,* макед. *космат,* серб.-харв. *ко̀смат, ко̏смат,* славен. *kosmàt.* Прасл. **kosmatъ(jь)* з'яўляецца вытворным пры дапамозе суф. *-atъ* ад прасл. **kosma/*kosmъ.* Паводле Трубачова, там жа, можна гаварыць у даным выпадку аб тым, што слав. слова працягвае і.-е. дыял. *kosmātos.* Цікава, што слав. **kosmatъ* вельмі нагадвае лац. *comātus* 'валасаты, доўгавалосы'.

**Касме́тыка** 'касметыка' (ТСБМ, БРС). Рус. *космéтика,* укр. *космéтика.* Лічыцца запазычаннем з франц. мовы ў канцы XVIII ст. У рус. мове гэта слова ўпершыню згадваецца ў слоўніку 1803 г. Гл. Шанскі, 2, К, 346. Франц. *cosmétique,* якое было базай для рус. назвы, запазычана з грэч. мовы **(κοσμητικός),** дакладней, з κοσμητική **(τέχνη)** 'мастацтва упрыгожвання'. Гл. яшчэ Фасмер, 2, 346. Таксама з франц. мовы, відаць, запазычаны і прыметнік рус. *косметúческий* (першакрыніца грэч. **κοσμητικός,** якi потым зрабіўся базай для бел. і ўкр. утварэнняў).

**Касмы́ль** 'пасма' (Касп., БРС); 'касматы чалавек' (Сл. паўн.-зах., 2). Параўн. рус. дыял. *космы́ль* 'доўгія раскудлачаныя валасы', 'нячэсаная галава'. Вытворнае (суфіксам *-ylь*) ад прасл. **kosmъ,* **kosma* 'волас, валасы', 'колер шэрсці жывёлы', 'шэрсць' і г. д. Здаецца, тып **kostylь* з'яўляецца славянскім дыялектным утварэннем (бел.-рус. гаворкі) позняга часу (у Трубачова, Эт. сл., 11, 145—147, у іншых мовах не адзначаецца).

**Касні́к** 'істужка'; 'тасёмка'; 'шнурок, сплецены з нітак, якім карысталіся пры красанні агню', 'наогул вузкія палоскі чаго-н., шматы' (Сл. паўн.-зах.), 'істужка' (Сцяшк. МГ). Параўн. прыклад у Сцяшк.: *«У дзяўчынкі прыгожы каснік у касе».* Не цяжка схіліцца да думкі, што гэта слав. слова **kosьnikъ* (да **kosa* 'валасы', **kosьnikъ* 'істужка для кос'). Але сітуацыя тут зусім іншая. Бел. *каснíк* запазычана з літ. мовы (гл. Сл. паўн.-зах., 2, 433): параўн. літ. *kasnỹkas* 'тс'. Гэта вытворнае на літ. глебе ад літ. *kasà* 'каса, валоссе' (падрабязна гл. у Фрэнкеля, 1, 226) па мадэлях літ. словаўтварэння.

**Касны́** 'сараматны', 'дрэнны', 'худы' (Касп.: *«Твая карова дужа касная»).* Слова, якое мае адпаведныя паралелі, як здаецца, толькі ў рус. мове. Параўн. рус. дыял. *кáстный, кастнóй* 'паскудны, гадкі, брыдкі, нячысты'. Паводле Трубачова, Эт. сл., 9, 158, гэта лексема ўзыходзіць да прасл. (дыял.) **kastь,* якое мае вельмі разгалінаваную семантыку. Параўн. яшчэ ў рус. гаворках *касть* 'патрава хлебная', 'свавольства, паскудства', 'кал', 'пацук або мыш', 'дрэнь, гадасць, брыдота' і г. д. Паводле Трубачова, там жа, 157, магчыма, даўняе вытворнае з падаўжэннем галоснага $o \rightarrow \bar{o}$ ( $> a$) ад слова **kostь* 'косць'. Як семантычную паралель Трубачоў прыводзіць іншае вытворнае ад слова **kostь* — **koščunъ,* семантыка якога эвалюцыяніравала ад 'касцявы' да 'тленны, нячысты'.

**Ка́ста**1 'каста' (ТСБМ). Рус. *кáста,* укр. *кáста.* Паводле

Фасмера, 2, 207, запазычанне з зах.-еўрап. моў. Праз мовы-пасрэднікі, ням. *(Kaste)* або франц. *(caste)*, слова ўзята з парт. *casta* 'парода; паходжанне', першапачаткова 'чыстая парода'. У аснове ляжыць лац. *castus* 'чысты'. Шанскі (2, К, 86) удакладняе, што ў рус. мове (якая, дарэчы, можа быць пасрэднікам для бел.) *ка́ста* з'явілася ў канцы XVIII ст. Упершыню фіксуецца ў рус. слоўніку Яноўскага 1803 г. са значэннем 'грамадская групоўка ў Індыі', агульнае значэнне ўстанаўліваецца з 1847 г. (яно фіксуецца ў Слоўніку АН; гл. Шанскі, там жа).

**Ка́ста**$_2$ 'яслі, драбіны' (Сл. паўн.-зах.). Слова ўжываецца таксама ў мн. ліку (напр., *сена кладуць у касты*). Паводле Сл. паўн.-зах., 2, 433, запазычанне непасрэдна з літ. *kãstė* 'тс', якое, у сваю чаргу, было ўзята з ням. *Kasten* 'тс'. Можна пагадзіцца з прапанаванай этымалогіяй ( < ням.) у агульных рысах. Ням. форма *Kasten* не зусім дакладна адпавядае літ. *kãstė*. Таму, як можна меркаваць, непасрэднай крыніцай для літ. слова было іншае ням. слова. Маецца на ўвазе не сучасная ням. мова, а нейкія формы с.-ням. паходжання. Такія сапраўды ёсць (параўн. *kaste* 'тс'; форма гэта сустракаецца і ў сучасных ням. дыялектах). З ням. крыніцы ўзята і лат. *kaste*. Гл. Клюге, 356.

**Кастамя́жына** 'старая жывёліна' (Шат.). Зыходнай можна лічыць форму (без суфіксальнай часткі) *кастамяга* 'тс'. Экспрэсіўнае па паходжанню слова. Можна меркаваць, што тут мы маем справу са складаным словам (зыходнае **kosto-męga* < **kosto-męga*, да **kostь* 'косць' і **męk-* 'мяккі'; першапачаткова 'старая жывёліна са старымі, мяккімі ўжо касцямі'). З другога боку, ёсць такія ўтварэнні, як, напрыклад, рус. *костомы́га* 'пакінуты ў полі касцяк' (Даль), дзе першая частка слова тая ж, што ў *кастамяжыне;* некалькі розныя, але, відаць, роднасныя другія часткі — *-мяга* і *-мыга*. Няясна. Няма ў Трубачова, Эт. сл.

**Каструбава́ты** 'шурпаты', 'шорсткі' (ТСБМ, БРС). Параўн. рус. *коструба́тый* 'шурпаты', 'лахматы'. Параўн. і ў іншых слав. мовах: укр. *ко́струб* 'неахайны', *коструба́тий,* чэш. *kostrba* 'узлахмачаная галава', *kostrbatý* 'каравы, шурпаты', польск. *kostrubaty* і г. д., Фасмер, 2, 349. Поўны агляд слав. форм гл. у Трубачова, Эт. сл., 11, 163, які выстаўляе праформы **ko-strъba,* **kostroma*. Паводле Фасмера, 2, 349, звязана з рус. *косте́рь* і роднаснымі; Трубачоў выстаўляе зыходнае **kostra* 'шкілет, касцяк', 'кастрыца, адзеравянелая частка сцябла льну'. Слова **kostra* роднаснае, паводле Трубачова, 159, сла-

вянскаму **kosterь*. У аснове гэтых утварэнняў ляжыць слова **kostь* (гл.). Параўн. яшчэ *кастры́ва* 'крапіва', *кастры́ца* (гл.). Гл. таксама агляд Слаўскага, 2, 531—532.

**Кастру́ля** 'каструля' (ТСБМ, БРС, Сл. паўн.-зах.). Параўн. рус. *кастрю́ля* (дыял. *кастру́ля),* укр. кастру́ля (у Фасмера, 2, 208: укр. *костру́ля*). Запазычанне з еўрапейскіх моў. Паводле Фасмера, там жа, відавочна, узята з ням. мовы *(Kastrol, Kasserolle)*. Першакрыніцай з'яўляецца франц. *casserolle* 'каструля'(Фасмер сумняваецца, што першакрыніцай можа быць гал. *kastrol* або н.-ням. *kastroll*). Шанскі (2, К, 88) усё ж мяркуе, што хутчэй за ўсё крыніцай рус. слова з'яўляецца гал. мова (у Пятроўскую эпоху гэта слова было ў марской лексіцы); ням. крыніца здаецца менш верагоднай.

**Кастры́ва** 'крапіва' (Касп.). Дакладная адпаведнасць (фармальная і па семантыцы) гэтай лексеме ў рус. дыял. *кострйва* 'крапіва' (цвяр.). Паводле Трубачова, Эт. сл., 11, 161, слова **kostriva* мае прасл. характар (параўн. яшчэ палаб. рэканструяваную форму **kostriva* 'пустазелле'); адносна праформы слова мяркуецца, што яна з'яўляецца вытворным ад слова **kostra* (шмат значэнняў; зыходным з'яўляецца **kostь* з яго разгалінаванай семантыкай; гл. Трубачоў, Эт. сл., 11, 168—173. Звяртае на сябе ўвагу, што форма **kostriva* з яе значэннем 'крапіва' сустракаецца толькі ў некаторых месцах славянскай тэрыторыі, што можа сведчыць аб даўніх сувязях праславянскіх дыялектаў.

**Кастры́ца** 'кастрыца' (Касп., БРС, Шат., Сцяшк. МГ); вядома таксама ў значэнні 'ігліца', 'асцюкі' (Сл. паўн.-зах., 2). Параўн. рус. дыял. *кострица* 'кастрыца', 'ягады розных раслін (напр., касцянікі камяністай)', 'дробная салома', *кострика, костры́ка* 'кастрыца', 'салома', укр. *костри́ця* 'кастрыца', *кістри́ця.* Параўноўваюць далей серб.-харв. *ко̀стрица* 'дробная рыбіна костачка', польск. дыял. *kostrzyca* 'кастрыца' і г. д. Прасл. форма **kostrica,* **kostrika*. Гл. Трубачоў, Эт. сл., 11, 162. Лічыцца вытворным (з суфіксамі *-ica, -ika*) ад прасл. **kostra,* якое мае шырокі спектр значэнняў ('рыба з цвёрдай луской', 'ускудлачаная курыца', 'шкілет, касцяк', 'кастрыца' і г. д.; агляд значэнняў у Трубачова, Эт. сл., 11, 158—159). Слав. **kostra* — утварэнне суфіксам *-r(a)* ад **kostь*. Бернекер, 1, 583—584; Трубачоў, Эт. сл., 11, 159.

**Кастры́чнік** 'кастрычнік' (назва месяца). Гісторыя гэтага слова цесна звязана з іншай назвай 10-га месяца ва ўсходніх славян — *паздерник,* у бел. крыніцах таксама *паздзерник.*

Апошнія назвы з'яўляюцца запазычаннем з польск. *październik*. Польскае слова, таксама серб.-харв. дыял. *паздерник* 'тс', відавочна, з'яўляюцца вытворнымі ад *pazderьje* 'адходы ільну, які апрацоўваецца восенню' (прэфікс **paz-* і дзеяслоў **dьrati *derǫ*). Уплывы польскай мовы на бел. і ўкр. былі значнымі і праяўляліся не толькі ў прамым запазычанні, а і ў калькаванні. Такой калькай можна лічыць бел. *кастрычнік* ( < *кастрыца* 'кастрыца'; слав. **kostrica*), які калькуе паланізм *паздзернік.* Гл. Шаур В. К вопросу о реконструкции праславянских названий месяцев.— Этимология 1971., М., 1973, с. 97—98.

**Касты́ль** 'палка з загнутай ручкай' (Бяльк.), *кастылец, касты́ль* 'тс', 'крук' (Сл. паўн.-зах., 2). Рус. *косты́ль* 'кастыль', 'вялікі драўляны цвік', 'цвік з загнутым верхнім канцом замест шляпкі', дыял. *ко́стыль* 'палачка для пляцення лапцей', укр. дыял. *кости́ль* 'частка вялікай падоўжанай пілы' *косту́ль* 'палка, посах'. У іншых слав. мовах вядома толькі славен. *kostílja* 'дрэва Celtis australis', 'пугаўё (з гэтага дрэва)'. Гл. агляд Трубачова, Эт. сл., 11, 167. Лічыцца вытворным ад прасл. **kostь* 'косць і да т. п.' (аб іншых значэннях гл. у Трубачова, Эт. сл.) суфіксам **-ylь*. Гл. яшчэ Бернекер, 1, 582; Праабражэнскі, 1, 368; Фасмер, 2, 349; Трубачоў, там жа.

**Кастэля́нка** 'кастэлянка' (БРС). Параўн. рус. *кастеля́нша* 'тс'. У ст.-бел. мове ўжо было засведчана гэта слова. Гл. Булыка, Запазыч., 144 (*каштелянка;* вытворнае ад *каштелянъ, кашталянъ, кастелянъ* 'камендант замка'). Параўн. яшчэ рус. (старое) *кастеля́н* 'наглядчык замка або грамадскага будынка' . Першакрыніцай запазычання з'яўляецца італ. *castellano* 'камендант, наглядчык замка' (а гэта з лац. *castellānus,* утварэнне ад *castellum* 'замак'). Як і бел. *кастэля́нка (каштелянка),* але пры дапамозе іншага суфікса, узнікла рус. *кастеля́нша* (словаўтварэнне яго не бясспрэчнае; параўн. Шанскі, 2, К, 86). Гл. яшчэ Слаўскі, 2, 98.

**Кастэ́т** 'кастэт' (ТСБМ, БРС). Відавочна, непасрэднае запазычанне з рус. мовы. Параўн. рус. *касте́т* 'тс'. У рус. мову лексема трапіла ў сярэдзіне XIX ст. Крыніцай рус. *касте́т* з'яўляецца франц. *casse-tête* 'паліца, кастэт', 'галаваломка' (ад дзеяслова *casser* 'разбіваць' і *tête* 'галава').

**Ка́сцерка** 'мяшок' (Касп.). Тлумачэнне знаходзім у Даля: «*Костерь* ж. или *косте́ря, костра́, костри́ка, котри́ца, кострыга, косты́га, кости́ка, костица* ж. Правильнее *кастеря, кастрика* «жесткая кора растений, годных для пряжи льна, конопли». Можна меркаваць, што ка́сцерка 'мяшок' — гэта ўтварэнне

суфіксам *-к(а)* ад. бел. *кастра́* 'кастрыца', дзе суфікс выступае ў ролі ўтвараючага nomina attributiva і дзе нібы «аднаўляецца» ніколі тут не існаваўшы «ь». Гл. аб слове прасл. **kostra* ў Трубачова, Эт. сл., 11, 158—160 (тут і аб складанасці рэканструкцыі). Першапачатковая семантыка слова — *ка́сцерка* «мяшок з канапель або льну — раслін, што даюць шмат *кастры*» (або «мяшок, зроблены з ільну або канапель, у якіх захавалася шмат *кастры*»).

**Касцёл** 'касцёл, каталіцкая царква' (ТСБМ, БРС, Сл. паўн.-зах. і г. д.). Рус. *костёл,* укр. *костьо́л.* У ст.-бел. мове засведчана з XVII ст. у формах *костелъ, косцелъ.* Непасрэднай крыніцай запазычання бел. слова было польск. *kościół* 'тс'. У польск. мове гэта слова ўзята, відаць, са ст.-чэш. *kostel,* якое, у сваю чаргу, запазычана са ст.-в.-ням. *kastel* < лац. *castellum.* Недакладна ў Булыкі, Запазыч., 173, дзе польск. лексема выводзіцца непасрэдна са ст.-в.-ням. На тэрыторыі ўсх. славян даная назва адзначаецца ўжо ў 1438 г. (гл. Фасмер, 2, 347). Гл. яшчэ Кюнэ, Poln., 67. Трэба спецыяльна падкрэсліць, што значэнне 'царква' развілося ў зах. групе слав. моў і гэта трэба мець на ўвазе гісторыкам слав. моў.

**Касцёр** 'каласоўнік, Bromus secallinus L.' (Байк. і Некр.); 'града ці стажок складзеных дроў'; 'грудок чаго-н., вельмі многа'; 'раскладзены агонь на полі, у лесе'; 'вогнішча' (Сл. паўн.-зах.). Рус. *костёр* 'касцёр, агонь'; 'купа дроў і да т. п.', 'вялікая ўкладка снапоў у полі', 'кастрыца' і г. д., укр. *косте́р* 'сажань дроў', славен. *kóster* 'вогнішча; купа дроў' і г. д. Праформа **kostrъ,* генетычна звязана з прасл. **kostra* 'кастрыца; шкілет, касцяк; вострыя костачкі рыбы; шэрсць казы; хвошч палявы' і г. д. Да этымалогіі гл. досыць складаны агляд Трубачова, Эт. сл., 11, 158—160, 163—164. Гл. яшчэ тлумачэнне Фасмера, 2, 347—348.

**Касці́ць** 'смяціць на падлогу' (Касп.), *ка́сьціць* 'псаваць без патрэбы' (З нар. сл., 125), *ка́сьціцца* 'мучыцца, перабівацца' (Нар. сл., 114). Параўн. ст.-рус. *кастити* 'вывяргаць', рус. *кашу́* 'спаражняюся' (дыял.), *касти́ть* 'лаяць, пэцкаць, брудзіць', 'лаяць, знеслаўляць, ганьбіць', 'смяціць'. У Дабр. *касти́ть* 'псаваць'. Прасл. **kastiti (sę).* Лічыцца дзеясловам, утвораным ад назоўніка **kastь.* Апошні засведчаны толькі ў рус. гаворках і з'яўляецца прасл. дыялектызмам. Адносна яго паходжання можна выказаць толькі здагадку: магчыма, гэта вытворнае, з падаўжэннем каранёвага галоснага $o \rightarrow \bar{o}$ (> *a*), ад слова **kostь* («касцявы» → «тленны, нячысты»). Параўн. Фасмер, 2, 208; падрабязна Трубачоў, Эт. сл., 9, 156—157.

**Касцы́** 'пояс Арыёна' (Касп., Сцяшк. МГ, Сл. паўн.-зах.). Параўн. для абазначэння сузор'я Арыёна польск. дыял. *kosarze, kosiarze, kośniki, kośce,* рус. дыял. *косари́,* укр. дыял. *косарі́,* славац. дыял. *kosci,* рус. дыял. *косцы́,* серб.-харв. *kȍsci,* славен. *kosci* (Слаўскі, 2, 521). Для абазначэння сузор'я Арыёна ў польск. мове ўжываюцца таксама назвы: *Kosa* (часцей у мн. ліку *Kosy*), *Skosy.* У ст.-чэш. мове было *Kosa, Kosy* (сёння дыял.), таксама ў славац. і г. д. Дакладны агляд у Слаўскага, там жа, 516—517. Падрабязна ў Махэка$_2$, 280, які ўказвае на заблытаны характар назвы ў чэш. мове, якая адносілася да розных сузор'яў і іх частак.

**Касцю́лька** 'вус аржанога або ячнага коласа' (Касп.), 'асцюк' (Сл. паўн.-зах.), 'асцюлька, асцюк' (Бяльк.). Параўн. у рус. мове (у Даля, пад *костéрь*) *костюлька.* Фармальна ўтварэнне ад **kostь* 'косць' суфіксам *-'ulьka* ( < *-ul(ь)+(ь)ка*) з функцыяй памяншальнасці. Трэба звярнуць увагу на значэнні прасл. слова **kostь,* што прыводзяцца ў Трубачова, Эт. сл., 11, 168. Сярод асноўнай семантыкі ('косць і да т. п.') у двух выпадках сустракаюцца іншыя значэнні: польск. *kość* 'льняная кастрыца' і рус. *кость* 'тс' (пск.). Такая семантыка вельмі добра падыходзіць для тлумачэння слова *касцюлька.*

**Касцю́м** 'касцюм' (ТСБМ, БРС). Гэта слова сустракаецца і ў гаворках, куды яно патрапіла з літаратурнай мовы (параўн., напр., *касцю́м, кусцю́м* 'тс' у Сл. паўн.-зах., 2, 435). Непасрэднай крыніцай запазычання для бел. літаратурнага *касцюм* трэба лічыць рус. *костю́м* 'тс'. У рус. мову гэта слова трапіла, відаць, у канцы XVIII ст. прама з франц. *costume* (якое, акрамя 'касцюм', мела таксама значэнне 'звычай, звычка'). Крыніцай франц. слова з'яўляеццаітал. *costume* 'касцюм', 'звычка' (і, далей, лац. *consuetudo* 'звычка, звычай'). Як культурнае слова гэта лексема вядома ў многіх еўрапейскіх мовах. Гл. коратка ў Фасмера, 2, 349; падрабязна ў Шанскага, 2, К, 355. Параўн. яшчэ Слаўскі, 2, 529—530.

**Касцярня́** 'месца, дзе сабраны людскія косці' (Нас.). Пад праформай **kosterь* Трубачоў (Эт. сл., 11, 154) разглядае формы з розных слав. моў: балг. дыял. *ко́стер* 'крывы вінаградарскі нож', макед. *ко́штерица* 'від змяі', серб.-харв. *кȍстер* 'від асятра', польск. дыял. *kościer* 'пустазелле Bromus secalinus', ст.-рус. *костеръ* 'грубае тоўстае сцябло некаторых раслін', рус. *костерь* 'пустазелле'. У лік бел. форм трапіла вытворнае і зафіксаванае толькі ў Нас. *косцерня́* (аб яго значэнні гл. вышэй). Такім чынам, можна меркаваць (відавочна, услед за Трубачовым), што гэта бел. слова з'яўляецца вельмі каштоў-

ным рэліктам, хоць і ў вытворнай форме старога прасл. *kosterь. Параўн. яшчэ Фасмер, 2, 347—348.

**Касы́** 'косы'. Агульнае значэнне ў гэтага прасл. слова 'косы, крывы і да т. п.'. Прасл. *kosъ: параўн. рус. *косо́й,* укр. *ко́сий,* бел. *касы́, ко́сы,* польск. *kosy,* чэш. *kosý,* славац. *kosý,* серб.-харв. *кȍс* і г. д. Прасл. *kosъ 'косы, крывы' таго ж кораня, што і ў слове *kosa 'прылада для касьбы і да т. п.: параўн. бел. *каса́,* рус. *коса́,* укр. *коса́,* польск. *kosa,* чэш. *kosa,* серб.-харв. *кòса,* славен. *kósa,* в.-луж., н.-луж. *kosa* і г. д. (< прасл. *kosa). Паводле Трубачова, Эт. сл., 11, 177—179 (асабліва 179), складаная праблематыка гісторыі прыметніка *kosъ можа быць высветлена, калі прыняць самастойнае развіццё і ўтварэнне прыметніка *kosъ ад дзеяслоўнага кораня *kes-, які ляжыць у аснове *česati. Гл. яшчэ Слаўскі, 2, 535; Шанскі, 2, К, 351—352.

**Касы́нка,** 'касынка, хустачка' (ТСБМ, БРС, Сцяшк.). Слова, вядомае толькі ва ўсх.-слав. мовах. Акрамя бел. мовы, гэта лексема ёсць у рус. і ўкр. Параўн. рус. *косы́нка* 'хустачка трохвугольнай формы на галаву, на шыю' (зафіксавана ўжо ў Ганчарова, Ляскова і іншых пісьменнікаў). Укр. *коси́нка,* якое прыводзіць Шанскі без указання крыніц, можа быць русізмам. Паводле Бернекера, 1, 585, звязана з прыметнікам *kosъ 'косы'. Шанскі (2, К, 356) удакладняе, што *касы́нка* — гэта непасрэднае вытворнае ад іменніка рус. *косыня* 'касынка, хустачка', якое яшчэ сустракаецца ў дыялектах і з'яўляецца дэрыватам ад прыметніка *косой* суфіксам *-ын-я.* Гл. яшчэ Трубачоў, Эт. сл., 11, 179—180.

**Кат** 'кат' (ТСБМ, БРС, Касп., Шат. і інш.). Параўн. рус. *кат* 'тс', укр. *кат.* У бел. мове лексема зафіксавана ў помніках XVI ст. (гл. Булыка, Запазыч., 143). Слова вядома ў іншых славянскіх мовах. Параўн. яшчэ польск. *kat,* чэш. *kat* 'тс'. Паводле Фасмера, 2, 208 (з некаторымі сумненнямі), слова запазычана праз польск. мову з ням. дыял. (бавар.) *kat(e),* ням. *Gatte* 'падручны ката'. Не пераконваюць некаторыя старыя этымалагічныя версіі, якія прапанавалі раней (напр., тлумачэнне слова як вытворнага ад дзеяслова тыпу рус. *ка́яться*). Гісторыя лексемы патрабуе далейшых этымалагічных даследаванняў. Гл. яшчэ Кюнэ, Poln, 63, які з польск. *katować* выводзіць бел. *катава́ць.* Гл. таксама агляд у Шанскага, 2, К, 88.

**Катава́сія** 'катавасія, беспарадак, шум, гоман і да т. п.' (ТСБМ, БРС). Рус. *катава́сия,* укр. *катава́сія,* балг. *катавасия,* серб.-харв. *катавасија.* Спачатку гэта слова мела значэнне

'царкоўны спеў, што выконваўся абодвума клірасамі, якія сходзіліся на сярэдзіне царквы'. Потым, пераносна, яго пачалі ўжываць для абазначэння шуму, гоману і да т. п. Звычайна лічыцца запазычаннем са с.-грэч. καταβάσιον 'hymnus ecclesiasticus'. Так у Фасмера, 1, 209; Праабражэнскага, 1, 301 і інш. Шанскі (2, К, 89) удакладняе, што для слова *катавáсія* з яго семантыкай трэба ўлічваць і грэч. форму καταβασία 'сашэсце'.

**Каталáжка** 'каталажка'(БРС, Сл. паўн.-зах.). Магчыма, запазычанне з рус. мовы. Параўн. рус. *каталáжка* 'каталажка, турма', 'памяшканне для арыштантаў'. У рус. мове гэта вытворнае ад дыял. *каталаж* 'камора, памяшканне на судне для захоўвання снасцей і прыпасаў'. Апошняе ўзнікла ў выніку метатэзы з *такелаж* 'снасці на судне, прыстасаванне для пад'ёму і перамяшчэння грузаў' (аб гэтым пісаў яшчэ Даль: «...*каталажка*...от *каталаж* искаж. морс. *такелаж*»). Слова *такелаж* (сустракалася таксама ў форме *такалаж*) узята з гал. *takelage* 'тс'.

**Каталóг** 'каталог' (ТСБМ). Рус. *каталóг,* укр. *каталóг.* У ст.-бел. мове лексема ў формах *каталогъ, каталіогъ* адзначаецца ў помніках з XVII ст. (гл. Булыка, Запазыч., 142). Ст.-бел. *каталогъ,* магчыма, адлюстроўвае грэч. κατάλογος, але форма *каталіогъ* хутчэй перадае польск. *katalog* (< лац.). Сучасны націск у бел. *каталóг* адпавядае рус. *каталóг* 'тс'. Гэта ўплыў франц. *catalogue* 'тс'. Першакрыніцай з'яўляецца грэч. κατάλογος 'пералік, спісак'. Упершыню запазычанае слова адзначаецца ў Генадзіеўскай бібліі 1499 г. у гіперкарэктнай форме *каѳалогосъ.* Гл. Шанскі, 2, К, 91—92.

**Кáтар** 'насмарк' (БРС, ТСБМ, Нас., Касп., Шат.). Рус. *катáр* 'тс', укр. *катáр.* Запазычанне з еўрапейскіх моў; магчымыя крыніцы: польск. або ням. мова ў XVII ст. Шатэрнік меркаваў толькі аб польскай крыніцы слова (гл. яго слоўнік). Польск. *katar* 'тс', ням. *Katarrh,* па крыніцах, якія прыводзіць Шанскі, 2, К, 92, з'яўляюцца непасрэднымі запазычаннямі з лац. (< грэч.). Але паводле Клюге, 356, ням. *Katarrh* узята прама з грэч. *katárrhūs.*

Невядома ў якіх адносінах да формы *кáтар* знаходзяцца іншыя варыянты назвы гэтай хваробы. Так, у Насовіча знаходзім *кáтарг (каторгъ)* 'насмарк', а ў Каспяровіча *кáтарга.* Можна меркаваць, што тут, магчыма, адлюстроўваецца лац. перадача грэч. назвы (тыпу *katárrhūs*).

**Кáтарг,** *кáтарга* 'катар'. Гл. *кáтар.*

**Кáтарга** 'катарга' (ТСБМ, БРС, Касп.). Параўн. рус.

*ка́торга,* укр. *ка́то́рга,* польск. *katorga,* балг. *каторга* і г. д. Паводле Шанскага, 2, К, 98, уласна рускае ўтварэнне; першая фіксацыя такога словаўжывання адносіцца да 1643 г. У аснове ляжыць с.-грэч. назва галеры κάτεργον (у мн. л. κάτεργα). У грэч. мове, акрамя 'галера', данае слова мела і значэнне 'прымусовая праца'. Такім чынам, няма патрэбы меркаваць разам з Шанскім аб уласна рускім паходжанні такога словаўжывання (значэнне 'прымусовая праца' для слова κάτεργα зафіксавана вельмі надзейна ў вядомым слоўніку Дзюканжа).

**Катастро́фа** 'катастрофа' (ТСБМ, БРС). Рус. *катастро́фа,* укр. *катастро́фа.* Запазычанне, магчыма праз пасрэдніцтва зах.-еўрап. моў з грэч. мовы. Параўн. рус. *катастро́фа,* якое, паводле Фасмера, 2, 209, узята непасрэдна з ням. мовы (*Katastrophe* < грэч. καταστροφή 'паварот, паваротны момант справы'). Але Шанскі (2, К, 93) лічыць рус. слова непасрэдным запазычаннем з франц. мовы ў першай палавіне XIX ст. (< франц. *catastrophe* < лац. *catastropha* < грэч.). Такія тлумачэнні, якія досыць істотна адрозніваюцца адно ад другога, сведчаць аб недастатковасці адных толькі этымалагічных меркаванняў і нераспрацаванасці гісторыі лексікі.

**Катафа́лк** 'катафалк' (ТСБМ, БРС). Рус. *катафа́лк,* укр. *катафа́лк.* Запазычанне з еўрапейскіх моў (але дэталі гісторыі слова досыць спрэчныя). Фасмер (2, 210) мяркуе, што рус. слова запазычана, магчыма, непасрэдна з франц. *catafalque* або італ. *catafalco,* але не выключаецца і пасрэдніцтва ням. *Katafalk* (з XVIII ст.). Шанскі (2, К, 94) зыходзіць з магчымасці непасрэднага запазычання ў рус. мове з франц. або ням. Слаўскі (2, 99) лічыць, што крыніцай запазычання ў слав. мовах з'яўляецца італ. *catafalco* (аб магчымых мовах-пасрэдніках ён не згадвае, хоць аб прамым запазычанні з італ. ва ўсіх выпадках наўрад ці можна думаць).

**Катахі́** 'трыснёг, чарот' (Сцяшк. і інш.), *каташкé* 'тс' (Сцяшк.: *«Каташк'é на бало́цѝ растуць»*). Параўн. *катахí, катахé, катухí* 'каташкі' 'кіяхі, шышкі' (Сл. паўн.-зах., 2). Слова па паходжанню не зусім яснае і фармальна зацямнёнае. Можна зыходзіць са слав. **katyšь* (гл. у Трубачова, Эт. сл., 9, 165, і СРНГ, 13, 137). Звяртаем увагу на тое, што бясспрэчна роднасная са словам *катахí* 'трыснёг' лексема *катахí* мае таксама значэнне 'шышкі'. Гэта аб'ядноўвае *катахí* і г. д. з прасл. **katyšь* і можна меркаваць, што бел. *катах-* з'яўляецца фанетычным пераўтварэннем больш старажытнага **katyx-* (> **katyšь*): *каташкí* < **катышкі.*

**Ката́ць** 'катаць' (у розных значэннях). Слова вядома не ва

ўсіх слав. мовах (у такой форме) і этымалогія яго таксама няпэўная. Трубачоў (Эт. сл., 9, 162) параўноўвае балг. дыял. *ка́там* 'хадзіць па справах, гаспадарыць', ст.-рус. *катати* 'катаць', рус. *ката́ть* 'вазіць і да т. п.', 'гойдаць', 'ляжаць хворым', 'рабіць з бітай шэрсці', 'валяць (абутак)', 'гладзіць', далей укр. *ката́ти* 'біць', *ката́тися* 'катацца', *ката́ти* 'качаць катком зямлю', 'выціскаць ваду качаннем', далей бел. *ката́цца* 'катацца', *ката́ць* (дыял.) 'скручваць у трубку'. Магчыма (як зваротныя вытворныя), сюды адносяцца чэш. *kat* 'кат', славац. *kat*, польск. *kat*, далей рус. дыял. *кат* 'калёсны след'; 'каток для ўкачвання поля' і інш. Прасл. **katati (sę)*, якое суадносіцца з прасл. **kotiti* (гл. *каці́ць*) і **katjati* (гл. *кача́ць*). Параўн. яшчэ Фасмер, 2, 209—210.

**Катлава́н** 'катлаван' (ТСБМ, БРС). Фасмер (2, 353) рус. *котлова́н* 'вялікая яма для закладкі фундамента' лічыў цёмным словам. Трубачоў, у дадатках да слоўніка Фасмера, мяркуе, што яно звязана са словам *котёл* і рознымі варыянтамі ад *колдо́бина*. Шанскі (2, К, 359) лічыць *котлован* уласна рус. словам. Упершыню сустракаецца ў крыніцах канца XIX ст.; як антрапонім (Котлован) у XVI ст. У сучасным значэнні вядома ўжо ў Даля. Паводле Шанскага, там жа, слова з'яўляецца суфіксальным утварэннем ад прыметніка *котловый* (які паходзіць ад слова *котел*). Бел. *катлава́н*, укр. *котлова́н*, мабыць, з рус. мовы.

**Катле́та** 'катлета' (ТСБМ, БРС). Рус. *котле́та*, укр. *котле́та*. Можна меркаваць, што непасрэднай крыніцай запазычання для бел. было рус. *котле́та*. У такой форме яно адзначаецца ўжо ў 1803 г. Запазычанне з франц. *côtelette* (ад *côte* 'рабро'). У канцы XVIII ст. рус. слова з'яўляецца ў крыніцах у форме, блізкай да франц. напісання (*котелеты* 'адбіўныя з мяса з рэбернай часткі'). Гл. Шанскі, 2, К, 359. Франц. пашырылася ў еўрапейскіх мовах (у прыватнасці, у ням.; параўн. ням. *Kotelett*, запазычанае да 1715 г.). Гл. яшчэ Фасмер, 2, 352 (вельмі каратка). Лінгвістычная гісторыя слова і далейшыя этымалагічныя сувязі гл. у Клюге, 414.

**Катля́р** 'меднік' (Касп., Нас.). Вядома ва ўсіх слав. мовах са значэннем 'меднік, лудзільшчык, кацельшчык і да т. п.'. Параўн. рус. *котля́р*, укр. *котля́р, кітля́р*, чэш. *kotlář*, славац. *kotlár*, в.-луж. *kótlaŕ*, н.-луж. *kótlaŕ*, польск. *kotlarz*, серб.-харв. *кѐтлар, ко́тла̄р*, макед. *котлар*, балг. *котля́р*. Трубачоў (Эт. сл., 11, 215—216) лічыць, што гэтыя словы працягваюць прасл. **kotьl'arь* 'тс' (утварэнне суфіксам *-arь* ад **kotьlъ* 'кацёл', запазычанага з герм. моў). Магчыма, што гэта так.

Але Трубачоў не выключае і іншае тлумачэнне: прасл. **kotьľarь* поўнасцю ўзята з герм. **katilarja-* 'тс' (разам з суфіксальнай часткай).

**Като́к**[1] 'кола воза' (Касп., Бяльк.). Параўн. у іншых слав. мовах: рус. *като́к* 'адрубак бервяна, які падкладваецца пад цяжар для перакочвання яго'; 'кола', 'воз', 'калаўрот у крыніцы' і г. д. Ст.-рус. *катъкъ* («Боряхуся противъ ихъ,..крѣпко и на приступѣхъ изъ пушекъ и изъ пищали и *катки* болшими», XVI ст.). Падрабязны агляд матэрыялу ў Трубачова, Эт. сл., 9, 164—165. Як відаць, гэта лексема, якую Трубачоў адносіць да ліку прасл. *(*katъkъ),* пашырана толькі ва ўсх.-слав. мовах, дакладней, у рус. (і ст.-рус.) і бел. Адносна словаўтварэння можна сказаць, што адпаведныя словы ўтвораны па вядомых прасл. мадэлях (дзеяслоў **katati* і суф. прасл. **-ъkъ,* вядомы ў розных функцыях).

**Като́к**[2], бат. 'каласок (чароту); каташок (вярбы, бярозы)' (БРС), *каткі* 'кветкі вярбы' (Сцяшк. МГ), *каткí* 'тс' (Сл. паўн.-зах.; *каткí* таксама тут маюць значэнне 'раллявая канюшына': *«каткі растуць на пасевах, мякінькія, сівенькія, касмаценькія»*). У Нас. *багня́, багняты* 'пушыстыя каташкі на вярбе' (параўн. *багня́* 'ягня'). Відавочна, і *като́к* у батанічным значэнні паходзіць ад **kotъ, *kotъka* (параўн. у Нас. *ко́тка* 'ягня', *ко́тки* 'пушыстыя каташкі на вярбе, якая расце на балотных месцах').

**Като́лік.** Параўн. рус. *като́лик,* укр. *като́лик.* У помніках ст.-бел. мовы *католикъ* 'католік' адзначаецца з канца XVI ст. Паводле Булыкі, Запазыч., 143, яно папала ў ст.-бел. мову непасрэдна з польск. (параўн. польск. *katolik* 'тс'); польск. слова запазычана (таксама ў XVI ст.) з царкоўнага лац. *catholicus* 'католік' (а гэта апошняе з грэч. καϑολικός 'агульны'. З лац. мовы непасрэдна запазычаны і ням. *Katholik,* франц. *catholique* 'тс'. Гл. Слаўскі, 2, 102—103. Паводле Слаўскага, там жа, з польск. мовы непасрэдна ўзяты (акрамя бел.) таксама рус. *като́лик,* укр. *като́лик.* Гл. яшчэ Фасмер, 2, 210; падрабязна Шанскі, 2, К, 96—96.

**Като́мка** 'сумка, клунак' (Сцяшк. МГ, Сл. паўн.-зах.). Параўн. рус. *котома́, кото́мка;* паводле Фасмера, 2, 353, сюды адносяцца (з тым жа значэннем) рус. *ко́тма, хото́мка, коту́ль, коты́ль, хоту́ля, хату́ль.* Трубачоў (Эт. сл., 11, 208) прыводзіць яшчэ ўкр. *ко́тма* 'тс'. Слова няяснага паходжання. Прапанаваліся розныя этымалогіі, напр., утварэнне ад дзеяслова *ката́ть,* далей, запазычанне з фін. *kontti* 'карзіна з бяросты, якую носяць на спіне', або з чагат. *kat* 'футляр' (гл. Фасмер, 2,

353). У апошні час Трубачоў, там жа (праўда, без бел. матэрыялу), мяркуе, што, магчыма, было прасл. **katomá*, залежны дзеепрыметнік на *-om* ад дзеяслова **kotiti* 'каціць, валяць і да т. п.'. Няпэўна. Параўн. яшчэ Шанскі, 2, К, 360.

**Като́ры** 'каторы'. Параўн. ст.-бел. *который* (у Скарыны). Рус. *кото́рый,* ст.-укр. *которы(и), котры(и)* 'тс', укр. *кото́рий, котри́й,* ст.-слав. **которъ, которыи, котєрыи,** балг. *ко́трый, котри́,* серб.-харв. *koteri, kotori* (дыял.), славен. *koteri,* славац. *koterý, kotorý, kotrý,* в.-луж. *kotry,* н.-луж. *kótary*. Прасл. **koterъ(jь), *kotorъ(jь)*. Слав. формы працягваюць утварэнні яшчэ і.-е. часу (і.-е. *$k^u$o-ter-o-,* ад пытальнага займенніка *$k^u$o-* (таго, што ў прасл. **kъjь* 'які') з суфіксам вышэйшай ступені *-ter-*. Роднаснымі формамі лічацца літ. *katràs* 'які (з двух)', *kataràs,* ст.-інд. *kataras* 'тс', ст.-іран. *katāra-,* ст.-грэч. πότερος, κότερος і інш. Гл. Фасмер, 2, 353—354; Трубачоў, Эт. сл., 11, 201—202.

**Катры́нка** 'катрынка' (Шат., Нас.), *кацяры́нка* 'тс' (Нас.). Запазычанне з польск. мовы. Зыходным з'яўляецца выраз польск. *szarmant katrynka* (таксама проста *katarynka*). Назва паходзіць, паводле Фасмера, 4, 410, з пачатковых слоў ням. песні *Scharmante Katharine* 'прыгожая Катарына'. Гэту песню, як мяркуюць, вельмі часта выконвалі на катрынках. Параўн. тлумачэнне ў Даля; Гараева, 419. Па іншай версіі (гл. Слаўскі, 2, 101—102), польск. *katarynka* паходзіць ад ням. назвы марыянеткі, якая называлася die schöne Katharine, потым перанеслі на музычны інструмент, на якім выконвалася адпаведная мелодыя пры выступленні ляльки. Гл. Слаўскі, 2, 101—102; Фасмер, 4, 410; Кюнэ, Poln., 63.

**Кату́рн** 'катурн' (ТСБМ, БРС). Рус. *коту́рны* 'абутак антычных артыстаў', укр. *коту́рни,* польск. *koturny,* чэш. *kothurny,* балг. *коту́рна* і г. д. У бел. мове, магчыма, непасрэднае запазычанне з рус. мовы. У рус. мове слова з'явілася ў канцы XVIII ст. (упершыню адзначаецца ў слоўніку ў 1803—1804 гг.). Паводле Шанскага, 2, К, 360, запазычанне з лац. або грэч. мовы. Параўн. ст.-грэч. назву κόθορνος 'высокі паляўнічы бот', потым 'высокі абутак трагічных акцёраў' (адсюль лац. *cothurnus* 'тс'). Гл. яшчэ Encyklopedie antiky.— Academia, Praha, 1974, с. 313; Lexikon der Antike.— Leipzig, 1979, с. 296—297.

**Кату́рхаць** 'трэсці, калыхаць' (Сцяшк. МГ, БРС). Няяснае слова. Магчыма, нейкае гібрыднае ўтварэнне. Параўн. рус. дыял. *котура́ться* 'куляцца', *котуря́ть* 'штурхаць'. Першая частка *катур-хаць,* можа, звязана з дзеясловам тыпу рус.

*котурять,* а другая трансфармавалася пад уплывам *штурхаць* (інакш цяжка вытлумачыць з'яўленне элемента «х» у разглядаемым дзеяслове). Магчымы камбінацыі дзеяслова *штурхаць* з «прэфіксамі» *ка-, ко-* і спрашчэннем кансанантнай групы *шт* > *т* (з якіх прычын?). Параўн. нарэшце існаванне «комплекса» *котур-* (прасл. **koturati*): рус. дыял. *котураться* 'куляцца', славен. *kotúrati* 'капіць', серб.-харв. *котурати* 'вярцець', 'капіць' (паводле Трубачова, Эт. сл., 11, 209, дзеяслоўны інтэнсіў, утвораны ад **kotiti* 'капіць' «узмацняльным суфіксам» **-ur-a-ti*).

**Кату́х** 'хлявок, закутак'; 'будка, засек' (БРС, Касп.), 'куратнік' (Шат.), 'катух, хлявок; закутак, дзе сыплюць на зіму бульбу' (Сцяшк., МГ); 'катух, сплецены з саломы вялікі кошык' (Бяльк.); 'адгароджанае месца ў гаспадарчым будынку; яслі' (Сл. паўн.-зах., 2), пашырана выключна ва ўсх.-слав. мовах. Параўн. рус. дыял. *котух* 'памяшканне для свойскай жывёлы, хлеў; куратнік; сабачая будка; заканурак' і г. д., укр. дыял. *котух* 'невялічкая будова для птушак'. Паводле Трубачова, Эт. сл., 11, 208 (тут і агляд слав. матэрыялу), вытворнае з суф. *-ихъ* ад прасл. **kotъ,* вядомага толькі ў некалькіх слав. мовах. Параўн. серб.-харв. дыял. *kȏt* 'закутак для свойскіх жывёл, для маладняку', ст.-чэш. *kot, kót* 'будка, лаўка' (гл. у Трубачова, там жа, 11). Параўн. яшчэ Фасмер, 2, 354; Трубачоў, там жа, 214—215.

**Катыльён** 'катыльён, бальны танец франц. паходжання' (БРС). Параўн. рус. *котильо́н,* укр. *котильйон* 'тс'. Лічыцца запазычаннем з франц. *cotillon* 'тс', якое ўзнікла на базе іншага франц. слова — *cotillon* 'сподняя спадніца' (< *cotte* 'сукенка'). У рус. мове запазычана з франц. на пачатку XVIII ст. Бел. і ўкр. словы непасрэдна ўзяты з рус. Адносна франц. *cotillon* гл. яшчэ тлумачальны слоўнік Wahrig G. Deutsches Wörterbuch — Mosaik Verlag, 2229; Meyers Neues Lexikon, 2. Aufl., Bd. 8, 1974, S. 107.

**Катэгары́чны** 'катэгарычны' (ТСБМ, БРС). Рус. *категори́ческий,* укр. *категори́чний* 'тс'. Крыніцай запазычання для бел. і ўкр. моў, відавочна, з'яўляецца рус. лексема, якая была вядома ў рус. мове з пачатку XVIII ст. (сустракаюцца формы *категорически,* прыслоўе — 1718 г., *категоричный* — 1714 г.). Паводле Фасмера, 2, 210, крыніцай рус. слова магло быць ням. *kategorisch* або франц. *catégorique*. Першакрыніцай з'яўляецца грэч. *κατηγορία* 'абвінавачванне', ад якога ўзята (праз лац. *categoria*) ням. *Kategorie,* франц. *catégorie*. У рус. мове *катего́рия* адзначаецца з 1722 г. Іншыя гісторыкі мяркуюць,

што грэч. κατηγορία — тэрмін, прыдуманы і ўведзены Арыстоцелем.

**Катэ́дж** 'катэдж' (ТСБМ, БРС). З тым жа значэннем рус. *коттéдж,* укр. *котéдж.* Запазычанне з англ. мовы. Параўн. англ. *cottage* 'тс' (утварэнне ад *cot* 'хаціна' суфіксам *-age*). Спачатку слова папала ў рус. мову (у сярэдзіне XIX ст.; упершыню сустракаецца ў рамане Ганчарова «Абломаў») і мела націск крыніцы — *кóттедж.* У якасці варварызма рус. *коттедж* адзначалася яшчэ ў «Путевых письмах» Грэча (1839 г.). Падвойны націск (кóттедж, коттéдж) зафіксаваны ў слоўніку Ушакова (1935 г.), сучасны націск (на другім складзе) замацаваўся значна пазней.

**Ка́тэдра** 'кафедральная царква; прапаведніцкі амбон, кафедра' (Нас.). У ст.-бел. мове адзначаецца на пачатку XVI ст. (гл. Булыка, Запазыч., 143). Лічыцца, што непасрэднай крыніцай бел. слова з'яўляецца польск. *katedra.* Апошняе ўзята з лац. *cathedra;* першакрыніцай, бясспрэчна, трэба разглядаць грэч. καθέδρα 'сядзенне, крэсла', яно вядома ў многіх еўрапейскіх мовах (параўн. у слав.: чэш., славац. *katedra,* укр. дыял. *катéдра,* балг. *катéдра,* серб.-харв. *кàтедра* і інш.). Таксама запазычана ў некаторых зах.-еўрап. мовах (напр., ням. *Katheder*). Гл. яшчэ *кáфедра.* Слаўскі, 2, 102; Кюнэ, Poln., 63; Клюге, 357.

**Катэ́лка** 'хлебны, гліняны шарык' (Касп.). Не вельмі яснага паходжання; няма, здаецца, падобных форм у іншых мовах (гл. СРНГ, Даль, Трубачоў, Эт. сл.). Зыходзіць трэба, магчыма, з вядомага ўтварэння, празрыстага марфалагічна **katalъka* (ад **katati;* з элементам *-l-,* што сустракаецца ў дзеепрыметніках мінулага часу). Параўн. у Даля: *катáлка* 'што качаюць, дзіцячыя цацкі на колах; чым качаюць, качалка для качання бялізны; на чым катаюцца, каток, горка, рагожка для катання' (гл. яшчэ СРНГ, 13, 121—122). Магчыма, калісьці націск быў на першым складзе (параўн. рус. *кáталки* 'гульня ў шар'). Пры перанясенні націску на другі склад нібы аднаўляецца вакалізм «э» пад націскам. Параўн. чаргаванне ў бел. мове *э — а* ў залежнасці ад месца націску.

**Ка́тэр** 'катэр' (ТСБМ, БРС). Рус. *кáтер,* укр. *кáтер.* У рус. мове запазычанне з англ. *cutter* 'тс' у Пятроўскую эпоху азначала 'вялікая вёславая лодка, аднамачтавае судна'. Англ. *cutter* вытворнае ад *cut* 'рэзаць'; першапачаткова *катэр* 'судна, якое рэжа хвалі'. Упершыню фіксуецца ў пісьме князя Далгарукава Пятру I у 1714 г. Неабгрунтаваным было меркаванне Міклашыча аб магчымым паходжанні слова *кáтэр* ад

назвы галеры *ка́торга* ( < с.-грэч. *κάτεργον*). Таксама няпэўнымі трэба лічыць параўнанні з гал. *kotter* або ням. *Kutter* (з фанетычных прычын). Параўн. Фасмер, 2, 210; Шанскі, 2, К, 95—96.

**Каўбаса́** 'кілбаса' (БРС, Шат., Сцяшк.). Формы тыпу *кілбаса́* (параўн. Нас.) запазычаны з польск. *kiełbasa* (гл. Слаўскі, 2, 143—144). Іншая форма, бел. *каўбаса́* мае надзейныя адпаведнікі ў іншых слав. мовах. Параўн. рус. *колбаса́,* укр. *ковбаса́,* ст.-рус. *колбаса,* балг. *кълба́са,* с.-балг. *клъбаса,* славац. *klbása,* польск. *kiełbasa.* Агульнай праформай тут можа быць **kъlbasa.* Адрозніваюцца па форме чэш. *klobása,* славен. *klobása,* серб.-харв. *кобàсица, klobasa.* Этымалогія гэтых слав. слоў вельмі няпэўная. Паводле Слаўскага, 2, 144, няпэўным таксама з'яўляецца сам прасл. характар усёй групы слоў і трэба шукаць крыніцу запазычання (прапанаваліся ў якасці крыніцы цюрк. мовы, ст.-яўр., франц.). Агляд у Слаўскага, 2, 144, у Фасмера, 2, 286. Гл. яшчэ Шанскі, 2, 195.

**Каўбо́й** 'каўбой' (ТСБМ, БРС). Рус. *ковбо́й,* укр. *ковбо́й* 'тс'. Паводле Шанскага, 2, 180, запазычанне новага часу з англ. мовы. Упершыню адзначаецца ў слоўніку замежных моў у 1933 г. Можна меркаваць, што слова запазычана дзесьці на пачатку XX ст. Англ. *cowboy* (літаральна 'пастух') складаецца з англ. слоў *cow* 'карова' і *boy* 'хлопчык, хлопец'. Ад запазычанага *каўбо́й* у рус. мове ўтворана (упершыню адзначаецца ў крыніцах у 1933 г.) *ковбо́йка,* якое ўзнікла на базе словаспалучэння *ковбойская рубаха* і аформлена суфіксам *-ка.*

**Каўбы́р** 'гладыш для малака' (Касп.). Лаўчутэ (Сл., 112) мяркуе, што гэта запазычанне з балт. моў і дае ў якасці яго крыніцы літ. дыял. *kaubarẽ, kauborẽ* 'драўляная пасудзіна, міска'. Паводле Лаўчутэ, на запазычанне ўказваюць абмежаваны арэал бел. слова і яго фанетычныя асаблівасці (яна лічыць, што спалучэнне *-аў-* было б немагчыма ў выпадку спаконвечнай роднаснасці).

**Каўга́н** 'міска, выдзеўбаная з дрэва' (Шат.), ёсць таксама ў рус. мове. Параўн. рус. *калга́н* 'драўляная міска', вядомае ў розных рус. гаворках, якое мае таксама формы *калга́,* калгашка 'драўляная кружка, коўш', *калги́ска* 'чашка'. Слова цёмнага паходжання. У свой час Гараеў (440) меркаваў, што гэта, магчыма, запазычанне з усх. крыніцы і прыводзіў цюрк. *kolɣan,* якое Фасмер (2, 165) лічыў вельмі няпэўным. Сапраўды, надзейных паралелей да форм тыпу *каўга́н, калга́н* няма, але камбінацыя фанем у слове вельмі нагадвае камбінаторыку

ўсходніх моў. Параўн. яшчэ няяснае *каўга́н* 'хмара, кучавае воблака'; 'кепскі майстар' (Сл. паўн.-зах., 2).

**Каўга́нка** 'конаўка, якая знаходзіцца ў лазні для разлівання вады' (Касп.), *каўга́нка, каўга́рка* 'драўляная міска' (Сл. паўн.-зах., 2). Бясспрэчна, звязана з *каўга́н* 'міска, выдзеўбаная з дрэва', *калга́, калга́шка* 'драўляная кружка, коўш'. Форму *каўга́нка* можна лічыць вытворным ад *каўган* (параўн. падобнасць гукавага складу гэтых слоў і значную блізкасць семантыкі). Параўн. Фасмер, 2, 165.

**Каўду́н** 'вантрабянка' (Сцяшк. МГ). Параўн. у Фасмера, 2, 288, *колдуны́* 'пельмені'; параўн. далей польск. *kołdun* 'піражок з сырога мяса', чэш. *kaldoun* 'гусіныя вантробы'. Падрабязны агляд у слав. мовах у Слаўскага, 2, 35. Запазычанне з с.-в.-ням. крыніцы: *kaldūne* (у польск. мове ўжо ў XIV ст.), ням. *Kaldaunen* (у ням. мове ўзята з с.-лац. *caldūna:* да *cal(i)dus* 'цёплыя вантробы толькі што забітай жывёлы'). Гл. Фасмер, там жа; Слаўскі, там жа; Бернекер, 1, 472.

**Каўжэ́нь** 'шустры, нізкага росту хлопчык, малыш' (Касп.). Слова няяснага паходжання; не хапае даных аб яго сувязях і гісторыі. Няясная і яго магчымая зыходная форма. Відаць, мы маем справу з сапсаванай лексемай. Няпэўная дагадка: *каўжэ́нь* — гэта трансфармацыя першапачатковага *кажа́н.* На Браслаўшчыне слова *кажа́н* ужываецца ў значэнні 'злы, невысокага росту чалавек'. Гл. Сл. паўн.-зах., 2, 358.

**Каўзе́ль** 'каток на лёдзе' (Касп., Нас., Бяльк., Сл. паўн.-зах., 2). Відавочнае ўтварэнне ад дзеяслова тыпу **kъlzati(sę)* пры дапамозе суф. *-*elь.* Параўн. словаўтваральную варыятыўнасць у вытворных ад гэтага дзеяслова: *каўзе́ль, каўза́нка, каўзе́нька, ко́ўзалка.* Зыходны дзеяслоў *каўза́цца* мае адпаведнасці ў рус. дыял. *ко́лзать(ся), ко́взаться* 'катацца на лёдзе', укр. *ко́взати(ся),* чэш. *klouzati,* польск. *kiełzac,* чэш. *kluzký* 'слізкі, коўзкі' і г. д. Гл. Фасмер, 2, 290; Слаўскі, 2, 147—148.

**Ка́ўка** 'галка' (Касп., Сцяшк. МГ). Паводле Сл. паўн.-зах., 2, 439, запазычанне з польск. мовы. У якасці крыніцы выстаўляецца польск. *kawka* 'тс'. Для дзеяслова *ка́ўкаць* 'мяўкаць', 'каркаць' (Сл. паўн.-зах. прыводзіць іншую крыніцу — літ. *kaũkti* 'выць' (гл. падрабязна пад *ка́ўкаць*). Але справа не такая простая. Паколькі гэта лексема гукапераймальнага характару (параўн. польск. *kawa, kawka,* укр. дыял. *ка́ва,* літ. *kóvas* 'галка, грак', чэш. *kavka,* серб.-харв. *kâvka,* славен. *kâvka* і г. д.), то падобныя ўтварэнні могуць узнікаць незалежна ў розных мовах. Гл. агляд Трубачова, Эт. сл., 9, 165—166, які

мяркуе, што прасл. **kavъka* ўтворана ад **kava* 'тс'. Гл. яшчэ Фасмер, 2, 152; Слаўскі, 2, 108—109.

**Ка́ўкаць** 'мяўкаць' (Касп., Сцяшк. МГ), 'падаваць голас пра чалавека)'. Гл. Лаўчутэ, Сл., 113. Запазычанне з літ. мовы. Параўн. літ. *kaũkti* 'крычаць дзікім голасам, выць, плакаць', лат. *kaukt* 'выць, крычаць'. Слова па сваёй прыродзе гукаперайманьнага характару, але Лаўчутэ, там жа, мяркуе, што з лінгвагеаграфічных меркаванняў трэба прыняць уплыў балтыйскіх моў на беларускую. Параўн. таксама Сл. паўн.-зах., 2, 439—440. Гл. яшчэ Трубачоў, Эт. сл., 9, 166—167.

**Каўне́р** 'каўнер' (ТСБМ, БРС, Касп., Шат., Сцяшк.). У ст.-бел. мове ў формах *колнеръ* (1515), *ковнеръ* (1608); гл. Булыка, Запазыч., 162. У дыялектах мае і некалькі іншыя значэнні: 'пояс у штанах' (Сцяшк. МГ), 'манжэты' (*каўнярцы́,* Касп.), запазычана і ў іншых мовах. Параўн. рус. *ковне́рь, ко́лнер, кавне́р* і г. д. (са значэннем 'высокі футравы каўнер'), укр. *ко́внір, ко́вмір.* Непасрэднай крыніцай запазычання для ўсх.-слав. моў з'яўляецца польск. *kołnierz* (< с.-в.-ням. *koller, kollier* < франц. *collier* (< лац.). Фасмер, 2, 271; Слаўскі, 2, 367; параўн. яшчэ Кюнэ, Poln., 67.

**Каўпа́к** 'каўпак' (ТСБМ, БРС). Слова вядома ўжо ў ст.-бел. мове: *колпа́къ* (з сярэдзіны XVI ст.), гл. Булыка, Запазыч., 162. Таксама было вядома і ў іншых усх. славян (ст.-рус. *колпакъ,* рус. *колпа́к, калпа́к,* укр. *ковпа́к*). Даўняе запазычанне з цюрк. моў (параўн. тур., тат., крым.-тат., казах. *kalpak* 'шапка'). Фасмер, 2, 297; Шанскі, 2, К, 215—216.

**Каўта́ць** 'глытаць' (дыял.; ТСБМ, БРС, Шат.), *каўтану́ць* 'праглынуць' (Сцяшк. МГ), *каўток* 'глыток'. Параўн. рус. дыял. *колтну́ть* 'глытнуць', *колто́к* 'глыток', укр. *ковта́ти* 'глытаць', 'каўтаць'. Фасмер (2, 297) параўноўвае з польск. *kłtać.* Але паводле Слаўскага, 274, польскае слова нідзе не зафіксавана. Магчыма, мы маем справу з двума прасл. варыянтамі слова: **glъt-* і **kъlt-*. Пры гэтым трэба мець на ўвазе, што і.-е. адпаведнікі ёсць толькі для варыянта **glъt-:* параўн. ст.-рус. *глътати,* чэш. *hltati,* балг. *гъ́лтам* і г. д., якія блізка стаяць да лац. *glūtio glūtīre* 'глытаць'. Параўн. Фасмер, там жа; Траўтман, 93; падрабязна, з аглядам літаратуры, Трубачоў, Эт. сл., 6, 157—158.

**Каўту́н** 'каўтун, хвароба скуры на галаве, пры якой валасы зблытваюцца і зліпаюцца; зблытаны пук валасоў, поўсці і пад.' (ТСБМ, БРС, Шат., Сцяшк. МГ). Рус. *колту́н,* укр. *ковту́н* 'тс'. З усх.-слав. моў запазычана польск. *kołtun* 'тс' (дакладней, з укр. мовы). Паводле Фасмера, 2, 298, звязана

з такімі лексемамі, як рус. *колтýшка* 'прывесак, падвеска', польск. *kiełtać się* 'калыхацца, гайдацца'. Параўн. Брукнер, 248; Слаўскі, 2, 375. Усх.-слав. **kъlt-unъ* звязана, паводле Слаўскага, там жа, з прасл. дыял. дзеясловам **kъltati* 'калыхацца, гайдацца', вядомым толькі ў частцы слав. моў. Параўн. яшчэ Шанскі, 2, К, 216. Гл. *калдун*₂.

**Каўця́х** 'камяк памёту' (Шат.). Здаецца, фармальна тоеснае з укр. *ковтя́х* 'валасы, якія збіліся ў камякі' (Грынч.). У аснове ляжыць слав. **kъlt-* 'камяк', якое можна вывесці з рэальна існуючых лексем (параўн. *каўтун,* у якога ёсць значэнне 'збіты пук валасоў, поўсці'). Усх.-слав. **kъlt-unъ* (гл.), магчыма, звязана з прасл. дзеясловам **kъltati* 'калыхацца, гайдацца'.

**Каўчу́к** 'каўчук, эластычнае рэчыва, якое здабываецца з млечнага соку некаторых трапічных раслін або штучным спосабам і выкарыстоўваецца для вырабу гумы' (ТСБМ, БРС). Паводле Фасмера, 2, 211, запазычана з ням. *Kautschuk* або франц. *caoutchouc*. Шанскі (2, К, 100) удакладняе, што ў рус. мове гэта слова ўзята з франц. на пачатку XIX ст. і ўпершыню фіксуецца ў слоўніку 1816 г. Франц. слова ўзята з мовы лацінаамерыканскіх індзейцаў. Паводле Фасмера, там жа, крыніцай з'яўляецца слова *cahuchuc* з індзейскай мовы майнас. Не абгрунтаваны пункт погляду аб запазычанні слова з англ. крыніцы. Гл. Шанскі, там жа.

**Каўчэ́г**₁ 'каўчэг, судна, у якім згодна з біблейскім паданнем, выратаваўся ад «сусветнага патопу» Ной з сям'ёй і жывёлай' (ТСБМ, БРС). Рус. *ковчéг,* укр. *ковчéг,* ст.-рус., ст.-слав. **ковъчегъ,** балг. *ковчéг,* серб.-харв. *кòвчêг* 'скрынка, скрыня'. Слова, якое, як мяркуюць, паходзіць з усх. моў. Звычайна параўноўваюць з чагат. *kopur* 'пасудзіна', *koburčak* 'скрынка' і г. д. Менш верагодным лічыцца вывядзенне слова з тур. мовы (параўноўваюць з тур. *kapčуk, kapčuk* 'футарал'). Яшчэ больш няпэўным з'яўляецца вывядзенне з грэч. крыніцы або са ст.-рус. *ковъ* 'пасудзіна' (апошняе прапанаваў Ільінскі, ИОРЯС, 23, 2, 230; цікава, што яшчэ Даль прапанаваў вывядзенне слова *ковчег* ад *ковать*).

**Каўчэ́г**₂ 'скрынка для захоўвання асабліва каштоўных рэчаў; скарбонка' (ТСБМ); 'пенал' (Касп.). Бясспрэчна, звязана з назвай каўчэга, на якім плыў біблейскі Ной. Даль адзначае, што *каўчэгам* сталі называць дзіўнага выгляду судны, караблі і нават калымагі, далейківот для абразоў. Каўчэгам называлі таксама скрыначку для захоўвання каштоўнасцей царквы, царскіх грамат, а таксама пячацей, якія былі прыма-

цаваны да грамат, дыпломаў і г. д. Пазней слова гэта стала азначаць больш простыя рэчы, напр., пенал.

**Каўшну́ць** 'ударыць' (воран. і ашм.). Паводле Лаўчутэ, Сл., 67, запазычанне з літ. мовы. У якасці крыніцы прыводзяцца літ. *už-kaũšti, káuštelėti* 'лёгка ўдарыць'.

**Каўшы́н** 'збан'. Іменна ў такой форме гэта лексема сустракаецца ў некаторых бел. гаворках (агляд гл. у Лаўчутэ, Сл., 39). Гэта запазычанне з літ. мовы мае крыніцай літ. формы **kaušinas, *kaušynas* 'вялікі збан' (у аснове ляжыць форма *káušas* 'коўш'). Гл. Лаўчутэ, там жа; Фасмер, 2, 397—398. Такім чынам, формы тыпу *каўшы́н* трэба разглядаць як зыходныя.

**Кафалі́чны** 'сусветны, усеагульны', эпітэт праваслаўнай царквы (ТСБМ). Параўн. рус. *кафолический* 'сусветны', якое ўпершыню папала ў помнікі ў 1612 г. Першакрыніцай з'яўляецца грэч. *καθολικός* 'сусветны' (гл. Шанскі, 2, К, 97—98). Бел. *кафалічны,* як можна меркаваць, з'яўляецца адносна новым запазычаннем з рус. мовы. Адносна рус. слова Шанскі, там жа, думае, што яно, магчыма, вытворнае ад прыметніка *кафоликии* (вядомага ў помніках ст.-слав. мовы) або запазычанне грэч. слова, якое не папала ў старажытныя помнікі, якія захаваліся. Параўн. яшчэ Фасмер, 2, 212. Ст.-бел. *католицкий, католический* < лац. *catholicus* < грэч. (гл. Булыка, Запазыч., 143).

**Ка́федра** 'ўзвышэнне, памост для лектара або прамоўцы'; 'аб'яднанне выкладчыкаў і навуковых работнікаў адной або некалькіх блізкіх навуковых дысцыплін у вышэйшай навучальнай установе'; 'пасада епіскапа, які кіруе епархіяй (першапачаткова — крэсла ў царкве для епіскапа)' (ТСБМ). У царкоўным значэнні гэта запазычанне, як мяркуе Шанскі, 2, К, 100—101, з с.-грэч. і ў форме *катедра* ўпершыню адзначаецца ў Бярынды. Але форма *катедра* адлюстроўвае, хутчэй, лац. форму *cathedra* ( < грэч.). Параўн. адносна ўплыву на націск слова лац. мовы (*ка́федра* замест старога *кафе́дра*) Фасмер, 2, 212. Сучасныя формы слова сустракаюцца з 1686 г. *(ка́федра)*. Гл. Шанскі, там жа.

**Ка́фля** 'керамічны выраб для абліцоўкі сцен і печаў ў выглядзе пліткі, вугла, часткі карніза' (ТСБМ, БРС), *ка́фля, ка́хля* (Сл. паўн.-зах.), *ка́хля* 'кафля' (Сцяшк. МГ, Нас., Бяльк., Касп., Шат.). Ужо ў ст.-бел. мове назіралася варыятыўнасць форм гэтага слова. Гл. у Булыкі, Запазыч., 144: *кафель, кафля, кахель, кахля* 'кафля'. Параўн. рус. *ка́хля, ка́фля* (Фасмер, 2, 212). Непасрэднай крыніцай запазычання

для слав. слоў з'яўляецца польск. *kafel, kachel, kafla, kachla* < < ням. *Kachel* (далей крыніцай ням. слова было лац. **caccalus* 'гаршчок'). Гл. Фасмер, 2, 212; Кюнэ, Poln., 61; Слаўскі, 2, 20; Шанскі, 2, К, 101—102; Булыка, Запазыч., 144.

**Кафта́н,** таксама *капта́н* 'даўнейшая двухбортная мужчынская і жаночая верхняя адзежына з доўгімі поламі і падоўжанымі рукавамі' (ТСБМ), 'кафтан' (Бяльк.), 'кофта' (Сл.-паўн.-зах., 2). Ст.-бел. *кафтанъ, каптанъ, кахтанъ* 'кафтан' (першая фіксацыя слова ў 1516 г.); гл. Булыка, Запазыч., 144. Крыніцай запазычання для ст.-бел. лексем лічаць тур. мову (тур. *kaftan*; Булыка, там жа). У польск. мове *kaftan* адзначаецца ў помніках значна раней (з XV ст.). Таму можна ставіць пытанне, ці не з польскай крыніцы ўзята непасрэдна бел. слова, але тут не хапае дадатковых даных храналагічнага парадку. Гл. яшчэ Фасмер, 2, 212; Шанскі, 2, К, 102; Слаўскі, 2, 20.

**Кафэ́** 'невялікі рэстаран, дзе прадаюць каву, чай, закускі і пад.' (ТСБМ, БРС). Запазычанне адносна новага часу з рус. мовы. Рус. *кафе́* 'тс' у сваю чаргу ўзята з франц. мовы ў сярэдзіне XIX ст. (у франц. мове *café* ў сучасным значэнні вядома з канца XVII ст. і ўзнікла на базе слова *café* 'кофе'). Гл. Шанскі, 2, К, 100; Фасмер, 2, 212, 355; Слаўскі, 2, 104—105.

**Каха́нак** 'любы, каханы' (ТСБМ, Сцяшк. МГ, Нас. і г. д.), *каха́нка* 'любая, каханая'. Гэтыя словы засведчаны ўжо ў ст.-бел. мове: *коханка, коханокъ.* Дзеяслоў *кохати* ў ст.-бел. мове Булыка (Запазыч., 173) адносіць да паланізмаў. Зразумела, што і вытворныя, якія маюць адпаведнасці ў польск. *(kochanek, kochanka),* хутчэй за ўсё таксама запазычанні. Няясна, з якіх прычын *коханка, коханокъ* Булыка адносіць да ўтварэнняў, якія ўзніклі ўжо ў бел. мове (гл. с. 15, дзе гаворыцца, што пасля экземпліфікацыі прыводзяцца дэрываты, утвораныя на бел. глебе). Параўн. Кюнэ, Poln., 66.

**Каха́ць** 'мець вялікае сардэчнае пачуццё да асобы другога полу; любіць'. Ст.-бел. *кохати* (вядомае ў помніках ужо на пачатку XVI ст.) лічыцца запазычаннем з польск. *kochać*. Гл. Булыка, Запазыч., 173; Гіст. лекс., 94; Фасмер, 2, 356; Брукнер, 242; Бернекер, 1, 538; Кюнэ, Poln., 66; Слаўскі, 2, 311—313; Трубачоў, Эт. сл., 10, 110—111. Слова запазычана з польск. і ва ўкр. мове. Магчыма, прамым паланізмам трэба лічыць і *каха́нне* (< польск. *kochanie*). Здаецца, прасл. **koxati* было ў прасл. часы дыялектным словам: яго не зналі бел. і ўкр. мовы. Адносна рус. *коха́ть* Трубачоў, там жа, мяркуе. што яно

шырока прадстаўлена ў гаворках і, магчыма, з'яўляецца спаконвечнай лексемай.

**Ќа́хля.** Гл. *ка́фля.*

**Ќаху́ндрыца** 'гандлярка дробным таварам' (Ќасп.). Вельмі няяснае слова, няма даных аб яго гісторыі, іншых формах. Таму можна выказаць толькі няпэўныя меркаванні наконт яго паходжання і формы. Параўн. у рус. гаворках *гунде́рить, гундо́рить* 'гаварыць, балбатаць, размаўляць', *гундо́ра, гундо́рка* 'балбатун, гаварун', *гундра́* 'мітусня, клопат', *гу́ндерить* 'гаспадарыць, распараджацца; гатаваць, вазіцца, клапаціцца' (Даль). Паходжанне гэтых слоў не вельмі яснае (параўноўваюць з некаторымі славен. лексемамі тыпу *gondráti* 'бурчаць; гусці'; гл. Фасмер, 1, 475). Магчыма, *каху́ндрыца* (< **кахундра*) складанае слова, дзе першая частка — прэфікс *ка-,* а другая — нейкі варыянт аддзеяслоўнай (?) формы тыпу *гундра́* (гл. вышэй).

**Ќацаве́йка** 'кароткая кофта на ваце, футры або на падкладцы; кабат з рукавамі' (ТСБМ, БРС). Параўн. рус. *кацаве́йка* 'кароткая куртка, кофта', укр. *кацаве́йка, кацаба́йка, куцба́йка.* Паводле Фасмера, 2, 212—213, запазычанне праз польск. *kucbaja, kuczbaja* (і, магчыма, формы, узятыя з укр., *kacabajka, kacawejka*) з ням. мовы. Параўн. ням. *Kutzboi* 'грубае сукно' (якое мае далейшыя сувязі ў ням. лексіцы). Гл. яшчэ падрабязна ў Слаўскага, 2, 11—12. Да гэтай групы слоў адносіцца і бел. *кучбай* 'тканіна з шэрсці' (Нас.). Шанскі (2, К, 103) мяркуе, што ўкр. *кацаве́йка* (якое было формай-пасрэднікам і для некаторых форм іншых моў) узнікла з *кацабайка* пад уплывам дзеяслова *веять, развеваться,* з якім, быццам, па народнай этымалогіі, было звязана.

**Ќацві́на** 'топкае балота' (Сцяшк. МГ). Блізка па форме і значэнню стаіць рус. дыял. *ка́твина* са значэннем 'ямка, калдобіна' (смал.). Можна меркаваць, што першапачатковым значэннем бел. слова было не 'топкае балота', а такое ж, як у рус. слове (г. зн. 'ямка, калдобіна'). У аснове назвы корань **кат-,* той самы, што ў словах слав. **katiti,* **katati.* Магчыма, спачатку мелася на ўвазе месца, на якім вазы выкачалі ямы. Гук *-ц-* у слове *ка́цвіна* — гэта рэзультат палаталізацыі групы *-тв-* перад *-і-*. Паходжанне самога *-в-* не вельмі яснае (уплыў такіх утварэнняў, як **rytъvina*?).

**Ќацёл** 'металічная пасудзіна акруглай формы і розных памераў для награвання вады, гатавання ежы і пад.' (ТСБМ, БРС, Ќасп. і інш). Слова праславянскага паходжання, праформа якога **kotьlъ*. Параўн. ст.-рус. *котьлъ, котелъ,* рус.

*котёл,* ст.-бел. *котелъ,* ст.-укр. *котелъ,* укр. *котéл,* польск. *kocioł, kocieł,* чэш. *kotel,* славац. *kotol, kotel,* ст.-слав. **котьлъ,** балг. *котел,* серб.-харв. *кòтао,* славен. *kótel.* Прасл. **kotьlъ* 'тс'. Старое запазычанне, у часы, блізкія да прасл., з герм. (гоц.) **katils, *katilus* 'кацёл' (< лац.). Гл. Трубачоў, Эт. сл., 11, 217—219; Фасмер, 2, 351; Слаўскі, 2, 317—318; Махэк₂, 283. Параўн. *катля́р.*

**Кацёлка** 'драўляны кружок, круг'; 'драўлянае кола, якое качаюць дзеці дзеля забавы'; 'усё, што нагадвае сабой круг, кола' (ТСБМ, БРС), таксама 'круг на навоі, які стрымлівае ніткі, каб не рассоўваліся', 'шапка сланечніка' (Бяльк.). Сюды ж, відавочна, *качу́лка* (Касп.), *кацю́лька* 'круглы кусок палкі, якая падкладваецца пад вілы, каб лягчэй падаць у печ гаршчок'. У Нас. *каце́лка* 'плоская акругленая дошчачка для катання, для дзіцячай гульні', *каце́ль* 'коўзанка'; 'вырубленае з лёду круглае сядзенне, на якім катаюцца'. Утварэнне ад дзеяслова **kotiti* 'каціць' або **katati* 'катаць' суфіксам *-*elь.* Адносна словаўтварэння параўн., напр., прасл. **kotelь* — фармацыя на -**elь* ад дзеяслова **kotiti* (гл. Трубачоў, Эт. сл., 11, 199—200). *Кацёлка* і інш. утвораны, відаць, па гэтай мадэлі.

**Каці́раваць** 'вызначаць біржавую цану (курс) каштоўных папер, тавараў, замежнай валюты' (ТСБМ). Відавочна, непасрэднае запазычанне з рус. мовы. У рус. мове гэта лексема ўзята з ням. *kotieren* у другой палавіне XIX ст. (упершыню адзначаецца ў слоўніку ў 1887 г.). Ням. *kotieren* < франц. *coter* 'каціраваць' < 'меціць, нумараваць'. Гл. Шанскі, 2, К, 358. *Каці́равацца* 'цаніцца', 'ацэньвацца (пра каштоўныя паперы, тавары, валюту)', 'быць у абароце на біржы', 'мець тую ці іншую ацэнку ў вачах грамадства', з'яўляецца ўласна рус. ўтварэннем і адзначаецца з 1914 г. Шанскі, там жа.

**Каці́цца** 'нараджаць дзіцянят (пра авечку, казу і некаторых іншых жывёл)' (ТСБМ, БРС, Касп.), *каці́ць* 'тс' (Касп.). Рус. *коти́ться* 'нараджаць кацянят'; у дыялектах таксама *коти́ть,* укр. *коти́тися,* чэш. *kotiti se,* славац. *kotit'sa,* польск. *kocić się,* серб.-харв. *kòtiti (se),* балг. *кóти се,* славен. *kotíti* і г. д. Прасл. **kotiti sę* 'каціцца'. Этымолагамі выказваецца думка, што першапачаткова дэрывацыя **kotъ* → **kotiti (sę)* не магла быць рэальнай, таму што мелася на ўвазе не кошка, а, напрыклад, важныя ў гаспадарцы жывёлы. Магчыма, аднак, **kot-* 'кошка' было аманімічным з нейкім іншым словам, якое адзначала маладую жывёлу. Трубачоў, Эт. сл., 11, 205, прыводзіць лац. *catulus* 'дзіцяня, шчаня'.

**Каці́ць,** каціцца 'каціць, рухаць, перамяшчаць які-н.

круглы прадмет, вымушаючы яго вярцецца'; 'перамяшчаць сілай цячэння, павеву ветру і пад.'; 'губіць, нішчыць'; 'каціцца' (ТСБМ). Параўн. рус. *катить,* укр. *котити, котитися,* ст.-чэш. *kotiti* 'каціць', польск. дыял. *kocić* 'каціць, валяць і г. д.'. Для гэтых лексем выстаўляецца праформа **kotiti (sę),* якая лічыцца этымалагічна цяжкім словам. Агляд версій у Трубачова, Эт. сл., 11, 205—207. Магчыма, што слав. **kotiti* працягвае і.-е. дзеяслоўную аснову **kat-* 'кідаць', з блізкім значэннем, вельмі ёмкую і перспектыўную (параўн., напр., ням. *werfen* 'кідаць', але *Junge werfen* 'раджаць дзіцянят').

**Кацу́ба** 'качарга' (Сцяшк. МГ), *кацу́ба* 'кій з загнутай ручкай' (Сл. паўн.-зах.), *кацюба́* 'качарга' (Сл. паўн.-зах.). Параўн. польск. *kociuba* 'тс', укр. *коцюба́.* Слаўскі (2, 318—319) рашуча сцвярджае, што геаграфія слова ўказвае на запазычанне польск. лексемы з укр. мовы *(< коцюба́),* а не наадварот (Брукнер, 242, Бернекер, 536 і інш. меркавалі, што для ўкр. слова крыніцай была польск. мова). Выходным з'яўляецца тур. *kösübe,* утворанае ад асновы *köse-* 'шураваць у печы; у вогнішчы'. Былі таксама спробы выводзіць слова *кацу́ба* з еўрапейскіх моў (ням.), але беспадстаўна. Бел. *кацу́ба* (з такім націскам) узята, відаць, непасрэдна з польск.

**Качага́р** 'рабочы, які абслугоўвае топкі паравых катлоў' (ТСБМ, БРС). Параўн. рус. *кочега́р,* укр. *кочега́р* 'тс'. Паводле Шанскага, 2, К, 363, з'яўляецца ўласна рускім словам, якое ўпершыню адзначаецца ў слоўніку рус. мовы ў 1847 г. Мяркуюць, што ў рус. мове ўзнікла фармацыя ад слова *кочерга* пры дапамозе суфікса *-ар* — **кочергар.* Гэта ўтварэнне не захавалася і хутка (дысіміляцыяй) трансфармавалася ў *кочегар.* Гл. Фасмер, 2, 357; Гараеў, Доп. 1, 21. Але дзіўна, што «стадыя» *кочергар* так хутка знікла, не пакінуўшы рэальных слядоў. Трэба дапусціць досыць доўгае існаванне слова ў вуснай форме.

**Кача́н** 'плод капусты: шчыльна звітыя ў галоўку капусныя лісты' (ТСБМ, БРС, Сцяшк. МГ); таксама 'цвёрдая частка галоўкі капусты, ад якой растуць лісты; пачатак кукурузы' (Сцяшк. МГ). Параўн. рус. *коча́н,* укр. *коча́н, кача́н,* польск. *koczan, kaczan,* чэш. *kočan* 'пэўная расліна', балг. *коча́н,* серб.-харв. *ко̀ча̑н,* макед. *кочан.* Прасл. форма *kočanъ* (агляд матэрыялу гл. у Фасмера, 2, 356; Трубачова, Эт. сл., 10, 104—105). Трубачоў (там жа, 104) лічыць, што мы маем справу з утварэннем пры дапамозе суф. *-'anъ (-ěnъ?)* ад таго ж кораня, што і **koča, *kočera, *kočerъ* з агульнай семантыкай чагосьці, што ўзвышаецца, тарчыць і да т. п. Вельмі разгалінаванае сямейства слоў.

**Ка́чар** 'самец качкі' (ТСБМ, БРС, Сцяшк. МГ, Сл. паўн.-зах.), таксама *ка́чур*. Зафіксавана ўжо ў ст.-бел. мове ў форме *качоръ* (XVI ст.); гл. Булыка, Запазыч., 144. Лічыцца запазычаннем з польск. мовы. Зыходным з'яўляецца польск. *kaczor* 'самец качкі', вядомае ў помніках з XV ст. З польск. крыніцы ўзяты таксама рус. дыял. *качу́р,* укр. *ка́чур*. У аснове ляжыць мяркуемае зах.-слав. **kača* 'качка', расшыранае суфіксам *-erъ* (параўн. прасл. **gǫserъ*). Гл. Слаўскі, 2, 15; Кюнэ, Poln., 61; Фасмер, 2, 214 (Фасмер адзначае, што зах.-слав. слова ўтворана ад памяншальнай формы ўласнага польск. імя *Katarzyna*); Брукнер, 216; Бернекер, 1, 465.

**Качарга́** 'жалезны прут, сагнуты на канцы, для перамешвання паліва ў печы, выграбання попелу і пад.' (ТСБМ, БРС, Касп., Шат., Сцяшк. МГ; у Нас. 'драўляная крывуля'). Параўн. рус. *кочерга́,* укр. *коче́рга, кучу́рга,* польск. *koczarga,* дыял. *koczerka*. Марфалагічная будова слова вельмі спрэчная. Па адной версіі, утварэнне суфіксам *-g-* (як у рус. *четве́рг*) на базе такіх слоў, як рус. *кочера́* 'сукаваты ствол' (параўн. Фасмер, 2, 358; Фасмер, 4, 35, дзе абараняецца існаванне суф. *-g*; Слаўскі, 2, 322, дзе таксама дапускаецца магчымасць суфікса *-ga*). Некаторыя дапускаюць у якасці крыніцы гіпатэтычнае цюрк. **köčirga* (Слаўскі, 2, там жа). Гл. яшчэ агляд у Трубачова, Эт. сл., 10, 105—106 (дзе падтрымліваецца існаванне суфікса *-g-*).

**Качары́га** 'рэшткі храпкі капусты з коранем' («качарыгі — пні ад капусты, як ссякаюць») (Сл. паўн.-зах.), *качары́жка* 'цвёрдая частка галоўкі капусты' (Сцяшк. МГ, Касп.). Пад праформамі **kočerьga,* **kočьrga* Трубачоў (Эт. сл., 10, 105—106) падае шмат слав. слоў такой структуры, у тым ліку рус. *кочерыга, кочерыжка* і дыял. бел. (Сл. паўн.-зах.) *качары́га* 'качарыжка з коранем'. Трубачоў (там жа, 106) мяркуе, што зыходным можна лічыць **kočera* (гл. пад *качарга́*), да якога дадаецца суф. *-g-* з рознымі другаснымі агласоўкамі (аб якіх, дарэчы, пісаў яшчэ Шахматаў, ИОРЯС, 7, 1902, 358).

**Крача́ць** 'качаць' (ТСБМ, БРС, Касп., Сцяшк. МГ); 'качаць бялізну', 'качаць, валяць', 'раскачваць цеста' і г. д. Параўн. ст.-рус. *качати* 'гайдаць, хістаць', рус. *кача́ть* 'калыхаць, хістаць', укр. *кача́ти* 'катаць', 'качаць бялізну', 'качаць цеста'.Далей параўн. польск. дыял. *kociać się* 'качацца, валяцца і да т. п.', чэш. *káceti* 'валіць, разбураць', *káceti se* 'валіцца', ст.-славац. *kácet'* 'рубіць (лес)', славац. (дыял.) *kácat sa* 'хістацца'. У аснове гэтага дзеяслова са шматлікай семантыкай, але досыць празрыстай формай, ляжыць зыходнае

**katjati (sę),* якое з'яўляецца ітэратыўна-дуратыўным утварэннем да прасл. **kotiti*. Пры гэтым атрымліваецца аблаўтная форма вакалізма ($a < \bar{o} < o$). Параўн. Трубачоў, Эт. сл., 9, 164.

**Ќа́чка** 'вадаплаўная птушка сямейства качыных з шырокай пляскатай дзюбай і кароткімі шырока расстаўленымі лапкамі' (ТСБМ, БРС, Касп., Нас. і інш.). У бел. мове гэта слова зафіксавана ў помніках як запазычанне з польск. *kaczka* на пачатку XVI ст. (гл. Булыка, Запазыч., 144). Як адзначае Слаўскі (2, 14), у польск. мове, як ва ўсіх зах.-слав. мовах (акрамя н.-луж.), не засведчана наогул старая назва качкі -**ǫty*. Зах.-слав. **kačьka* выводзіцца некаторымі даследчыкамі ад імя **Katerina* (Бернекер, 1, 465; Брукнер, 212; Фасмер, 2, 214; Кюнэ, Poln., 61 і інш.). Паводле Слаўскага, там жа, 15, хутчэй трэба думаць аб гукапераймальным паходжанні слова.

**Качу́лка.** Гл. *кацёлка.*

**Качэ́ўе** 'стаянка качэўнікаў, а таксама мясцовасць, па якой качуюць', *качэ́ўнікі* 'народ, племя, якія вядуць качавы спосаб жыцця', *качавы́* 'які не мае аселасці; вандроўны', 'звязаны з частай пераменай месца жыхарства' (ТСБМ); *качава́ць* 'весці неаселы спосаб жыцця'. Ужо ў ст.-рус. мове было слова *кочевати.* Гэта запазычанне з цюрк. моў. Параўн. уйг., чагат. *köč* 'паездка, падарожжа, перасяленне', *köčmäk* 'качаваць'. Гл. Фасмер, 2, 357. Корань *köč-* 'качаваць' сустракаецца ў многіх цюрк. мовах. Параўн. яшчэ Шанскі, 2, К, 362.

**Ка́ша** 'густая страва з круп, звараных у вадзе або малацэ' (ТСБМ, БРС). Слова вядома ва ўсіх слав. мовах. Параўн. рус. *ка́ша,* укр. *ка́ша,* польск. *kasza,* чэш. *kaše,* славац. *kaša,* балг. *ка́ша,* серб.-харв. *ка̀ша,* славен. *káša*, і г. д. Прасл. **kaša*. Звычайна тлумачылі як **kāsi̯ā,* якое быццам звязана з літ. *kóšti* 'цадзіць' (гл. Бернекер, 1, 493; Траўтман, 120 і інш.). Гл. Фасмер, 2, 214. У новыя часы прапанавалі іншыя рашэнні (агляд гл. у Трубачова, Эт. сл., 9, 158—159). Цікавай здаецца ідэя семантычнай рэканструкцыі як «сечка» і, адпаведна, сувязі з **kositi,* **česati.*

**Кашала́** 'верх воза, сам воз' (Касп.), *кашала́* 'кош', *кашалы́* 'высокія драбіны ў возе, воз з такімі драбінамі' (Сл. паўн.-зах., 2). Гэтыя бел. словы можна рэканструяваць як **košela,* што з'яўляецца вытворным ад **košь* 'карзіна' пры дапамозе суф. *-ela.* Суфіксальная частка тут вельмі варыятыўная, так што ўсе вядомыя выпадкі можна прадставіць як **košelъ*/**košela*/**košelь.* Праблематыка суфіксальнай варыятыўнасці ўскладняецца яшчэ тым, што сустракаюцца таксама выпад-

кі іншага вакалізму ў суфіксах (параўн., напр., польск. *koszałka*). Падрабязна гл. у Трубачова, Эт. сл., 11, 187—189.

**Ҟашало́т** 'буйное марское млекакормячае атрада кітоў'. Параўн. рус. *кашало́т,* укр. *кашало́т.* Можна меркаваць, што ў бел. мове слова з'явілася пад уплывам рус. мовы, дзе ў канцы XVIII ст. запазычана з франц. Упершыню зафіксавана ў 1788 г. з напісаннем *кашелот* (сучасная арфаграфія адзначаецца з 1816 г.). Франц. *cachalot,* у сваю чаргу, запазычана з ісп. мовы; ісп. *cachalote* паходзіць з парт. крыніцы. Гл. Шанскі, 2, К, 105. Некаторыя крыніцы ўказваюць, што, напр., ням. *Kaschelott* паходзіць не прама з франц. формы, а з англ., якая ўзята з франц. (гл. Fremdwörterbuch, Leipzig, 1965, 338). Гэта спрэчная праблематыка, відаць, не мае яшчэ свайго канчатковага рашэння (новае выданне Wahrig G. Deutsches Wörterbuch.— Mosaik Verlag, 1980, англ. крыніцу нават не згадвае).

**Ҟа́шаль** 'раптоўныя сутаргавыя выдыхі, якія суправаджаюцца хрыпамі і шумам пры запаленні дыхальных шляхоў і інш.' (ТСБМ, БРС, Сцяшк. МГ і інш.), *ка́шляць* 'мець прыступ кашлю; хварэць на кашаль'. Прасл. слова. Параўн. рус. *ка́шель,* укр. *ка́шель,* польск. *kaszel,* чэш. *kašel,* славац. *kašel'*, серб.-харв. *ка̏шаљ,* славен. *kášelj* і г. д. Прасл. **kaš(ь)lь.* Гл. Трубачоў, Эт. сл., 9, 160—161. Звяртае ўвагу тое, што не ва ўсіх слав. мовах ёсць гэта лексема. Няма яе, напр., у балг. мове. Гэта сведчыць аб старой дыялектнай дыферэнцыяцыі слав. тэрыторыі. Слова **kaš(ь)lь* выводзіцца з больш даўняй формы **kāsli̯o-,* а гэта з і.-е. *$*k^{u}$ās-l-i-o-,* што ўтворана ад і.-е. кораня гукапераймальнага характару *$*k^{u}$as-* 'кашляць'. Роднаснымі формамі з'яўляюцца літ. *kósti* 'кашляць', алб. *kollë* 'кашаль', ст.-інд. *kā́sate* 'кашляць', ст.-в.-ням. *hwuosto, huosto* і г. д. Гл. яшчэ Фасмер, 2, 214—215; Бернекер, 1, 493; Траўтман, 119. Ад прасл. **kaš-(ь)-lь* утвораны дзеяслоў; Трубачоў, там жа.

**Ҟаша́ра** 'загон, агароджанае месца на полі, у лесе, дзе летам трымаюць жывёлу' (ТСБМ), 'аўчарня ў маёнтку' (Шат.), 'аўчарня' (Нас.), 'пастаўнік' (Сл. паўн.-зах., 2: «Ҟашара — эта выгарадзь для ската»). Параўн. рус. дыял. паўдн. *коша́ра* 'загарадзь для жывёлы (авечак)', укр. *коша́ра* 'аўчарня', польск. *koszara, koszar,* ц.-слав. *кошара* 'аўчарня', балг. *коша́ра* 'тс'; параўн. далей фармальна аднолькавыя, але з іншай семантыкай серб.-харв. *ко̀шара, ко̏ша̑р* 'кашолка для рыбы', славен. *košâra, košár* 'круглая кашолка'. Паводле Фасмера, 2, 360, звычайным з'яўляецца тлумачэнне, якое звязвае

даныя лексемы з *кош* 'плеценая кашолка і да т. п.' Падрабязны агляд семантыкі ў слав. форм (праформ) **košara*, **košarъ*, **košerъ* гл. у Трубачова, Эт. сл., 11, 183—186, дзе даецца агляд праблематыкі ў шырокім арэальным аспекце. Слова гэта было ўжо ў ст.-бел. мове (з XVI ст., гл. Булыка, Запазыч., 174).

**Кашáры** (толькі ў мн. л.) 'казарма' (ТСБМ, Шат. і інш.). Укр. дыял. *кошáра* 'казарма'. Запазычанне з польск. *koszary* 'тс'. У польск. мове гэта слова з такім значэннем вядома з XVIII ст. Лічыцца, што ў польск. мове *koszary* 'казарма' таго ж паходжання, што і польск. *koszar, koszara* 'загарадзь для авечак'. Значэнне 'казарма', як думаюць, з'явілася пад уплывам іншага слова — *kasarnia*, запазычанага таксама ў XVIII ст. з ням. *Kaserne* (з ад'ідэацыяй да польскіх слоў на -*(ar)-nia*). Параўн. Бернекер, 587; Брукнер, 260. Няясным усё ж застаецца, аднак, пытанне, чаму гэта слова ўжывалася іменна ў мн. ліку.

**Кашары́ць** 'ачышчаць' (Касп.). Сюды ж *кашэ́рыцца* 'старанна мыцца, ачышчацца' (Шат.); параўн. яшчэ *кашэ́рны* (БРС). Рус. *кошерный*, польск. *koszerny* 'рытуальна чысты' (у ст.-яўр. рэлігіі), 'дазволены да ўжытку'. У Фасмера, 2, 360, рус. *кóшерный*, бел. *кóшэр*. Тэрмін яўр. рытуалу. Непасрэднай крыніцай запазычання Фасмер (там жа) лічыць ідыш (*košer*; адсюль ням. *koscher*; усё са ст.-яўр. *kāšēr* 'прыдатны'). Падрабязную гісторыю слова дае Слаўскі, 2, 542—543. Ён адзначае, што ст.-яўр. *kāšēr* (прыметнік) ужываецца ў дзвюх формах: у форме нязменнай (без афармлення) і ў форме славянскага прыметніка (з суфіксам *-ьnъ*).

**Кашлáты** 'пакрыты доўгай поўсцю; калматы', 'з густымі ўскудлачанымі валасамі'; 'разгалісты, з густым веццем, шырокімі лапкамі' (ТСБМ); 'марны, паніклы' — аб садзе (гл. Сл. паўн.-зах., 2); 'касалапы, нязграбны' (Касп.). Слова з досыць няяснай гісторыяй. Параўн. укр. *кóшлати* 'кудлаціць, лахмаціць', *кошлáтий* 'кашлаты'. Гэты ўкр. дзеяслоў Слаўскі (2, 557) параўноўвае з польск. *koślać się* 'кульгаць, спатыкацца', чэш. дыял. **košl'at'se* 'ісці хістаючыся', укр. *кóшлати* 'кудлаціць, лахмаціць' і выстаўляе праформу прасл. (дыял.) **kosljati*. Гэты дзеяслоў звязаны з прасл. **kosъ* 'косы і г. д.' (вельмі разгалінаванае сямейства слоў); суф. тут *-ljati*.

**Кáшляць.** Гл. *кáшаль*.

**Кашмáр** 'цяжкі, жудасны сон; прывід, здань'; 'што-н. жахлівае, цяжкае, агіднае' (ТСБМ). Рус. *кошмáр*, укр. *кошмáр*. Запазычаная лексема (але няма ў Шанскага). Фасмер (2, 361) указвае на пэўную храналогію гэтага слова, адзначаючы, што

яно сустракаецца ў Гогаля і іншых. Першакрыніцай з'яўляецца франц. *cauchemar* 'тс', ад лац. *calcāre* 'сціскаць, выступаць вонкі' і ст.-в.-ням. *mara* 'дыхавіца, кашмар' (спасылка на Мацэнаўэра, LF, 8, 47). Больш складаную гісторыю і рэканструкцыю прапануе Слаўскі, 2, 543, які зыходзіць са ст.-франц. элементаў: франц. *cauchemar* — складанае слова: са ст.-франц. *cauchier* 'сціскаць' ( < лац. *calcāre*) і ст.-франц. *mare* 'кашмар'. Параўн. яшчэ Клюге, 454 (пад *Mahr*).

**Кашмі́р,** *кашамі́р* 'тонкая мяккая шарсцяная, напаўшарсцяная або баваўняная тканіна', *кашміро́ўка* 'кашміравая хустка' (ТСБМ, Касп.). Рус. *кашми́р, кашеми́р* 'тс', укр. *кашеми́р,* польск. *kaszmir, kaszemir* і г. д. У рус. мове, паводле Фасмера, 2, 215, вядома з часоў Гогаля; паводле Шанскага, 2, К, 105, першая фіксацыя ў рус. мове адносіцца да 1847 г. У польск. мове гэта лексема з'явілася раней; Слаўскі (2, 97) адзначае, што наогул слова вядома з XIX ст., але ў другой палавіне XVIII ст. выступаюць варыянты тыпу *kaźmirek* (у Ліндэ), *kaźmirz* (адсюль і рус. старое *казими́ровый* 'кашміравы' праз польск. формы з італ. *casimiro*; гл. Фасмер, 2, 160). Ад назвы вобласці Кашмір у Індыі (ст.-інд. *Kāçmīras*). Гл. яшчэ Бернекер, 1, 496. Формы *кашми́р, кашеми́р,* паводле Фасмера, там жа, узяты з франц. *cachemire*.

**Кашнэ́** 'хустка, вузкі шалік, якімі закрываюць шыю пад паліто' (ТСБМ, БРС). Параўн. рус. *кашне́,* укр. *кашне́*. Першакрыніцай запазычання з'яўляецца франц. *cache-nez* 'тс'. Франц. слова ўзнікла складаннем, на базе элементаў *cacher* 'хаваць' *і nez* 'нос'. У рус. мове слова запазычана ў сярэдзіне XIX ст. (першая фіксацыя ў 1859 г.). Цікава, што яшчэ Даль у сваім слоўніку прапанаваў пераклад гэтага запазычанага франц. слова як *носопрятка.* У сувязі са слаба даследаванай канкрэтнай гісторыяй слова *кашнэ* (як, дарэчы, і многіх іншых культурных слоў) можна ставіць пытанне і аб мовах-пасрэдніках, якія маглі ўплываць на вымаўленне запазычаных лексем. У даным выпадку адзначым, што вымаўленне франц. *cachenez* выключна як *kašjne*: уласціва толькі ням.-аўстр. вымаўленню (гл. Fremdwörterbuch, Leipzig, 1965, S. 105).

**Кашо́лка** 'плецены выраб з лучыны, лазы і пад. для захоўвання і пераноскі чаго-н.' (ТСБМ, БРС, Касп.). Параўн. рус. дыял. *кошо́лка.* Паводле Фасмера, 2, 360, звязана з рус. *коше́ль, кошеле́к,* укр. *коші́ль,* серб.-харв. *ко́шње* 'агароджа', славен. *košúlja* 'кашолка', польск. *koszałka* і, далей, з рус. *кош* 'плеценая кашолка', укр. *кіш,* бел. *кош* 'скрыня ў млыне', балг. *кош* 'вялікая кашолка', чэш. *koš,* польск. *kosz,* ст.-слав.

**кошь** і г. д. Прасл. **košь* < **kosi̯o-*, роднаснае з лац. *qualum* 'плеценая кашолка' *(*quaslo-)*. Гл. Бернекер, 1, 586 і далей; Траўтман, 119. Параўн. яшчэ *кашэ́ль* (гл.). Гл. яшчэ грунтоўныя меркаванні Трубачова, Эт. сл., 11, 187—189.

**Каштава́ць**1 'мець тую або іншую цану, грашовую вартасць'; 'абыходзіцца ў якую-н. суму, патрабаваць якіх-н. затрат' (ТСБМ, БРС, Касп., Шат.). Слова засведчана ў ст.-бел. мове з 1516 г. (таксама як і *коштъ, коштованье, коштовне, коштовность* і г. д.; гл. Булыка, Запазыч., 174). Параўн. рус. *коштова́ть* (дыял.) укр. *коштувати* і г. д. Запазычанне з польск. мовы (< польск. *kosztować* 'тс'); Бернекер, 586; Фасмер, 2, 361; гл. яшчэ Кюнэ, Poln., 67; Рыхардт, Poln., 68. Крыніцай польск. слова з'яўляецца с.-в.-ням. *kosten* 'каштаваць, быць вартым і да т. п.'. Слаўскі, 2, 545. Гэта апошняе ў сваю чаргу ўзята са ст.-франц. *coster* < лац. **costare* < *cōnstare* (Слаўскі, там жа).

**Каштава́ць**2 'спрабаваць ежу, піццё на смак, на гатоўнасць і інш.' (ТСБМ, БРС, Касп., Шат.). Параўн. рус. дыял. *коштова́ть* 'тс', укр. *куштува́ти, коштува́ти*. Запазычанне з польск. мовы. Параўн. польск. *kosztować* 'тс' (у такім значэнні польск. слова вядома з XVI ст.), якое ўзята з с.-в.-ням. *kosten* 'даследаваць, вывучаць, спрабаваць, пробаваць на смак' або ст.-в.-ням. *kostōn* 'тс' (гэты дзеяслоў роднасны лац. *gustāre* 'каштаваць, спрабаваць'). Гл. Бернекер, 1, 586; Брукнер, 260; Фасмер, 2, 361; Махэк2, 282. Вельмі падрабязна аб семантычнай гісторыі слова *kosten* у ням. мове гл. у Пауля, Wörterb. (7. Aufl., 1960), с. 344. Гл. яшчэ Клюге, 395—396.

**Кашта́н** 'дрэва сямейства букавых, якое дае плады ў выглядзе буйнога арэха; плод гэтага дрэва (ТСБМ, БРС, Касп.). Рус. *кашта́н*, укр. *кашта́н* 'тс'. Як сведчыць форма слова, непасрэдна *кашта́н* запазычана з польск. *kasztan* 'тс' (параўн. Фасмер, 2, 215; Слаўскі, 2, 97—98; Шанскі, 2, К, 106). Для рус. мовы, як адзначае Фасмер, там жа, пасрэднікам запазычання, акрамя польск., магла быць і чэш. крыніца. Польск. і чэш. лексемы ўзяты з ням. *kastāne, castane* 'каштан' (сёння *Kastanie*). У сваю чаргу ням. словы запазычаны з лац. *castanea*, якое паходзіць з грэч. *κάστανον*. Лічаць, што радзімай назвы каштана з'яўляецца Малая Азія (параўн. арм. *kaskeni* 'каштанавае дрэва'. Гл. яшчэ Брукнер, 222; Бернекер, 1, 492; Махэк2, 245.

**Каштары́с** 'фінансавы дакумент для вызначэння і планавання выдаткаў і прыбыткаў' (ТСБМ, БРС). Параўн. укр. *кошторис* 'тс'. Слова адносна новага паходжання. Яно

адзначаецца таксама ў польск. мове *(kosztorys)* , але там зафіксавана даволі позна (слоўнік Ліндэ яго яшчэ не ведае). Паводле крыніц, якія прыводзіць Слаўскі, 2, 545, упершыню слова адзначаецца ў ням.-польск. слоўніку 1854 г. як пераклад ням. *Kostenanschlag*. Слаўскі, там жа, указвае, што польск. слова было запазычана бел. мовай *(каштарыс)* і таксама ўкр. *(коштóрис)*. Гл. яшчэ Кюнэ, Poln., 67.

**Каштóўны** 'які дорага каштуе, мае вялікую цану', 'які мае важнае, істотнае значэнне; вельмі патрэбны' (ТСБМ), *каштóўнасць* 'важнасць, значнасць чаго-н.'; 'каштоўная рэч', 'з'ява, прадмет, якія маюць вялікае грамадскае значэнне' (ТСБМ). Асноўным словам, ад якога ўтвораны шматлікія дэрываты, з'яўляецца *кошт,* вядомае ўжо ў ст.-бел. мове з XVI ст. Таксама з XVI ст. засведчаны (гл. Булыка, Запазыч., 174) і вытворныя *каштовный, коштовность*. Хоць гэтыя дэрываты чыста тэарэтычна маглі ўтварыцца ў ст.-бел. мове ад асноўнага слова *кошт,* верагодна лічыць, што і яны з'яўляюцца непасрэднымі паланізмамі (тым больш, што для іх ёсць дакладныя прататыпы ў польск. мове; параўн. польск. *kosztowny, kosztowność*).

**Кашýля** 'сарочка, рубашка' (ТСБМ, БРС, Касп., Шат., Сцяшк. МГ). У бел. мове непасрэднае запазычанне з польск. мовы (у помніках ст.-бел. мовы ўпершыню сустракаецца ў 1508 г.). Першакрыніцай запазычання з'яўляецца лац. (нар.-лац.) *casula* 'плашч з капюшонам' (так у Фасмера, 2, 362). Падрабязны агляд гл. у Трубачова, Эт. сл., 2, 192. З польск. мовы ўзята таксама ўкр. *кошýля.* Немэтазгодна разглядаць разам са Слаўскім і інш. гісторыю гэтага слова толькі як агульнаславянскага запазычання з лац. *casula.*Славац. *košel'a,* напр., сведчыць, як указвае Махэк$_2$, 282, што непасрэднай крыніцай у даным выпадку было с.-в.-ням. *kāsel(e)*. Бел. слова зафіксавана досыць позна як паланізм.

**Кашчáвы** 'схуднелы, высахлы, з выступаючымі касцямі' (ТСБМ), 'худы, кастлявы' (Сл. паўн.-зах., 2). Рус. дыял. *кощáвый* 'тс', ст.-рус. *кощавый,* укр. *кощáвий,* ст.-славац. *koštavý,* славац. (дыял.) *košt'avý* 'тс', балг. (дыял.) *кóшчаф* 'упарты', серб.-харв. *кȍштав* 'кастлявы, худы'. Прыметнік, утвораны суфіксам **-javъ* ад слова **kostь* 'косць'. Звяртае ўвагу тое, што лексема ў слав. арэале мае прыкметны дыял. характар. Калі на ўсх.-слав. тэрыторыі слова **koščav(jь)* вядома ва ўсіх трох усх.-слав. мовах, то ў зах. славян яго ведае толькі славац. мова, а ў паўдн.— толькі балг. і серб.-харв. Гл. Трубачоў, Эт. сл., 11, 186. Параўн. *кашчýнства, кашчэ́й.*

**Кашчу́нства** 'адзін з відаў злачынства супраць веры ў праваслаўнай царкве і ў заканадаўстве царскай Расіі: знявага рэлігійнай святыні'; 'зневажальныя адносіны да таго, што паважаюць, чым даражаць і інш.' (ТСБМ, БРС). Параўн. рус. *кощу́нство,* укр. *кощу́нство.* Бел. слова, здаецца, не мае даўняй гісторыі, таму можна меркаваць, што яно запазычана з рус. мовы. Параўн. у ст.-рус. мове: *кощуна, коштюна, косщуна* 'забаронены грэх' (XII ст.), 'блазенства, кпіны' (XV ст.), рус. *кощу́н* 'хто блюзнерыць' (Даль), укр. *кощу́н.* Параўн. Фасмер, 2, 362; Трубачоў, Эт. сл., 11, 187. Прасл. **koščunъ, *koščuna* з'яўляецца вытворным пры дапамозе суф. *-junъ* ад дзеяслова **kostiti* 'лаяць, ганьбіць'.

**Кашчэ́й** 'міфічны персанаж усходнеславянскіх народных казак: кашчавы і злы стары, які валодае тайнай даўгавечнасці і незлічоным багаццем'; 'вельмі худы чалавек' (ТСБМ). Параўн. ст.-рус., рус.-ц.-слав. *кощь, кощии* 'худы', рус. дыял. *кощá* 'вельмі худы чалавек', бел. *кашчэ́й* 'тс'. Параўн. яшчэ ц.-слав. **кошть (тѣломь коць).** Паводле Трубачова, Эт. сл., 11, 187, вытворнае суфіксам *-jь(-jь)* ад **kostь.* Яшчэ раней такую ж этымалогію прапанаваў у сваім этымалагічным слоўніку Фасмер, 2. Менш верагодным уяўляецца тлумачэнне Сабалеўскага (ЖМНП, 1886, верасень, с. 152), які спасылаўся на рус. *кости́ть* 'лаяць'. Параўн. *кашчáвы.*

**Кашэ́ль** 'вялікая кашолка, звычайна з лучыны'; 'кашалёк' (ТСБМ, БРС, Сцяшк. МГ, Шат., Касп.). Таго ж паходжання, што і *кашóлка* (гл.), г. зн. прасл. утварэнне пры дапамозе суф. *-l-* ад прасл. **košь* 'кашолка', 'кошык'. Усе дэрываты гэтага тыпу маюць прасл. характар і фармальна могуць быць зведзены ў тры варыянты праформ: **košelъ, *košela, *košelь* (Трубачоў, Эт. сл., 11, 187—189). У аснове ўтварэння ляжыць слав. **košel-* < **kosl-* (параўн. лац. *qualum* < **quaslom* 'кашолка, пляцёнка'). І.-е. праформы не вельмі ясныя, здаецца, магло быць і **$k^u$asl-* і **kosló-* (дарэчы, націск у слове **košelь, кашэ́ль* дакладна адпавядае гэтаму другому варыянту).

**Кашэ́рны** *(мяса і да т. п.).* Гл. *кашары́ць* 'ачышчаць'.

**Кашэ́рыцца** 'старанна мыцца, ачышчацца' (Шат.). Гл. *кашары́ць* 'ачышчаць'.

**Каю́к**₁ 'рачное вёслава-парусная грузавое судна' (ТСБМ); таксама 'лодка'. Рус. *каю́к,* укр. *каю́к.* Слова не вельмі яснага паходжання (прынамсі, што датычыцца фармальнага боку этымалогіі). Лічыцца запазычаннем з цюрк. моў. Параўн. тат., тур., крым.-тат., казах. *kajyk.* Так у Фасмера, 2, 215 (гл.

яшчэ Бернекер, 1, 469; Корш, AfslPh, IX, 507—508). Няясна, як узнікла форма *каю́к,* якая пашырана ва ўсх.-слав. мовах. Паводле Шанскага, 2, К, 107, упершыню назва *каюк* зафіксавана ў рус. дакументах у 1614 г. Адносна формы *каю́к* Шанскі, там жа, мяркуе, што гэта кантамінацыя слова *кайык (kajyk)* 'лодка' і чагат. *каюк* 'загнуты назад'.

**Каю́к**$_2$ 'канец, пагібель, смерць' (ТСБМ, БРС, Шат., Бяльк.). Усх.-слав. утварэнне (параўн. рус. *каю́к,* укр. *каю́к* 'тс'). У слоўніках рус. мовы ўпершыню, як дыялектнае, адзначаецца ў 1909 г. Мяркуюць, што гэта назва ўзнікла на аснове ўжо існуючага слова *каю́к* 'лодка-душагубка' (плаванне на такіх лодках было вельмі небяспечным) у выніку лексікалізацыі. Гл. Шанскі, 2, К, 107. Параўн. апісанне лодкі-каюка ў Даля: «долбушка, однодеревка без набоев или душегубка, лодченка, каючек» (т. II, 101).

**Каю́та** 'жылое памяшканне для пасажыраў або экіпажа на судне' (ТСБМ, БРС). Параўн. рус. *каю́та* 'тс', укр. *каю́та.* У бел. мове, як і ва ўкр., непасрэднае запазычанне з рус. мовы. Рус. *каю́та* ўпершыню згадваецца ў крыніцах у 1705 г. (таксама і ў варыянце *кают,* 1720 г.). Крыніцай запазычання Фасмер, 2, 216 лічыць ням. *Kajüte* або гал. *kajuit.* Шанскі, 2, К, 107, мяркуе, што хутчэй рус. слова было запазычана ў Пятроўскую эпоху з ням. мовы: аб гэтым сведчыць ж. р. слова (гал. форма не падыходзіць). Фасмер, там жа, указвае, што думка Зяленіна аб запазычанні са швед. *kajuta* (< н.-ням.) не абгрунтавана.

**Кая́к** 'лёгкая скураная аднамесная лодка з двухлопасцевым вяслом у некаторых народаў Поўначы' (ТСБМ), 'лодка з плоскім дном' (Сцяшк. МГ). Параўн. рус., укр. *кая́к,* польск. *kajak* 'разнавіднасць малой спартыўнай лодкі' (з XX ст., гл. Слаўскі, 2, 23), чэш., славац. *kajak,* серб.-харв. *kàjak.* Запазычанне з эскімоскай мовы праз ням. і англ. У XVII ст. у ням. мове з'явілася ў форме *kajakka* (пазней *Kajak*). У мове эскімосаў першапачатковае значэнне слова — «аднамесная крытая лодка для мужчын». Гл. яшчэ Клюге, 339.

**Ка́янка** 'раскаянне' (Янк. БП, 228; *«Каянка будзе, з павароткі не будзе»*). Рус. арханг. *каянка* 'тс'. Словаўтваральна, відаць, з суф. *анк-а,* дзеясloўным суфіксам у гаворках, гістарычна складаным *(ан-ка).* Статус слова, магчыма, усх.-слав. інавацыя; не выключаны і незалежныя ўтварэнні.

**Ка́янне** 'вытворнае ад каяцца; раскаянне' (БРС, ТСБМ; КЭС, лаг.; Нас.). Статус слова няясны, магчыма, запазычанне з рус.-ц.-слав. *каяние* 'пакаянне'. У іншых мовах: укр. *каянне,*

рус. *каяние,* польск. *kajanie się* 'перасцярога', чэш. (ст.-чэш.) *kánie,* славен. *kájanje* 'ганьбаванне', 'раскаянне', серб.-харв. *kajánje,* балг. *каюнк*. Імя дзеяння, вытворнае з суф. *-(а)пьје* < < *kajati.* Славянскі характар гэтай лексемы не вельмі відавочны; не выключаны ўплыў царкоўнай лексікі, ва ўсякім разе, статус асобных слоў вельмі няпэўны.

**Каяны́** 'бессаромныя вочы' (клец., Нар. лекс). Адносна дэфініцыі параўн. прыклад: *«Нібось каяны хаваў, як стыдзіла»* (с. 207). Рэгіянальная інавацыя. Утворана, відаць, з суф. *-ан (-ян),* які адзначаны Сцяцко, Афікс. наз., 26: назвы асоб па іх схільнасці да адпаведнага дзеяння, з экспрэсіяй непахвальнасці. Параўн. *маладзян* 'пажылы чалавек са звычкамі маладых', *салапан* 'салапяка' і інш. Калі прымаць такі варыянт утварэння, неабходна звязваць з дзеясловам *каяць* 'ганіць, караць'. Магчыма, не выключаны ўплыў *каін* 'пракляты, які не раскаяўся, акаянны', *каінскі* 'акаянны': «Каінская твая душа» (Нас.), аднак давесці гэта цяжка.

**Ка́ята,** *каита* 'раскаянне' (Нас., Янк. БП). Магчыма, эксцэрпцыя з прыказкі, параўн. *«Каита ёсць, да возвороту нема»* (Нас., 227). Сустракаюцца іншыя структуры: *кая «Кай много, а вороту нет»* (калуж., смал.). Дакладны адпаведнік у рус. перм., салікам. *каята* 'споведзь, раскаянне', *каяты класть* 'раскайвацца'. Статус слова няясны (незалежныя інавацыі ў бел. і рус.?, усх.-слав.?, больш старое?), словаўтваральна, як рус. *мая(и'я)та,* пры *маять* 'марыць, мучыць і інш.' (ёсць недакладнасці ў акцэнтуацыі).

## ЗМЕСТ



**ЭТИМОЛОГИЧЕСКИЙ СЛОВАРЬ БЕЛОРУССКОГО ЯЗЫКА**

**Том 4**

**К — Каята**

*ВАЛЕРИЙ ДМИТРИЕВИЧ ЛОБКО,*
*ИВАН ИВАНОВИЧ ЛУЧИЦ-ФЕДОРЕЦ,*
*ВИКТОР ВЛАДИМИРОВИЧ МАРТЫНОВ и др.*

Минск. Издательство «Наука и техника»

На белорусском языке

Загадчык рэдакцыі Г. Ф. Юрчанка. Рэдактары Н. А. Дашкевіч, Л. В. Пятроўская. Мастак А. А. Бельскі. Мастацкі рэдактар В. А. Жахавец. Тэхнічны рэдактар А. У. Скакун. Карэктары А. М. Малей, А. Ц. Трусава.

ІБ № 2466

Друкуецца па пастанове РВС АН БССР. Здадзена ў набор 16.04.86. Падпісана ў друк 22.10.87. АТ 14930. Фармат $60 \times 90^1/_{16}$. Папера друк. № 1. Гарнітура літаратурная. Афсетны друк. Ум. друк. арк. 20,5. Ум. фарб.-адб. 20,5. Ул.-выд. арк. 20,08. Тыраж 1590 экз. Зак. № 1263. Цана 1 р. 70 к.

Выдавецтва «Навука і тэхніка» Акадэміі навук БССР і Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600. Мінск, Ленінскі праспект, 68.

Мінская паліграфічная фабрыка «Красная звезда» МВПА імя Я. Коласа. 220079, Мінск, 1-шы Загарадны зав., 3.